АКАДЕМИЯ НАУК СССР

МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ СССР

ГОСУДАРСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ СССР ПО ДЕЛАМ ИЗДАТЕЛЬСТВ, ПОЛИГРАФИИ И КНИЖНОЙ ТОРГОВЛИ

# СВОД ПАМЯТНИКОВ ИСТОРИИ И КУЛЬТУРЫ НАРОДОВ СССР

АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# ЗБОР ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

## МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

### КНІГА 1



МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1987

ББК 63.3.(2Б)
З 41

**Збор помнікаў** гісторыі і культуры Беларусі. Мінская
З-41 вобласць /АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і
фальклору; Рэдкал.: С. В. Марцэлеў (гал. рэд.) і інш.—
Мн.: БелСЭ, 1987.— 284 с.: іл.

**З** $\frac{0505040000-010}{М\ 318(05)-87}$ 3—87 **ББК 63.3.(2Б)**

# ПРАДМОВА

Выданне «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», якое з'яўляецца часткай Збору помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР,— ажыццяўленне на справе палажэнняў Канстытуцыі СССР і Канстытуцыі БССР аб ахове помнікаў і іншых культурных каштоўнасцей, закона СССР «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры», адпаведнага закона Беларускай ССР. «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» — афіцыйны дакумент, у які ўключаны помнікі, што ўзяты або павінны быць узяты пад ахову дзяржавы.

Том Збору помнікаў гісторыі і культуры Мінскай вобласці складзены на падставе навуковага абследавання помнікаў, вывучэння першакрыніц і публікацый пра час, падзеі, людзей, якім яны прысвечаны. У ім расказваецца пра помнікі археалогіі, гісторыі, архітэктуры, манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, што адлюстроўваюць жыццё насельніцтва гэтага рэгіёна розных эпох — ад глыбокай старажытнасці да нашага часу, плённую дзейнасць мінулых пакаленняў і сучаснікаў. На тэрыторыі Міншчыны не раз скрыжоўваліся шляхі шматлікіх заваёўнікаў, якія знішчалі многія каштоўныя самабытныя помнікі гісторыі і культуры. Але і тыя, што ўцалелі, сведчаць пра майстэрства і талент іх творцаў, складаюць неад'емную частку сусветнай культурнай спадчыны. У адрозненне ад іншых тамоў «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» гэты том не ўключае помнікі абласнога цэнтра — горада Мінска.

Мінск здаўна з'яўляўся адным з эканамічных, адміністрацыйных і культурных цэнтраў Беларусі, а ў савецкі час стаў сталіцай Беларускай ССР. Тут сканцэнтравана вялікая колькасць помнікаў, якія будуць уключаны ў асобны том.

У том уключаны толькі нерухомыя помнікі Мінскай вобласці, у іх ліку:

помнікі археалогіі — рэшткі старажытных пасяленняў, стаянкі, гарадзішчы, селішчы і гарады, старажытныя помнікі вытворчай (працоўнай) дзейнасці чалавека, могільнікі, надмагільныя і рытуальныя збудаванні;

помнікі гісторыі — помнікі вытворчай (працоўнай) дзейнасці людзей розных грамадска-эканамічных фармацый, памятныя месцы і помнікі, звязаныя з дзяржаўным будаўніцтвам, з адлюстраваннем класавай барацьбы і барацьбы за незалежнасць, за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, з абаронай сацыялістычнай Айчыны, развіццём навукі, культуры, мастацтва;

помнікі архітэктуры — горадабудаўнічае мастацтва, жыллёвая, грамадзянская і культавая архітэктура, помнікі ваенна-абарончага дойлідства, прамысловай архітэктуры, інжынернага і садова-паркавага мастацтва, архітэктурныя манументы;

помнікі манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва — манументальная скульптура, манументальны жывапіс, творы дэкаратыўнага мастацтва.

У выданне ўключаны ўсе ўцалелыя помнікі архітэктуры з часоў старажытнасці да сярэдзіны 19 ст., найбольш характэрныя для 2-й паловы 19 — пачатку 20 ст., даваеннага савецкага перыяду (1917—41 гг.), найлепшыя архітэктурныя збудаванні пасляваеннага часу (1950—80-я гг.), якія адлюстроўваюць дасягненні ў прамысловым, жыллёвым, грамадскім і сучасным сельскім будаўніцтве. У выданне не ўключаны помнікі гісторыі, архітэктуры і мастацтва, якія не захаваліся. Яны разглядаюцца толькі пры агульнай характарыстыцы развіцця культуры вобласці, горада ці пэўнага архітэктурнага комплексу.

Кожнаму помніку прысвечаны артыкул, у якім дадзена характарыстыка яго гістарычных і мастацкіх каштоўнасцей. Многія артыкулы праілюстраваны фотаздымкамі, чарцяжамі, схемамі, картамі. У томе змешчаны пералік бібліятэк, музеяў, архіваў вобласці з кароткім апісаннем іх фондаў, а таксама паказальнікі — імянны, геаграфічны, храналагічны.

Сістэматызацыя помнікаў у томе праведзена паводле тэрытарыяльнага прынцыпу — матэрыял

размяшчаецца па раёнах (у алфавітным парадку іх назваў). Унутры раёна першымі разглядаюцца матэрыялы пра адміністрацыйны цэнтр, а потым — пра помнікі іншых населеных пунктаў (у алфавітным парадку). Артыкулы пра помнікі аднаго населенага пункта падаюцца ў алфавітным парадку назваў помнікаў.

Даты да лютага 1917 г. даюцца звычайна ў старым стылі; з 27 лютага (12 сакавіка) 1917 г. і да прыняцця новага стылю 14 лютага (1 лютага старога стылю) 1918 г. даюцца ў двух стылях — старым і новым (апошні даецца ў дужках), з 14 лютага 1918 г. даюцца па новым каляндарным стылі.

Том падрыхтаваны сектарам Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Навуковае апісанне помнікаў археалогіі зроблена Аддзелам археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР. Шэраг артыкулаў напісаны аўтарамі іншых устаноў навукі і культуры. У падрыхтоўцы да выдання тома, дапаўненні і ўдакладненні звестак пра помнікі і ў навуковым рэдагаванні матэрыялаў Збору прымалі ўдзел супрацоўнікі выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.

Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі выказваюць глыбокую ўдзячнасць партыйным і савецкім органам Мінскай вобласці, актывістам Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, прадстаўнікам навуковай грамадскасці рэспублікі за дапамогу кансультацыямі, парадамі і рэцэнзаваннем рукапісаў.







**УКАЗАМІ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР АД 1 ЛЮТАГА 1967 г. ЗА АКТЫЎНЫ ЎДЗЕЛ У ПАРТЫЗАНСКІМ РУХУ, МУЖНАСЦЬ І ГЕРАІЗМ, ПРАЯЎЛЕНЫЯ ПРАЦОЎНЫМІ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ Ў БАРАЦЬБЕ З НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІМІ ЗАХОПНІКАМІ Ў ПЕРЫЯД ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ, І ПОСПЕХІ, ДАСЯГНУТЫЯ Ў АДНАЎЛЕННІ І РАЗВІЦЦІ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ І АД 23.12.1970 г. ЗА ВЯЛІКІЯ ПОСПЕХІ, ДАСЯГНУТЫЯ ПРАЦОЎНЫМІ ВОБЛАСЦІ Ў ВЫКАНАННІ ЗАДАННЯЎ ПЯЦІГАДОВАГА ПЛАНА ПА РАЗВІЦЦІ ПРАМЫСЛОВАСЦІ І СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ ВЫТВОРЧАСЦІ, МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ ССР УЗНАГАРОДЖАНА ОРДЭНАМІ ЛЕНІНА.**

# МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

## Раёны

**Кніга 1**

БАРЫСАЎСКІ
БЯРЭЗІНСКІ
ВАЛОЖЫНСКІ
ВІЛЕЙСКІ
ДЗЯРЖЫНСКІ
КАПЫЛЬСКІ
КЛЕЦКІ
КРУПСКІ
ЛАГОЙСКІ
ЛЮБАНСКІ

**Кніга 2**

МАЛАДЗЕЧАНСКІ
МІНСКІ
МЯДЗЕЛЬСКІ
НЯСВІЖСКІ
ПУХАВІЦКІ
САЛІГОРСКІ
СЛУЦКІ
СМАЛЯВІЦКІ
СТАРАДАРОЖСКІ
СТАЎБЦОЎСКІ
УЗДЗЕНСКІ
ЧЭРВЕНЬСКІ




Маштаб 14 0 14 28 42 км

# УВОДЗІНЫ

Мінская вобласць размешчана ў цэнтры Беларускай ССР. На ўсходзе мяжуе з Магілёўскай, на поўначы — з Віцебскай, на захадзе — з Гродзенскай, на паўднёвым захадзе — з Брэсцкай, на поўдні — з Гомельскай абласцямі. Утворана 15.1.1938 г. У 1954 г. узбуйнена за кошт далучэння часткі раёнаў былых Баранавіцкай і Бабруйскай абласцей, а ў 1960 г.— часткі раёнаў былой Маладзечанскай вобл. Плошча 40,8 тыс. км$^2$. Насельніцтва (без Мінска) 1572 тыс. чалавек (1.1.1987 г.). Цэнтр вобласці — горад рэспубліканскага падпарадкавання Мінск. Уключае 22 раёны: Барысаўскі, Бярэзінскі, Валожынскі, Вілейскі, Дзяржынскі, Капыльскі, Клецкі, Крупскі, Лагойскі, Любанскі, Маладзечанскі, Мінскі, Мядзельскі, Нясвіжскі, Пухавіцкі, Салігорскі, Слуцкі, Смалявіцкі, Старадарожскі, Стаўбцоўскі, Уздзенскі, Чэрвеньскі. 19 гарадоў, у т. л. 7 абласнога падпарадкавання — Барысаў, Вілейка, Дзяржынскі, Жодзіна, Маладзечна, Салігорск, Слуцк; 19 гарадскіх, 2 рабочыя і 1 курортны пасёлак.

Рэльеф вобласці разнастайны. Марэнныя ўзвышшы чаргуюцца з раўнінамі і нізінамі. На паўночным захадзе найбольш узвышаная частка Беларускай грады — моцна расчлянёнае Мінскае ўзвышша з найвышэйшым пунктам вобласці і Беларусі — гарой Дзяржынскай (345 м). На поўнач ад Мінскага ўзвышша размешчана азёрна-ледавіковая Нарачана-Вілейская нізіна, на паўднёвым захадзе да яе прымыкае Ашмянскае ўзвышша. Каля паўночна-заходняй мяжы з Віцебскай вобласцю невялікі ўчастак Свянцянскіх град. У вярхоўі ракі Бярэзіна — Верхнебярэзінская нізіна. На ўсходзе вобласці частка пласкахвалістай Цэнтральнабярэзінскай раўніны, на паўночным усходзе адгор'і Аршанскага ўзвышша, на поўдні ўскраіна Палескай нізіны, на паўднёвым захадзе Капыльская града, якая аддзяляецца ад Мінскага ўзвышша Стаўбцоўскай раўнінай, на захадзе частка Верхнянёманскай нізіны. Па тэрыторыі вобласці праходзіць водападзел паміж рэкамі басейнаў Чорнага і Балтыйскага мораў: Дняпром, Нёманам і часткова Заходняй Дзвіной. Найбольшыя рэкі — Бярэзіна з прытокамі Сха, Бобр, Клява (левыя), Гайна з Цной і Усяжай, Пліса, Уша, Свіслач з Волмай (правыя); левыя прытокі Прыпяці Пціч з Арэсай, Случ з Мараччу, Лань; Нёман (вярхоўе) з прытокамі Уса, Сула, Бярэзіна з Ісляччу; на паўночным захадзе цячэ Вілія з прытокамі Сэрвач, Ілія, Нарач, Уша. Па Вілейска-Мінскай воднай сістэме (створана ў 1968—76 гг.) вада Віліі перакідваецца ў Свіслач для паляпшэння водазабеспячэння Мінска. Азёры пераважна ледавіковага паходжання, большасць з іх размешчана на поўначы вобласці. Найбольшыя з іх Нарач, Свір, Мядзел, Сялява, Мястра, Вішнеўскае, Палік, Баторын. Вадасховішчы Вілейскае, Заслаўскае, Чырвонаслабодскае, Салігорскае, Любанскае і інш. Лясы займаюць 36 % тэрыторыі. Найбольшая лясістасць (да 45—50 %) ва ўсходняй частцы вобласці. Балоты (пераважна нізінныя) займаюць 14 % тэрыторыі Міншчыны. У межах вобласці частка Бярэзінскага біясфернага запаведніка, Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Вязынка». З заказнікаў найбольш вядомыя Коласаўскі мемарыяльны, Ленінскі і Налібоцкі паляўнічыя, ландшафтны Блакітныя азёры.

Тэрыторыя вобласці заселена ў эпоху **мезаліту** (9—5-е тысячагоддзі да н. э.). Найбольш характэрныя рысы гэтага часу: пашырэнне вытворчасці прылад працы з крамянёвых пласцін, выкарыстанне лука і стрэл, прыручэнне сабакі, складванне плямён; развіваўся родаплемянны лад, умацоўвалася першабытная сацыяльная ячэйка — мацярынская родавая абшчына. Асноўнымі заняткамі насельніцтва былі паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва. Мезалітычныя стаянкі размяшчаліся на краях надпоймавых тэрас, на дзюнах і пясчаных пагорках у басейнах Нёмана, Віліі, Бярэзіны і іншых рэк; пры даследаванні на іх выяўлены скрабкі і скоблі на пласцінах і адшчэпах, разцы, вербалістыя наканечнікі стрэл, прылады працы, якімі секлі, дробныя крамянёвыя прылады працы (мікраліты), нажападобныя пласціны (Вялікае Стахава і Глівін Барысаўскага, Мірaслаўка і Чыжаха Бярэзінскага, Сосенка і Сутокі Вілейскага,

Кусеўшчына і Стругалапы Мядзельскага, Заямнае і Канкаловічы Стаўбцоўскага р-наў і інш.).

Новы каменны век (неаліт) на тэрыторыі Міншчыны пачаўся ў канцы 5-га — пачатку 4-га і працягваўся да пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э. У неаліце паявіўся гліняны ляпны посуд, пры вытворчасці прылад працы шырока выкарыстоўвалі шліфоўку і свідраванне, у канцы эпохі насельніцтва авалодала навыкамі земляробства і жывёлагадоўлі, а таксама прадзення, пляцення і, магчыма, ткацтва, што прывяло да павелічэння сродкаў існавання і росту насельніцтва. Асноўным заняткам неалітычных плямён было паляванне, рыбалоўства, збіральніцтва. Здабыча сродкаў існавання і іх спажыванне былі калектыўнымі, усе асноўныя матэрыяльныя каштоўнасці лічыліся агульнай уласнасцю. Родавыя абшчыны былі мацярынскімі, кроўныя сувязі яшчэ моцнымі, хоць асобныя сем'і ўжо мелі больш выразную эканамічную незалежнасць.

Большую частку тэрыторыі вобласці ў гэты час насялялі плямёны нёманскай культуры, што сфарміравалася на аснове мясцовых мезалітычных плямён. Іх паселішчы размяшчаліся пераважна на прырэчных схілах пойменных выспаў, на краях тэрас, прывусцевых мысах і складаліся з некалькіх наземных, найчасцей чатырохвугольных жытлаў. Унутры жытлаў у невялікіх паглыбленнях знаходзіліся агнішчы, пазней іх абкладалі камянямі. На раннім этапе насельніцтва выраблялa вастрадонныя гаршкі з выпуклым тулавам, упрыгожаныя радамі глыбокіх круглых ямак пад краем венчыка і зрэзам, крамянёвыя трапецападобныя прылады працы, вастрыі яніславіцкага тыпу, наканечнікі стрэл свідэрскага тыпу, вуглавыя разцы, канцавыя скрабкі (Мікалаеўшчына, Русаковічы, Сверынава Стаўбцоўскага р-на). Для сярэдняга этапа культуры характэрны гаршкі шэра-карычневага колеру з выпуклым тулавам, звужанай шыйкай і адагнутым венчыкам, пад краем якога наносіліся глыбокія наколы, крамянёвыя трохвугольныя наканечнікі стрэл з прамой і ўвагнутай спінкай, разнастайныя рэжучыя прылады працы на пласцінах, праколкі, разцы (Кругліца, Апечкі Стаўбцоўскага р-на). На познім яе этапе пашыраны вастрадонныя танкасценныя гаршкі з выражанай шыйкай і высокім лейкападобным венчыкам, краі якога злёгку загнуты ўнутр, крамянёвыя лістападобныя наканечнікі дроцікаў на пласцінах, серпападобныя нажы, сякеры з прышліфоўкай (Русаковічы, Сверынава Стаўбцоўскага р-на).

Паўночную частку тэрыторыі вобласці з пачатку неаліту засялялі плямёны нарвенскай культуры (Сосенка і Слабодка Вілейскага, Зацэнне Лагойскага, Мікольцы Мядзельскага р-наў). Насельніцтва гэтай культуры жыло на паселішчах, што размяшчаліся па берагах азёр, пры вытоках або ўпадзеннях невялікіх рэчак. Іх жытлы былі наземныя, чатырохвугольныя, з адкрытымі агнішчамі на пясчанай падсыпцы. Насельніцтва вырабляла шыракагорлыя вастрадонныя гліняныя гаршкі (з дамешкамі тоўчаных ракавін у гліне), арнаментаваныя адбіткамі грэбеня, вусеневымі і ямкавымі ўзорамі, прылады працы з крэменю, рогу і косці.

У сярэдзіне 3-га тысячагоддзя да н. э. з поўначы ў басейн Віліі прасунуліся плямёны культуры тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі. Іх паселішчы размяшчаліся на берагах невялікіх рэк і азёр, жытлы паўзямлянкавыя, няправільнай авальнай формы, з каменнымі адкрытымі агнішчамі ўнутры. Насельніцтва вырабляла таўстасценныя яйцападобныя кругладонныя гаршкі, упрыгожаныя адбіткамі шыраказубага штампа і глыбокімі ямкамі, крамянёвыя прылады працы, пераважна лістападобныя наканечнікі стрэл і коп'яў (Качаргі, Мікольцы Мядзельскага р-на). У хуткім часе гэтыя плямёны змяшаліся з мясцовым насельніцтвам. На ўсходзе Міншчыны ў басейне Бярэзіны ў гэты час жылі плямёны культуры грабеньчата-накольчатай керамікі (Гута, Міраслаўка, Святліца, Чырвоны Бераг Бярэзінскага р-на). На поўдні вобласці матэрыяльная культура насельніцтва мела шмат рыс, характэрных для днепра-данецкай культуры, пашыранай на паўднёвым усходзе Беларусі і поўначы Украіны (Азёрнае, Старыя Юрковічы Любанскага р-на).

Бронзавы век на тэрыторыі вобласці пачаўся ў пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э. і працягваўся да 7 ст. да н. э. Яго найбольш характэрныя рысы: далейшае развіццё земляробства і жывёлагадоўлі і паступовае ператварэнне іх у пануючыя формы гаспадаркі, пашырэнне абмену паміж плямёнамі, замена мацярынска-родавых адносін патрыярхальнымі з пануючым становішчам у сям'і і родзе мужчыны. Аддаленасць ад старажытных цэнтраў металургіі абумовіла выкарыстанне тут амаль на працягу ўсёй эпохі каменных прылад працы, аднак апрацоўка іх стала больш дасканалай. Развіццё жывёлагадоўлі і земляробства прывяло да павышэння прадукцыйнасці працы, утварэння лішкаў прадуктаў. У родавых абшчынах узнікла маёмасная няроўнасць, паявіліся бедныя і багатыя сем'і, родавая арыстакратыя. Умацаванне эканамічнай незалежнасці асобных сем'яў паступова падрывала калектыўныя прынцыпы ўнутры роду. У раннім бронзавым веку (2000—1600 гг. да н. э.) амаль уся тэрыторыя Міншчыны была населена плямёнамі культуры шнуравой керамікі. Іх паселішчы размяшчаліся на ўзвышшах першай і другой надпоймавых тэрас Нёмана, Свіслачы, Бярэзіны, часам у тых месцах, дзе раней жыло неалітычнае насельніцтва (Жорнаўка, Міраслаўка, Якшыцы Бярэзінскага, Мікольцы, Рыбкі Мядзельскага, Заямнае Стаўбцоўскага р-наў). Жытлы былі наземныя або паўзямлянкавыя, слупавой канструкцыі, з адкрытымі агнішчамі ўнутры. Насельніцтва вырабляла шарападобныя пласкадонныя гаршкі, арнаментаваныя адбіткамі шнура, наразнымі лініямі, насечка-

мі і хвоепадобнымі ўзорамі, крамянёвыя клінападобныя сякеры, наканечнікі стрэл, коп'яў, скрабкі, сярпы, бурштынавыя ўпрыгожанні. Пахавальныя абрады — трупапалажэнне і трупаспаленне на курганных і бескурганных могільніках. Грамадскі лад — патрыярхальна-родавы з прыкметамі маёмаснай няроўнасці. У сярэдзіне бронзавага веку (1500—1200 гг. да н. э.) трапляюцца помнікі сосніцкай культуры (Зацэнне Лагойскага р-на, пахаванне на паселішчы Кругліца Стаўбцоўскага р-на). Плямёны гэтай культуры жылі на паселішчах у паўзямлянкавых жытлах. Яны карысталіся кругладоннымі, рабрыстымі і пласкадоннымі гаршкамі, упрыгожанымі зігзагамі, гарызантальнымі палосамі, ружанцавым, шнуравым або пракрэсленым арнаментам, а таксама крамянёвымі сярпамі і дзяржанневымі наканечнікамі стрэл. На захад Міншчыны ў гэты час пранiклі плямёны тшцінецкай культуры (Русаковічы Стаўбцоўскага р-на). Яны жылі на паселішчах у паўзямлянкавых і наземных жытлах слупавой канструкцыі, выраблялі высокія цюльпанападобныя гаршкі з вузкім дном, упрыгожаныя ў верхняй частцы жалабковым арнаментам, крамянёвыя сярпы, скрабкі, шліфаваныя і свідраваныя сякеры і матыкі, апрацаваныя з абодвух бакоў тронкавыя і трохвугольныя наканечнікі стрэл і дроцікаў, бронзавыя ўпрыгожанні. Пахавальныя абрады — трупапалажэнне і трупаспаленне на курганных і бескурганных могільніках. У познім бронзавым веку (з 1100 г. да н. э.) на паверхні іх посуду паяўляецца выразная штрыхоўка.

Ж а л е з н ы  в е к на тэрыторыі вобласці пачаўся ў 7—6 стагоддзях да н. э. Выкарыстанне жалезных прылад працы спрыяла развіццю земляробства, жывёлагадоўлі, ствараліся ўмовы для атрымання прыбавачнага прадукту. Маёмасная няроўнасць паскорыла працэс распаду першабытнаабшчынных адносін, абвастрыла супярэчнасці паміж родамі і плямёнамі, што вяло да ўзнікнення прыватнай уласнасці, класаў і дзяржавы.

З гэтага часу паўночную і паўночна-заходнюю часткі Міншчыны насялялі плямёны культуры штрыхаванай керамікі. У першы перыяд (7—5 стагоддзі да н. э.) гаспадарка і матэрыяльная культура іх насельніцтва мала чым адрознівалася ад плямён позняга бронзавага веку. Прылады працы па-ранейшаму выраблялiся пераважна з косці і каменю. Кераміка — грубы слабаабпалены таўстасценны вастрарэберны посуд, пакрыты штрыхамі, або слабапрафіляваны, слоікападобны, упрыгожаны ў верхняй частцы зашчыпамі, ямкамі, насечкамі. Раннія паселішчы, як і ў папярэднюю эпоху, былі адкрыты і размяшчаліся на нізкіх мясцінах па берагах рэк і азёр (Гатавічы, Занарач Мядзельскага р-на). Пазней паселішчы ператвараліся ў гарадзішчы, яны ўзнікалі на высокіх месцах і ўмацоўваліся драўлянай сцяной (Банцараўшчына, Дворышча, Лабеншчына Мінскага, Старая Рудзіца Дзяржынскага, Гарадзішча Мядзельскага р-наў).

Паўднёвыя, усходнія і часткова цэнтральныя раёны вобласці ў 7—3 стагоддзях да н. э. насялялі плямёны мілаградскай культуры. Яны жылі на селішчах і гарадзішчах, размешчаных на прыродна ахаваных мысах (Грэск Слуцкага, Гарадзішча Бярэзінскага, Гарадзішча Клецкага р-наў) або сярод забалочанай мясцовасці (Амговічы, Вялікая Сліва, Заграддзе Слуцкага р-на). Гарадзішчы звычайна былі ўмацаваны землянымі валамі вышынёй 1—1,5 м і драўлянымі частаколамі або сценамі на грэбенях валоў. Асноўным тыпам жылля спачатку былі паўзямлянкі слупавой канструкцыі плошчай каля 50 $м^2$, заглыбленыя ў зямлю да 1 м, пазней — невялікія наземныя жытлы на адну сям'ю, плошчай 10—15 $м^2$. Аснову гаспадаркі мілаградскіх плямён складалі ляднае земляробства і жывёлагадоўля, другараднае значэнне мелі паляванне і рыбалоўства. Насельніцтва выраблялa жалезныя сякеры, сярпы, нажы з гарбатай спінкай, наканечнікі коп'яў, дроцікаў і стрэл, гліняныя арнаментаваныя прасліцы, жалезныя, бронзавыя, гліняныя і шкляныя ўпрыгожанні, яйцападобныя ці шарападобныя гаршкі з прамым адагнутым венчыкам, упрыгожаныя ямкавымі або пазногцевымі ўціскаННямі на венчыку ці шыйцы. Пахавальныя абрады — трупапалажэнне на курганных і трупаспаленне на бескурганных могільніках. Плямёны мілаградскай культуры знаходзіліся на пачатковай стадыі распаду першабытнаабшчыннага ладу.

У 3 ст. да н. э. на поўдзень і паўднёвы ўсход Міншчыны пранiклі плямёны культуры штрыхаванай керамікі, што асімілявалі мясцовае мілаградскае насельніцтва. На рубяжы новай эры плямёны культуры штрыхаванай керамікі займалі большую частку тэрыторыі вобласці. У 4—1 стагоддзях да н. э. у плямён культуры штрыхаванай керамікі ў сувязі з распадам патрыярхальна-родавага ладу і абвастрэннем супярэчнасцей паміж родамі і плямёнамі ўзніклі новыя добра ўмацаваныя на той час гарадзішчы (Вязынка Маладзечанскага, Збаравічы Мінскага, Качановічы Нясвіжскага, Малышкі Вілейскага, Мікасецк Мядзельскага р-наў), ранейшыя гарадзішчы перабудоўваліся: павялічваліся іх пляцоўкі, схілы рабілі больш стромкімі, па краях пляцовак і на грэбенях валоў узводзілі абарончыя сцены, з боку поля насыпалі дадатковыя валы і выкопвалі равы (Банцараўшчына, Дворышча, Лабеншчына Мінскага, Гарадзішча Мядзельскага, Старая Рудзіца Дзяржынскага р-наў). Жытлы будавалі доўгія, падзеленыя на некалькі асобных памяшканняў, з каменна-глінабітнымі агнішчамі ў цэнтры кожнага памяшкання. Разам з касцянымі і каменнымі прыладамі працы ўсё часцей выкарыстоўваліся жалезныя. У 1—5 стагоддзях н. э. у насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі пераважалі жалезныя вырабы (сякеры, сярпы, нажы, наканечнікі коп'яў і дроцікаў, пасахападобныя шпількі і

інш.), часта трапляліся бронзавыя рэчы (падвескі, бранзалеты, кольцы, спіралькі, бляхі). Побач з штрыхаванай керамікай сустракаецца глянцаваная, што сведчыць пра сувязі з Захадам і Поўднем. Асноўнымі формамі гаспадаркі насельніцтва сталі ляднае земляробства і жывёлагадоўля, а таксама паляванне і рыбалоўства. У пачатку 1-га тысячагоддзя н. э. у плямён гэтай культуры пачаўся распад патрыярхальна-родавых адносін, аб чым сведчыць паяўленне невялікіх жытлаў (малыя сем'і імкнуліся выдзеліцца з абшчыны і атрымаць гаспадарчую незалежнасць).

У 3 ст. да н. э. на поўдні вобласці паявіліся плямёны зарубінецкай культуры, якія ў сваю чаргу выцеснілі або асімілявалі астатнюю частку носьбітаў мілаградскай культуры. Жылі яны на селішчах, гарадзішчах, што пакінулі іх папярэднікі. Іх жытлы — аднакамерныя наземныя пабудовы слупавой канструкцыі, плошчай 10—24 м², з адкрытымі каменнымі агнішчамі на глінянай пляцоўцы ў вуглу ці каля сцяны. Насельніцтва вырабляла жалезныя нажы з прамой і гарбатай спінкай, сякеры-кельты, сярпы, лістападобныя і ўтулкавыя наканечнікі коп'яў, двухшыпавыя дроцікі і інш., пласкадонныя грубаляпныя гаршкі з адагнутым вонкі краем, выразнай шыйкай і круглаватым тулавам, часам арнаментаваныя ў верхняй частцы насечкамі, ямкамі і зашчыпамі, глянцаваныя гаршкі і міскі, жалезныя і бронзавыя ўпрыгожанні (Котава, Лысуха, Чыжаха Бярэзінскага, Івань Слуцкага р-наў). Пахавальны абрад — трупаспаленне на бескурганных могільніках. Зарубінецкія плямёны знаходзіліся на стадыі распаду першабытнаабшчыннага ладу і складвання тэрытарыяльнай абшчыны; у іх існавала патрыярхальнае рабства.

У 2-й чвэрці 1-га тысячагоддзя на тэрыторыю Міншчыны пачалі пранікаць плямёны культуры тыпу Адаменкі, таму мясцовае насельніцтва вымушана было добра ўмацоўваць свае паселішчы. Так паявіліся гарадзішчы з двума, а дзе-нідзе з трыма лініямі абароны (Дзядзілавічы, Ляшчыны Барысаўскага, Васількоўка Лагойскага р-наў). На тэрыторыі вобласці склалася культура тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі). Асноўным тыпам пасяленняў гэтай культуры былі селішчы, што размяшчаліся на пакатых узвышшах у поймах рэк або займалі мысападобныя выступы надпоймавых тэрас (Гарадзішча, Гатавічы Мядзельскага, Задвор'е Вілейскага, Дзядзілавічы Барысаўскага р-наў). Частка селішчаў узнікала каля гарадзішчаў, якія дадаткова ўмацоўваліся землянымі валамі, равамі і драўлянымі сценамі і ператвараліся ў гарадзішчы-сховішчы (Банцараўшчына Мінскага, Гарадзішча Лагойскага, Мікасецк, Равячка Мядзельскага р-наў). Насельніцтва жыло ў паўзямлянках пераважна зрубнай канструкцыі, заглыбленых у зямлю на 0,2—0,8 м, і наземных жытлах слупавой канструкцыі плошчай 7—20 м² з печамі-каменкамі ўнутры. Насельніцтва вырабляла слабапрафіляваныя пласкадонныя гаршкі з крыху адагнутым венчыкам, слабавыражанай шыйкай, моцна апушчаным плечуком і злёгку пукатым тулавам, гліняныя біканічныя праслíцы, жалезныя нажы, сярпы, сякеры, наканечнікі коп'яў, шпоры, падковападобныя фібулы, бронзавыя бранзалеты, падвескі, пярсцёнкі. Пахавальны абрад — трупаспаленне на бескурганных, пазней на курганных могільніках. Плямёны гэтай культуры знаходзіліся на заключнай стадыі распаду патрыярхальна-родавых адносін. Родавая абшчына саступала сваё месца сельскай тэрытарыяльнай, у аснове якой ляжалі эканамічныя сувязі. Разам з лядным развівалася і ворнае земляробства.

На поўначы і паўночным захадзе Міншчыны трапляюцца помнікі балцкіх плямён сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э.— усходнелітоўскія курганы (Алешкі, Гускі, Засвір Мядзельскага р-на). У 4—5 стагоддзях пахавальны абрад — трупапалажэнне ў грунтавых ямах, у 5—6 стагоддзях — трупаспаленне (рэшткі спалення ссыпалі ў грунтавую яму ў аснове або ў насыпе кургана). Пахавальны інвентар — упрыгожанні (шыйныя грыўні, бранзалеты, шкляныя пацеркі, фібулы, падвескі), прылады працы (сякеры, нажы, сярпы, праслíцы, шылы), у канцы 1 — пачатку 2-га тысячагоддзяў — зброя і рыштунак баявога каня.

У апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя паўднёвую і цэнтральную часткі вобласці да вярхоўяў Друці, Бярэзіны і Свіслачы (на поўдзень ад Барысава, Лагойска, Заслаўя) насялялі славянскія плямёны дрыгавічоў. Належалі да найбольш развітых у сацыяльных адносінах плямён, знаходзіліся на заключнай стадыі распаду родаплемяннога ладу, мелі сваё палітычнае аб'яднанне — «княжанне». Самыя старажытныя іх помнікі — курганныя могільнікі з пахавальным абрадам трупаспалення (на Бярэзіне, у вярхоўях Случы і Арэсы), з канца 10 ст.— трупапалажэння. Пры раскопках знойдзены прылады працы, упрыгожанні, зброя, трапляюцца зрубы з двухсхільным дахам. Этнавызначальная адзнака дрыгавічоў — зярнёныя пацеркі. Насельніцтва займалася земляробствам і жывёлагадоўляй, а таксама паляваннем, бортніцтвам, рыбалоўствам, гандлем. Развіваліся рамёствы: апрацоўка жалеза, ювелірнае, ганчарнае. Упершыню ў пісьмовых крыніцах дрыгавічы ўпамінаюцца ў «Аповесці мінулых часоў» у сувязі з падзеямі, што папярэднічалі 9 ст.; візантыйскі гісторык Канстанцін Багранародны называе іх у 948 г.

Паўночную частку вобласці ў гэты час насялялі славянскія плямёны крывічоў. Самыя старажытныя археалагічныя помнікі — доўгія курганы з пахавальным абрадам трупаспалення, пазней — гарадзішчы, селішчы і круглыя курганы з пахавальным абрадам трупапалажэння. Іх характэрныя племянныя адзнакі — бранзалетападобныя драцяныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі і шкляныя залачоныя пацеркі. Займаліся земля-

робствам, жывёлагадоўляй, хатнімі промысламі, рамёствамі, гандлем. Пісьмовыя звесткі пра крывічоў ёсць у візантыйскага гісторыка Канстанціна Багранароднага і ў «Аповесці мінулых часоў». У 7—9 стагоддзях гэта саюз плямён, у рамках якога фарміраваліся класы, дзяржаўнасць («княжанні»), народнасць. Апошні раз упамінаюцца ў летапісе пад 1162 г.

У апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя ў славянскіх плямён, што насялялі тэрыторыю Беларусі, завяршаўся пераход ад першабытнаабшчыннага ладу да феадальнага. На змену ляднаму прыйшло ворнае земляробства ў форме двух- і трохполля. Узнікла адасобленая гаспадарка малой сям'і, развівалася прыватная ўласнасць, што прывяло да стварэння сельскай тэрытарыяльнай абшчыны, асновай якой былі эканамічныя сувязі. Узмацнілася маёмаснае расслаенне насельніцтва, усталёўвалася феадальная ўласнасць на зямлю. Рамяство аддзялілася ад сельскай гаспадаркі.

У 2-й палове 9—10 ст. землі крывічоў і дрыгавічоў увайшлі ў склад старажытнарускай дзяржавы — Кіеўскай Русі. У яе межах сваяцкія ўсходнеславянскія плямёны складваліся ў адзіную старажытнарускую народнасць, што было абумоўлена іх адноснымі эканамічнымі сувязямі, этнічнай, тэрытарыяльнай, палітычнай, культурнай і моўнай супольнасцю.

Паўночная і цэнтральная частка Міншчыны з 10 ст. уваходзіла ў Полацкае княства, паўднёвая з канца 1-га тысячагоддзя ў Тураўскае княства. Найвышэйшай магутнасці Полацкае княства дасягнула ў 2-й палове 11 ст. пры Усяславе Брачыславічу [1044—1101 гг.], які імкнуўся пашырыць яго тэрыторыю, абараняў яго самастойнасць. Выкарыстаўшы захоп і разарэнне Усяславам Пскова і Ноўгарада, войскі паўднёварускіх князёў Яраславічаў 3 сакавіка 1067 г. у бітве на р. Нямізе разбілі полацкае войска, захапілі і разрабавалі Мінск. Пасля смерці Усяслава Брачыславіча з Полацкага княства вылучыліся: у 1-й палове 12 ст. Ізяслаўскае і Мінскае, у 2-й палове 12 ст. Лагожскае (Лагойскае) княствы, з Тураўскага княства ў 1-й палове 12 ст. вылучыліся Клецкае, у 2-й палове 12 ст. Слуцкае княствы. Мінскі князь Глеб Усяславіч праводзіў палітыку ўзвышэння Мінска над Полацкам, спрабаваў сапернічаць з кіеўскім князем Уладзімірам Манамахам і пашырыць свае ўладанні за кошт суседніх зямель. Ён аб'яднаў вакол Мінска Оршу, Друцк, Капыль, у 1116 г. захапіў Слуцк, у адказ Уладзімір Манамах асадзіў Мінск, і Глеб Усяславіч мусіў папрасіць міру. У 1117 г. ён у саюзе з палачанамі напаў на Навагрудскую і Смаленскую землі, за што сын Уладзіміра Манамаха Мсціслаў захапіў Мінск, узяў Глеба Усяславіча ў палон і вывез у Кіеў, а ў 1119 г. далучыў Мінск да сваіх уладанняў. У 1127 г. Мсціслаў Уладзіміравіч арганізаваў паход кааліцыі паўднёварускіх князёў супраць Полацкага княства, якія захапілі і спустошылі некалькі гарадоў, у тым ліку Ізяслаўль і Лагожск. У 1140-я гады княжанне ў Мінску было адноўлена. У сярэдзіне і 2-й палове 12 ст. мінскія князі сапернічалі з полацкімі і друцкімі князямі за палітычную гегемонію ў Полацкай зямлі. У 1151 г. на полацкае княжанне быў запрошаны мінскі князь Расціслаў Глебавіч, які княжыў там 7 гадоў. Полацкі князь Рагвалод Барыславіч тройчы (у 1159, 1160 і 1161 гг.) асаджваў





*Упрыгожанні з селішча каля в. Гарадзішча Шчомысліцкага сельсавета Мінскага раёна.*

Мінск, але так і не змог узяць горад. У 1162 г. Расціслаў Глебавіч разграміў Рагвалода і яшчэ больш умацаваў незалежнасць Мінскага княства.

Развіццё прадукцыйных сіл, аддзяленне рамяства ад сельскай гаспадаркі пры існаванні прыватнай уласнасці з'явілася эканамічнай перадумовай узнікнення гарадоў, якія станавіліся цэнтрамі рамеснай і гандлёвай дзейнасці насельніцтва. У пісьмовых крыніцах раней за іншыя на тэрыторыі Міншчыны ўпамінаюцца гарады: Заслаўе (Изяславль, 985 г.), Мінск (Меньск, 1067 г.), Лагойск (Логожеск, 1078 г.), Слуцк (Случеск, 1116 г.), Барысаў (1102 г., 1127 г.), Клецк (Клеческ, 1127 г.), Нясвіж (1223), Капыль (1274 г.). На думку некаторых даследчыкаў, першапачаткова Мінск (Меньск) узнік і ў 9—10 ст. знаходзіўся за 2 км ад вусця р. Менкі (правы прыток р. Пціч, цяпер амаль перасохла), пры ўпадзенні ў яе ручая Дуная, дзе знаходзіцца гарадзішча і вялікае селішча вакол яго (каля в. Гарадзішча Шчомысліцкага сельсавета Мінскага р-на), у 11 ст. перанесены на цяперашняе месца. Лічаць, што ад р. Менка горад атрымаў сваю назву.

Культура Міншчыны развівалася ў агульным рэчышчы старажытнарускай культуры. Прынясце ў 988—89 гг. хрысціянства зрабіла вялікі ўплыў на ўсе сферы грамадскага і культурнага жыцця, на фарміраванне ідэалогіі, садзейнічала развіццю пісьменнасці. У Полацкім і Тураўскім княствах, куды ўваходзіла тэрыторыя вобласці, вялося летапісанне, перапісваліся кнігі, ствараліся манументальныя архітэктурныя збудаванні. У 12 ст. у Мінску быў закладзены мураваны храм (па невядомых прычынах ён не быў закончаны і ператвораны ў гарадскі некропаль).

У 13 ст. заходнія землі Русі былі палітычна раздроблены, аслаблены агрэсіяй крыжакоў, феадальнымі міжусобіцамі і войнамі. Гэта выкарысталі літоўскія феадалы, якія да сярэдзіны 13 ст. стварылі моцную раннефеадальную дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае са сталіцай у Навагрудку (з 1323 г. у Вільні) і пачалі пашыраць свой уплыў на суседнія княствы і землі. У 2-й палове 13—14 ст. у склад Вялікага княства Літоўскага паступова ўвайшлі ўсе беларускія землі. Тэрыторыя Міншчыны ў складзе гэтай дзяржавы з 1-й чвэрці



*Агульны выгляд гарадзішча і селішча каля в. Гарадзішча Шчомысліцкага сельсавета Мінскага раёна.*





*Выявы гербаў (злева направа): Мінска, Нясвіжа і Слуцка паводле прывілеяў на магдэбургскае права і пячатак на дакументах 16—18 стагоддзяў.*

14 ст., хоць асобныя ўдзельныя княствы пэўны час захоўвалі аўтаномію, якая ў асноўным ліквідавана ў 1390-я гады.

Феадалы беларускіх зямель былі зацікаўлены ў моцнай дзяржаўнай уладзе, здольнай абараняць іх класавыя інтарэсы. Гараджане і інш. слаі насельніцтва, якія цярпелі ад феадальнай анархіі і спусташальных набегаў ворагаў, таксама разлічвалі на абарону з боку цэнтральнай улады. Пашырыўшы сваю ўладу на заходнерускія землі, вялікія князі літоўскія давалі палітычныя і эканамічныя прывілеі, у т. л. землі на тэрыторыі Беларусі, пераважна літоўскім феадалам (так, Скіргайла атрымаў Мінск, Лагойск і інш. гарады і сёлы з людзьмі і даходамі). Гэта выклікала незадаволенасць беларускай феадальнай знаці, якая паступова траціла былое манапольнае становішча ў сваіх землях, а яе ўдзел у агульнадзяржаўным кіраванні быў мінімальны. Сярод часткі яе складвалася апазіцыя. Засцерагчы сябе ад агрэсіі Тэўтонскага ордэна, умацаваць сваё становішча на беларускіх і ўкраінскіх землях і аслабіць уплыў Маскоўскай дзяржавы буйныя літоўскія феадалы разлічвалі з дапамогай Крэўскай уніі 1385 г.— саюза Вялікага княства Літоўскага з Польшчай. Гэта стварала значныя магчымасці для каталіцкай экспансіі ў беларускія землі, пасля Крэўскай уніі тут пачалі насаджаць каталіцкае землеўладанне, будаваць касцёлы і кляштары (у 1387 г. заснаваны касцёл у Гайне пад Лагойскам, у 1390 г.— у Мінску). Страта дзяржаўнай самастойнасці, насаджэнне каталіцызму не задавальняла праваслаўных феадалаў, яны працягвалі барацьбу за расшырэнне сваіх палітычных правоў. У 1432 г. князь Свідрыгайла, апіраючыся на беларускіх, рускіх і ўкраінскіх феадалаў, выступіў супраць стаўленіка літоўскіх феадалаў вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча. Феадальная вайна ахапіла значную частку княства, у т. л. Міншчыну. Каб звузіць сацыяльную базу выступлення, кароль Ягайла і вялікі князь Жыгімонт вымушаны былі дараваць прывілеі 1432 г. і 1434 г., паводле якіх расшыраліся маёмасныя і асабістыя правы праваслаўных феадалаў, аднак іх палітычныя правы заставаліся абмежаванымі. У 1481 г. слуцкі князь Міхаіл Алелькавіч, праваслаўныя князі Іван Гальшанскі, Фёдар Бельскі і інш. арганізавалі змову,



*Гербавыя знакі (злева направа) Мінска (1591 г.), Барысава і Вілейкі (1796 г.).*

каб захапіць уладу ў Вялікім княстве Літоўскім або ў выпадку няўдачы далучыць частку беларускіх зямель да Рускай дзяржавы. Змова не ўдалася, яе арганізатары былі пакараны смерцю.

Але цяга да Рускай дзяржавы на беларускіх землях узмацнялася. У час руска-літоўскай вайны 1507—08 гг. буйны магнат Міхаіл Глінскі (разам з братамі Васілём і Іванам) стварыў атрад з васалаў-феадалаў і прыхільнікаў і ўзначаліў паўстанне супраць вялікага князя літоўскага. У сакавіку 1508 г. ён падпісаў пагадненне з рускім паслом аб сумесных дзеяннях. Разам з 20-тысячным рускім атрадам ён асадзіў Мінск і выслаў атрады ў Слуцк, Клецк і інш., аднак гарады не падтрымалі яго. Ваенныя няўдачы вымусілі Глінскага ўцячы ў Маскву.

Расшырэнне і ўмацаванне ўнутраных эканамічных сувязей, наяўнасць адносна трывалай цэнтралізаванай улады, стварэнне агульнадзяржаўнага заканадаўства (Судзебнік 1468 г., Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566, 1588 гг.) садзейнічалі кансалідацыі зямель у складзе Вялікага княства Літоўскага. Паводле адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы 1564—66 гг. тэрыторыя Мінскай вобл. уваходзіла ў Мінскі павет Мінскага ваяводства (Барысаў, Беразіно, Койданава, Лагойск, Маладзечна, Пухавічы, Смалявічы, Ігумен, Узда), Навагрудскі павет Навагрудскага ваяводства (Капыль, Клецк, Любань, Нясвіж, Старобін, Слуцк, Старыя Дарогі), Ашмянскі павет Віленскага ваяводства (Вілейка, Валожын, Мядзел), Аршанскі павет Віцебскага ваяводства (Крупкі, усходнія часткі сучасных Барысаўскага і Бярэзінскага р-наў).

У 14—15 стагоддзях на тэрыторыі Міншчыны, як і ўсёй дзяржавы, адбываўся прыкметны рост гарадоў, павялічваліся іх памеры, колькасць у іх насельніцтва, павышалася роля гарадоў у жыцці дзяржавы. Паводле прывілея 1441 г. сярод 15 найбольшых гарадоў Вялікага княства Літоўскага названы Мінск і Слуцк. Пераважнай па колькасці групай насельніцтва ў гарадах былі рамеснікі, гандляры, дробныя і сярэднія купцы, земляробы і вольныя гараджане, так званыя немаёмныя. Прывілеяванае становішча ў гарадах займалі феадалы-баяры, вышэйшае духавенства, багатыя купцы. Па меры ператварэння гарадоў у рамесна-гандлёвыя цэнтры яны імкнуліся стварыць сваю сістэму суда і кіравання. Правы на самакіраванне на аснове магдэбургскага права на тэрыторыі Міншчыны атрымалі Слуцк у 1441 г., Мінск у 1499 г., Радашковічы ў 1569 г., Нясвіж у 1586 г., Капыль у 1652 г. Аднак феадалы стваралі ў гара-




*Нясвіж. З гравюры пачатку 17 ст.*




*Клецк. З гравюры пачатку 17 ст.*

дах т. зв. юрыдыкі — уладанні, на жыхароў якіх не пашыралася судовая ці адміністрацыйная ўлада гарадскога самакіравання. Жыхары юрыдык падпарадкоўваліся феадальнай адміністрацыі. Да сярэдзіны 17 ст. каля 40 % гарадоў і мястэчак Беларусі прыватнаўласніцкія. Звычайна яны былі адміністрацыйнымі і гаспадарчымі цэнтрамі і вaеннымі апорнымі пунктамі магнацкіх уладанняў. На тэрыторыі Міншчыны буйныя магнаты валодалі гарадамі: Чартарыйскія і Тышкевічы — Лагойскам, Алелькавічы — Слуцкам і Капылём, Гаштольды — Мядзелам, Валожынам і Койданавам, Кежгайлы — Ігуменам, Сангушкі — Крупкамі і Ракавам; найбуйнейшым магнатам Радзівілам у розны час належалі Слуцк, Капыль, Койданава, Смалявічы, Нясвіж, Мядзел і інш. Каб абараніцца ад самавольства феадалаў, забяспечыць манапалізацыю вытворчасці і збыт тавараў, рамеснікі горада адной або блізкіх прафесій аб'ядноўваліся ў цэхі, што мелі свае статуты і з'яўляліся грамадскай арганізацыяй майстроў. У 16—18 стагоддзях у Мінску было больш за 20, у Слуцку 18 цэхаў, якія аб'ядноўвалі майстроў ад 40 да 80 прафесій.

На працягу 14—15 стагоддзяў феадальная ўласнасць на зямлю ўмацоўвалася. Прывілей 1447 г. забараніў пераход прыватнаўласніцкіх сялян ад аднаго феадала да другога, у выніку чаго пачалося юрыдычнае афармленне запрыгоньвання некаторых катэгорый сялян. Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566, 1588 гг. юрыдычна замацавалі прыгоннае права. Аграрная рэформа, праведзеная паводле «Уставы на валокі» 1557 г., мела на мэце арганізацыю фальварковай гаспадаркі, павелічэнне сялянскіх павіннасцей і уніфікацыю сялянскага надзелу, рост даходаў дзяржаўнага скарбу. На тэрыторыі Мінскай вобл. рэформа была завершана ў асноўным на працягу 2-й паловы 16 ст. На ўсходзе Міншчыны (у басейне р. Бярэзіна) ажыццяўленне рэформы было адкладзена па эканамічных і палітычных прычынах, перш за ўсё з-за шырокага сялянскага руху на вялікакняжацкіх землях. На дзяржаўных землях у раёнах Барысава, Крупак і інш. рэформа праведзена палавінчата — павялічваліся грашовыя павіннасці сялян і дакладна вызначаліся натуральныя паборы, ураўноўваліся зямельныя ўчасткі, устанаўліваліся плата і павіннасці за іх.

У 14—16 стагоддзях сфарміравалася беларуская народнасць, развіваліся асноўныя асаблівасці яе гаспадарчага і грамадскага побыту, матэрыяльнай культуры, што выявілася ў тыпах жылля, яго ўнутраным убранні і хатнім начынні, у вопратцы, стравах, абрадах і звычаях, у мастацкай творчасці і фальклоры. Беларуская мова да канца 17 ст. была дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім. На ёй пісаліся летапісы і хронікі, свецкія і царкоўныя творы, статуты, граматы, сеймавыя пастановы і інш. дакументы, вялося справаводства ва ўстановах.

Рост антыфеадальных выступленняў, унутрыкласавых, палітычных і нацыянальна-рэлігійных супярэчнасцей, няўдачы ў Лівонскай вайне 1558—83 гг. выкарысталі польскія феадалы і каталіцкае духавенства, якія імкнуліся далучыць землі Вялікага княства Літоўскага да Польшчы. У 1569 г. была заключана Люблінская унія, паводле яе Вялікае княства Літоўскае і Польшча аб'ядноўваліся ў федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую, на чале якой стаяў кароль, што выбіраўся феадаламі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага на агульным сейме. Хоць Вялікае княства Літоўскае фармальна захавала поўную самастойнасць (уласнае войска, асобнае заканадаўства, суды, фінансы і інш.), аднак трапіла ў залежнае становішча. Люблінская унія спрыяла паланізацыі беларускага, украінскага і літоўскага насельніцтва, усталяванню жорсткага нацыянальна-рэлігійнага ўціску, што выклікала ўздым антыфеадальнага і нацыянальна-рэлігійнага руху. У 1595 г. паўднёвы ўсход і ўсход тэрыторыі Беларусі ахапіла антыфеадальнае паўстанне казакоў пад кіраўніцтвам С. Налівайкі. Да яго далучыліся сяляне, гарадская беднота, дробныя феадалы. 6 лістапада паўстанцы штурмам авалодалі Слуцкам. Атрад пад камандаваннем казацкага палкоўніка Марцінка вёў бой супраць войск К. Радзівіла каля Капыля, аднак трапіў у засаду і адступіў у Слуцк. Пад націскам пераўзыходзячых войск феадалаў паўстанцы вымушаны былі вярнуцца на Украіну.

Асноўным прынцыпам унутранай палітыкі караля і кіруючых вярхоў Рэчы Паспалітай было ўмацаванне ў Вялікім княстве Літоўскім улады польскіх феадалаў і каталіцкай царквы, якая стала галоўнай ідэйнай і палітычнай зброяй іншаземнага і феадальнага прыгнёту на Беларусі. Каб пашырыць яе ўплыў, у 1596 г. была заключана Брэсцкая царкоўная унія, паводле якой аб'яднаны каталіцкая і праваслаўная цэрквы і створана уніяцкая царква. Узмацненне феадальна-прыгоннага і нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту выклікала рэзкае абвастрэнне класавых супярэчнасцей. У 1616 г. адбылося выступленне гараджан Мінска

супраць уніі. Актыўна змагаліся супраць гвалтоўнай паланізацыі, акаталічвання і уніі праваслаўныя царкоўныя брацтвы, што ўзнікалі ў буйных гарадах (у т. л. у Мінску і Слуцку) пры цэрквах і манастырах. Брацтвы, у склад якіх уваходзілі рамеснікі, гандляры, духавенства і шляхта, займаліся рэлігійна-дабрачыннай дзейнасцю: будавалі цэрквы, дамы прытулку, адкрывалі школы, выпускалі кнігі (у т. л. падручнікі і навучальныя дапаможнікі), адстойвалі культуру і мову беларускага народа.

Сутыкненне эканамічных і палітычных інтарэсаў розных сацыяльных груп у Вялікім княстве Літоўскім стварыла глебу для пашырэння ў 2-й палове 16 — пачатку 17 ст. рэфармацыйнага руху. Пратэстанцкія абшчыны на тэрыторыі Міншчыны ў сярэдзіне 16 ст. узніклі ў Нясвіжы, Клецку, пазней у Мінску, Заслаўі, Гарадзеі, Івянцы, Капылі, Койданаве і інш. Большая частка знаці падтрымала кансерватыўны рух, імкнулася выкарыстаць яго для барацьбы супраць прывілеяў каталіцкай і праваслаўнай цэркваў, за ўмацаванне сваіх сацыяльна-эканамічных і палітычных пазіцый. Частка гарадскога насельніцтва выступала за абмежаванне прывілеяў свецкіх феадалаў і царквы. У 1560-я гады ў рэфармацыйным руху афарміўся антытрынітарызм, або арыянства, у якім вылучыўся плебейскі кірунак. Яго прадстаўнікі дамагаліся ліквідацыі прыгону і прыватнай уласнасці феадалаў, патрабавалі ўраўнаваць саслоўі, выступалі супраць свецкай улады, войнаў, нацыянальнай і рэлігійнай няроўнасці. Рэфармацыйны рух садзейнічаў развіццю літаратуры, мастацтва, школьнай справы, кнігадрукавання.

Вызваленчая вайна ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. супраць прыгонніцкага і нацыянальна-рэлігійнага ўціску, за ўз'яднанне з Расіяй летам 1648 г. ахапіла значную частку паўднёвай і паўднёва-ўсходняй часткі тэрыторыі Беларусі. Паўстанцы руйнавалі магнацкія і шляхецкія маёнткі, грамілі касцёлы і манастыры, знішчалі дакументы пра феадальныя павіннасці. Феадалы з дапамогай каталіцкай царквы сабралі значныя сілы наёмнікаў і шляхты. Іх апорным пунктам у цэнтральнай частцы Беларусі была Слуцкая крэпасць, якая прыкрывала шлях на Мінск і Навагрудак. У жніўні 1648 г. двухтысячны атрад казакоў і сялян пад кіраўніцтвам Яна Сакалоўскага накіраваўся да Слуцка. Гараджане дамовіліся не аказваць супраціўлення паўстанцам, Я. Радзівіл накіраваў у Слуцк некалькі харугваў (палкоў) кавалерыі, каб умацаваць мясцовы гарнізон. Паўстанцы пачалі штурм крэпасці, але панеслі вялікія страты і адступілі да Турава. Атрады Ф. Гаркушы і С. Падбайлы левым берагам Бярэзіны выйшлі да г. Беразіно, а тысячны атрад казакоў пад кіраўніцтвам сотніка Трэскі заняў Ігумен, дзе да яго далучыліся 100 мясцовых жыхароў пад камандаваннем ігуменца Грыбовіча. Войскі карнікаў пад камандаваннемВаловіча імкнуліся атакаваць казацка-сялянскія атрады ў міжрэччы Бярэзіны і Свіслачы, аднак былі разбіты паўстанцамі і адступілі ў Слуцкую крэпасць. Да канца 1648 г. паўстанне пашырылася на значную частку тэрыторыі Міншчыны (да Навагрудка і Мінска). 30 снежня паўстанцы разграмілі каля Ігумена буйны атрад наёмнікаў і шляхты, якім камандаваў Ян Пац. 13.1.1649 г. карнікі захапілі Смалявічы і спалілі іх, але 16 студзеня былі разгромлены пад Мінскам. Паводле Збароўскага дагавора 1649 г. казакі мусілі адысці на Украіну, але на поўдні Беларусі сялянскія выступленні працягваліся. У час руска-польскай вайны 1654—67 гг. народныя масы зноў узняліся на вызваленчую вайну. У гарадах пачаўся рух за ўз'яднанне з Расіяй, таму наступленне рускіх войск адбывалася імкліва. Паводле плана цэнтральная руская армія павінна была наступаць з Смаленска на Барысаў — Мінск — Вільню, ахапіць паўночную частку Мінскага і паўднёва-ўсходнюю частку Віленскага ваяводстваў. Паўднёва-заходняя армія павінна была наступаць у напрамку Слуцк — Навагрудак — Брэст і ахапіць сярэднюю частку Мінскага і Навагрудскага і заходнюю частку Брэсцкага ваяводстваў. 19.6.1655 г. рускія войскі занялі Барысаў, 24 чэрвеня — Смалявічы, 3 ліпеня — Мінск, што давала магчымасць наступаць на Вільню. 23 жніўня рускія войскі падышлі да Слуцка, які меў моцны гарнізон, быў добра ўмацаваны, і, каб не губляць тэмп наступлення, абышлі яго. 29 жніўня ў мястэчку Цімкавічы рускія войскі разграмілі буйны польска-літоўскі атрад, узялі Клецк і інш. гарады. У выніку летняй наступальнай кампаніі 1655 г. амаль уся тэрыторыя Беларусі была вызвалена рускімі войскамі. Паводле Віленскага перамір'я 1656 г. ваенныя дзеянні паміж абедзвюма дзяржавамі былі спынены. У 1658 г. вайна паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай аднавілася. Невялікія гарнізоны рускіх войск у гарадах вымушаны былі здацца. Паступова войскі Рэчы Паспалітай вярнулі ўсе занятыя рускай арміяй тэрыторыі Беларусі. Паводле Андрусаўскага перамір'я 1667 г. Беларусь і Правабярэжная Украіна засталіся ў складзе Рэчы Паспалітай.

У Паўночную вайну 1700—21 гг. шведскія войскі ў студзені 1706 г. пераправіліся цераз Нёман і пачалі наступленне на тэрыторыі Беларусі. У маі яны захапілі Слуцк і Клецк, у жніўні — Нясвіж, якія разрабавалі і спалілі. У 1708 г. галоўныя сілы шведскага караля Карла XII чатыры месяцы стаялі каля Даўгінава і Радашковіч, у красавіку — маі яны зноў захапілі Слуцк, у чэрвені падышлі да Мінска, пераправіліся цераз Бярэзіну. Захопнікі ўстанавілі жорсткі акупацыйны рэжым. А. Д. Меншыкаў паведамляў цару Пятру I, што каля Мінска шведы «катуюць, вешаюць і паляць мужыкоў». Беларускія сяляне хавалі ад захопнікаў харчы, нападалі на фуражыраў і салдат, стваралі партызанскія атрады.

У выніку разбуральных войнаў 2-й паловы



*Гербавыя знакі (злева направа) Ігумена (1796 г.), Нясвіжа (1586 г.), Слуцка (1601 г.).*

17 — пачатку 18 ст., якія суправаджаліся неўраджаямі, эпідэміямі, голадам, гаспадарка Беларусі прыйшла ў заняпад. Многія вёскі былі разрабаваны і спалены, частка насельніцтва загінула або разбеглася. Вялікія страты былі нанесены гарадам і мястэчкам. Пасля руска-польскай вайны 1654—67 гг. у Мінску налічвалася каля 2 тысяч жыхароў і крыху больш за 300 дамоў. Пастановай сейма 1775 г. разрабаваны захопнікамі Слуцк быў вызвалены ад падаткаў на 10 гадоў, у 1785 г. у горадзе былі 833 дамы і 5—5,5 тыс. жыхароў. Вельмі пацярпелі ў час войнаў Клецк, Лагойск, Нясвіж, Койданава, Смалявічы, Цімкавічы і інш. Упартай працай сяляне пераадольвалі вынікі разбурэння. Павялічылася колькасць сельскага насельніцтва, прадукцыйнай жывёлы, плошча ворных зямель. Так, у магнацкім уладанні Цімкавічы з канца 17 ст. да сярэдзіны 18 ст. пасевы павялічыліся ў 1,5 раза. Рост фальварковай сельскагаспадарчай вытворчасці быў звязаны з развіццём у 2-й палове 18 ст. вотчыннага прамыславага прадпрыймальніцтва, з промысламі і камерцыйнай дзейнасцю магнатаў і шляхты. У канцы 18 ст. на тэрыторыі Міншчыны было 91 прадпрыемства мануфактурнага тыпу. Самыя вялікія і аснашчаныя складаным тэхнічным абсталяваннем былі Урэцкая і Налібоцкая гуты, Слуцкая мануфактура шаўковых паясоў князёў Радзівілаў, суконныя фабрыкі Радзівілаў у Нясвіжы, Бярновіча ў мястэчку Бабоўня, Нясвіжскага бернардзінскага манастыра ў в. Падласосня, гута графа Салагуба ў мястэчку Ілья, фаянсавы завод Радзівілаў у мястэчку Свержань і інш. Налібоцкая гута, заснаваная ў 1720-я гады, выпускала больш за 100 назваў вырабаў, у 1776 г. на ёй працавала больш за 100 рабочых, на Урэцкай гуце — ад 45 да 60 рабочых. На Слуцкай мануфактуры шаўковых паясоў (заснавана ў 1740-я гады) у 1793 г. працавала 60 майстроў, было 28 ткацкіх станкоў. На Нясвіжскай суконнай фабрыцы (заснавана ў 1752 г., сыравіна паступала з маёнткаў Радзівілаў) у 1765 г. было больш за 25 ткацкіх станкоў, 77 прадзільных машын, каля 60 рабочых. Пераважную большасць работнікаў вотчынных мануфактур складалі прыгонныя сяляне, хаця выкарыстоўвалася і праца наёмных рамеснікаў. На многіх мануфактурах працавалі замежныя спецыялісты, з-за мяжы дастаўляліся станкі.

Да канца 18 ст. большасць гарадоў выйшла са стану крайняга спустошэння. Павялічылася колькасць рамеснага насельніцтва, у Мінску яна складала 40 %, у Слуцку — 35 %, у Барысаве — 10% ад агульнай колькасці жыхароў. Адбываліся змены ў прафесійным складзе рамеснікаў. У Слуцку, напрыклад, скарацілася колькасць кушняроў, саф'яннікаў, слесараў, цесляроў і інш., затое вырасла колькасць шаўцоў, развіліся медніцкае рамяство і ткацтва паясоў, у Мінску больш за палавіну рамеснікаў займалася вытворчасцю скур, футра і апрацоўкай металаў. У 1780—90-я гады паявіліся буйныя майстэрні, па якіх выкарыстоўвалася наёмная праца (у Мінску былі цагельня, 70 піваварняў і 32 саладоўні, у Слуцку — 16 піваварняў і інш.) і праца сезонных рабочых. У канцы 18 ст. гарады ператвараліся ў буйныя гандлёвыя цэнтры (гандлёвы абарот Мінска складаў 200—300, Слуцка — 100 тыс. руб. у год).

Узмацненне феадальна-прыгонніцкага прыгнёту пасля разгрому вызваленчага руху беларускага і ўкраінскага народаў, руска-польскай вайны 1654—67 гг. выклікала абвастрэнне класавай барацьбы. У 1695 г. пачалося ўзброенае выступленне сялян Слуцкага княства, якое было падтрымана гарадскімі нізамі Слуцка. Паміж паўстанцамі і войскамі адбыліся сутычкі. Было ўзята ў палон шмат актыўных паўстанцаў. У сваю чаргу сяляне захапілі некалькі салдат і вахмістра і запатрабавалі абмяняць іх на зняволеных паўстанцаў. Баючыся, што паўстанне перакінецца ў Слуцк, гетман літоўскі Сапега кінуў на задушэнне выступлення рэйтарскую, казацкую і татарскую харугвы. У 1699 г. у Слуцку адбылося выступленне гараджан, выкліканае злоўжываннямі войта. У 1748 г. мелі месца хваляванні сялян у Драчкаўскім маёнтку Радзівіла. Група шляхціцаў зрабіла напад на сялян в. Дамашаны. У адказ больш як 100 сялян розных вёсак акружылі шляхціцаў і хацелі падпаліць дом, у якім яны схаваліся, шляхціцы здаліся.

У 2-й палове 17—18 ст. павялічваліся маёнткі і зямельныя ўчасткі каталіцкай царквы. Каталіцкае і уніяцкае духавенства пры падтрымцы ўлад і шляхты захоплівала праваслаўныя цэрквы і манастыры і ператварала іх у уніяцкія, а праваслаўнае насельніцтва пад прымусам станавілася каталікамі ці уніятамі. Каб прымусіць шляхту і мяшчан праваслаўнага веравызнання прыняць каталіцтва або уніяцтва, вярхоўная ўлада Рэчы Паспалітай абмяжоўвала іх правы. Праваслаўная беларуская шляхта, якая змагалася за ўраўнаванне правоў праваслаўнай шляхты з каталіцкай, стварыла 20.3.1767 г. у Слуцку канфедэрацыю. У яе склад увайшлі і кальвіністы. Канфедэраты разам з часцямі рускай арміі накіраваліся на Мінск, Вільню, Варшаву. У 1768 г. сейм вымушаны быў прыняць пастанову аб ураўнаванні правоў праваслаўных і пратэстантаў з каталікамі.

У 2-й палове 16—18 ст. прыкметнага развіцця

дасягнула культура, што было абумоўлена эканамічным і сацыяльна-палітычным развіццём Беларусі. Пашыраліся сувязі беларускай культуры з культурай суседніх народаў, у т. л. з рускай. У беларускай культуры знайшлі адлюстраванне ідэі Адраджэння і Рэфармацыі. Развівалася школьная адукацыя, хоць яна мела саслоўны характар. У 2-й палове 16 ст. у Клецку, Лоску, Мінску, Нясвіжы, Слуцку і інш. адкрыты пратэстанцкія школы, у якіх, апрача арыян, вучыліся дзеці праваслаўных і католікаў. Школы ствараліся пры праваслаўных брацтвах (у 1586 г. у Слуцку, у 1612 г. у Мінску), дзе вучыліся дзеці рамеснікаў, гандляроў і праваслаўнай шляхты. У 1624 г. у Слуцку адкрыта кальвінісцкая гімназія. У канцы 17 ст. школьная адукацыя сканцэнтравалася ў руках розных манаскіх ордэнаў (езуіцкія школы ў Барысаве, Мінску, Нясвіжы і інш. гарадах і мястэчках). Многія выхадцы з Міншчыны атрымлівалі адукацыю ва універсітэтах Вільні, Кракава, а таксама ў гарадах Заходняй Еўропы. Адукацыйная камісія, утвораная ў 1773 г., адкрыла школы ў Нясвіжы, Слуцку, Халопенічах. У 18 ст. у Слуцку і Нясвіжы існавалі кадэцкія карпусы. На тэрыторыі Мінскай вобл. жыў і працаваў адзін з буйнейшых прадстаўнікоў беларускай рэфармацыі гуманіст і асветнік Сымон Будны. У сваіх творах ён патрабаваў абмежавання феадальнага самавольства, выступаў за роўнасць усіх саслоўяў перад законам, асуджаў агрэсіўную палітыку феадалаў, клапаціўся аб развіцці адукацыі. Вучэнне С. Буднага падрыхтавала глебу для развіцця на Беларусі атэістычнай і матэрыялістычнай думкі. З Міншчынай звязана дзейнасць царкоўнага і грамадска-палітычнага дзеяча М. Сматрыцкага, асветніка і кнігавыдаўца І. Ф. Капіевіча, філосафа С. Маймана.

Значнага развіцця дасягнула кнігадрукаванне. У 1560-я гады заснавана друкарня ў Нясвіжы, дзе ўпершыню на тэрыторыі Беларусі выдадзены кнігі на старабеларускай мове («Катэхізіс» і «Праапраўданне грэшнага чалавека перад богам» С. Буднага). У 1571 г. друкарня пераведзена, магчыма, у Заслаўе ці Узду, у 1572 г. закончана выданне Бібліі, перакладзенай С. Будным на польскую мову. Пазней друкарня пераведзена ў Лоск. У 1750—91 гг. існавала друкарня пры замку Радзівілаў, якая выдала 70 кніг. У 1670—1705 гг. у Слуцку працавала княжацкая друкарня (да 1687 г. выпушчана 23 кнігі). У 17 ст. друкарні існавалі ў Ракаве і Мінску. У 2-й палове 17 ст. беларуская мова ўсё больш выцяснялася з судовага і адміністрацыйнага справаводства, а ў 1696 г. канфедэрацыя Рэчы Паспалітай пастанавіла справаводства Вялікага княства Літоўскага весці на польскай мове. Да пачатку 18 ст. закрыты амаль усе праваслаўныя школы.

З 1600 г. пры езуіцкім калегіуме ў Мінску існаваў школьны тэатр (яго паказы зафіксаваны ў 1610—90-я гады, у 1723—37 гг.). У 1686 г. пратэстанцкі, у 1715—36 гг. езуіцкі школьны тэатр быў у Слуцку. На тэрыторыі вобласці адбываліся прадстаўленні лялечнага тэатра батлейка (батлеечнікі Н. Дыла, С. Трывога, шавец з Слуцка Болбут). У 18 ст. існавалі магнацкія (прыгонныя) тэатры ў прыватнаўласніцкіх гарадах і мястэчках, шляхецкіх маёнтках. У 1740—91 гг. дзейнічаў Нясвіжскі тэатр Радзівілаў, у 18 ст. ён быў цэнтрам тэатральнага і музычнага жыцця на Беларусі. У спектаклях тэатра разам з прыгоннымі акцёрамі ўдзельнічалі навучэнцы кадэцкага корпуса, шляхта, члены княжацкай сям'і. У 1751—60 гг. у Слуцкім тэатры Радзівілаў існавалі прыгонныя і нанятыя трупы. У 1787 г. у Мінску створана трупа — «Камедыйны тэатр».

Паводле 2-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 г. Міншчына ўз'яднана з Расіяй. Уз'яднанне з Расіяй уключыла Беларусь у агульнарасійскую гаспадарчую сістэму, зрабіла станоўчы ўплыў на развіццё ўсіх галін эканомікі, садзейнічала ўмацаванню і пашырэнню гандлёвых сувязей Беларусі з расійскімі і ўкраінскімі губернямі і росту гандлю. 3 красавіка 1793 г. утворана Мінская губерня, тэрыторыя вобласці ўваходзіла ў Барысаўскі, Вілейскі, Ігуменскі, Мінскі, Нясвіжскі і Слуцкі паветы. У 1795—96 гг. складала асобнае Мінскае намесніцтва.

Пасля ўз'яднання з Расіяй на беларускія гарады былі пашыраны прынцыпы рускага гарадскога самакіравання паводле Даравальнай граматы гарадам 1785 г. Памешчыкам, што прысягалі рускаму цару, дазвалялася ўладаць нерухомай маёмасцю і прыгоннымі, яны мелі ўсе правы і прывілеі, якімі карысталася рускае дваранства. Асноўным заканадаўчым актам да 1840 г. заставаўся Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Аграрная палітыка рускага ўрада заключалася ў пашырэнні землеўладання рускага дваранства і ўмацаванні памешчыцкага землеўладання наогул. У Мінскай губерні 42 землеўладальнікам было раздана каля 33 тыс. сялян мужчынскага полу. З палітычных меркаванняў і гаспадарчай неабходнасці насельніцтва Мінскай губерні было вызвалена на 2 гады ад выплаты падаткаў, а з 1797 г. памер падаткаў зменшаны. Значнае развіццё ў канцы 18 ст. атрымалі мануфактуры, у т. л. у Мінскай губерні, з 1803 г. да 1810 г. колькасць буйных прадпрыемстваў вырасла з 7 да 17. У 1797 г. пачалося будаўніцтва Бярэзінскага канала, які злучыў басейны Дняпра і Заходняй Дзвіны. Прыкметна раслі гарады, за 5 гадоў (1796—1800 гг.) насельніцтва Мінска павялічылася з 5790 да 7140 чалавек.

Пасля ўз'яднання з Расіяй адбыліся значныя змены ў культурным жыцці Беларусі. Руская перадавая дэмакратычная культура, наперакор рэакцыйным мэтам царызму, дабратворна ўплывала на развіццё беларускай культуры. Расла цікавасць насельніцтва да дасягненняў навукі, грамадска-палітычнага жыцця. Сістэма школьнага навучання паводле пашыранага і на Міншчыне

Статута 1786 г. адкрыла доступ да свецкай адукацыі на рускай мове ўсім слаям гарадскога насельніцтва. У школах Мінскай губерні дзеці мяшчан, купецтва і разначынцаў складалі больш як 20 % агульнай колькасці навучэнцаў. Школы, створаныя на Беларусі польскай Адукацыйнай камісіяй, былі рэарганізаваны: завезены новыя, найлепшыя для таго часу падручнікі, выкладчыкі-ксяндзы заменены свецкімі настаўнікамі.


*Герб Мінскай губерні (1878 г.).*

Шмат памятных месцаў на Міншчыне звязана з бітвамі рускай арміі супраць войск Напалеона I у Айчынную вайну 1812 г. Казакі генерала М. І. Платава, прыкрываючы адступленне арміі П. І. Баграціёна, вялі жорсткія баі з ворагам, 2 ліпеня каля мястэчка Раманава (цяпер в. Леніна Слуцкага р-на) разбілі 2 кавалерыйскія палкі. Іх намаганнямі сарваны намер маршала Л. Даву адрэзаць шлях адступлення 2-й рускай арміі і разбіць яе каля Мінска. Жыхары Міншчыны аказвалі ўпартае супраціўленне ворагу, адмаўляліся нарыхтоўваць харчы і фураж. У радзе месцаў дзейнічалі партызанскія атрады. Найбольш актыўнымі былі атрады партызан з вёсак Трасцянка Ігуменскага, Стараселле, Мажаны, Есьманы і Кляўкі Барысаўскага паветаў. Пры адступленні напалеонаўскіх войск у час пераправы цераз Бярэзіну каля в. Студзёнка Барысаўскага павета 14—17.11.1812 г. французы страцілі больш за 20 тыс. салдат і афіцэраў; значная бітва адбылася каля Койданава. Апошні атрад напалеонаўскай арміі быў разбіты 22 лістапада каля Маладзечна. Вайна прычыніла велізарныя страты. Насельніцтва Мінскай губерні зменшылася на 50 тыс. чалавек. Прыйшла ў заняпад гаспадарка.

Міншчына звязана з дзейнасцю дзекабрыстаў. У 1821—22 гг. у Мінску жыў кіраўнік Паўночнага таварыства дзекабрыстаў М. М. Мураўёў. Тут ён напісаў свой першы праект канстытуцыі будучай рускай дзяржавы. У Выганічах каля Ракава, а потым у Мінску ў 1821 г. жыў А. А. Бястужаў-Марлінскі, які сябраваў з мясцовым жыхаром Вайцэвічам і ў 1824 г. прыслаў яму ў знак дружбы альманах «Полярная звезда», што выдаваў разам з К. Ф. Рылеевым.

Крызіс феадальна-прыгонніцкай сістэмы ў Расіі прывёў у сярэдзіне 19 ст. да заняпаду сельскай гаспадаркі, рэзкага абвастрэння класавай барацьбы ў вёсцы. За 1858—60 гг. на Беларусі зарэгістравана 42 сялянскія выступленні, 11 з якіх, у т. л. у маёнтках Нясвіж Мінскага і Грэск Слуцкага паветаў, задушаны ўзброенай сілай. Хваляванні сялян у 1858—60 гг. у Слуцкім павеце прыцягнулі ўвагу А. І. Герцэна і асвятляліся на старонках часопіса «Колокол» (№ 64 і 76 за 1860 г.). Рэвалюцыйная сітуацыя, якая склалася ў канцы 1850 — пачатку 1860-х гг., прымусіла царызм адмяніць прыгоннае права. Сялянская рэформа 1861 г. праводзілася на Міншчыне на падставе палажэнняў агульнага і спецыяльнага для Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай і Мінскай губерняў. У выніку рэформы памешчыкам асталіся лепшыя землі. Выкупная цана зямлі была вельмі высокай. У Мінскай губерні яна складала больш як 31 руб. за дзесяціну (рыначная цана 7,5 руб.). Грабежніцкая рэформа выклікала новы выбух сялянскага руху.

У час нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863—64 гг. Мінскую губернскую рэвалюцыйную арганізацыю ўзначальваў вядомы беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат, ураджэнец Барысава А. Д. Трусаў; губернскім паўстанцкім камісарам быў ураджэнец в. Багушэвічы Бярэзінскага р-на Б. Ч. Свентаржэцкі. На тэрыторыі губерні дзейнічаў 21 паўстанцкі атрад. Створанымі ў Барысаўскім, Ігуменскім, Мінскім і Слуцкім паветах атрадамі камандавалі П. Дыбоўскі, С. Ляскоўскі, У. Машэўскі, А. Трусаў і інш. Адзін з найбольшых і баявых атрадаў, якім камандаваў Свентаржэцкі, налічваў 400 чалавек. Адбыліся жорсткія сутычкі паўстанцаў з царскімі войскамі. Хаця паўстанне было задушана, яно спрыяла абуджэнню нацыянальнай свядомасці беларускага народа.

Адмена прыгону садзейнічала хуткаму развіццю капіталізму ў сельскай гаспадарцы. У канцы 1880-х гадоў У. І. Ленін адносіў заходнія беларускія губерні, у т. л. Мінскую, да губерняў з перавагай капіталістычнай сістэмы памешчыцкай гаспадаркі. Тут шырока выкарыстоўвалася наёмная рабочая сіла — батракі; сельская гаспадарка інтэнсіўна ўцягвалася ў рыначныя сувязі. Расла маёмасная няроўнасць і класавая дыферэнцыяцыя сялянства. У канцы 1890-х гадоў сельская буржуазія (кулакі) складала 8—10 %, бедната — 60, сярэдняя праслойка — каля 32 % сельскага насельніцтва. У парэформенны перыяд паскорылася развіццё прамысловасці, транспарту, гандлю. У 1854—81 гг. у Барысаўскім павеце дзейнічаў адзін з буйных у Расіі Барысаўшчынскі (або Чарняўскі) металургічны завод. З мясцовай балотнай руды тут выраблялі чыгун, жалеза, паравыя машыны. У 1867 г. на заводзе працавала 437 чалавек, выплаўлена 120 тыс. пудоў чыгуну. На Усерасійскай выстаўцы ў 1870 г. атрымаў бронзавы медаль. У Мінску заснаваны машынабудаўнічыя заводы

Кашарскі (1881 г.), Вакзальны (1895 г.), «Тэхналаг» (1897 г.), у Барысаве запалкавая фабрыка «Вікторыя» і шклозавод (1885 г.), у Койданаве запалкавая фабрыка «Дружына» (1899 г.). У пачатку 20 ст. сталі дзейнічаць лесапільна-бандарны завод у маёнтку Дзяніскавічы Слуцкага павета, лесапільна-фанерны завод, запалкавая фабрыка «Бярэзіна» і кардонна-папяровая «Папірус» у Барысаве, шклозавод, машынабудаўнічы і кацельны, гарбарны заводы ў Мінску і іншыя. Валавая прадукцыя прамысловасці Мінскай губерні з 1860 г. да 1900 г. узрасла ў 7,9 раза пры агульным росце па Беларусі ў 6,8 раза і складала 32,3 %. Асноўнымі галінамі з'яўляліся харчова-смакавая і дрэваапрацоўчая прамысловасць. Па аб'ёму вытворчасці першае месца займала вінакурства. У 1889 г. 120 вінакурных заводаў далі 80,6 % агульнай колькасці прамысловай прадукцыі губерні. За 1864—1900 гг. тут адкрыты 73 лесапільныя заводы, якія давалі 72 % валавой прадукцыі заводскай лесапільнай прамысловасці Беларусі. Самым буйным быў завод у маёнтку Старое Сяло Мінскага павета, дзе працавала 135 чалавек. У 1900 г. у губерні выраблена 67 % лесапільна-фанернай, 81 % запалкавай прадукцыі, лесанарыхтоўкі склалі 36 % ад агульнай колькасці па Беларусі. Раслі тэхнічная аснашчанасць і энергазабеспячэнне фабрык і заводаў: у 1893 г. на іх дзейнічала 106 паравых рухавікоў магутнасцю 1534 конскія сілы. Развіццё прамысловасці ў значнай меры стрымлівалася перыядычнымі эканамічнымі крызісамі.

Станаўленне капіталізму патрабавала будаўніцтва шляхоў зносін. Важнае значэнне ў эканамічных сувязях Міншчыны мелі пабудаваныя ў 1-й палове 19 ст. тракты Смаленск — Орша — Мінск — Брэст, Вільня — Мінск — Бабруйск — Рагачоў, Маскоўска-Варшаўская шашэйная дарога, што праходзіла праз Слуцк. У канцы 19 ст. у губерні было каля 300 вёрст шашэйных і 5655 вёрст грунтавых дарог. Воднымі шляхамі спрадвеку служылі Нёман і Бярэзіна. Некаторы час для сплаву лесу выкарыстоўвалася Бярэзінская водная сістэма, пабудаваная ў 1797—1805 гг. У 2-й палове 19 ст. па тэрыторыі Міншчыны пракладзены 2 чыгункі — Маскоўска-Брэсцкая (пабудавана ў 1869—78 гг.) і Лібава-Роменская (1871—74 гг.), якія звязалі яе з Расіяй, Украінай, Прыбалтыкай, Заходняй Еўропай.

Рост таварнасці сельскай гаспадаркі, уздым прамысловасці і транспарту актывізавалі знешні і ўнутраны гандаль. На экспарт з Міншчыны вывозілі збожжа, сала, лес, ільновалакно. На ўнутраным рынку, асабліва ў гарадах і мястэчках, пашырыўся магазінны і крамны гандаль. У канцы стагоддзя ён сканцэнтраваў 95 % унутранага таваравабароту гарадоў. З 1879 г. да 1896 г. колькасць магазінаў і крам у губерні павялічылася з 4656 да 15 837. Роля кірмашоў зменшылася. У эканоміцы ўсё большае значэнне набывала банкаўска-крэдытная сістэма. Заснаваны ў 1873 г. Мінскі камерцыйны банк у 1897 г. меў аддзяленні ў 11 гарадах. У апошняй трэці 19 ст. у Мінску адкрыты аддзяленні Расійскага дзяржаўнага, Азова-Данскога камерцыйнага, Пецярбургска-Азоўскага і Сялянскага пазямельнага банкаў.

Адначасова з развіццём капіталізму фарміраваўся пралетарыят, адбывалася яго канцэнтрацыя. У 1865 г. на прамысловых прадпрыемствах губерні працавала каля 1 тыс., у 1890 г.— 3,1 тыс., у 1907 г.— 9,4 тыс. чалавек. У канцы 19 ст. з 613 прадпрыемстваў Міншчыны на 37 працавала больш як па 100 рабочых. Кадры прамысловых рабочых складаліся пераважна са збяднелых сялян, рамеснікаў, мяшчан, з членаў сем'яў рабочых — жанчын і дзяцей. Становішча рабочых было цяжкім. Рабочы дзень да канца 19 ст. не быў абмежаваным. Мізэрная заработная плата яшчэ больш зніжалася шматлікімі штрафамі, якія накладалі не толькі на дарослых, але і на дзяцей. Памяшканні прадпрыемстваў былі цесныя, сырыя і брудныя, адсутнічала тэхніка бяспекі, медыцынская дапамога. Сем'і рабочых жылі ў трушчобах і падвалах.

За 1858—97 гг. агульная колькасць жыхароў губерні павялічылася амаль на 46 %, гарадскога насельніцтва — на 40 %. Найбольш хутка рос Мінск, які быў на скрыжаванні чыгунак; да канца 19 ст. стаў самым буйным гандлёва-прамысловым і эканамічным цэнтрам Беларусі. У 1897 г. у Мінску жыло 90,9, Барысаве — больш за 15, Слуцку — 14,3, Нясвіжы — каля 8,5, Ігумене — 4,6, Вілейцы — 3,6, Радашковічах — 2,2 тыс. чалавек.

З уступленнем у канцы 19 — пачатку 20 ст. у стадыю імперыялізму ў эканоміцы Беларусі, у т. л. Міншчыны, адбывалася канцэнтрацыя вытворчасці і капіталу, утварэнне фінансавага капіталу, высокая канцэнтрацыя зямельнай уласнасці ў руках невялікай групы буйных памешчыкаў і разарэнне асноўнай масы сялянства, рэзкае ўзмацненне эксплуатацыі і пагаршэнне жыцця працоўных, асабліва ў перыяд крызісаў. У Мінску ў 1905 г. утварылася аб'яднанне фабрыкантаў запалкавай вытворчасці — так званы Заходні камі-



*Слабодка ў Барысаве. Пачатак 20 стагоддзя.*

тэт пры Мінскім аддзяленні Паўночнага банка, які ўзяў у свае рукі збыт прадукцыі па манапольных цэнах, а ў 1907 г. стаў адным з заснавальнікаў Усерасійскага акцыянернага таварыства фабрыкантаў запалкавай галіны дрэваапрацоўчай прамысловасці «РОСТ». У цэнтралізацыі капіталаў значную ролю адыгралі таварыствы. Найбуйнейшыя з іх — мінскія машынабудаўнічых заводаў Якабсона, Ліўшыца, завода і тэхнічнай канторы «Тэхнолаг», піваварнае «Багемія» Лекертаў.

Пачалося пранікненне ў мясцовую эканоміку рускага і замежнага капіталу. Акцыянернае таварыства па вырабу крухмалу «Прасвет» адкрыла ў Мінску крухмальны завод, таварыства «Шаўрахром» — абутковыя фабрыкі «Скараход» і «Праца», таварыства гарадскіх і прыгарадных дарог у Расіі пабудавала конку ў Мінску. Руска-амерыканскае таварыства механічнай вытворчасці абутку «Арол» заснавала тут у 1910 г. буйную аднайменную фабрыку; французскае таварыства «Турн'е і К°» адкрыла ў 1913 г. фабрыку жаночых грабянёў (180 рабочых). Нямецкія і аўстрыйскія лесапрамыслоўцы пабудавалі на станцыі Калодзішчы лесапільна-фанерны завод, на якім апрацоўвалася драўніна, закупленая на корані ў Ігуменскім і Мінскім паветах.

У Мінскай губерні было самае вялікае на Беларусі буйнапамеснае землеўладанне. Маёнткам, што мелі больш за 500 дзесяцін, належала 52 % усёй зямлі. На 1 сялянскі двор прыходзілася ў сярэднім каля 10 дзесяцін няўдобіцы. Перапляценне рэштак прыгонніцтва з капіталізмам стварала варварскія формы эксплуатацыі працоўнага сялянства, вяло да ўзмацнення класавай барацьбы ў вёсцы. За 1864—1900 гг. у губерні адбылося 160 сялянскіх выступленняў, найбольш у Слуцкім (33) і Барысаўскім (17) паветах.

Міншчына з'яўлялася цэнтрам народніцкага руху на Беларусі. Народніцкія гурткі былі ў Мінску (некалькі), Блоні, Нясвіжы, Слуцку; дзейнічалі друкарня «Чорнага перадзелу», пашпартнае бюро, якое забяспечвала дакументамі многіх прафесіянальных рэвалюцыянераў. Імёны народнікаў — ураджэнцаў Міншчыны Г. П. Корбы-Прыбылёвай (член выканкома «Народнай волі»), А. Я. Багдановіча, М. Л. Велера, А. Я. Гараднічага, І. О. Младзецкага і іншых увайшлі ў гісторыю рэвалюцыйнага руху. Сярод арыштаваных 469 народнікаў — выхадцаў з Беларусі 144 былі з Мінскай губерні.

Шырыўся рабочы рух, на пачатку ён насіў эканамічны характар. З 1880-х гадоў на Міншчыне, як і на ўсёй Беларусі, пачалося распаўсюджанне марксізма. Першыя рабочыя гурткі марксісцкага кірунку ў Мінску створаны Э. Абрамовічам і С. С. Трусевічам (К. Залеўскім). У сярэдзіне 1890-х гадоў у Мінску ўзніклі 2 сацыял-дэмакратычныя арганізацыі, якія вялі масавую палітычную агітацыю сярод рабочых. Восенню 1899 г. сацыял-дэмакратычны гурток створаны ў Койданаве Мінскага павета. Арганізацыі і гурткі ўзніклі ў Беразіно, Барысаве, Валожыне, Капылі, Нясвіжы, Свіры, Смалявічах, Смілавічах. У выніку іх дзейнасці рабочы рух узмацніўся, стаў больш арганізаваным. У 1895 г. тройчы баставалі рабочыя майстэрняў Маскоўска-Брэсцкай чыгункі ў Мінску, запалкавай фабрыкі «Вікторыя» ў Барысаве. Усяго за 1895—1900 гг. адбылося ў Барысаве 2, у Койданаве 6 эканамічных стачак.

Сусветна-гістарычнай падзеяй стаў I з'езд РСДРП [1—3(13—15).3.1898 г.], што адбыўся ў Мінску і паклаў пачатак арганізацыйнаму афармленню марксісцкай партыі расійскага пралетарыяту. З яго дэлегаты: Н. А. Вігдорчык, К. А. Петрусевіч і А. Мутнік — ураджэнцы Міншчыны. Важ-



*Нясвіж. Гандлёвая плошча. Фота пачатку 20 ст.*



*Мінск. Дом-музей I з'езда РСДРП.*

ную ролю ў выхаванні класавай свядомасці пралетарыяту, барацьбе з нацыяналізмам і сепаратызмам «Бунда» адыграла ленінская «Искра», якая на Міншчыне мела сваіх карэспандэнтаў. Значны ўклад у развіццё рэвалюцыйнага руху на Міншчыне ўнеслі ўраджэнец хутара Дзяржынава Стаўбцоўскага р-на выдатны рэвалюцыянер Ф. Э. Дзяржынскі, прапагандысты марксізму С. К. Мяржынскі, П. В. Румянцаў і інш.

У 1903—05 гг. утвораны Барысаўская, Валожынская, Вілейская, Даўгінаўская, Капыльская, Лебедзеўская, Мінская і Слуцкая арганізацыі РСДРП, якія ўваходзілі ў Паўночна-Заходні камітэт, пазней саюз РСДРП, Абласны саюз РСДРП Літвы і Беларусі. Яны ўзначальвалі выступленні працоўных напярэдадні і ў перыяд Рэвалюцыі 1905—07 гг. Для кіраўніцтва барацьбой сялян і салдат былі створаны Мінская акруговая сялянская арганізацыя пры РСДРП і Мінская ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя РСДРП. За 1901—04 гг. стачкі, дэманстрацыі, маніфестацыі адбыліся: у Мінску (116), Барысаве (60), Вілейцы і Слуцку (па 5), Беразіно, Койданаве, Маладзечна (па 2), Валожыне, Ігумене, Нясвіжы, Свіры і Смалявічах (па 1). З 196 выступленняў — 151 палітычнага характару. За гэты час у Мінскай губерні адбылося 29 выступленняў сялян.

Пытанні ўнутрыпартыйнага жыцця і рэвалюцыйнага руху разглядалі I і II з'езды Паўночна-Заходняга камітэта (саюза) РСДРП, I абласная канферэнцыя арганізацый РСДРП Паўночна-Заходняга раёна, якія праходзілі ў 1905 г. на Міншчыне. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. амаль ва ўсіх гарадах, у многіх мястэчках і вёсках пад кіраўніцтвам бальшавікоў адбыліся масавыя выступленні працоўных, мелі месца сутычкі з паліцыяй і войскамі. Кастрычніцкую Усерасійскую палітычную стачку падтрымалі працоўныя Барысава, Ігумена, Капыля, Клецка, Мар'інай Горкі, Мінска, Слуцка, Смалявіч, Стоўбцаў. Бальшавікі Міншчыны дзейна рыхтаваліся да Снежаньскага ўзброенага паўстання: ствapaлі баявыя дружыны, узбройвалі рабочых. Але 9 снежня ўрад аб'явіў губерню на становішчы ўзмоцненай аховы. Многія бальшавікі, кіраўнікі рэвалюцыйных выступленняў былі кінуты ў турмы, выступленні ў Мінску і Вілейцы задушаны.

Пад уплывам рабочага руху і бальшавіцкай агітацыі на тэрыторыі вобласці за 1905—07 гг. адбылося каля 280 выступленняў сялян, з іх 92 у Слуцкім павеце, дзе палітычную агітацыю вёў прафесійны рэвалюцыянер, член камітэта акруговай сялянскай арганізацыі Ф. В. Сімончык. Пашыраныя формы сялянскага руху — высечка памешчыцкага лесу, захоп зямель, падпал сядзіб, адмова ад выканання павіннасцей, забастоўкі батракоў, антыўрадавыя сходкі, мітынгі, прыгаворы; адбываліся сутычкі з паліцыяй. 17.12.1905 г. больш як 1000 сялян у Даўгінаве (каля Вілейкі) каламі разагналі паліцыю, абяззброілі яе, збілі павятовага спраўніка, сарвалі шыльды з царскімі арламі з казённых устаноў. На мітынгу, які тут адбыўся, сяляне спявалі рэвалюцыйныя песні.

Да рэвалюцыі далучыліся дэмакратычная інтэлігенцыя, у т. л. члены мінскіх таварыстваў аматараў мастацтваў і ўрачоў, школьная моладзь. Пры Мінскай арганізацыі РСДРП у 1904—07 гг. існавала вучнёўская арганізацыя (150 чалавек). Яе члены чыталі рэфераты па марксізму, удзельнічалі ў забастоўках, вялі прапагандысцкую работу. У Слуцку навучэнцы гімназіі правялі забастоўку, патрабавалі дэмакратызацыі сістэмы асветы, устанаўлення палітычных свабод. У ліпені 1906 г. у в. Мікалаеўшчына, на радзіме Я. Коласа, адбыўся нелегальны з'езд настаўнікаў Мінскай губерні, які выказаўся за неабходнасць удзелу настаўніцтва ў вызваленчай барацьбе народа. Мелі месца рэвалюцыйныя выступленні салдат і навабранцаў.

Пасля паражэння Рэвалюцыі 1905—07 гг. пачалося наступленне рэакцыі. Толькі ў Мінскай губерні ў кастрычніку 1907 г. у баявой гатоўнасці знаходзіліся 4 палкі пяхоты, 2 артылерыйскія брыгады і 6 спецыяльных рот. За 1908 г. праз Мінскую турму прайшло больш за 24 тыс. вязняў. Становішча працоўных значна пагоршылася. Рабочых, што ўдзельнічалі ў рэвалюцыі, звальнялі. Былі забаронены прафсаюзы (у т. л. у Мінску 11), дэмакратычныя і асветніцкія арганізацыі. Сталыпінская аграрная рэформа яшчэ больш ускладніла становішча сялян, абвастрыла класавыя супярэчнасці ў вёсцы. Бальшавікі Міншчыны ў цяжкіх умовах пачалі аднаўляць разгромленыя арганізацыі. У канцы снежня 1907 г. зноў стала працаваць Мінская арганізацыя РСДРП, якая пашырыла дзейнасць на Барысаўскі, Слуцкі і іншыя паветы. Да канца 1908 г. дзейнічалі арганізацыі РСДРП у Барысаве, Мінская акруговая сялянская, не спыняла работы добра закансپіраваная Капыльская арганізацыя РСДРП. Яны стваралі нелегальныя прафсаюзы, вялі палітычную работу, збіралі срод-

 кі для партыі. У Мінску быў склад падпольнай літаратуры, у Барысаве, Капылі, Слуцку паліцыяй пры вобыску знойдзены творы У. І. Леніна, К. Маркса, Ф. Энгельса. Буйныя стачкі адбыліся ў канцы 1907 г. і летам 1910 г. на запалкавых фабрыках «Вікторыя» і «Бярэзіна» ў Барысаве, на лесапільным заводзе ў маёнтку Тарасава Мінскага павета. У 1912—14 гг. неаднойчы баставалі рабочыя Барысава, Мінска, Смалявіч.

Абвастрэнне класавых супярэчнасцей, уздым рабочага руху і палітычная агітацыя бальшавікоў рэвалюцыянізавалі вёску. У 1910 г.— 1-й палове 1914 г. у Мінскай губерні адбылося 338 сялянскіх выступленняў. Працягвалася барацьба сялянства за сервітуты. Летам 1908 г. сяляне Івянецкай, Пяршайскай і Станькаўскай валасцей Мінскага павета, нягледзячы на штрафы і арышты, пасвілі жывёлу, рабілі патравы на землях Радзівіла. Сяляне вёскі Гарэліца Ігуменскага павета ў 1909 г. спалілі нарыхтаваны лесаматэрыял у маёнтку Ліпск. У 1913 г. сяляне Мінскага павета зрабілі 17 падпалаў маёмасці памешчыка Тышкевіча; у 1914 г. 400 жыхароў вёскі Ракашычы з каламі выступілі супраць паліцыі, якая ахоўвала землі графа Патоцкага.

У 1-ю сусветную вайну Міншчына стала арэнай баявых дзеянняў. Кровапралітныя баі адбыліся ў 1915 г. каля Маладзечна і Вілейкі ў час ліквідацыі свянцянскага прарыву нямецкіх войск і ў 1916 г. у ходзе нарачанскай аперацыі. Гаспадарка прыйшла ў стан поўнай разрухі. Многія прадпрыемствы ў 1915 г. былі эвакуіраваны ў глыб Расіі. Працавалі толькі майстэрні, якія выконвалі ваенныя заказы. Мабілізацыя ў армію, прымусовыя работы прывялі да таго, што сельская гаспадарка асталася без работнікаў і без коней. У выніку шматлікіх рэквізіцый пагалоўе буйной рагатай жывёлы за 1915—17 гг. скарацілася па 7 паветах на 1/4, а колькасць бескароўных гаспадарак па 5 паветах павялічылася ў 3,7 раза. Вайна ўзмацніла нястачу і галечу народа, паказала гніласць царызму.

Ва ўмовах ваенна-паліцэйскага тэрору арганізацыі РСДРП на Міншчыне былі разгромлены. Уцалелыя ад арыштаў бальшавікі, рэвалюцыйныя рабочыя з прамысловых цэнтраў, што былі мабілізаваны ў армію ці на ваенізаваныя прадпрыемствы, працягвалі палітычную работу ў масах. На пачатак 1916 г. створаны 3 арганізацыі РСДРП у Мінску, па 1 у Капылі і Нясвіжы. На Міншчыне дзейнічалі бальшавікі І. Я. Алібегаў, Р. І. Берзін, В. Г. Кнорын, І. К. Ксенафонтаў, К. І. Ландар, І. Я. Любімаў, А. Ф. Мяснікоў, М. В. Фрунзе. У Мінску пра перамогу Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Петраградзе стала вядома 1(14).3.1917 г. Рабочыя пад кіраўніцтвам бальшавікоў правялі дэманстрацыі, раззброілі паліцыю і жандараў, вызвалілі палітвязняў. У пачатку сакавіка была ліквідавана царская адміністрацыя, створаны Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў у Мінску, Барысаве, Слуцку і інш. З сакавіка 1917 г. Міншчына ўваходзіла ў Заходнюю вобл., з верасня 1918 г.— у Заходнюю камуну.

Летам і восенню 1917 г. аднаўлены Барысаўская, Замір'еўская, Івянецкая, Койданаўская, Маладзечанская, Мінская, Нясвіжская і Слуцкая бальшавіцкія арганізацыі, якія былі аб'яднаны ў Паўночна-Заходнюю абласную арганізацыю РСДРП(б), створаную на І Паўночна-Заходняй абласной партыйнай канферэнцыі, што адбылася ў Мінску 15—18.9(28.9—1.10). 1917 г. Мінскі Савет, дзе была моцная бальшавіцкая фракцыя, стаў рэвалюцыйным цэнтрам у Беларусі і на Заходнім фронце. Для абароны заваёў рэвалюцыі бальшавікі стварылі на тэрыторыі вобласці каля 25 атрадаў Чырвонай гвардыі. Чырвонагвардзейскія атрады— зводны (каля 800 чалавек), а таксама з сялян вёскі Кайкава Мінскага павета і салдат (500 чалавек) раззброілі пад Мінскам некалькі эшалонаў карнілаўскіх войск, што ішлі на задушэнне рэвалюцыі ў Петраградзе і Маскве.

II надзвычайная Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РСДРП(б), якая непасрэдна разглядала пытанні падрыхтоўкі сацыялістычнай рэвалюцыі, адбылася 5—7(18—20).10.1917 г. у Мінску. Яна абавязала партарганізацыі ўзмацніць палітычную работу ў масах, згуртаваць іх вакол Саветаў, што павінны былі стаць органамі ўзброенага паўстання супраць буржуазнага Часовага ўрада, за перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі.

* * *

Архітэктура і выяўленчае мастацтва Міншчыны 9—13 стагоддзяў звязана з узнікненнем і развіццём гарадоў, якія станавіліся эканамічнымі, адміністрацыйна-палітычнымі, ваенна-абарончымі і культурнымі цэнтрамі. Горадафарміруючай асновай найчасцей былі княжацкія крэпасці ці феадальныя замкі. У іх планіроўцы ўвасабляліся прынцыпы старажытнарускага горадабудаўніцтва. Размешчаныя пераважна пры зліцці рэк, гарады мелі сваім цэнтрам умацаваны дзядзінец, да якога прымыкалі гандлёва-рамесныя пасады (Мінск, Клецк, Барысаў, Заслаўе). Дзядзінец ахоўваўся натуральнымі перашкодамі (рэкі, узгоркі, балоты) і штучнымі фартыфікацыйнымі збудаваннямі (Лагойск, Маладзечна). Вядучае становішча ў жыцці горада ў перыяд сярэдневякоўя займала плошча, забудаваная гандлёвымі радамі, культавымі збудаваннямі. Феадальныя гарады мелі ярка выражаныя класавыя адзнакі. Найбольш умацаваную, добраўпарадкаваную частку горада засялялі заможныя гараджане, пасады — рамеснікі, гандляры. Кампазіцыя і архітэктура асноўных гарадскіх пабудоў вызначаліся меркаваннямі абароны і фартыфікацыйнай мэтазгоднасці. Развіццё гарадоў адбывалася за кошт рамесных пасадаў, што вызначала перавагу радыяльна-кальцавой планіроўкі. Галоўныя вуліцы дзядзінцаў і пасадаў з'яўляліся працягам асноўных гандлёвых шляхоў, з развіц-

цём якіх звязана будаўніцтва манументальных уязных брам (Слуцкая брама ў Нясвіжы).

Асноўнае звяно забудовы — гарадская сядзіба — размяшчалася ўздоўж вуліцы, утвараючы замкнёны двор з жылымі і гаспадарчымі пабудовамі, абгароджанымі частаколам, парканам. З цягам часу тыпалогія будаўніцтва значна пашырылася, з'явіліся княжацкія палацы, цэрквы, кляштары.

Станаўленне архітэктуры 14—1-й паловы 17 ст. адбывалася ў плыні фарміравання беларускай народнасці ў традыцыях старажытнарускага дойлідства і ў цеснай сувязі з заходнееўрапейскім мастацтвам. Наглядаецца далейшы рост гарадскіх пасяленняў і іх насельніцтва, пашыраецца сетка ўмацаванняў. У Слуцку, Нясвіжы, Мядзелі не толькі феадальны замак, але і тэрыторыя самога горада была абкружана ровам і валам, умацавана бастыёнамі, равелінамі, мураванымі брамамі з пад'ёмнымі мастамі. Асаблівасцю горадабудаўніцтва гэтага часу з'яўлялася фарміраванне новай планіровачнай структуры з 2 кампазіцыйнымі цэнтрамі — замкам і гандлёвай плошчай з ратушай (Барысаў, Нясвіж, Клецк, Лагойск). Развіццё гандлю абумовіла вялікую ролю ў забудове гарадскіх цэнтраў заезных двароў і корчмаў, аўстэрый. Планіровачная структура гарадоў набывае радыяльную схему, пры якой амаль усе вуліцы вялі да гандлёвай плошчы і з'яўляліся працягам асноўных знешніх шляхоў зносін (Клецк, Маладзечна, Барысаў). Аб характары сярэдневяковага гарадскога сілуэта даюць уяўленне тагачасныя гравюры Клецка і Нясвіжа. У забудове дамінавалі вежы манументальных культавых будынкаў, ратуш, замкаў. Вакол іх шчыльна групавалася жылая драўляная забудова, дамы рамеснікаў.

У замкавым будаўніцтве канца 16 — 1-й паловы 17 ст. шырока асвойваліся дасягненні еўрапейскага (італьянскага і нідэрландскага) фартыфікацыйнага мастацтва — умацаванні бастыённага тыпу (Барысаў, Заслаўе, Нясвіж). Першым на Беларусі замкам бастыённага тыпу быў Заслаўскі. У залежнасці ад мясцовасці замкі ўзводзіліся на ўзвышшах ці ў нізінах. Так, Клецкі, Заслаўскі, Лагойскі замкі былі размешчаны на ўзгорках, абмежаваны рэчкамі, Барысаўскі, Нясвіжскі — у нізінах. Прыкладам моцнай фартыфікацыі з'яўляўся Радашковіцкі замак, узведзены на насыпным ўзгорку, абкружаным сажалкамі, равамі, цераз якія быў перакінуты пад'ёмны мост. Мураваны Мядзельскі каралеўскі замак быў пастаўлены на востраве воз. Мястра. Фартыфікацыйная сістэма спалучала тут дасягненні заходнееўрапейскага і мясцовага абарончага дойлідства. Свае рэзідэнцыі феадалы прыстасоўвалі не толькі да мэт абароны, але і для вырашэння задач прадстаўніцтва, таму княжацкія палацы будаваліся з развітай сеткай парадных памяшканняў (Барысаў, Нясвіж).

Элементы абарончага дойлідства былі ўласцівы і манументальным культавым будынкам-цытадэлям, што сведчыць пра ўзаемаўплыў і мастацкую блізкасць замкавага і культавага дойлідства таго часу. У 16 ст. будаваліся храмы і кляштары шэрагу каталіцкіх ордэнаў. Для іх архітэктуры характэрны рысы готыкі (кальвінскі збор у в. Дзераўная Стаўбцоўскага р-на) і рэнесансу (кальвінскі збор у Заслаўі). Будынкі гэтага тыпу мелі строгую рацыянальную і лагічную па кампазіцыі аб'ёмна-планіровачную структуру.

Характэрныя рысы беларускага рэнесансу ўвасобіліся пераважна ў мураваным культавым будаўніцтве. Культавыя будынкі гэтага часу мелі і абарончае прызначэнне. Ім уласцівы лаканізм простых геаметрычных аб'ёмаў, ураўнаважанасць кампазіцыі, масіўнасць сцен і вежаў, разнастайнасць нішаў, строгая і рытмічная дэкаратыўная аркатура. Будаўнічая практыка ўзбагачалася новымі канструкцыйнымі прыёмамі — стральчатая арка, нервюрнае скляпенне, контрфорсы, каркасная структура збудавання. Тоўшча сцен дазваляла ўбудоўваць у іх унутраныя вітыя лесвіцы (кальвінскі збор у в. Новы Свержань Стаўбцоўскага р-на). Кляштары звычайна ставілі ў гарадах на перакрыжаванні вуліц. Яны былі дадатковымі абарончымі фарпостамі (кляштар базыльян у Мінску, не захаваўся), мелі ўнутраныя замкнёныя двары, абкружаныя пабудовамі (в. Засвір Мядзельскага р-на) ці мураванай агароджай. Выдатныя помнікі беларускага рэнесансу 16 ст.— Спаса-Праабражэнская царква ў Заслаўі і абарончая вежа ў Нясвіжы. Выразнасцю і стрыманасцю вызначалася дэкаратыўная апрацоўка рэнесансавага інтэр'ера. Скляпенні храмаў аздабляліся ляпным дэкорам у выглядзе паліганальных і крывалінейных рам (в. Вішнева Валожынскага р-на). Талент беларускіх дойлідаў дазволіў абмежаванымі сродкамі мастацкай выразнасці стварыць выдатныя архітэктурныя творы.

На Міншчыне мастацтва рэнесансавай скульптуры 16 — пачатку 17 ст. прадстаўлена надмагіллямі сыноў М. К. Радзівіла Сіроткі ў Нясвіжскім касцёле езуітаў. Творы эпохі Адраджэння адметныя цэласнасцю кампазіцыі, яе архітэктанічнасцю, рэалістычнай дасканаласцю. У помніках выяўленчага мастацтва рэалізавана адно з важнейшых дасягненняў рэнесансу — дасканалая распрацоўка і мастацкае асэнсаванне тэорыі перспектывы. На прынцыпе сыходнай перспектывы створаны алтар касцёла ў в. Будслаў (Мядзельскі р-н). Мемарыяльны жанр скульптуры гэтага часу знаходзіўся пад уплывам італьянскага Адраджэння. Своеасаблівасцю з'яўлялася вынясенне твораў манументальнага жывапісу на галоўныя фасады (фрэскі царквы Святога духа ў Мінску, не зберагліся). Творам іканапісу ўласцівы раўнавага гарызантальных і вертыкальных элементаў, адносная прасторавасць кампазіцыйнай пабудовы, геаметрызм форм і светлы мажорны каларыт. Асаблівасці іканапісу гэтай эпохі ўвасобіліся ў абразе «Маці боская Бялыніцкая» (в. Сноў Нясвіжскага р-на). Яе галоўны персанаж надзелены элементамі псіхала-



*Нясвіж. Кляштар бенедыкцінак. З малюнка Н. Орды. 1876 г.*

гізму, індывідуальнасці, эмацыянальнасці, упэўненай самасвядомасці.

У 17 — 1-й палове 18 ст. фарміраваліся рэгулярныя гарадскія ансамблі з прамавугольнай сеткай вуліц і плошчаў, з буйнымі кварталамі (Мінск, Нясвіж, Слуцк). У цэнтры гарадоў, якія атрымалі магдэбургскае права, ставіліся манументальныя будынкі магістратаў — ратушы. Звычайна яны блакіраваліся з гандлёвымі радамі (Нясвіж) або знаходзіліся паблізу іх. Сярод забудовы гандлёвай плошчы вылучаліся дамы рамеснікаў (Нясвіж). Пасля падпісання Брэсцкай уніі 1596 г. на Беларусі амаль поўнасцю спынілася будаўніцтва праваслаўных цэркваў. Апорай феадалаў станавіліся шматлікія каталіцкія ордэны, якія ўзводзілі свае кляштары, касцёлы, школы, калегіумы. Кляштарнае будаўніцтва набыло значныя маштабы, культавыя комплексы станавіліся буйнейшымі элементамі гарадской забудовы (кляштары езуітаў у Мінску і бенедыкцінак у Нясвіжы).

Асноўным мастацкім кірункам у архітэктуры Міншчыны 2-й паловы 17 — 1-й паловы 18 ст. становіцца ўрачыстае і велічнае барока. Асабліва актыўна гэты стыль пашырыўся ў культавым і палаца-сядзібным будаўніцтве. Першыя пабудовы ранняга барока паявіліся ў канцы 16 — пачатку 17 ст. Раннебарочныя кляштары і касцёлы захоўвалі замкнёнасць ансамблевай кампазіцыі вакол унутранага двара (касцёл і кляштар бенедыкцінак у Нясвіжы, 1590—95 гг., касцёл і кляштар бернардзінцаў у Мінску, 1628 г.). Іх архітэктура яшчэ мела буйныя чляненні, масіўныя, але пластычныя формы. Уласцівыя манументальнай культавай архітэктуры барока рысы адлюстроўваліся і ў драўляных культавых будынках. На Міншчыне працавалі архітэктары Дж. Бернардоні (касцёл езуітаў і замак у Нясвіжы), А. Чаховіч (кляштар францысканцаў у Іванцы Валожынскага р-на) і інш.

Барочныя рысы набыла і жылая забудова цэнтраў гарадоў, сярод якой вылучаліся дамы рамеснікаў (Нясвіж). Для аб'ёмна-прасторавага і мастацка-дэкаратыўнага вырашэння будынкаў характэрны ўскладненне прасторавых кампазіцый, маляўнічасць, пластычнасць і дэкаратыўная насычанасць. Галоўныя фасады будынкаў фланкіраваліся яруснымі вежамі з фігурнымі завяршэннямі (Нясвіж), алькежамі, складанымі крывалінейнымі шчытамі (в. Вішнева і г. п. Івянец Валожынскага р-на).

Найбольш пашыраны былі базілікальныя двухвежавыя касцёлы (г. Заслаўе Мінскага р-на, г. п. Івянец Валожынскага р-на, в. Будслаў Мядзельскага р-на, в. Сноў Нясвіжскага р-на і інш.). Да тыпу аднанефавых аднавежавых храмаў належаць касцёлы вёсак Новы Свержань Стаўбцоўскага, Крывічы Мядзельскага р-наў, з 2 вежамі на галоўным фасадзе — касцёлы дамініканцаў у Клецку, у вёсках Вішнева Валожынскага, Засвір Мядзельскага, Беніца Маладзечанскага р-наў. Прасторавае развіццё, шматпланавасць набылі крыжовыя двухвежавыя барочныя касцёлы. Кампактным вырашэннем вызначаліся аднанефавыя бязвежавыя храмы. Рэдкі тып цэнтрычнага храма на Міншчыне — касцёл у Мядзелі, у архітэктуры якога выкарыстаны выразныя сродкі позняга барока. Асновай кампазіцыі барочных касцёлаў быў галоўны фасад, дзе пластычнасць дасягалася выкарыстаннем фігурнага франтона (Нясвіж, вёскі Вялікая Ліпа Нясвіжскага, Зембін Барысаўскага, Касцяневічы Вілейскага р-наў). Кляштарныя карпусы фарміраваліся вакол прамавугольных унутраных двароў і звычайна мелі галерэйную планіроўку з аднабаковым размяшчэннем келій (г. п. Івянец Валожынскага р-на). У канструкцыі раннебарочных храмаў, як і ў крапасным будаўніцтве, выкарыстоўвалася спалучэнне цаглянай мурoўкі з украпінамі буйнога бутавага каменю (в. Замосце Слуцкага р-на). У 17—18 стагоддзях замкі паступова ператвараліся ў палацава-паркавыя ансамблі сіметрычна-восевай кампазіцыі. Буйныя палацава-



*Заслаўскі фарны касцёл. Здымак пачатку 20 ст.*

паркавыя комплексы фарміраваліся вакол замкнёных унутраных двароў, адмяжоўваліся ад гарадской забудовы сценамі, жылымі і гаспадарчымі карпусамі (замак у Нясвіжы). У сярэдзіне 18 ст. адначасова з буйнымі палацавымі комплексамі будавалі сядзібы з мноствам арыгінальных архітэктурных твораў: павільёны, лабірынты, звярынцы, сялянскія хаткі, млыны і інш. (палацава-паркавы комплекс у прыгарадзе Нясвіжа Альба).

У аб'ёмна-прасторавым вырашэнні сядзібных дамоў і палацаў выкарыстоўваліся бакавыя алькежы (в. Дудзічы Пухавіцкага р-на), пластычныя мансардавыя дахі з заломамі (вёскі Краснае Маладзечанскага, Убель Чэрвеньскага р-наў). Цэнтр кампазіцыі барочнай сядзібы вылучаўся ўзнятым над плоскасцю фасада рызалітам прамавугольнай (в. Сёмкава Мінскага р-на) ці гранёнай формы. Яго акцэнтам звычайна быў балкон, насычаны лепкай франтон. У дэкоры фасадаў шырока выкарыстоўвалася геральдычная лепка. У дамах і палацах склалася анфіладная планіроўка. У дэкаратыўнай апрацоўцы інтэр'ераў барочных палацаў і сядзіб шырока выкарыстоўвалася шпалерная з арабескавым малюнкам абіўка сцен, ляпныя плафоны, наборны паркет.

У садова-паркавым мастацтве 17 — сярэдзіны 18 ст. быў пашыраны рэгулярны тып планіроўкі. Аснову паркаў складала прамавугольная сетка алей, сярод якіх вылучалася пад'язная алея з брамай (в. Сёмкава Мінскага р-на). Тэрыторыя шэрагу паркаў набыла дынамічную вертыкальную планіроўку з каскадам сіметрычна і паралельна аформленых тэрас. Тэрасны «італьянскі» сад быў створаны ў прыгарадзе Нясвіжа Альба. Геаметрычнай арганізацыі зялёных насаджэнняў адпавядала строга рэгулярная сістэма сажалак, вадаёмаў з астравамі, у некаторых парках ствараліся звярынцы.

У сярэдзіне 18 ст. шэраг касцёлаў пабудаваны ў стылі архітэктуры ракако (г. п. Івянец Валожынскага р-на). Ім уласціва імкненне да складаных прасторавых вырашэнняў: бакавым вежам надавалі шмат'ярусНасць, вертыкальную накіраванасць, крывалінейнасць граней. Фасадныя плоскасці касцёлаў набылі хвалістасць, прапарцыянальную адвольнасць, дынамічнасць, шматслойную крапоўку пілястрамі, калонамі, тонкапрафіляванымі карнізамі (в. Будслаў Мядзельскага р-на). Ракайльную трактоўку мелі і малыя архітэктурныя збудаванні [капліцы ў былой в. Ганута (цяпер в. Ручыца Вілейскага р-на)], якім былі характэрны ўвагнута-пукатыя плоскасці, купалы, тонкая прафіліроўка, C- і S-падобныя дэкаратыўныя завіткі. У інтэр'еры вылучаліся хоры з крывалінейнай увагнута-пукатай агароджай (Нясвіж, г. п. Івянец Валожынскага р-на). Алтары мелі надзвычайна багатую пластыку, скульптурную насычанасць і арнаментальную дэкарыроўку (вёскі Даўгінава Вілейскага і Вішнева Маладзечанскага р-наў).



*Сядзіба Убель (Чэрвеньскі раён). З малюнка Н. Орды. 2-я палова 19 ст.*

Важнай часткай архітэктурнай спадчыны вобласці з'яўляюцца помнікі драўлянага культавага дойлідства. Вялізныя лясныя масівы, шматвяковыя будаўнічыя традыцыі абумовілі развіццё народнага драўлянага дойлідства. Драўляныя сядзібы 16 — 1-й паловы 18 ст. звычайна мелі замкнёную планіроўку. Сядзібы 2-й паловы 17 ст. цалкам будавалі з дрэва ў традыцыях народнага дойлідства, з шматлікімі гаспадарчымі збудаваннямі (сядзібы ў вёсках Бранчыцы Салігорскага, Рудзіца Дзяржынскага р-наў, не зберагліся).

Выпрацаваныя стагоддзямі прыёмы і формы народнага драўлянага дойлідства шырока ўвасоблены ў культавых будынках (касцёл у в. Волма Дзяржынскага р-на, не збярогся). Міхайлаўская царква ў Слуцку — тып трохзрубнага храма з самастойнай трактоўкай асобных аб'ёмаў. Выразнасць яе кампазіцыі дасягнута за кошт дынамічнага сілуэта завяршальнай часткі, у вырашэнні якой выкарыстаны формы барока. Культавае драўлянае дойлідства зазнала ўплыў манументальнай



*Сядзіба Дудзічы (Пухавіцкі раён). З малюнка Ю. Пешкі. Пачатак 19 ст.*



*Сядзіба ў в. Ганута (Вілейскі раён). З акварэлі Н. Орды. 1875—77 гг.*

архітэктуры: узводзіліся ярусныя бакавыя вежы з фігурнымі шлемамі (Дзяржынск, вёскі Волма Дзяржынскага, Аборак Маладзечанскага р-наў), крывалінейныя шчыты ў завяршэнні фасадаў (касцёл Юзафа ў Валожыне, 1690 г., не збярогся), выкарыстоўваліся кананічныя базілікальныя планіровачныя схемы мураваных храмаў (в. Хоўхлава Маладзечанскага р-на).

Выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва барока развівалася на падставе манументальнай архітэктуры. Інтэр'еры многіх храмаў упрыгожвалі лепкай і скульптурай, што надавала ім узмоцнены пластычны акцэнт. Высокага ўзроўню дасягнула разьба па дрэве. Шэдэўр гэтага жанру мастацтва — алтар 17 ст. у касцёле бернардзінцаў у в. Будслаў Мядзельскага р-на. З 2-й паловы 17 ст. касцёльныя алтары набывалі барочны характар. Іх кампазіцыя ўскладнілася, стала шмат'яруснай, шматпланавай, дэкаратыўна насычанай. У сярэдзіне 18 ст. алтары страчваюць сваю архітэктанічнасць, якая хаваецца за насычаным барочна-ракайльным разным дэкорам (в. Дзераўная Стаўбцоўскага р-на). Алтары 18 ст.— выдатныя творы майстроў беларускай разьбы па дрэве. Скульптуры, што ўпрыгожваюць іх, эмацыянальна выразныя, глыбока адухоўленыя, урачыстыя. Да сярэдзіны 18 ст. скульптура набывае ракайльны характар, вылучаецца складанасцю ракурсаў, дынамікай, павялічваецца яе дэкаратыўнасць і маляўнічасць. Яна адметная вытанчанай манернасцю поз, тэатральнасцю жэстаў, экзальтаванасцю вобразаў. Скульптура параднага партрэта перыяду барока на Міншчыне прадстаўлена мармуровым бюстам М. К. Радзівіла (17 ст.) у касцёле езуітаў у Нясвіжы. Народныя традыцыі працягваліся ў мясцовай драўлянай скульптуры («Распяцце», в. Новы Свержань Стаўбцоўскага р-на, не зберагЛася). Для яе характэрна плоскасная манера падачы аб'ёму, смелае парушэнне прапорцый фігуры чалавека, мастацкая выразнасць.

Для твораў барочнага жывапісу ўласцівы святлоценявыя і колеравыя кантрасты, складанасць і дынамізм кампазіцыі, багацце дэкаратыўнага антуражу. У 2-й палове 17—1-й палове 18 ст. у буйных культавых збудаваннях ствараліся барочныя фрэскавыя кампазіцыі (касцёл езуітаў у Нясвіжы). Тэхніку фрэскавай размалёўкі выкарыстоўвалі мастакі для стварэння ілюзорных алтароў (в. Вішнева Валожынскага р-на). У гэтым жанры жывапісу на Міншчыне працавалі мастакі Мацей Бейтнік (насценная размалёўка ў касцёле Святога Міхаіла ў Нясвіжы, 1736—37 гг., не збярогся), Якуб Брэтцар (размалёўка касцёла езуітаў у Слуцку, 1715—17 гг., не збярогся). Партрэтны жанр на Міншчыне прадстаўлены творчасцю нясвіжскіх мастакоў Гершкі Ляйбовіча, Ксаверыя Дамініка Гескага. У перыяд барока пашырылася мецэнацтва. Радзівілы для ўвекавечання сваіх ваенных подзвігаў і асоб запрашалі галандскага жывапісца Абрахама Вестэрфельда (?—1692 г.). У беларускім мастацтве знайшлі адлюстраванне свецкія тэмы. На Міншчыне было развіта і іканапіснае мастацтва, адным з цэнтраў якога з'яўлялася іканапісная майстэрня ў Слуцку. Творы іканаграфіі вылучаліся элементамі бытавізму (ікона «Пакровы» з Маладзечна, 1751 г.). Мастацтва гравюры 17 ст. на Міншчыне прадстаўлена творчасцю прыдворнага мастака Радзівілаў у Нясвіжы, аўтара гравюр з відамі шэрагу беларускіх гарадоў і ілюстрацый да кніг Тамаша Макоўскага (1562 г. ці 1575 г.— каля 1630 г.). З Слуцкай друкарняй звязаны адзін з этапаў мастацкай дзейнасці вядомага гравёра, аднаго з заснавальнікаў магілёўскай школы гравюры М. Я. Вашчанкі (2-я палова 17 ст.— 1708 г.). Яго работы адметны багаццем святлоценявой мадэліроўкі, дасягнутай за кошт разнастайнай штрыхоўкі. У гэтым жанры мастацтва шырокае развіццё атрымалі сімвалічныя і алегарычныя выявы, пышныя формы.

Асновы барока ўвасобіліся ва ўсіх жанрах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Міншчыны. У 18 ст. шырокі размах набыла фаянсавая вытворчасць. Яе цэнтрам была мануфактура ў в. Новы Свержань Стаўбцоўскага р-на. Мануфактуры мастацкага шкла створаны ў 1737 г. у г. п. Урэчча Любанскага р-на і ў 1717 г. у в. Налібакі Стаўбцоўскага р-на. Урэцка-налібоцкае шкло стала значнай з'явай дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі. Высокага ўзроўню дасягнула творчасць майстроў мастацкага ткацтва Слуцкай мануфактуры ў 18—1-й палове 19 ст. Акрамя вядомых слуцкіх паясоў, тут ствараліся ўзорыстыя залатканыя тканіны. У 17—18 стагоддзях на мануфактурах князёў Радзівілаў у Нясвіжы і Альбе выраблялася дываны-карціны з раслінным арнаментам, геральдычнымі знакамі, сюжэтнымі кампазіцыямі і партрэтнымі выявамі. Шэраг шпалер з сюжэтамі на гістарычныя тэмы, партрэтамі вядомых асоб змяшчаўся (паводле інвентароў 1760-х гадоў) у інтэр'ерах гарадскога палаца ў Нясвіжы. Развіццё архітэктуры і горадабудаўніц-

ва канца 18—1-й паловы 19 ст. вызначалася грамадска-палітычнымі зменамі, выкліканымі ўз'яднаннем Беларусі з Расіяй, развіццём капіталізму. Эканамічны ўздым садзейнічаў росту і добраўпарадкаванню гарадоў, пашырэнню мураванага будаўніцтва; пануючым стылем у гэты час стаў класіцызм. Значны ўплыў на развіццё гэтага стылю на Міншчыне зрабіла творчасць архітэктараў К. Спампані (сядзіба ў в. Чырвоная Зорка Клецкага р-на), Б. Тычэцкага (палац у в. Сноў Нясвіжскага р-на), К. Хрышчановіча (прысутныя месцы ў Мінску), Л. Лутніцкага (палацава-паркавы комплекс у прыгарадзе Нясвіжа Альба), а таксама буйнейшага мастака Ф. Смуглевіча (інтэр'ер сядзібы ў в. Чырвоная Зорка Клецкага р-на).

У Мінскай губерні ажыццяўляліся работы па масавай перапланіроўцы і рэгуляванню гарадоў, іх добраўпарадкаванню і ансамблевай забудове. Рэгулярная схема адпавядала горадабудаўнічым прынцыпам рускага класіцызму. З 1800 г. у праектных вырашэннях Слуцка, Барысава, Вілейкі, Чэрвеня (Ігумена) ставіліся задачы ўпарадкавання і геаметрызацыі гарадской забудовы і вулічнай сеткі, стварэння асноўных магістралей, сістэмы плошчаў, узбуйнення кварталаў. Развіццё гандлю абумовіла будаўніцтва новых гандлёвых радоў, фасады якіх мелі ордэрную апрацоўку і метрычны рытм крам (Клецк, Барысаў). Новым тыпам гандлёвых будынкаў былі магазіны і крамы, праектаванне іх нярэдка выконвалася прафесійнымі архітэктарамі.

Значна пашыралася тыпавое будаўніцтва: паштовыя станцыі, прысутныя месцы (Чэрвень), дваранскія вучылішчы, магазіны ствараліся паводле «ўзорных» праектаў губернскіх архітэктараў і зацвярджаліся ў Пецярбургу. Архітэктура гэтых будынкаў вылучалася афіцыёзнасцю, абмежаванасцю выразных архітэктурна-дэкаратыўных сродкаў, стрыманасцю і лаканічнасцю форм (будынкі адміністрацыйных устаноў у Мінску, дваранскага сходу і мужчынскай гімназіі ў Слуцку).

Вялікі размах набыло мясцовае палацава-сядзібнае будаўніцтва. У структуры гарадоў і вёсак палацы і сядзібы размяшчалі адасоблена ад жылой забудовы, у спрыяльных ландшафтных умовах. Была пашырана сіметрычна-восевая планіровачная схема. Палацы і сядзібныя дамы — звычайна сіметрычныя прамавугольныя ў плане 1—2-павярховыя аб'ёмы з двухсхільным ці вальмавым дахам. Разнастайнасць гэтага тыпу пабудоў аб'ядноўваў агульны для іх кампазіцыйны прыём — вылучэнне цэнтральнай часткі будынка калонным порцікам, звычайна дарычнага ордэра (Валожын, вёскі Туча Клецкага, Грозаў Капыльскага, Вялікія Навасёлкі Дзяржынскага р-наў) ці каланадай-галерэяй (в. Янавічы Клецкага р-на). Пашыраным таксама быў тып аднапавярховага сядзібнага дома з мансардавым паверхам (в. Чырвоная Зорка Клецкага р-на). Буйныя па маштабу палацы мелі больш складаную трохчасткавую аб'ёмна-прасторавую пабудову (цэнтральнаму павялічанаму рызаліту сіметрычна адпавядалі бакавыя павільёны), у іх больш паслядоўна выкарыстаны класічныя ордэрныя каноны (в. Сноў Нясвіжскага р-на). Сродкі дэкору абмяжоўваліся рустам, спрошчанымі карнізамі з дэнтыкуламі, ліштвамі прамавугольных аконных праёмаў (Беразіно). Мастацка-выразныя сродкі архітэктуры позняга класіцызму (ампіру) дапаўняюцца рэнесансавымі формамі так званага паладыянізму: «італьянскія» арачныя вокны (вёскі Вялікія Навасёлкі Дзяржынскага, Сноў Нясвіжскага р-наў), нішы-эксэрды, шырокія каланады. Да сярэдзіны 19 ст. архітэктура сядзіб набывала познакласіцыстычны характар: порцікі павялічваюцца да 8 калон, завяршаюцца ступеньчатымі атыкамі, на фасадах з'яўляюцца 2 порцікі, мастацка-дэкаратыўныя сродкі становяцца больш сціплымі. Дойліды імкнуліся агульнавядомымі архітэктурнымі сродкамі стварыць непаўторны, арыгінальны воблік сядзібнага дома.



*Палац у вёсцы Дукора (Пухавіцкі раён). З малюнка Н. Орды 19 ст.*

Архітэктура класіцызму паўплывала і на формы драўлянага дойлідства. Інтэнсіўна асвойваліся формы мураванай класіцыстычнай архітэктуры, увасабляліся ордэрныя формы, імітавалася рустоўка фасадаў (в. Чырвоная Зорка Клецкага р-на). Драўляныя сядзібныя дамы часам атынкоўвалі. У планіровачнай арганізацыі выкарыстоўвалася найбольш рацыянальная калідорная схема, у якой вылучалася цэнтральная парадная зала, што выступала на дваровым фасадзе скругленым (Беразіно, вёскі Чырвоная Зорка і Янавічы Клецкага р-на) ці прамавугольным рызалітам (Валожын, в. Грозаў Капыльскага р-на). Мансардавы паверх выкарыстоўваўся як жылы, скляпеністыя падвалы — для гаспадарчых патрэб (в. Чырвоная Зорка Клецкага р-на). На ўзор буйных палацаў Расіі ў сядзібных дамах арганізоўваліся (звычайна ў тарцовых прыбудовах) зімовыя сады (в. Чырвоная Зорка Клецкага р-на) ці аранжарэі (в. Дукора Пухавіцкага р-на). Інтэр'еры аздабляліся ордэрнай пластыкай, дэкаратыўнай лепкай, паліхром-

 ным мармурам, паліванай керамікай, фрэскавай размалёўкай.

З адыходам у 2-й палове 18 ст. ад рэгулярнай арганізацыі прысядзібных паркаў усталяваўся пейзажны стыль планіроўкі. У непасрэднай блізкасці ад палаца разбіваўся рэгулярны куток парку ў выглядзе партэра, газона, пад'язной алеі (в. Вялікія Навасёлкі Дзяржынскага р-на). У кампазіцыю паркаў арганічна ўключаліся руіны, старадаўнія пабудовы, умацаванні старажытных гарадзішчаў (Лагойск), мемарыяльныя камяні (Нясвіж) і культавыя збудаванні (капліцы ў сядзібных парках у Лагойску і в. Янавічы Клецкага р-на).

Формы класіцыстычнай архітэктуры набывалі і культавыя будынкі. Іх планіроўка строга прамавугольнай формы. Галоўныя фасады мелі магутныя порцікі, афармляліся арачнымі нішамі для скульптуры, чляніліся буйнымі пілястрамі, аздабляліся спрошчанымі антаблементамі (в. Шэметава Мядзельскага р-на).

У драўляным культавым будаўніцтве таксама асвойваліся архітэктурныя кампазіцыі класіцызму. Да драўляных зрубных аб'ёмаў далучалі калонныя порцікі, якія з'яўляліся асноўнай архітэктурнай тэмай будынка (вёскі Хоўхлава Маладзечанскага, Блонь Пухавіцкага р-наў). У спрошчанай ордэрнай пластыцы вырашаліся кампактныя цэнтрычныя капліцы (в. Хоўхлава Маладзечанскага р-на).

Дыяпазон жанравай творчасці беларускіх мастакоў у перыяд класіцызму пашырыўся ад гістарычнага, рэлігійна-міфалагічнага да бытавога і пейзажнага (Я. Дамель, В. Ваньковіч, Ф. Смуглевіч, А. Шмэмеш і інш.). Вызначальным жанрам жывапісу 1-й паловы 19 ст. быў партрэт. Далейшае развіццё бытавога жанру ў жывапісе Міншчыны працягвае мастак з Лагойска Ц. Бычкоўскі (1799—1843 гг.) — прыгонны графа Тышкевіча. Тэндэнцыі рамантызму праявіліся ў творчасці мастака В. Ваньковіча (1799 г. ці 1800—42 гг.). У сваіх творах мастакі імкнуліся да рэалістычнай трактоўкі сюжэтаў, глыбіннасці характарыстык персанажаў. Сярод жанраў народнага мастацтва развівалася кавальства (акоўка дзвярэй касцёла ў в. Цімкавічы Капыльскага р-на).



*Лагойск. Палацава-паркавы ансамбль. З малюнка Н. Орды. 2-я палова 19 ст.*

К сярэдзіне 19 ст. настае паступовы заняпад класіцыстычнай школы. Распад стылявога адзінства ў архітэктуры звязаны з крызісам феадальнага ладу і развіццём капіталізму. Развіваліся рэтраспектыўныя стылявыя плыні (неакласіцызм, неаготыка, неараманскі стыль). Па традыцыі буйныя культавыя збудаванні ставіліся ў цэнтры населеных месцаў і мелі важнае горадафарміруючае значэнне (Барысаў, Дзяржынск). Пануючае месца ў структуры гарадскіх цэнтраў захоўвалі гістарычна сфарміраваныя гандлёвыя плошчы (Клецк, Старобін, Нясвіж, Дзяржынск). У прамысловых зонах паявіліся рабочыя пасёлкі з вузкімі вуліцамі і малапавярховай драўлянай забудовай. Павялічылася шчыльнасць забудовы цэнтральных кварталаў. Развіццю шэрагу населеных месцаў спрыяла будаўніцтва портаў (Барысаў) і пракладка чыгунак Смаленск— Брэст у 1871 г., участку Лібава-Роменскай у 1873 г., Асіповічы — Слуцк у 1915 г.

У жыллёвым гарадскім будаўніцтве пашырылася так званая «цагляная» архітэктура, мастацкая выразнасць якой дасягалася майстэрскай муроўкай. У трактоўцы гарадскіх асабнякоў праяўляўся новы кірунак архітэктуры — «мадэрн». Пластыка фасадаў жылых і грамадскіх будынкаў узбагачалася керамічнымі арнаментальнымі ўстаўкамі, літымі і каванымі рашоткамі балконаў, ганкаў і лесвіц, выкананых з характэрнымі для стылю «мадэрн» плаўнымі формамі і лініямі пераважна расліннага арнаменту. Паявіліся новыя тыпы будынкаў — вакзалы (Барысаў, Маладзечна, Негарэлае), гасцініцы (Мінск), бальніцы (Мінск, Вілейка, Клецк), гімназіі (Мінск, Слуцк), даходныя дамы (Мінск), дваранскія вучылішчы (Дзяржынск). Упарадкаванне дарожных трактаў у 19 ст. абумовіла будаўніцтва на іх тыпавых паштовых станцый (Слуцк, Маладзечна). Архітэктура паштовых станцый, якая спачатку мела класіцыстычную накіраванасць, паступова падпадае пад уплыў эклектычных тэндэнцый: контрфорсы, аркатура, стральчатыя парталы, зубчастыя парапеты ў стылі неаготыкі (в. Паськовы Горкі Старадарожскага р-на).

Сядзібнае будаўніцтва 2-й паловы 19 — пачатку 20 ст. таксама знаходзілася ў плыні эклектыкі. У архітэктурна-стылявой трактоўцы сядзібных дамоў быў пашыраны рамантычны кірунак замкавага сярэдневяковага будаўніцтва. Дамы нагадвалі старажытныя замкі з гранёнымі ці круглымі ў сячэнні вежамі-байніцамі, зубчастымі парапетамі дахаў, падземнымі пераходамі (в. Станькава Дзяржынскага р-на, в. Прылукі Мінскага р-на). Роля асноўнага архітэктурнага акцэнту ў іх адводзілася яруснай вежы з зубчастым парапетам у завяршэнні (в. Астрашыцкі Гарадок Мінскага р-на, не зберагалася). Часта выяўляліся элементы стылю «мадэрн» і ў архітэктуры сядзібных дамоў (г. п. Круп-



*Сядзіба ў в. Прылукі (Мінскі раён). З малюнка Н. Орды. 1876 г.*

кі, в. Камарова Мядзельскага р-на). Будынкі набывалі складаную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю: разнастайнасць аконных праёмаў, насычаная каларыстычнасць у трактоўцы фасадаў, вежавыя архітэктурныя дамінанты (г. п. Свір Мядзельскага р-на, г. п. Крупкі, г. Мар'іна Горка).

У садова-паркавым мастацтве пераважаў пейзажны стыль. Адначасова ўжывалася мяшаная рэгулярна-пейзажная планіровачная схема (в. Вязынь Вілейскага р-на). Стварауся новы тып так званага эканамічнага парку — пладовы сад, абсаджаны прамалінейнымі шпалерамі (в. Янавічы Клецкага р-на). Эклектычныя рысы праявіліся і ў архітэктуры паркавых павільёнаў, брам (вёскі Станькава Дзяржынскага, Дукора Пухавіцкага р-наў), капліц-пахавальняў (в. Вязынь Вілейскага р-на). Пад паркавыя павільёны маскіраваліся і гаспадарчыя пабудовы (свіран у в. Галынка Клецкага р-на). Рамантычныя тэндэнцыі ў паркабудаўніцтве звязаны са стварэннем павільёнаў у народным сялянскім стылі (Галандскі млын і Бярозавы домік у Нясвіжскім парку).

У архітэктуры цэркваў пашыраўся псеўдарускі стыль (Мінск, Клецк, Барысаў, вёскі Зембін Барысаўскага і Кіявічы Капыльскага р-наў). Цэрквы гэтага часу будаваліся пераважна па распрацаваных у Расіі тыпавых праектах, у аснову іх былі пакладзены формы і каноны старажытнарускага дойлідства. Для будынкаў уласцівы пяцікупалле, цыбулепадобныя купалы на круглых ці васьміграных барабанах, невялікія макаўкі на круглых шыйках, кілепадобныя аркі і парталы, какошнікі, закамары, шатровыя завяршэнні гранёных званіц, згрупаваныя аконныя праёмы ў кілепадобных ліштвах, багацце цаглянага дэкору. Для будаўніцтва храмаў выкарыстоўвалі бутавы камень, што надавала будынкам дэкаратыўны эфект (вёскі Вішнева, Гародзькі і Даўбені Валожынскага р-на). На фоне сцяны з бутавага каменю кантрастна вылучаліся пабеленыя элементы архітэктурнага дэкору: вуглавыя лапаткі, спрошчанай прафіліроўкі карнізы і цягі, простыя ліштвы аконных праёмаў (в. Гародзькі Валожынскага р-на).

Пануючы ў манументальным культавым дойлідстве псеўдарускі стыль зрабіў уплыў і на драўлянае дойлідства. Цэрквы будаваліся пяцікупальныя (в. Хатляны Уздзенскага р-на), з прыбудаванымі яруснымі званіцамі, са спалучэннем чацверыковых і васьміграных аб'ёмаў (Валожын). Традыцыі народнага драўлянага дойлідства захоўваліся ў будаўніцтве асобных званіц. Іх найчасцей рабілі паводле каркаснай схемы, часам з адкрытым другім ярусам, шатровым завяршэннем (вёскі Шэметава і Нарач Мядзельскага р-на).

У будаўніцтве касцёлаў панаваў стыль неаготыкі (Мінск, вёскі Нарач Мядзельскага, Раўбічы Мінскага, Лебедзева Маладзечанскага р-наў). Маляўнічасць дасягалася шляхам спалучэння цаглянай муроўкі з бутавым каменем. Архітэктурнай кампазіцыі характэрна імкненне да вертыкальнай накіраванасці. Вось сіметрыі галоўных фасадаў вылучалася стральчатымі ўваходнымі парталамі і вокнамі-«ружамі» (в. Ракаў Валожынскага р-на), ступеньчатымі шчытамі (в. Рубяжэвічы Стаўбцоўскага р-на), фасады крапаваліся магутнымі контрфорсамі, былі рытмічна члянёны высокімі стральчатымі вокнамі, дахі завяршаліся востраканечнымі шпілямі, пінаклямі (в. Багушэвічы Бярэзінскага, г. п. Івянец Валожынскага р-наў). Унутраная прастора перакрывалася нервюрнымі і зорчатымі скляпеннямі (в. Багушэвічы Бярэзінскага, г. п. Івянец Валожынскага, в. Вязынь Вілейскага р-наў). Каларыстычны эфект інтэр'ераў гэтых будынкаў стваралі каляровыя вітражы, якія запаўнялі стральчатыя аконныя праёмы і круглыя «ружы» (вёскі Рубяжэвічы Стаўбцоўскага, Шэметава Мядзельскага р-наў). Вертыкальная накіраванасць унутранай прасторы стваралася буйнымі міжнефавымі слупамі, стральчатымі ці крыжовымі з нервюрамі скляпеннямі. Буйнейшыя з такіх будынкаў на Міншчыне — касцёлы ў г. п. Івянец і в. Ракаў Валожынскага р-на. Будаваліся храмы і ў неабарочным стылі (г. п. Свір Мядзельскага, в. Плябань Маладзечанскага р-наў). Крызіс архітэктурнай творчасці ў канцы 19 ст. прывёў дойлідаў да беспрынцыпнага капіравання вядомых помнікаў дойлідства. Так, прататыпам фамільнай капліцы-пахавальні ў сядзібе пас. Першамайскі Уздзенскага р-на з'явіўся будынак кальвінскага збору 16 ст. у Смаргоні (Гродзенская вобл.). У форме рымскага пантэона пабудавана капліца-пахавальня ў в. Падневічы Валожынскага р-на. Форму егіпецкіх пірамід нагадваюць капліцы-пахавальні ў сядзібе Маліноўшчына Маладзечанскага р-на і на могілках у г. Узда.

У 2-й палове 19 — пачатку 20 ст. развівалася прамысловае будаўніцтва. У яго архітэктуры выкарыстоўваліся найбольш эканамічныя і спрошчаныя дэкаратыўныя і канструкцыйныя прыёмы. Дэкаратыўная трактоўка фасадаў дасягалася сродкамі фігурнай цаглянай муроўкі,

часам з выкарыстаннем форм готыкі — стральчатых праёмаў, аркатур, вімпергаў, пінакляў, ступеньчатых шчытоў (будынак спіртзавода ў Беразіно, вадзяны млын у в. Гарадок Маладзечанскага р-на). Шырока выкарыстоўвалася бутавая муроўка сцен. Помнікі народнай вытворчай архітэктуры прадстаўлены шэрагам ветракоў (вёскі Даматканавічы і Шэйкі Клецкага р-на). Для іх характэрна складаная па вырашэнню аднаслуповая канструкцыя з магутнай крыжовай асновай, якая дазваляла пры дапамозе кансольнай бэлькі паварочваць ветрак. Традыцыйныя тэхнічныя прыёмы выкарыстоўваліся і ў будаўніцтве вадзяных млыноў (в. Маркава Маладзечанскага р-на).

Жывапіс Міншчыны 2-й паловы 19 — пачатку 20 ст. цесна звязаны з творчай дзейнасцю мастакоў Ф. Рушчыца (1870—1936 гг.), Ф. Бруздовіча (1861—1912 гг.). Пейзажны жывапіс прадстаўлены творчасцю Г. Вейсенгофа (1859—1922 гг.). Многім творам мастакоў 2-й паловы 19 ст. характэрны сімволіка-рамантычныя і сацыяльныя матывы (Ф. Рушчыц). У канцы 19 — пачатку 20 ст. мастакі ў сваёй творчасці ўсё часцей звярталіся да народных традыцый. Мастак Ф. Бруздовіч пры размалёўцы ў 1906—08 гг. інтэр'ераў касцёлаў у Нясвіжы і в. Цімкавічы Капыльскага р-на выкарыстоўваў народныя матывы ўзорыстага ткацтва, вышыўкі, размалёўкі сялянскай мэблі. Са стылем «мадэрн» звязана адраджэнне манументальнага жывапісу. Развіваецца прамысловая вытворчасць прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Высокамастацкае шкло і хрусталь выпускалі шклозаводы ў Барысаве і Стараве (Слуцкі р-н). На міжнароднай выстаўцы 1908 г. у Марселе Стараўскі з-д атрымаў вышэйшую ўзнагароду. У 1910 г. барысаўскі хрусталь адзначаны залатым медалём на выстаўцы ў Парыжы.

Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва 19 — пачатку 20 ст. характарызавалася моцным узаемаўплывам 2 кірункаў: прамысловага (прафесійнага) і народнага. Па-ранейшаму вызначаліся высокімі мастацкімі якасцямі творы прыгонных майстроў магнацкіх мануфактур: слуцкія паясы, узорыстыя парчовыя і габеленавыя тканіны, набіванкі, бязворсавыя дываны-кілімы з раслінным арнаментам, інкруставаная мэбля, каляровае шкло і хрусталь, керамічная і фаянсавая скульптура малых форм, посуд, кафля і іншыя рэчы. Мастацкую кафлю рабілі ў Барысаве і Слуцку. Найбольшага росквіту керамічная вытворчасць у народных традыцыях набыла на мяжы 19—20 стагоддзяў у Івянцы (Валожынскі р-н). Мясцовыя майстры выраблялі шырокі асартымент ад рэчаў хатняга ўжытку да дробнай скульптурнай пластыкі і кафлі. У 19 — 1-й палове 20 ст. у Радашковічах і навакольных вёсках было развіта традыцыйнае ганчарнае рамяство.

Намеціліся зрухі ў развіцці народнай адукацыі. Маладзечанская, Нясвіжская і Барысаўская настаўніцкія семінарыі, адкрытыя ў 1864, 1875, 1914 гг., рыхтавалі кадры настаўнікаў для народных вучылішчаў (у Барысаўскім, Ігуменскім, Мінскім і Слуцкім паветах на 1906 г. іх было 14 двухкласных і 169 аднакласных). Пад уплывам грамадскага руху і дзейнасці педагогаў-дэмакратаў у 1868 г. у губерні адкрыта 7 жаночых пансіёнаў, у т. л. у Ігумене, Мінску, Слуцку. Станоўчую ролю ў распаўсюджанні сельскагаспадарчых ведаў адыграла Мар'інагорская сельскагаспадарчая школа, адкрытая ў 1876 г. Аднак пісьменнасць насельніцтва губерні паводле перапісу 1897 г. заставалася нізкай: 22,7 %, вясковага — 15,6 %.

Міншчына дала вядомых вучоных, сярод якіх славянавед, заснавальнік беларускай, рускай, польскай і ўкраінскай археалогіі, этнаграфіі, фалькларыстыкі і дыялекталогіі З. Я. Даленга-Хадакоўскі (сапраўднае А. Чарноцкі), даследчыкі прыроды Б. І. і У. І. Дыбоўскія, Я. А. Наркевіч-Іодка, астраном М. Глушневіч, гісторык і эканаміст А. К. Ельскі, этнограф і фалькларыст А. К. Сержпутоўскі, археолагі, этнографы і гісторыкі У. З. Завітневіч, К. П. і Я. П. Тышкевічы, геадэзіст І. І. Ходзька. У Лагойску ў 1848 г. быў створаны першы на Беларусі музей старажытнасцей. Мінская балотная доследная станцыя з'яўлялася першай у Расіі навуковай установай па культуры балот.

Міншчына — радзіма класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча. Выхадцамі з Міншчыны з'яўляюцца беларускія пісьменнікі 19 — пачатку 20 ст. А. Абуховіч, А. Гурыновіч, Я. Лучына, мастакі Ю. Азямблоўскі, В. Ваньковіч, А., Г. і І. Г. Гараўскія, Ф. Рушчыц, тэатральныя дзеячы, музыканты і кампазітары І. Глінскі, М. Грушвіцкі, М. Ельскі, Ф. Лапата, Д. і В. Стафановічы. Паходжаннем ці творчасцю звязаны з Міншчынай таксама кампазітары, музыканты і тэатральныя дзеячы В. Драздоўскі, М. Карловіч, С. Манюшка, Ф. Міладоўскі, пісьменнікі Э. Жалігоўскі, А. Плуг, мастакі І. Аляшкевіч, Ю. Вейсенгоф, Я. Дамель, Б. Залескі і інш.

* * *

Працоўныя Міншчыны горача віталі перамогу Вялікага Кастрычніка, які адкрыў новую эру ў гісторыі чалавецтва. У рабоце II Усерасійскага з'езда Саветаў [25—27.10(7—9.11).1917 г., Петраград], што абвясціў пра заснаванне першай у свеце Савецкай сацыялістычнай дзяржавы, удзельнічалі дэлегаты-бальшавікі Мінскага (3), Нясвіжскага і Слуцкага Саветаў. Пасля паведамлення Петраградскага ВРК аб зверажэнні Часовага ўрада выканком Мінскага Савета выдаў 25.10(7.11). 1917 г. загад № 1 «Да насельніцтва гор. Мінска і ваколіц», у якім абвясціў аб пераходзе ўлады да Саветаў. Паводле рашэння Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РСДРП(б) для ўстанаўлення Савецкай улады на месцах і барацьбы з контррэвалюцыяй пры Мінскім Савеце 27.10(9.11).1917 г. створаны ваенна-рэвалюцыйны камітэт.

Сярод салдат Заходняга фронту Савецкую ўладу адразу прызналі размешчаныя ў раёне Нясвіжа часці 2-й арміі, дзе была моцная бальшавіцкая арганізацыя. 1—3(14—16).11.1917 г. у Нясвіжы адбыўся II надзвычайны з'езд салдат 2-й арміі, які аднадушна падтрымаў уладу Саветаў, ухваліў яе дэкрэты, выбраў ваенна-рэвалюцыйны і армейскі выканаўчы камітэты. Бальшавікі 2-й арміі накіравалі на дапамогу Мінскаму Савету бліндзіраваны поезд і батальён рэвалюцыйнага 60-га Сібірскага пяхотнага палка, што спрыяла перамозе рэвалюцыйных сіл у Мінску. 7—10(20—22).11. 1917 г. у Маладзечне адбыўся III з'езд салдат 10-й арміі, які таксама выказаў поўную падтрымку Савецкай уладзе, гатоўнасць абараняць яе са зброяй у руках. У выбраным на з'ездзе армейскім камітэце пераважалі бальшавікі.

У лістападзе — пачатку снежня 1917 г. адбыліся з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў Заходняй вобласці, III з'езд Саветаў сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў, II з'езд армій Заходняга фронту, якія прызналі Савецкую ўладу як народную, выказалі давер СНК і гатоўнасць выконваць яго рашэнні. Выбраныя на гэтых з'ездах выканкомы Саветаў і Франтавы камітэт аб'ядналіся і ўтварылі Абласны выканаўчы камітэт Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту (старшыня бальшавік М. У. Рагазінскі). Гэта быў вышэйшы орган Савецкай улады на тэрыторыі Заходняй вобласці, у т. л. Мінشчыны. Павятовыя органы Савецкай улады працягвалі фарміравацца ў пачатку 1918 г. Пачаліся першыя сацыялістычныя пераўтварэнні.

З лютага да снежня 1918 г. Мінشчына была акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі. Пад кіраўніцтвам Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП(б) на акупіраванай тэрыторыі была створана сетка падпольных партарганізацый. 28.2.1918 г. у Мінску адбыўся нелегальны сход бальшавікоў, на якім выбраны Мінскі падпольны раённы камітэт РКП(б). Сваёй дзейнасцю ён ахопліваў тэрыторыю Барысаўскага, Вілейскага, Ігуменскага, Мінскага, Слуцкага, Ашмянскага і Навагрудскага паветаў. Пад яго кіраўніцтвам вясной 1918 г. працавалі падпольныя Барысаўская, Замір'еўская, Ігуменская, Кайкаўская, Нясвіжская і Слуцкая падраённыя партыйныя арганізацыі, каля 2 тыс. камуністаў. Адбыліся забастоўкі, першамайскія дэманстрацыі, 15.7.1918 г. у Мінску праведзена раённая падпольная партыйная канферэнцыя, у яе рабоце прынялі ўдзел прадстаўнікі 75 партарганізацый (500 камуністаў). Галоўнай задачай бальшавікоў канферэнцыя вызначыла ўзброеную барацьбу супраць акупантаў. На тэрыторыі Барысаўскага, Мінскага і Слуцкага паветаў былі створаны партызанскія атрады, што вялі баі супраць акупантаў, не далі ім магчымасці вывозіць у Германію нарабаванае дабро. Актыўна працаваў у падполлі Мінскі Савет: яго прадстаўнікі ўдзельнічалі ў арганізацыі забастовак, дэманстрацый. Пасля выгнання акупантаў на Мінشчыне адноўлены органы Савецкай улады. 30—31.12.1918 г. адбыўся I з'езд Кампартыі Беларусі. 1.1.1919 г. апублікаваны Маніфест аб утварэнні Беларускай ССР са сталіцай у Мінску. У студзені 1919 г. пачалося афармленне партарганізацый, у т. л. у Мінску (больш за 440 камуністаў), Барысаве, Слуцку, Старых Дарогах. У Мінскім павеце разгарнулі работу партарганізацыі ў Івянцы, Кайкаве, Калодзішчах, Койданаве, Міханавічах, Ракаве, Рубяжэвічах, Самахвалавічах і інш.

У лютым 1919 г. Мінشчына ўвайшла ў склад Літоўска-Беларускай ССР, створанай з мэтай аб'яднання сіл працоўных для барацьбы супраць інтэрвентаў і ўнутранай контррэвалюцыі. Летам 1919 г. амаль уся тэрыторыя сучаснай вобласці акупіравана войскамі буржуазнай Польшчы. Пад кіраўніцтвам ЦК КП(б) Літвы і Беларусі ў канцы жніўня 1919 г. створаны Мінскі падпольны камітэт КП(б)ЛіБ, які выконваў функцыі краявога партыйнага цэнтра і ўзначальваў Барысаўскую, Гродзенскую, Ігуменскую, Маладзечанскую, Нясвіжскую, Слуцкую падпольныя арганізацыі. Ва ўмовах акупацыі і жорсткага тэрору камуністы стваралі нелегальныя партыйныя ячэйкі ў прафсаюзах, камуністычныя групы ў часцях польскіх войск. Шырыўся партызанскі рух, якім кіравалі Мінская раённая паўстанцкая арганізацыя, сфарміраваная ў кастрычніку 1919 г., і рэвалюцыйны штаб на чале з упаўнаважаным ЦК КП(б)ЛіБ В. Ф. Шаранговічам. Штаб каардынаваў дзейнасць партызанскіх атрадаў Барысаўскага, Вілейскага, Ігуменскага, Мінскага і Слуцкага паветаў. У ваколіцах Мінска дзейнічалі партызанскія атрады С. С. Плашчынскага, В. П. Пагірэйчыка, І. В. Маслыкі, М. Згіроўскага, А. Раманоўскага, каля Старых Дарог — атрады А. К. Паланейчыка, І. Тышкевіча, А. Таміловіча, Я. Якаўлева, у раёне мястэчка Дукора Ігуменскага павета — атрады і групы на чале з А. А. Блажко, С. Р. Камлюком, Г. Ф. Катлянікам, А. А. Крывашчокім і інш. У 1920 г. у в. Гатава адбыўся 1-ы, а ў в. Міханавічы — 2-і з'езды партызан Мінскага павета.

Выгнанне польскіх акупантаў з тэрыторыі Мінشчыны пачалося ў маі 1920 г. войскамі Заходняга фронту пад камандаваннем М. М. Тухачэўскага. 9 ліпеня вызвалены Ігумен, 11 — Мінск, 15 — Слуцк, да жніўня — уся тэрыторыя Беларусі. 9.7.1920 г. створаны Мінскі губернскі ВРК (старшыня А. Р. Чарвякоў), які аднавіў Савецкую ўладу ў Мінскай губерні. 31.7.1920 г. прынята Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнасці Беларускай ССР, на аснове губернскага ВРК створаны ВРК БССР. Партыйнае кіраўніцтва ажыццяўляў Мінскі губком КП(б)ЛіБ, які пасля аднаўлення Беларускай ССР і падзелу Кампартыі Літвы і Беларусі на КП(б) Беларусі і КП(б) Літвы стаў называцца Цэнтральным Бюро Кампартыі Беларусі.

3 Зак. 2282

Паводле Рыжскага мірнага дагавора, падпісанага ў сакавіку 1921 г., да буржуазнай Польшчы ў складзе заходніх зямель Беларусі адышла і частка тэрыторыі сучаснай Мінскай вобл. На ёй польскімі ўладамі былі ўтвораны Валожынскі (з 1925 г.), Вілейскі і Маладзечанскі паветы Віленскага, Валожынскі (да 1925 г.), Нясвіжскі і Стаўбцоўскі паветы Навагрудскага ваяводстваў. Становішча працоўных на тэрыторыі, што адышла да буржуазнай Польшчы, было вельмі цяжкім. Толькі на Маладзечаншчыне 3 тыс. сялян былі беззямельнымі, 2577 — не мелі коней і кароў. Праводзячы палітыку паланізацыі, улады закрывалі беларускія школы, бібліятэкі, клубы, пасялялі на беларускіх землях каланістаў — асаднікаў. Ні на адзін дзень не спынялася барацьба працоўных за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне і ўз'яднанне з БССР. Яе ўзначальвала Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. Дзейнічалі акруговыя, раённыя і падраённыя падпольныя партыйныя і камсамольскія камітэты і арганізацыі. Яны распаўсюджвалі камуністычную літаратуру, праводзілі дэманстрацыі і мітынгі пратэсту, узначальвалі забастоўкі. Пад кіраўніцтвам камітэтаў КПЗБ супраць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску змагаліся мясцовыя арганізацыі Беларускай сялянска-рабочай грамады, сакратарыяты таварыства «Змаганне», Таварыства беларускай школы, Чырвонай дапамогі. Вялікі рэвалюцыянізуючы ўплыў на рабочых і сялян аказвалі поспехі Краіны Саветаў. Шырока вядомы выступленні нарачанскіх рыбакоў і сялян у 1935 г., якія ахапілі каля 40 вёсак.

У складзе Беларускай ССР з тэрыторыі сучаснай Мінскай вобл. асталіся толькі Барысаўскі, Ігуменскі, Мінскі і Слуцкі паветы. Тут у 1924 г. створаны Мінская, Барысаўская і Слуцкая акругі, апошнія 2 ліквідаваны ў 1927 г., Мінская — у 1930 г.; Слуцкая адноўлена ў 1935 г., існавала да 1938 г. Акругі дзяліліся на раёны, якія з 1930 г. сталі галоўнай адзінкай адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу.

Адразу пасля вызвалення тэрыторыі Міншчыны ад акупантаў працоўныя ўключыліся ў аднаўленне разбуранай народнай гаспадаркі. У ліпені 1920 г. адноўлены Мінскі губернскі, у хуткім часе павятовыя саўнаргасы, якія пачалі работу па ўліку і нацыяналізацыі прадпрыемстваў і ўводу іх у дзеянне. Першы камуністычны суботнік на тэрыторыі вобласці адбыўся 21.8.1920 г. на чыгуначнай станцыі Мінск-Заходні. У верасні — снежні 1920 г. па некалькі камуністычных суботнікаў адбылося ў Барысаўскім, Вілейскім, Ігуменскім, Мінскім і Слуцкім паветах. Толькі ў Барысаве ў 14 суботніках, праведзеных у лютым — кастрычніку 1921 г., удзельнічала 1530 камуністаў і 1250 беспартыйных.

У аднаўленчы перыяд 1921—25 гг. пачалася рэканструкцыя старых фабрык і заводаў, будаўніцтва новых. У новых прамысловых карпусах, адначасова з функцыянальнымі працэсамі, вырашаліся пытанні паляпшэння ўмоў працы і адпачынку рабочых. У 1921 г. на барысаўскіх фабрыках «Чырвоная Бярэзіна» і «Папірус» працавалі адпаведна 378 і 119 рабочых. Аднавілася работа на слуцкіх гарбарным і цагельным заводах, кардоннай фабрыцы «Яніна» (чыгуначная станцыя Пухавічы), шклозаводзе «Вікторыя» ў Смалявічах. У 1922 г. у в. Зялёнкі на Ігуменшчыне пушчана першая ў павеце невялікая электрастанцыя, якая забяспечвала бытавыя патрэбы мясцовых сялян. У 1924 г. у Мінску дзейнічалі 29 буйных прадпрыемстваў. У Барысаве, Слуцку, Чэрвені і іншых населеных пунктах аднаўляліся і будаваліся прадпрыемствы харчовай, папяровай, ільноапрацоўчай і тарфяной прамысловасці, электрастанцыі.

За гады індустрыялізацыі і перадваенных пяцігодак прамысловасць Міншчыны вырасла амаль у 3 разы ў параўнанні з 1913 г. Удзельная вага прамысловасці Мінскай вобл. у агульнарэспубліканскім выпуску прамысловай прадукцыі ў 1940 г. склала 27,6 %, а па колькасці рабочых — 22,5 %. Па тэрыторыі вобласці пралеглі новыя аўтамагістралі з Мінска на Маскву, Бабруйск, Магілёў, Чэрвень, Астрашыцкі Гарадок і інш. У 1940 г. у Мінску працавалі 332 дзяржаўныя і кааператыўныя прадпрыемствы. У Барысаве ўведзены ў дзеянне ў 1929 г. запалкавая фабрыка «Пралетарская перамога» і завод гаспадарчага посуду, у 1931 г.— макаронна-мукамольны камбінат, у 1935 г.— фабрыка піяніна і малаказавод. У Слуцку пабудаваны рамонтна-механічны завод, мясакамбінат, электрастанцыя, масласырзавод, торфазавод. У буйной прамысловасці Міншчыны ў 1930 г. было занята больш за 33 тыс. чалавек, у 1937 г.— 41,6 тыс. Рабочыя фабрык і заводаў ішлі ў авангардзе ўдарніцтва і стаханаўскага руху. Першым у БССР ударным прадпрыемствам стаў Мінскі хлебазавод. На прадпрыемствах Барысава ў 1936 г. было 1760 стаханаўцаў.

Аднаўленне сельскай гаспадаркі Міншчыны, як і ўсёй Беларусі, было завершана ў 1924 г. Індустрыялізацыя краіны і калектывізацыя сельскай гаспадаркі дазволілі перавесці земляробства і жывёлагадоўлю на шлях механізацыі. Для арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання маладых калгасаў з Мінска, Барысава, Слуцка, Койданава, Чэрвеня ехалі ў вёскі дваццаціпяцітысячнікі. У 1930 г. на Міншчыне дзейнічалі Койданаўская (першая на Беларусі), Заслаўская і Капыльская машынна-трактарныя станцыі. Пасяўныя плошчы ў 1940 г. у параўнанні з 1913 г. павялічыліся на 29 %. Высокіх паказчыкаў у земляробстве і жывёлагадоўлі дасягнулі калгасы «1 Мая», «Прамень камуны» і імя У. І. Леніна Слуцкага, «Чырвоны партызан» Мінскага р-наў, саўгасы «Блонь» Пухавіцкага, «Зарэчча» Смалявіцкага, «Новыя Зялёнкі» Чэрвеньскага і «Рачкавічы» Чырвонаслабодскага р-наў. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны ў вобласці каля 2170 калгасаў і 26 саўгасаў, на іх палях працавалі 2615 трактароў і 418 камбай-

паў, 1710 грузавых аўтамабіляў. Гаспадаркі мелі каля 543 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы, 604,5 тыс. свіней, больш як 478 тыс. авечак. Жыццё сялян стала заможным.

Адначасова з сацыяльна-палітычнымі і эканамічнымі пераўтварэннямі адбывалася культурная рэвалюцыя. Найбольшая ўвага аддавалася народнай асвеце. З пачатку 1920-х гадоў дзейнічалі школы і гурткі па ліквідацыі непісьменнасці дарослых. У 1932 г. Міншчына разам з усёй Беларуссю дасягнула суцэльнай пісьменнасці. У 1941 г. у вобласці дзейнічалі 2496 школ (330 тыс. вучняў), 239 дашкольных устаноў, 783 масавыя бібліятэкі, 752 клубныя ўстановы, 163 кінаўстаноўкі. Кадры народнай інтэлігенцыі рыхтавалі 38 вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, што былі адкрыты на тэрыторыі Міншчыны за гады Савецкай улады. У 1940 г. у вобласці працавала больш за 12 тыс. настаўнікаў, каля 5700 інжынерна-тэхнічных работнікаў, 1790 урачоў, 4214 чалавек сярэдняга медыцынскага персаналу. Адной з буйнейшых у СССР навуковых устаноў стала Акадэмія навук БССР.

У 1920 — пачатку 1930-х гадоў на Міншчыне дзейнічалі літаратурныя аб'яднанні «Полымя», «Узвышша»; у Барысаве, Мінску і Слуцку былі свае філіі літаратурнага аб'яднання «Маладняк». Мінскае аддзяленне пралетарска-калгасных пісьменнікаў, апрача філіі ў Чэрвені, мела гурткі ў Заслаўскім, Пухавіцкім, Смалявіцкім і іншых раёнах. Побач з пісьменнікамі старэйшага пакалення: Я. Купалам, Я. Коласам, Ц. Гартным, З. Бядулем, А. Гурло, голас якіх у савецкі час загучаў у поўную сілу, значны ўклад у маладую беларускую літаратуру зрабілі пісьменнікі і паэты, што далучыліся да літаратурнай творчасці ў паслякастрычніцкія гады: А. Александровіч, А Астрэйка, С. Баранавых, В. Вітка, П. Глебка, М. Клімковіч, К. Крапіва, М. Лужанін, Я. Пушча, П. Трус, М. Чарот і інш.

Першае таварыства беларускай драмы і камедыі, створанае ў 1917 г. у Мінску, адыграла важную ролю ў станаўленні беларускага тэатральнага мастацтва. На яго аснове ў 1918 г. адкрыты «Беларускі савецкі тэатр», які меў драматычную, харавую, музычную і літаратурна-выдавецкую секцыі. У 1920 г. тут пачалі працаваць Беларускі дзяржаўны тэатр (з 1926 г. БДТ-1, цяпер акадэмічны імя Я. Купалы) і Беларускі трэці дзяржаўны тэатр (БДТ-3, дзейнічаў да 1937 г.), народныя тэатры працавалі ў Барысаве, Дукоры, Ігумене і Слуцку. У Мінску дзейнічалі тэатры рэвалюцыйнай сатыры (1921—22 гг.), Беларускі рабочы (1928—33 гг.), рабочай моладзі (1929—37 гг.) і юнага гледача (з 1931 г.), у Барысаве — тэатр рабочай моладзі (1933—35 гг.); калгасна-саўгасныя тэатры працавалі ў Барысаве (1935—38 гг.), Дзяржынску (1940—41 гг.), Заслаўі (1938—39 гг.), Слуцку (1935—41 гг.). Актыўнымі стваральнікамі беларускага савецкага тэатра былі ўраджэнцы Міншчыны Ф. Ждановіч, У. Крыловіч, У. Тэраўскі, У. Фальскі.

БДТ-1 у 1920-я гады быў асяродкам не толькі драматычнай, але і музычнай культуры. Пры ім існавалі хор, балетная трупа, сімфанічны аркестр, салісты-спевакі. З 1917 г. дзейнічаў беларускі народны хор У. Тэраўскага. У студзені 1919 г. пачаліся заняткі ў Мінскай кансерваторыі (спынены ў сувязі з акупацыяй Мінска войскамі буржуазнай Польшчы). Пэўнымі падзеямі ў музычным жыцці Міншчыны было стварэнне ў Мінску Беларускага музычнага тэхнікума (1924 г.), дзяржаўнай капэлы (1928 г.), студыі оперы і балета (1930 г.), хору пры радыёцэнтры (1931 г.), Беларускай кансерваторыі (1932 г.), тэатра оперы і балета БССР (1933 г.), філармоніі (1937 г.). З Мінскам звязана творчая дзейнасць першых беларускіх савецкіх кампазітараў — Я. Цікоцкага, М. Аладава, М. Чуркіна, В. Залатарова. Далёка за межамі рэспублікі было вядома выканальніцкае майстэрства спявачкі, народнай артысткі СССР (1940 г.) мінчанкі Л. Александроўскай.

У 1920—30-я гады ва ўсходніх раёнах Міншчыны адбыліся вялікія сацыяльныя, эканамічныя і культурныя пераўтварэнні. Пачаўся працэс сацыялістычнай рэканструкцыі і перабудовы гарадоў і вёсак. Асноўнае палажэнне савецкага горадабудаўніцтва — стварэнне найлепшых умоў працы, быту і адпачынку для савецкіх людзей — з'явілася праграмай развіцця населеных пунктаў. У гарадах на свабодных тэрыторыях забудоўваліся вуліцы, кварталы, рабочыя пасёлкі (Грушаўскі і Пушкінскі ў Мінску). Значныя грамадскія збудаванні таго часу: будынак Дзяржбанка на вул. Савецкай (1927—29 гг., архіт. Г. Гольц, М. Паруснікаў, не збярогся), комплекс будынкаў БДУ (1928—31 гг., архіт. І. Запарожац, Г. Лаўроў), клуб харчавікоў па вул. Інтэрнацыянальнай (1927—29 гг., архіт. А. Бураў, не збярогся), будынак гідраметэаралагічнай абсерваторыі (1934 г., архіт. І. Валадзько), клінічны гарадок (1928—31 гг., архіт. Г. Лаўроў), будынак Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Леніна (1932 г., архіт. Г. Лаўроў) у Мінску.

Поспехі сацыялістычнага будаўніцтва і індустрыялізацыі далі магчымасць перайсці з пачатку 1930-х гадоў да карэннай рэканструкцыі гарадоў вобласці. Працэс фарміравання новых прынцыпаў планіроўкі і забудовы пачаўся з распрацоўкі генеральных планаў гарадоў. Прадугледжвалася захаванне гістарычнай планіроўкі, вылучэнне спецыяльных тэрыторый для прамысловых аб'ектаў, новага жыллёвага будаўніцтва, распрацоўваліся агульныя прынцыпы рэканструкцыі. Мянялася творчая накіраванасць архітэктараў, кансалідаваліся іх сілы, адбываўся пералом у адносінах да архітэктурнай спадчыны. Вялікую ролю ў гэтым адыграў арганізаваны ў 1935 г. Саюз савецкіх архітэктараў БССР. У гэты час узведзены самы буйны перадваенны будынак у рэспубліцы — Дом

 урада БССР у Мінску (1930—1934 гг., архіт. І. Лангбард). Разгарнулася масавае будаўніцтва тыпавых грамадскіх збудаванняў. Побач з культурна-асветнымі ўстановамі масавага тыпу (Дом культуры ў Старых Дарогах, 1937 г.) ствараліся унікальныя манументальныя грамадскія збудаванні ў Мінску: будынак Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР (1935—37 гг., архіт. І. Лангбард), Дом Чырвонай Арміі (1934—39 гг., архіт. І. Лангбард), Палац піянераў і школьнікаў (1937 г., архіт. А. Воінаў, У. Вараксін), будынак Вышэйшай партыйнай школы (1937 г., архіт. А. Воінаў), будынак ЦК КПБ (1939—41 гг., закончаны ў 1947 г., архіт. А. Воінаў, У. Вараксін), галоўны корпус АН БССР (1935—39 гг., архіт. І. Лангбард).

З першых паслякастрычніцкіх дзён савецкі ўрад надаваў вялікае значэнне ідэйна-выхаваўчай ролі мастацтва ў новым грамадстве. Канкрэтна гэта знайшло адлюстраванне ў ленінскім плане «манументальнай прапаганды». У хуткім часе па гарадскіх плошчах і грамадскіх будынках Мінска і іншых гарадоў вобласці пачалі з'яўляцца першыя творы манументальна-дэкаратыўнага жывапісу, скульптуры. Шырока выкарыстоўваліся традыцыйныя формы, вобразы народнага і класічнага мастацтва, аўтары звярталіся за дапамогай да алегорыі і сімвалаў. Шматгранна праяўлялася ініцыятыва народных мас. Плакаты, карыкатуры, афармленне гарадоў да рэвалюцыйных свят, першыя помнікі выконваліся, як правіла, самадзейнымі мастакамі, рамеснікамі-актывістамі. Знамянальным было іх імкненне захаваць у памяці народа вобраз вялікага правадыра, паказаць старонкі гісторыі рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбы народа, яе ўдзельнікаў. У выяўленчым мастацтве Міншчыны значнае месца адводзілася тэме вобраза У. І. Леніна. Скульптар А. Грубэ выканаў вялікую статую Леніна (1925 г.) для будынка Камуністычнага універсітэта Беларусі ў Мінску. Важны этап у развіцці ленінскай тэмы — работа скульптараў над помнікамі Леніну для Мінска. У выніку Усесаюзнага конкурсу 1931 г. лепшым быў прызнаны праект скульптара М. Манізера і архітэктара І. Лангбарда. Пастаўлены ў 1933 г. паводле гэтага праекта, ён арганічна ўпісаўся ў агульную кампазіцыю з Домам урада. У 1930-я гады помнікі Леніну пастаўлены ў Барысаве (1934 г., скульпт. А. Грубэ) і Слуцку (1939 г., скульпт. А. Бембель).

Тэма рэвалюцыйнай барацьбы і перамог беларускага народа ў сацыялістычным будаўніцтве ўвасоблена ў рэльефах пастамента помніка У. І. Леніну перад Домам урада ў Мінску. У гэты час створаны манументальныя партрэты выдатных дзеячаў рэвалюцыйнага руху для інтэр'ера Дома ўрада — К. Маркса, Ф. Энгельса (скульпт. М. Керзін), Г. Бабёфа, Ф. Э. Дзяржынскага і А. Ф. Мяснікова (скульпт. З. Азгур), М. В. Фрунзе (скульпт. А. Глебаў), М. Г. Чарнышэўскага (скульпт. А. Арлоў), К. Лібкнехта (скульпт. Р. Ізмайлаў). Скульптар А. Грубэ стварыў помнік Ф. Э. Дзяржынскаму ў Дзяржынску (не збярогся).

Поспехі ў галіне манументальнага мастацтва звязаны з усеагульным росквітам культуры ў краіне. Усталёўваўся творчы метад сацыялістычнага рэалізму. Робяцца першыя спробы вырашэння праблемы сінтэзу мастацтваў, пра што сведчаць манументальныя пано «Індустрыялізацыя СССР» і «Калектывізацыя СССР», выкананыя ў 1932 г. мастаком В. Волкавым для вакзала на станцыі Негарэлае (не захаваліся).

У 1938 г. створана Мінская вобл., у складзе якой было аб'яднана 20 раёнаў: Барысаўскі, Бягомльскі, Грэскі, Дзяржынскі (з 1939 г.), Заслаўскі, Капыльскі, Крупскі, Лагойскі, Любанскі, Мінскі, Плешчаніцкі, Пухавіцкі, Рудзенскі, Слуцкі, Смалявіцкі, Старадарожскі, Старобінскі, Уздзенскі, Халопеніцкі, Чырвонаслабодскі і Чэрвеньскі. У выніку ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР (1939 г.) на тэрыторыі сучаснай Мінскай вобл. утвораны Валожынскі, Івянецкі, Клецкі, Нясвіжскі і Стаўбцоўскі р-ны, якія да 1954 г. уваходзілі ў Баранавіцкую вобл., Куранецкі (з 1946 г. Вілейскі) і Маладзечанскі р-ны, што ўваходзілі ў Вілейскую (з 1944 г. Маладзечанскую) вобл.

* * *

З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны Міншчына стала арэнай ваенных дзеянняў. Мужнасць і гераізм праявілі савецкія воіны ў абарончых баях. 25.6.1941 г. варожыя танкі з паўночнага захаду падышлі да Мінскага ўмацаванага раёна. На лініі Радашковічы — Заслаўе абарону трымаў 2-і корпус (камандзір генерал-маёр А. М. Ермакоў, 100-я і 161-я стралковыя дывізіі), на рубяжы Стайкі — Краснае — Дзяржынск — Станькава — 44-ы стралковы корпус (камдыў В. А. Юшкевіч, 64-я і 108-я дывізіі). Каля Радашковіч 64-я дывізія (генерал-маёр С. І. Іяўлеў) разграміла разведвальны нямецка-фашысцкі атрад. Тут здзейснілі свае бессмяротныя подзвігі савецкія лётчыкі капітан М. Ф. Гастэла і старшы лейтэнант І. З. Прэсайзен, якія накіравалі свае падбітыя самалёты на скопішчы варожай тэхнікі. У раёне Астрашыцкі Гарадок — Карасі вораг абрушыў моцны ўдар на 100-ю стралковую дывізію (генерал-маёр І. М. Русіянаў). Амаль трое сутак, не адыходзячы ні на крок з занятых рубяжоў, савецкія воіны стрымлівалі шалёныя атакі фашыстаў, 27 чэрвеня 100-я і 161-я (палкоўнік А. І. Міхайлаў) дывізіі нанеслі контрудар у паўночна-заходнім напрамку і адкінулі ворага на 10—14 км. Цяжкія баі вяла 108-я дывізія (генерал-маёр А. І. Маўрычаў) каля в. Воўчкавічы. На Бярэзіне каля Барысава на шляху ворага сталі курсанты Барысаўскага танкавага тэхнічнага вучылішча (карпусны камісар І. З. Сусайкаў), палкі 1-й Маскоўскай мотастралковай дывізіі (палкоўнік Я. Р. Крэйзер), зводная

дывізія. Трое сутак адбівалі яны атакі танкавых і пяхотных часцей ворага.

У выкананне праграмы мабілізацыі сіл народа на барацьбу з ворагам, вызначанай у дырэктыве ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 29.6.1941 г., у пастанове ЦК ВКП(б) «Аб арганізацыі барацьбы ў тыле германскіх войск» ад 18.7.1941 г., на Беларусі пачалася перабудова народнай гаспадаркі на ваенны лад, стварэнне сеткі падпольных партарганізацый для кіраўніцтва барацьбой народа супраць захопнікаў. 30.6.1941 г. ЦК КП(б)Б выдаў дырэктыву № 1 «Аб пераходзе на падпольную работу партарганізацый раёнаў, занятых ворагам».

22.6.1941 г. на сходзе партактыву г. Мінска першы сакратар ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнка паставіў перад партарганізацыямі рэспублікі задачы ў сувязі з пачаткам вайны. Сходы партактыву праведзены ва ўсіх абласных і раённых цэнтрах, на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах. Праводзілася мабілізацыя ў дзеючую армію, эвакуацыя абсталявання прамысловых прадпрыемстваў, насельніцтва. Жыхары Мінска, Дзяржынска, Заслаўя і іншых населеных пунктаў капалі траншэі, процітанкавыя равы, рабілі іншыя абарончыя збудаванні.

Мінск захоплены фашыстамі 28 чэрвеня, праз 8 дзён — уся тэрыторыя вобласці. На захопленай тэрыторыі гітлераўцы ўстанавілі жорсткі акупацыйны рэжым беззаконня, гвалту, грабяжу і крывавага тэрору. Толькі ў кастрычніку 1941 г. фашысты знішчылі ў вёсцы Дукора Пухавіцкага р-на 617, у Рудзенску — 188, у Смілавічах — 1300, у Дзяржынску — 1000, у Мінску — 1775, у Слуцку — каля 5 тыс. савецкіх грамадзян.

Барацьбу насельніцтва супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, камуністычнае падполле і партызанскі рух на тэрыторыі сучаснай вобласці ўзначалілі падпольныя Мінскі (створаны ў ліпені 1941 г.), Баранавіцкі (сакавік 1943 г.) і Вілейскі (май 1943 г.) абкомы КП(б)Б. Яны кіравалі дзейнасцю падпольных Барысаўскага, Івянецкага, Мінскага, Слуцкага і Стаўбцоўскага міжрайкомаў, Вілейскага і Мінскага гаркомаў, Барысаўскага гаркома-райкома КП(б)Б, 37 сельскіх райкомаў і 5 райкомаў Мінска, Баранавіцкага, Вілейскага і Мінскага абкомаў ЛКСМБ, Барысаўскага, Вялікастахаўскага, Вілейска-Куранецкага, Возерскага, Грэскага, Дзяржынскага, Каладзішчанскага, Мар'інагорскага, Мінскага, Плешчаніцкага, Рудзенскага, Слуцкага, Тарасава-Ратамскага, Уздзенскага, Хідраўскага камуністычнага падполля. Найбуйнейшае з іх Мінскае камуністычнае падполле аб'ядноўвала каля 9 тыс. патрыётаў, у т. л. 1025 камуністаў і 2044 камсамольцаў.

На акупіраванай тэрыторыі Міншчыны шырока разгарнуўся партызанскі рух. У першыя месяцы акупацыі былі арганізаваны атрады Старобінскі, Чырвонаазерскі, Даманавіцкі, Старадарожскі, Доўгаўскі, А. І. Далідовіча, В. Крылова (Някрылава), «Рамана», С. Н. Далганава, І. А. Яраша, Я. С. Бачкарова і інш. У ліпені 1941 г. атрад пад камандаваннем сакратара Чырвонаслабодскага райкома партыі М. І. Жукоўскага зрабіў смелы налёт на варожы гарнізон у Слуцку, у выніку якога разгромлена камендатура, пошта, тэлеграф, спалены ваенны склад. У хуткім часе партызаны здзейснілі налёт на варожы гарнізон у раённым цэнтры Чырвоная Слабада. У ноч на 7.7.1941 г. аб'яднанымі сіламі 5 партызанскіх груп разгромлены фашысцкі гарнізон у Любані. У 2-й палове 1941 г. атрад на чале з сакратаром Смалявіцкага райкома КП(б)Б І. І. Ясіновічам на магістралі Мінск — Масква пусціў пад адхон 9 эшалонаў ворага. У 1941 г. у Мінскай вобл. з ворагам змагалася каля 30 атрадаў і некалькі дзесяткаў партызанскіх груп.

Барацьба супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на Міншчыне стала сапраўды ўсенароднай. Да ліпеня 1944 г. тут дзейнічалі партызанскія злучэнні: Паўднёвай зоны Мінскай вобл. (19 брыгад, 3 асобныя атрады, 22 тыс. партызан; камандзіры В. І. Казлоў, Р. Н. Мачульскі, І. А. Бельскі), Барысаўска-Бягомльскай зоны (9 брыгад, 2 асобныя атрады, больш за 10 тыс. партызан, камандзір Р. Н. Мачульскі), групоўка партызанскіх брыгад Мінскай зоны (8 брыгад; больш як 10 тыс. партызан). Дзейнічалі таксама брыгады і атрады партызанскіх злучэнняў Баранавіцкай (камандзіры В. Я. Чарнышоў, Р. А. Сідарок) і Вілейскай (кіраўнікі І. Ф. Клімаў, Ф. Р. Маркаў) абласцей, іншыя партызанскія фарміраванні. Адна з галоўных баз беларускіх партызан знаходзілася на востраве Зыслаў Любанскага р-на. На партызанскіх аэрадромах Міншчыны прызямляліся самалёты з Вялікай зямлі. Выдаваліся падпольныя газеты «Звязда» [май — верасень 1942 г.— орган Мінскага падпольнага камітэта КП(б)Б; студзень 1943 г.— ліпень 1944 г.— орган ЦК КП(б)Б і Мінскага абкома КП(б)Б], «Бюлетэнь газеты «Партызан Беларусі» [орган Мінскага абкома КП(б)Б], «Чырвоная змена» (орган ЦК ЛКСМБ і Мінскага абкома ЛКСМБ, 1943 г.— ліпень 1944 г.). Апрача таго, свае друкаваныя органы мелі падпольныя міжрайкомы і райкомы КП(б)Б, многія міжрайкомы і райкомы ЛКСМБ, партызанскія брыгады. Толькі ў Слуцкай друкарні выйшла 78 нумароў падпольнай раённай газеты «Народны мсцівец» (1943 г.) агульным тыражом 37,3 тыс. экземпляраў, надрукавана 72 тыс. лістовак і зваротаў, зборнік вершаў беларускага паэта А. Астрэйкі «Слуцкі пояс». Актыўна дзейнічалі падпольныя друкарні і ў іншых раёнах.

Партызаны Міншчыны здзейснілі шмат буйных баявых аперацый, неаднаразова выводзілі са строю падземны кабель, які злучаў стаўку Гітлера з штабам групы армій «Цэнтр». У 1942 г. яны падарвалі 137-метровы і 47-метровы чыгуначныя масты на рэках Пціч і Бобрык. У 1943 г. на шашы Мінск — Слуцк брыгады 300-я імя Варашылава, 27-я імя Чапаева, 200-я імя Ракасоўскага разбілі

варожую аўтакалону, знішчылі 23 грузавыя і 1 легкавую аўтамашыны, 9 прычэпаў з ваеннымі грузамі, 2 браневікі, 3 гарматы, больш за 170 гітлераўцаў. Народнымі мсціўцамі была вызвалена ад акупантаў значная тэрыторыя, створаны вялікія партызанскія зоны, на якіх аднаўлена Савецкая ўлада. Барысаўска-Бягомльская зона ў канцы 1943 г. мела плошчу каля 6 тыс. км$^2$, 1088 населеных пунктаў. Яе абараняла каля 14 тыс. партызан. Паўднёва-Мінская зона займала больш за 4 тыс. км$^2$, Івянецка-Налібоцкая — больш за 2,5 тыс. км$^2$. Калі Акцябрска-Любанская зона злілася з Слуцка-Капыльскай і Ленінскай, атрымаўся партызанскі край плошчай каля 8 тысяч км$^2$.

У ходзе Беларускай аперацыі тэрыторыя Мінскай вобласці вызвалена ў чэрвені — ліпені 1944 г. войскамі 1-га, 2-га і 3-га Беларускіх франтоў (камандуючыя Маршал Савецкага Саюза К. К. Ракасоўскі, генерал-палкоўнікі Г. Ф. Захараў і І. Д. Чарняхоўскі). У вызваленні гарадоў і сёл актыўна ўдзельнічалі партызаны. Да падыходу Чырвонай Арміі яны вызвалілі раённыя цэнтры Капыль, Старобін, Узду, Куранец, Ілью, Свір, Івянец, разам з часцямі Чырвонай Арміі — Чэрвень, Слуцк, Стоўбцы, Маладзечна, Вілейку, Лагойск, Плешчаніцы і інш. Брыгады «Смерць фашызму» і «За Савецкую Беларусь», партызаны іншых брыгад дапамагалі Савецкай Арміі ў ліквідацыі групоўкі ворага ў мінскім «катле».

За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, больш за 80 ураджэнцаў Міншчыны, у т. л. 44 партызаны і падпольшчыкі, удастоены звання Героя Савецкага Саюза. Часцям і злучэнням, якія вызначыліся пры вызваленні Міншчыны, нададзены ганаровыя найменні: «Барысаўскія» (13), «Маладзечанскія» (13), «Мінскія» (52), «Слуцкія» (8).

Нямецка-фашысцкія акупанты знішчылі на тэрыторыі Міншчыны сотні тысяч савецкіх грамадзян. Месцамі масавага знішчэння з'яўляліся Барысаўскі, Драздоўскі, Маладзечанскі, Масюкоўшчынскі, Трасцянецкі і іншыя лагеры смерці. Акупанты разбурылі амаль усе гарады вобласці, разрабавалі прадпрыемствы, калгасы, саўгасы, МТС, школы, бальніцы, установы культуры, спалілі 157 вёсак.

У пасляваенныя гады за кароткі тэрмін адноўлены гарады і вёскі Міншчыны. З 1958 г. для ўсіх значных гарадоў вобласці пачалася распрацоўка новых генеральных планаў або карэкціроўка тых, што былі. Асноўным прынцыпам складання планаў стала стварэнне комплексных населеных пунктаў з выразным вылучэннем жылых і прамысловых зон, зон адпачынку, а таксама добраўпарадкаванне планіровачнай структуры, выяўленне далейшых перспектыў развіцця. У гарадах, якія склаліся гістарычна, захоўвалася квартальная планіроўка з прамавугольнай сеткай вуліц (Маладзечна, Стоўбцы і інш.).

Да канца 70-х гадоў на тэрыторыі вобласці склалася развітая сетка гарадскіх пасяленняў, якая ўключала 40 вялікіх і малых гарадоў. У 1976 г. у Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытуце горадабудаўніцтва была завершана «Схема раённай планіроўкі Мінскай вобласці», якой прадугледжана перспектыўнае раўнамернае развіццё ўсіх гарадоў, размяшчэнне новых галін прамысловасці, упарадкаванне зон адпачынку насельніцтва.

Асобнае месца ў вобласці належыць сталіцы БССР г. Мінску, які займае выключнае становішча па колькасці насельніцтва, тэрыторыі, эканамічным і культурным развіцці.

Мінск упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых часоў» пад 1067 г. Узнік як крэпасць Полацкага княства. З 1.1.1919 сталіца БССР. Галоўны транспартны вузел вобласці і рэспублікі. Амаль дашчэнту разбураны ў Вялікую Айчынную вайну, Мінск за пасляваенныя гады значна вырас, з'яўляецца палітычным, эканамічным, навуковым і культурным цэнтрам рэспублікі. Паводле генплана аднаўлення і развіцця сталіцы (1946 г., інстытут «Белдзяржпраект») створаны грамадскі цэнтр уздоўж Ленінскага праспекта і паркавага дыяметра ў пойме р. Свіслач, сфарміравалася радыяльна-кальцавая планіроўка, сістэмы азелянення і добраўпарадкавання, будаўніцтва ў паўночна-ўсходняй і паўднёва-ўсходняй частках новых прамысловых і жылых раёнаў з дакладным функцыянальным занаваннем. Значным дасягненнем у горадабудаўніцтве гэтага перыяду была забудова цэнтральнай часткі Ленінскага праспекта як грамадскага цэнтра з плошчамі Леніна, Кастрычніцкая, Перамогі. Галоўная вуліца горада — Ленінскі праспект — забудавана шматпавярховымі жылымі дамамі і грамадскімі будынкамі (архіт. Г. Баданаў, М. Баршч, С. Баткоўскі, А. Воінаў, У. Кароль, С. Мусінскі, М. Паруснікаў, Г. Сысоеў, Н. Трахтэнберг, Н. Шпігельман, Дзяржаўная прэмія БССР 1969 г.). З 1960-х гадоў на ўскраінах Мінска забудоўваюцца буйныя жылыя раёны: Зялёны Луг, Чыжоўка, Усход, Серабранка, Курасоўшчына і інш. У 1970—80-я гады створаны комплекс адміністрацыйна-грамадскіх будынкаў на праспекце Машэрава. Забудоўваюцца новыя жылыя раёны Захад, Паўднёвы Захад, Масюкоўшчына, па вул. Сярова, Сурганава. Для сучаснай забудовы Мінска характэрна комплекснае вырашэнне функцыянальных, тэхнічных, эканамічных, эстэтычных задач архітэктуры. Фарміруецца водна-зялёны дыяметр з сістэмай паркаў, бульвараў, вадаёмаў, што праходзяць з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход уздоўж р. Свіслач праз горад. Зоны адпачынку створаны вакол горада ў радыусе 25—50 км у лесапаркавым і знешнім паясах прыгараднай зоны — Вяча, Вясёлка, Вяснянка, Мінскае мора, Пціч, Раўбічы, Стайкі, Верасы, Грыбное, Мядовыя Росы, Чараўніца. У 1984 г. здадзена ў эксплуатацыю 1-я чарга 1-й лініі метрапалі-

тэна, станцыі якога — арыгінальныя творы архітэктуры. У горадзе 3 гістарычна-архітэктурныя зоны: Верхні горад, Троіцкае прадмесце, Ракаўскае прадмесце, дзе захавалася планіроўка 16—19 стагоддзяў і фрагменты капітальнай забудовы 18 — пачатку 19 ст., а таксама асобныя помнікі гісторыі і архітэктуры (касцёлы і кляштары езуітаў, бернардзінцаў, бернардзінак, манастыр базыльян, гасціны двор, дом-сядзіба В. Ваньковіча па вул. Інтэрнацыянальнай, Петрапаўлаўская царква, Троіцкі манастыр базыльянак). У іншых раёнах горада (пераважна ў цэнтральнай частцы) захаваліся асобныя помнікі грамадзянскай жылой, культавай і прамысловай архітэктуры 19—пачатку 20 ст.: царква Марыі Магдаліны, Троіцкі Златагорскі касцёл, царква Аляксандра Неўскага, Кальварыйскі касцёл, Чырвоны касцёл (касцёл Сімяона і Алены), гарадскі тэатр, будынак царкоўна-археалагічнага музея, будынкі вайсковага шпіталя, жаночай Марыінскай гімназіі, чыгуначнай бальніцы, сядзіба ў Лошыцы 1-й (цяпер вул. Чыжэўскіх), жылыя дамы па вул. Маркса, Кірава, Валадарскага, Савецкай, будынкі завода «Крышталь», піўзавода «Беларусь» і інш.

Барысаў — чыгуначная станцыя, прыстань на р. Бярэзіна, другі (пасля Мінска) горад у вобласці па колькасці насельніцтва. Адзін з старажытных населеных пунктаў на тэрыторыі Беларусі (заснаваны ў 1102 г.). Рака Бярэзіна падзяляе горад на 2 часткі — Стара-Барысаў і Нова-Барысаў, якія звязаны паміж сабой аўтамабільным і чыгуначным мастамі. Цэнтрам Стара-Барысава з'яўляецца рыначная плошча, якая гістарычна склалася. Тут захаваўся помнік архітэктуры 19 ст. Васкрасенскі сабор. Грамадскі цэнтр Нова-Барысава — плошча на праспекце Рэвалюцыі, дзе ўзведзены асноўныя грамадскія будынкі: гарвыканкома і гаркома КПБ, універмага, Дома быту. Пры ўваходзе ў гарадскі парк па праспекце Рэвалюцыі ўстаноўлены помнік У. І. Леніну. Сучасны Барысаў — буйны прамысловы цэнтр. Асноўная яго вытворчасць — машынабудаванне і металаапрацоўка.

Вілейка вядома з 1599 г. як мястэчка. Сучасную архітэктурна-планіровачную структуру фарміруюць вуліцы 17 Верасня, Чырвонаармейская, Вадап'янава, забудаваныя 1—4-павярховымі жылымі дамамі. На іх перакрыжаванні плошча Леніна — грамадска-адміністрацыйны і культурны цэнтр, да якога з усходу прымыкае парк культуры і адпачынку на беразе р. Вілія. Зберагліся помнікі архітэктуры — царква 19 ст., Крыжаўзвіжанскі касцёл пачатку 20 ст. Паводле генплана 1979 г. горад развіваецца ў паўднёвым напрамку ўздоўж р. Вілія, вядзецца рэканструкцыя цэнтральнай часткі, якая забудоўваецца 3—6-павярховымі жылымі дамамі з захаваннем існуючай сеткі вуліц, на левабярэжжы ствараецца буйны жылы раён.

Слуцк упамінаецца ў летапісе пад 1116 г. З 2-й паловы 17 ст.— адзін з буйнейшых гарадоў Беларусі. У 1672—1705 гг. тут працавала друкарня. У 1740—1844 гг. існавала мануфактура шаўковых паясоў, у 1738—55 г.— суконная мануфактура. Слуцкія паясы з залатымі і сярэбранымі ніткамі былі шырока вядомы за межамі краіны.



*Салігорск. Забудова плошчы Леніна.*

Некаторыя з іх, што захаваліся, з'яўляюцца выдатнымі помнікамі ткацкага майстэрства. У савецкі час горад перабудоўваецца. У цэнтральнай частцы захавана старажытная радыяльная сістэма планіроўкі. У сутоку рэк Случы і Бычка рэшткі старажытнага гарадзішча з сістэмай земляных умацаванняў — першаасновы горада. Сучасны грамадскі цэнтр фарміруецца пры зліцці 3 вуліц — Леніна, Валадарскага і Урыцкага. Тут узведзены асноўныя грамадскія будынкі: адміністрацыйны, дзе размешчаны гарком КПБ, выканкомы раённага і гарадскога Саветаў народных дэпутатаў, Дом культуры, Дом сувязі і інш. Захаваліся помнікі архітэктуры: Міхайлаўская царква (18 ст.), будынкі дваранскага сходу (19 ст.), мужчынскай гімназіі (19 ст.), духоўнага вучылішча (19 ст.).

Маладзечна — чыгуначны вузел і адзін з прамысловых цэнтраў рэспублікі. Старажытны горад вядомы па пісьмовых крыніцах з 1388 г. Асноўная планіровачная вось — праспект Леніна. Цэнтр гістарычнай часткі горада — плошча Свабоды (былая гандлёвая). Тут размешчаны помнік архітэктуры — Пакроўская царква (1871 г.), будынак кінатэатра «Спадарожнік», магазіны. Новым грамадскім цэнтрам з'яўляецца плошча Леніна, архітэктурны ансамбль якой фарміруюць будынкі гарадскога і раённага камітэтаў КПБ, гасцініцы «Маладзечна», палітэхнікума і інш. Кампазіцыйны цэнтр забудовы — помнік У. І. Леніну (1959 г.). Новае сучаснае жылое будаўніцтва канцэнтруецца ў цэнтральнай частцы горада ўздоўж праспекта Леніна і вуліц Савецкай, Прытыцкага, Жданава, Кірава і інш. Сярод сучаснай забудовы захаваліся помнікі архітэктуры: будынак настаўніцкай семінарыі (1864 г.), чыгуначны вакзал (1907 г.) і інш.

Жодзіна вядома з 17 ст. як вёска Жодзіна Слабада. Горад сфарміраваны поўнасцю пасля Вялікай Айчыннай вайны ў сувязі з будаўніцтвам Смалявіцкай ДРЭС (1951 г.) і завода дарожных і меліярацыйных машын, на базе якога ў 1958 г. пабудаваны Беларускі аўтазавод. Побач з прамысловымі і навукова-даследчымі комплексамі фарміруюцца сучасныя жылыя раёны з прадпрыемствамі бытавога абслугоўвання насельніцтва. Грамадскі цэнтр з адміністрацыйнымі будынкамі, Палацам культуры, кінатэатрам, Домам быту развіваецца на перакрыжаванні праспекта Леніна і вуліцы 50 гадоў Кастрычніка.

Салігорск закладзены ў 1958 г. у сувязі з выяўленнем і распрацоўкай пакладаў калійных солей і будаўніцтвам калійных камбінатаў. Каля 70 % яго жылога фонду складаюць сучасныя вышынныя жылыя дамы (9—15-павярховыя). Горад развіваецца па рэгулярнай прамавугольнай сістэме планіроўкі. Асновай планіровачнай структуры з'яўляюцца 2 галоўныя вуліцы — Леніна і Казлова. На іх перакрыжаванні фарміруецца плошча Леніна — грамадскі цэнтр, дзе ўзведзены Дом Саветаў, Палац культуры, вышынныя жылыя дамы. Вуліца Леніна вядзе да гарадскога парку — месца адпачынку жыхароў, які размясціўся ўздоўж берагоў Салігорскага вадасховішча і зліваецца далей з лесапаркам.



*Лагойск. Панарама забудовы.*



*Мядзел. Забудова вуліцы 17 Верасня.*

Большасць гарадоў і пасёлкаў вобласці — гэта гістарычна складзеныя цэнтры, якія маюць сваю архітэктурна-планіровачную структуру, а таксама выразныя помнікі гісторыі, архітэктуры і мастацтва. Сучаснае развіццё іх ажыццяўляецца з улікам гістарычных асаблівасцей планіроўкі і забудовы. Уцалелыя помнікі культуры актыўна ўключаюцца ў новую забудову.

Сумеснай пастановай Дзяржаўнага камітэта па справах будаўніцтва пры Савеце Міністраў БССР і калегіі Міністэрства культуры БССР ад 7.7.1971 г. у Мінскай вобл. выдзелены 4 гарады — Мінск, Нясвіж, Лагойск і Заслаўе, якія з'яўляюцца своеасаблівымі гарадамі-запаведнікамі, дзе захаваліся комплексы гістарычнай забудовы, прыродныя ландшафты, ёсць горадабудаўнічыя і гістарычныя каштоўнасці. У Нясвіжы шэраг помнікаў архітэктуры з'яўляецца ў сучаснай планіровачнай структуры кампазіцыйнымі цэнтрамі і прыстасаваны да новых патрэб. У Нясвіжскім палацава-замкавым комплексе размяшчаецца санаторый «Нясвіж», у будынку ратушы — Дом піянераў і школьнікаў. Рэстаўрыраваны і іншыя помнікі: гарадская абарончая вежа, Слуцкая брама, пад дзяржаўнай аховай знаходзіцца адзін з выдатных помнікаў беларускага барока — Нясвіжскі касцёл езуітаў. На тэрыторыі Заслаўя размяшчаецца гісторыка-археалагічны запаведнік, у які ўваходзяць гарадзішчы «Вал» з курганным могільнікам і «Замэчак», Спаса-Праабражэнская царква. На беразе р. Гайна ў Лагойскім парку захоўваюцца рэшткі дзядзінца 11—13 стагоддзяў.

З 1959 г. вядуцца работы па перабудове сельскіх населеных месцаў. Распрацоўваюцца новыя тыпы жылых і грамадскіх будынкаў. Створаны эксперыментальна-паказальныя пасёлкі новага тыпу з усімі відамі інжынернага абсталявання, добраўпарадкавання і культурна-бытавога абслугоўвання (цэнтральныя сядзібы калгасаў імя Калініна Нясвіжскага, «Чырвоная змена» Любанскага р-наў і інш.).

Развіваюцца і зоны адпачынку. Асноўным дакументам, які вызначае шляхі развіцця загарадных зон, санаторнага лячэння і турызму, з'яўляецца сумесная пастанова ЦК КПБ і СМ БССР ад 5.10.1970 г. «Аб размяшчэнні і развіцці зон адпачынку, сеткі санаторна-курортнага лячэння і турызму ў БССР». У паўночнай частцы Мядзельскага р-на (і часткова Пастаўскага р-на Віцебскай вобл.) размешчана зона адпачынку «Нарач». Фарміруецца яна вакол азёр Нарачанскіх (найбольшыя Нарач, Мястра, Баторын), Мядзел, Вялікая і Малая Швакшты. Тут размешчаны кліматa-бальнеагразевы курорт рэспубліканскага значэння «Нарач».

Разам з забудовай гарадоў і вёсак вырашаецца задача стварэння манументальнага «летапісу», прызначэнне якога — адлюстраваць перамогу савецкага народа над фашызмам.

У 1945 г. адбыўся конкурс на стварэнне помнікаў героям Вялікай Айчыннай вайны. Гэты від помнікаў стаў адным з вядучых у манументальнай скульптуры вобласці. У Мінску на пл. Перамогі ў 1954 г. устаноўлены Манумент Перамогі (архіт. Г. Заборскі, У. Кароль), у Радашковічах пастаўлены помнік М. Ф. Гастэлу (1958 г., скульпт. З. Азгур), у Маладзечне — Ф. Р. Маркаву (1959 г., скульпт. З. Азгур), паблізу в. Вялікі Лес Салігорскага р-на — братам Івану і Міхаілу Цубам (1966 г., скульпт. С. Селіханаў, архіт. В. Занковіч, Л. Левін), у Любані — Ф. Г. Конанавай (1967 г., скульпт. У. Ананька, архіт. В. Занковіч, Л. Левін), у Крупках — А. Ф. Колесавай (1967 г., скульпт. В. Палійчук, архіт. В. Занковіч, Л. Левін) і інш. Гэтыя помнікі, выкананыя з пераканаўчай жыццёвай канкрэтнасцю, перадаюць духоўны свет, вялікую маральную сілу абаронцаў Радзімы. У многіх населеных пунктах узведзены помнікі на магілах савецкіх воінаў і партызан, насыпаны Курганы Славы, пастаўлены помнікі-танкі (Мінск, Барысаў, в. Пагост Салігорскага р-на і інш.).

Значным і велічным успрымаецца помнік партызанам нарачанскай зямлі, устаноўлены ў в. Мікольцы Мядзельскага р-на (1968 г., скульпт. Б. Маркаў, Я. Печкін, архіт. Ю. Шпіт). Настрой і пафас найвялікшай перамогі над фашысцкай Германіяй увасоблены ў штыку-абеліску, у рэлье-

 фах, дакладных па характару вобразах. Ідэя ўвекавечання памяці загінуўшых партызан злілася тут з ідэяй Перамогі, Славы Айчыны, савецкага патрыятызму.

Філасофскія абагульненні, эмацыянальны напал у адлюстраванні героіка-патрыятычнай тэмы ў мемарыяльных комплексах і манументах, знамянуюць новы этап у паступальным развіцці гэтага віду мастацтва. Выразным сімвалам народнай памяці стаў мемарыяльны комплекс Хатынь (1969 г., архіт. Ю. Градаў, В. Занковіч, Л. Левін, скульпт. С. Селіханаў; Ленінская прэмія 1970 г.). У хатынскім мемарыяле зліліся ў гарманічным сінтэзе скульптура, архітэктура, ландшафт, мастацкае слова, трывожнае гучанне званоў.

Выяўленчыя мастацкія прынцыпы, якія выкарыстаны ў мемарыяле Хатынь, знайшлі далейшае ўвасабленне ў развіцці цэлага шэрагу помнікаў 70-х гадоў. Сярод іх — невялікі, камерны мемарыял на месцы спаленай фашыстамі вёскі Дальва (1973 г., скульпт. У. Церабун). У ім канкрэтнасць, дакументальнасць асяроддзя спалучаюцца з сімвалічнай выразнасцю скульптуры і архітэктурных форм.

Абагульненая трактоўка гераічных падзей, узнаўленне іх у выглядзе сімвалаў, уменне па-новаму асэнсаваць традыцыйныя формы вылучаюць сярод іншых мемарыялаў Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі (на 21-м км аўтамабільнай дарогі Мінск — Масква; 1969 г., скульпт. А. Бембель, архіт. А. Стаховіч, Дзяржаўная прэмія БССР 1970 г., скульпт. А. Арцімовіч, архіт. Л. Міцкевіч, інж. В. Лапцэвіч).

Высокі курган узвышаецца над былымі палямі бітваў. Урачыстасцю напоўнены і дынамічны ўзлёт штыкоў, і кальцо з залатым ззяннем рэльефаў, і прыступкі, якімі, нібы вянком, абвіты курган.



*Мемарыяльны комплекс Хатынь. Фрагмент.*

На маштаб сучаснага горада з'арыентаваны манумент у гонар савецкай маці-патрыёткі ў Жодзіне (1975 г., скульпт. А. Заспіцкі, І. Міско, М. Рыжанкоў, архіт. А. Трафімчук, Дзяржаўная прэмія СССР 1977 г.). Помнік знаходзіцца непадалёку ад вядомага на ўсю краіну Беларускага аўтамабільнага завода. Каля яго штодзень праходзяць рабочыя, выязджаюць на аўтастраду гіганцкія БелАЗы — усё гэта нібы ўключае помнік у рытм сучаснага жыцця. Разнастайнымі выяўленчымі сродкамі, характэрнымі для сучасных мемарыяльных комплексаў, аўтары прадоўжылі традыцыю шматфігурнага помніка. Высокая гуманістычная ідэя, драматычная глыбіня падзеі, сама сапраўднасць факта падказалі своеасаблівае сімволіка-апавядальнае вырашэнне манумента.

Асобнае месца займаюць помнікі савецкім воінам-вызваліцелям і землякам, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Яны пастаўлены амаль у кожным населеным пункце. Выразнасцю і арыгінальнасцю адзначаны помнікі вызваліцелям у Маладзечне, землякам у в. Акцябр Лагойскага і ў в. Натальеўск Чэрвеньскага р-наў, на брацкай магіле савецкіх воінаў у в. Анопаль Мінскага р-на, на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан і на ўшанаванне памяці землякоў у в. Туча Клецкага, в. Дзесяціны Слуцкага р-наў, мемарыялы ў Любані, Слуцку і інш. Гарманічнай ураўнаважанасцю кампазіцыі, выразным сілуэтам вылучаецца архітэктурна-скульптурны комплекс «Мінск — горад-герой» (1985 г., скульптар В. Занковіч, архіт. У. Крамарэнка, В. Яўсееў, У. Раманенка), пастаўлены на праспекце Машэрава ў Мінску ў гонар прысваення гораду звання «Горад-герой». У выяўленчым мастацтве вялікая ўвага аддаецца ленінскай тэме. Пасля Вялікай Айчыннай вайны пастаўлены помнікі У. І. Леніну ў Маладзечне (1958 г., скульпт. З. Азгур, архіт. А. Страгай), Бабруйску (1962 г., скульпт. П. Белавусаў), Салігорску (1980 г., скульпт. А. Бембель) і інш. У зале пасяджэнняў будынка ЦК КПБ у Мінску створаны габелены «Ленінізм» і «СССР. Этапы барацьбы і перамог» (1978—79 гг.; мастакі М. Савіцкі, А. Кішчанка; Дзяржаўная прэмія БССР 1980 г.). Жыхары гарадоў і вёсак вобласці свята ўшаноўваюць памяць гістарычных дзеячаў і дзеячаў нацыянальнай культуры. У Нясвіжы на старой гарадской плошчы пастаўлены помнік філосафу, гуманісту, асветніку 16 ст. Сымону Буднаму (1982 г., скульпт. С. Гарбунова), народным паэтам БССР Янку Купалу ў в. Вязынка Маладзечанскага р-на (1972 г., скульпт. З. Азгур), Якубу Коласу ў в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага р-на (1972 г., скульпт. А. Глебаў), Ф. Э. Дзяржынскаму ў былой сядзібе Дзяржынава Стаўбцоўскага р-на (1977 г., скульпт. С. Вакар, архіт. Ю. Казакоў).

У 1970—80 гг. далейшае развіццё атрымала манументальнае мастацтва. Мазаіка, вітражы, сграфіта, габелен, насценная размалёўка і інш. ўпры-



*Курган Славы.*

гожваюць інтэр'еры і экстэр'еры розных тыпаў будынкаў і збудаванняў. Тарцы вышынных дамоў у мікрараёне Усход-1 у Мінску ўпрыгожаны мазаічнымі пано (1978 г., мастак А. Кішчанка), прысвечанымі Мінску; тарцовая сцяна будынка міжнароднага маладзёжнага цэнтра «Юнацтва» на беразе Заслаўскага вадасховішча афармлена скульптурнай кампазіцыяй (1976 г., каваная медзь, скульпт. М. Рыжанкоў, Б. Маркаў), прысвечанай гісторыі Ленінскага камсамола; інтэр'ер будынка гарадскога вузла сувязі ў Жодзіне — мазаічным пано ў тэхніцы інтарсіі на тэму «Гісторыя развіцця пошты» (1980 г., мастакі А. і П. Гапак) і інш. Творчай дзейнасці мастакоў-вітражыстаў 1970—80-х гадоў характэрны пошук каляровай пластыкі, распрацоўка фактуры каляровага шкла, імкненне больш поўна выкарыстаць яго эстэтычныя магчымасці: вітражы ў будынку НДІ земляробства ў Жодзіне (1976 г., мастак В. Чайка), у кінатэатры «Масква» (1980 г., мастакі Г. і М. Вашчанкі), у Доме мод № 2 на вул. Мельнікайтэ ў Мінску (1981 г., мастакі У. Стальмашонак, В. Даўгала), у кінатэатры «Радзіма» ў Маладзечне (1982 г., мастакі В. Ціханаў, В. Баранцаў).

Помнікі архітэктуры, манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Міншчыны адлюстроўваюць гістарычныя падзеі, развіццё матэрыяльнай і духоўнай культуры ў гэтым рэгіёне. Майстры архітэктуры і мастацтва Мінскай вобл., апіраючыся на народныя традыцыі і дасягненні перадавой сусветнай культуры, уносяць свой уклад у агульнанародную справу камуністычнага будаўніцтва, трымаюць цесную сувязь з жыццём народа і на гэтай аснове праўдзіва адлюстроўваюць самаадданую барацьбу працоўных за перамогу камунізма, за мір і дружбу паміж народамі.

За пасляваенныя гады ў вобласці створаны буйная прамысловасць і высокамеханізаваная сельская гаспадарка. Прамысловыя прадпрыемствы цесна звязаны з Мінскам і ў значнай ступені абслугоўваюць яго патрэбы. У 1960—70-я гады хуткімі тэмпамі развіваліся машынабудаванне і металаапрацоўка. Найбольшыя прадпрыемствы: Беларускі аўтамабільны завод (Жодзіна), заводы аўтатрактарнага абсталявання, аўтарамонтны, агрэгатаў, «Аўтагідраўзмацняльнік» (Барысаў), сілавых паўправадніковых вентыляў, станкабудаўнічы, металаканструкцый, металавырабаў (Маладзечна). Развіваецца прамысловасць: горназдабыўная і хімічная — вытворчасць калійных угнаенняў на базе Старобінскага радовішча калійных солей (аб'яднанне «Беларуськалій» у Салігорску), пластмасавых і гумаватэхнічных вырабаў (Барысаў); лесахімічная і дрэваапрацоўчая — вытворчасць мэблі (Барысаў, Маладзечна, Слуцк, Вілейка), фанеры, запалак, піяніна (Барысаў); дрэваапрацоўчыя камбінаты ў Лагойску, Крупках, Івянцы, Старобіне. Створана буйная будаўнічая індустрыя: вытворчасць жалезабетонных вырабаў (Барысаў, Маладзечна, Заслаўе, Смалявічы, Салігорск), будаўнічых дэталей (Вілейка), будаўнічых матэрыялаў (Заслаўе, Радашковічы) і інш. Лёгкая прамысловасць прадстаўлена галінамі: швейнай (Дзяржынск, Барысаў, Маладзечна), трыкатажнай (Салігорск, Жодзіна), гарбарна-абутковай (Смалявічы, Маладзечна, Мар'іна Горка, Узда), тэкстыльнай (Слуцк). Асноўныя галіны харчовай прамысловасці — мясная (Барысаў, Маладзечна, Слуцк, Стоўбцы), масласыраробная і малочная (Слуцк, Валожын, Клецк, Любань, Капыль, Халопенічы, Беразіно, Вілейка, Барысаў, Маладзечна, Салігорск, Нясвіж і інш.), мукамольна-крупяная (Барысаў, Слуцк), цукровая (Гарадзея). Шэраг крухмальных і агародніна-кансервавых заводаў размешчаны ў раёнах са значнай вытворчасцю бульбы, садавіны, агародніны.

Энергетыка базіруецца на торфе і прывазным паліве (каменны вугаль, нафтапрадукты, прыродны газ). Працуе Смалявіцкая ДРЭС. Сельская гаспадарка спецыялізуецца на малочна-мясной жывёлагадоўлі са значным развіццём ільнаводства, у паўднёвых і паўднёва-заходніх раёнах — на малочна-мясной жывёлагадоўлі і буракасеянні. Пашыраны пасевы збожжавых культур і бульбы. У Мінскім і Смалявіцкім р-нах развіта птушкага-



*Цэнтральная сядзіба саўгаса «Новае Палессе» імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка Салігорскага раёна.*

доўля. Створаны рыбакамбінаты «Любань», «Чырвоная Слабада», «Волма», «Нарач», рыбгас «Альба» (Нясвіжскі р-н).

Дасягнулі росквіту навука, культура, народная асвета і ахова здароўя вобласці. Галоўным навуковым і культурным цэнтрам з'яўляецца Мінск, дзе размешчаны Акадэмія навук БССР, 14 вышэйшых навучальных устаноў, 12 музеяў, 7 прафесійных тэатраў. У 1985/86 навучальным годзе ў вобласці (тут і далей без Мінска) працавалі 1160 агульнаадукацыйных школ, 17 сярэдніх спецыяльных навучальных і 804 дашкольныя установы. У 1985 г. функцыяніравалі 1231 масавая бібліятэка, 12 навукова-даследчых і 1213 клубных устаноў, 1454 кінаўстаноўкі, 16 музеяў, 164 бальніцы. Працавалі 18,8 тыс. настаўнікаў, 4314 урачоў і 14 667 чалавек сярэдняга медыцынскага персаналу. Выдаецца 27 газет, у т. л. абласная «Мінская праўда», 3 аб'яднаныя, 19 раённых і 4 шматтыражныя.

За дасягненні ў развіцці народнай гаспадаркі і культуры вобласць узнагароджана 2 ордэнамі Леніна (1.2.1967 г. і 23.12.1970 г.).

*Літ.:* Ленін У. І. Крытычныя заметкі па нацыянальнаму пытанню.— Тв., т. 20 (Полн. собр. соч., т. 24); яго ж. Аб пралетарскай культуры.— Тв., т. 31 (Полн. собр. соч., т. 41); Абезгауз З. Е. Развитие промышленности и формирование пролетариата Белоруссии во второй половине XIX века.— Мн., 1971; яго ж. Рабочий класс Белоруссии в начале XX в. (1900—1913 гг.).— Мн., 1977; Абецедарский Л. С. Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI—XVII в.— Мн., 1978; Аблова Р. Т. Это было в Белоруссии.— М., 1957; Адамович А. Хатынская повесть.— М., 1974; яго ж. Каратели: Радость ножа, или Жизнеописания гипербореев.— Мн., 1981; Адамовіч А., Брыль Я., Калеснік У. Я з вогненнай вёскі...— Мн., 1983; Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии).— М., 1966; Андрющенко Н. Дорогами подвигов: Памятники и памятные места революционной, боевой и трудовой славы на Минщине.— 2 изд.— Мн., 1978; Антипенко Н. А. На главном направлении.— Мн., 1982; Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975; Антонович В. Б. Очерк истории Великого княжества Литовского до половины XV столетия. В. 1.— Киев, 1878; Археалогія, нумізматыка і геральдыка Беларусі.— Мн., 1979; Архивное дело в БССР (1918—1968): Сб. законодательных и руководящих документов.— Мн., 1972; Архитектура и градостроительство Советской Белоруссии.— Мн., 1957; Архитектура Советской Белоруссии.— М., 1973; Барановский Е. И. Памятные места Великой Октябрьской социалистической революции в Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1978; Баркоўскі С. 1 мая на Беларусі.— 3 выд.— Мн., 1932; Батов П. И. В походах и боях.— 3 изд.— М., 1974; Батюшков П. Н. Белоруссия и Литва: Исторические судьбы Северо-Западного края.— СПб., 1890; Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся.— СПб., 1855; Белогорцев И. Д., Гурин И. И., Кустанович С. М. Развитие городов Белоруссии.— Мн., 1967; Белоруссия в Союзе Советских Республик.— Мн., 1972; Белоруссия в эпоху капитализма. В 3-х т. Т. 1. Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии.— Мн., 1983; Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Т. 1—4.— Мн., 1959—79; Белорусская ССР: Административно-территориальное деление на 1 января 1986 года.— 7 изд.— Мн., 1986; Белорусский «экватор»: Путевая книга в шести тетрадях.— Мн., 1981; Белявцев В. И. Памятные места, связанные с жизнью и деятельностью соратников В. И. Ленина в Белоруссии.— Мн., 1976; яго ж. В. И. Ленин и Белоруссия.— Мн., 1978; Белязо А. П. Беларуская вёска ў пасляваенныя гады (1945—1950).— Мн., 1974; Библиотечное дело в БССР: Документы и материалы. 1918—1941.— Мн., 1978; Б-ич М. О. Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883—1903 гг.— Мн., 1973; яго ж. Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 гг.— Мн., 1983; Богданович А. В., Сидоров П. А. Города Белоруссии.— Мн., 1967; Богданович М. История Отечественной войны 1812 года по достоверным источникам. Т. 1—3.— СПб., 1859—60; Бойко В. Р. С думой о Родине.— М., 1982; Болбас М. Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.).— Мн., 1966; яго ж. Промышленность Белоруссии. 1860—1900.— Мн., 1978; Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг.: Сб. документов и материалов. Т. 1—2.— Мн., 1968—71; Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР: Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1962—72; Браім І. М. Рыбалоўства ў Беларусі: Гісторыка-этнаграфічны нарыс.— Мн., 1976; Брунаў М. І. Беларуская архітэктура XI—XII ст.— У кн.: Зборнік артыкулаў. Этнаграфія. Антрапалогія. Псіхалогія, псіхатэхніка і навуковая арганізацыя працы. Гісторыя мастацтва. Мн., 1928; Брюханов А. И. В штабе партизанского движения.— Мн., 1980; БССР: Эканоміка-статыстычны даведнік.— Мн., 1931; Бугай Н. Ф. Ревкомы: Научно-популярный очерк.— М., 1981; В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте: Воспоминания активных участников Октябрьской революции.— Мн., 1957; В борьбе за Советскую власть.— Мн., 1967; В борьбе и труде: Участие женщин Белоруссии в революционном движении, социалистическом и коммунистическом строительстве.— 2 изд.— Мн., 1977; В боях за Белоруссию.— 2 изд.— Мн., 1974; В боях и походах.— Мн., 1972; В едином строю: Воспоминания участников партизанского движения в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1970; В лесах Белоруссии: Воспоминания советских партизан и немецких антифашистов.— Мн., 1977; В памяти народной: Путеводитель по местам борьбы за установление Советской власти в Белоруссии, за честь, свободу и независимость социалистической родины.— Мн., 1969; В труде и в бою.— Мн., 1970; Вайнруб Е. Г. Курганы боевой славы.— Мн., 1981; яго ж. Танк на пьедестале.— Мн., 1979; Василевский А. М. Дело всей жизни.— 5 изд.— М., 1984; Ваупшасов С. А. Партизанская хроника.— 2 изд.— Мн., 1971; яго ж. На тревожных перекрестках: Записки чекиста.— 2 изд.— М., 1974; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1957; Великая Отечественная война Советского Союза. 1941—1945: Краткая история.— 2 изд.— М., 1970; Власенко Н. В. Борьба Компартии Белоруссии за построение экономического фундамента социализма. 1926—1932 гг.— Мн., 1970; Вождь, учитель и друг: Воспоминания уроженцев Белоруссии о В. И. Ленине.— 2 изд.— Мн., 1985; Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975; яго ж. Жилищное строительство в Белорус-

**27. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАРОЗАВУ** Міхаілу Ільічу (гіст.). Вул. Марозава, 39. Устаноўлена ў 1947 г. на будынку школы-інтэрната, дзе ў 1936—39 гг. вучыўся Герой Савецкага Саюза М. І. Марозаў.

Нарадзіўся 24.1.1922 г. у Барысаве ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1942 г. Скончыў Барысаўскае педвучылішча. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім, Варонежскім, Цэнтральным і 1-м Украінскім франтах. Вызначыўся ў жніўні — верасні 1943 г. пры вызваленні Украіны. Артылерыйская батарэя пад камандаваннем старшага лейтэнанта М. І. Марозава з баямі прайшла 450 км, знішчыла 3 гарматы, мінамёт, 2 ручныя кулямёты, 7 аўтамашын з грузам, 460 гітлераўцаў, адбіла 5 контратак ворага. У бai за плацдарм на р. Сейм цяжка паранены М. І. Марозаў працягваў кіраваць агнём батарэі, забяспечваў прарыў абароны праціўніка і вызваленне некалькіх населеных пунктаў. Батарэя ў ліку першых фарсіравала Дзясну, Дняпро, Прыпяць, падтрымлівала агнём пяхоту. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 16.10.1943 г. 18.11.1943 г. прапаў без вестак. Імем героя названы вуліца і піянерская дружына школы-інтэрната ў Барысаве.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**28. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. 30 гадоў ВЛКСМ, 18, на будынку фанернагапалкавага камбіната. Устаноўлена ў 1969 г. у памяць аб дзейнасці тут у Вялікую Айчынную вайну групы камуністычнага падполля. У склад групы ўваходзілі камуністы, камсамольцы і беспартыйныя савецкія патрыёты. Актыўнымі яе членамі былі А. Д. Дзмітрыеў, В. К. Палонік (закатавана гестапаўцамі ў 1943 г.), В. М. Кончык, А. Д. Хацкевіч і інш. Патрыёты ўстанавілі сувязь з разведчыцай Чырвонай Арміі Г. І. Кулікавай, якая дзейнічала ў Барысаве, па яе заданню збіралі даныя аб праціўніку. Падпольшчыкі распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, рабілі дыверсіі (псавалі фабрычнае абсталяванне і прадукцыю, узарвалі цэхі, дзе рабілі міны), здабывалі і перадавалі партызанам зброю і боепрыпасы.

*Літ.:* Ерусалимчик Л. Ф., Гилевич Ж. В. Борисов: Историко-экономический очерк.— Мн., 1976; Грабоўскі С. К. Барацьба барысаўскіх падпольшчыкаў у гады Вялікай Айчыннай вайны.— Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1980, № 3. *Г. І. Дулеба.*

**29. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Заводская, 45, на будынку клуба дрэваапрацоўчага камбіната імя Камінтэрна.

Устаноўлена ў 1969 г. у памяць аб дзейнасці групы Барысаўскага камуністычнага падполля, якая была створана на камбінаце восенню 1941 г. Работу групы накіроўваў Барысаўскі падпольны гарком-райком КП(б)Б. У групу ўваходзілі І. Н. Дэмскі (кіраўнік), В. М. Андрыеўскі, В. М. Андрыеўская, П. Зуева, С. М. Манкевіч, Л. К. Пігулеўская, М. Сманцар, І. Ф. Субоцін і інш. Члены групы вялі антыфашысцкую прапаганду, распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, збіралі звесткі аб ворагу. Важнае месца ў іх дзейнасці займалі дыверсіі. Патрыёты зрабілі пажар у лесапільні, палілі піламатэрыялы, якія акупанты рыхтавалі для адпраўкі ў Германію, неаднаразова псавалі электрарухавікі, выводзілі са строю іншае абсталяванне камбіната. У барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі загінулі І. Н. Дэмскі, С. М. Манкевіч і інш.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1.— Мн., 1983; Ерусалимчик Л. Ф., Гилевич Ж. В. Борисов: Историко-экономический очерк.— Мн., 1976; Грабоўскі С. К. Барацьба барысаўскіх падпольшчыкаў у гады Вялікай Айчыннай вайны.— Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1980, № 3. *Г. І. Дулеба.*

**30. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Авіяпалка Нармандыя-Нёман, 94. Устаноўлена ў 1979 г. на ўшанаванне памяці М. М. Комар і іншых членаў групы Барысаўскага камуністычнага падполля, якая дзейнічала ў Вялікую Айчынную вайну ў гарадской інфекцыйнай бальніцы.

У групу ўваходзілі ўрачы Е. М. Белая, М. І. Цыгановіч, медсёстры М. М. Комар (кіраўнік), Н. Кучынская, А. І. Сталярова, В. Я. Хадасевіч, Л. Якаўлева і інш. Падпольшчыкі распаўсюджвалі лістоўкі, здабывалі і перадавалі партызанам медыкаменты, неаднаразова праводзілі дыверсіі ў санаторыі, дзе лячыліся нямецкія афіцэры, у сталовай для лётчыкаў. У лютым 1944 г. М. М. Комар арыштавана і закатавана акупантамі.

*Літ.:* Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978; Гилевич Ж. В. Борисов и окрестности: Справочник-путеводитель.— Мн., 1986. *У. У. Бянько.*

**31. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Прывакзальная пл., на будынку чыгуначнага вакзала.

Устаноўлена ў 1969 г. у памяць аб дзейнасці групы камуністычнага падполля, якая была створана на чыгуначнай станцыі ў Вялікую Айчынную вайну. Яна яднала камуністаў, камсамольцаў і беспартыйных патрыётаў. У склад групы ўваходзілі Дз. І. Лебедзеў (кіраўнік), Ф. А. Валёк, П. Токараў, Н. П. Токарава («Патрыёт»), Д. Б. Вярэка, А. Я. Зайцаў і інш. Патрыёты збіралі і перадавалі партызанам звесткі аб руху эшалонаў, размяшчэнні ахоўных пунктаў, мініравалі паравозы, псавалі абсталяванне на чыгуначнай станцыі, узарвалі тэлефонную калонку «Бокс», праз якую акупанты падтрымлівалі сувязь з фронтам, 27.12.1943 г. П. Токараў і Н. П. Токарава на чыгуначнай станцыі залажылі 40 кг толу з зарадам і магнітнай мінай, у выніку знішчана 2 паравозы, 3 платформы з баявой тэхнікай, забіта 23 і паранена 9 гітлераўцаў. Падпольшчыкі выявілі некалькі агентаў ворага. У барацьбе з акупантамі загінулі П. Токараў, Н. П. Токарава і інш.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1.— Мн., 1983; Ерусалимчик Л. Ф., Гилевич Ж. В. Борисов: Историко-экономический очерк.— Мн., 1976; Грабоўскі С. К. Барацьба барысаўскіх падпольшчыкаў у гады Вялікай Айчыннай вайны.— Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1980, № 3. *Г. І. Дулеба.*

**32. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Генерала Тоўсцікава, 2, на адміністрацыйным корпусе хрусталёвага завода імя Ф. Э. Дзяржынскага. Устаноўлена ў 1968 г. у памяць аб дзейнасці ў Вялікую Айчынную вайну на прадпрыемстве групы камуністычнага падполля, якая ўзнікла адна з першых у горадзе і была цэнтральнай.

Арганізатары і кіраўнікі групы І. П. Даўгалаў (Далгалаў) і У. У. Лазоўскі. У яе склад уваходзілі С. У. Басалкін, Б. К. Замбржыцкі, Ф. Ф. Кавалёў, Б. П. Качан, М. І. Прырыз, К. І. Ржавуцкі, Я. Ф. Чарноў і інш. Падпольшчыкі наладзілі падпольныя яўкі, здабылі радыёпрыёмнік, слухалі зводкі Саўінфармбюро, размнажалі іх на машынцы і распаўсюджвалі, вялі таксама вусную прапаганду сярод насельніцтва. Яны ўладкоўваліся на работу ў нямецка-фашысцкія ўстановы, забяспечвалі партызан і падпольшчыкаў дакументамі акупацыйных улад (пашпартамі, пропускамі, прадуктовымі картачкамі), выводзілі да партызан ваеннапалонных, выратоўвалі людзей ад вывазу на катаржныя работы ў Германію. Так, падпольшчык Я. Ф. Чарноў дапамог уцячы з канцлагераў 60 ваеннапалонным і пераправіцца да партызан. Члены групы рабілі дыверсіі, збіралі для партызан звесткі аб размяшчэнні варожых часцей і абарончых збудаванняў, зброю, медыкаменты. Абсталявалі на заводзе тайнік, дзе захоўвалі здабытыя для партызан рэчы. Мелі сувязь з Барысаўскім падпольным гаркомам-райкомам КП(б)Б, дапамагалі ствараць у горадзе новыя падпольныя групы, накіроўваць іх работу. Акупанты напалі на след падпольшчыкаў, яны схапілі і расстралялі І. П. Даўгалава, У. У. Лазоўскага, Б. К. Замбржыцкага. У барацьбе з гітлераўцамі загінулі таксама Б. П. Качан, К. І. Ржавуцкі і некаторыя іншыя падпольшчыкі.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны.— Т. 1.— Мн., 1983; Мачульский Р. Н.

Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978; Грабоўскі С. К. Барацьба барысаўскіх падпольшчыкаў у гады Вялікай Айчыннай вайны.— Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1980, № 3.
*Г. І. Дулеба.*

**33. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПІЯНЕРАМ-ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. 3-га Інтэрнацыянала, 49. Устаноўлена ў 1972 г. на будынку Дома піянераў і школьнікаў у гонар членаў падпольнай піянерскай групы, якая дзейнічала ў горадзе ў гады нямецка-фашысцкай акупацыі.

У групу ўваходзілі Віктар Пашкевіч (кіраўнік), Алесь Клімковіч, Мелік Буцвілоўскі, Валя Сакалова. Юныя патрыёты наладзілі сувязь з членамі камуністычнага падполля горада, расклейвалі лістоўкі, здабылі для партызан 263 вінтоўкі, 25 аўтаматаў, 21 кулямёт, узарвалі 3 варожыя аб'екты, удзельнічалі ў аперацыі па вызваленні ваеннапалонных з канцлагера. Летам 1942 г. акупанты напалі на след групы. Піянеры пайшлі ў лес да партызан. Разам з дарослымі яны хадзілі на баявыя заданні, у разведку. За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў барацьбе з ворагам, кіраўнік падпольнай піянерскай групы В. Г. Пашкевіч узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, а яе ўдзельнікі — медалямі «Партызану Айчыннай вайны» 1-й ступені.

*Літ.:* Кукуня В. Р. Піянеры Міншчыны — героі вайны.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1975, № 3.
*У. У. Бянько.*

**34. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАДПОЛЬНАГА ШПІТАЛЯ** (гіст.). Праспект Рэвалюцыі, 4, на будынку гасцініцы «Бярэзіна», пабудаванай на месцы гарадской бальніцы (спалена ў 1944 г.). Устаноўлена ў 1974 г. у гонар падпольнага шпіталя, які працаваў у будынку гарадской бальніцы ў час акупацыі горада нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Падпольны шпіталь арганізаваны медыцынскімі работнікамі горада ў канцы чэрвеня 1941 г., калі ішлі цяжкія абарончыя баі на р. Бярэзіна. На чыгуначную станцыю былі дастаўлены для адпраўкі каля 60 цяжкапараненых савецкіх воінаў, сярод якіх былі байцы 1-й Маскоўскай мотастралковай дывізіі. Загадчык станцыйнага медпункта П. М. Вусцін з дапамогай жыхароў горада перанёс і размясціў іх у будынку радзільнага дома, што стаяў непадалёку ад станцыі. Разам з П. М. Вусцінам былі ўрач Я. Starжынскі, медсёстры А. Астроўская, М. Раманоўская, Ю. Бабіцкая, Н. Чайкоўская, А. Хоміч і інш. Эвакуіраваць параненых не ўдалося. Калі гітлераўцы ўвайшлі ў горад, медперсанал пераапрануў параненых у бальнічнае адзенне, на іх завялі гісторыі хваробы, як на мясцовых жыхароў. Падпольны шпіталь легальна называлі гарадской бальніцай. Паступова ўрачы і параненыя воіны наладзілі сувязь з мясцовымі падпольшчыкамі, якія здабывалі для шпіталя медыкаменты, прадукты, афармлялі на хворых дакументы. Супрацоўнікі шпіталя мелі сувязь з урачамі мясцовага канцлагера № 382 для ваеннапалонных. Некаторых ваеннапалонных удалося вырваць з рук гітлераўцаў і змясціць у шпіталь. Тут уратавалі нямала партызан, параненых у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Вясною 1942 г. у партызаны былі перапраўлены 40 вылечаных воінаў. У партызанскія брыгады «Дзядзькі Колі» і імя П. К. Панамарэнкі са шпіталя дастаўлялі медыкаменты, медыцынскія інструменты, перавязачны матэрыял. Восенню 1943 г. амаль увесь персанал шпіталя пайшоў у партызанскую брыгаду «Дзядзькі Колі».

*Літ.:* Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978; Гілевіч Ж. В. Тут быў падпольны шпіталь.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1976, № 3.
*У. У. Бянько.*



36. *Помнік Р. К. Арджанікідзе.*

**35. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ХАЦКЕВІЧУ** Аляксандру Ісакавічу (гіст.). Вул. Дзяржынскага, 64. Устаноўлена ў 1969 г.

Савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч А. І. Хацкевіч нарадзіўся 16.1.1895 г. у в. Навасёлкі Барысаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з сакавіка 1917 г. З 14 гадоў працаваў на Барысаўскім лесапільным заводзе. У 1-ю сусветную вайну з 1915 г. у арміі, малодшы унтэр-афіцэр тэлеграфнай роты Усць-Дзвінскага гарнізона. Пасля ранення вярнуўся на радзіму, у час акупацыі тэрыторыі войскамі кайзераўскай Германіі вёў рэвалюцыйную работу сярод сялян. Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі актыўна змагаўся за ўстанаўленне Савецкай улады на Барысаўшчыне. З снежня 1918 г. старшыня Лошніцкіх валасных выканкома і рэўкома. Арганізаваў у воласці партыйную ячэйку. У час акупацыі тэрыторыі войскамі буржуазнай Польшчы адзін з арганізатараў камуністычнага падполля і партызанскага руху. З мая 1920 г. старшыня Барысаўскай павятовай рабоча-сялянскай інспекцыі, з снежня старшыня выканкома Барысаўскага павятовага Савета. У 1921 г. узначальваў камісію па барацьбе з бандытызмам, спекуляцыяй, дэзерцірствам, удзельнічаў у баявых аперацыях. У снежні 1922 г. А. І. Хацкевіч як член паўнамоцнай дэлегацыі БССР на 1-м з'ездзе Саветаў СССР падпісаў Дэкларацыю аб утварэнні Саюза ССР. З мая 1924 г. старшыня выканкома Магілёўскага акруговага Савета, з красавіка 1925 г. нарком унутраных спраў БССР. У 1926—31 гг. пастаянны прадстаўнік урада БССР пры ўрадзе СССР, з мая 1927 г. сакратар ЦВК БССР, з лютага 1931 г. нарком фінансаў БССР. У 1935—37 гг. сакратар Савета Нацыянальнасцей ЦВК СССР. Уваходзіў у склад рэдакцыйнай камісіі па выпрацоўцы Канстытуцыі СССР, якая была прынята ў 1936 г. Член Кантрольнай Камісіі ЦБ КП(б)Б у 1920—21 гг., член ЦБ КП(б)Б у 1922—23 гг. Кандыдат у члены ЦК у 1927 г. і член ЦК КП(б)Б у 1927—37 гг., кандыдат у члены Бюро ЦК КП(б)Б у 1929—34 гг. Член ЦВК СССР у 1922—24 гг., 1925—37 гг., кандыдат у члены ЦВК СССР у 1924—25 гг., член Прэзідыума ЦВК СССР у 1927—1935 гг., кандыдат у члены Прэзідыума ЦВК СССР у 1935—37 гг. Член ЦВК БССР у 1920—37 гг., член Прэзідыума ЦВК БССР у 1925—36 гг. Аўтар прац «Жанчына і новы быт» (1930 г.), «Аб пераходзе ад акруговай сістэмы кіраўніцтва на раённую» (1931 г.). А. І. Хацкевіч памёр 27.8.1943 г. У Барысаве яго імем названа вуліца, у в. Лошніца ўстаноўлена мемарыяльная дошка.
*У. У. Бянько.*

**36. ПОМНІК АРДЖАНІКІДЗЕ** Рыгору Канстанцінавічу (гіст.). На скрыжаванні праспекта Рэвалюцыі і вул. Арджанікідзе.

У ліпені 1919 г. краіны Антанты пачалі чарговы паход на маладую Савецкую рэспубліку сіламі армій Калчака, Дзянікіна, Юдзеніча, Мілера і інш. Цяжкае становішча склалася на Заходнім фронце. У сувязі з гэтым ЦК РКП(б) накіраваў у Беларусь Р. К. Арджанікідзе, які быў прызначаны членам рэўваенсавета 16-й арміі. Ён правёў вялікую работу па арганізацыі абароны Беларусі, распрацаваў план контрудару ў раёне Барысава. У выніку гэтай аперацыі 25.5.

1920 г. войскі буржуазнай Польшчы былі адкінуты за Бярэзіну, горад вызвалены.

У 1936 г. дзяржаўнаму і партыйнаму дзеячу Р. К. Арджанікідзе пастаўлены помнік, які ў Вялікую Айчынную вайну быў разбураны нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1947 г. тут пастаўлены новы помнік — скульптура Р. К. Арджанікідзе. *У. У. Бянько.*

37. **ПОМНІК ГЕРОЯМ-ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Чапаева, у скверы, каля будынка цэнтральнай бібліятэкі.

У Вялікую Айчынную вайну 10 ураджэнцам Барысаўшчыны было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза: Евелю Самуілавічу Бялявіну, Мацвею Рыгоравічу Вайнрубу, Яўсею Рыгоравічу Вайнрубу, Паўлу Канстанцінавічу Казакевічу (гл. артыкул № 109 «Мемарыяльная дошка Казакевічу Паўлу Канстанцінавічу»), Міхаілу Ільічу Марозаву (гл. артыкул № 27 «Мемарыяльная дошка Марозаву Міхаілу Ільічу»), Уладзіміру Рыгоравічу Рыжову (гл. артыкул № 160 «Мемарыяльная дошка Рыжову Уладзіміру Рыгоравічу»), Міхаілу Яўсеевічу Рабцаву, Паўлу Фёдаравічу Тоўсцікаву, Аляксандру Карнеевічу Харчанку (гл. артыкул № 142 «Мемарыяльная дошка Харчанку Аляксандру Карнеевічу»), Сцяпану Іванавічу Чарняку (гл. артыкул № 222 «Мемарыяльная дошка Чарняку Сцяпану Іванавічу»).

Бялявін Е. С. нарадзіўся 3.5.1920 г. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1941 г. Працаваў слесарам на заводах Барысава. У 1937 г. скончыў Мінскі аэраклуб, потым ваенную школу лётчыкаў. У Вялікую Айчынную вайну з лістапада 1941 г. удзельнік баёў на Паўднёвым, Закаўказскім, Сцяпным, 2-м і 1-м Украінскіх франтах: камандзір звяна, эскадрыллі бамбардзіроўшчыкаў. Зрабіў каля 300 баявых вылетаў. У час баёў на Белгародска-Харкаўскім напрамку група бамбардзіроўшчыкаў пры вяртанні з задання была атакавана варожымі знішчальнікамі, якія ўдвая перавышалі яе па колькасці. Быў падбіты самалёт камандзіра эскадрыллі. Е. С. Бялявін прыкрыў яго сваёй машынай, прыняў увесь агонь на сябе, даючы камандзіру магчымасць выйсці з небяспечнай зоны. Потым пасадзіў свой пашкоджаны самалёт на бліжэйшы аэрадром. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 4.2. 1944 г. У 1945 г. у ліку першых з паветра штурмаваў Берлін. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Жыў і працаваў у Мінску. Памёр 10.9.1972 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

Вайнруб М. Р., генерал-лейтэнант танкавых войск (1959 г.), нарадзіўся 2.5.1910 г. у Барысаве ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1931 г. Скончыў Аб'яднаную беларускую ваенную школу (1931 г.), ваенныя акадэміі імя Фрунзе (1941 г.), Генштаба (1951 г.).



38. *Помнік У. І. Леніну.*

З 1924 г. працаваў на шклозаводзе ў Барысаве. З 1929 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. на Заходнім, Паўднёва-Заходнім, Сталінградскім, 3-м Украінскім, 1-м Беларускім франтах. Быў начальнікам разведкі дывізіі, камандуючым бранятанкавых і механізаваных войск 62-й (з 1943 г. 8-й гвардзейскай) арміі. Удзельнік абароны Сталінграда генерал-маёр М. Р. Вайнруб вызначыўся ў студзені 1945 г. пры прарыве абароны ворага на левым беразе Віслы на поўдзень ад Варшавы. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 6.4.1945 г. Да 1970 г. служыў у Савецкай Арміі. Жыве ў Кіеве.

Вайнруб Я. Р. нарадзіўся 15.5. 1909 г. у Барысаве ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1937 г. Скончыў Маскоўскі індустрыяльны інстытут (1931 г.), курсы ваенных перакладчыкаў (1937 г.). Працаваў на шклозаводзе ў Барысаве. У Чырвонай Арміі з 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на фронце. Удзельнічаў у абароне Беларусі, у баях пад Смаленскам, Масквой, Тулай і Арлом, а таксама ў вызваленні Беларусі. Са снежня 1944 г. гвардыі падпалкоўнік Я. Р. Вайнруб камандаваў танкавай брыгадай, якая вызначылася ў 1945 г. у Вісла-Одэрскай аперацыі. За 2 месяцы баёў брыгада вызваліла больш за 400 населеных пунктаў Польшчы, адна з першых уварвалася ў Берлін. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 6.4. 1945 г. Да 1955 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Жыве ў Мінску.

Рабцаў М. Я. нарадзіўся 4.6. 1923 г. у Барысаве ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Мінскі аэраклуб (1941 г.), Чарнігаўскую ваенную авіяцыйную школу пілотаў (1942 г.). У Вялікую Айчынную вайну з сакавіка 1943 г. на Калінінскім, Сцяпным, Заходнім, Бранскім, 1-м Прыбалтыйскім, 3-м Беларускім, 1-м Украінскім франтах. Удзельнічаў у Курскай бітве, у вызваленні Беларусі (Оршы, Віцебска, Барысава, Мінска), Літвы, у баях на тэрыторыі Усходняй Прусіі, Германіі, Чэхаславакіі. Камандзір звяна знішчальнага авіяпалка гвардыі старшы лейтэнант М. Я. Рабцаў зрабіў 147 баявых вылетаў, збіў 15 самалётаў праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.6. 1945 г. Да 1975 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Жыве ў Маскве.

Тоўсцікаў П. Ф., генерал-маёр (1945 г.), нарадзіўся 26.10.1904 г. у Барысаве ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1929 г. Працаваў у Барысаве на шклозаводзе, запалкавай фабрыцы. З 1926 г. у Чырвонай Арміі. Скончыў Кіеўскую пяхотную школу (1930 г.), курсы ўдасканалення пры Ваеннай акадэміі імя Фрунзе (1946 г.), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваеннай акадэміі Генштаба (1953 г.). Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Цэнтральным, Заходнім, Бранскім, 1-м Прыбалтыйскім і 3-м Беларускім франтах. Быў начальнікам аператыўнага аддзела штаба дывізіі, нам. начальніка аператыўнага аддзела



39. *Помнік У. І. Леніну.*

штаба арміі, начальнікам штаба стралковай дывізіі, корпуса, камандзірам гвардзейскай стралковай дывізіі. Удзельнічаў у абарончых баях на Беларусі ў 1941 г., Маскоўскай і Курскай бітвах, у вызваленні Беларусі, у разгроме ворага ва Усходняй Прусіі. Летам 1944 г. дывізія пад камандаваннем гвардыі палкоўніка П. Ф. Тоўсцікава вызначылася пры фарсіраванні Бярэзіны, вызваленні Барысава, Мінска, фарсіраванні Нёмана, у 1945 г. у баях пад Кёнігсбергам і Пілаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 5.5.1945 г. Да 1957 г. служыў у Савецкай Арміі. Жыў у Маскве. Памёр 1.5.1985 г. Ганаровы грамадзянін г. Барысава.

У 1985 г. у гонар землякоў — Герояў Савецкага Саюза пастаўлены мемарыяльны знак з памятным надпісам і пасаджаны 10 бяроз.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**38. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На праспекце Рэвалюцыі, каля цэнтральнага ўвахода ў парк культуры і адпачынку імя М. Горкага. Скульптура У. І. Леніна (скульпт. А. В. Грубэ) устаноўлена ў 1934 г. У Вялікую Айчынную вайну помнік разбураны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1947 г. на пастаменце, які захаваўся, устаноўлена новая скульптура правадыра.

**39. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст., маст.). На Цэнтральнай пл. Пастаўлены ў 1986 г. (скульпт. А. Анікейчык, архіт. Л. Левін, Ю. Градаў; бронза, чырвоны граніт; вышыня пастамента 3,2 м, скульптуры 5 м).

У. І. Ленін паказаны ў поўны рост, побач з трыбунай, на якую апіраецца левай рукой. Рух правай рукі як бы сцвярджае выбітыя на трыбуне словы «Уся ўлада Саветам!». Энергічна ўзнятая галава, пастава перадаюць унутраную дынаміку вобраза. Выява разгорнутага сцяга побач з фігурай садзейнічае ўспрыняццю помніка як сімвала рэвалюцыі. Спалучэнне чырвонага граніту і цёмнай бронзы ўзмацняе яго мастацкую выразнасць.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**40. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. 10 год БССР, каля будынка сярэдняй школы № 12. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1967 г.

**41. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. 30 год ВЛКСМ, у парку фанерна-запалкавага камбіната. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г.

**42. ПОМНІК САВЕЦКІМ ТАНКІСТАМ** (гіст.). Аўтамагістраль Мінск — Масква, каля моста цераз р. Бярэзіна.

Летам 1944 г. Чырвоная Армія з мэтай поўнага вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў пачала наступальную аперацыю «Баграціён». У ходзе ўпартых баёў перадавыя часці 5-й гвардзейскай танкавай арміі пад камандаваннем маршала бранятанкавых войск П. А. Ротмістрава выйшлі ў канцы чэрвеня 1944 г. да р. Бярэзіна ў раёне Барысава. Уздоўж аўтамагістралі Масква — Мінск у напрамку на Барысаў наступала 3-я танкавая брыгада 3-га гвардзейскага Кацельнікаўскага танкавага корпуса. Узводу, якім камандаваў гвардыі лейтэнант П. М. Рак, была пастаўлена задача захапіць масты цераз рэкі Сха і Бярэзіна, забяспечыць пераправу галоўных сіл корпуса.

У ноч з 29 на 30.6.1944 г. нечакана для ворага 4 танкі на вялікай хуткасці з ходу праскочылі мост цераз р. Сха і накіраваліся да Бярэзіны. Гітлераўцы адкрылі моцны артылерыйскі агонь. У ходзе бою 3 танкі былі падбіты. Экіпажу танка П. М. Рака ўдалося праскочыць праз варожы заслон і мост, які гітлераўцы адразу ж узарвалі. Знішчаючы на сваім шляху абарончыя ўмацаванні праціўніка, адважныя танкісты ўварваліся на вуліцы Барысава. На працягу 17 гадзін экіпаж танка Т-34 у складзе камандзіра лейтэнанта П. М. Рака, механіка-вадзіцеля старшага сяржанта А. А. Пятраева, стралка-радыста сяржанта А. І. Данілава вёў няроўны бой з гітлераўцамі. Савецкія танкісты нанеслі ворагу значныя страты: знішчылі са-

маходную артылерыйскую ўстаноўку «Фердынанд», зенітную батарэю, 2 калоны аўтамашын, 2 паравозы, 2 танкі, штаб нямецкай часці і камендатуру, шмат гітлераўцаў. Былі выратаваны ад гібелі каля 200 ваеннапалонных чырвонаармейцаў. Супраць савецкага танка праціўнік кінуў некалькі танкаў і самаходных гармат. Гітлераўцам удалося падпаліць танк. Адважныя танкісты загінулі. Пахаваны на вул. 8 Сакавіка (гл. артыкул № 7 «Брацкія магілы савецкіх воінаў»). 24.3.1945 г. П. М. Раку, А. А. Пятраеву, А. І. Данілаву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1960 г. на ўшанаванне памяці членаў гераічнага экіпажа пастаўлены помнік — танк на пастаменце. Імёнамі герояў названы вуліцы ў Барысаве.

*Літ.:* В боях за Белоруссию.— 2 изд.— Мн., 1974; В памяти народной.— Мн., 1969; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Андрющенко Н. Дорогами подвигов.— 2 изд.— Мн., 1978; Никольский Н. С. Ценою жизни.— М., 1966.

*У. У. Бянько.*

**43. ПОМНІК У ГОНАР ГВАРДЗЕЙСКАЙ ПРАЛЕТАРСКАЙ МАСКОЎСКА-МІНСКАЙ МОТАСТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ** (гіст.). На вул. 1-й Маскоўскай дывізіі.

У пачатку ліпеня 1941 г. на рубяжы р. Бярэзіна ў раёне Барысава дывізія (камандзір палкоўнік Я. Р. Крэйзер) ва ўзаемадзеянні з курсантамі Барысаўскага танкавага вучылішча вяла ўпартыя абарончыя баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На працягу амаль 3 сутак (1—3.7.1941 г.) мотастралкі стрымлівалі націск 18-й танкавай дывізіі гітлераўцаў. Асабліва цяжкія баі разгарэліся ўздоўж аўтамагістралі Мінск — Масква. Тут займаў абарону 175-ы полк і танкісты дывізіі. У гэтых баях вызначыўся кулямётны ўзвод, якім камандаваў лейтэнант Р. Ібаруры, сын дзеяча іспанскага і міжнароднага рабочага руху Д. Ібаруры. На працягу 6 гадзін байцы стрымлівалі атакі гітлераўцаў. Р. Ібаруры быў цяжка паранены. За мужнасць, праяўленую ў гэтым баі, быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. 3 ліпеня ворагу ўдалося ўклініцца ў абарону савецкіх войск і вымусіць мотастралкоў адысці.

У баях на Бярэзіне воіны дывізіі разам з курсантамі-танкістамі знішчылі больш за 1,5 тыс. гітлераўцаў, каля 70 танкаў, 150 аўтамабіляў, 12 самалётаў, шмат інш. тэхнікі праціўніка. За ўмелае кіраўніцтва баявымі дзеяннямі камандзіру дывізіі палкоўніку Я. Р. Крэйзеру 22.7.1941 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. У час баёў пад Смаленскам дывізіі нададзена найменне «Гвардзейскай». Летам 1944 г. яна (камандзір палкоўнік П. Ф. Тоўсцікаў) у складзе 11-й гвардзейскай арміі 3-га Беларускага фронту ўдзельнічала ў вызваленні Беларусі, у т. л. Барысаўскага р-на. 3.8.1944 г. ёй нададзена найменне «Мінскай». Вайну скончыла ва Усходняй Прусіі.

У 1980 г. у гонар баявых подзвігаў дывізіі пастаўлена стэла.

*Літ.:* Кузнецов П. Г. Пролетарская Московско-Минская.— 2 изд.— М., 1975.

*У. У. Бянько.*

**44. ПОМНІК ЧАЛОЎСКАЙ** Людміле Іванаўне (гіст., маст.). На праспекце Рэвалюцыі, у скверы. Пастаўлены ў 1958 г.

Удзельніца партызанскага руху на Барысаўшчыне ў Вялікую Айчынную вайну Л. І. Чалоўская нарадзілася 25.9.1924 г. у Магілёве ў сям'і ваеннаслужачага. Член ВЛКСМ з 1940 г. З 1935 г. жыла ў Барысаве. Вясною 1941 г. скончыла 8 класаў 2-й сярэдняй школы. З ліпеня 1941 г. член камсамольска-маладзёжнай групы Барысаўскага камуністычнага падполля. Распаўсюджвала лістоўкі, збірала зброю і боепрыпасы, звесткі аб размяшчэнні нямецкіх войск. З лютага 1942 г. разведчыца і сувязная партызанскага атрада імя Ф. Э. Дзяржынскага брыгады «Дзядзькі Колі», з ліпеня 1943 г.— у партызанскай спецыяльнай групе НКДБ СССР «Артур». Падтрымлівала сувязь з падпольнымі групамі ў Барысаве, перадавала ім міны, узрыўчатку для дыверсій, збірала звесткі разведкі для партызан, здабывала бланкі пашпартоў, удзельнічала ў арганізацыі ўцёкаў ваеннапалонных. Дом, дзе жыла маці Люсі ў Барысаве, быў явачнай кватэрай партызанскіх сувязных і падпольшчыкаў. 3.10.1943 г. пры выкананні чарговага задання Л. І. Чалоўская была схоплена гітлераўцамі і кінута ў Барысаўскую турму. Пасля катаванняў расстраляна ў ноч з 6 на 7.11.1943 г. Пасмяротна ўзнагароджана 2 ордэнамі Айчыннай вайны 1-й ступені. Імем адважнай партызанкі названы вуліца і піянерская дружына сярэдняй школы № 13 у Барысаве.

Помнік (скульпт. С. Селіханаў, архіт. Г. Калюжны; бетон; агульная вышыня 4,4 м) — скульптурная фігура Л. І. Чалоўскай на простым і строгім пастаменце. У зграбнай фігуры, лёгкім, але рашучым кроку дзяўчыны адлюстраваны валявы парыў і абаяльнасць юнацтва, маральная сіла адважнай партызанкі. Скульптура вабіць жыццёвасцю і адухоўленасцю вобраза.

*Літ.:* Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978; Андрющенко Н. Дорогами подвигов.— 2 изд.— Мн., 1978.

*У. У. Бянько, Л. Г. Лапцэвіч.*

**45. РАДЗІМА АДАМОВІЧА** Іосіфа Аляксандравіча (гіст.).

Дзяржаўны дзеяч БССР І. А. Адамовіч нарадзіўся 26.12.1896 г. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1918 г. Працаваў у Барысаве, Мінску, Крупках, Тыфлісе. У 1914 г. прызваны ў армію. Удзельнік 1-й сусветнай вайны, старшы унтэр-афіцэр, узнагароджаны 3 георгіеўскімі крыжамі. Быў 2 разы паранены. З 1916 г. член РСДРП ін-



*44. Помнік Л. І. Чалоўскай.*



*42. Помнік савецкім танкістам.*

тэрнацыяналістаў. За рэвалюцыйную дзейнасць па прыгавору ваеннага суда пасланы на Румынскі фронт. Растлумачваў салдатам лозунгі рэвалюцыі, арганізоўваў мітынгі, братанні з салдатамі аўстра-венгерскай арміі. Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі 1917 г. сакратар Барысаўскага павятовага Савета. З лютага 1918 г. у Чырвонай Арміі, удзельнік Грамадзянскай вайны на Беларусі. Узнагароджаны Ганаровай рэвалюцыйнай зброяй. З ліпеня 1920 г. член Мінскага губернскага ВРК і губернскі ваенны камісар, член ВРК БССР і ваенны камісар Беларусі. З снежня 1920 г. нарком ваенных спраў БССР, адначасова з 1921 г. нарком унутраных спраў БССР і намеснік старшыні ЦВК і СНК БССР. З сакавіка 1924 да мая 1927 г. старшыня СНК БССР. Член Рэўваенсавета СССР (1924—25 гг.). Шмат увагі аддаваў падрыхтоўцы нацыянальных кадраў, развіццю беларускай культуры, асабліва літаратуры. З мая 1927 г. член прэзідыума ВСНГ СССР і старшыня праўлення Цукратрэста СССР. З 1932 г. начальнік Камчацкага акцыянернага таварыства рыбапрамысловых арганізацый СССР. Член Цэнтральнага Бюро ў 1920—22 г., ЦК і Бюро ЦК КП(б)Б у 1924—27 гг. Член ЦВК СССР у 1924—29 гг. Член ЦВК БССР у 1920—27 гг. і яго Прэзідыума ў 1920—22 гг., 1924—27 гг.

І. А. Адамовіч памёр 22.4.1937 г. Яго імем названа вуліца ў Барысаве.

*Літ.:* Шамардзіна С. Старонкі з біяграфіі Язэпа Адамовіча.— Полымя, 1966, № 4. *У. У. Бянько.*

**46. РАДЗІМА БАРЫСЕНКІ** Васіля Васілевіча (гіст.).

Беларускі савецкі літаратуразнавец і крытык, акадэмік АН БССР (1969 г., член-карэспандэнт з 1957 г.), доктар філалагічных навук, прафесар (1956 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1974 г.) В. В. Барысенка нарадзіўся 12.4.1904 г. у сям'і чыгуначніка. Член КПСС з 1928 г. Працоўны шлях пачаў чорнарабочым на чыгунцы. У 1924 г. скончыў Барысаўскі педагагічны тэхнікум, у 1929 г.— літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне БДУ, у 1932 г.— аспірантуру пры Акадэміі навук БССР. З 1932 г. дэкан літаратурнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута. Адначасова ў 1934 г. старшы навуковы супрацоўнік, з 1937 г. дырэктар Інстытута літаратуры і мовы АН БССР. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1946 г. дырэктар, з 1973 г. старшы навуковы супрацоўнік-кансультант Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР.

Распрацоўваў праблемы тэорыі і гісторыі беларускай літаратуры, беларускай тэксталогіі, даследаваў творчасць Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, В. Дуніна-Марцінкевіча, З. Бядулі, Я. Лучыны, П. Труса, М. Лынькова, Т. Шаўчэнкі. Аўтар літаратуразнаўчых прац «Францішак Багушэвіч і праблема рэалізму ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя» (1957 г.), «Роля рускай класічнай літаратуры ў развіцці рэалізму беларускай літаратуры пачатку XX ст.» (1963 г., разам з В. У. Івашыным) і інш. Навуковы рэдактар і сааўтар «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (т. 1—2, 1964—1966 гг.), «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (т. 1—2, 1968—69 гг.). За ўдзел у двухтомным даследаванні «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» і «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры» (на рускай мове, 1977 г.) яму прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Коласа 1980 г. Адзін з аўтараў «Нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры» (1956 г.), зборніка «У. І. Ленін і літаратура» (1970 г.), падручніка для 8-га класа «Беларуская літаратура» (19 выд., 1978 г., разам з В. У. Івашыным). Складальнік хрэстаматый: для педвучылішчаў «Беларуская літаратура (дакастрычніцкі перыяд)» (1953 г.), для 10-га класа «Родная літаратура» (14 выд., 1961 г.), зборнікаў тэкстаў «Беларуская дакастрычніцкая проза» (1965 г.), «Беларуская дакастрычніцкая паэзія» (1967 г.) і інш.

В. В. Барысенка памёр 26.7.1984 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *У. У. Бянько.*

**47. РАДЗІМА ТРУСАВА** Антона Даніпавіча (гіст.).

Беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64 гг. на Беларусі, дзеяч міжнароднага рэвалюцыйнага руху А. Д. Трусаў нарадзіўся 15.5.1835 г. у сям'і паштальёна. Скончыў Мінскую гімназію. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце ў 1854—56 гг. і 1860—61 гг. Паслядоўнік ідэй М. Г. Чарнышэўскага і К. С. Каліноўскага. У 1861—62 гг. быў актыўным удзельнікам мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі, вёў агітацыю за паўстанне сярод навучэнцаў, дробных чыноўнікаў і рамеснікаў. Каб пашыраць рэвалюцыйныя ідэі сярод сялян, уладкаваўся пісарам у Латыголіцкае валаснае праўленне Барысаўскага павета. У 1863 г. узначаліў Мінскі паўстанцкі атрад, з якім далучыўся да атрада С. В. Ляскоўскага і ўдзельнічаў у баях з карнікамі на тэрыторыі Мінскай губерні. Пасля задушэння паўстання эміграваў. У 1871 г. уваходзіў у Жэнеўскі камітэт дапамогі парыжскім камунарам. Адзін з арганізатараў друкарні рускага народніцкага часопіса «Народное дело», з 1873 г. уладальнік друкарні. Выконваў абавязкі сакратара Рускай секцыі 1-га Інтэрнацыянала (створана ў сакавіку 1870 г.). Разам з іншымі членамі секцыі аказаў вялікую дапамогу К. Марксу і Ф. Энгельсу ў барацьбе супраць раскольніцкай дзейнасці Бакуніна ў Інтэрнацыянале. Пасля спынення дзейнасці Рускай секцыі (1872 г.) А. Д. Трусаў працягваў выданне рускай рэвалюцыйнай літаратуры, рабіў спробы наладзіць сувязі з рэвалюцыйным падполлем Расіі, з дзеячамі рэвалюцыйнага руху іншых народаў. У 1884 г. прадаў сваю друкарню марксісцкай групе «Вызваленне працы», цяжка хворы вярнуўся ў Мінск, дзе быў узяты пад нагляд паліцыі. Памёр каля 1886 г.

*Літ.:* Перапіска К. Маркса і Ф. Энгельса з рускімі палітычнымі дзеячамі.— Мн., 1954; Козьмин Б. П. Русская секция Первого Интернационала.— М., 1957; Кісялёў Г. Сейбіты вечнага.— Мн., 1963; Шпадарук И. Борцы за народное дело.— Мн., 1968; Петрова Л. Н. Женевская типография А. Д. Трусова.— Вопросы истории, 1971, № 10. *Г. В. Кісялёў.*

**48. СІНАГОГА** (архіт.). У Стара-Барысаве, вул. 3-га Інтэрнацыянала, 49. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Цяпер тут Дом піянераў і школьнікаў.

Прамавугольны ў плане выцягнуты ў глыбіню двара двухпавярховы будынак накрыты двухсхільным дахам. Вулічны фасад дэкарыраваны буйнымі лапаткамі, філёнгамі, завершаны трапецападобным шчытом. Галоўны ўваход з бакавога фасада. Аконныя праёмы вулічнага фасада прамавугольныя, бакавога — гарызантальна выцягнутыя, дваровага — шырокія, арачныя. Планіровачна будынак падзелены цэнтральным вестыбюлем на 2 палавіны — квадратную залу і падоўжаны кулуар са службовымі памяшканнямі і бакавой лесвіцай на другі паверх.

Будынак сінагогі — помнік архітэктуры з рысамі канструктывізму.

*А. М. Кулагін*

**в. Аздзяцічы, цэнтр сельсавета**

**49. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 29 воінаў, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 31-й арміі 3-га Беларускага фронту. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**50. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, на высокім карэнным беразе р. Бярэзіна. Займае мыс, утвораны глыбокімі ярамі, якія спадаюць у нізкую, месцамі забалочаную пойму. Пляцоўка авальная, памерам 50×30 м, выцягнута з захаду на ўсход. З усходняга боку ўмацавана валам вышынёй каля 0,7 м і ровам глыбінёй 0,4—0,5 м, з поўначы і поўдня абмежавана ярамі вышынёй 8—9 м. Адкрыў у 1931 г. А. М. Ляўданскі, даследаваў у 1958 г. А. Р. Мітрафанаў, раскапана 264 м² плошчы. Выяўлены рэшткі 2 жытлаў, заглыб-

леных на 0,15—0,3 м у зямлю. Плошча аднаго жытла 17, другога — 26 м². Знойдзены рэшткі ляпнога глінянага посуду, гліняныя прасліцы, наканечнік кап'я, абломак нажа. Адносіцца да ранняга перыяду культуры штрыхаванай керамікі (6 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.). Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970. *А. Р. Мітрафанаў.*

**51. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**51а.** Могільнік-1. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Пяскі, побач з сучаснымі вясковымі могілкамі. Захавалася 50 курганоў вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 6—8 м. У 1930 г. А. М. Ляўданскі раскапаў 4 насыпы. Знойдзены перапаленыя косці, ляпныя гаршкі, пашкоджаныя бронзавыя ўпрыгожанні. На грунце пад курганамі выяўлена агнішча. Датуецца 8—9 стагоддзямі.

**51б.** Могільнік-2. За 0,5 км на захад ад фермы. Захавалася 45 насыпаў вышынёй 0,4—2 м, дыяметрам 5—7 м. У 1929—30 гг. А. М. Ляўданскі раскапаў 9 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на паўночны захад. У жаночых пахаваннях знойдзены металічныя і шкляныя пацеркі, жалезны нож. Абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц. Датуецца 11—12 стагоддзямі. Належаў дрыгавічам.

Матэрыялы раскопак могільнікаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Ю. А. Заяц, Г. В. Штыхаў.*

**52. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 221 земляка, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск, абапал яго — 2 стэлы.

**в. Баравыя, Вяляціцкі сельсавет**

**53. ПОМНІК САВЕЦКІМ АКТЫВІСТАМ** (гіст.). За 0,6 км на поўнач ад вёскі, з правага боку ад дарогі Баяры — Зорычы, на паляне ў лесе. Тут у ліпені 1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 16 актывістаў Вяляціцкага сельсавета. У 1979 г. на месцы загубы пастаўлена стэла.

**в. Барань, Майсееўшчынскі сельсавет**

**54. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**54а.** Гарадзішча. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Царкавішча, на ўзвышшы ў лесе. Пляцоўка прамавугольная, памерам 46×35 м, умацавана валам вышынёй 0,8 м. Вядома з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. В. А. Карпека. Раскопкі не праводзіліся.

**54б.** Могільнік. За 1 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Робскае. Захавалася 11 курганоў вышынёй 1—1,6 м, дыяметрам 6—8 м. Вядома з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. В. А. Карпека. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Бараўляны, Карсакавіцкі сельсавет**

**55. МАГІЛА АГАВЕЛЬЯНА** Карласа Гусакавіча (гіст.). На могілках. Камандзір групы падрыўнікоў партызанскага атрада «Ленінец» брыгады «Дзядзькі Колі» К. Г. Агавельян загінуў 11.6.1944 г. У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Баяры, Лошніцкі сельсавет**

**56. МАГІЛА БЯРОЗКІ** Антона Цімафеевіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя К. Я. Варашылава партызанскай брыгады імя М. А. Шчорса А. Ц. Бярозка загінуў 5.9.1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.



*57. Помнік землякам.*

**57. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 85 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Боркі, Вяляціцкі сельсавет**

**58. МАГІЛА ТАЛКНОВА** А. А. **І ШАСЦІГЛАЗАВА** Р. І. (гіст.). На могілках. Пахаваны савецкія воіны А. А. Талкноў і Р. І. Шасціглазаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні Барысаўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Брылі, Весялоўскі сельсавет**

**59. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, каля яра. 9 курганоў вышынёй 0,8—1,6 м, дыяметрам 6—8 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**60. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС У ГОНАР РУСКІХ ВОІНАЎ** (гіст., маст.). За 0,5 км ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна.

У раёне вёсак Брылі і Студзёнка 14—16.11.1812 г. руская армія пад камандаваннем М. І. Кутузава пры пе-



*54а. Гарадзішча. План.*




*51. Курганныя могільнікі. Планы.*




*54б. Курганны могільнік. План.*




*59. Курганны могільнік. План.*



60. *Мемарыяльны комплекс у гонар рускіх воінаў.*

раправе цераз Бярэзіну разграміла рэшткі адступаючых напалеонаўскіх войск. У 1912 г. на ўшанаванне памяці рускіх воінаў, якія загінулі ў баях на р. Бярэзіна, і з нагоды 100-годдзя з дня перамогі над напалеонаўскай арміяй быў пастаўлены помнік. Разбураны ў 1920 г. польскімі інтэрвентамі. Захаваўся маналітны пастамент з памятным надпісам: «Доблесным продкам егерам 7-га, 3-га і 12-га палкоў, загінуўшым у бітвах на рацэ Бярэзіне 14—16 лістапада 1812 г. Удзячныя нашчадкі: 93-і Іркуцкі, 112-ы Уральскі, 108-ы Саратаўскі пяхотныя палкі».

У 1962 г. да 150-годдзя памятнай бітвы пастаўлены новы помнік (скульпт. М. Рыжанкоў; бетон, чыгуннае ліццё; вышыня 3 м) — стэла прызматычнай формы з уманціраванымі ў яе чыгуннымі плітамі. На іх — рэльефныя выявы воінаў каля гарматы з карцеччу і сялян з рагацінамі і віламі ў руках. Побач з помнікам пасаджаны мемарыяльны гай. У ім 9 брацкіх магіл рускіх воінаў, што загінулі ў бітве на Бярэзіне.

*У. У. Бянько, Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Будзенічы, Іканскі сельсавет**

**61. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 3 км на ўсход ад вёскі, у лесе. Пахавана больш за 150 партызан брыгад «Дзядзькі Колі», імя С. М. Кірава, імя П. К. Панамарэнкі і інш. фарміраванняў злучэння Барысаўска-Бягомльскай зоны, якія загінулі ў маі — чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у час прарыву блакады. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**62. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,1 км на паўночны захад ад вёскі.

Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан. Пахавана больш за 250 савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і двое дзяцей.

Брацкая магіла партызан. Пахаваны партызаны злучэння Барысаўска-Бягомльскай зоны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху на тэрыторыі Мінскай і Вілейскай абласцей Павел Антонавіч Жуковіч.

П. А. Жуковіч нарадзіўся ў 1904 г. у Барысаве. Член КПСС з 1930 г. З 1922 г. працаваў на Барысаўскім шклозаводзе. З 1935 г. на прафсаюзнай, партыйнай і гаспадарчай рабоце. З 1939 г. загадчык аддзела Чашніцкага райкома КП(б)Б, 1-ы сакратар Куранецкага райкома КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну на фронце. З жніўня 1942 г. у тыле ворага: упаўнаважаны ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху, кіраўнік Барысаўскага міжрайпартцэнтра (6.10.1942 г. — ліпень 1943 г.), член Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б (з 28.5.1943 г.). П. А. Жуковіч загінуў 15.6.1944 г.

У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

Брацкая магіла партызан. Пахаваны 3 партызаны атрада імя І. В. Сталіна партызанскай брыгады «Дзядзькі Колі», якія загінулі ў чэрвені 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. устаноўлена надмагільная пліта.

Брацкая магіла чэхаславацкіх патрыётаў. Пахаваны грамадзяне Чэхаславакіі — партызаны брыгады «Дзядзькі Колі», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на Барысаўшчыне ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

Магіла ахвяр фашызму. Пахаваны 3 мірныя жыхары вёскі, загубленыя 29.5.1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

Магіла Камышнікава Рыгора Фёдаравіча. Партызан брыгады «Дзядзькі Колі» Р. Ф. Камышнікаў загінуў 24.6.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

Магіла Лапаціна Пятра Рыгоравіча.

Адзін з кіраўнікоў партызанскага руху на тэрыторыі Мінскай і Віцеб-



62. *Брацкія могілкі савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму.*

скай абласцей, Герой Савецкага Саюза П. Р. Лапацін нарадзіўся 13.12. 1906 г. у в. Ізлягошча Усманскага р-на Ліпецкай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1947 г. З 1917 г. працаваў у сельскай гаспадарцы, у 1934—35 гг.— у органах НКУС, з 1936 г.— на чыгуначнай станцыі Мінск. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. камандзір аддзялення, потым узвода партызанскага атрада, з сакавіка 1942 г. кіраўнік спецыяльнай разведвальна-дыверсійнай групы НКДБ СССР «Бывалыя», з жніўня 1942 г. камандзір партызанскай брыгады «Дзядзькі Колі», якая дзейнічала на тэрыторыі Мінскай вобл. (гл. артыкул № 88 «Помнік у гонар партызанскай брыгады «Дзядзькі Колі»). Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. З 1944 г. працаваў намеснікам старшыні Барысаўскага гарвыканкома, потым — райвыканкома. У 1952—62 гг. на гаспадарчай рабоце. Памёр 9.7.1974 г.

У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

Магіла Садоўскага Мікалая Кліменцьевіча.

Начальнік штаба партызанскага злучэння Барысаўска-Бягомльскай зоны М. К. Садоўскі загінуў 24.6.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978; яго ж. На огненной земле.— Мн., 1983; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**в. Будзяніцкая Рудня, Іканскі сельсавет**

**63. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 103 жыхары вёскі, якіх 29.5.1943 г. расстралялі ці спалілі жывымі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Бытча, Прыгарадны сельсавет**

**64. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАЎРУ** Янку (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1971 г.

У вёсцы ў 1905—06 гг. жыў і працаваў настаўнікам беларускі савецкі пісьменнік, адзін з пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры для дзяцей Янка Маўр (сапраўднае Іван Міхайлавіч Фёдараў).

**65. ЦАРКВА** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на ўзвышшы. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

Чатырохчасткавая кампазіцыя будынка складаецца з асноўнага кубападобнага аб'ёму з пакатым шатровым дахам, апсіды, бабінца і двух'яруснай званіцы (чацвярык на чацвярыку). У дэкоры выкарыстаны кілепадобныя франтоны і аркі, здвоеныя бочкападобныя паўкалоны, цыбулепадобныя купалы (не захаваліся). Фасады асноўнага аб'ёму дэкарыраваны філёнгавым фрызам і вуглавымі лапаткамі. Галоўны і бакавыя ўваходы, аконныя праёмы прамавугольныя. Унутраная прастора царквы складаецца з рознавялікіх, размешчаных па падоўжнай планіровачнай восі памяшканняў: тамбура, бабінца, асноўнай залы, апсіды. Па баках тамбура і апсіды вылучаны бакоўкі. Бабінец, асноўная зала і апсіда перакрыты драўлянымі корабавымі скляпеннямі і аб'яднаны шырокімі лучковымі аркамі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Бягі, Мётчанскі сельсавет**

**66. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарэлікі, на левым беразе р. Бярэзіна, за 1 км на паўднёвы ўсход ад вусця р. Мужанка. Захаваліся 4 курганы вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 8—10 м. Адкрыў у 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Бярозаўшчына, Іканскі сельсавет**

**67. КАМЕНЬ** (археал.). Мясцовая назва Князь-камень. За 2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Турыя Горы, ці Гмалярскі Бор. Да каменя вядзе дарога, якая называецца Падкняжа. Валун вышынёй 1,5 м парослы мохам. На ім высечаны знакі, адзін з якіх нагадвае трызубец. Вядомы з 1893 г., абследавала ў 1985 г. Л. У. Дучыц. Аб камені вядомы шматлікія легенды.

*Літ.:* Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 2.— СПб., 1893.

**в. Вераскі, Перасадскі сельсавет**

**68. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.



65. *Царква. Галоўны фасад.*



69. *Помнік землякам.*

**в. Весялова, цэнтр сельсавета**

**69. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельскага Савета. На ўшанаванне памяці 46 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлены абеліск.

**70. ПОМНІК САВЕЦКІМ ЛЁТЧЫКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі.

У чэрвені — ліпені 1941 г. на рубяжы р. Бярэзіна савецкія воіны вялі цяжкія абарончыя баі са значна большымі сіламі праціўніка. Раніцай 5.7. 1941 г. група лётчыкаў 53-га далёкабамбардзіровачнага авіяцыйнага палка атрымала заданне знішчыць варожую пераправу цераз Бярэзіну каля в. Весялова. У час бамбардзіроўкі адна з машын была падбіта. Экіпаж самалёта ў складзе камандзіра лейтэнанта М. А. Булыгіна, штурмана лейтэнанта М. К. Калесніка, стралка-радыста малодшага сяржанта П. В. Ці-



65. *Царква. Бакавы фасад.*




65. *Царква. План.*



70. *Помнік савецкім лётчыкам.*

това і паветранага стралка старшага сяржанта Н. К. Кусянкова накіраваў ахопленую полымем машыну на пераправу. Цаною свайго жыцця лётчыкі знішчылі пераправу, некалькі танкаў і аўтамашын з боепрыпасамі працўніка.

У 1980 г. на ўшанаванне памяці лётчыкаў і ў гонар іх подзвігу пастаўлена стэла. *У. У. Бянько.*

**в. Востраў, Хаўхоліцкі сельсавет**

**71. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Сасноўшчына. 30 насыпаў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 7—9 м. Каля вялікіх насыпаў адзначаны раўкі. Абследаваў у 1979 г. В. А. Карпека. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вуглы, Прыгарадны сельсавет**

**72. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 12 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вялікае Стахава, Прыгарадны сельсавет**

**73. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

**74. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, за 0,2 км ад могілак, на другой надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіны. Плошча 500 м². Выявіў і абследаваў у 1978 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м, разворваецца. Сабраны крамянёвыя нуклеусы, сярэдзінны разец, скоблі, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы. Адносіцца да эпохі мезаліту. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ксяндзоў У. П. Помнікі каменнага веку ў сярэднім цячэнні ракі Бярэзіна.— У кн.: Помнікі культуры: Новыя адкрыцці. Мн., 1985. *У. П. Ксяндзоў.*

**75. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 95 землякоў — воінаў, партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**76. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы.

У Вялікую Айчынную вайну з верасня 1941 г. да красавіка 1942 г. у вёсцы дзейнічала камуністычнае падполле, якое налічвала 25 чалавек. Кіраўнікі С. Л. Бочак, В. П. Бальшакоў, А. І. Валагжанін. З снежня 1941 г. трымала сувязь з Барысаўскім камуністычным падполлем. Падпольшчыкі вялі палітычную агітацыю сярод насельніцтва, пісалі і распаўсюджвалі лістоўкі, збіралі зброю і боепрыпасы для партызан, вучылі моладзь ваеннай справе. У лютым 1942 г. на чыгуначным участку Барысаў — Лядзішчы пусцілі пад адхон варожы эшалон. У сакавіку 1942 г. гітлераўцы напалі на след падпольшчыкаў, арыштавалі 13 чалавек. 25.3.1942 г. пасля цяжкіх катаванняў расстралялі. Тыя, хто пазбег арышту, пайшлі ў партызаны.

У 1979 г. на ўшанаванне памяці падпольшчыкаў пастаўлена стэла.

**в. Вялікая Трасцяніца, Весялоўскі сельсавет**

**77. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**78. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 жыхароў в. Кішчына Слабада, якіх 20.1.1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Вялікая Ухалода, Мётчанскі сельсавет**

**79. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Цагельня. Пляцоўка авальная, памерам 36×20 м, умацавана 2 валамі і ўзвышаецца над наваколлем на 4 м. Адкрыў у 1929 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**80. МЕСЦА ФАРСІРАВАННЯ БЯРЭЗІНЫ Ў 1944 г.** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі.

30.6.1944 г. 331-я Чырванасцяжная Смаленская стралковая дывізія 71-га стралковага корпуса 31-й арміі 3-га Беларускага фронту фарсіравала тут р. Бярэзіна і павяла далейшае наступленне на захад за поўнае вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на месцы фарсіравання Бярэзіны пастаўлена стэла.

**81. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы, у скверы. На ўшанаванне памяці 112 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з лаўровым вянком.

**в. Вялікія Негнавічы, Лошніцкі сельсавет**

**82. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў 1942 г. у час выканання баявога задання. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**83. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 46 воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёсак Вялікія і Малыя Негнавічы, Грабло, Шыліна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 19-й танкавай брыгады 3-га Кацельнікаўскага танкавага корпуса 5-й гвардзейскай танкавай арміі. У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Вяляцічы, цэнтр сельсавета**

**84. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Перавоз, дзе зліваюцца рэкі Бобр і Нача. Захавалася 13 курганоў вышынёй 0,5—1,2 м, дыяметрам каля 8 м. Вядомы з пачатку 20 ст. Абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**85. МАГІЛА ПАЎЛАЎЦА** Пятра Сяргеевіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя К. Я. Варашылава брыгады імя М. А. Шчорса П. С. Паўлавец загінуў 20.6.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**86. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы, у скверы. На ўшанаванне памяці землякоў (241) — воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**пас. Ганцавічы, Іканскі сельсавет**

**87. ПОМНІК МЕДЫЦЫНСКІМ РАБОТНІКАМ** (гіст.). На тэрыторыі бальніцы, у скверы. На ўшанаванне




71. *Курганны могільнік. План.*



87. *Помнік медыцынскім работнікам.*

памяці медыцынскіх работнікаў Барысаўскага р-на, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлена стэла.

**88. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «ДЗЯДЗЬКІ КОЛІ»** (гіст.). У цэнтры пасёлка, у скверы. У Вялікую Айчынную вайну ў пасёлку доўгі час базіраваўся штаб партызанскай брыгады «Дзядзькі Колі».

Брыгада створана ў жніўні 1942 г. паводле рашэння нарады камандзіраў партызанскіх атрадаў і прадстаўнікоў Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б на базе асобных атрадаў «Дзядзькі Колі» (пазней імя Ф. Э. Дзяржынскага), «Камунар», імя І. В. Сталіна, імя В. І. Чапаева, «Бура», «За Бацькаўшчыну», дыверсійнай групы Г. Р. Каўзановіча («Дзеда Гаўрылы»). Камандзір брыгады П. Р. Лапацін, камісары А. Ц. Язубчык (да ліпеня 1943 г.), М. М. Чуліцкі (з ліпеня 1943 г.). Дзейнічала на тэрыторыі Барысаўскага, Смалявіцкага, Бягомльскага, Лагойскага і Плешчаніцкага р-наў.

Партызаны брыгады праводзілі дыверсіі на чыгунцы Мінск — Орша, Мінск — Маладзечна і аўтамабільнай дарозе Мінск — Барысаў. За час дзейнасці пусцілі пад адхон 127 эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай ворага, пашкодзілі больш за тысячу вагонаў, цыстэрнаў і платформ, падарвалі 53 масты, знішчылі 460 аўтамашын. У снежні 1942 г. і верасні 1943 г. нападалі на гарнізон у в. Зембін. Атрад імя І. В. Сталіна 5.5.1942 г. разграміў валасную ўправу ў в. Карсакавічы. У час «рэйкавай вайны» народныя мсціўцы падарвалі каля 2 тыс. рэек, 5 чыгуначных мастоў. У маі — чэрвені 1943 г. вялі баі з карнікамі, што блакіравалі зону, у красавіку — маі 1944 г. — з палком рэгулярных войск акупантаў, які падтрымлівалі авіяцыя, танкі, артылерыя. Асабліва цяжкія баі брыгада вяла ў чэрвені 1944 г. у раёне воз. Палік. У час наступлення Чырвонай Арміі партызаны забяспечылі пераправу 35-й гвардзейскай танкавай брыгады цераз р. Цна. 28.6. 1944 г. брыгада ў складзе 7 атрадаў (імя Ф. Э. Дзяржынскага, «Камунар», імя І. В. Сталіна, імя В. І. Чапаева, «Бура», «За Савецкую Радзіму», імя М. Ф. Гастэлы; усяго 1042 чалавек) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі. Камандзіру брыгады П. Р. Лапаціну і разведчыцы Н. В. Траян прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1964 г. у гонар партызанскай брыгады «Дзядзькі Колі» пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3.— Мн., 1983—85; Козлов В. И. Люди особого склада.— Мн., 1973; Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.
*У. Ў. Бянько.*




84. *Курганны могільнік. План.*

**в. Гара, Глівінскі сельсавет**

**89. КУРГАН** (археал.). Каля дарогі ў в. Струпень, каля перакрыжавання дарог на вёскі Струпень і Печы. Вышыня 1,5—1,8 м, дыяметр 10 м. Абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц.

**в. Глівін, цэнтр сельсавета**

**90. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скверы, каля будынка клуба. Пахаваны 56 воінаў і партызан. Сярод іх — воіны 331-й стралковай дывізіі 71-га стралковага корпуса 31-й арміі, якія загінулі ў канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1944 г. пры вызваленні Барысаўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**91. МАГІЛА ЛАПІНА** Анатоля Мікалаевіча (гіст.). На могілках. Камандзір партызанскага атрада імя М. А. Шчорса брыгады імя Шчорса А. М. Лапін загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.



88. *Помнік у гонар партызанскай брыгады «Дзядзькі Колі».*

**92. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіны, на пясчаным узгорку. Вышыня над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ да 3,5 м. Плошча 2000 м². Выявіў у 1929 г. І. Р. Калодкін, абследаваў у 1981—85 гг. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,1—0,15 м захаваўся на асобных участках. Знойдзены крамянёвыя канцавыя скрабкі, бакавыя, вуглавыя, сярэдзінныя разцы, скоблі, ланцэтападобныя вастрыі, пласціны-ўкладышы, трапецыя, адшчэпы і пласціны з рэтушшу па краі. Адносіцца да 2-й паловы эпохі мезаліту. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Доследы культур каменнага і бронзавага перыядаў у БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3; Ксяндзоў У. Помнікі каменнага веку.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1984, № 1.
*У. П. Ксяндзоў.*

**93. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 187 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**94. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**94а.** Селішча. За 0,2 км на ўсход ад вёскі, каля дарогі ў в. Навасёлкі, на правым беразе р. Бярэзіна. Памер 250×120 м, культурны пласт 0,5 м. Даследаваў у 1982 г. Г. В. Штыхаў на плошчы 32 м². Знойдзена ляпная слабапрафіляваная кераміка 2—5 стагоддзяў, ёсць з расчосамі, кавалак глянцаванай міскі зарубінецкай культуры, ляпны посуд 8—9 стагоддзяў, ганчарны 10—13 стагоддзяў і больш позняга часу.



93. *Помнік землякам.*

94б. Курганны могільнік-1. За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на тэрыторыі заходняй часткі селішча. 55 насыпаў вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 4—10 м. У 1982 г. Г. В. Штыхаў даследаваў 18 курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне ў насыпе кургана. У 5 насыпах па 1 пахаванні, у 3 — па 2 і ў 1 — 3 пахаванні. У 2 курганах знойдзены гліняны ляпны посуд з плечыкамі. Належаў крывічам, датуецца 9 ст.

94в. Курганны могільнік-2. За 1 км на ўсход ад вёскі, каля дарогі ў в. Навасёлкі. 4 курганы вышынёй 1,5 м, дыяметрам 8—9 м. У 1982 г. 2 насыпы даследаваў Г. В. Штыхаў. Пахаванняў і рэчаў не знойдзена.

Матэрыялы даследавання селішча і могільніка-1 захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Исследования в окрестностях Минска, Борисова, Логойска.— У кн.: Археологические открытия 1982 года. М., 1984. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Глыбочыца, Майсееўшчынскі сельсавет**

**95. ПАРТЫЗАНСКІЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі. У брацкіх і адзіночных магілах пахаваны 55 партызан брыгады імя С. М. Кірава, якія загінулі ў лютым 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура партызана ў жалобе.

**в. Дзядзілавічы, Мсціжскі сельсавет**

**96. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Замкавая Гара. За 5,7 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Цна, на вяршыні высокага (каля 42 м ад асновы) узвышша. Пляцоўка памерам 42×28 м умацавана 2 кальцавымі валамі і 2 равамі. Унутры вал праходзіць па схіле, на 4 м ніжэй за край пляцоўкі, вонкавы на 2—3 м ніжэй за ўнутраны. Вышыня валоў ад 1 да 1,5—2 м, шырыня ў аснове 10 м. Глыбіня равоў 1,5—2 м. Адкрыў і даследаваў у 1962 г. А. Р. Мітрафанаў, ускрыта 70 м² плошчы. Знойдзены абломкі рабрыстых слоікавых гаршкоў, гліняныя прасліцы, жалезная сякерападобная прылада для апрацоўкі дрэва, посахападобная шпілька, рэшткі наземных жытлаў слупавой канструкцыі. Гарадзішча адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 1—4 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978. *А. Р. Мітрафанаў.*

**97. СЕЛІШЧА** (археал.). За 5,7 км на захад ад вёскі, на схілах узвышша, каля гарадзішча, на левым беразе р. Цна. Плошча 5—6 га. Адкрыў у 1962 г., даследаваў у 1962—66 гг. А. Р. Мітрафанаў на плошчы 4256 м². Выяўлена 55 ям-западзін, якія з'яўляюцца рэшткамі паўзямлянкавых жытлаў чатырохвугольнай формы, плошчай ад 7,2—8,8 м² (сцены: 2,8×2,6 м, 3,2×2,75 м) да 14—16,8 м² (сцены: 4×3,5 м, 4,3×3,9 м). Знойдзены жалезны абломак сякеры, серп і нож для жніва, бронзавыя падвескі, званочак, кольца, абломкі слабапрафіляваных гаршкоў. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны, датуецца 6—8 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.



96. *Гарадзішча. План.*

*Літ.:* Очерки по археологии БССР. Ч. 1.— Мн., 1970; Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Дуброва, Майсееўшчынскі сельсавет**

**98. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на поўнач ад вёскі, каля дарогі на в. Сялец. 3 курганы: адзін вышынёй 1,5 м, дыяметрам 8 м знаходзіцца ў лесе каля дарогі на в. Разрыўка, 2 насыпы вышынёй 4 м, дыяметрам 21 м. Раней тут было 12 курганоў, некалькі насыпаў разараны. Пры абследаванні ў 1979 г. В. А. Карпека на месцы разараных курганоў знайшоў косці, гліняны посуд і металічныя рэчы. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Дубяні, Прыгарадны сельсавет**

**99. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. Пахаваны 4 воіны-артылерысты, якія загінулі 30.6.1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Дудзінка, Прыгарадны сельсавет**

**100. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Польская Гара. Пляцоўка авальная, памерам 55×26 м, узвышаецца над поймай на 20 м. З паўднёвага боку знаходзіцца яр, з заходняга — роў глыбінёй 2 м. На схілах прасочаны рэшткі вала ў выглядзе ўступаў шырынёй каля 3 м. Вядома з канца 19 ст., абследаваў у 1931 г. А. М. Ляўданскі, які выявіў ляпную кераміку, жалезны шлак. У 1979 г. гарадзішча даследаваў Г. В. Штыхаў. Была зроблена зачыстка траншэй часоў вайны. Культурны пласт 0,2—0,3 м. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі 6—8 стагоддзяў, косці жывёл.

Матэрыялы раскопак і абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Г. В. Штыхаў*

**в. Ельніца, Хаўхоліцкі сельсавет**

**101. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Паміж вёскамі Ельніца і Дубовы Лог, на старой дарозе ў в. Крацэвічы. Захаваліся 2 курганы вышынёй 1,6 м, дыяметрам 8—10 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. В. А. Карпека. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Жарцвянка, Зембінскі сельсавет**

**102. МАГІЛА ТАМАШЭВІЧА** Анатолія Іванавіча (гіст.). На могілках. Камандзір партызанскага атрада «За Бацькаўшчыну» брыгады «Дзядзькі Колі» А. І. Тамашэвіч загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Жартайка, Майсееўшчынскі сельсавет**

**103. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі пры ўпадзенні ручая Лаўнік у р. Жартайка, на яе правым беразе. Захавалася каля 10 насыпаў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 5,5—8 м. Абследаваў у 1979 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Жортай, Майсееўшчынскі сельсавет**

**104. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка канторы саўгаса. На ўшанаванне памяці 140 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**105. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ С. М. КІРАВА** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля будынка клуба. У Вялікую Айчынную вайну непадалёку ад вёскі на хутары Старына базіраваўся штаб партызанскай брыгады імя С. М. Кірава.

Брыгада была створана ў снежні 1942 г. паводле рашэння міжраённага партыйнага цэнтра Барысаўскай зоны як камсамольска-маладзёжная брыгада на базе асобнага партызанскага атрада імя С. М. Кірава. Камандзір брыгады Ф. Ц. Пуставіт; камісары І. І. Панкевіч (да чэрвеня 1943 г.), М. А. Пасекаў (з чэрвеня 1943 г.). Дзейнічала на тэрыторыі Барысаўскага, Крупскага і Халопеніцкага р-наў. Асноўныя ўдары партызаны брыгады наносілі па варожых камунікацыях на чыгуначным участку Мінск — Крупкі і прылеглых да яго дарогах. Падарвалі і спалілі 15 мастоў. У 1943 г. у студзені ўдзельнічалі ў разгроме варожага гарнізона ў в. Красналукі Лепельскага р-на, 12 сакавіка ў засадным баі каля в. Сялец знішчылі каля 100 гітлераўцаў. У чэрвені вялі баі з карнікамі на р. Гурба ў Халопеніцкім р-не, каля вёсак Сялец і Пастрэжжа Бягомльскага р-на, у жніўні — кастрычніку — з карнікамі, якія рабавалі мясцовае насельніцтва, у снежні спалілі 5 складоў у Барысаве. Зрабілі 21 дыверсію ўздоўж чыгункі Мінск — Барысаў, каб падарваць падземны кабель. Пры брыгадзе знаходзіўся сямейны лагер, дзе мясцовыя жыхары ратаваліся ад тэрору акупацыйных улад. У чэрвені 1944 г. партызаны брыгады вялі цяжкія баі ў раёне воз. Палік з карнікамі, якія блакіравалі партызанскія брыгады Барысаўска-Бягомльскай зоны. У чэрвені — ліпені 1944 г. разам з часцямі Чырвонай Арміі ачышчалі тэрыторыю Барысаўскага р-на ад трапіўшых у акружэнне груповак нямецка-фашысцкіх войск. У канцы чэрвеня 1944 г. брыгада ў складзе 4 атрадаў (імя С. М. Кірава, імя М. В. Фрунзе, «За Перамогу», 4-ы, усяго 771 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.



104. *Помнік землякам.*

У 1965 г. у гонар партызанскай брыгады імя С. М. Кірава пастаўлена стэла.

*Літ.:* Шарков В. А. У берегов Палика.— Мн., 1969; Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3.— Мн., 1983—85; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

*У. У. Бянько.*

**в. Жыцькава, Прыгарадны сельсавет**

**106. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 18 воінаў і партызан, якія загінулі ў канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1971 г. на магіле пастаўлена стэла.

**107. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 137 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Забашавічы, цэнтр сельсавета**

**108. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 25-й гвардзейскай танкавай брыгады 11-й гвардзейскай арміі. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**109. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЗАКЕВІЧУ** Паўлу Канстанцінавічу (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1977 г.

Герой Савецкага Саюза П. К. Казакевіч нарадзіўся ў лютым 1904 г. у в. Забашавічы Барысаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1930 г. У Чырвонай Арміі з 1926 г. Скончыў Аб'яднаную беларускую ваенную школу (1931 г.), Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе (1939 г.). Удзельнічаў у вызваленні Заходняй Беларусі ў верасні 1939 г., у савецка-фінляндскай вайне 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Заходнім, Паўднёва-Заходнім франтах. Камандзір 81-га гвардзейскага стралковага палка 25-й стралковай дывізіі гвардыі палкоўнік П. К. Казакевіч вызначыўся пры вызваленні Харкава. 12—15.2.1943 г. полк пад яго камандаваннем перакрыў шашу Харкаў — Палтава, адрэзаў ворагу шляхі адыходу з Харкава, знішчыў больш за 200 аўтамашын і шмат іншай тэхнікі праціўніка. П. К. Казакевіч загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 19.6.1943 г. Пахаваны ў в. Альшаны Дзергачоўскага р-на Харкаўскай вобл. На магіле пастаўлены помнік. У Харкаве імем героя названа вуліца, у Горкім яго імя высечана на абеліску каля Вечнага агню.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**110. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 148 воінаў — жыхароў вёсак Забашавічы, Забашоўка, Устроны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Завосіна, Хаўхоліцкі сельсавет**

**111. МАГІЛА КРЫПАН** Лідзіі Віктараўны (гіст.). На могілках. Партызанка Л. В. Крыпан загінула ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Задні Мост (не існуе), Хаўхоліцкі сельсавет**

**112. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Задні Мост знаходзілася за 1 км на паўднёвы захад ад в. Востраў. У 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты ўварваліся ў вёску, сагналі жыхароў (у т. л. старых, жанчын, дзяцей) у адну хату і спалілі, знішчылі ўсе пабудовы. Вёска не адрадзілася. У 1985 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлена стэла.

**в. Замошша, Іканскі сельсавет**

**113. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 54 воіны 72-га стралковага корпуса 5-й арміі, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. у час

вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама партызаны атрада імя В. І. Чапаева брыгады «Дзядзькі Колі», што загінулі ў баях з гітлераўцамі ў маі — чэрвені 1943 г. і лютым — чэрвені 1944 г. Сярод пахаваных — камандзір партызанскага атрада імя В. І. Чапаева Я. Я. Жукоўскі, начальнік штаба гэтага атрада В. А. Каралёў, начальнік разведкі партызанскай брыгады «Дзядзькі Колі» М. І. Літмановіч. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск. *У. У. Бянько.*

**в. Зачысце, цэнтр сельсавета**

**114. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст., маст.). На могілках. Пахаваны 11 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — першы сакратар Барысаўскага падпольнага гаркома-райкома КП(б)Б Іван Апанасавіч Яраш.

І. А. Яраш нарадзіўся 23.11.1897 г. у в. Ужынец Калінкавіцкага р-на. Член КПСС з 1921 г. Скончыў саўпартшколу (1927 г., Гомель). З 1918 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік Грамадзянскай вайны. З 1922 г. на гаспадарчай, савецкай і прафсаюзнай рабоце. З 1938 г. старшыня Мінскага абласнога камітэта прафсаюзаў рабочых машынна-трактарных станцый, з 1940 г. намеснік загадчыка сельскагаспадарчага аддзела Мінскага абкома КП(б)Б, з верасня 1940 г. першы сакратар Барысаўскага райкома КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну ў пачатку ліпеня 1941 г. па рашэнню ЦК КП(б)Б ён на чале групы камуністаў пакінуты ў Барысаўскім р-не для арганізацыі ў тыле ворага падпольнай і партызанскай барацьбы. Узначаліў падпольны гарком-райком, стварыў шырокую сетку падпольных камуністычных арганізацый. Да кастрычніка 1941 г. у раёне дзейнічала 17 падпольных груп, якія разгарнулі актыўную барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. І. А. Яраш узначальваў палітычную работу, арганізаваў выданне і распаўсюджванне лістовак. Ён камандаваў адным з партызанскіх атрадаў. У канцы лютага 1942 г. партызаны некалькі дзён вялі цяжкія баі з карнікамі. Загінуў у баі 26.2.1942 г. каля в. Крынічкі. Яго імем названа вуліца ў Барысаве.

У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла (скульпт. А. Заспіцкі; бетон, таніраваны пад бронзу сілумін; вышыня стэлы 3 м, вышыня гарэльефа 1 м), у цэнтры якой у высечаным паглыбленні размешчана гарэльефная кампазіцыя — пагрудныя выявы І. А. Яраша і трох партызан.

*Літ.:* В боях за Белоруссию.— 2 изд.— Мн., 1974; В памяти народной.— Мн., 1969; Мачульский Р. Н. На огненной земле.— Мн., 1983. *У. У. Бянько.*

**115. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 192 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Зембін, цэнтр сельсавета**

**116. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 партызан брыгады «Дзядзькі Колі», якія загінулі ў 1942—44 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў каля в. Зембін. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

**117. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 24 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных — воіны 16-га гвардзейскага стралковага корпуса 11-й гвардзейскай арміі. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**118. КАСЦЕЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1809 г. з цэглы як храм заснаванага ў 1640 г. дамініканскага кляштара (закрыты ў 1833 г.).



118. *Касцёл.*




118. *Касцёл. План.*

Манументальнае збудаванне (таўшчыня сцен 1,3 м), адносіцца да тыпу бязвежавых трохнефавых базілік з паўцыркульнай апсідай. Высокі двухсхільны дах (не захаваўся) на галоўным фасадзе закрыты фігурным франтонам, устаноўленым на магутным парапеце. У цэнтры франтона ў нішы размешчана культавая скульптура. Вось галоўнага фасада вылучана арачнымі дзвярным і аконным праёмамі. Рытм бакавых фасадаў ствараюць высокія аконныя праёмы і шырокія лапаткі ў прасценках. Па перыметры будынка праходзіць карніз простага профілю з сухарыкамі.

Інтэр'ер зальны. Прастора цэнтральнага нефа завершана апсідай, у якой мураваны алтар. Бакавыя нефы аддзелены ад галоўнага слупамі, якія трымаюць распор крыжовых скляпенняў і падпружных арак. Пры ўваходзе зроблены тамбур, дзе размешчаны хоры. Праход на хоры знаходзіцца ў тоўшчы паўночна-заходняй сцяны. Па баках алтара ў завяршэнні бакавых нефаў вылучаны прамавугольныя сакрысціі, сцены якіх раскрапаваны нішамі рознай велічыні. Інтэр'ер храма быў размаляваны фрэскамі (не захаваліся).

Касцёл — помнік архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**119. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,8 км на поўнач ад вёскі, каля дарогі на Бягомль, у лесе. Пахаваны 927 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 17.7.1941 г. Сярод пахаваных — старыя, жанчыны, дзеці. У 1967 г. пастаўлена агароджа, на якой у 1982 г. устаноўлена дошка з надпісам.

**120. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 118 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў баях за вызваленне Радзімы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 672 мірных жыхароў — дарослых і 255 дзяцей, закатаваных ці расстраляных гітлераўцамі ў 1941—44 гг., у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**121. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

Чатырохчастковая аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя царквы складаецца з васьмерыковай званіцы, падоўжанага прамавугольнага ў плане бабінца, кубападобнага асноўнага аб'ёму з бакавымі крыламі і гранёнай апсіды. Вышыннымі дамінантамі з'яўляюцца шатры званіцы і асноўнага аб'ёму, завершаныя макаўкамі. Галоўны фасад вырашаны сіметрычна, цэнтр вылучаны ўваходным парталам і люкарнай над ім. Фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі ў пластычных ліштвах, апрацаваны руставанымі лапаткамі, завершаны ар-



120. *Помнік землякам.*

катурным фрызам і прафіляваным карнізам. Скляпеністыя перакрыцці не захаваліся.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Зорычы, Вяляціцкі сельсавет**

**122. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 8-га асобнага медыцынскага санітарнага батальёна. У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

**123. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба, у скверы. На ўшанаванне памяці 172 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**124. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з драўляных брусоў. Трохзрубная пабудова з паслядоўным размяшчэннем па падоўжнай планіровачнай восі бабінца, асноўнага аб'ёму, апсіды. Квадратны ў плане асноўны аб'ём завершаны васьміграннным светлавым барабанам з шатровым дахам і макаўкай у завяршэнні. Дахі зрубаў аб'яднаны карнізам простага профілю. Галоўны і бакавыя фасады завершаны крапаванымі франтонамі з трохлопасцевымі кілепадобнымі шчытамі ў цэнтры. Гарызантальна ашаляваныя сцены расчлянёны лапаткамі і прарэзаны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах з прафіляванымі сандрыкамі. Інтэр'ер вырашаны лаканічнымі сродкамі вонкавай архітэктуры. Прастора асноўнага аб'ёму значна расшырана за кошт светлавога барабана, які пры дапамозе ветразяў апіраецца на 4 слупы.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*



121. *Царква.*

**в. Іканы, цэнтр сельсавета**

**125. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Турыя Горы. 70 курганоў вышынёй 0,5—1,6 м, дыяметрам 6—8 м. 4 насыпы вышынёй 3 м, дыяметрам каля 20 м. Вакол насыпаў ёсць раўкі. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. В. А. Карпека. Раскопкі не праводзіліся.

*В. А. Карпека, Г. В. Штыхаў.*



124. *Царква.*




124. *Царква. План.*

**126. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 576 жыхароў вёсак Іканы і Гарэлы Луг, якіх 28.5.1943 г. расстралялі і спалілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1968 г. устаноўлена надмагільная пліта.

**127. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ, МЕМАРЫЯЛЬНЫ ПАРК ГЕРОЯЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынкаў музея народнай славы і школы.

На ўшанаванне памяці землякоў (141) — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. да 20-годдзя Перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй пастаўлены абеліск. Вучні і настаўнікі Іканскай школы пасадзілі вакол помніка мемарыяльны парк. У ім каля 700 дрэў, прывезеных з лясоў, што каля воз. Палік (тэрыторыі Бярэзінскага запаведніка), дзе ў Вялікую Айчынную вайну дзейнічалі партызанскія брыгады «Дзядзькі Колі», імя С. М. Кірава, «Стары», імя П. К. Панамарэнкі. Побач з кожным дрэвам таблічка з мемарыяльным надпісам, хто пасадзіў яго і ў памяць каго. Праз парк да помніка вядзе алея, абапал якой устаноўлены бюсты актыўных удзельнікаў барацьбы супраць нямец-



125. *Курганны могільнік.*




125. *Курганны могільнік. План.*



127. *Помнік землякам.*

ка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Барысаўшчыны І. А. Яраша, П. А. Жуковіча, П. Р. Лапаціна, В. Ц. Абухава, Т. С. Баўэр, Р. Ібаруры, Герояў Савецкага Саюза — піянераў і камсамольцаў А. Кашавога, Л. Голікава, Л. Чайкінай, М. Казея, В. Коціка, а таксама піянера-падпольшчыка У. Дубініна, узнагароджанага ордэнам Чырвонага Сцяга. Ад помніка да школы пракладзена алея гарадоў-герояў, абапал якой размешчаны пастаменты з умураванымі капсуламі са свяшчэннай зямлёй гарадоў-герояў.

*У. У. Бянько.*

**128. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ БАРЫСАЎСКА-БЯГОМЛЬСКАЙ ЗОНЫ** (гіст., маст.). У цэнтры вёскі, каля будынка канторы саўгаса «Замошша».

У Вялікую Айчынную вайну партызаны брыгады «Жалязняк» (камандзір І. П. Ціткоў) вызвалілі 20.12. 1942 г. ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў г. п. Бягомль, устанавілі кантроль на тэрыторыі Бягомльскага і паўночнай часткі Барысаўскага р-наў (плошча 2250 км²). Да канца 1943 г. было вызвалена каля 6 тыс. км² тэрыторыі Барысаўскага, Бягомльскага, Заслаўскага, Лагойскага, Плешчаніцкага, Смалявіцкага, Халопеніцкага і інш. р-наў (каля 1100 населеных пунктаў). На тэрыторыі зоны дыслацыраваліся і дзейнічалі партызанскія брыгады «Жалязняк», «Народныя мсціўцы», імя В. Т. Варанянскага, «Дзядзькі Колі», «Штурмавая», «Смерць фашызму», імя С. М. Кірава, 1-я Антыфашысцкая і інш., а таксама асобныя атрады (усяго каля 14 тыс. чалавек). Партызаны злучэння Барысаўска-Бягомльскай зоны пусцілі пад адхон 793 варожыя эшалоны, разбілі 630 паравозаў, 1884 вагоны з жывой сілай, 1954 платформы з ваеннай тэхнікай, 1828 вагонаў з боепрыпасамі і інш. грузамі ворага. Знішчылі 2955 аўтамашын і 11 самалётаў, захапілі ў палон ці знішчылі каля 75 тыс. гітлераўцаў.

Кіраўніцтва ў зоне ажыццяўлялі Мінскі падпольны абком КП(б)Б, Барысаўскі падпольны міжраённы цэнтр КП(б)Б, райкомы партыі, штаб партызанскага злучэння Барысаўска-Бягомльскай зоны. У населеных пунктах дзейнічалі органы Савецкай улады, выдаваліся газеты, праводзілася масава-палітычная работа сярод насельніцтва. Падтрымлівалася рэгулярная радыёсувязь з Вялікай зямлёй. З красавіка 1943 г. у Бягомлі дзейнічаў партызанскі аэрадром, куды з савецкага тылу дастаўлялася зброя, боепрыпасы, медыкаменты, пошта. Гітлераўцы неаднаразова спрабавалі ліквідаваць партызанскую зону, праводзілі буйныя карныя аперацыі (май — чэрвень 1943 г., вясна 1944 г.), аднак захапіць зону не ўдалося. Партызаны ўтрымлівалі яе да злучэння з Чырвонай Арміяй летам 1944 г.

У 1967 г. у гонар партызан Барысаўска-Бягомльскай зоны пастаўлены помнік — скульптура партызана (скульпт. П. Цомбель, А. Веліксонаў, архіт. Ю. Казакоў; бетон; вышыня скульптуры 2,5 м). Фігура партызана-сейбіта ўстаноўлена на невысокім многавугольным пастаменце. Партызан левай рукой падтрымлівае сяўню, энергічным рухам правай нібы кідае зерне ў зямлю. Выраз твару рашучы і суровы. Імклівасць руху падкрэслівае адкінутае ветрам крысо паліто. Вінтоўка за плячамі дапаўняе характарыстыку абаронцы і гаспадара сваёй зямлі.

*Літ.:* Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978; Титков И. Ф. Бригада «Железняк».— 2 изд.— Мн., 1982; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

*У. У. Бянько, Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Карсакавічы, цэнтр сельсавета**

**129. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны, якія загінулі 28.5.1943 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**130. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Замак. Пляцоўка авальная, памерам 70×50 м, з паўднёвага боку пашкоджана кар'ерам. Абследавалі ў 1931 А. Дз. Каваленя, у 1979 г. В. А. Карпека. У кар'еры знойдзены кавалкі ляпнога посуду, касцяная праколка, косці жывёл. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**131. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 155 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Каршавіца, Майсееўшчынскі сельсавет**

**132. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, абапал лясной дарогі на в. Жортай. Каля 100 насыпаў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 8 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Кастрыца, Бродаўскі сельсавет**

**133. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

**134. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На цэнтральнай сядзібе саўгаса «Бродаўка». На ўшанаванне памяці 263 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Касцюкі, Весялоўскі сельсавет**

**135. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 15 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне Барысаўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 11-й гвардзейскай арміі 3-га Беларускага фронту. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**136. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 18 жыхароў, якіх 31.7.1941 г. загубілі нямец-



128. *Помнік партызанам Барысаўска-Бягомльскай зоны.*

ка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефнай выявай воіна, старога і жанчыны ў жалобе. Побач — сцяна, на якой увекавечаны імёны загінуўшых.

**137. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 129 жыхароў вёсак калгаса імя М. І. Кутузава, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік: абеліск, абапал яго скульптуры воіна і партызана.

**в. Кімія, Зембінскі сельсавет**

**138. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 150 м на поўнач ад вёскі, на мысе, які абмежаваны з поўдня і паўднёвага ўсходу нізкай поймай невялічкай рэчкі і глыбокім ярам. Пляцоўка авальная, памерам 64×42 м, нахілена на захад. З усходняга боку ўмацавана валам вышынёй 0,5—0,6 м і ровам глыбінёй 0,3—0,5 м. Адкрыў у 1931 г. А. М. Ляўданскі, даследаваў у 1950 г. А. Р. Мітрафанаў на плошчы 55 м². Выяўлены рэшткі наземнага жытла, шлакі, абпаленыя камяні, шмат касцей свойскіх і дзікіх жывёл, жалезны серп, нож, кіепадобныя шпількі, разец-лыжачнік, бронзавы бранзалет, касцяныя шпілька і вастрыё, дзяржанне шыла, гліняныя прасліцы, грузікі дзякоўскага тыпу, камяні ад зерняцёркі. У ніжнім пласце трапляюцца абломкі гладкасценнага і штрыхаванага посуду, у верхнім пласце — рэшткі рабрыстых і слоікавых гаршкоў. Гарадзішча адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 6—1 стагоддзямі да н. э. (ранні перыяд) і 1—4 стагоддзямі н. э. (позні перыяд). Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978.

*А. Р. Мітрафанаў.*




130. *Гарадзішча. План.*

**139. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба, у скверы. На ўшанаванне памяці 70 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Кішчына Слабада, цэнтр сельсавета**

**140. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1981 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**141. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 18 воінаў і партызан, якія загінулі ў канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**142. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ХАРЧАНКУ** Аляксандру Карпеевічу (гіст.). На будынку праўлення калгаса «Чырвоная зорка». Устаноўлена ў 1984 г.

Герой Савецкага Саюза А. К. Харчанка нарадзіўся 5.12.1918 г. у в. Кішчына Слабада ў сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. Да Вялікай Айчыннай вайны жыў у г. Ужур Краснаярскага краю. На фронце з 1942 г. Вызначыўся ў баях на подступах да Магілёва. 27.6.1944 г. разведчык старшына А. К. Харчанка ў складзе групы з 6 чалавек пераправіўся цераз Дняпро каля в. Буйнічы. Група знішчыла агнявыя кропкі праціўніка, захапіла і ўтрымлівала плацдарм, што садзейнічала пераправе батальёна. А. К. Харчанка першы ўварваўся ў вёску і на адным з дамоў узняў чырвоны сцяг. Загінуў 12.8.1944 г. пры вызваленні Польшчы. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Імем А. К. Харчанкі названы вуліца і школа ў г. Ужур.



137. *Помнік землякам.*

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**143. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба, у скверы. На ўшанаванне памяці 126 землякоў — воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Крацэвічы, Хаўхоліцкі сельсавет**

**144. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 25 партызан атрадаў «Беларусь» і «Буравеснік», што за-




138. *Гарадзішча. План.*



143. *Помнік землякам.*

гінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама 102 жыхары вёскі, якіх расстралялі і спалілі гітлераўцы.

У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі ўварваліся ў вёску, пачалі крывавую расправу над мірнымі жыхарамі, запалілі пабудовы (згарэў 71 дом). Аб гэтым даведаліся партызаны. Яны акружылі палаючую вёску. Завязаўся цяжкі бой. Нямецка-фашысцкія акупанты вымушаны былі адступіць, пакінуўшы шмат забітых.

У 1984 г. на магіле партызан і ахвяр фашызму пастаўлены абеліск.

*У. У. Бянько.*

**145. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**145а.** Гарадзішча. За 3 км на паўночны захад ад вёскі, на тэрыторыі Бярэзінскага заказніка, каля ўрочышча Глінішча, на высокай доўгай выспе. Пляцоўка прамавугольная, памерам 50×46 м, умацавана 2 валамі і ровам. Вышыня ўнутранага вала 3—6 м, вонкавага 0,5—2 м. Абследавалі ў 1931 г. А. М. Ляўданскі, у 1979 г. В. А. Карпека. Раскопкі не праводзіліся.

**145б.** Курганны могільнік. За 2,5 км на поўнач ад вёскі, каля дарогі на воз. Палік. 17 курганоў вышынёй 0,5—1,8 м, дыяметрам 4—8 м. Каля насыпаў ёсць раўкі. Абследаваў у 1979 г. В. А. Карпека. Раскопкі не праводзіліся.

**145в.** Курган. За 2,8 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Волатава Поле, каля дарогі на воз. Палік. Вышыня 1,8 м, дыяметр 12 м. Абследаваў у 1979 г. В. А. Карпека.

*В. А. Карпека, Г. В. Штыхаў.*

**146. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА «БУРАВЕСНІК»** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі.

Партызанскі атрад «Буравеснік» створаны ў снежні 1941 г. на базе груп М. Г. Мармулёва і М. Х. Балана, якія дзейнічалі ў Бягомльскім р-не. З ліпеня 1942 г. дыслацыраваўся на тэрыторыі Барысаўскага р-на, у красавіку 1943 г. перайшоў у Рудзенскі і Уздзенскі р-ны. Дзейнічаў самастойна да снежня 1943 г. Камандзіры атрада М. Х. Балан (да верасня 1942 г.), М. Г. Мармулёў (верасень 1942 г.— верасень 1943 г.), С. А. Заварыкін (верасень 1943 г.— ліпень 1944 г.), камісары І. М. Рабуха (жнівень 1942 г.— верасень 1943 г.), І. І. Пронін (снежань 1943 г.— ліпень 1944 г.).

Паводле распараджэння Беларускага штаба партызанскага руху ў снежні 1943 г. на базе атрада створана партызанская брыгада «Буравеснік». Дзейнічала на тэрыторыі Уздзенскага, Рудзенскага, Пухавіцкага і Халопеніцкага р-наў. Камандзір брыгады М. Г. Мармулёў, камісар І. М. Рабуха.

Партызаны атрада і брыгады «Буравеснік» праводзілі баявыя аперацыі на шашы Барысаў — Крупкі, Мінск — Слуцк, Узда — Шацк — Мар'іна Горка і інш. 5.11.1943 г. на дарозе Валяр'яны — Узда знішчылі 34 варожыя аўтамашыны. У верасні 1942 г. разграмілі гарнізон у в. Латыголічы Халопеніцкага р-на, у маі 1944 г.— у в. Загай Пухавіцкага р-на. У студзені, маі, чэрвені 1944 г. вялі цяжкія баі з нямецка-фашысцкімі акупантамі, якія блакіравалі партызанскія атрады Барысаўска-Бягомльскай зоны. 28.6.1944 г. занялі в. Шацк і ўтрымлівалі яе да падыходу часцей Чырвонай Арміі. 3—12 ліпеня 1944 г. разам з воінамі Чырвонай Арміі ўдзельнічалі ў ліквідацыі групоўкі войск праціўніка. 3.7.1944 г. брыгада ў складзе 3 атрадаў («Буравеснік», імя М. М. Громава і імя М. І. Кутузава; 537 партызан) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі. Камандзіру партызанскага атрада, потым брыгады «Буравеснік» М. Г. Мармулёву 15.8.1944 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1978 г. у гонар партызанскага атрада «Буравеснік» пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Джагаров М. Костры партизанские.— 2 изд.— Мн., 1974; Кульчаев М. Т. За огненной чертой: Партизанские записки.— Нальчик, 1967; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

*У. У. Бянько.*

**в. Крынічкі, Зачысценскі сельсавет**

**147. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**147а.** Гарадзішча. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Сха, ва ўрочышчы Ключы. Пляцоўка авальная, памерам 50×30 м, умацавана ровам глыбінёй 1,5 м і валам вышынёй 1,3—1,5 м. Вал знаходзіцца на вонкавым баку рова. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Г. В. Штыхаў, які заклаў шурф у паўночна-ўсходняй частцы гарадзішча. Культурны пласт у шурфе 0,5 м. Знойдзена 14 фрагментаў ляпной керамікі, з якіх 12 адносяцца да культуры штрыхаванай керамікі (позні перыяд, 1—4 ст. н. э.) і два — да 8—9 ст., а таксама кавалак абпаленай гліны ад печы, магчыма, домніцы. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**147б.** Курганны могільнік-1. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, пры лясной дарозе ў в. Зачысце. 20 курганоў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 6—9 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**147в.** Курганны могільнік-2. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе, абапал дарогі на гарадзішча.




147а. *Гарадзішча. План.*




147б. *Курганны могільнік-1. План.*

20 насыпаў дыяметрам 5—8 м, вышынёй 0,5—1 м. Захаванасць добрая. Выявіў і абследаваў у 1985 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**147г. Курганны могільнік-3.** За 0,5 км на захад ад вёскі, сярод поля. 18 насыпаў дыяметрам 7—9 м, вышынёй 1—1,5 м. Насыпы абкладзены камянямі, парaслі дрэвамі. Выявіў і абследаваў у 1985 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

*А. А. Егарэйчанка, Г. В. Штыхаў.*

**148. ПОМНІК У ГОНАР БАРЫСАЎСКАГА ПАДПОЛЬНАГА ГАРКОМА-РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). За 2 км на поўнач ад вёскі, у лесе, дзе ў Вялікую Айчынную вайну базіраваўся Барысаўскі падпольны гарком-райком КП(б)Б.

Па рашэнню ЦК КП(б)Б 8.7.1941 г. у Крупскі р-н для арганізацыі падпольнай і партызанскай барацьбы супраць ворага была накіравана група камуністаў на чале з сакратаром Барысаўскага райкома КП(б)Б І. А. Ярашам. У канцы ліпеня 1941 г. у лесе непадалёку ад вёскі Крынічкі адбыўся партыйны сход, на якім быў выбраны падпольны райком КП(б)Б. У яго склад у розны час уваходзілі сакратары І. А. Яраш (да 26.2.1942 г., загінуў), А. І. Белісаў (30.4—30.7. 1943 г.), П. Ф. Смірноў (з 30.7.1943 г.), П. Ц. Солдак (з мая 1944 г., другі сакратар). Члены гаркома-райкома: К. І. Акуліч (да снежня 1941 г.), А. Г. Хадаркевіч (да лютага 1942 г.), А. І. Белісаў (30.7—14.9.1943 г.), У. С. Марханько (30.4.1943 г.— 7.2.1944 г.), М. М. Чуліцкі (з 7.9.1943 г.), П. Ц. Солдак (7.2 — май 1944 г.).

Члены райкома наладжвалі сувязь з камуністамі і савецкімі патрыётамі. Да пачатку кастрычніка 1941 г. у Барысаве было створана 17 падпольных груп, у т. л. на заводзе імя Камінтэрна, запалкавай фабрыцы і інш. прадпрыемствах. Падпольны райком КП(б)Б кіраваў работай груп, ствараў партызанскія атрады і каардынаваў іх дзейнасць, вёў палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва. У лютым 1942 г. І. А. Яраш загінуў у баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Барацьбу з акупантамі ўзначальваў Барысаўскі міжрайпартцэнтр. 30.4.1943 г. ён зацвердзіў сакратаром гаркома-райкома КП(б)Б (базіраваўся ў партызанскай брыгадзе «Дзядзькі Колі») А. І. Белісава. Друкаваны орган гаркома-райкома — «Бальшавіцкая трыбуна» (рэдактар Д. Ф. Капыткоў). Гарком-райком КП(б)Б дзейнічаў да 28.6.1944 г.

У 1955 г. на месцы базіравання Барысаўскага падпольнага гаркома-райкома КП(б)Б адноўлены 3 зямлянкі, у 1982 г. пастаўлена стэла.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Мачульский Р. Н. На огненной земле.— Мн., 1983. *У. У. Бянько.*



150. *Помнік землякам.*

**в. Крычына, Весялоўскі сельсавет**

**149. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, на беразе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Панскія Могілкі. Пляцоўка памерам 41×41 м умацавана валам і ровам, якія цяпер ледзь прыкметны. Вядома з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. В. А. Карпека. Раскопкі не праводзіліся.

**150. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы, у скверы. На ўшанаванне памяці 199 землякоў — воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе, абапал яе 2 сцяны з імёнамі загінуўшых.

**в. Лаўнікі, Зембінскі сельсавет**

**151. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на краі доўгай выспы ва ўрочышчы Замкавая гара, на ўзвышшы вышынёй 20 м, за 1 км ад левага берага р. Цна. З паўночна-ўсходняга боку лагчына глыбінёй 18 м. Пляцоўка амаль круглая, дыяметрам 55 м, з усходняга боку ўмацавана 2 валамі вышынёй 1,5 м і 3 равамі глыбінёй 1,—1,5 м. З паўднёвага боку прасочаны вонкавы вал і роў каля асновы гарадзішча. Абследаваў у 1979 г. Г. В. Штыхаў. Ва ўсходняй частцы пляцоўкі зроблена зачыстка сценкі траншэі часоў Вялікай Айчыннай вайны. Культурны пласт 1 м. Знойдзены кавалак ляпной керамікі з расчосамі.



151. *Гарадзішча. План.*

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Г. В. Штыхаў.*

**в. Ліпкі, Неманіцкі сельсавет**

**152. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 42 воіны, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. у баях за вызваленне Барысаўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 2-й мотастралковай брыгады 3-га Кацельнікаўскага танкавага корпуса 5-й гвардзейскай танкавай арміі 3-га Беларускага фронту. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Лошніца, цэнтр сельсавета**

**153. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 22 воіны, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 3-й танкавай брыгады 5-й гвардзейскай танкавай арміі 3-га Беларускага фронту. У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла.

**154. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ХАЦКЕВІЧУ** Аляксандру Ісакавічу (гіст.). На будынку Дома культуры. Устаноўлена ў 1983 г. на ўшанаванне памяці савецкага дзяржаўнага і партыйнага дзеяча, першага старшыні Лошніцкага валаснога выканкома Савета і рэўкома (1918—20 гг.). Гл. артыкул № 35 «Мемарыяльная дошка Хацкевічу Аляксандру Ісакавічу».

**155. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 188 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**пас. Люцецкі (не існуе), Майсееўшчынскі сельсавет**

**156. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ПАСЁЛКА** (гіст.). Пасёлак Люцецкі знаходзіўся за 3 км на поўдзень ад в. Клятное. У маі 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі яго разам з жыхарамі. Загублены 134 жыхары, згарэлі 24 двары. Пасёлак не адрадзіўся. Увекавечаны ў мемарыяльным комплексе Хатынь. У 1977 г. на месцы былога пасёлка пастаўлена стэла.

**в. Ляхаўка, Весялоўскі сельсавет**

**157. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.



155. *Помнік землякам.*

**в. Ляшчыны, Прыгарадны сельсавет**

**158. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Замкавая гара, на правым беразе старыцы р. Бярэзіна, на краі доўгай выспы вышынёй 15—20 м. З усходняга боку знаходзіцца глыбокі яр. Пляцоўка круглая, дыяметрам 35 м, з заходняга боку ўмацавана валам вышынёй 1 м. Другі кальцавы вал вышынёй 0,4 м на схілах гары. Уваход на гарадзішча, верагодна, быў з паўднёва-заходняга боку. Даследаваў у 1979 г. Г. В. Штыхаў. У шурфе памерам 1×1 м, які быў закладзены ў паўночна-ўсходняй частцы пляцоўкі, культурны пласт 0,8 м. Знойдзены 31 кавалак посуду, глінянае прасліца, жалезныя шлакі, кавалкі гліны ад печы-домніцы. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Майсееўшчына, цэнтр сельсавета**

**159. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, у скверы. Пахаваны 61 воін, што загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе, побач — сцяна з імёнамі 119 землякоў, загінуўшых у Вялікую Айчынную вайну.

**160. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА РЫЖОВУ** Уладзіміру Рыгоравічу (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1982 г.

Герой Савецкага Саюза У. Р. Рыжоў нарадзіўся 18.4.1914 г. у в. Майсееўшчына Барысаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Скончыў Свярдлоўскую партыйную школу ў 1950 г. Да Вялікай Айчыннай вайны працаваў у леспрамгасе, раённым аддзеле НКУС с. Табары Свярдлоўскай вобл., першым сакратаром Табарынскага райкома ВЛКСМ. У 1936—38 гг. у Чырвонай Арміі. З ліпеня 1941 г. на Паўночна-Заходнім, Бранскім, 1-м Украінскім франтах. Удзельнік баёў пад Масквой, на Курскай дузе, вызвалення Украіны, Польшчы, баёў на тэрыторыі Германіі. Камандзір мотастралковага батальёна У. Р. Рыжоў вызначыўся ў студзені 1945 г. Ён узначаліў перадавы атрад механізаванай брыгады, якая наступала з Сандамірскага плацдарма. Пераадольваючы супраціўленне ворага, атрад у ноч на 21.1.1945 г. фарсіраваў р. Одэр каля г. Кебен, захапіў плацдарм, вёў баі з намнога большымі сіламі праціўніка за яго ўтрыманне, што садзейнічала пераправе часцей брыгады. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.4.1945 г. Пасля вайны з 1947 г. У. Р. Рыжоў на партыйнай рабоце. У 1951—61 гг. першы сакратар Белаярскага райкома КПСС Свярдлоўскай вобл. Пазней жыў у Свярдлоўску. Памёр 24.11.1974 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**в. Макаўе, Мсціжскі сельсавет**

**161. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пахаваны 342 партызаны, якія загінулі 15.6.1944 г. у час прарыву варожай блакады ў раёне вёсак Макаўе і Халмоўка. У прарыве ўдзельнічалі партызаны брыгад імя М. І. Калініна, імя С. М. Кірава, Лагойская «Бальшавік», 95-я імя М. В. Фрунзе, «Смерць фашызму» і інш. У жорсткіх баях народным мсціўцам удалося вырвацца з блакаднага кальца. Сярод загінуўшых і пахаваных у брацкай магіле — Героі Савецкага Саюза Фёдар Фёдаравіч Азміцель, Барыс Лаўрэнцьевіч Галушкін, а таксама дачка венгерскага камуніста, удзельніца партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, разведчыца Таццяна Стэфанаўна Баўэр.




158. *Гарадзішча. План.*



161. *Помнік на брацкай магіле партызан.*

Ф. Ф. Азміцель нарадзіўся 13.8. 1918 г. у с. Лінавіцк Мартукскага р-на Акцюбінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС. Працаваў настаўнікам. У Чырвонай Арміі з 1938 г. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны на Паўночным фронце. Удзельнічаў у баях пад Масквой. У лютым 1942 г. накіраваны ў тыл ворага камандзірам партызанскага атрада асобага прызначэння, які дзейнічаў у раёне Орша — Віцебск — Смаленск. З верасня 1942 г. у савецкім тыле. З мая 1943 г. камандзір партызанскага атрада «Гром», які ўваходзіў у партызанскую групу НКДБ «Артур». Група дзейнічала ў Віцебскай і Мінскай абласцях, у Мінску. Партызаны пад камандаваннем Ф. Ф. Азміцеля падарвалі 27 воінскіх эшалонаў, 45 аўтамашын, 430 вагонаў, 3 масты на аўтамагістралі Масква — Мінск, знішчылі больш за 2 тыс. гітлераўскіх салдат і афіцэраў, некалькі разоў выводзілі са строю падземны кабель сувязі «фронт — Берлін». У час прарыву блакады каля в. Макаўе ў чэрвені 1944 г. старшы лейтэнант Ф. Ф. Азміцель камандаваў штурмавой групай. 15 чэрвеня быў цяжка паранены, вязкай гранат падарваў сябе і гітлераўцаў, што наблізіліся да яго. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 5.11.1944 г.

Б. Л. Галушкін нарадзіўся 12.8. 1919 г. у г. Шахты Растоўскай вобл. у рабочай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Усесаюзны інстытут фізкультуры ў 1941 г. На фронце з восені

1941 г. Удзельнік баёў пад Ленінградам. У 1942 г. выконваў спецыяльнае заданне ў тыле ворага. З мая 1943 г. камандзір спецыяльнага атрада НКДБ СССР «Дапамога», які ўваходзіў у групу «Артур», што дзейнічала ў Віцебскай і Мінскай абласцях, у Мінску. Байцы атрада пусцілі пад адхон 24 эшалоны праціўніка, знішчылі і пашкодзілі 23 паравозы, 78 аўтамашын, шмат танкаў і трактароў, спалілі 6 складоў з боепрыпасамі, вывелі са строю папяровую фабрыку ў Барысаве, электрастанцыю, лесазавод, ільнозавод у Халопеніцкім р-не. 15.6.1944 г., у час прарыву блакады каля в. Макаўе, Б. Л. Галушкін загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 5.11.1944 г. Яго імем названа вуліца ў Маскве.

Т. С. Б а ў э р нарадзілася 13.4.1924 г. у Маскве. Член ВЛКСМ. У 1941 г. добраахвотна пайшла на фронт, была медсястрой, разведчыцай. З пачатку жніўня 1942 г. на акупіраванай тэрыторыі Беларусі, вяла разведвальную і дыверсійную работу, распаўсюджвала лістоўкі і газеты ў Мінску і Мінскай вобл., здабывала зброю, боепрыпасы, медыкаменты для партызан. Загінула 13.6.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў каля в. Макаўе.

У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана ў жалобе.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; М а ч у л ь с к и й Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978. *У. У. Бянько.*

**в. Малая Ухалода, Мётчанскі сельсавет**

**162. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 16 жыхароў вёсак Малая і Вялікая Ухалода, якіх 17.7.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. Сярод пахаваных — 5 дзяцей. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малы Стахаў, Прыгарадны сельсавет**

**163. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**163а.** М о г і л ь н і к - 1. За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, на левым беразе р. Бярэзіна, побач з сучаснымі могілкамі. Захавалася 40 курганоў вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 4—10 м. У 1931 г. А. М. Ляўданскі даследаваў 3 курганы. Пад вяршыняй насыпу знойдзены перапаленыя косці, рэшткі перапаленых бронзавых упрыгожанняў, шкляныя пацеркі і ляпны посуд. Курганы насыпаны на месцы селішча жалезнага веку. Датуецца 8—9 стагоддзямі. У 1971 г. Г. В. Штыхаў раскапаў 1 курган, у якім пахавання не выяўлена. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**163б.** М о г і л ь н і к - 2. За 0,5 км на ўсход ад могільніка-1, каля лясной дарогі. Захавалася 19 курганоў, з іх 2 авальныя, вышынёй 0,9 м, даўжынёй 6—8 м, астатнія круглыя, вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 4—7 м. Абследаваў у 1979 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся. *Г. В. Штыхаў.*



**163а.** *Курганны могільнік-1. План.*


**163б.** *Курганны могільнік-2. План.*

**в. Малыя Негнавічы, Лошніцкі сельсавет**

**164. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 танкісты, якія загінулі летам 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Маталыга, Аздзяціцкі сельсавет**

**165. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 49 жыхароў вёскі, якіх у 1943 г. расстралялі і спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мрай, Мсціжскі сельсавет**

**166. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 350 землякоў, закатаваных ці расстраляных 4.10.1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1958 г. пастаўлены абеліск.


**167.** *Помнік землякам.*

**в. Мсціж, цэнтр сельсавета**

**167. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка канторы саўгаса «Мсціж». На ўшанаванне памяці 148 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Навасёлкі, цэнтр сельсавета**

**168. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 чырвонаармейцы, якія загінулі ў 1919 г., і 11 воінаў, што загінулі ў 1944 г. пры вызваленні Барысаўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

**169. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 248 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Навасёлкі, Глівінскі сельсавет**

**170. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,1 км на поўнач ад вёскі, на мысе вышынёй каля 15—16 м ад летняга межаннага ўзроўню вады ў рацэ, які ўтвораны глыбокім ярам і абрывістым правым берагам р. Бярэзіна. Пляцоўка паўавальная, памерам 45×16 м. З заходняга боку гарадзішча было ўмацавана валам, які цяпер знівеліраваны. Адкрыў у 1931 г. А. М. Ляўданскі, да-

следаваў у 1950 г. на плошчы 50 $м^2$ А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 1,2—1,4 м. Знойдзены жалезныя сярпы і нажы для жніва, шылы, абломак іголкі, кіепадобныя шпількі, бронзавы бранзалет, фібула з падвязанай ножкай, гліняныя прасліцы, грузікі дзякоўскага тыпу, пацеркі, пярсцёнак, рэшткі ляпнога штрыхаванага посуду, жалезныя шлакі, косці свойскіх і дзікіх жывёл. Абследаваў у 1982 г. Г. В. Штыхаў. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 6—1 стагоддзямі да н. э. (ранні перыяд) і 1—5 стагоддзямі н. э. (позні перыяд).

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Ляўдански А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. I.— Мн., 1970; Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Навасёлы, Траянаўскі сельсавет**

**171. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба, у скверы. На ўшанаванне памяці 80 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Навішчына, Забашавіцкі сельсавет**

**172. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны-разведчыкі А. А. Арцем'еў і Д. А. Камароўскі, якія загінулі ў студзені 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Неманіца, цэнтр сельсавета**

**173. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.




170. *Гарадзішча. План.*



174. *Помнік землякам.*

У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**174. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 123 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ніўкі, Мсціжскі сельсавет**

**175. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Ніўкі». Пахаваны 48 воінаў, якія загінулі ў 1941—44 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне іх памяці і памяці 43 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск, побач насыпаны курган.

**в. Ніўкі, Чарневіцкі сельсавет**

**176. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**176а.** Могільнік-1. За 0,2 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля могілак. Захавалася 8 насыпаў вышынёй 0,5—0,8 м, дыяметрам 6—8 м. За 200—250 м ад могільніка ёсць яшчэ адзін курган. Абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**176б.** Могільнік-2. За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, каля дарогі. Захаваўся 21 курган вышынёй 0,6—1,5 м, дыяметрам 5—9 м. У 1930 г. А. М. Ляўданскі раскапаў 2 курганы. Яны аказаліся пустыя. Абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц.

**176в.** Могільнік-3. За 1,8 км на ўсход ад вёскі, у полі. Захаваліся 2 курганы вышынёй 0,7 м, дыяметрам 8—9 м.

**176г.** Могільнік-4. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля дарогі ў в. Пабярэжжа. Захаваліся 2 курганы вышынёй 1—1,2 м, дыяметрам 5—6 м. Абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

*Ю. А. Заяц, Г. В. Штыхаў.*

**в. Новае Сяло, Іканскі сельсавет**

**177. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 120 жыхароў вёскі, якіх 5.5.1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1969 г. устаноўлена надмагільная пліта.

**178. ПОМНІК УСОСКАМУ** Мішу (гіст.). У цэнтры вёскі.

Піянер партызан-разведчык брыгады «Дзядзькі Колі» М. Усоскі ўдзельнічаў у падрыве мастоў і чыгункі, у разгроме варожых гарнізонаў. 21.5. 1943 г. у баі супраць гітлераўскіх карнікаў прыкрываў пераправу партызан цераз р. Цна, быў цяжка паранены. Калі ворагі акружылі Мішу, ён падарваў сябе і гітлераўцаў гранатай.

У 1970 г. на ўшанаванне памяці юнага партызана пастаўлены абеліск.

*У. У. Бянько.*

**в. Новая Мётча, цэнтр Мётчанскага сельсавета**

**179. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 27 воінаў, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. пры вызваленні Барысаўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 19-й танкавай брыгады 3-га Кацельнікаўскага танкавага корпуса 5-й гвардзейскай танкавай арміі, а таксама воіны стралковых падраздзяленняў 31-й арміі 3-га Беларускага фронту. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**180. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 288 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік: стэла з барэльефнай выявай воіна, побач — мемарыяльная сцяна з імёнамі загінуўшых.




176. *Курганныя могільнікі-1 і 2. План.*



175. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і землякам.*

**в. Новая Уцеха, Майсееўшчынскі сельсавет**

**181. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, каля развілкі дарогі ў в. Баравуха. 5 насыпаў вышынёй 1,5—3 м, дыяметрам 9—12 м. 2 курганы пашкоджаны ямамі. Абследаваў у 1979 г. В. А. Карпека. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Обча, Майсееўшчынскі сельсавет**

**182. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**182а.** Могільнік-1. За 0,4 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля дарогі ў в. Барань, у лесе. Захавалася 50 курганоў. Вышыня вялікіх насыпаў 2,5—4 м, дыяметр 16—18 м, вышыня малых курганоў 0,5—1 м, дыяметр 5—7 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. В. А. Карпека. Раскопкі не праводзіліся.




182. *Курганныя могільнікі. План.*

**182б.** Могільнік-2. На паўночны захад ад вёскі, за 1 км ад жывёлагадоўчай фермы, каля дарогі ў в. Маячная, у лесе. Захавалася 6 насыпаў вышынёй 1,2—2 м, дыяметрам 8—10 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся. *В. А. Карпека, Г. В. Штыхаў.*

**в. Пагадзіца, Неманіцкі сельсавет**

**183. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 61 земляка, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск, абапал яго — 2 мемарыяльныя сцяны з барэльефнымі выявамі старога, жанчыны, піянера, воінаў і партызан.

**в. Падбярэззе, Кішчына-Слабодскі сельсавет**

**184. МАГІЛА ЛЕМІША** Івана Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызанскі разведчык І. І. Леміш загінуў 8.4. 1944 г. пры выкананні баявога задання. У 1964 г. устаноўлена надмагільная пліта.

**185. МАГІЛА УСЦІНАВА** Канстанціна Канстанцінавіча (гіст.). На могілках. Партызанскі разведчык К. К. Усцінаў загінуў 8.4.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. устаноўлена надмагілле.

**в. Палік, Майсееўшчынскі сельсавет**

**186. ПОМНІК У ГОНАР МІЖРАЁННАГА ПАРТЫЙНАГА ЦЭНТРА БАРЫСАЎСКАЙ ЗОНЫ І ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «СТАРЫ»** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Тут, каля воз. Палік, у Вялікую Айчынную вайну базіраваўся міжраённы партыйны цэнтр Барысаўскай зоны і штаб партызанскай брыгады «Стары».

Міжраённы партыйны цэнтр Барысаўскай зоны зацверджаны ЦК КП(б)Б 11.8.1942 г., прыступіў да выканання сваіх абавязкаў у тыле ворага 6.10.1942 г. У яго склад уваходзілі: кіраўнік П. А. Жуковіч, члены П. Ф. Смірноў, В. С. Пыжыкаў, Т. С. Радзюк.

Міжрайпартцэнтр кіраваў камуністычным падполлем і партызанскім рухам, вёў палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва ў Барысаўскім, Бягомльскім, Крупскім, Лагойскім, Плешчаніцкім, Смалявіцкім і Халопеніцкім р-нах. Стварыў падпольныя райкомы КП(б)Б: Крупскі (10.5.1943 г.), Лагойскі (лістапад 1942 г.), Плешчаніцкі (лістапад 1942 г.), Смалявіцкі (13.10.1942 г.), Халопеніцкі (20.10.1942 г.), Барысаўскі гарком-райком КП(б)Б (30.4.1943 г.). Выдавалася падпольная газета «Народный мститель». У ліпені 1943 г. паводле рашэння ЦК КП(б)Б міжраённы партыйны цэнтр быў ліквідаваны, паколькі выканаў свае задачы. П. А. Жуковіч у жніўні 1943 г. накіраваны на падпольную партыйную работу ў Вілейскую вобл. Далейшае кіраўніцтва камуністычным падполлем і партызанскім рухам на поўначы Мінскай вобл. ажыццяўлялі падпольныя райкомы, якія ўзначальваў Мінскі падпольны абком КП(б)Б.

Партызанская брыгада «Стары» створана ў жніўні 1942 г. паводле рашэння савета камандзіраў партызанскіх атрадаў з удзелам прадстаўнікоў Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б на базе атрадаў «Стары» (пазней «За Радзіму»), А. І. Тамашэвіча (пазней «За Бацькаўшчыну»), «Беларусь» і «Бальшавік». У канцы лістапада 1942 г. у брыгаду ўключаны атрад «Смерць фашызму», у красавіку 1943 г. арганізаваны атрад імя К. Я. Варашылава. У кастрычніку 1942 г. атрад «Бальшавік» вылучаны для арганізацыі партызанскай брыгады імя М. А. Шчорса. У снежні 1942 г. атрад «За Бацькаўшчыну» перададзены партызанскай брыгадзе «Дзядзькі Колі»,



186. *Помнік у гонар міжрайпартцэнтра Барысаўскай зоны і штаба партызанскай брыгады «Стары».*

атрад «Беларусь» перабазіраваны ў Рудзенскі р-н для самастойных дзеянняў (з сакавіка 1943 г.— у партызанскай брыгадзе «Беларусь»). Камандзіры брыгады «Стары»: В. С. Пыжыкаў (партызанскія псеўданімы — Уладзіміраў, «Стары»; жнівень 1942 г.— май 1943 г.), І. З. Рабышаў (выконваючы абавязкі; верасень — лістапад 1942 г.); камісары: Б. Р. Бывалы (верасень — кастрычнік 1942 г., снежань 1942 г.— май 1943 г.), Я. Я. Ліхтэр (кастрычнік — снежань 1942 г.).

Партызаны брыгады праводзілі баявыя аперацыі пераважна на камунікацыях ворага Барысаў — Крупкі, Барысаў — Смалявічы, Барысаў — Зембін і інш. У 2-й палове 1942 г. падарвалі больш за 10 варожых эшалонаў, 13 мастоў, пашкодзілі больш за 13 км тэлефонна-тэлеграфных ліній, спалілі 4 прадпрыемствы, 4 склады. Нападалі на гарнізоны ў вёсках Неманіца, Зачысце, Барань, Кішчына Слабада, Жыцькава, Кастрыца, Траянаўка Барысаўскага, у в. Красналукі Халопеніцкага р-наў. Рабілі засады на дарогах. 28.8.1942 г. атрад «За Радзіму» вёў цяжкі бой каля в. Мядзведзеўка Барысаўскага р-на. У лютым 1943 г. партызаны брыгады ўдзельнічалі ў баях з карнікамі, выратавалі жыхароў в. Баранскія Пруды ад загубы.

8.5.1943 г. паводле загаду Беларускага штаба партызанскага руху і пастановы міжрайпартцэнтра Барысаўскай зоны брыгада «Стары» расфарміравана. Атрады імя Варашылава, «За Радзіму» вылучаны ў самастойныя, з студзеня 1944 г.— у брыгадзе імя П. К. Панамарэнкі; атрад «Смерць фашызму» таксама дзейнічаў самастойна, у ліпені 1943 г. быў разгорнуты ў партызанскую брыгаду «Смерць фашызму».

У 1982 г. у гонар міжраённага партыйнага цэнтра Барысаўскай зоны і штаба партызанскай брыгады «Стары» пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3.— Мн., 1983—85; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн,, 1983; Дедюля И. П. Лесная гвардия.— Мн., 1968; Денисевич А. Ю. Орлиное племя: Записки комсомольского работника.— Мн., 1972; Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978.
*У. У. Бянько.*

**в. Перасады, цэнтр сельсавета**

**187. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі летам 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 19-й танкавай брыгады 5-й гвардзейскай танкавай арміі. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**188. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны і партызаны, якія загінулі на тэрыторыі сельсавета ў Вялікую Айчынную вайну. Вядомы прозвішчы 8 воінаў і 1 партызана. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**189. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры, у скверы. На ўшанаванне памяці 194 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**пас. Прыяміна, Лошніцкі сельсавет**

**190. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры пасёлка, каля будынка школы. Пахаваны 8 воінаў 31-й арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. пры вызваленні пасёлка і чыгуначнай станцыі Прыяміна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Пчэльнік, Прыгарадны сельсавет**

**191. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Бярэзіна, абапал дарогі ў в. Кішчына Слабада, у лесе. Захавалася 146 курганоў вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 5—9,5 м. Самы вялікі курган вышынёй 3,5 м, дыяметрам 20 м. Каля буйных курганоў ёсць раўкі. У 1968 г. адзін разбураны курган даследаваў М. М. Прохарчык. Пад насыпам знаходзіўся касцяк жанчыны, арыентаваны галавой на захад. Каля яго былі 4 шкляныя пацеркі, 4 металічныя скроневыя кольцы, гаршчок. У 1971 г. Г. В. Штыхаў раскапаў 2 курганы, у якіх пахаванні без рэчаў. Могільнік адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі, датуецца 11—12 стагоддзямі.

Матэрыялы захоўваюцца ў гістарычным кутку Стара-Барысаўскай школы-інтэрната. *Г. В. Штыхаў.*




**191.** *Курганны могільнік. План.*

**192. ПОМНІК У ГОНАР КУРСАНТАЎ БАРЫСАЎСКАГА ТАНКАВАГА ВУЧЫЛІШЧА** (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі, каля шашы Барысаў — Зембін.

У канцы чэрвеня 1941 г. перадавыя часці 2-й танкавай групы Гудэрыяна нямецка-фашысцкіх войск імкнуліся з ходу фарсіраваць р. Бярэзіна і захапіць Барысаў. 30 чэрвеня на заходняй ускраіне горада першымі прынялі бой курсанты Барысаўскага танкавага вучылішча пад камандаваннем карпуснога камісара І. З. Сусайкава. На працягу другой паловы дня да падыходу 1-й Маскоўскай мотастралковай дывізіі яны стрымлівалі шалёны націск намнога большых сіл праціўніка. Дзякуючы сумесным дзеянням воінаў дывізіі і курсантаў вораг быў на 3 сутак затрыманы на Бярэзіне. Гл. таксама артыкул № 43 «Помнік у гонар гвардзейскай пралетарскай Маскоўска-Мінскай мотастралковай дывізіі».

У 1973 г. у гонар курсантаў Барысаўскага танкавага вучылішча пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Еременко А. И. В начале войны.— М., 1964. *У. У. Бянько.*

**в. Разліцце, Мсціжскі сельсавет**

**193. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,2 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 196 мірных жыхароў, якіх 22.6.1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ратуцічы, Навасёлкаўскі сельсавет**

**194. МАГІЛА АЎДЗЮШКІНА** Андрэя Міхайлавіча (гіст.). На могілках. Партызан А. М. Аўдзюшкін загінуў у 1941 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Садоўшчына, Кішчына-Слабодскі сельсавет**

**195. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1981 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Святое, Забашавіцкі сельсавет**

**196. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ў 1941—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Сівіца, Глівінскі сельсавет**

**197. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 63 землякоў — воінаў і партызан, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялі-

кую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены абеліск.

**в. Скупліно, Карсакавіцкі сельсавет**

**198. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 58 жыхароў вёскі, расстраляных у маі 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1978 г. пастаўлена стэла.

**в. Слабодка, Забашавіцкі сельсавет**

**199. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Лужа ва ўрочышчы Верх, у лесе. Вышыня над поймай ракі 8—9 км. Пляцоўка памерам 55×45 м умацавана 2 валамі і равамі. Даследаваў у 1964 г. на плошчы 8 м² Л. Д. Побаль, абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц. Культурны пласт 0,4 м. Знойдзены ляпны посуд, жалезныя шлакі, глінянае прасліца. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Побаль Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974.

*Ю. А. Заяц, Г. В. Штыхаў.*

**пас. Старабарысаў, Прыгарадны сельсавет**

**200. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы. Пахаваны 34 воіны, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**201. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**201а.** Гарадзішча. У пасёлку, на левым беразе Бярэзіны. Займае стрэлку вялікага мыса, абмежаванага з усходу возерам і ручаём, з захаду доўгім ярам. Аддзелена ад астатняй плошчы мыса ровам. Уваход на гарадзішча з паўночна-ўсходняга боку. Пляцоўка авальная, памерам 150×80 м, плошчай 1 га, узвышаецца на 8—10 м над поймай ракі.

Даследаваў у 1968, 1969, 1971 гг. Г. В. Штыхаў, раскапана 224 м² плошчы. Культурны пласт 0,8 м. Знойдзены рэчы 12—13 стагоддзяў: залатое скроневае кольца, бронзавыя ўпрыгожанні, шкляныя бранзалеты, шыферныя прасліцы, гліняны посуд, жалезныя наканечнікі стрэл, шпоры, нажы, сярпы, восці і інш. У 12—13 стагоддзях тут размяшчаўся старажытны г. Барысаў.




199. *Гарадзішча. План.*



202. *Помнік землякам.*

**201б.** Селішча. Прымыкае непасрэдна да гарадзішча з паўночнага боку. Плошча 3 га. Раскопкі праводзіў у 1968—69 гг. Г. В. Штыхаў, даследавана 96 м² плошчы. Культурны пласт 0,8—0,9 м. Знойдзена шмат керамікі, шкляныя бранзалеты, шыферныя прасліцы, жалезныя вырабы. У 12—13 стагоддзях тут размяшчаўся пасад старажытнага г. Барысава. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі (Маладзечна).

*Літ.:* Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978.

*Г. В. Штыхаў.*

**202. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля дарогі Зембін — Барысаў. На ўшанаванне памяці 135 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя воіна і партызана на фоне вертыкальнай стэлы. Перад помнікам гарызантальны бетонны блок з імёнамі загінуўшых.

**203. ПОМНІК КАМСАМОЛЬЦАМ І МОЛАДЗІ** (гіст.). Каля будынка школы-інтэрната. Пастаўлены ў 1985 г. на ўшанаванне памяці юнакоў і дзяўчат Барысаўшчыны, якія загінулі на франтах, у партызанскай і падпольнай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. На абеліску 2 марммуровыя дошкі: першая з выявамі сцяга, будзёнаўкі і шаблі, на другой — надпіс-прысвячэнне: «Карчагінцам Барысаўшчыны — героям Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945».

**204. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка аддзялення сувязі, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1960 г.

**205. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). У цэнтры пасёлка, на гарадзішчы. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Цяпер тут размешчана кантора саўгаса «Старабарысаў».

Будынак прамавугольны ў плане, двухпавярховы. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя складаецца з 2 частак: франтальнай з двухпавярховым рызалітам у цэнтры і бакавымі аднапавярховымі крыламі, і дваровай двухпавярховай. Фасады крапаваны буйнымі лапаткамі з гіркамі ў завяршэнні, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, міжпаверхавай цягай, дэкарыраваны аркатурай. Сцены (таўшчыня 70 см) атынкаваны. Планіроўка калідорная, з невялікім лесвічным вестыбюлем у цэнтры. Памяшканні перакрыты плоскай столлю. Пад будынкам падвалы.

Сядзіба — помнік архітэктуры з элементамі стылю «мадэрн».

*А. М. Кулагін.*

**в. Старое Янчына, Бродаўскі сельсавет**

**206. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На



208. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 15 воінаў і партызан, якія загінулі летам 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў або памерлі ад ран у палявым шпіталі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Старына, Майсееўшчынскі сельсавет**

**207. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля дарогі ў в. Маячная, на пакатых схілах узвышша. Захаваліся 53 насыпы вышынёй 1,2—1,5 м, дыяметрам 6,3—8 м (некаторыя вышынёй 2 м, дыяметрам 8—10 м). Самы вялікі курган вышынёй 2,5 м, дыяметрам 11 м — ва ўсходняй частцы могільніка. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Студзёнка, Прыгарадны сельсавет**

**208. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 152 воіны 1-й Маскоўскай мотастралковай дывізіі, якія загінулі летам 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Гл. артыкул № 43 «Помнік у гонар гвардзейскай Пралетарскай Маскоўска-Мінскай мотастралковай дывізіі». У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з лаўровым вянком, абапал яе — нахіленыя стэлы з імёнамі загінуўшых.

**209. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Каля паўночнай ускраіны вёскі, паміж вёскай і аўтамабільнай дарогай у в. Зембін, на полі. 3 насыпы (за 150—300 м адзін ад аднаго). Вышыня першага 1,5 м, дыяметр 8—10 м, памеры другога адпаведна 2 м і 10—12 м, трэцяга — 1,5 м і 10 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.



210. *Помнік у гонар рускіх воінаў.*

**210. ПОМНІК У ГОНАР РУСКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Побач з вёскай, на левым беразе р. Бярэзіна.

Тут у Айчынную вайну 1812 г. рускія войскі нанеслі адступаючай арміі Напалеона (каля 40 тыс. чалавек) паражэнне, пасля якога французская армія перастала існаваць як арганізаваная баявая сіла.

У лістападзе 1812 г. рэшткі арміі Напалеона выйшлі да Бярэзіны. У гэты час руская армія П. В. Чычагова (30 тыс. чалавек) стаяла на правым беразе ракі, армія П. Х. Вітгенштэйна (каля 30 тыс. чалавек) падыходзіла да Барысава з поўначы, казацкія войскі М. І. Платава і авангард галоўных сіл рускай арміі М. І. Кутузава праследавалі ворага з усходу. Для французскай арміі стварылася рэальная пагроза акружэння. Аднак з-за няўзгодненых і нерашучых дзеянняў камандуючых П. В. Чычагова і П. Х. Вітгенштэйна праціўніку ўдалося пабудаваць каля в. Студзёнка 2 масты



205. *Сядзібны дом.*




207. *Курганны могільнік. План.*



211. *Помнік у гонар рускіх воінаў.*

цераз раку, 14—16 лістапада пад прыкрыццём артылерыі пераправіць частку войск на правы бераг. 16 лістапада рускія войскі часткай сіл атакавалі французаў на абодвух берагах. Адбыліся цяжкія баі. У выніку вораг страціў каля 25 тыс. чалавек і ўвесь абоз. Рэшткі французскіх войск разам з Напалеонам адступілі ў напрамку Вільні.

У 1962 г. да 150-годдзя перамогі над арміяй Напалеона на Бярэзіне і ў гонар рускіх воінаў пастаўлены камень-валун з памятным надпісам.

*Літ.:* Харкевич В. Березина. 1812 г.: Военно-историческое исследование.— СПб., 1893; Тарле Е. В. 1812 год.— М., 1959. *У. У. Бянько.*

**211. ПОМНІК У ГОНАР РУСКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля дарогі Барысаў — Зембін. У гонар рускіх воінаў, якія ў Айчынную вайну 1812 г. разграмілі на Бярэзіне адступаючыя войскі Напалеона, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Судоль, Бродаўскі сельсавет**

**212. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, каля лесу. Савецкі лётчык загінуў у чэрвені 1944 г. У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Сялец, Карсакавіцкі сельсавет**

**213. МОГІЛКІ ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Улессе. У 3 магілах пахаваны 63 партызаны, якія загінулі ў 1942—43 гг. і ў маі — чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама 94 мірныя жыхары, загубленыя гітлераўцамі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — партызаны атрада імя І. В. Сталіна брыгады «Дзядзькі Колі». У 1968 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Сялітранка, Неманіцкі сельсавет**

**214. РАДЗІМА КЛІМКОВІЧА** Міхася (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік і крытык Міхась (Міхаіл Мікалаевіч) Клімковіч нарадзіўся 8.11.1899 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1920 г. Скончыў Барысаўскае гарадское вышэйшае чатырохкласнае вучылішча ў 1915 г. Здаў экстэрнам экзамен на званне народнага настаўніка, працаваў у школах Барысаўшчыны. У 1921—23 гг. у Чырвонай Арміі, пасля зноў настаўнічаў, потым на партыйнай і прафсаюзнай рабоце. З 1932 г. старшыня аргкамітэта, у 1934—39 гг. старшыня праўлення, з 1947 г. літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў БССР. У 1943—47 гг. галоўны рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР. Член Рэвізійнай камісіі КП(б)Б у 1930—32 гг., кандыдат у члены ЦК КП(б)Б у 1932—37 гг. Член ЦВК БССР у 1931—38 гг.

М. М. Клімковіч пачаў друкавацца з 1926 г. Аўтар драматычных паэм «Кацярына Жарнасек» (1937 г., пастаўлена ў 1938 г.), «Адплата» (1945 г.), драматычнай трылогіі «Георгій Скарына» (1946—55 гг.), гісторыка-рэвалюцыйнай драмы «Уся ўлада Саветам!» (1956 г.). Гэтыя творы прысвечаны важным падзеям гісторыі і культуры беларускага народа. Даследаваў беларускую літаратуру. Выйшлі кнігі «Літаратура Савецкай Беларусі за 15 год» (1934 г.), «Аб жыватворчым уплыве рускай літаратуры на беларускую літаратуру» (1955 г.), «Літаратурна-крытычныя артыкулы» (1962 г.). Празаічныя творы М. М. Клімковіча змешчаны ў зборніку «Лясное возера» (1946 г.). Стварыў лібрэта оперы «Кастусь Каліноўскі» (пастаўлена ў 1947 г., апублікавана ў 1959 г.), балета «Князь-возера» (пастаўлены ў 1949 г.) і інш. Аўтар тэксту Дзяржаўнага гімна БССР (1944 г.). Выдадзены Збор твораў (т. 1—2; 1959 г.).

М. М. Клімковіч памёр 5.11.1954 г. Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках.

*Літ.:* Бойка У. У розных жанрах.— Полымя, 1974, № 11; Васілевіч А. Міхась Клімковіч.— Тамсама, 1959, № 11; Есакоў А. Драматург, паэт, крытык.— Маладосць, 1959, № 11; Власенко А. Правда истории.— Советская Отчизна, 1959, № 6. *І. Ф. Кудраўцаў.*

**в. Траянаўка, цэнтр сельсавета**

**215. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, у скверы каля школы. На ўшанаванне памяці 84 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Хаўхоліца, цэнтр сельсавета**

**216. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 лётчыкаў, старшы лейтэнант А. Д. Абухоў, партызан С. С. Астроўскі, а таксама 6 мірных жыхароў вёсак Завосіна і Востраў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1985 г. на магіле пастаўлена стэла.



213. *Помнік на могілках партызан і ахвяр фашызму.*

**217. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі, каля дарогі ў в. Востраў. 12 курганоў вышынёй 1—1,8 м, дыяметрам 8—10 м. Тры курганы вышынёй 0,5 м, дыяметрам 4—5 м. Каля некаторых ёсць раўкі. Некалькі насыпаў пашкоджана



217. *Курганны могільнік.*




217. *Курганны могільнік. План.*



218. *Помнік землякам.*

пры пракладцы дарогі. Раней тут налічвалася 25 курганоў. Абследаваў у 1979 г. В. А. Карпека. Знойдзены косці шкілета чалавека і гліняны гаршчок з патоўшчаным краем (11 ст.). Раскопкі не праводзіліся.

*В. А. Карпека, Г. В. Штыхаў.*

**218. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры, у скверы. На ўшанаванне памяці 198 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск, на гранях якога барэльефныя выявы савецкіх воінаў.

**в. Цімкі, Кішчына-Слабодскі сельсавет**

**219. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1981 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**220. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы, у скверы. На ўшанаванне памяці 40 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Чарневічы, цэнтр сельсавета**

**221. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 17 воінаў і партызан, што загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск, які ўшаноўвае таксама памяць 244 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**222. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЧАРНЯКУ** Сцяпану Іванавічу (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1984 г.

Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр (1944 г.) С. І. Чарняк нарадзіўся 16.12.1898 г. у в. Чарневічы Барысаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1920 г. Скончыў Ленінградскую пяхотную школу (1924 г.), курсы «Выстрал» (1930 г.), Курсы вышэйшага каманднага саставу пры Ваеннай акадэміі Генеральнага штаба (1941 г.). З сакавіка 1918 г. у Чырвонай Арміі. У Грамадзянскую вайну ваяваў на Заходнім фронце, камандзір узвода. У 1937—38 гг. удзельнік нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі, савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. Дывізія пад камандаваннем С. І. Чарняка прарвала адзін з участкаў лініі Манергейма. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 7.4. 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну памочнік камандуючага Чарнаморскім флотам па пяхоце, камандуючы арміяй, намеснік камандзіра стралковага корпуса, камандзір стралковай дывізіі на Калінінскім, Беларускім і 1-м Беларускім франтах. Удзельнік абароны Севастопаля, вызвалення Беларусі, Польшчы, штурму Берліна. Да 1958 г. служыў у Савецкай Арміі. Пасля дэмабілізацыі жыў у Краснадары, памёр 20.7.1976 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.




# БЯРЭЗІНСКІ РАЁН

Бялавічы
Дзевяніца
Арэшкавічы
Уша
Дзмітравічы
Высокая Гара
Котава
Шавярнічы
Ляжына
Белічаны
Журоўка
Жорнаўка
Вяшэўка
Мал. Лагі
Пагост
БЕРАЗІНО
Мікулічы
Лешніца
Мачаск
Паплавы
Любушаны
Косаўка
Капланцы
Журавок
Падваложка
Дулебы
Багушэвічы
Каменны Барок
Міхалева
Васільеўка
Брадзец
Мацевічы
Высокая Гара
Якшыцы
Сяліба
Чыжаха

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху Рэвалюцыя 1905–07 гг, Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

## II. БЕРАЗІНО

Горад, цэнтр раёна, прыстань на р. Бярэзіна. Размешчана за 101 км на ўсход ад Мінска, за 50 км ад чыгуначнай станцыі Градзянка, на аўтамабільнай дарозе Мінск — Магілёў.

Упершыню ўпамінаецца ў 16 ст. як мястэчка ў Мінскім павеце Мінскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. Фарміравалася на ўзгоркавым рэльефе Цэнтральнабярэзінскай раўніны ўздоўж правага берага р. Бярэзіна. Называлася таксама Ніжняе Беразіно. Належала Сапегам, адзін з якіх у 1641 г. пабудаваў у мястэчку драўляны касцёл. З 1668 г. Беразіно мела прывілей на гандаль і штогадовы кірмаш, які адбываўся з 6 да 9 жніўня. У 1746 г. гэты прывілей быў пацверджаны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1793 г. у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Пагосцкай воласці Ігуменскага павета Мінскай губерні, належала Патоцкім. У 1-й палове 19 ст. працавала суконная мануфактура (у 1840 г. выпусціла 7740 аршынаў сукна), з 1892 г.— бровар, пабудаваны млын (у 1896 г. у ім устаноўлена паравая машына). Паводле перапісу 1897 г. у мястэчку 4900 жыхароў. Працавалі аптэка, паштова-тэлеграфная кантора, аднакласнае народнае вучылішча, школа, канатная фабрыка, бровар, млын, прыстань, праз якую вывозілі драўніну, пяньку, прывозілі соль, збожжа.

У час рэвалюцыйных падзей 1905 г. у Беразіно стаяла паўроты салдат з мэтай прадухілення захопу сялянамі памешчыцкай зямлі і разгрому маёнтка. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З лютага да снежня 1918 г. мястэчка было акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жніўня 1919 г. да ліпеня 1920 г.— буржуазнай Польшчы. З 17.7.1924 г. г. Беразіно — цэнтр раёна ў Барысаўскай, з 9.6.1927 г.— у Мінскай (да 23.7. 1930 г.) акругах. Працавалі суднабудаўнічая, калёсная, з 1925 г. кравецкая, з 1928 г. шавецкая майстэрні. У 1930 г.— 2968 жыхароў, маслазавод, друкарня, кузня, хлебапякарня і інш. У 1929 г. у новым трохпавярховым будынку размясціліся электрастанцыя, пільня, млын. У мястэчку быў створаны малочна-жывёлагадоўчы саўгас «Беразіно». 20.6.1928 г. па маршруце Мінск — Беразіно адправіўся першы аўтобус. З студзеня 1938 г. Беразіно і раён у складзе Магілёўскай вобл. З 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. У 1939 г.— 4,8 тыс. жыхароў.

У Вялікую Айчынную вайну пасёлак з ліпеня 1941 г. да ліпеня 1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут 1 тыс. жыхароў. У час акупацыі ў раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (20.7.1942 г.— 2.7.1944 г.), ЛКСМБ (з ліпеня да жніўня 1941 г., 3.9.1942 г.— 2.7.1944 г.), выходзіла газета «Сцяг Леніна» — друкаваны орган падпольнага райкома КП(б)Б. Вызвалілі Бярэзінскі р-н войскі 49-й арміі (генерал-лейтэнант І. Ц. Грышын) 2-га Беларускага фронту. Непасрэдны ўдзел у вызваленні горада прымалі 42-я і 153-я стралковая дывізіі.

З 20.9.1944 г. Бярэзінскі р-н у складзе Мінскай вобл. 25.12.1962 г. скасаваны, яго тэрыторыя ўвайшла ў Чэрвеньскі р-н, 6.1.1965 г. адноўлены. 7.3.1968 г. Беразіно пераўтворана ў горад раённага падпарадкавання. 6,9 тыс. жыхароў (1970 г.).

Сучасны горад выцягнуты ў паўночным напрамку, размешчаны кампактна, мае прамавугольную сетку вуліц. Грамадска-адміністрацыйны цэнтр арганізаваны на цэнтральнай плошчы, што выходзіць на галоўную



II. *Забудова цэнтральнай плошчы.*



II. *Від горада з боку ракі Бярэзіна.*

вуліцу — Кастрычніцкую. Плошчу фарміруюць будынкі Дома Саветаў, паштамта, гасцініцы з рэстаранам. Непадалёку знаходзіцца Дом культуры, Дом быту, універмаг. Вядзецца будаўніцтва мікраараёна з пяціпавярховымі жылымі дамамі. Індывідуальная жылая забудова пераважна аднапавярховая, сядзібнага тыпу. Мостам звязана з левым берагам ракі. У раёне вуліц Кастрычніцкай і Зялёнай вядзецца будаўніцтва двухпавярховых жылых дамоў. У паўночна-заходнім раёне сфарміравана прамыслова-складская зона. Паводле генплана 1982 г. Беларускага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва прадугледжана фарміраванне Цэнтральнага (капітальнае будаўніцтва), Паўночнага і Паўднёвага (мяшаная забудова) планіровачных раёнаў, запраектаваны парк.

Прамысловасць пераважна па перапрацоўцы мясцовай сыравіны. Прадпрыемствы: торфабрыкетны завод, харчовы камбінат, масласырзавод, спіртзавод, ільнозавод, райпрамкамбінат, вытворчая база Бярэзінскага будупраўлення меліярацыі, раённае аграпрамысловае аб'яднанне. У горадзе працуюць 2 сярэднія, вячэрняя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, школа-інтэрнат, Дом піянераў і школьнікаў, 6 дашкольных устаноў, Дом культуры, Дом быту, 2 бібліятэкі, гандлёвы цэнтр, раённая бальніца, паліклініка. Выдаецца газета «Сцяг Леніна».

Помнікі: У. І. Леніну, на брацкіх магілах савецкіх воінаў, партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, ахвяр фашызму. Захаваўся помнік архітэктуры 1-й паловы 19 ст.— сядзібны дом.

Зона адпачынку ўключае парк і сквер у горадзе, маляўнічыя берагі р. Бярэзіна, лясныя масівы паблізу горада.

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Памятная книжка Минской губернии на 1906 год.— Мн., 1905.

*М. І. Камінскі, А. Ю. Пятросава.*

**223. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 70 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на тэрыторыі Бярэзінскага р-на ў Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**224. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**225. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Кастрычніцкая, у скверы. Пахаваны 121 воін і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры абароне і вызваленні раёна, а таксама 24 мірныя жыхары, загубленыя гітлераўцамі ў час акупацыі раёна. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.



225. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму.*

**226. БУДЫНКІ СПІРТЗАВОДА** (архіт.). На вул. Зялёнай. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы і бутавага каменю.

Двухпавярховы вытворчы корпус, у плане выцягнуты прамавугольнік, накрыты двухсхільным пакатым дахам. Галоўны фасад сіметрычнай кампазіцыі, вылучаны ў цэнтры высокім шматступеньчатым штытом з вежачкай у завяршэнні, расчлянёны рознавялікімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. 2 круглыя люкарны абрамлены цаглянымі ліштвамі. Заходняя частка будынка аднаўлена ў сярэдзіне 20 ст. з захаваннем стылявых асаблівасцей. Будынак склада выкананы ў тых жа архітэктурных формах.

Будынак спіртзавода — помнік прамысловай эклектычнай архітэктуры.

*А. Ю. Пятросава.*

**227. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёвай ускраіне горада, на левым беразе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Прыбар, на ўскрайку леса. 7 насыпаў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 7—9 м. Адзін з іх пашкоджаны (раней тут было 12 курганоў, знішчаны ў вайну). Адкрыў у 1930 г. І. Р. Калодкін, даследаваў у 1931 г. А. М. Ляўданскі, які раскапаў 3 на-



226. *Спіртзавод. Склад.*



226. *Будынак спіртзавода. Галоўны фасад.*



231. *Помнік У. І. Леніну.*

сыпы. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены пацеркі, бронзавыя ўпрыгожанні, ляпныя гаршкі. Абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Належаў крывічам, датуецца 10—12 стагоддзямі. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ляўдански А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.
*Т. С. Бубенька.*

**228. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Інтэрнацыянальная. Пахаваны 940 мірных жыхароў, якіх расстралялі ці закатавалі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1942 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**229. МАГІЛА ХУСАІМАВА** Гаражана Хусаімавіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін Г. Х. Хусаімаў загінуў у ліпені 1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1982 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**230. МАГІЛА ЦІМАФЕЕВА** Анатоля Васілевіча **І ПАПРУГІ** Віктара Іванавіча (гіст.). На могілках. Пахаваны старшы лейтэнант А. В. Цімафееў і старшына В. І. Папруга, якія загінулі 28.6.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**231. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У скверы, каля кінатэатра «Юбілейны». Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена у 1954 г.

**232. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Зялёнай. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1969 г.

**233. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). За 1,5 км на ўсход ад горада. У ліпені 1941 г. савецкія воіны вялі жорсткія абарончыя баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1979 г. школьнікі на месцы бою знайшлі гільзу з запіскай загінуўшага байца А. Н. Валюка, ураджэнца в. Заўруткі Мядзельскага р-на, у якой расказвалася пра гэты бой. У 1980 г. на ўшанаванне памяці воінаў, што загінулі ў час абарончых баёў 1941 г., пастаўлена стэла.

**234. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Набярэжная, 1, на правым крутым беразе р. Бярэзіна, умацаваным бутавай падпорнай сценкай. Пабудаваны ў 1-й палове 19 ст. з цэглы. Цяпер тут сярэдняя школа. Будынак прамавугольны ў плане, двухпавярховы, накрыты вальмавым дахам. У цэнтры галоўнага фасада на 4 пілонах мезанін, завершаны трохвугольным франтонам з радамі дэнтыкул. Іх рытм прадоўжаны ад франтона ўздоўж карніза. Цэнтральным акцэнтам дваровага фасада з'яўляецца скруглены эркер, які накрыты сферычным купалам і члянены паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Міжпаверхавы плоскі пояс падзяляе фасады на 2 ярусы. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены руставанымі лучковымі броўкамі. Сіметрыя будынка парушана двухпавярховай прыбудовай да паўднёвай тарцовай часткі.

У калідорнай планіроўцы дома вылучаны цэнтральны вестыбюль і парадная зала з скругленым эркерам. Прамавугольныя памяшканні, што прымыкаюць да іх, не захавалі элементаў першапачатковага дэкору. Міжпаверхавая лесвіца размешчана асіметрычна ў паўночным канцы калідора.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**в. Альхоўка, Бярэзінскі сельсавет**

**235. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 250 м на поўдзень ад вёскі. На ўшанаванне памяці 51 аднавяскоўца, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Арэшкавічы, Дзмітравіцкі сельсавет**

**236. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 49 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 4-й танкавай брыгады 2-га танкавага корпуса 11-й гвардзейскай арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**237. КУРГАН** (археал.). За 3 км на поўдзень ад вёскі, за 1,5 км ад левага берага р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Гарады. Вышыня 1,8—1,9 м, дыяметр 12 м. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька.

**238. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, абапал дарогі ў в. Жукавец. 45 насыпаў вышынёй 0,9—3,5 м, дыяметрам 18—20 м. Адкрыў і даследаваў у 1931 г. А. М. Ляўданскі, раскапана 3 насыпы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў грунтавых ямах галавой на захад. У жаночым пахаванні знойдзены



232. *Помнік У. І. Леніну.*

рэшткі венчыка з тонкай тканіны з бронзавымі пазалочанымі бляшкамі. У 1979 г. абследавала Т. С. Бубенька. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.
*Т. С. Бубенька.*

**в. Астроўкі, Брадзецкі сельсавет**

**239. РАДЗІМА БРАТОЎ ГАРАЎСКІХ** (гіст.). Беларускія жывапісцы. Ураджэнцы былога маёнтка Уборкі (цяпер у межах в. Астроўкі). Творчасць звязана з мастацкім жыццём Беларусі і Расіі.

Апалінарый Гілярыевіч, беларускі пейзажыст і партрэтыст. Нарадзіўся 23.1.1833 г. у былым маёнтку Уборкі ў збяднелай дваранскай сям'і. Ва ўзросце 10 гадоў быў залічаны ў Брэст-Літоўскі кадэцкі корпус, браў урокі жывапісу ў архітэктара М. Л. Бенуа. У 1850—54 гг. вучыўся ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў у Ф. Бруні і М. Вараб'ёва. У 1852 г. атрымаў вялікі сярэбраны медаль за пейзаж «Балота», у 1853 г.— малы залаты за «Выгляд Ручэйнага возера паблізу г. Тарапца», у 1854 г.— вялікі залаты за «Выгляд у Пскоўскай губерні» і званне мастака з правам замежнай паездкі. Скончыўшы Акадэмію мастацтваў, працаваў на радзіме, пісаў пейзажы, партрэты. У 1858 г. паехаў за мяжу, працаваў у Дзюсельдорфе, у Швейцарыі, наведаў Рым, Парыж; у 1860 г. вярнуўся ў Расію. У 1861 г. А. Г. Гараўскі ўдастоены звання акадэміка Акадэміі мастацтваў. Як пенсіянер Акадэміі падарожнічаў па Украіне і Беларусі. У 1862—86 гг. выкладаў у рысавальнай школе Таварыства заахвочвання мастацтваў у Пецярбургу.

Творчасць А. Г. Гараўскага цесна звязана з Беларуссю, тут створыў шэраг пейзажаў, якія ўслаўляюць прыгажосць роднай зямлі: «Вечар» (1854 г.), «Від дубровы каля Бабруйска» (1855 г.), «На радзіме» (1860 г.), «Вечар у Мінскай губерні» (1870-я гады) і інш. Пісаў таксама партрэты простых людзей («Старая моліцца», 1857 г., «Селянін», 1888 г., і інш.), да лёсу якіх ставіўся з вялікім спачуваннем. Па ініцыятыве П. М. Траццякова напісаў партрэты дзеячаў рускай культуры: К. Салдаценкава (1857 г.), Ф. Бруні (1871 г.), М. Глінкі (1878 г.), М. Л. Бенуа (1888 г.) і інш. Быў удзельнікам выставак Акадэміі мастацтваў, яго работы экспанаваліся на сусветных выстаўках у Парыжы, Лондане, Вене і Філадэльфіі. Памёр 28.3.1900 г. у Пецярбургу.

Іпаліт Гілярыевіч. Нарадзіўся 1.7.1828 г. Спецыяльную адукацыю атрымаў у школе Машчынскага ў Мінску. З 1855 г. наведваў заняткі Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў. Пісаў пейзажы: «На берагах ракі Бярэзіны» (1857 г.), «Від у ваколіцах Бабруйска» (1858 г.) і інш. Год смерці невядомы.



234. *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*



234. *Сядзібны дом. Дваровы фасад.*



233. *Помнік савецкім воінам.*

Гілярый Гілярыевіч, акварэліст 2-й паловы 19 ст. Даты нараджэння і смерці невядомы. Вучыўся ў рысавальнай школе Таварыства заахвочвання мастацтваў у Пецярбургу (да 1868 г.), потым у Акадэміі мастацтваў (да 1873 г.). Сярод пейзажаў «Від шпіля Петрапаўлаўскага сабора» (1870 г.), «Кветкі» (1872 г.) і інш.

*Літ.:* Дробаў Л. Беларускія пейзажысты Гараўскія.— У кн.: Беларускае мастацтва. Мн., 1962, в. 3; яго ж. «Колькі праўды ў фарбах...» — Мастацтва Беларусі, 1983, № 10; Биобиблиографический словарь художников народов СССР. Т. 3.— М., 1976. *Г. М. Ярмоленка.*

**в. Багушэвічы, цэнтр сельсавета**

**240. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 20 савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.



237. *Курган.*



240. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**241. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У цэнтры вёскі, на левым беразе р. Уса (правы прыток р. Бярэзіна), ва ўрочышчы Касцельная Гара (ці Касцелішча). Вышыня над поймай ракі 9—10 м. Пляцоўка памерам 60×50 м з боку поля ўмацавана 3 валамі і 3 равамі. Вышыня валоў 1,5—2 м, глыбіня равоў 0,5—1,8 м. У заходняй частцы пляцоўкі ў сярэдзіне 19 ст. пабудаваны касцёл, у паўднёвай — пахаванні канца 19 ст. Ва ўсходняй частцы валы зрыты на шырыню 5—6 м (уваход да касцёла) і разбураны сядзібамі. Схілы гарадзішча, валы і равы параслі дрэвамі і кустамі. Вядома з 1927 г., даследаваў у 1964—65 гг. Л. Д. Побаль, у 1979 г. абследавала Т. С. Бубенька. У культурным пласце 0,6—1 м была ляпная кераміка мілаградскай і ранняга этапа зарубінецкай культур. частка керамікі пакрыта штрыхамі. Знойдзены вырабы з крэменю, жалеза, тыглі, шлак, скроневае кольца, прасліца, каменная зерняцёрка, вуголле, попел. Датуецца 1 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Самцэвіч В. Эканамічна-культурнае становішча мястэчка Багушэвічы.— Наш край, 1927, № 3; Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974. *Т. С. Бубенька.*

**242. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі, на левым беразе р. Уса, на гарадзішчы. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы.

Шасцігранны ў плане будынак мае цэнтрычную кампазіцыю. З заходняга боку да яго прымыкае прамавугольная апсіда, з усходняга — бабінец з стральчатым уваходным парталам. Па вуглах касцёл фланкіраваны масіўнымі контрфорсамі, завершанымі фіяламі. У цэнтры ўзвышаецца завершаная шпілем шасцігранная вежа са стральчатымі аконнымі праёмамі. Сцены прарэзаны такімі ж праёмамі, іх пластыку ўзбагачаюць аркатурныя паясы. Кампактная ўнутраная прастора храма перакрыта зорчатым скляпеннем. Ва ўсходняй частцы асноўнага аб'ёму — хоры з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). На хоры вядзе вузкая лесвіца. Упрыгожаннем касцёла з'яўляюцца драўляныя філёнгавыя дзверы стральчатага абрысу. На разных філёнгах — выявы мудрагеліста сплеценых паміж сабою вензеляў, віньетак, разетак, лістоў і галінак.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі. *А. Ю. Пятросава.*



244. *Помнік М. В. Рыбачонку.*

**243. МАГІЛА РЫБАЧОНКА** Мікалая Васілевіча (гіст.). Каля клуба, у скверы. М. В. Рыбачонак (1904 г. нараджэння) — адзін з першых камсамольцаў раёна. Быў членам выканкома сельскага Савета. Па даручэнню мясцовай партарганізацыі ўзначаліў кааператыў, выкрываў прошукі кулакоў. У снежні 1924 г. забіты ворагамі Са-



242. *Касцёл.*




241. *Гарадзішча. План.*

вецкай улады. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**244. ПОМНІК РЫБАЧОНКУ** Мікалаю Васілевічу (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці аднаго з першых камсамольцаў раёна М. В. Рыбачонка ў 1979 г. пастаўлена стэла з барэльефнымі выявамі камсамольца.

**в. Баравіно, Ляжынскі сельсавет**

**245. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 229 мірных жыхароў вёскі, якіх закатавалі нямецка-фашысцкія карнікі 28.11. 1942 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.

**в. Барсукі, Высакагорскі сельсавет**

**246. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны 120-га атрада, якія ў 1944 г. пры выкананні баявога задання трапілі ў варожую засаду і былі закатаваны нямецка-фашысцкімі акупантамі.

**247. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**248. МАГІЛА ЯЛЕНСКАГА** Івана Антонавіча (гіст.). На могілках. Партызан палка «Трынаццаць» І. А. Яленскі загінуў 6.6.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Беліца, Ушанскі сельсавет**

**249. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Французскія Магілы. За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Уша. 6 насыпаў вышынёй 0,9—1,1 м, дыяметрам 6—8 м. Вядомы з 1925 г. Абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Беражкі, Бярэзінскі сельсавет**

**250. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Французскія Магілы. За 0,1 км на поўдзень ад вёскі, з левага боку ад дарогі Беразіно — Жукавец, у лесе, за 0,3 км ад правага берага р. Бярэзіна. 8 насыпаў вышынёй 0,8—1,5 м, дыяметрам 6—9 м. Тры курганы пашкоджаны ямамі. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.



252. *Курганны могільнік. Адзін з курганоў.*



245. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**в. Брадзец, цэнтр сельсавета**

**251. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**252. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал). За 70 м ад машыннага двара, на левым беразе р. Бярэзіна, у лесе. 2 насыпы вышынёй 2,5 і 3 м, дыяметрам каля 18 м. Курганы параслі лесам, захаванасць добрая. Адкрыў і абследаваў у 1930 г. А. М. Ляўданскі, абследавалі ў 1963 г. Л. Д. Победь, у 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.

**253. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Бярэзіна». На ўшанаванне памяці 201 аднавяскоўца, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**в. Буда, Каменнаборскі сельсавет**

**254. МАГІЛА СТАНІШЭЎСКАГА** Казіміра Станіслававіча (гіст.). На могілках. Жыхар вёскі К. С. Станішэўскі закатаваны гітлераўцамі ў 1943 г. У 1983 г. на магіле пастаўлены абеліск, які ўшаноўвае таксама памяць П. К. Станішэўскага — сына пахаванага, які загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**в. Бялавічы, Дзмітравіцкі сельсавет**

**255. МАГІЛА РЫБАЛКО** Івана Андрэевіча (гіст.). На могілках. Капітан Чырвонай Арміі І. А. Рыбалко загінуў 1.7.1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**в. Бярозаўка, Мачаскі сельсавет**

**256. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**256а.** Могільнік-1. За 1 км на захад ад вёскі, абапал дарогі. 26 насыпаў вышынёй 3—4 м, дыяметрам 15—16 м (асобныя курганы вышынёй 1,2—2,5 м, дыяметрам 10—12 м). Захаванасць добрая. Вакол кожнага кургана прасочаны раўкі глыбінёй 0,2—



256а. *Курганны могільнік-1. План.*

0,7 м. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**256б.** Могільнік-2. Мясцовая назва Капцы. За 1,7 км на паўночны захад ад вёскі. 7 насыпаў вышынёй 3 м, дыяметрам 10—13 м. Курганы добра захаваліся, здзірванелі. Вядомы з 1924 г., абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Восава, Ушанскі сельсавет**

**257. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,1 км на поўнач ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Сыч. 2 насыпы добрай захаванасці. Першы вышынёй 3,5 м, дыяметрам 15 м, другі адпаведна 1,3 м і 10 м. Вядомы з 1925 г., абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Высокая Гара, цэнтр сельсавета**

**258. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Пахаваны 17 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**259. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 воінаў, якія загінулі летам 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**260. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 21 воін і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі сельсавета. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вязze, Пагосцкі сельсавет**

**261. КУРГАН** (археал.). У вёсцы, на правым беразе р. Клява. Вышыня 1,8 м, дыяметр 10 м. Здзірванелы, зарос дрэвамі. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька.



**256б.** *Курганны могільнік-2. План.*

**в. Вялікія Лагі, Ляжынскі сельсавет**

**262. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі 3.7.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**263. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Капцы. За 2 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Крыжы, на ўскрайку лесу. 11 насыпаў дыяметрам 11—12 м, вышынёй 2,5—3 м (2 курганы вышынёй 1,5 м). Вядомы з 1925 г. Абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вяшэўка, Пагосцкі сельсавет**

**264. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 41 воін, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі і суседніх населеных пунктаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 42-й стралковай дывізіі 69-га стралковага корпуса 49-й арміі 2-га Беларускага фронту і Герой Савецкага Саюза Сяргей Рыгоравіч Церашкевіч.

С. Р. Церашкевіч нарадзіўся 10.4.1910 г. у с. Чкалаўскім Спаскага р-на Прыморскага краю ў сям'і селяніна. У 1939 г. скончыў курсы малодшых лейтэнантаў. У Чырвонай Арміі з 1931 г. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны на фронце. Вызначыўся ў баях пры вызваленні Беларусі. 23.6.1944 г. стралковая рота, якой камандаваў старшы лейтэнант С. Р. Церашкевіч, захапіла вышыню ў Чавускім р-не Магілёўскай вобл., з баямі пераправілася цераз р. Бася, адбіла на правым беразе 5 контратак праціўніка, выйшла да Дняпра, фарсіравала яго на поўнач ад Магілёва і агнём падтрымлівала пераправу батальёна. 27.6.1944 г. у баі паблізу в. Галоўчын С. Р. Церашкевіч кінуўся са звязкай гранат пад варожы танк. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3. 1945 г.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**265. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, у лесе. 25 насыпаў вышынёй ад 1,5 да 3—3,5 м, дыяметрам 12—15 м. Курганы добра захаваліся, здзірванелі, параслі лесам. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**266. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На могілках. На ўшанаванне памяці жыхароў вёсак Вяшэўка і Журоўка, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Галоўныя Ляды, Багушэвіцкі сельсавет**

**267. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў.

**в. Галынка, Каменнаборскі сельсавет**

**268. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 2 км на паўночны захад ад вёскі. Пахаваны 24 партызаны, у т. л. партызаны 120-га атрада, якія загінулі ў 1942—43 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**269. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 50 м ад вёскі, на ўскрайку леса па абодва бакі ад дарогі Мацевічы — Галынка. 3 насыпы вышынёй 0,8—1,2 м, дыяметрам 8—12 м. Захаванасць добрая, парос лесам. Выявіла



**263.** *Курганны могільнік. План.*




**265.** *Курганны могільнік. План.*

і абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**270. ПОМНІК У ГОНАР ПЕРШАЙ ПАДПОЛЬНАЙ ПАРТЫЙНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ БЯРЭЗІНСКАГА РАЁНА** (гіст.). За 2 км на паўночны захад ад вёскі. У лістападзе 1942 г. у былой в. Партызанка адбылася 1-я канферэнцыя Бярэзінскага падпольнага райкома КП(б)Б, на якой абмеркавана пытанне аб развіцці партызанскага руху ў раёне, падведзены вынікі баявых дзеянняў партызан за перыяд з ліпеня да лістапада 1942 г. Былі прыняты пастанова аб актывізацыі партызанскай барацьбы на камунікацыях ворага, рашэнне аб рэгулярным выпуску газеты і баявых лісткоў.

У 1972 г. у памяць аб канферэнцыі пастаўлена стэла.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы.— Мн., 1973, т. 2, кн. 1, с. 108—110. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Гарадзішча, Якшыцкі сельсавет**

**271. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Гарадок. З усходняга боку гарадзішча старыца ракі (Возера), з боку поля ўмацавана 2 валамі і равамі (цяпер яны ледзь прасочваюцца). З боку ракі край пляцоўкі і валы часткова разбураны траншэямі ваеннага часу. Вышыня над поймай 10 м. Пляцоўка памерам 110×80 м, роўная, здзірванелая і зарасла дрэвамі. Адкрыў у 1930 г. А. М. Ляўданскі, абследавалі ў 1963 г. Л. Д. Побаль, у 1979 г. Т. С. Бубенька. Культурны пласт у шурфе 0,25—0,5 м. У ім знойдзена ляпная кераміка мілаградскай і ранняга этапа зарубінецкай і штрыхаванай керамікі культур, а таксама ганчарная кераміка і жалезная сякера раннефеадальнага часу.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *Т. С. Бубенька.*

**272. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3 км на захад ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, на мысе, утвораным пры ўпадзенні р. Уса ў Бярэзіну. Плошча 1500 м². Выявіў і абследаваў у 1982 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м, разворваецца. Сабраны крамянёвыя нуклеусы, пласціны і адшчэпы з рэтушшу і без яе, фрагменты ганчарнай керамікі. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Гацец, Пагосцкі сельсавет**

**273. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Дудкі (Высокі Бераг), на левым беразе р. Кляўіца. 10 насыпаў вышынёй 0,3— 0,6 м, дыяметрам 13—15 м (адзін насып дыяметрам 6 м). Курганы здзірванелі, параслі лесам, каля асноў прасочаны раўкі. Вядомы з 1924 г., абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Глухі Ток, Бярэзінскі сельсавет**

**274. МАГІЛА КУРЗЯНКОВА** Якава Іванавіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін Я. І. Курзянкоў загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Грады, Ушанскі сельсавет**

**275. КУРГАН** (археал.). Мясцовая назва Турэцкі Курган. За 1 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Хітроўка. Вышыня 2,2 м, дыяметр 8—9 м. Адкрыў у 1963 г. Л. Д. Побаль, абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька.

**в. Гута, Паплаўскі сельсавет**

**276. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**276а.** Паселішча-1. За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіны. Плошча 1500 м². Выявіў і абследаваў у 1982 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,1 м, разворваецца. Сабраны крамянёвыя пласціны і адшчэпы з рэтушшу і без яе, нуклеусы, ланцэтападобныя вастры, бакавыя разцы, скрабкі, скоблі. Адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 5—3-м тысячагоддзямі да н. э.

**276б.** Паселішча-2. За 0,3—0,4 км на захад ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіны. Плошча 1000 м². Выявіў і абследаваў у 1982 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,15 м, разворваецца. Сабраны крамянёвыя скрабкі, нуклеусы, пласціны, адшчэпы эпохі неаліту і фрагменты гладкасценнай ляпной керамікі з дамешкай жарствы ў гліне ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання паселішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ксяндзоў У. П. Помнікі каменнага веку ў сярэднім цячэнні ракі Бярэзіна.— У кн.: Помнікі культуры: Новыя адкрыцці. Мн., 1985. *У. П. Ксяндзоў.*

**в. Дзевяніца, Высакагорскі сельсавет**

**277. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 мірных жыхароў, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1943 г. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дзмітравічы, цэнтр сельсавета**

**278. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 23 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**279. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 17 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**280. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,4 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Замак (Залоззе). З паўночнага і заходняга бакоў была забалочаная пойма р. Брусята, з боку поля ўмацавана 2 валамі вышынёй 1—1,5 м і равамі глыбінёй 1,5 м, частка якіх знішчана пры пракладцы дарогі. Трэці, вонкавы вал, прасочаны на краі пляцоўкі. Схілы вала рэдка параслі хвояй. Пляцоўка памерам 44×35 м узвышаецца над поймай на 8 м, паніжаецца ў бок ракі. Адкрылі і абследавалі ў 1929 г. І. Р. Калодкін і М. М. Канвісараў, абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.




*271. Гарадзішча. План.*




*273. Курганны могільнік. План.*

*Літ.:* Рынейскі А. Разведачная археалагічная экспедыцыя.— Наш край, 1929, № 8—9.

**281. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы-інтэрната. На ўшанаванне памяці 34 аднавяскоўцаў — вучняў і настаўнікаў мясцовай школы, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дулебы, Мачаскі сельсавет**

**282. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў баях за Савецкую ўладу ў гады Грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі 1918—20 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.




280. *Гарадзішча. План.*




283а. *Курганны могільнік-1. План.*

**283. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**283а.** Могільнік-1. За 1 км на ўсход ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Баравіца. 100 насыпаў вышынёй 0,8—2,5 м (адзін вышынёй 3,5 м), дыяметрам 10—20 м. Курганы добра захаваліся, задзірванелі, вакол насыпаў прасочаны раўкі. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**283б.** Могільнік-2. Мясцовая назва Шведскія Магілы. За 2 км на поўнач ад вёскі, абапал дарогі ў в. Мачаск, у лесе, на правым беразе р. Дулебка. 86 насыпаў вышынёй 1,1—2,5 м, дыяметрам 10—15 м. Асобныя насыпы пашкоджаны. Вядомы з канца 19 ст., калі частка курганоў была раскапана Г. Х. Татурам, матэрыялы раскопак не захаваліся. Абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька.

**284. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 23 мірныя жыхары, расстраляныя нямецка-фашысцкімі карнікамі ў 1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**285. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 мірных жыхароў, якіх закатавалі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**286. МАГІЛА МАРКОЎСКАГА** Фёдара Фёдаравіча (гіст.). На могілках. Старшыня сельсавета Ф. Ф. Маркоўскі расстраляны гітлераўцамі ў 1941 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**287. МАГІЛА ЦЭДРЫКА** Мікалая Юр'евіча (гіст.). На могілках. Піянер, разведчык партызанскага атрада 120-га М. Ю. Цэдрык загінуў у 1944 г. пры выкананні баявога задання. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Жабіхава, Паплаўскі сельсавет**

**288. КУРГАН** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Неганічы, на полі. Вышыня 3 м, дыяметр 15 м. Здзірванеў, зарос кустамі. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька.



283б. *Курганны могільнік-2. Адзін з курганоў.*

**в. Жаліна, Сялібскі сельсавет**

**289. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І МАРУІНЧЫКА** Дзмітрыя (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і мірны жыхар Дз. Маруінчык, расстраляны гітлераўцамі ў 1941 г.

**в. Жарамец, Ляжынскі сельсавет**

**290. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 20 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў баях за Савецкую ўладу ў гады Грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі 1918—20 гг. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Жорнаўка, Бярэзінскі сельсавет**

**291. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. У 7 брацкіх магілах пахаваны 170 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 42-й і 153-й стралковых дывізій 49-й арміі 2-га Беларускага фронту. У 1951 г. на магілах пастаўлены абеліск.

**292. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). У вёсцы, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна, на мысе, утвораным пры ўпадзенні р. Жорнаўка ў Бярэзіну. Плошча 500 м². Выявіў і абследаваў у 1982 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,1 м, разворваецца. Сабраны крамянёвыя пласціны, адшчэпы, нуклеус, трохвугольны наканечнік стралы, фрагменты ляпнога посуду. Адносіцца да бронзавага і жалезнага вякоў. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**293. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 40 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1976 г. пастаўлены абеліск.

**294. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. У ліпені 1944 г. каля вёскі ішлі цяжкія баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у выніку якіх воіны 153-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту фарсіравалі р. Бярэзіна, штурмам авалодалі добра ўмацаванымі пазіцыямі ворага і вызвалілі вёску. У 1983 г. у гонар савецкіх воінаў пастаўлена стэла.

**в. Жукавец, Бярэзінскі сельсавет**

**295. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 53 воіны, якія загінулі летам

1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**296. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**297. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал). За 2 км на поўдзень ад вёскі, злева ад дарогі ў г. Беразіно, на правым беразе р. Бярэзіна. 3 насыпы вышынёй 1—1,3 м, дыяметрам 6—8 м. Каля асноў курганоў прасочваюцца раўкі. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Замасточча, Высакагорскі сельсавет**

**298. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ І САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 мірных жыхароў вёскі і воін, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**299. МАГІЛА БУЛОЙЧЫКА** Сямёна Ягоравіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада 130-га «Помста» С. Я. Булойчык загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 15.10. 1942 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Калюжыца, Ушанскі сельсавет**

**300. РАДЗІМА ВАНЬКОВІЧА** Валенція Мельхіёравіча (гіст.).

Жывапісец, прадстаўнік рамантызму В. М. Ванькович нарадзіўся 14.2. 1800 г. (паводле іншых звестак 1799 г.) у былым маёнтку Калюжыца ў сям'і павятовага суддзі. Дзяцінства правёў у в. Сляпянка пад Мінскам. Вучыўся ў Полацкім езуіцкім калегіуме, у 1818—24 гг. у Віленскім універсітэце на факультэце жывапісу, скульптуры і графікі ў Я. Рустэма. У 1824 г. накіраваны для прафесійнага ўдасканальвання ў Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў, дзе вучыўся ў А. Ягорава, В. Шабуева. За поспехі ў вучобе ў 1825 г. быў удастоены малога сярэбранага медаля, у 1827 г.— вялікага сярэбранага і малога залатога медалёў. Быў знаёмы з А. Пушкіным, А. Міцкевічам. Стварыў партрэты А. С. Пушкіна (1826—27 гг., не завершаны), А. Гарэцкага, М. Шымaноўскай, К. Ліпінскага (1827 г.), графа С. Строганава (мініяцюра, 1831 г.), Э. і С. Хамінскіх (1834 г.) і інш. Найбольш яркімі творамі мастака з'яўляюцца партрэты К. і А. Тавянскіх, В. Пуслаўскага, палатно «А. Міцкевіч на скале Аюдаг» (1828 г.), «Напалеон каля вогнішча» (1834 г.), «Дзядок, які моліцца» і інш. Сярод работ літаграфіі («Галава старога», «Аўтапартрэт»), малюнкі («Від руін у Італіі», «Пейзаж», «Сажалка») і інш.

Пасля заканчэння Акадэміі В. М. Ванькович некаторы час жыў і працаваў у Пецярбургу, з 1828 г. — у Мінску, меў майстэрню ў Сляпянцы. У 1839 г. выехаў за мяжу. Памёр 12.5. 1842 г. у Парыжы.

Работы В. М. Ваньковіча знаходзяцца ў музеях Ленінграда, Вільнюса, Варшавы, Парыжа і інш., у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР партрэт А. Манюшкі.

*Літ.:* Д р о б а ў Л. М. Беларускія мастакі XIX стагоддзя.— Мн., 1971.

*Т. Р. Чуракова.*

**в. Каменны Барок, цэнтр сельсавета**

**301. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**302. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**303. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны атрада 120-га, якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**в. Капланцы, цэнтр сельсавета**

**304. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 40 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 32-й стралковай дывізіі 81-га стралковага корпуса 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**305. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 25 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў ліпені 1920 г. у баях супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**306. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Клява, ва ўрочышчы Гарадок. Вышыня над поймай 10—12 м. Пляцоўка круглая, дыяметрам 50 м, мае выгляд западзіны з высокімі краямі. Вядома з 1924 г., абследавалі ў 1930 г. А. М. Ляўданскі, у 1979 г. Т. С. Бубенька. Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Л я ў д а н с к і А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.

**307. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км ад паўднёвай ускраіны вёскі, на левым беразе р. Клява, на поплаве. 5 насыпаў вышынёй 0,9— 1,1 м, дыяметрам 10—13 м (раней тут было больш насыпаў, з часам разараны), здзірванелыя. Вядомы з 1924 г., абследавалі ў 1930 г. А. М. Ляўданскі, у 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Л я ў д а н с к і А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.

**308. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**309. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны жыхары вёскі П. А. Булойчык і М. П. Бурмістронак, якіх закатавалі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1942 г. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Карбаўское, Мачаскі сельсавет**

**310. КУРГАН** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Маскаль, на левым беразе р. Клява, у лесе. Вышыня 1,7 м, дыяметр 10 м. Захаванасць добрая. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька.

**311. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва К а п ц ы. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Клін, на правым беразе р. Клява, на ўскрайку лесу. 17 насы-




**306.** *Гарадзішча. План.*




**307.** *Курганны могільнік. План.*



312. *Помнік землякам.*

паў вышынёй 2,5—4,5 м, дыяметрам 13—15 м. Асобныя насыпы вышынёй 0,4—1,1 м, дыяметрам 15—25 м. Курганы здзірванелыя. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Косаўка, Капланецкі сельсавет**

**312. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Бярэзінскі». На ўшанаванне памяці 216 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Котава, Ушанскі сельсавет**

**313. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).
**313а.** Гарадзішча-1. За 0,3 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Уша, ва ўрочышчы Замэчак. Вышыня над поймай 13 м. Пляцоўка памерам 65×55 м умацавана 2 валамі і 2 равамі, парасла кустамі і рэдкімі хвоямі. Верхняя частка ўнутранага вала часткова пашкоджана. Абследавалі ў 1963 г. Л. Д. Побаль, у 1979 г. Т. С. Бубенька. Культурны пласт у шурфе 0,4 м. У ім знойдзены рэшткі ляпнога гладкасценнага посуду, шлак. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.
**313б.** Гарадзішча-2. За 70 м ад гарадзішча-1, уніз па цячэнні р. Уша, на яе правым беразе. Вышыня над поймай каля 15 м. Пляцоўка памерам 35×22 м, умацавана 2 дугападобнымі валамі вышынёй каля 2,5 м і равамі глыбінёй каля 3 м, зарасла кустамі бэзу, дрэвамі. Абследавалі ў 1963 г. Л. Д. Побаль, у 1979 г. Т. С. Бубенька. У шурфе культурны пласт 0,35 м. У ім знойдзены ляпная кераміка і прасліца. Гарадзішча адносіцца да мілаградскай і зарубінецкай культур (ранні этап). Выяўлена таксама кераміка культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі).
Матэрыялы абследавання гарадзішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*Літ.:* Побаль Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974.
*Т. С. Бубенька.*

**314. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км ад вёскі, на правым беразе р. Уша, у полі. 2 насыпы, у цэнтры аднаго — яма. Вышыня аднаго кургана 1,7 м, дыяметр 12 м, другога адпаведна 2,5 і 13 м. Адкрыў у 1963 г. Л. Д. Побаль, абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Краснае, Дзмітравіцкі сельсавет**

**315. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і 86 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі восенню 1942 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кукарава, Пагосцкі сельсавет**

**316. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка лясніцтва. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**317. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Татарскія Магілы. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, каля фермы, ва ўрочышчы Запечча, ці Азер'е (левы бераг р. Клявіца). 77 насыпаў вышынёй 0,5—4,5 м, дыяметрам ад 3—4 да 20—25 м, здзірванелыя, добрай захаванасці. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.




313б. *Гарадзішча-2. План.*




317. *Курганны могільнік. План.*

**в. Курганне, Багушэвіцкі сельсавет**

**318. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).
**318а.** Могільнік-1. Мясцовая назва Капцы. За 0,2 км на паўночны захад ад вёскі, справа ад дарогі Багушэвічы — Градзянка, у полі. 7 насыпаў вышынёй 1,5—2,5 м, дыяметрам 6—10 м (4 курганы маюць у цэнтры вялікія ямы). Насыпы зараслі кустамі. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.
**318б.** Могільнік-2. За 0,3 км на поўдзень і паўднёвы ўсход ад вёскі, за 0,5 км ад могільніка-1, у полі. 3 насыпы вышынёй 2—2,5 м, дыяметрам 11—13 м (раней тут было 30 курганоў). Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Лешніца, Бярэзінскі сельсавет**

**319. КУРГАН** (археал.). Мясцовая назва Французскія Магілы. На ўскраіне могілак. Насып вышынёй 1,2—1,5 м, дыяметрам 12 м (раней тут было 8 курганоў). Вядомы з 1924 г., абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька.
**320. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, насупраць будынка праўлення калгаса «Ленінскія дні». На ўшанаванне памяці 35 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці загублены акупантамі, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Любушаны, Мачаскі сельсавет**

**321. КУРГАН** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, на правым беразе р. Клява, ва ўрочышчы Курганне. Вышыня 1,1 м, дыяметр 12 м (раней тут



318а. *Курганны могільнік-1. План.*



320. *Помнік землякам.*

было больш за 30 курганоў). Вядомы з 1924 г., абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька.

**в. Мацевічы, Каменнаборскі сельсавет**

**322. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны 120-га атрада, якія загінулі пры выкананні баявога задання ў 1943 г. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**323. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**324. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 72 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**325. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 19 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**326. КУРГАН** (археал.). За 5 км на поўнач ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Дулебы, у лесе. Вышыня 1,2 м, дыяметр 7—8 м. Выявіла і абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька.
**327. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Ш в е д с к і я М а г і л ы. За 3,5 км ад вёскі, на левым беразе р. Ольса, ва ўрочышчы Могілкі. 3 насыпы вышынёй 1,2—1,8 м, дыяметрам 10—15 м. Курганы моцна аплылі, здзірванелі, зараслі лесам. 2 насыпы са слядамі ям. Вядомы з 1925 г. Абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.
**328. МАГІЛА КУРАЧА** Фёдара Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада № 120 Ф. І. Курач загінуў у баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1944 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**329. МАГІЛА ПЫЖ** Яўгеніі Фёдараўны (гіст.). На могілках. Настаўніца Я. Ф. Пыж расстраляна нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1943 г. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**330. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба, у скверы. На ўшанаванне памяці 118 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, і 29 мірных жыхароў, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптуры партызана і дзяўчынкі.

**в. Мачаск, цэнтр сельсавета**

**331. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скверы, каля школы. Пахаваны 66 воінаў і 13 партызан, якія загінулі на тэрыторыі сельсавета ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**332. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал). За 0,4 км на паўднёвы захад ад вёскі, абапал дарогі ў в. Прыбаркі, у лесе. 17 насыпаў, выцягнутых з поўначы на поўдзень у лінію на адлегласці 3 км. Вышыня курганоў 0,4—2 м, дыяметр 5—18 м. Асобныя насыпы пашкоджаны ямамі. Вядомы з 1925 г. Абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.
**333. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 79 землякоў, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптуры партызана і дзяўчынкі, якая ўскладае кветкі, і стэла.

**в. Месціна, Сялібскі сельсавет**

**334. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. У 1985 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мікулічы, Паплаўскі сельсавет**

**335. МАГІЛА ПАНКРАТА** Мікалая Лаўрэнцьевіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін М. Л. Панкрат загінуў у чэрвені 1944 г. у баі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**336. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 96 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Міластава, Пагосцкі сельсавет**

**337. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Ш в е д с к і я, або Ф р а н ц у з с к і я, м о г і л к і. За 2,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Клява, у лесе. 2 курганы вышынёй 0,8 м, дыяметрам 10 м. Насыпы зараслі лесам, здзірванелі, моцна аплылі. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Міраслаўка, Брадзецкі сельсавет**

**338. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Бярэзіна. Пахаваны 9 воінаў, якія загінулі ў баі з нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**339. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).
**339а.** М о г і л ь н і к - 1. На паўднёвай ускраіне вёскі, на пясчаная выдме высокага левага берага р. Бярэзіна. 13 курганоў (5 пашкоджаны ямамі) вышынёй 0,13—2 м, дыяметрам 2—10 м. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.
**339б.** М о г і л ь н і к - 2. За 1,5 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Бярэзіна, на дзюне памерам 500×100 м. 31 насып вышынёй 0,5—




332. *Курганны могільнік. План.*



**339а.** *Курганны могільнік-1. Адзін з курганоў.*

3,5 м, дыяметрам 6—25 м. Адкрыў у 1930 г. А. М. Ляўданскі, абследавалі ў 1963 г. Л. Д. Побаль, у 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**340. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе левага берага р. Бярэзіны, ва ўрочышчы Хвойнік, на мысе, утвораным пры ўпадзенні ручая Смоўдня ў Бярэзіну. Плошча 1000 м². Выявілі ў 1930 г. І. Р. Калодкін і М. Н. Канвісараў, абследавалі ў 1963 г. Л. Д. Побаль, у 1965 г. У. Ф. Ісаенка, у 1978 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м, часткова разбураны ветравой эрозіяй. Знойдзены крамянёвыя прылады працы эпохі мезаліту, неаліту і бронзавага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна).

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Доследы культур каменнага і бронзавага перыядаў у БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *У. П. Ксяндзоў.*

**в. Міхалёва, Багушэўскі сельсавет**

**341. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя XXII з'езда КПСС. На ўшанаванне памяці 114 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.



**339б.** *Курганны могільнік-2. Адзін з курганоў.*

**в. Мурава, Ушанскі сельсавет**

**342. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На правым высокім беразе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Замак, ці Пагулянка. Вышыня над поймай больш за 25 м. Пляцоўка памерам 47×50 м. З боку поля ўмацавана валам шырынёй 15 м, вышынёй 5 м і ровам глыбінёй 5 м. Схілы гарадзішча і вал пашкоджаны бліндажамі і траншэямі часоў Вялікай Айчыннай вайны. Цяпер гарадзішча зарасло кустамі і дрэвамі. Вядома з 1924 г. Абследаваў у 1928 г. А. Рынейскі. У шурфе знойдзена ляпная штрыхаваная і гладкасценная кераміка. У 1963 г. даследаваў Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,4—0,5 м. Выяўлены рэшткі ляпнога посуду, гліняныя праслíцы, шлак. Гарадзішча адносіцца да штрыхаванай керамікі і тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны культур. Датуецца 7 ст. да н. э.— 5 ст. н. э. і 6—8 стагоддзямі н. э. Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Разведачная археалагічная экспедыцыя.— Наш край, 1929, № 8—9; Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларусі. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Ляўданскі А. М., Палікарповіч К. М. Да гісторыі жалезнай прамысловасці на Беларусі па даных археалогіі.— Савецкая краіна, 1932, № 5. *Т. С. Бубенька.*



**342.** *Гарадзішча. План.*



**344.** *Курганны могільнік. План.*



**345.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**343. КУРГАН** (археал.). За 4 км на поўдзень ад вёскі, за 0,2 км злева ад дарогі ў в. Уша, у лесе. Вышыня 1,7 м, дыяметр 5—6 м. Захаванасць добрая, парос лесам. Выявіла і абследавала ў 1983 г. Т. С. Бубенька.

**344. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,5 км на захад ад вёскі, каля лесу. 21 насып добрай захаванасці, вышынёй 1,3—1,5 м, дыяметрам 8—11 м (асобныя курганы дыяметрам 12 м). Вядомы з канца 19 ст. Даследавалі ў 1929 г. І. Р. Калодкін і М. М. Канвісараў, у 1930 г. А. М. Ляўданскі раскапаў 12 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў грунце, у асобных выпадках на папялішчы галавой на захад. Знойдзены бронзавыя жаночыя скроневыя кольцы, шкляныя і адна філіграііная пацеркі, абломкі ганчарнага посуду. Належаў крывічам, датуецца 10—12 стагоддзямі.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Разведачная археалагічная экспедыцыя.— Наш край, 1929, № 8—9; Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1932 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *Т. С. Бубенька.*

**в. Навасёлкі, Бярэзінскі сельсавет**

**345. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 4 км на ўсход ад вёскі, злева ад аўтамабільнай дарогі Мінск — Магілёў. Пахаваны 250 мірных жыха-

роў, якіх у 1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Навіны, Паплаўскі сельсавет**

**346. МАГІЛА СІТНІК** Марыі Мікалаеўны (гіст.). На могілках. Партызанская сувязная М. М. Сітнік у 1943 г. была схоплена нямецка-фашысцкімі захопнікамі і расстраляна. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Неганічы, Паплаўскі сельсавет**

**347. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Мяцежка, у лесе, па абодва бакі ад дарогі ў в. Жабіхава. 3 насыпы дыяметрам 8—10 м, вышынёй 1,7—2 м. Могільнік парос лесам. Выявіла і абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Несцяроўка, Мачаскі сельсавет**

**348. МАГІЛА ПАЎЛЕНКІ** Івана Ільіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада 130-га «Помста» І. І. Паўленка цяжка паранены ў баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г., памёр 25.2.1944 г. У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пагост, цэнтр сельсавета**

**349. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 133 воіны, што загінулі 29.6. 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 1090-га стралковага палка 323-й стралковай дывізіі 35-га стралковага корпуса 3-й арміі 1-га Беларускага фронту. На ўшанаванне іх памяці і 111 землякоў, якія аддалі жыццё за Радзіму на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе, стэла з рэльефнай выявай воінаў і пліты з імёнамі загінуўшых. *Т. Р. Чуракова.*

**350. МАГІЛА АВАКУМАВА** Анатоля Аляксеевіча (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Беразіно — Мінск. Лейтэнант А. А. Авакумаў загінуў летам 1944 г. у баі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**351. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 63 вучняў Пагосцкай школы, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1973 г. пастаўлены абеліск.

**в. Падвалошка, Паплаўскі сельсавет**

**352. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя І. У. Мічурына. На ўшанаванне памяці 93 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.



349. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і землякам.*

**в. Паплавы, цэнтр сельсавета**

**353. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 61 воін і партызан, якія загінулі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 918-га стралковага палка 250-й стралковай дывізіі 35-га стралковага корпуса 3-й арміі 1-га Беларускага фронту. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**354. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,1 км ад паўднёвай ускраіны вёскі, уздоўж дарогі ў в. Неганічы. 3 насыпы вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 10—12 м (раней тут было



352. *Помнік землякам.*



353. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

больш за 20 курганоў). Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**355. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 мірныя жыхары вёскі, якія былі расстраляны гітлераўцамі ў 1942 г. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**356. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Перавоз, Багушэвіцкі сельсавет**

**357. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 30 воінаў, якія загінулі ў абарончых баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Перавоз, Якшыцкі сельсавет**

**358. РАДЗІМА АЛЯШКЕВІЧА** Сцяпана Філімонавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза С. Ф. Аляшкевіч нарадзіўся ў 1910 г. у сям'і селяніна. Член КПСС. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з сакавіка 1943 г. Удзельнічаў у баях пад Корсунь-Шаўчэнкаўскім, Уманню Чаркаскай вобл. Вызначыўся ў час фарсіравання Паўднёвага Буга вясной 1944 г. каля г. Гайваран Кіравагградскай вобл. З групай разведчыкаў пад агнём ворага пераправіўся на правы бераг ракі і вёў бой за расшырэнне плацдарма з намнога большымі сіламі праціўніка, што садзейнічала паспяховай пераправе палка. Загінуў 4.5.1944 г. пасля выканання аперацыі ў тыле ворага — узрыву моста на р. Малдова ў Румыніі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 13.9.1944 г. У 1956 г. у цэнтры в. Чыжаха Бярэзінскага р-на ўстаноўлены паплечны бюст героя.

*Літ.:* Герои Советского Союза — уроженцы Минска и Минской области.— Мн., 1965; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Пружанка, Бярэзінскі сельсавет**

**359. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Прыбрэжнае, Бярэзінскі сельсавет**

**360. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**360а.** Г а р а д з і ш ч а. У цэнтры вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, на мысе, утвораным ракой і безназоўным ручаём, ва ўрочышчы Гарадок. Вышыня над узроўнем поймы 20 м. Пляцоўка памерам 40×35 м з боку поля ўмацавана валам вышынёй 5—6 м, шырынёй 15—20 м і ровам, які цяпер у значнай частцы аплыў. Невялікі вал вышынёй каля 0,5 м захаваўся ўздоўж усходняга і паўднёвага краёў. Частка пляцоўкі і вал пашкоджаны траншэямі і бліндажамі часоў Вялікай Айчыннай вайны. Адкрыў і абследаваў у 1928 г. А. Рынейскі, абследавалі ў 1929 г. І. Р. Калодкін і М. М. Канвісараў, якія знайшлі штрыхаваную кераміку. У 1963 г. разведачныя работы праводзіў Л. Д. Побаль. Культурны пласт у шурфе 0,3—1 м. Знойдзена кераміка зарубінецкай, мілаградскай, штрыхаванай керамікі і тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны культур, шлак, абпаленыя камяні, вугалле, попел, сярэбраная спражка, фрагмент бронзавага арнаментаванага бранзалета.



360а. *Гарадзішча.*




360а. *Гарадзішча. План.*

**360б.** С е л і ш ч а. Каля паўночна-заходняга боку гарадзішча. Плошча каля 0,5 га. Адкрыў у 1928 г. А. Рынейскі. Абследавалі ў 1963 г. Л. Д. Побаль, у 1979 г. Т. С. Бубенька. Сабраныя на паверхні матэрыялы аналагічныя рэчам, знойдзеным на гарадзішчы.

Матэрыялы абследаванняў гарадзішча і селішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Р ы н е й с к і А. Разведачная археалагічная экспедыцыя.— Наш край, 1929, № 8—9; Д у б і н с к і С. А. Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук. 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *Т. С. Бубенька.*

**в. Рудзенка, Капланецкі сельсавет**

**361. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**362. МАГІЛА ЛАПЦЁНКА** Афанасія Афанасьевіча (гіст.). На могілках. Лейтэнант А. А. Лапцёнак загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 15.7.1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Святліца, Бярэзінскі сельсавет**

**363. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,15 км на захад ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіны. Плошча 10 тыс. м². Выявіў і абследаваў у 1982 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,15 м, разворваецца. Сабраны крамянёвыя адшчэпы і пласціны з рэтушшу і без яе, сярэдзінны



364. *Курганны могільнік. План.*



368. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

і бакавыя разцы, трохвугольны наканечнік стралы, праколка, скоблі. Адносіцца да эпохі неаліту. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ксяндзоў У. П. Помнікі каменнага веку ў сярэднім цячэнні ракі Бярэзіна.— У кн.: Помнікі культуры: Новыя адкрыцці. Мн., 1985. *У. П. Ксяндзоў.*

**в. Стайчанка, Пагосцкі сельсавет**

**364. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, абапал дарогі ў в. Васілеўшчына. 7 насыпаў (раней іх было 30) вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 6—12 м. Каля падножжа прасочаны раўкі глыбінёй 0,4 м, 3 курганы пашкоджаны ямамі. Вядомы з 1924 г., абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Старыя Гумны, Высакагорскі сельсавет**

**365. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны і 6 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сяліба, цэнтр сельсавета**

**366. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 30 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 110-й стралковай дывізіі 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**367. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба, у скверы. На ўшанаванне памяці 119 вяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Уша, цэнтр сельсавета**

**368. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 9 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

**369. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, за 0,5 км ад р. Уша, ва ўрочышчы Каза. Вышыня над поймай 6—7 м, схілы параслі хвояй і хмызняком. Пляцоўка авальная, памерам 30×20 м, з боку поля ўмацавана 2 валамі і равамі, якія ў 1930-х гадах часткова зрыты і знівеліраваны. Вядома з 1925 г., абследавалі ў 1928 г. А. Рынейскі, у 1929 г. І. Р. Калодкін і М. М. Канвісараў, у 1963 г. Л. Д. Побаль, у 1979 г. Т. С. Бубенька. Культурны пласт 0,3—0,6 м. У шурфах знойдзены ляпная штрыхаваная і гладкасценная кераміка, шлакі, абпаленыя камяні. Адносіцца да штрыхаванай керамікі і тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны культур. Датуецца 1—5 і 6—8 стагоддзямі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Разведачная археалагічная экспедыцыя.— Наш край, 1929, № 8—9; Ляўданскі А. М., Палікарповіч К. М. Да гісторыі жалезнай прамысловасці на Беларусі па даных археалогіі.— Савецкая краіна, 1932, № 5. *Т. С. Бубенька.*

**370. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3,5 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Уша, у месцы ўпадзення яе ў р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Вусце, у лесе. 15 курганоў дыяметрам 6—15 м, вышынёй 0,7—1,5 м. Абследавалі ў 1963 г. Л. Д. Побаль у 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**371. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 137 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1984 г. пастаўлена стэла.

**372. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.




369. *Гарадзішча. План.*

**в. Харчычы, Высакагорскі сельсавет**

**373. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, у лесе, абапал дарогі. 16 насыпаў вышынёй 0,9—7 м, дыяметрам 3—20 м. Могільнік добра захаваўся, зарос лесам, насыпы здзірванелыя, вакол асобных курганоў прасочаны раўкі. Вядомы з 1925 г. Абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Чыжаха, Якшыцкі сельсавет**

**374. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, пры ўпадзенні ў яе безназоўнага ручая, ва ўрочышчы Гарадок. Вышыня над поймай каля 17 м. Пляцоўка памерам 110×102 м умацавана 2 дугападобныміваламі вышы-




370. *Курганны могільнік. План.*



373. *Курганны могільнік. План.*



**376.** *Помнік С. Ф. Аляшкевічу.*

ней да 2 м і равамі глыбінёй 2,5 м. У паўднёвай частцы пляцоўкі валы моцна разбураны, на краях захаваліся рэшткі траншэй часоў Вялікай Айчыннай вайны. Адкрылі ў 1929—30 гг. І. Р. Калодкін і М. М. Канвісараў, абследавалі ў 1931 г. А. М. Ляўданскі (знайшоў ляпную гладкасценную кераміку), у 1963 г. Л. Д. Побаль. У шурфе культурны пласт 0,5—0,7 м. Знойдзена ляпная гладкасценная кераміка мілаградскай і ранняга этапа зарубінецкай культур. Частка керамікі штрыхаваная. У 1979 г. Т. С. Бубенька сабрала на пляцоўцы рэшткі ляпной гладкасценнай і штрыхаванай керамікі, крэмень. Датуецца 7 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.
*Т. С. Бубенька.*




**374.** *Гарадзішча. План.*

**375. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, на другой надпоймавай тэрасе р. Бярэзіны, ва ўрочышчы Гарадок, каля могілак. Адкрыў у 1977 г., абследаваў у 1981 г. У. П. Ксяндзоў. Памер 200×30 м. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя нуклеусы, разцы, скрабкі, праколкі, скоблі, пласціны з рэтушшу, адшчэпы. На паверхні трапляюцца рэшткі керамікі 14—15 ст. Адносіцца да эпохі мезаліту. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*У. П. Ксяндзоў.*

**376. ПОМНІК АЛЯШКЕВІЧУ** Сцяпану Філімонавічу (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза С. Ф. Аляшкевіча — ураджэнца Бярэзінскага р-на, які загінуў 4.5.1945 г. пры выкананні баявога задання, у 1966 г. устаноўлены паплечны бюст героя. Гл. артыкул № 358 «Радзіма Аляшкевіча Сцяпана Філімонавіча».

**377. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Чырвоная Зорка, Багушэвіцкі сельсавет**

**378. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**378а.** Гарадзішча. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Равінкі, у пойме правага берага р. Бярэзіна, за 0,7 км ад яе. Пляцоўка амаль круглая, памерам 25×27 м, вышынёй над поймай каля 3 м, з паўднёва-заходняга боку ўмацавана валам, што цяпер моцна аплыў. Захаванасць добрая, толькі ў цэнтры ёсць невялікая западзіна глыбінёй каля 0,5 м. Адкрыў і даследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль, які заклаў 2 шурфы памерам 4×1 м і раскоп плошчай 8×6 м. Выяўлены 3 гаспадарчыя ямы, абпаленыя камяні, гладкасценная кераміка 1-га тысячагоддзя н. э. Знойдзены глінянае біканічнае прасліца, фрагмент бронзавага бранзалета, жалезны дроцік. Абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Датуецца 6—8 стагоддзямі н. э. Верагодна, было гарадзішчам-сховішчам.

**378б.** Селішча-1. Каля заходняга боку гарадзішча. Плошча каля 0,5 га. З трох бакоў — старыца р. Бярэзіна. Адкрыў і абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Знойдзены матэрыялы мілаградскай і зарубінецкай культур. Датуецца 7 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.

**378в.** Селішча-2. За 0,7 км на паўночны захад ад гарадзішча і селішча-1, ва ўрочышчы Крыжык. Адкрыў у 1931 г. А. М. Ляўданскі, абследавалі ў 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1979 г. Т. С. Бубенька. У шурфах выяўлена кераміка ранняга жалезнага веку (7 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.).

Матэрыялы раскопак гарадзішча і абследавання селішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.
*Т. С. Бубенька.*



**377.** *Помнік У. І. Леніну.*

**в. Чырвоны Бераг, Паплаўскі сельсавет**

**379. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 20 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў маі — ліпені 1920 г. у баях супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**380. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 1¼ км на поўдзень ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіны. Плошча 600 м². Выявіў і абследаваў у 1978 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,15 м. Сабраны крамянёвыя скрабкі, пласціны і адшчэпы з рэтушшу і без яе, скоблі, нуклеусы, фрагменты гладкасценнага ляпнога посуду. Адносіцца да эпохі неаліту. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ксяндзоў У. П. Помнікі каменнага веку ў сярэднім цячэнні ракі Бярэзіна.— У кн.: Помнікі культуры: Новыя адкрыцці. Мн., 1985. *У. П. Ксяндзоў.*

**в. Шаварнічы, Дзмітравіцкі сельсавет**

**381. МАГІЛА ШАРАМЕЦЬЕВА** Фёдара Пятровіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін Ф. П. Шарамецьеў загінуў 3.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**382. ПОМНІК У ГОНАР БЯРЭЗІНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе.

Падпольны райком КП(б)Б створаны 20.7.1942 г. па рашэнню партактыву Бярэзінскага р-на, зацверджаны Бабруйскім міжрайкомам КП(б)Б 11.9.1942 г. Сакратары І. П. Сакалоўскі (20.7.1942 г.— красавік 1944 г.), К. А. Баранаў (красавік 1944 г.— 2.7.1944 г.). Райком узначальваў партызанскі рух, вёў палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва. Паводле пастановы Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б пры Бярэзінскім падпольным райкоме КП(б)Б 20.7.1943 г. створана ваенна-аператыўная група. Камандзірам групы зацверджаны камандзір 345-га партызанскага атрада С. А. Яроцкі, з жніўня 1943 г.— Т. К. Крук. Друкаваны орган падпольнага райкома КП(б)Б — газета «Сцяг Леніна».

У 1975 г. у памяць аб дзейнасці падпольнага райкома КП(б)Б пастаўлена стэла.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Ягадка, Мачаскі сельсавет**

**383. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Даўнія Магілы. За 0,3 км на ўсход ад вёскі, справа ад дарогі. 4 насыпы (адзін пашкоджаны дарогай, другі ямай) вышынёй 0,8—1,4 м, дыяметрам 15—18 м, зараслі лесам. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Якшыцы, цэнтр сельсавета**

**384. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 18 воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 348-й стралковай дывізіі 35-га стралковага корпуса 3-й арміі 1-га Беларускага фронту. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**385. МАГІЛА ХАЦЬКО** Міхаіла Ісакавіча (гіст.). На могілках. Партызан піянер М. І. Хацько загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**386. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,2—0,4 км на поўнач ад вёскі, на схіле другой надпоймавай тэрасы правага берага р. Бярэзіны. Плошча 1000 м². Выявіў і абследаваў у 1982 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,1 м, разворваецца. Сабраны крамянёвыя адшчэпы, пласціны, сякера, нуклеус. Адносіцца да бронзавага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**387. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 97 землякоў з вёсак Асмалоўка, Гарадзішча, Якшыцы, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены помнік — на фоне абеліска скульптуры партызана і дзяўчыны, што ўскладае кветкі.




387. *Помнік землякам.*




# ВАЛОЖЫНСКІ РАЁН

Лоск
Гародзькі
Падбярэзь
Забрэззе
Узбалаць
Багданаў
Філіпіняты
Дубіна–Баярская
Вішнева
Адамова
Сакаўшчына
Брылькі
Сугвазды
Букатова
ВАЛОЖЫН
Дварэц
Новы Двор
Семернікі
Доры
Бабровічы
Слабада
Яршэвічы
Пяршаі
Белакорац
Манькаўшчына
Падневічы
Ракаў
Курдуны
Пярэжыры
Выганічы
Сівіца
Душкава
Раднікі
Івянец
Суднікі
Камень

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

 Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

 Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

 Цэнтры рамёстваў

 Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг, Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

 Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

 Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

 Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

 Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

 Палацы, сядзібы, асабнякі

 Культавая архітэктура

## Ill. ВАЛОЖЫН

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Валожынка, за 75 км на паўночны захад ад Мінска, 17 км ад чыгуначнай станцыі Валожын на лініі Маладзечна — Ліда, на аўтамабільнай дарозе Мінск — Гродна.

Па дакументах вядомы з 14 ст. Належаў буйным феадалам — князям Валожынскім, потым Манвідам, А. Гаштольду. З 1507 г. у Навагрудскім ваяводстве Вялікага княства Літоўскага. З 1567 г. горадам валодаў М. Радзівіл, з 1614 г.— Слушкі, якія заснавалі тут бернардзінскі кляштар і пры ім школу (1681 г.). З 1683 г. тут існавала праваслаўнае брацтва. З 1793 г. у складзе Расійскай імперыі ў Ашмянскім павеце Віленскай губерні. З канца 18 ст. Валожынам зноў валодалі Радзівілы, пазней — Чартарыйскія, з 1803 г.— Тышкевічы. На той час было 2446 жыхароў. У 1-й палове 19 ст. вядомы як цэнтр гандлю жывёлай і сельскагаспадарчай сыравінай. Насельніцтва займалася хатняй выпрацоўкай тканін, адзення, абутку, посуду, гаспадарчага інвентару і інш. З 1870-х г. тут працавала трохгадовае народнае вучылішча. У канцы 19 ст. адкрыты яшчэ 2 вучылішчы. Паводле перапісу 1897 г.— 4533 жыхары. Працаваў невялікі лесапільны завод, пабудаваны ў 1850-я гады, была развіта мукамольная вытворчасць.

У 1903 г. створана арганізацыя РСДРП, якая найбольш актыўна дзейнічала ў Рэвалюцыю 1905—07 гг., адыграла важную ролю ў развіцці рэвалюцыйнага руху ў Валожыне. У яе склад у 1906 г. уваходзіла 30—50 чалавек. У 1-ю сусветную вайну Валожын стаў прыфрантавым. 19—23.10. 1917 г. тут праходзіў з'езд дэлегатаў 3-га армейскага корпуса 10-й арміі. 10.11.1917 г. створаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. 19.2.1918 г. горад акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. У 2-й палове снежня 1918 г. часці Чырвонай Арміі вызвалілі Валожын ад германскіх войск. У пачатку студзеня 1919 г. тут прайшлі выбары ў валасны Савет. У красавіку — чэрвені 1920 г. акупіраваны войскамі буржуазнай Польшчы. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г.— у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр павета Навагрудскага ваяводства. У 1924 г. у Валожыне быў створаны падпольны райком КПЗБ, які ўзначаліў барацьбу працоўных горада і павета за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР. Толькі ў 1935—39 гг. у Валожыне адбылося 6 забастовак, у якіх удзельнічала каля 6 тыс. чалавек. Пад кіраўніцтвам райкома КПЗБ вялікую работу сярод моладзі павета вяла камсамольская арганізацыя. У 1925—27 гг. дзейнічалі арганізацыі Беларускай сялянска-рабочай грамады.

З 1939 г. Валожын у складзе БССР, з 15.1.1940 г. цэнтр раёна Баранавіцкай вобл. У пачатку Айчыннай вайны каля горада жорсткія баі з намнога большымі сіламі праціўніка вялі часці 24-й Жалезнай Самара-Ульянаўскай двойчы Чырванасцяжнай стралковай дывізіі. З 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. Валожын акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Барацьбу насельніцтва супраць ворага ўзначальвалі падпольныя райкомы КП(б)Б



Ill. *Забудова плошчы Свабоды.*



Ill. *Фрагмент забудовы вуліцы Савецкай.*

(8.6.1943 г.— 5.7.1944 г.) і ЛКСМБ (7.11.1943 г.— 6.7.1944 г.). Выдавалася газета «Искра». На тэрыторыі раёна дзейнічалі партызанскія брыгады «За Савецкую Беларусь», імя І. В. Сталіна, імя В. П. Чкалава. З 20.9.1944 г. Валожын у складзе Маладзечанскай вобл., з 20.1.1960 г.— у Мінскай вобл. 25.12. 1962 г. Валожынскі р-н быў скасаваны, яго тэрыторыя перададзена ў Маладзечанскі і Стаўбцоўскі р-ны Мінскай вобл. У студзені 1965 г. раён адноўлены.

Планіровачная структура горада мяшаная, абумоўлена гістарычнымі і геаграфічнымі фактарамі. Валожын узнік як паселішча паблізу гандлёвага шляху, што вызначыла першапачатковую лінейную планіроўку. Цэнтрам паселішча была гандлёвая плошча. Далейшае развіццё ішло абапал асноўнай магістралі (вул. Савецкая — Шчарбіны) і вакол гандлёвай плошчы, фарміравалася дробнаквартальная вулічная сетка, звязаная з асноўнай магістраллю. Першы генеральны план горада (1958 г., «Белсельпраект») вызначыў далейшае развіццё грамадскага цэнтра. У генплане 1971 г. (Мінскі філіял Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва) прадугледжана функцыянальнае заніраванне, размяшчэнне культурна-бытавых прадпрыемстваў, азеляненне. 2—5-павярховымі шматкватэрнымі жылымі дамамі забудавана вул. Партызанская. Грамадскі цэнтр гістарычна склаўся на месцы старой гандлёвай плошчы — цяпер пл. Свабоды. Яе фарміруюць будынкі Дома культуры (1954 г.), Дома Саветаў і кінатэатра (абодва 1970 г.), помнікі архітэктуры 19 ст.— палац, касцёл святога Юзафа, царква Канстанціна і Алены.

Працуюць раённае аграпрамысловае аб'яднанне, цэх завода пластмасавых вырабаў, хлебакамбінат, масласырзавод, камбінат бытавога абслугоўвання і інш. Ёсць машынна-меліярацыйная станцыя, лясгас. У горадзе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі меліярацыйных работ, 3 сярэднія (у т. л. інтэрнат), дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, 6 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца, паліклініка, гідраметэастанцыя. Выдаецца газета «Працоўная слава». Помнікі: у гонар 50-годдзя Савецкай улады; Вызваленню; Герою Савецкага Саюза В. В. Шчарбіне; на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан; на магілах ахвяр фашызму і інш.



Іл. *Забудова плошчы Свабоды.*

Зона адпачынку — гарадскі парк (у раёне вул. Жданава) і 2 скверы: у цэнтральнай частцы пл. Свабоды перад Домам Саветаў і вакол штучнага вадаёма, які займае квартал паміж вуліцамі Савецкай і Партызанскай.

*Літ.:* Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Т. 1—4.— Мн., 1959—79; Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1944: Записки командарма.— М., 1973; За край родной.— Мн., 1978; Материалы районирования западных областей Белорусской ССР.— Мн., 1940; СССР в Великой Отечественной войне 1941—1945: Краткая хроника.— М., 1970; Хроника Быховца.— М., 1966.

*У. В. Алісейчык, М. Б. Батвіннік.*


Іл. *Жылыя дамы па вуліцы Партызанскай.*

**388. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На пл. Свабоды, каля Дома Саветаў. Пахаваны 160 воінаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Васіль Васілевіч Шчарбіна, воіны 32-й стралковай дывізіі, 3-й і 18-й гвардзейскіх танкавых брыгад, 2-й гвардзейскай мотастралковай брыгады і 6 партызан злучэння Баранавіцкай вобл., якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

В. В. Шчарбіна нарадзіўся 27.3. 1914 г. на станцыі Нікітаўка (цяпер у межах г. Горлаўка Данецкай вобл.). Член КПСС з 1939 г. Працаваў слесарам на шахце Вузлавая. У Чырвонай Арміі з 1934 г. Скончыў Адэскае пяхотнае вучылішча (1938 г.). У пачатку Вялікай Айчыннай вайны камандзір дыверсійнай групы, накіраванай

са спецыяльным заданнем у раён Лепеля. 3 сакавіка 1942 г. камандзір разведвальна-дыверсійнага атрада, які дзейнічаў у раёне Полацк — Маладзечна — Мінск. Атрад пад яго камандаваннем здабыў каштоўныя звесткі пра ворага, знішчыў 11 мастоў, 23 км лініі сувязі, 23 аўтамашыны, самалёт, правёў 19 дыверсій на чыгунцы. Маёр В. В. Шчарбіна загінуў 24.9.1942 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 20.1.1943 г. У Валожыне яго імем названа вуліца, каля сярэдняй школы ў 1972 г. пастаўлены бюст героя.

У 1975 г. устаноўлена надмагілле і стэла з надпісам-прысвячэннем.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*



388. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**389. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 210 воінаў. Сярод іх — воіны 88, 192, 220-й стралковых дывізій, 142-й артылерыйскай брыгады, 14-га і 160-га санітарных батальёнаў, а таксама 14 партызан злучэння Баранавіцкай вобл., якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**390. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У паўднёва-ўсходняй частцы горада, за 0,5 км на поўдзень ад аўтавакзала. Займае ізаляваны пагорак. Вышыня над навакольнай мясцовасцю 5—12 м. Пляцоўка няправільнай авальнай формы, памерам 80×35 м, выцягнута з поўначы на поўдзень, паніжаецца на 1—1,5 м у паўночным і паўднёвым напрамках і на 2,5—3 м у заходнім. Схілы вельмі стромкія з захаду і поўначы і даволі спадзістыя з усходу і поўдня. У паўднёвай частцы прасочваюцца сляды 2 валоў. Абследавалі ў 1971—73 гг. Л. Д. Побаль, у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт да 0,6 м. Знойдзены фрагменты штрыхаванага посуду. У сярэдзіне вякі тут былі гарадскія могілкі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век.— Мн., 1983. *Я. Г. Звяруга.*

**391. ДОМ, У ЯКІМ ЖЫЎ СТАРЫ УЛАС** (гіст.). Вул. Савецкая, 67.

Тут у 1895—1925 гг. жыў беларускі паэт і публіцыст Стары Улас (сапраўднае Сівы-Сівіцкі Уладзіслаў Пятровіч). Нарадзіўся 10.3. 1865 г. у сям'і кухара графа Тышкевіча. У дзесяць гадоў застаўся сіратой. Працаваў таксама ў графа, спачатку на кухні, потым аб'ездчыкам, лясніччым. У 1910 г. арганізаваў школу пісьменнасці, у якой разам са сваімі дочкамі вучыў дзяцей грамаце.

З 1907 г. друкаваўся ў газеце «Наша ніва», у беларускіх календарах і інш. перыядычных выданнях. Паэт ганьбіў кручкатворства царскага суда, цемрашальства, п'янства, сквапнасць («Суд», «Прыгавор» і інш.), спачуваў цяжкаму лёсу селяніна («Прамчаўся май»). Своеасаблівым летапісам працы і побыту селяніна з'яўляецца паэма «Год беларуса» (1911 г.). У сваёй творчасці Стары Улас ішоў ад беларускага фальклору, зрабіў вершаваныя апрацоўкі народных легенд і паданняў («Сватаўство», «Кумоўскія могілкі», «Палянка», «Цікавы» і інш.). Яго вершы змяшчаліся ў «Анталогіі беларускай паэзіі» (т. 1, 1961 г.), у кнізе «Беларуская дакастрычніцкая паэзія» (1967 г.).

Памёр 30.9.1939 г.

*Літ.:* Грынчык М. М. Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі.— Мн., 1969; Каханоўскі Г. А. [Стары Улас].— Полымя, 1966, № 11; яго ж. Новыя матэрыялы пра Старога Уласа.— Беларусь, 1968, № 1. *Г. А. Каханоўскі.*

**392. ЗАБУДОВА ПА ВУЛІЦЫ М. ГОРКАГА** (архіт.). Склалася ў 1920-я гады. Уключае дамы № 2, 4, 7, 9, 10, 16.

Дом № 2. На скрыжаванні вуліц Горкага і Партызанскай. Пабудаваны з дрэва. Выкарыстоўваецца як жылы. Будынак асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Складаецца з адна- і двухпавярховых частак, накрытых самастойнымі вальмавымі дахамі, значны вынас якіх падтрымліваюць фігурныя разныя кранштэйны. Дах над двухпавярховай часткай увагнуты з мансардавай люкарнай. Гарызантальна ашаляваныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, міжпаверхавым вертыкальна ашаляваным поясам. Планіроўка калідорна-анфіладная.

Дамы № 4, 7, 10. Пабудаваны з дрэва па тыпавым праекце. Дом № 7



392. *Жылы дом № 4 па вуліцы М. Горкага.*



392. *Жылы дом № 9 па вуліцы М. Горкага.*




392. *Жылы дом № 9 па вуліцы М. Горкага. План.*

выкарыстоўваецца дзіцячым садам, № 4 і 10 — як жылыя. Уяўляюць сабой аднапавярховыя прамавугольныя ў плане будынкі сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, цэнтры якіх на франтальных фасадах вылучаны мансардамі з трохвугольнымі шчытамі. Дамы накрыты высокімі вальмавымі дахамі. Бакавыя крылы галоўнага фасада аформлены двухкалоннымі порцікамі з трохвугольнымі франтонамі. Вертыкальна апаляваныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Планіровачна будынкі падзелены на 2 секцыі.

Дом № 9. Пастаўлены на ўзгорку. Пабудаваны з цэглы (таўшчыня сцен 1 м) як асабняк. Выкарыстоўваецца дзіцячым садам. Кампактны прамавугольны ў плане аднапавярховы будынак накрыты высокім пластычным мансардавым дахам з лучковымі люкарнамі. Галоўны фасад вылучаны рызалітам з порцікам, завершаным трохвугольным франтонам, балконам мансарды і паўкруглай тэрасай з балюстрадай. Тарцовыя фасады з трохвугольнымі шчытамі, вылучаны ў цэнтры ўваходнымі праёмамі. Прамавугольныя аконныя праёмы ў прафіляваных ліштвах. Дваровы фасад плоскасны. Памяшканні аб'яднаны калідорам, часткова перакрытым крыжовымі скляпеннямі. Цэнтральная зала звязана з бакавымі пакоямі дзвярнымі праёмамі, якія, як і вокны, дэкарыраваны гатычнымі пераплётамі. Шэраг дзвярных праёмаў завершаны стральчатымі супрапортамі.

Дом № 16. У глыбіні сквера. Пабудаваны з дрэва. Выкарыстоўваецца дзіцячым садам. Аднапавярховы прамавугольны у плане будынак накрыты вальмавым дахам. Цэнтр галоўнага фасада ў выглядзе шырокай лоджыі з каланадай, фланкіраваны рызалітамі, дэкарыраванымі руставанымі лапаткамі. Вертыкальна апаляваныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

Дамы па вуліцы М. Горкага — помнікі архітэктуры неакласіцызму.

*А. М. Кулагін.*

**393. КАСЦЁЛ СВЯТОГА ЮЗАФА** (архіт.). На пл. Свабоды. Пабудаваны ў 1816 г. з цэглы. У 1864 г. перабудаваны пад царкву. Цяпер у будынку размешчана прамысловае прадпрыемства.

Прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Высокі цокаль з каменю. Галоўны фасад вылучаны шасцікалонным з трохвугольным франтонам порцікам дарычнага ордэра. Плоскасць фасада расчлянёна 4 паўкруглымі арачнымі нішамі, якія прызначаліся для скульптур. Прамавугольныя вокны дэкарыраваны ліштвамі і трохвугольнымі франтонамі. Унутраная прастора падзелена аркадамі на 3 нефы, перакрытымі цыліндрычнымі скляпеннямі з падпружнымі аркамі і распалубкамі.

На поўдзень ад касцёла адасоблена размешчана брама-званіца, раней была аб'яднана з ім агароджай. Масіўная трохпралётная арка на галоўным фасадзе мае чатырохкалонны порцік дарычнага ордэра. Па баках брамы фігурныя контрфорсы.

Касцёл — помнік архітэктуры класіцызму.

*В. В. Алісейчык.*

**394. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На гары Высокай. Пахаваны 1000 мірных грамадзян, якіх ў час акупацыі горада і раёна (1941—44 гг.) расстралялі нямецка-фашысцкія за-



393. *Касцёл святога Юзафа.*




393. *Касцёл святога Юзафа. План.*



394. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



398. *Флігель.*

хопнікі. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.

**395. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.).

Магіла ахвяр фашызму. У цэнтры горада. Пахаваны 100 савецкіх грамадзян, якіх у 1941—44 гг. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

Магіла ахвяр фашызму. На вул. Горкага, каля бальніцы. Пахаваны 2 мірныя жыхары, загубленыя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1945 г. на магіле ўстаноўлена пліта.



398. *Палац. План 1-га паверха.*

**396. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА І КАВАЛЕНКІ** Ягора Іларыёнавіча (гіст.). На могілках. Пахаваны воін Чырвонай Арміі і Я. І. Каваленка — савецкі патрыёт, які ўкрываў трапіўшага ў акружэнне савецкага воіна. Па даносу здрадніка абодва ў 1941 г. закатаваны нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.



398. *Флігель. План.*

**397. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Чырвонаармейская, 1, на будынку аддзела ўнутраных спраў райвыканкома. Устаноўлена ў 1966 г. на ўшанаванне памяці 16 супрацоўнікаў раённага аддзела міліцыі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну і ў барацьбе супраць ворагаў Савецкай улады.



398. *Палац. Дваровы фасад.*

**398. ПАЛАЦ** (архіт.). Пл. Свабоды, 4. Пабудаваны ў гістарычным цэнтры горада на беразе р. Валожынка ў 1782—1806 гг. паводле праекта архіт. А. Касакоўскага. Выкарыстоўваецца адміністрацыйнымі ўстановамі. Складаецца з галоўнага будынка і бакавых флігеляў, якія ўтвараюць прамавугольны паўадкрыты двор. Перад палацам высаджаны ліпавы парк рэгулярнага тыпу.

Галоўны будынак прамавугольны ў плане, двухпавярховы, цагляны, на фундаменце з бутавага каменю. Цэнтральная частка павышаная. Галоўны фасад сіметрычна раскрапаваны 3 рызалітамі (цэнтральны апрацаваны пі-



399. *Помнік Вызвалення.*

лястрамі), дваровы вылучаны глыбокім цэнтральным рызалітам з трохвугольным франтонам і тэрасай. Фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах з сандрыкамі. Галоўны ўваход вырашаны арачным праёмам. Планіроўка калідорная з цэнтральным вестыбюлем і двухсветлавой залай на другім паверсе.

Флігелі вырашаны ідэнтычна. Аднапавярховыя на высокіх цокалях прамавугольныя ў плане будынкі пад вальмавымі дахамі. Цэнтральныя часткі вылучаны мансардавымі паверхамі і чатырохкалоннымі порцікамі дарычнага ордэра. Фасады завершаны прафіляванымі карнізамі і фрызамі з трыгліфамі, рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах. Высокі цокаль дэкарыраваны пад руст. Планіроўка калідорная і калідорна-анфіладная з цэнтральным вестыбюлем.

Палац — помнік архітэктуры класіцызму.

*Літ.:* Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981. *А. М. Кулагін.*

**399. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). За 0,3 км ад паўднёва-ўсходняй ускраіны горада, каля аўтамабільнай дарогі Мінск — Валожын.

У Беларускую аперацыю 1944 г. часці 3-й гвардзейскай танкавай брыгады (камандзір палкоўнік К. А. Грыцэнка), 18-й гвардзейскай танкавай брыгады (камандзір падпалкоўнік В. І. Есіпенка) і 2-й гвардзейскай мотастралковай брыгады (камандзір падпалкоўнік Дз. Н. Даўганаў) 3-га гвардзейскага танкавага корпуса (камандзір генерал-маёр І. А. Воўчанка) 5-й гвардзейскай танкавай арміі (камандуючы маршал бранятанкавых войск П. А. Ротмістраў) 3-га Беларускага фронту 5.7.1944 г. вызвалілі г. Валожын ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Разам з Чырвонай Арміяй у вызваленні раёна ўдзельнічалі партызаны брыгад імя І. В. Сталіна



400. *Помнік у гонар 50-годдзя Савецкай улады.*

(камандзір П. І. Гулевіч, камісар А. Г. Мурашоў), імя В. П. Чкалава (камандзір М. І. Грыбанаў, камісар І. П. Казак), «За Савецкую Беларусь» (камандзір Я. Дз. Васюцін, камісар С. М. Плахін).

Брыгада імя І. В. Сталіна створана ў лістападзе 1942 г. на базе атрада 125-га імя І. В. Сталіна. Партызаны брыгады громілі апорныя пункты, гарнізоны ворага, толькі ў чэрвені 1944 г. зрабілі 24 дыверсіі, пусцілі пад адхон 6 эшалонаў, падарвалі 3 масты, 14 аўтамашын. У ноч на 20.6.1944 г. падарвалі каля 600 рэек на ўчастку чыгункі Коласава — Негарэлае, пашкодзілі 500 м тэлефонна-тэлеграфнай лініі. Народныя мсціўцы вялі баі з адступаючымі гітлераўцамі. На дзень злучэння з Чырвонай Арміяй 5.7.1944 г. у брыгадзе 1160 партызан, атрады: «Бальшавік», імя А. В. Суворава, імя І. В. Сталіна, імя С. М. Кірава, імя С. А. Рыжака.

Брыгада імя В. П. Чкалава створана ў лістападзе 1942 г. на базе асобных атрадаў 620-га (пазней імя І. П. Кузняцова) і 621-га (пазней імя В. П. Чкалава). Напярэдадні злучэння з Чырвонай Арміяй партызаны брыгады ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў знішчылі 24 аўтамашыны, захапілі 9 кулямётаў, 19 аўтаматаў, 141 вінтоўку. 5.7.1944 г. брыгада (атрады імя І. П. Кузняцова, «За Савецкую Радзіму», імя П. К. Панамарэнкі, «26 гадоў Кастрычніка», імя Г. М. Малянкова; 1085 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

Брыгада «За Савецкую Беларусь» створана ў студзені 1944 г. на базе атрадаў імя С. М. Кірава, «За Савецкую Беларусь», імя А. А. Андрэева, вылучаных з брыгады імя В. П. Чкалава. 1.7.1944 г. народныя мсціўцы перарэзалі дарогі Ракаў — Валожын, Гарадок — Валожын, па якіх адступалі нямецка-фашысцкія захопнікі, і ўтрымлівалі іх да падыходу часцей Чырвонай Арміі. 5.7.1944 г. брыгада (атрады «За Савецкую Беларусь», імя А. А. Андрэева, «Штурм», імя С. М. Кірава, рэзервовы атрад, 962 партызаны) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

У 1967 г. у гонар вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў пастаўлена стэла. *М. Б. Батвіннік.*

**400. ПОМНІК У ГОНАР 50-ГОДДЗЯ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ** (гіст.). На вул. Чапаева. У 1967 г. у гонар 50-годдзя Савецкай улады пастаўлены абеліск.

**401. ПОМНІК У ГОНАР 60-ГОДДЗЯ САВЕЦКАЙ АРМІІ** (гіст.). У цэнтры горада. У гонар 60-годдзя Савецкай Арміі ў 1978 г. пастаўлена стэла.

**402. ПОМНІК ШЧАРБІНЕ** Васілю Васілевічу (гіст.). Вул. Савецкая, каля будынка сярэдняй школы № 1. Паплечны бюст Героя Савецкага Саюза В. В. Шчарбіны ўстаноўлены ў 1972 г.




402. *Помнік В. В. Шчарбіне.*

Гл. артыкул № 388 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан».

**403. ЦАРКВА КАНСТАНЦІНА І АЛЕНЫ** (архіт.). На вул. Савецкай. Пабудавана ў 1866 г. з дрэва.

Царква крыжападобная ў плане са званіцай. Цэнтральны зруб завершаны шатром на высокім васьмігранным барабане. Званіца двух'ярусная (чацвярык на чацверыку), шатровая, прыбудавана з боку галоўнага фасада. Ніжні ярус званіцы (бабінец) аб'яднаны з асноўным аб'ёмам агульным карнізам. Сцены ашаляваны гарызантальна. Вокны арачныя.

Унутры цэнтральны зруб перакрыты васьмігранным самкнутым скляпеннем. Пераход ад чацверыка да васьмерыка ажыццяўляецца пры дапамозе ветразяў. Алтарная частка, бакавыя зрубы маюць плоскія столі і адкрываюцца ў асноўнае памяшканне на ўсю шырыню праёмамі. Сцены ўнутры ашаляваны.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *У. В. Алісейчык.*

**в. Адамова, Сакаўшчынскі сельсавет**

**404. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя І. Д. Чарняхоўскага. На ўшанаванне памяці землякоў — 19 воінаў і партызан і 18 мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.



404. *Помнік землякам.*

**в. Арлоўшчына, Ракаўскі сельсавет**

**405. МАГІЛА ВЕРАБ'ЁВА** А. А. (гіст.). Непадалёку ад вёскі, каля піянерскага лагера «Сонечны». Лейтэнант Чырвонай Арміі А. А. Вераб'ёў загінуў у 1941 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бабровічы, цэнтр сельсавета**

**406. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля дарогі Мінск — Валожын. На ўшанаванне памяці 62 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — абеліск з стэламі-сцягамі па баках і стэла з барэльефнымі выявамі воінаў і партызан.



403. *Царква Канстанціна і Алены. Галоўны фасад.*



403. *Царква Канстанціна і Алены. Бакавы фасад.*




403. *Царква Канстанціна і Алены. План.*



406. *Помнік землякам.*



408. *Помнік на магіле Ф. Э. Рушчыца.*

в. Багданава, Багданаўскі сельсавет

**407. КАСЦЁЛ МІХАІЛА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1844 г. з дрэва.



409. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Прамавугольны ў плане будынак з пяціграннай больш нізкай апсідай. Двухсхільны гонтавы дах асноўнага аб'ёму на галоўным фасадзе завершаны чатырохграннай шатровай вежай. Тарэц закрыты трохвугольным шчытом, дэкарыраваным шалёўкай, малюнак якой нагадвае сонечныя прамені вакол паўкруглай люкарны. Гранёная апсіда накрыта пластычным шматгранным гонтавым дахам. Бакавыя фасады вертыкальна ашаляваны, рытмічна прарэзаны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Зала з плоскай столлю і неашаляванымі сценамі.

Касцёл — помнік драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**408. МАГІЛА РУШЧЫЦА** Фердынанда Эдуардавіча (гіст.). На могілках.

Жывапісец, графік, тэатральны дэкаратар і педагог Ф. Э. Рушчыц нарадзіўся 10.12.1870 г. у маёнтку Багданава ў сям'і збяднелага шляхціца. Бацька працаваў чыноўнікам на Лібава-Роменскай чыгунцы. Дзяцінства і юнацтва прайшло ў Мінску. Пасля сканчэння ў 1890 г. Мінскай гімназіі вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта, у 1892—97 гг. у Пецярбургскай акадэміі мастацтваў у І. Шышкіна і А. Куінджы. Некаторы час жыў у Багданаве, займаўся жывапісам. З 1904 г. прафесар Школы прыгожых мастацтваў у Варшаве, з 1907 г.— Кракаўскай акадэміі мастацтваў, у 1919—32 гг.— аддзялення прыгожых мастацтваў Віленскага універсітэта, адначасова быў старшынёй камісіі па ахове помнікаў гісторыі.

Работы ранняга перыяду Ф. Э. Рушчыца звязаны з роднымі мясцінамі, рэалістычным паказам прыроды: «Мінск зімою» (1895 г.), «Млын ноччу» (1898 г.), «Млын» і «Каля касцёла» (1899 г.), «Мост зімою» і «У свет» (1901 г.). Сацыяльным зместам, эпічнасцю вызначаюцца карціны «Зямля» (1898 г.) і «Эмігранты» (1902 г.). Хвалююць сваім хараством і аптымізмам карціны «Вясна» (1907 г.), «Зіма», «Дрэвы над вадой», «Зімовая казка» (1904 г.).

Мастак зрабіў шэраг дэкарацый да спектакляў у тэатры Н. Младзяёўскай-Шчуркевіч у Вільні. Ф. Э. Рушчыц быў прыхільнікам рэалістычнага жывапісу, на яго творчасць зрабілі ўплыў імпрэсіянізм і мадэрнізм. Здольнасці мастака высока ацаніў І. Рэпін. Карціны Рушчыца захоўваюцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР, у музеях Літоўскай ССР, ПНР. Ф. Э. Рушчыц памёр 30.10.1936 г. У 1984 г. на ўшанаванне яго памяці ў пас. Багданаў (Валожынскі р-н) на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1938 г. на магіле пастаўлены абеліск.



411. *Помнік землякам.*

*Літ.:* Дробаў Л. М. Беларускія мастакі XIX стагоддзя.— Мн., 1971. *М. Б. Батвіннік.*

пас. Багданаў, цэнтр сельсавета

**409. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры пасёлка, каля будынка канторы саўгаса «Багданаўскі». Пахаваны 31 воін. Сярод іх — салдаты, сяржанты і афіцэры 5-й стралковай дывізіі і 18-й гвардзейскай танкавай брыгады 5-й гвардзейскай танкавай арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Белакорац, Валожынскі сельсавет

**410. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 14 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — паплечны бюст партызана.

в. Брылькі, Валожынскі сельсавет

**411. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «17 Верасня». На ўшанаванне памяці землякоў — 42 воінаў і партызан і 32 мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

в. Вішнева, цэнтр сельсавета

**412. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 19 воінаў. Сярод іх — салдаты, сяржанты і афіцэры 192-й стралковай



411. *Помнік землякам.*

дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**413. ДОМ, У ЯКІМ ЖЫЛА БУЙЛО** Канстанцыя Антонаўна (гіст.).

Беларуская савецкая паэтэса, заслужаны дзеяч культуры БССР (1968 г.) К. А. Буйло (сапраўднае Калечыц) нарадзілася 30.12.1898 г. на Ашмяншчыне. Скончыла настаўніцкія курсы ў Вільні. Сям'я часта мяняла месца жыхарства. Жыла ў Барсуковіне, Сугвaздах, у 1906—13 гг. у в. Вішнева Валожынскага р-на, у Маладзечне, у Чаўслях каля Ліды. У 1915—16 гг. працавала загадчыцай беларускай кнігарні і настаўніцай у Полацку. У 1-ю сусветную вайну выехала з Беларусі, жыла ў Маскве.

Вершы пачала публікаваць з 1909 г. у «Нашай ніве». У творчасці шырока выкарыстоўвала фальклор. Паводле народных міфаў напісала вершаваную драму «Кветка папараці» (1914 г.). У 1914 г. выдала зборнік «Курганная кветка» (рэдактар Я. Купала). Творчасць паэтэсы дакастрычніцкага перыяду прасякнута пафасам гуманізму, спагадай да людзей з цяжкім лёсам жыцця, любоўю да роднай прыроды, пашанай да народных звычаяў і абрадаў «Люблю», «Беларусі», «Ляці, думка» і інш. У савецкі час стварыла вершы, якія ўвайшлі ў зборнікі «Світанне» (1950 г.), «На адноўленай зямлі» (1961 г.), «Май» (1965 г.). Аўтар зборнікаў для дзяцей «Юрачка» (1957 г.), «У бляску зор» (1968 г.). Выходзілі таксама «Выбраныя творы» (т. 1—2, 1981 г.), «Выбранае» (1968 г.). Некаторыя творы паэтэсы сталі народнымі песнямі. Памерла 4.6.1986 г. у Маскве.

*Літ.:* Чаркасава Д. Люблю.— Мн., 1978; Пяцьдзесят чатыры дарогі.— Мн., 1963; Тарас Н. Пяснярка роднай зямлі.— Полымя, 1968, № 12.

*Г. А. Каханоўскі.*

**414. КАЗЬМАДЗЯМ'ЯНАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У заходняй частцы вёскі, на левым беразе р. Гальшанка. Пабудавана ў 1865 г. з бутавага каменю.

Будынак чатырохчасткавай аб'ёмнапрасторавай кампазіцыі. Па падоўжнай планіровачнай восі размешчаны рознавялікія васьмерыковая шатровая вежа-званіца, нізкі і вузкі бабінец, кубападобны асноўны аб'ём і прамавугольная апсіда. Галоўны і бакавыя ўваходы вырашаны арачнымі парталамі з кілепадобнымі ліштвамі. Асноўны двух'ярусны аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам з цыбулепадобнай галоўкай. Высокі шацёр званіцы завершаны макаўкай. Сцены дэкарыраваны атынкаванымі вуглавымі лапаткамі, арктурным фрызам. Здвоеныя аконныя праёмы аб'яднаны арачнымі ліштвамі. Унутры асноўны аб'ём перакрыты плоскай столлю на падугах.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

*А. М. Кулагін.*

**415. КАСЦЁЛ МАРЫІ** (архіт.). У заходняй частцы вёскі, на беразе р. Гальшанка. Пабудаваны ў 1637—41 гг. з цэглы.

Касцёл аднанефавы, двухвежавы, з паўкруглай апсідай і бакавымі сакрысціямі. У 1771 г. дабудаваны бакавыя капліцы, якія з'яўляюцца крыламі трансепта. Галоўны фасад фланкі-




414. *Казьмадзям'янаўская царква. План.*



415. *Касцёл Марыі. Арган.*



414. *Казьмадзям'янаўская царква.*



415. *Брама-званіца.*

раваны трох'яруснымі чацверыковымі вежамі з нізкімі купалкамі і завершаны фігурным шчытом паміж імі, крапаваны прафіляванымі карнізамі, лапаткамі. Сцены расчлянёны высокімі арачнымі і лучковымі аконнымі праёмамі, умацаваны контрфорсамі.

Унутры неф і сакрысціі перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з падпружнымі аркамі і люнетамі, паўночная капліца — сферычным купалам на ветразях, паўднёвая — плоскай столлю. У нартэксе хоры на трохпралётнай аркадзе і 2 кранштэйнах. Устаноўлены арган. Сцены нефа крапаваны арачнымі нішамі, слаістымі пілястрамі, пілонамі, упрыгожаны паліхромнай арнаментальнай размалёўкай (мастак Ф. Рушчыц), скляпенні — геаметрычным ляпным арнаментам 17 ст. Галоўны драўляны алтар выканаsuccessfully ў сярэдзіне 18 ст. у барочна-ракайльных формах. Двух'ярусны, на фігурным пастаменце, дэкарыраваным лісцем аканта, накладнымі разнымі ракайлямі. Першы ярус вырашаны 2 парамі размешчаных уступам канеліраваных слупоў, што нясуць крывалінейны шматпрафіляваны і крапаваны антаблемент, у завяршэнні яго — гербавы картуш. Другі ярус — шчыт з загнутымі ў валюты гранямі і разной кампазіцыяй «Глорыя» ў цэнтры. Алтар дэкарыраваны драўлянымі скульптурамі евангелістаў, анёлаў, вазамі, С-падобнымі завіткамі. У аналагічнай стылявой трактоўцы выкананы 2 бакавыя алтары. Сярод твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва каваныя дзверы 17 ст.

Перад касцёлам размешчана брамазваніца. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з бутавага каменю. Двух'яруснае збудаванне. Першы ярус — лучковая праезная арка, другі — трохпралётная аркада, завершаная 3 франтончыкамі. На фоне бутавай муроўкі вылучаюцца пабеленыя атынкаваныя элементы архітэктурнага дэкору (вуглавыя лапаткі, ліштвы, карнізы).

Касцёл — помнік архітэктуры з рысамі стыляў рэнесансу, ранняга і позняга барока, ракако.

*У. В. Алісейчык, А. М. Кулагін.*

**416. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 2002 мірныя жыхары, якіх 7.6.1942 г. закатавалі ці расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**417. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У вёсцы, на развілцы дарог Мінск — Гродна і Валожын — Ашмяны. На ўшанаванне памяці землякоў — 43 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 2060 мірных жыхароў, загубленых акупантамі, у 1967 г. пастаўлены абеліск.




415. *Касцёл Марыі. План.*



415. *Касцёл Марыі. Выгляд з боку апсіды.*




416. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**в. Вуглы, Івянецкі сельсавет**

**418. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 38 мірных жыхароў, якіх 7.8.1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Выганічы, Ракаўскі сельсавет**

**419. МЕМАРЫЯЛЬНЫ ЗНАК У ГОНАР БЯСТУЖАВА** Аляксандра Аляксандравіча (гіст.). У вёсцы. Устаноўлены ў 1987 г.

Дзекабрыст, рускі пісьменнік А. А. Бястужаў (псеўданім М а р л і н с к і) нарадзіўся 23.10.1797 г. у Пецярбургу ў сям'і дваран. З лістапада 1821 г. да студзеня 1822 г. жыў у в. Выганічы. У складзе гвардзейскага корпуса прымаў удзел у манеўрах на тэрыторыі Беларусі і Літвы. Беларуская прырода і народны побыт знайшлі адлюстраванне ў аповесці «Вечар на Каўказскіх водах». З 1824 г. член Паўночнага таварыства дзекабрыстаў. Удзельнічаў у выступленні 14.12.1825 г. на Сенацкай пл. у Пецярбургу. Прыгавораны да смяротнай кары, замененай ссылкай у Якуцк. У 1829 г. пераведзены радавым на Каўказ. Аўтар лірычных вершаў, аповесцей і нарысаў. Загінуў у баі 7.6.1837 г.

*С. У. Букчын.*

**в. Высокае, Гародзькаўскі сельсавет**

**420. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Кашчэлічы. Каля 40 насыпаў дыяметрам 3—6 м, вышынёй 0,5—1,2 м. Многія з іх пашкоджаны, каля асноў месцамі прасочваюцца кругавыя раўкі. У пачатку 20 ст. адзін курган з пахавальным абрадам трупапалажэння раскапаў



417. *Помнік землякам.*

С. Яроцкі. Пахавальны інвентар — ганчарны гаршчок і бронзавы пярсцёнак. На гэтым жа могільніку знойдзены меч даўжынёй 75 см, скроневыя кольцы з заходзячымі канцамі, бронзавыя падвескі са слядамі пазалоты і геаметрычным арнаментам, бронзавая пацерка дрыгавіцкага тыпу. Належаў дрыгавічам. Некаторыя з гэтых рэчаў захоўваюцца ў Дзяржаўным археалагічным музеі ў Варшаве. Абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Вялікія Крывічы, Ракаўскі сельсавет**

**421. ПОМНІК У ГОНАР КАМУНЫ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У 1919 г. сяляне вёсак Вялікія Крывічы, Залессе, Крэчаўцы стварылі першую ў раёне камуну і зацвердзілі яе статут. 15 мая 135 камунараў пачалі калектыўную апрацоўку зямлі ў былым панскім маёнтку Новы Двор. Камуна існавала да акупацыі (красавік 1920 г.) Валожыншчыны войскамі буржуазнай Польшчы.

У 1981 г. у гонар камуны пастаўлена стэла.

**в. Гародзькі, цэнтр сельсавета**

**422. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 31 земляка, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**423. ЦАРКВА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1866 г. з бутавага каменю.

Будынак чатырохчасткавай аб'ёмнапрасторавай кампазіцыі: трох'ярусная званіца (васьмярык на 2 чацверыках), нізкі бабінец, кубападобны асноўны аб'ём, пяцігранная апсіда. Асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным гонтавым дахам з макаўкай у завяршэнні. Плоскасныя сцены фланкіраваны атынкаванымі і пабеленымі вуглавымі лапаткамі, дэкарыраваны карнізамі нескладанага профілю. Прамавугольны праём галоўнага ўвахода, здвоеныя лучковыя вокны бакавых фасадаў абрамлены атынкаванымі ліштвамі. Пластычным архітэктурным дэкорам (нішы, прафіляваны карніз, арачныя праёмы ў ліштвах) вылучаны верхні атынкаваны і пабелены ярус званіцы (шацёр не захаваўся). Унутраная прастора перакрыта плоскай столлю.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*




423. *Царква. План.*



423. *Царква.*

**в. Гілікі, Івянецкі сельсавет**

**424. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Захавалася больш за 10 магіл, пазначаных пастаўленымі тарцом каменнымі плітамі. На некаторых з іх ёсць крыжападобныя знакі і нерасшыфраваныя надпісы. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Даманоўшчына, Сугваздаўскі сельсавет**

**425. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці землякоў — 20 воінаў і партызан і 18 мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Даўбені, Бабровіцкі сельсавет**

**426. ЦАРКВА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1869 г. з бутавага каменю.

Будынак чатырохчасткавай аб'ёмнапрасторавай кампазіцыі: трох'ярусная вежа-званіца (васьмярык на 2 чацверыках), невялікі бабінец, кубападоб-



426. *Царква. Галоўны фасад.*




426. *Царква. План.*



426. *Царква. Выгляд з боку апсіды.*

ны асноўны аб'ём, паўцыркульная апсіда. Фасады расчлянёны адзінарнымі і здвоенымі лучковымі аконнымі праёмамі. Цыбулепадобныя галоўкі ў завяршэнні дахаў асноўнага аб'ёму і званіцы не захаваліся. Архітэктура фасадаў заснавана на спалучэнні бутавай муроўкі і атынкаваных элементаў дэкору (вуглавыя лапаткі, карнізы, плоскасныя ліштвы акон).

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Дворышча, Узбалацкі сельсавет**

**427. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, каля дарогі Валожын — Маладзечна. Пахаваны 16 воінаў, у т. л. салдаты, сяржанты і афіцэры 75-га і 252-га гвардзейскіх стралковых палкоў і 44-й асобнай стралковай роты, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дзесятнікі, Багданаўскі сельсавет**

**428. КАПЛІЦА** (архіт.). На ўскраіне вёскі. Зроблена як мемарыяльнае надмагільнае збудаванне ў пачатку 20 ст. з бутавага каменю. Вежападобны 8-гранны ў сячэнні аб'ём на высокім ступеньчатым цокалі. Вуглы вылучаны масіўнымі лапаткамі. У завяршэнні паўсферычнае купальнае пакрыццё са скульптурнай выявай арла. У аснове купала буйны антаблемент з дэнтыкуламі. Капліца — помнік архітэктуры малых форм з выкарыстаннем элементаў стылю «мадэрн».
*А. М. Кулагін.*




433. *Помнік землякам.*



428. *Капліца.*

**в. Доры, цэнтр сельсавета**

**429. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны 183-га запаснога палка і 18-га асобнага санітарнага батальёна, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**430. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У вёсцы, на правым беразе р. Дараўлянка, ва ўрочышчы Царкавішча. Займае мыс прыроднага ўзвышша, выцягнутага з усходу на захад. З усходняга боку быў роў і, верагодна, вал (не захаваліся). Пляцоўка амаль круглая, памерам 70×75 м, вышыня над навакольнай мясцовасцю 2,0—3,5 м. Схілы даволі стромкія, асабліва з боку забалочанай поймы ракі. Вядома з канца 19 ст., абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**431. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Пахаваны 257 мірных жыхароў, загубленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — 146 старых, жанчын і дзяцей, якіх 23.7.1943 г. фашысцкія карнікі спалілі ў царкве і жылым доме. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Дубашы, Ракаўскі сельсавет**

**432. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі. 2 насыпы: адзін з іх ва ўрочышчы Завань, вышынёй 1,8 м, дыяметрам 12 м; другі ва ўрочышчы Алешкаўшчына, пашкоджаны ў час будаўніцтва дарогі. Уцалелая частка вышынёй 0,65 м, дыяметрам 6 м. Адкрыў у 1976 г. Э. М. Зайкоўскі, абследаваў у 1979 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Дубіна-Баярская, цэнтр Узбалацкага сельсавета**

**433. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Зара». На ўшанаванне памяці землякоў — 47 воінаў і партызан і 20 мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск і стэла з імёнамі загінуўшых.

**434. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1868 г. з бутавага каменю.

Сіметрычна-восевая аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя храма чатырохчасткавая: шатровая трох'ярусная (васьмярык на 2 чацверыках) вежа-званіца, прамавугольныя ў плане бабінец




434. *Царква. План.*



434. *Царква.*



436. *Помнік землякам.*

і асноўны аб'ём, акруглая апсіда. Асноўны аб'ём быў завершаны чатырохсхільным пакатым дахам з цыбулепадобным купалам на барабане ў цэнтры (цяпер зменены на двухсхільны). Шатровае завяршэнне званіцы не захавалася. Галоўныя і бакавыя ўваходы падкрэслены прамавугольнымі парталамі. На фоне бутавай муроўкі сцен вылучаюцца атынкаваныя элементы архітэктурнага дэкору — ліштвы здвоеных лучковых аконных праёмаў, вуглавыя лапаткі, карнізы нескладанага профілю, аркатура. Памяшканні перакрыты плоскай столлю.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Забрэззе, цэнтр сельсавета**

**435. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, за 0,1 км ад будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 180 мірных жыхароў, якіх у 1942 г. закатавалі і спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1946 г. на магіле пастаўлена стэла.

**436. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 18 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**437. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пабудавана ў 1867 г. з бутавага каменю.

Храм сіметрычна-восевай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Складаецца з 4 частак: двух'ярусная вежы-званіцы (васьмярык на чацверыку), нізкага бабінца, асноўнага кубападобнага аб'ёму і пяціграннай апсіды. Квадратны ў плане асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам з макаўкай у завяршэнні. На фоне бутавай муроўкі сцен (таўшчыня 1,3 м) вылучаюцца атынкаваныя вуглавыя лапаткі, просты карніз, ліштвы здвоеных лучковых акон. Кілепадобнымі ліштвамі аздоблены арачныя праёмы другога атынкаванага яруса званіцы. Галоўны ўваход вырашаны прамавугольным парталам з ганкам. Унутраная прастора перакрыта плоскай столлю.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Задарожжа, Пяршайскі сельсавет**

**438. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На захад ад вёскі, на былым хутары Лапінцы. Пахаваны 19 мірных жыхароў, якіх 23.7.1943 г. спалілі жывымі нямецка-фашысцкія захопнікі.

**в. Залессе, Залескі сельсавет**

**439. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночны захад ад вёскі. Сфарміравана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. Прамавугольны сядзібны ўчастак абмежаваны ліпавымі шпалерамі, заняты пладовым садам, невялікім з 2 сажалкамі пейзажным паркам, у якім сядзібны дом і флігель. Цяпер тут цэнтральная сядзіба і праўленне саўгаса «Залескі».

Сядзібны дом мураваны, двухпавярховы, прамавугольны ў плане будынак пад вальмавым дахам. Галоўны атынкаваны фасад вылучаны ў цэнтры шырокім рызалітам з трохвугольным шчытом і арачнай нішай у тымпане. Галоўны ўваход вырашаны прамавугольным праёмам з трохвугольным франтонам у завяршэнні. Сцены рытмічна расчлянёны папарна згрупаванымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Будынак па перыметры апяразаны карнізам простага профілю і міжпаверхавай цягай. Планіроўка калідорная з вестыбюлем і трохмаршавай лесвіцай у цэнтры.

Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*



437. *Царква.*



439. *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*




439. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — флігель; 3 — сажалкі.*

**в. Замасцяны, Сакаўшчынскі сельсавет**

**440. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5—2 км на поўнач ад вёскі, на ўзвышшы. Схілы стромкія, з заходняга боку вышынёй 10—12 м, з паўднёвага — 14—15 м, з паўночнага — 15—16 м. Пляцоўка авальная ў плане, памерам 65×50 м, выцягнута з паўднёвага захаду на паўночны ўсход. Адкрыў і абследаваў у 1967 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,25—0,13 м, бліжэй да краю 1—1,15 м. У шурфе памерам 1×1 м, закладзеным ва ўсходняй частцы пляцоўкі, знойдзены абломкі штрыхаванага посуду, шлакі і абпаленыя камяні. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 1—4 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Р. Мітрафанаў.*

## IV. ІВЯНЕЦ

Гарадскі пасёлак на р. Волма (прыток Ісачы). За 31 км на паўднёвы ўсход ад Валожына, 40 км ад чыгуначнай станцыі Койданава (на лініі Мінск — Баранавічы), аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Мінскам, Дзяржынскам, Валожынам, Навагрудкам, Стоўбцамі.

Вядомы з 14 ст. Належаў вялікаму князю Вітаўту, які перадаў яго на ўладанне свайму пляменніку князю Андрэю Уладзіміравічу, магнатам Салагубам. У 1550-х гадах у Івянцы ўзнікла пратэстанцкая абшчына, пры ёй кальвінскі збор, школа, шпіталь; заснаваны кляштар францысканцаў. Багатыя запасы гліны спрыялі развіццю ганчарнага рамяства. З 1793 г. Івянец у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці. У 1840-х гадах адбыліся выступленні сялян і рамеснікаў. Жыхары мястэчка ўдзельнічалі ў паўстанні 1863—64 гг. У 1897 г. тут было 2670 жыхароў. У Івянцы неаднаразова бывалі беларускі паэт і драматург В. Дунін-Марцінкевіч, пісьменнік Ядвігін Ш. У 1916 г. тут жыў і вёў рэвалюцыйную дзейнасць М. В. Фрунзе. У верасні 1917 г. арганізаваны валасны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З 1918 г. акупіраваны германскімі, у 1919—20 гг.— польскімі войскамі. У 1921—39 гг. мястэчка ў складзе буржуазнай Польшчы. Дзейнічалі падпольныя арганізацыі КПЗБ і КСМЗБ, а таксама гурткі Беларускай сялянска-рабочай грамады. З 1939 г. у складзе БССР. З чэрвеня 1941 г. да 6.7.1944 г. Івянец акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (8.6.1943 г.— 8.7.1944 г.) і ЛКСМБ (1.11.1943 г.— 6.7.1944 г.), партызанскае злучэнне Івянецкай зоны. З 15.1.1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр Івянецкага р-на, спачатку ў Баранавіцкай, з 1954 г. у Маладзечанскай, з 1960 г. у Мінскай абласцях. З красавіка 1962 г. у Валожынскім, з снежня 1962 г. у Стаўбцоўскім, з 1965 г. зноў у Валожынскім р-нах.



IV. *Будынак Музея Ф. Э. Дзяржынскага.*

Планіровачную структуру гарадскога пасёлка фарміруюць вуліцы Леніна (галоўная вось, забудоўваецца двухпавярховымі жылымі дамамі), 1 Мая, Камсамольская, 17 Верасня, якія зыходзяцца на правым беразе Волмы, і вуліцы Прамысловая і Дзяржынскага (левы бераг ракі). Першы генеральны план забудовы (1956 г., «Белсельпраект») прадугледжваў упарадкаванне дробнаквартальнай забудовы, далейшае развіццё грамадскага цэнтра. Улічваючы прыродна-геаграфічныя ўмовы, размяшчэнне паблізу сталіцы рэспублікі і буйных лясных масіваў (на поўначы Пяршайская, на захадзе Налібоцкая пушчы), пасёлку адводзіцца роля цэнтра зоны адпачынку. Гэта знайшло адлюстраванне ў новым генеральным плане, распрацаваным у 1974 Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Грамадскі цэнтр гістарычна склаўся на правым беразе Волмы, на перакрыжаванні вуліц Камсамольскай і 17 Верасня, дзе створана пл. Свабоды. Тут размешчаны будынкі выканкома пасялковага Савета, аддзялення сувязі, Дома быту, камбіната бытавога абслугоўвання, бальніцы, аўтастанцыі. На плошчы ўзведзены новы гандлёвы цэнтр. Пасёлак развіваецца ў паўднёва-ўсходнім напрамку. У правабярэжнай частцы вядзецца будаўніцтва жылога мікрараёна, левабярэжны раён забудоўваецца дамамі сядзібнага тыпу.

Працуюць фабрыка мастацкай керамікі і вышыўкі, кандытарская фабрыка, дрэваапрацоўчы камбінат, хлебазавод, племптушказавод, Дом быту, эксперыментальная база Мінскага праектна-тэхналагічнага інстытута.

У пасёлку сярэдняя і музычная школы, школа-інтэрнат, дзіцячы сад, яслі-сад, дзіцячы санаторый «Івянец», 2 бібліятэкі, Дом культуры, кінатэатр, музей Ф. Э. Дзяржынскага, бальніца. Помнікі: Ф. Э. Дзяржынскаму; на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; на магіле ахвяр фашызму. Збярогся помнік архітэктуры — кляштар францысканцаў 18 ст. і Аляксееўскі касцёл пачатку 20 ст.

Зона адпачынку — берагі Волмы, рэчышча якой у межах пасёлка штучна расшырана, на правым беразе ракі разбіты парк (3 га), у цэнтры каля плошчы Свабоды — сквер.

*Літ.:* Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и села Белорусской ССР: Историко-географические очерки.— Мн., 1959; Памятная книжка Минской губернии на 1906 год.— Мн., 1905; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905.

*У. В. Алісейчык, Г. А. Каханоўскі.*

**441. АЛЯКСЕЕЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На ўсходняй ускраіне пасёлка, на могілках. Пабудаваны ў 1905—07 г. з цэглы ў ансамблі з брамай галоўнага ўвахода на могілкі.

Касцёл крыжападобны ў плане, з пяціграннай алтарнай часткай і прамавугольнымі крыламі трансепта. Двух'ярусная шатровая вежа-званіца выступае з асноўнага аб'ёму. Сцены расчлянёны лапаткамі, стральчатымі аконнымі праёмамі, завершаны пінаклямі. Вежа завершана трохвугольнымі шчытамі, упрыгожана аркатурай і шпілямі. У ніжнім ярусе званіцы вылучаны бабінец. Алтар і бакавыя крылы трансепта адкрываюцца ў асноўнае памяшканне стральчатымі арачнымі праёмамі. Прастора касцёла перакрыта нервюрнымі скляпеннямі на падпружных арках. Інтэр'ер упрыгожвае паліхромная арнаментальная размалёўка. Перад касцёлам — брама, вырашаная ў адзіным з ім стылі.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі. *У. В. Алісейчык.*

**442. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На цэн-

тральнай плошчы. Пахаваны 122 воіны, у т. л. воіны 134-й стралковай дывізіі, 8-й самаходнай артылерыйскай брыгады, 98-га гвардзейскага артылерыйскага палка, і 20 партызан атрадаў «Бальшавік» і імя К. К. Ракасоўскага, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск, у 1975 г.— 2 пліты з імёнамі загінуўшых.

**443. ДОМ, У ЯКІМ ЖЫЎ ФРУНЗЕ** Міхаіл Васілевіч (гіст.). Вул. Камсамольская, 87.

Тут у маі 1916 г. пад псеўданімам Міхаіл Аляксандравіч Міхайлаў жыў М. В. Фрунзе — прафесійны рэвалюцыянер, савецкі партыйны, дзяржаўны і ваенны дзеяч. Ён уладкаваўся вольнанаёмным артылерыйскай часці, потым у камітэт Усерасійскага земскага саюза на Заходнім фронце. Вёў бальшавіцкую агітацыю сярод салдат і мясцовага насельніцтва.

У 1977 г. на доме устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Казеко И. И., М. В. Фрунзе в Белоруссии.— Мн., 1958. *М. Б. Батвіннік.*

**444. КЛЯШТАР ФРАНЦЫСКАНЦАЎ** (архіт.). У цэнтральнай частцы пасёлка, на рагу вуліц 1 Мая і Пушкіна, на правым беразе р. Волма. Пабудаваны ў 1702—05 гг. з цэглы пад кіраўніцтвам мясцовага майстра А. Чаховіча; у 1856—60 гг. рэстаўрыраваны архіт. В. Бяляўскім і мастаком Я. Кураткевічам. Уключае касцёл, жылы корпус і фрагменты сцяны з вежай і брамай. Цяпер у памяшканнях манастыра размешчана эксперыментальная база Мінскага праектна-тэхналагічнага інстытута.


*442. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

ЗДЕСЬ В МАЕ 1916 года ЖИЛ И РАБОТАЛ
ВЫДАЮЩИЙСЯ ДЕЯТЕЛЬ БОЛЬШЕВИСТСКОЙ
ПАРТИИ И СОВЕТСКОГО ГОСУДАРСТВА
ТАЛАНТЛИВЫЙ ОРГАНИЗАТОР И ПОЛКОВОДЕЦ
СОВЕТСКИХ ВООРУЖЕННЫХ СИЛ
МИХАИЛ ВАСИЛЬЕВИЧ
ФРУНЗЕ

*443. Мемарыяльная дошка на доме, у якім жыў М. В. Фрунзе.*

Касцёл — двухвежавы, крыжападобны ў плане будынак з кароткімі скругленымі крыламі трансепта і алтарнай часткай, да якой з бакоў прыбудаваны 2 сакрысціі. Галоўны (усходні) фасад фланкіраваны пяціяруснымі вежамі. Цэнтральную частку фасада завяршае высокі двух'ярусны шчыт з валютамі па баках. Ярусы фасада вылучаны прафіляванымі карнізамі. Пукатыя паверхні чаргуюцца з увагнутымі. Вуглы аб'ёмаў зрэзаны і раскрапаваны пілястрамі. Астатнія фасады вырашаны больш стрымана. Будынак апяразаны шырокім прафіляваным карнізам, сцены расчлянёны пілястрамі, крылы трансепта і алтарная частка завершаны фігурнымі шчытамі, што прыкрываюць тарцы дахаў. Вокны лучковыя з прафіляванымі сандрыкамі. Над парталам галоўнага ўвахода шматлопасцевы арачны праём, фланкіраваны паўкалонамі. Касцёл аднанефавы. Сцены члянёны аконнымі нішамі, у прасценках — пілястры. Прастора перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі і філёнгавымі падпружнымі аркамі. Цыліндрычным з распалубкамі скляпеннем перакрыта і паўночная сакрысція. Над уваходам у асноўнае памяшканне размешчаны крывалінейныя ў плане хоры, якія падтрымліваюцца 2 слупамі. Крылы трансепта і алтар адкрываюцца ў асноўнае памяшканне шырокімі арачнымі праёмамі. У алтарнай частцы 3 стукавыя алтары — цэнтральны і 2 бакавыя — вырашаны ў архітэктурнай пластыцы з калонамі, упрыгожанымі ракайльнымі капітэлямі.

Жылы корпус размешчаны з заходняга боку касцёла. Г-падобны ў


*441. Аляксееўскі касцёл.*



*441. Аляксееўскі касцёл. План.*

*444. Кляштар францысканцаў.*

плане двухпавярховы будынак пад вальмавым дахам. Сцены з боку двара раўнамерна расчлянёны шырокімі пілястрамі. Вокны лучковыя з простымі ліштвамі. Прамавугольны праём




*444. Касцёл. План.*

былога галоўнага ўвахода (цяпер акно) дэкарыраваны крывалінейным тонкапрафіляваным сандрыкам. Планіроўка калідорная, з аднабаковым размяшчэннем памяшканняў. За выключэннем калідора першага паверха, перакрытага цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, столь плоская.

Б р а м а размешчана па восі касцёла і з'яўляецца архітэктурна-мастацкім акцэнтам агароджы кляштара. Уяўляе сабой трохчасткавую кампазіцыю з 4 руставаных слупоў з арачным лучковым праёмам, завершаным крывалінейным франтонам. З усходняга боку сцяны захавалася васьмігранная вежа, паўднёвая частка сцяны ўмацавана масіўнымі контрфорсамі.




*444. Жылы корпус. План.*

Будынкі кляштара — помнікі архітэктуры барока. *У. В. Алісейчык.*

**445. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад пасёлка, ва ўрочышчы Пішчугі, у лесе. 37 насыпаў вышынёй 2 м, дыяметрам 6—10 м. Трапляюцца прадаўгаватыя курганы вышынёй 0,7—0,9 м, шырынёй 6—7 м, даўжынёй 10—11 м. Абследаваў у 1979 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**446. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне пасёлка. Пахавана больш за 1 тыс. савецкіх грамадзян, якіх 5.6.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1965 г. устаноўлена надмагілле.

**447. МАГІЛА БАРЫСЕВІЧА** Васіля Трафімавіча **І МЕЗІНА** Іосіфа Вікенцьевіча (гіст.). На могілках. Пахаваны сакратар Івянецкага райкома КП(б)Б В. Т. Барысевіч і дырэктар школы І. В. Мезін, якіх 4.4.1947 г. забілі ворагі Савецкай улады. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**448. МАГІЛА ДЗЯРЖЫНСКІХ** Казіміра Эдмундавіча і Люцыі Вільгельмаўны (гіст.). На могілках. Брат Ф. Э. Дзяржынскага Казімір Эдмундавіч і яго жонка Люцыя Вільгельмаўна — удзельнікі партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну.

К. Э. Дзяржынскі нарадзіўся ў 1875 г. у маёнтку Еды (Віленскі р-н Літоўскай ССР). Скончыў політэхнічны інстытут у Аўстра-Венгрыі. Працаваў інжынерам на розных прадпрыемствах у Польшчы. У 1935 г. пасяліўся на хутары Дзяржынава (Стаўбцоўскі р-н). Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР (1939 г.) удзельнічаў у стварэнні мемарыяльнага музея Ф. Э. Дзяржынскага. У Вялікую Айчынную вайну сям'я Дзяржынскіх



*444. Жылы корпус. Дэкор аконнага праёма.*



*448. Помнік на магіле К. Э. і Л. В. Дзяржынскіх.*

пераехала ў г. п. Івянец, дзе жонка Казіміра Эдмундавіча Люцыя Вільгельмаўна ўладкавалася перакладчыцай у гандлёвае таварыства акупацыйных улад. З вясны 1943 г. Дзяржынскія наладзілі сувязь з партызанамі злучэння Баранавіцкай вобл., перадавалі ім звесткі аб дыслакацыі і колькасці войск фашыстаў у раёне Налібоцкай пушчы, аб планах карных аперацый гітлераўцаў, выратоўвалі савецкіх патрыётаў і падпольшчыкаў ад арыштаў, моладзь ад вывазу ў Германію. Садзейнічалі разгрому партызанамі нямецкага гарнізона ў г. п. Івянец ў чэрвені 1943 г. Неўзабаве арыштаваны гітлераўцамі і 24.7.1943 г. расстраляны. У 1984 г. на доме (вул. Дзяржынскага, 17), дзе жылі К. Э. і Л. В. Дзяржынскія, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1962 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* В едином строю.— Мн., 1970; В памяти народной.— Мн., 1969; Карнееў М. С. Казімір і Люцыя Дзяржынскія.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1983, № 3. *М. Б. Батвіннік.*

**449. МАГІЛА ДОШЧАЧКІ** Бярнарда Раманавіча (гіст.). На могілках. Загадчык будаўнічага аддзела Івянецкага райвыканкома Б. Р. Дошчачка забіты ворагамі Савецкай улады 8.9. 1948 г. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**450. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ДЗЯРЖЫНСКІМ** Казіміру Эдмундавічу і Люцыі Вільгельмаўне (гіст.). Вул. Дзяржынскага, 17. Устаноўлена ў 1984 г. на доме, дзе з восені 1942 г. да ліпеня 1943 г. жылі К. Э. і Л. В. Дзяржынскія. Яны падтрымлівалі сувязь з партызанскімі брыгадамі імя І. В. Сталіна, імя Ф. Э. Дзяржынскага і імя В. П. Чкалава партызанскага злучэння Баранавіцкай вобл. Гл. артыкул № 448 «Магіла Дзяржынскіх Казіміра Эдмундавіча і Люцыі Вільгельмаўны».

**451. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (маст.). У гарадскім скверы.

Пастаўлены ў 1953 г., рэканструяваны ў 1977 г. (скульпт. З. Азгур, архіт. С. Друшчыц; бронза, бетон, граніт; вышыня бюста 1,5 м, пастамента 3,45 м). У пагрудным скульптурным партрэце дакладна перададзены індывідуальныя рысы, сродкамі пластыкі падкрэслены непахісная воля, перакананасць і мужнасць рыцара рэвалюцыі. Бюст устаноўлены на прамавугольным пастаменце, на пярэдняй плоскасці якога надпіс «Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі» і даты жыцця. Гл. таксама артыкул № 2975 «Мемарыяльны комплекс Дзяржынава». *Л. Г. Лапцэвіч.*

**452. СЯДЗІБА** (архіт.). На левым беразе р. Волма па вул. Прамысловай, 31. Сфарміравана ў пачатку 20 ст. Мае рэгулярную планіроўку, уключае сядзібны дом, капліцу, браму, стайню, свіран, невялікі ліпавы парк. Звязана з цэнтральнай часткай пасёлка алеяй.

Сядзібны дом — аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак з высокім бутавым паўпадвальным паверхам, накрыты высокім паўвальмавым дахам. Драўляныя сцены атынкаваны і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Ідэнтычныя франтальныя фасады сіметрычна-восевай пабудовы завершаны драўляным карнізам простага профілю. Уваходы праз драўляныя веранды. Планіроўка была анфіладнай з цэнтральным вестыбюлем і вялікай залай ў паўночна-заходнім крыле дома, падзеленай каланадай з антаблементам на 2 палавіны (цяпер зменена). Унутраныя падоўжныя сцены цагляныя, таўшчынёй 0,7 м. Да паўднёва-ўсходняга тарца прыбудавана вітая лесвіца на мансарду. Пад будынкам падвалы з тарцовымі ўваходамі.

Гаспадарчыя пабудовы (стайня і свіран) аднапавярховыя, прамавугольныя ў плане, зроблены з бутавага каменю ў простых формах утылітарнай архітэктуры.

Брама двухслуповая, арачная, дэкарыравана арачнымі нішамі, круглымі разеткамі, прафіляванымі карнізамі.

Капліца квадратная ў плане, з чатырохсхільным дахам. З трох бакоў адкрыта шырокімі арачнымі праёмамі.

Сядзіба — помнік эклектычнай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**453. ЦЭНТР ГАНЧАРНАГА РАМЯСТВА** (гіст.). Івянец вядомы як адзін з цэнтраў ганчарства з 16 ст. Тут выраблялі кухонны і сталовы посуд (тэракотавы, чорназадымлены, глазураваны) шырокага асартыменту: гаршкі, міскі, паўміскі, слоікі, глякі, талеркі і інш. Посуд аздаблялі штампаваным, гравіраваным ці ляпным арнаментам з нескладаных геаметрычных узораў, глазураваныя вырабы — ангобнай раз-



451. *Помнік Ф. Э. Дзяржынскаму.*

малёўкай у выглядзе кропак, завіткоў, раслінных парасткаў. Па форме посуд — прысадзісты, шырокі, пазней больш выцягнуты, часам нагадваў шкляныя вырабы тагачасных мануфактур. Выраблялі таксама тэракотавую і паліваную кафлю з рэльефнымі расліннымі, зааморфнымі і геральдычнымі выявамі.

Асаблівага развіцця ганчарны промысел дасягнуў у канцы 19 — пачатку 20 ст. Працавалі шматлікія «ганчаркі» па вытворчасці посуду і кафлі. Прадукцыя івянецкіх ганчароў славілася амаль ва ўсёй Заходняй Беларусі, прадавалі яе ў Вільні і Варшаве. Акрамя традыцыйнага посуду, выраблялі цукерачніцы, цукарніцы, чайнікі, масленіцы, вазы, попельніцы, падсвечнікі, фігурныя пасудзіны ў выглядзе львоў, мядзведзяў, бараноў. Пад празрыстую паліву наносілі ангобную размалёўку карычневага колеру ў выглядзе прамых і хвалістых паяскоў, хваёвых лапак і інш. нескладаных геаметрычных і раслінных узораў. Была пашырана вытворчасць глазураванай манахромнай (жоўтай, карычневай, зялёнай) кафлі з рэльефнымі выявамі раслін, кветак. Для дзяцей выраблялі цацкі-свістулькі.

Пасля 1939 г. у Івянцы была створана арцель, у 1960 г. пераўтворана ў фабрыку мастацкай керамікі і вышыўкі, якая ў 1979 г. увайшла ў аб'яднанне «Беларуская мастацкая кераміка». Быў распрацаваны арыгінальны прынцып дэкарыравання ў выглядзе прамых і хвалістых палос карычневага, чорнага і зялёнага колераў (мясцовы варыянт фляндроўкі), што надае вырабам своеасаблівасць.

Вырабы івянецкіх ганчароў экспанаваліся на рэспубліканскіх, усесаюзных і замежных выстаўках. Калекцыі івянецкай керамікі 20 ст. ёсць у Дзяржаўным музеі этнаграфіі народаў СССР у Ленінградзе, Дзяржаўным мастацкім музеі БССР, Дзяржаўным музеі БССР, Музеі старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. *Я. М. Сахута.*

**в. Калдыкі, Забрэжскі сельсавет**

454. **ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2—3 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Замак, на стромкім узвышшы вышынёй 8—9 м. З заходняга боку працякае ручай-крыніца. Штучных умацаванняў няма. Пляцоўка памерам 49×37 м, здзірванела. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. Э. М. Зайкоўскі. Знойдзены абломкі рабрыстых і слоікавых гаршкоў. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 1—




452. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — стайня; 3 — свіран; 4 — брама; 5 — капліца.*



452. *Сядзібны дом. Агульны выгляд.*



452. *Брама.*



458. *Помнік землякам.*

4 стагоддзямі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Камень, Івянецкі сельсавет**

**455. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**455а.** Гарадзішча. За 0,4 км на паўднёвы захад ад вёскі, на левым беразе р. Каменка. Пляцоўка памерам 92×88 м, з паўночнага боку абмежавана высокім схілам першай надпоймавай тэрасы левага берага Каменкі. З астатніх бакоў прасочваецца роў глыбінёй больш за 3 м і шырынёй каля 15 м. З заходняга боку цераз роў насыпаны перашыек, магчыма, тут быў уваход. Абследаваў у 1983 г. Э. М. Зайкоўскі. У паўночнай і паўднёва-ўсходняй частках пляцоўкі прасочаны рэшткі склепаў складанай формы, ганчарная кераміка, абломкі цэглы, пласт вугалля (сляды пажару). Відавочна, тут знаходзіўся сярэдневяковы замак. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
**455б.** Селішча. Каля ўсходняга боку гарадзішча. Плошча каля 0,5 га. Абследаваў у 1983 г. Э. М. Зайкоўскі. У шурфах прасочаны культурны пласт 0,5—0,7 м з рэшткамі ганчарнай керамікі. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Э. М. Зайкоўскі.*

**456. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 15 км ад вёскі, каля дарогі Івянец — Козлікі. Пахаваны 72 мірныя жыхары, якіх 6.11.1942 г. спалілі жывымі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**457. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 15 км ад вёскі, за 0,1 км ад дарогі Івянец — Козлікі, у лесе. Пахаваны 23 мірныя жыхары, якіх 6.11. 1942 г. спалілі жывымі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**458. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля дарогі Камень — Івянец. На ўшанаванне памяці 27 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Кашчэлічы, Гародзькаўскі сельсавет**

**459. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5—0,6 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, на ўзвышшы з высокімі і стромкімі схіламі. Пляцоўка авальная, памерам 52×42 м, выцягнута з усходу на захад. Адкрыў у 1967 г. А. Р. Мітрафанаў, абследаваў у 1976 г. Э. М. Зайкоўскі. Знойдзены штрыхаваная кераміка, глінянае прасліца, косці жывёл, расколатыя і абпаленыя камяні. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 1—4 стагоддзямі н. э. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Р. Мітрафанаў.*
**460. МАГІЛА ШУЛЬГІ** Якава Акімавіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін Я. А. Шульга загінуў у ліпені 1944 г. у баі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кіявец, Яршэвіцкі сельсавет**

**461. ЦАРКВА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1919 г. з дрэва.

Крыжова-купальны храм сіметрычна-восевай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі складаецца з прамавугольных зрубаў бабінца, асноўнага аб'ёму, апсіды і нізкіх бакавых прыбудоў. Над бабінцам надбудавана двух'ярусная шатровая званіца (чацвярык на чацверыку). Над сяродкрыжжам васьміграннi барабан з купалам. Гарызантальна ашаляваныя сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Галоўны ўваход вырашаны ганкам на слупах.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**в. Кражына, Сакаўшчынскі сельсавет**

**462. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 211 савецкіх грамадзян, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Лоск, Гародзькаўскі сельсавет**

**463. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Замчышча. У вёсцы, на паўднёва-ўсходнім мысе прыроднага ўзвышша. Вышыня над навакольнай мясцовасцю 12—15 м. Пляцоўка авальная, памерам 160×75 м. Паўночная і паўднёвая часткі прыўзнятыя, сярэдняя паніжана. З паўночна-заходняга боку абмежавана шырокім ровам (цяпер тут праходзіць дарога). Па краях прасочваюцца моцна аплыўшыя валы. Уезд на гарадзішча знаходзіцца з усходняга боку. Вядома з сярэдзіны 19 ст., абследавалі ў 1956 г. Л. В. Аляксееў, у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Знойдзены ганчарная кераміка, абломкі цэглы і кафлі. Раскопкі не праводзіліся. *Я. Г. Звяруга.*




459. *Фрагменты керамікі з гарадзішча.*



459. *Гарадзішча.*

**464. КАСЦЕЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1930 г. з драўляных брусоў.

Прамавугольны ў плане будынак з пяцігранной алтарнай прыбудовай і невялікай сакрысціяй. Накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над алтарнай часткай. Галоўны фасад плоскасны, з трохвугольным шчытом у завяршэнні. У тымпане арачны аконны праём, які расчляняе карніз фасада. Галоўны ўваход выраніаны шырокім прамавугольным праёмам. Неашаляваныя сцены рытмічна падзелены вертыкальнымі брусамі-сцяжкамі. Бакавыя фасады прарэзаны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі. Ва ўнутранай прасторы пры ўваходзе вылучаны 2 бакавыя квадратныя ў плане памяшканні, над якімі хоры. Столь плоская.



461. *Царква.*



461. *Царква. План.*



463. *Гарадзішча.*

Касцёл — прыклад народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**465. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ДРУКАРНІ 16 ст.** (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1983 г.

У 16 ст. у вёсцы існавала друкарня. Належала Яну Кішку (кальвіністу, прыхільніку антытрынітарыяў), які ў 1572 г. купіў яе ў братоў Кавячынскіх. Размяшчалася ў замку. Для работы друкаром быў запрошаны Даніэль Лянчыцкі. У 1573 г. сюды пераехаў як прапаведнік Сымон Будны. Будны пераклаў і ў 1574 г. надрукаваў тут «Новы запавет» са сваёй прадмовай і заўвагамі. У 1574 г. ён выдаў творы: «Пра дзве сутнасці Хрыста», «Супраць хрышчэння дзяцей», «Наконт аргументаў Сімлера пра дзве сутнасці Хрыста», «Кароткі доказ, што Хрыстос не з'яўляецца такім жа богам, як айцец...» і інш. Пасля ад'езду Д. Лянчыцкага з Лоска ў Вільню (1574 г.) друкаром працаваў Ян Карцан (1576—80 гг.), які выдаў 7(8) кніг на польскай і лацінскай мовах. У 1576 г. выйшла кніга С. Буднага «Аб галоўных палажэннях хрысціянскай веры», дзе ён абагульніў свае рэлігійна-філасофскія вывады. У гэтай друкарні ў 1576 г. быў выдадзены трактат Цыцэрона «Пра абавязкі» ў перакладзе на польскую мову С. Кашуцкага, у 1577 г.— праца вядомага польскага мысліцеля-гуманіста Анджэя Маджэўскага Фрыча «Аб ўдасканаленні Рэчы Паспалітай». Пасля ад'езду Я. Карцана ў Вільню (1580 г.) друкарня працягвала дзейнасць. У 1583 г. тут выдадзены кнігі Буднага «Аб чыне, які выкарыстоўвае меч», «Пра свецкую ўладу». У 1586—89 гг. друкарняй кіраваў Фелікс Балямоўскі. У 1586 г. быў выдадзены падручнік па логіцы на лацінскай мове «Дапаможнік для авалодання вучэннем Арыстоцеля», які склаў Ян Ліцыній Намыслоўскі. У 1589 г. зноў выдадзены «Новы запавет» у перакладзе С. Буднага, а таксама праца Л. Намыслоўскага «Сентэнцыі, неабходныя ў жыцці». Тут выходзілі кнігі Пятра з Ганёндза. Мяркуюць, што друкарня працавала да 1592 г.

*Літ.:* Анушкин А. И. На заре книгопечатания в Литве.— Вильнюс, 1970; Немировский Е. Л. Иван Федоров в Белоруссии.— М, 1979. *М. Б. Батвіннік.*

**466. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры.



464. *Касцёл. План.*



466. *Помнік землякам.*

На ўшанаванне памяці 55 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з імёнамі загінуўшых.

**467. ЦАРКВА** (архіт.). У паўночнай частцы вёскі. Пабудавана ў 1856 г. з бутавага каменю.

Складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму пад двухсхільным дахам і трох'яруснай шатровай званіцы (васьмярык на 2 чацверыках). Шацёр званіцы і дах над алтарнай часткай завершаны цыбулепадобнымі галоўкамі на гранёных барабанах. Сцены апрацаваны руставанымі вуглавымі лапаткамі і аркатурнымі фрызамі, выкананымі з цэглы і атынкаванымі. Арачныя вокны фасадаў, уваходны партал і круглыя люкарны абрамлены ліштвамі. Унутраная прастора перакрыта плоскай столлю.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*



467. *Царква.*




471. *Помнік землякам.*

**в. Лужаны, Сугваздаўскі сельсавет**

**468. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Размешчаны абапал дарогі ў в. Дубіна, у лесе. 100 курганоў дыяметрам 5—13 м, вышынёй 0,6—2 м. Некалькі прадаўгаватых насыпаў даўжынёй 10—13 м, шырынёй 7—8 м, вышынёй 0,6—0,7 м. Уздоўж асновы асобных курганоў ёсць раўкі і ямы. Вядомы з 1893 г., абследаваў у 1976 г. Э. М. Зайкоўскі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893. *А. Р. Мітрафанаў.*

**469. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.).

**469а.** Курганны могільнік. За 0,6 км на поўнач ад вёскі, злева ад аўтамабільнай дарогі Валожын — Маладзечна. Захаваліся два насыпы дыяметрам 6 і 7 м, вышынёй 0,7 і 1,0 м. Кругавыя раўкі аплылі. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**469б.** Каменныя магілы. За 0,1 км на поўнач ад могільніка. Захавалася 12 магіл, пакрытых каменнымі вымасткамі ці выкладзенымі камянямі па перыметры. На 5 з іх вертыкальна пастаўленыя каменныя пліты з высечанымі крыжападобнымі знакамі. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся. *Я. Г. Звяруга.*

**470. МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦА** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, каля дарогі Валожын — Маладзечна. Чырвонаармеец загінуў у верасні 1939 г. у час вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Манькаўшчына, Яршэвіцкі сельсавет**

**471. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля павароту на вёску з аўтамабільнай дарогі Мінск — Валожын. На ўшанаванне памяці 114 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла з барэльефнай выявай воіна.

**в. Навасёлкі, Вішнеўскі сельсавет**

**472. КУРГАН** (археал.). На заходняй ускраіне вёскі, справа ад дарогі ў в. Юкавічы. Дыяметр 9 м, вышыня 1,4 м. Каля асновы прасочваецца кругавы равок. Вядомы з канца 19 ст. (на той час тут быў курганны могільнік). У 1985 г. абследаваў Я. Г. Звяруга.

**в. Падбярэзь, цэнтр сельсавета**

**473. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Падбярэззе». На ўшанаванне памяці 27 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**474. СТАЯНКА** (археал.). За 0,3—0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Бярэзіна. Даўжыня — 0,3 км, шырыня 50 м. Выявіў і абследаваў у 1976 г. Э. М. Зайкоўскі. У культурным пласце 0,2 м знойдзены крамянёвыя прылады працы каменнага веку. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Падневічы, цэнтр сельсавета**

**475. КАПЛІЦА** (архіт.). На могілках, на 9-м км аўтамабільнай дарогі Ракаў — Івянец. Пабудавана ў 1852 г. з бутавага каменю як фамільная пахавальня мясцовых памешчыкаў Жаброўскіх.

Кампактны прамавугольны ў плане адназальны будынак з яруснай чацверыковай шатровай званіцай на галоўным фасадзе. Двухсхільны дах з невялікімі вальмамі над алтарнай часткай завершаны чатырохсхлуповай вежачкай з увагнутым шатром. Алтарная сцяна вызначана невялікімі скосамі вуглоў будынка. Уваход размешчаны ў глыбокай нішы першага яруса званіцы і вырашаны, як і вокны капліцы, стральчатым праёмам. На паліхромнай бутавай муроўцы сцен вылучаюцца пабеленыя дэталі архітэктурнага дэкору: лапаткі, ліштвы аконных праёмаў, прафіляваны карніз з сухарыкамі.

Унутраная прастора перакрыта цыліндрычным скляпеннем з падпружнымі аркамі і люнетамі. Атынкаваныя



475. *Капліца.*




475. *Капліца. План.*

сцэны крапаваны пілястрамі, над якімі па перыметры залы праходзіць прафіляваны карніз. Двух'ярусны алтар вырашаны лучковай нішай з бакавымі паўкалонамі і фігурным пастаментам. Над уваходам на 2 калонах драўляная галерэя хораў. У тоўшчы сцяны вітая лесвіца на званіцу. Падлога выкладзена васьміграннай керамічнай пліткай шэрага колеру.

Капліца — прыклад неагатычнай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**476. МАГІЛА ДУНІНА-МАРЦІНКЕВІЧА** Вінцэнта (гіст.). За 2 км ад вёскі, на могілках Тупальшчына, што знаходзяцца каля аўтамабільнай дарогі Мінск — Івянец.

Беларускі паэт, драматург і тэатральны дзеяч, стваральнік беларускага нацыянальнага тэатра Вінцэнт (Вінцук, Вікенцій Іванавіч) Дунін-Марцінкевіч (літаратурны псеўданім Навум Прыгаворка) нарадзіўся 23.1.1808 г. (паводле інш. звестак у 1807 г.) у былым фальварку Панюшкавічы (цяпер вёска ў Бабруйскім р-не) у сям'і арандатара. У 1824 г. скончыў павятовую школу ў Бабруйску, потым вучыўся на медыцынскім факультэце Пецярбургскага (па інш. звестках Віленскага) універсітэта. З 1827 г. працаваў чыноўнікам у Мінскай епархіяльнай кансісторыі, крымінальнай палаце (1831—40 гг.), перакладаў дакументы з польскай мовы на рускую. Напісаў лібрэта аперэт «Рэкруцкі яўрэйскі набор» (паст. 1841, Мінск, захавалася арыя з двух чатырохрадкоўяў), а таксама «Спаборніцтва музыкаў», «Чарадзейная вада» і інш. (не захаваліся).

У 1846 г. у Вільні выйшаў першы друкаваны муз.-драматычны твор пісьменніка «Сялянка. Опера ў двух актах» на беларускай і польскай мовах. 9.2.1852 г. у Мінску была пастаўлена аднайменная опера створаным ім тэатральным калектывам, што з'явілася фактам нараджэння беларускага прафесійнага музычна-тэатральнага мастацтва.

У 1840 г. пісьменнік купіў каля в. Пяршаі невялікі фальварак Люцынку (Люцінку). Працяглы час (да 1863 г.) жыў то ў Мінску, то ў Люцынцы. У паэтычных творах «Вечарніцы», «Гапон» (абодва 1855 г.), «Купала» (1856 г.), «Шчароўскія дажынкі» (1857 г.) адлюстраваў бытавыя і этнаграфічныя рысы вясковага жыцця, паэтызаваў духоўную прыгажосць, працавітасць, маральную чысціню сялян. Асноўныя творы на польскай мове змешчаны ў кнігах «Цікавішся? — Прачытай!» (1856 г.), «Дудар беларускі, або Усяго патроху» (1857 г.), «Люцінка, або Шведы на Літве» (1861 г.). Дунін-Марцінкевіч аўтар публіцыстычных твораў, у якіх выкладзена цэлая праграма асветы простага люду на роднай мове. З кастрычніка 1864 г. да снежня 1865 г. пісьменнік знаходзіўся пад арыштам у мінскім астрозе. Царскія ўлады абвінавачвалі яго ў напісанні рэвалюцыйных пракламацый і ўдзеле ў паўстанні 1863—64 гг. Пасля выхаду з турмы трапіў пад нагляд паліцыі без права выезду за межы Люцынкі. Аднак і ў такіх умовах працягваў сваю грамадскую і творчую дзейнасць: адкрыў у Люцынцы школу, ставіў спектаклі, напісаў камедыю «Пінская шляхта» (1866 г.), «Залёты» (1870 г.), у якіх выкрываў хабарніцтва і самавольства чыноўнікаў, паказваў пранікненне буржуазных адносін ва ўсе сферы жыцця. Большасць твораў пісьменніка: «Пінская шляхта», «Залёты», «Травіца брат-сястрыца», «Быліцы, расказы Навума» і «Халімон на каранацыі» і інш. былі надрукаваны толькі ў савецкі час. У 1984 г. упершыню надрукавана першая частка яго паэмы «З-над Іслачы, або Лекі на сон» (у перакладзе з польскай мовы на беларускую). В. І. Дунін-Марцінкевіч — першы перакладчык на беларускую мову «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча (1859 г.) — быў шчырым прыхільнікам культурнага збліжэння ўсіх славянскіх народаў. Выступаў супраць царызму і ўсялякага ўціску, але падзяляў тэорыю класавага міру і маральнага самаўдасканалення. Гэта яго вяло да ідэалізацыі і прыхарошвання жыцця. Але ўжо ў ранніх творах, напрыклад, у «Літаратурных клопатах», пачыналі вызначацца крытычныя тэндэнцыі. Яны ўзмацніліся ў паслярэформенны перыяд.



*476. Помнік на магіле В. Дуніна-Марцінкевіча.*

В. Дунін-Марцінкевіч памёр у фальварку Люцынка 17.12.1884 г. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і Маладзечне, Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі ў Бабруйску, бібліятэка ў в. Пральнікі Валожынскага р-на. У в. Сычкава Бабруйскага р-на на доме № 16 па вул. Сацыялістычнай у 1970 г. устаноўлена мемарыяльная дошка, 13.7.1986 г. у Люцынцы — стэла з барэльефам драматурга. У Пяршайскай школе створаны музей В. Дуніна-Марцінкевіча, у Падневіцкай школе — куток памяці.

У 1977 г. на магіле пастаўлены помнік — бронзавы бюст пісьменніка.

*Літ.:* Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2.— Мн., 1969; Навуменка І. Я. Пісьменнікі-дэмакраты.— Мн., 1967; Няфёд У. І. Беларускі тэатр: Нарыс гісторыі.— Мн., 1959.

*У. І. Содаль.*

**в. Палачанка, Ракаўскі сельсавет**

**477. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км ад вёскі. 2 насыпы, адзін дыяметрам каля 11 м, вышынёй 1,2 м, знаходзіцца справа ад дарогі Гарадок — Ракаў, другі — у лесе, ва ўрочышчы Востраў, вышынёй 1 м, дыяметрам 9 м. Адкрыў у 1976 г. Э. М. Зайкоўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Палікшты, Залескі сельсавет**

**478. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі. 80 насыпаў вышынёй 0,5—1,7 м, дыяметрам 10—13 м. Захаванасць добрая, толькі асобныя курганы пашкоджаны ямамі. Адкрыў у 1976 г. Э. М. Зайкоўскі. Абследаваў у 1979 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**пас. Першамайскі, Бабровіцкі сельсавет**

**479. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 2 км на ўсход ад пасёлка, каля дарогі Першамайскі — Івянец. Пахаваны 2 партызаны злучэння Баранавіцкай вобл., якія загінулі ў 1943 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**480. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ БАРАНАВІЦКІХ ПАДПОЛЬНЫХ АБКОМАЎ КП(б)Б і ЛКСМБ, ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ.** За 7,5 км ад пасёлка, у Налібоцкай пушчы.

Падпольны абком КП(б)Б дзейнічаў з сакавіка 1943 г. да ліпеня 1944 г. пераважна ў раёнах на поўнач ад Баранавіч. Сакратары В. Я. Чарнышоў (19.3.1943 г.— ліпень 1944 г.), Ф. А. Баранаў (10.8.1943 г.— ліпень 1944 г.). Члены абкома Дз. М. Армянінаў (з 8.7.1943 г.), Я. Д. Гапееў, Р. А. Сідарок, С. П. Шупеня (з 19.3.1943 г.), У. З. Царук (з 8.7.1943 г.). Абком КП(б)Б узначальваў работу падпольных Івянецкага, Лідскага, Слонімска-

га, Стаўбцоўскага і Шчучынскага міжрайпартцэнтраў, Быценскага міжрайкома, Баранавіцкага гаркома, Лідскага гаркома-райкома і 23 падпольных райкомаў КП(б)Б, накіроўваў дзейнасць Баранавіцкага падпольнага абкома ЛКСМБ, партызанскага злучэння Баранавіцкай вобл., Баранавіцкай акруговай антыфашысцкай арганізацыі, выдаваў лістоўкі, адозвы, зводкі Саўінфармбюро, вёў палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва. Друкаваны орган падпольнага абкома КП(б)Б — газета «Чырвоная звязда» (рэдактары Р. А. Старавойценка, з лютага 1944 г. Г. В. Будай).

Падпольны абком ЛКСМБ дзейнічаў з красавіка 1943 г. да 10.7.1944 г. пад кіраўніцтвам ЦК ЛКСМБ і Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б.



482. *Помнік землякам.*



481. *Капліца-пахавальня. Фрагмент бакавога фасада.*




481. *Капліца-пахавальня. План.*

Сакратары А. К. Рыбакоў (з красавіка 1943 г.), Ф. А. Башкінцаў (зацверджаны ЦК ЛКСМБ 23.9.1943 г., фактычна прыступіў да работы 11.1.1944 г.). Члены абкома Р. Ф. Фамічоў, У. С. Міхнян (з красавіка 1943 г.), А. С. Міхайлічэнка, Ц. А. Паўлюц, П. С. Пятроўскі (з жніўня 1943 г.), А. В. Сауцін (з 1.1.1944 г.), Р. І. Гужавін (з верасня 1943 г.). Абком ЛКСМБ узначальваў работу падпольных Івянецкага, Лідскага, Слонімскага, Стаўбцоўскага, Шчучынскага міжрайцэнтраў, Навагрудскага міжрайкома, Баранавіцкага гаркома, Лідскага гаркома-райкома, 25 райкомаў ЛКСМБ, дзейнасць камсамольскіх і маладзёжных антыфашысцкіх арганізацый, пярвічных камсамольскіх арганізацый, партызанскіх фарміраванняў. Вёў арганізацыйна-прапагандысцкую работу сярод моладзі. Друкаваны орган падпольнага абкома ЛКСМБ — газета «Молодой мститель» (рэдактар Р. І. Гужавін).

У выніку работы падпольных партыйных органаў па арганізацыйным умацаванні партызанскіх сіл у 1943 г. на тэрыторыі Баранавіцкай вобл. створана партызанскае злучэнне. Камандзіры злучэння В. Я. Чарнышоў (красавік 1943 г.— ліпень 1944 г.), Р. А. Сідарок (красавік — ліпень 1944 г.; выконваючы абавязкі). Гл. таксама артыкул № 518 «Помнік у гонар партызан злучэння Баранавіцкай вобласці».

У 1948 г. на месцы базіравання падпольных абкомаў КП(б)Б, ЛКСМБ і штаба партызанскага злучэння Баранавіцкай вобл. адноўлены зямлянкі. У 1986 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; За край родной.— Мн., 1978. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Пральнікі, Падневіцкі сельсавет**

**481. КАПЛІЦА-ПАХАВАЛЬНЯ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана як фамільная ўладальнікаў маёнтка ў 2-й палове 19 ст. з цэглы і бутавага каменю, атынкавана.

Вырашана ў форме купальнай ратонды з масіўнай глухой сцяной (таўшчыня 1,5 м) і канічным гонтавым дахам са шпілем у завяршэнні. Галоўны ўваход вылучаны чатырохслуповай аркадай з трохвугольным франтонам. Плоскасная сцяна крапавана цокалем і падкарнізнай цягай. Прастора інтэр'ера вырашана адзіным цыліндрычным аб'ёмам, перакрытым сферычным купалам з абходнай галерэяй і круглай люкарнай ў цэнтры. Сцяна рытмічна расчлянёна 4 арачнымі нішамі для скульптуры (не захавалася). Насупраць уваходнага праёма размешчаны алтар у выглядзе перагародкі з чатырохкалонным іанічна-дарычным порцікам на высокім пастаменце і шырокай арачнай нішай у тоўшчы сцяны. Пры галоўным уваходзе вінта-



484. *Касцёл. Галоўны фасад.*




486. *Помнік землякам.*

выя лесвіцы на абходную галерэю і ў склеп, які вырашаны ў выглядзе круглай залы з цэнтральным апорным стаўпом і цыліндрычным перакрыццем з люнетамі. Па перыметры сцяны глыбокія лучковыя нішы.

Будынак — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**482. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Верны шлях». На ўшанаванне памяці 54 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла з рэльефнымі выявамі жанчыны ў жалобе, воінаў і партызан.



487. *Помнік у гонар партыйнай ячэйкі.*

**в. Пугачы, Залескі сельсавет**

**483. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Бальшавік». Пахаваны 24 воіны, у т. л. салдаты, сяржанты і афіцэры 88-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, а таксама 13 мірных жыхароў, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941 г. У 1967 г. на магіле ўстаноўлены стэла і надмагілле з імёнамі загінуўшых.

**в. Пяршаі, цэнтр сельсавета**

**484. КАСЦЕЛ** (архіт.). На цэнтральнай плошчы вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Прамавугольны ў плане трохнефавы асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Алтарная частка паўцыркульная. Да яе далучаны аб'ёмы сакрысціяў. На галоўным фасадзе шырокі рызаліт з двухгранным шчытом, размешчаным паміж квадратнымі ў сячэнні слупамі. У цэнтры верхняга яруса рызаліта шырокая арачная ніша, якая аб'ядноўвае 3 прамавугольныя акны. Сцены абапал рызаліта завершаны прамавугольнымі атыкамі з аркатурнымі фрызамі. Астатнія фасады вырашаны плоскасна, рытмічна расчлянёны пілястрамі, прамавугольнымі аконнымі праёмамі, завершаны карнізам і цягай простага профілю. Унутраная планіроўка зменена. Асноўнае памяшканне перакрыта плоскай столлю, алтарнае — конхай з люнетамі.

Касцёл — прыклад стылізатарскай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**485. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ТРАЦЭЎСКАЙ** Ядзі (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1983 г.

У 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты захапілі партызан-разведчыкаў. Партызаны злучэння Баранавіцкай вобл. зрабілі спробу вызваліць сваіх таварышаў, але фашысты падпалілі памяшканне, дзе знаходзіліся партызаны. Піянерка Я. Трацэўская збіла сякерай замок з дзвярэй і выратавала партызан. Фашысты схапілі юную патрыётку і пасля катаванняў расстралялі. *М. Б. Батвіннік.*

**486. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, у парку. На ўшанаванне памяці землякоў — 56 воінаў і партызан, а таксама 226 мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены 3 стэлы. На цэнтральнай стэле выявы мужчыны і жанчыны з дзіцем, на бакавых надпіс-прысвячэнне і імёны загінуўшых.

**487. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЙНАЙ ЯЧЭЙКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя К. Маркса.

У 1919 г. у в. Пяршаі адбыўся сход камуністаў, на якім было прынята рашэнне аб стварэнні партыйнай ячэйкі пры Пяршайскім валасным Савеце і рэзалюцыя аб падтрымцы ўлады Са-



488. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



490. *Капліца і брама-званіца.*




490. *Капліца. План.*

ветаў. Сход накіраваў прывітанне У. І. Леніну.

У 1981 г. у памяць аб стварэнні партыйнай ячэйкі пастаўлена стэла.

**в. Ракаў, цэнтр сельсавета**

**488. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. Пахаваны 30 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 31-й танкавай брыгады, 108-га знішчальнага супрацьтанкавага палка, 121-га кавалерыйскага палка і 15 партызан злучэння Баранавіцкай вобл., якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні вёскі і навакольных населеных пунктаў ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**489. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на ўзвышшы, у пойме левага берага р. Іслач. Пляцоўка авальная, памерам 52×22 м, умацавана валамі і равамі. Вышыня валоў 2 м, глыбіня равоў 0,3—0,4 м. Вядома з канца 19 ст. Абследавалі ў 1976 г. Э. М. Зайкоўскі, у 1979 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,1—0,2 м прасочаны ў паўднёвай частцы пляцоўкі. У ім былі рэшткі ляпнога посуду (рабрыстыя гаршкі). На паверхні сабраны дробныя абломкі ляпнога і ганчарнага посуду. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 9.— Warszawa, 1888. *А. Р. Мітрафанаў.*



491. *Касцёл. Бакавы фасад.*

**490. КАПЛІЦА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст.

Прамавугольнае ў плане збудаванне з паўкруглай апсідай. Галоўны фасад вырашаны ў неагатычным стылі. Сцены аздоблены гранёнымі паўкалонамі (вуглавыя завершаны пінаклямі). Галоўны фасад вылучаны паўцыркульным уваходным парталам, акном-ружай і невялікай вежай-званіцай. Бакавыя сцены расчлянёны пілястрамі, паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры плоскае перакрыцце на падугах. Над уваходам — хоры на 2 слупах. Пад алтаром крыпта.

Пры ўваходзе на могілкі па восі капліцы размешчана брама-званіца — трохпралётная арка з цэнтральным лучковым праездам.

Капліца — помнік эклектычнай архітэктуры з элементамі неаготыкі.

*У. В. Алісейчык.*

**491. КАСЦЕЛ** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі, на беразе р. Іслач. Пабудаваны ў 1906 г. з жоўтай цэглы.

Трохнефавая двухвежавая базіліка з трансептам і паўкруглай апсідай. Аб'ём цэнтральнага нефа накрыты двухсхільным дахам. На галоўным фасадзе шчыт з зубчастым абрамленнем. Бакавыя больш нізкія нефы накрыты аднасхільнымі дахамі, вылучаны на галоўным фасадзе двух'яруснымі вежамі (чацвярык на чацверыку), завершанымі высокімі шпілямі. Галоўны ўваход вырашаны парталам у выглядзе стральчатай аркі з акном-ружай над ёй. У архітэктурным афармленні касцёла шырока выкарыстаны элементы готыкі — ступеньчатыя контрфорсы, высокія стральчатыя вокны і нішы, зубчастыя фрызы. У інтэр'еры — стральчатыя скляпенні.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі. *А. М. Кулагін.*

**492. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 950 савецкіх грамадзян, якіх 4.2.1942 г. спалілі жывымі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1955 г. устаноўлена надмагілле.

**493. МАГІЛА ГРУШВІЦКАГА** Міхаіла Рудольфавіча (гіст.).

Беларускі кампазітар М. Р. Грушвіцкі нарадзіўся 29.11.1828 г. у в. Выганічы Валожынскага р-на ў сям'і старшыні Мінскага межавога суда. Скончыў Дваранскі інстытут у Вільні. Вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, які з-за хваробы вымушаны быў пакінуць. Напісаў кантаты паводле паэмы А. Міцкевіча «Дзяды» і твораў У. Сыракомлі. Выступаў з аўтарскімі канцэртамі ў Мінску. Апошнія гады пражыў у Ракаве. М. Р. Грушвіцкі памёр 5.3.1904 г.

У пачатку 20 ст. на магіле пастаўлены помнік — крыж з пясчаніка на мармуровым пастаменце.

*І. І. Янушкевіч.*



493. *Помнік на магіле М. Р. Грушвіцкага. Фрагмент.*

**494. ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт). На цэнтральнай плошчы. Пабудавана ў 1793 г. з цэглы.

Аднанефавы прамавугольны ў плане храм з выцягнутай паўкруглай апсідай, да якой з паўночнага боку прымыкае рызніца, з паўднёвага — Нікольская капліца з трохграннай алтарнай часткай. Галоўны заходні фасад завершаны франтонам і быў фланкіраваны вежамі (захаваліся першыя ярусы). Сцены расчлянёны пілястрамі і лучковымі вокнамі. Купал з галоўкай на гранёным барабане надбудаваны пазней. Унутраная прастора перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі і падпружнымі аркамі. Над цэнтральным уваходам у асноўнае памяшканне — хоры, якія апіраюцца на трохпралётную аркаду.

У 2-й палове 19 ст. перад царквой, па яе падоўжнай восі, пабудавана двух'ярусная пірамідальная брама. Ніжні ярус уяўляе сабой арку, верхні — чатырохгранны аб'ём са скразнымі арачнымі праёмамі. Пакрыццё мае характэрныя для стара-



494. *Праабражэнская царква і брама.*

жытнарускага дойлідства хвалепадобныя схілы.

Царква — прыклад архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму. *У. В. Алісейчык.*

**в. Рудня, Івянецкі сельсавет**

**495. ПАЛАЦ** (архіт.). За 3 км ад вёскі, на беразе р. Іслач. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы (захаваліся рэшткі).

Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак з двухсхільным дахам. Сіметрычны галоўны паўднёвы фасад на першым паверсе вырашаны адкрытай арачнай галерэяй, другі — плоскасна, з рытмам прамавугольных аконных праёмаў і філёнгавых лапатак у прасценках. Структура тарцовых фасадаў — чаргаванне гарызантальных палос цаглянай муроўкі і тынкоўкі. Уздоўж вільчыка даху выступае гарызантальны атык з комінамі — працяг унутранай нясучай сцяны. Маляўнічасць архітэктуры палаца ствараецца спалучэннем чырвонай цаглянай муроўкі і пабеленых атынкаваных элементаў дэкору (лапаткі, ліштвы, філёнгі, карнізы). Унутраная планіроўка анфіладная.

Палац — помнік архітэктуры стылізатарскага кірунку. *А. М. Кулагін.*




494. *Праабражэнская царква. План.*

**в. Сакаўшчына, цэнтр сельсавета**

**496. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 43 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**497. ЦАРКВА** (архіт.). На ўсход ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1878 г. з драўляных брусоў.

Будынак трохчасткавай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі — трох'ярусная шатровая званіца (васьмярык на 2 чацверыках), квадратны ў плане асноўны зруб, пяцігранная апсіда. Пакаты чатырохсхільны дах асноўнага аб'ёму і васьміграннны шацёр званіцы завершаны макаўкамі на барабанах. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з ліштвамі і крапаваны па баках вертыкальнымі сцяжкамі.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*




496. *Помнік землякам.*

**в. Сіняя Гара, Падбярэзскі сельсавет**

**498. МАГІЛА ГЕРОНІМА** Антона Казіміравіча (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Савецкі актывіст А. К. Геронім забіты 27.7.1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1950 г. на магіле пастаўлена стэла.

**499. МАГІЛА ГЕРОНІМА** Матуса Браніслававіча (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Савецкі актывіст М. Б. Ге-



494. *Праабражэнская царква. Выгляд з боку апсіды.*



497. *Царква.*




509. *Помнік землякам.*

ронім забіты 27.7.1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1950 г. на магіле пастаўлена стэла.

**500. МАГІЛА КАРАНІКА** Антона Казіміравіча (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Савецкі актывіст А. К. Каранік забіты нямецка-фашысцкімі захопнікамі 27.7.1941 г. У 1950 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Славенск, Забрэжскі сельсавет**

**501. ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1868—71 гг. з цэглы.

Храм сіметрычна-восевай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі складаецца з двух'ярусннай шатровай вежы-званіцы (васьмярык на чацверыку), квадратных у плане бабінца і асноўнага аб'ёму, пяціграннай апсіды. Галоўны ўваход вылучаны арачным парталам з кілепадобным завяршэннем. Асноўны кубападобны аб'ём накрыты пакатым чатырохсхільным дахам, у завяршэнні якога цыбулепадобны гранёны купал на васьмігранным барабане. Цыбулепадобнай галоўкай завершаны высокі шацёр званіцы. Сіметрычныя фасады асноўнага аб'ёму расчлянёны пілястрамі на 3 часткі, якія заканчваюцца паўцыркульнымі аркамі з кілепадобнай акантоўкай. Гэтак жа аздоблены праёмы верхняга яруса званіцы. Насычанасць архітэктурнай пластыкі ствараюць вуглавыя лапаткі, пілястры, аркатурныя паясы, рабрыстыя фрызы, ліштвы арачных аконных праёмаў. Унутры асноўнае памяшканне перакрыта плоскай столлю, шырокімі праёмамі звязана з апсідай і бабінцам, асвятляецца бакавымі сіметрычна размешчанымі арачнымі вокнамі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Стайкі, Сакаўшчынскі сельсавет**

**502. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,1 км на ўсход ад вёскі, каля дарогі Валожын — Вішнева. Пахаваны маці і чацвёра дзяцей партызана І. І. Рубацкага, якіх 9.5.1944 г. закатавалі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сугвазды, цэнтр сельсавета**

**503. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 0,5 км ад заходняй ускраіны вёскі, каля дарогі Валожын — Маладзечна. Воін (прозвішча невядома), загублены ў ліпені 1941 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**504. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, каля дарогі Валожын — Маладзечна. Воін (прозвішча невядома) загінуў у ліпені 1941 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Суднікі, Падневіцкі сельсавет**

**505. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Камсамолец». На ўшанаванне памяці 44 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Сярэдняе Сяло, Дорскі сельсавет**

**506. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 70 мірных жыхароў — старых, жанчын, дзяцей, якіх 26.7.1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія акупанты ў час карнай аперацыі. У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

**507. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны жыхары вёскі і сям'я Р. Рудзік (6 чалавек), якіх 22.7.1943 г. закатавалі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Узбалаць, Узбалацкі сельсавет**

**508. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі. Вышыня над навакollем 19—20 м. Пляцоўка авальная, памерам 40×23 м, выцягнута з усходу на захад. Адкрыў і абследаваў у 1967 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт не перавышае 0,2—0,25 м, толькі каля заходняга краю дасягае 0,5—0,6 м. У шурфе памерам 0,5×1 м знойдзена ляпная кераміка. Аднosіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 1—4 стагоддзямі н. э. *А. Р. Мітрафанаў.*




501. *Царква. План.*




511. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**509. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 40 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Філіпіняты, Забрэжскі сельсавет**

**510. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 29 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — паплечны бюст воіна.

**в. Цаюны, Валожынскі сельсавет**

**511. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 25 жыхароў, якіх у 1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Цвіраўшчына, Забрэжскі сельсавет**

**512. КАПЛІЦА** (архіт.). На захад ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з бутавага каменю.

Кампактны квадратны ў плане вежападобны аб'ём з двухсхільным дахам, завершаны цыбулепадобнай галоўкай на васьмігранным барабане. У дэкоры фасадаў выкарыстана кантраснае спалучэнне ружовай неатынкаванай бутавай муроўкі сцен і жоўтай цаглянай вуглавых частак, арачных аконных праёмаў, паўцыркульных бровак, трохвугольных шчытоў.

Капліца — прыклад малых архітэктурных форм з мясцовай мастацка-стылявой трактоўкай. *А. М. Кулагін.*

**в. Цябуты, Сугваздаўскі сельсавет**

**513. МАГІЛА РЫЖЭВІЧА** Аляксандра Васілевіча (гіст.). На могілках. Старшыня калгаса імя Гастэлы А. В. Рыжэвіч забіты ворагамі Савецкай улады 23.2.1950 г. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Чэхаўшчына, Пяршайскі сельсавет**

**514. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,3 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 2 лётчыкі, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у паветраным баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Шараі, Дорскі сельсавет**

**515. МАГІЛА КУЛІКА** Віталя Антонавіча (гіст.). У цэнтры вёскі. Жыхар вёскі В. А. Кулік закатаваны 23.7. 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**в. Шчаўканы, Валожынскі сельсавет**

**516. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля дарогі Валожын — Вішнева. Пахаваны члены сем'яў партызан Скляповіча і Бараноўскага (7 чалавек), якіх расстралялі ў 1943 г. нямецкафашысцкія акупанты. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Юкавічы, Вішнеўскі сельсавет**

**517. КУРГАН** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі. Дыяметр 12 м, вышыня 1,6 м. У канцы 19 ст. тут існаваў курганны могільнік. Абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга.



512. *Капліца.*

**в. Явідаўшчына, Пяршайскі сельсавет**

**518. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАН ЗЛУЧЭННЯ БАРАНАВІЦКАЙ ВОБЛАСЦІ** (гіст.). На поўдзень ад вёскі, каля дарогі Пяршай — Івянец.

Партызанскае злучэнне Баранавіцкай вобл. дзейнічала з красавіка 1943 г. да ліпеня 1944 г. У яго складзе былі арганізаваны 4 тэрытарыяльныя міжраённыя злучэнні: Івянецкай і Шчучынскай (красавік 1943 г.), Лідскай (май 1943 г.) і Стаўбцоўскай (кастрычнік 1943 г.) зон. На дзень вызвалення тэрыторыі вобласці аб'ядноўвала 26 партызанскіх брыгад: 1-ю Баранавіцкую, 1-ю Беларускую кавалерыйскую, 18-ю імя М. В. Фрунзе, 19-ю імя В. М. Молатава, 20-ю імя В. С. Грызадубавай, «25 гадоў БССР», «За Савецкую Беларусь», імя Аляксандра Неўскага, імя К. Я. Варашылава, імя Ф. Э. Дзяржынскага, імя Г. К. Жукава, імя С. М. Кірава, імя Ленінскага камсамола, імя П. К. Панамарэнкі, імя К. К. Ракасоўскага, імя І. В. Сталіна, імя М. В. Суворава, імя В. І. Чапаева, імя В. П. Чкалава, імя М. А. Шчорса, «Камсамолец», Ленінскую, «Няўлоўныя», «Перамога», «Першамайскую», «Уперад»; 11 асобна дзейных атрадаў; усяго больш за 22 тыс. партызан. Камандзіры злучэння — генерал-маёр В. Я. Чарнышоў (красавік 1943 г.— ліпень 1944 г.), Р. А. Сідарок (красавік — ліпень 1944 г., в. а.). За час баявых дзеянняў партызаны злучэння падарвалі 1476 вайсковых эшалонаў, больш за 25 тыс. рэек, 145 чыгуначных і шашэйных мастоў, сотні аўтамашын і танкаў, збілі 9 самалётаў, разбілі 700 гарнізонаў, знішчылі 75 тыс. і ўзялі ў палон 22 тыс. фашыстаў. За гераізм і адвагу, праяўленыя ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 2,5 тыс. партызан узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена Б. А. Булату, Ф. М. Сінічкіну, У. З. Царуку, В. Я. Чарнышову.

У 1953 г. у гонар партызан злучэння Баранавіцкай вобласці пастаўлены помнік — скульптура партызана.

*М. Б. Батвіннік.*

**в. Яршэвічы, цэнтр сельсавета**

**519. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,6 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пляцоўка плоская, роўная, памерам 75×45, з паўночнага боку ўмацавана падкованападобным валам вышынёй 1,5 м. Вядома з 1838 г., абследавалі ў 1893 г. Ф. В. Пакроўскі, у 1983 г. Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт у шурфах 0,3—0,7 м. Знойдзены 18 фрагментаў штрыхаванай керамікі, абпалены крэмень, шлакі. Аднесіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Э. М. Зайкоўскі.*

**520. ЦАРКВА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з бутавага каменю.

Храм падоўжна-восевай кампазіцыі, складаецца з шатровай трох'яруснай вежы-званіцы (васьмярык на 2 чацверыках), нізкага бабінца, кубападобнага асноўнага аб'ёму і пяціграннай апсіды. Асноўны квадратны ў плане аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам з цыбулепадобнай галоўкай на васьміграным барабане. На фоне бутавай муроўкі сцен вылучаюцца атынкаваныя элементы архітэктурнага дэкору: вуглавыя лапаткі, аркатурныя фрызы, ліштвы здвоеных арачных аконных праёмаў.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

*А. М. Кулагін.*

**в. Ясьманаўцы, Яршэвіцкі сельсавет**

**521. РАДЗІМА БІЧА** Івана Андрэевіча (гіст.).

Герой Грамадзянскай вайны І. А. Біч (псеўданім Т а ё ж н ы) нарадзіўся ў 1881 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1917 г. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Прымаў удзел у Рэвалюцыі 1905—07 гг. Хаваючыся ад праследавання паліцыі, выехаў у Канскі павет Енісейскай губерні. Працаваў пісарам, настаўнічаў. У 1911 г. пераехаў у Тайшэт, вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод рабочых. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі — член Краснаярскага губрэўкома. У час наступлення Калчака 17.2. 1919 г. у Канскім павеце арганізаваў партызанскі атрад, з якім удзельнічаў у паўстанні сялян с. Шыткі. Паўстанне ахапіла 13 валасцей і ўзнік так званы «Шыткінскі фронт». Сярод партызан было шмат перасяленцаў з Беларусі. Сваімі дыверсіямі партызаны стварылі на ўчастку Сібірскай чыгункі Тайшэт — Тулун так званую «тайшэтскую затычку», якая зрывала забеспячэнне белагвардзейцаў на Усходнім фронце. І. А. Біч быў камісарам партызан і ўзначальваў лятучы лыжны разведатрад. У час адной з аперацый у верасні 1919 г. схоплены калчакаўцамі і ў кастрычніку пасля катаванняў павешаны.

Імем І. А. Біча ў г. Тайшэт названа школа, у цэнтры горада пастаўлены скульптурны помнік.

*Літ.:* Д в о р я н о в Н. В., Д в о р я н о в В. Н. В тылу Колчака.— Мн., 1966.

*В. М. Баскова.*

**в. Яцкава-Замосныя, Бабровіцкі сельсавет**

**522. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,3 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 400 воінаў і партызан злучэння Баранавіцкай вобл., якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.




# ВІЛЕЙСКІ РАЁН

Лыцавічы
Слабада
Талуць
Іжа
Журыхі
Балашы
Любань
Більцавічы
Куранец
Рэчкі
Нарач
Рускае Сяло
Каловічы
Крывое Сяло
Бараўцы
ВІЛЕЙКА
Кавалі
Ручыца
Асіпавічы
Паняцічы
Вязынь
Селішча
Латыгаль
Рабунь
Сосенка
Касцяневічы
Людвінова
Ерхі
Старынкі
Мацькаўцы
Абадоўцы
Ілья
Чаромушкі
Добравічы
Жары
Даўгінава
Пагост
Бубны
Заброддзе
Мільча
Камена
Сцешыцы
Забалацце
Альковічы
Стайкі
Лукавец
Хаценчыцы
Карпавічы

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц

дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні

дасавецкага перыяду

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## V. ВІЛЕЙКА

Горад абласнога падпарадкавання, цэнтр раёна. Размешчана на р. Вілія (прыток Нёмана), за 103 км на паўночны захад ад Мінска. Чыгуначная станцыя на лініі Маладзечна — Полацк.

Назва горада паходзіць ад назвы р. Вілія. Вядома з 1599 г. як мястэчка, цэнтр Вілейскага староства Ашмянскага павета Віленскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. З 1793 г. у складзе Расіі, Кацярына II падаравала яе мінскаму губернатару Карнееву. З 1795 г. Вілейка — цэнтр павета Мінскай, з 1843 г.— Віленскай губерняў. У 1796 г. зацверджаны герб горада: чырвонае поле шчыта перасякае выява ракі з суднам з таварамі і залатым коласам. Развіццю Вілейкі спрыяла гандлёвае суднаходства, па Віліі ў Заходнюю Еўропу вывозілі дрэва, лён, пяньку, у горадзе штогод адбываліся 4 кірмашы. У Вілейцы быў маёнтак феадала з палацам, 2 турмы. Вялікія страты гораду нанеслі пажар 1810 г. і Айчынная вайна 1812 г. У час нацыянальна-вызваленчага паўстання 1830—31 гг. з 8 красавіка да 1.9.1831 г. у горадзе дзейнічаў паўстанцкі камітэт. Ахапіла павет і паўстанне 1863—64 гг., тут дзейнічаў паўстанцкі атрад В. І. Козела. У 1861 г. у горадзе 2931 жыхар, працаваў бровар. Вілейка забудавана была пераважна драўлянымі аднапавярховымі дамамі. Паводле перапісу 1897 г. тут 3560 жыхароў (59,1 % непісьменных), 2 навучальныя ўстановы, шпіталь. У 1904 г. праз Вілейку прайшла чыгунка. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. у горадзе дзейнічалі рэвалюцыйна-сялянскі камітэт, сацыял-дэмакратычная група, звязаная з Віленскім камітэтам РСДРП. 8(21).11. 1917 г. устаноўлена Савецкая ўлада, створаны ваенна-рэвалюцыйны камітэт. З лютага да 16.12.1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі. 12.1.1918 г. у Вілейцы адбыўся III з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, 29.12.1918 г.— павятовы з'езд Саветаў. З ліпеня 1919 г. да 10.7.1920 г. горад акупіраваны войскамі буржуазнай Польшчы. Загадам ад 11.7.1920 г. рэўваенсавет 15-й арміі абвясціў павятовы рэўком вышэйшым органам улады ў павеце (старшыня Пякайн, члены Бабча, Я. А. Валынец, Козел, А. Я. Крывенка, Сапрык). Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. горад у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр павета Віленскага ваяводства. Дзейнічалі падпольныя райкомы КПЗБ і КСМЗБ, арганізацыі Беларускай сялянска-рабочай грамады (БСРГ; 26.8.1926 г. у Вілейцы адбыўся павятовы з'езд), арганізацыі Таварыства беларускай школы (ТБШ; 13.5.1928 г. у горадзе адбыўся павятовы з'езд). Адным з кіраўнікоў грамадска-дэмакратычнага руху на Вілейшчыне быў ураджэнец Вілейкі Ф. І. Валынец. У горадзе была адна з буйнейшых турмаў, куды змяшчалі і палітзняволеных. З канца 1939 г. Вілейка ў складзе БССР, з 4.12.1939 г. цэнтр Вілейскай вобл. У 1939 г.— 7,5 тыс. жыхароў. У Вялікую Айчынную вайну з 26.6.1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут больш за 6 тыс. савецкіх грамадзян, горад амаль поўнасцю быў разбураны. У горадзе і раёне дзейнічалі падпольныя абком і гарком КП(б)Б, абком і гарком ЛКСМБ, Вілейска-Куранецкае камуністычнае падполле, у вобласці — Вілейскае партызанскае злучэнне. З 1944 г. Вілейка ў Маладзечанскай вобл., з ліпеня 1946 г. цэнтр раёна. 8,2 тыс. жыхароў у 1959 г. З студзеня 1960 г. у Мінскай вобл.

У канцы 18 ст. тэрыторыя Вілейкі ў плане нагадвала трохвугольнік. Адметных будынкаў і ўмацаванняў не было. У 19 ст. набыла стройнасць забудовы, роўныя вуліцы дзялілі горад



V. *Забудова вуліцы 17 Верасня.*



V. *Гандлёвы цэнтр.*



V. *Будынак гісторыка-краязнаўчага музея.*

на дробныя кварталы. У цэнтры быў разбіты парк. Архітэктурна-планіровачная структура сучаснага горада захавала прамавугольную сетку вуліц. У 1979 г. Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва распрацаваў генплан Вілейкі. Цэнтральная вуліца горада — 17 Верасня (адрэзак шашы Маладзечна — Мядзел) злучае 2 галоўныя плошчы — Леніна і Свабоды. Грамадска-адміністрацыйны і культурны цэнтр сфарміраваўся ў раёне прамавугольнай у плане пл. Леніна і прылеглых да яе вуліц Вадап'янава і Чырвонаармейскай. Тут размешчаны будынкі райвыканкома і гаркома партыі, кінатэатра, гасцініцы з рэстаранам. У ансамбль забудовы арганічна ўключаны помнікі архітэктуры — Крыжаўзвіжанскі касцёл (пачатак 20 ст.) і царква (1-я палова 19 ст.). На пл. Свабоды і вул. Савецкай, якая на яе выходзіць, сканцэнтраваны гандлёвыя ўстановы. На вул. Чырвонаармейскай пабудаваны гандлёвы цэнтр. Пераважае індывідуальная аднапавярховая сядзібная забудова. У цэнтральнай частцы пабудаваны 2-, 3-, 4- і 5-павярховыя дамы, у раёне завода «Зеніт» — 5-павярховыя. Па вул. Валынца ствараецца новы жылы раён.

Прамысловыя прадпрыемствы размешчаны ў паўночна-ўсходняй і заходняй частках горада. Працуюць заводы «Зеніт», аўтарамонтны, будаўнічых дэталей, дрэваапрацоўчы камбінат, малочны, хлебазавод, камбікормавы, цэх Маладзечанскай мэблевай фабрыкі, участак рыбкамбіната «Нарач», камбінат бытавога абслугоўвання. Ёсць Міжкалгасбуд, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, лясгас, гідраметэастанцыя.

У Вілейцы філіял Мінскага палітэхнікума, 3 прафтэхвучылішчы, 4 сярэднія, дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, школа-інтэрнат, міжшкольны вучэбна-вытворчы камбінат, 10 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 3 бібліятэкі, гісторыка-краязнаўчы музей, 2 клубныя ўстановы, бальнічны комплекс. Выдаецца газета «Шлях перамогі». Помнікі: У. І. Леніну, на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, магілах ахвяр фашызму, землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, Вызвалення. Зберагліся помнікі архітэктуры 19 — пачатку 20 ст.— будынкі гімназіі, турмы, бальніцы, жылы дом і інш.

Зоны адпачынку: унутрыгарадская ў парку ў цэнтры горада і рэспубліканскага значэння «Вілейка» на берагах Віліі і на Вілейскім вадасховішчы (за 5 км ад горада).

*Літ.:* Булгак В. А., Кебец Л. И., Клемантович Н. Н. Вилейка: Историко-экономический очерк.— Мн., 1984; Каханоўскі Г. А. Вілейка: Гісторыка-эканамічны нарыс.— Мн., 1974; Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970.

*Г. А. Каханоўскі, А. Ю. Пятросава.*

**523. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Першамайская, на могілках. Пахаваны 15 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. ці памерлі ад ран у шпіталях у 1945—46 гг. Сярод пахаваных — воіны 3-га гвардзейскага Сталінградскага механізаванага корпуса, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Вілейкі ў 1944 г. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск, у 1983 г. рэканструяваны.



523. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**524. БУДЫНАК БАЛЬНІЦЫ** (архіт.). Вул. Вадап'янава, на тэрыторыі бальнічнага комплексу. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Двухпавярховая прамавугольная ў плане пабудова накрыта пакатым двухсхільным вальмавым дахам. Галоўны фасад строга сіметрычнай кампазіцыі. Неглыбокі цэнтральны рызаліт прарэзаны стральчатым аконным праёмам і завершаны шчытом з поясам сухарыкаў пад шматслойным карнізам. Уваход вылучаны двухсхільным казырком на чыгунных слупах і




524. *Будынак бальніцы. План 1-га паверха.*



524. *Будынак бальніцы. Галоўны фасад.*

франтонам (чыгуннае ліццё), утвораным схіламі казырка. Аконныя праёмы лучковыя, без ліштваў. Дваровы і бакавыя фасады вырашаны плоскасна, стрымана і лаканічна, прарэзаны 2 радамі лучковых акон. Планіроўка будынка сіметрычная, калідорная.

Будынак — помнік эклектычнай архітэктуры з элементамі неаготыкі і класіцызму. *А. Ю. Пятросава.*

**525. БУДЫНАК ТУРМЫ** (архіт.). Вул. Першамайская, 50. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы. Цяпер тут размешчана медыцынская ўстанова.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак з цокальным паверхам, накрыты пакатым двухсхільным вальмавым дахам. Сіметрычная кампазіцыя фасадаў парушана больш позняй прыбудовай. Прамавугольныя аконныя праёмы без ліштваў. Над цэнтральным уваходам вялікае лучковае акно ў абрамленні двухслаёвай аркі. Фасады па вуглах дэкарыраваны руставанымі лапаткамі. Цокальны паверх аддзелены карнізам. Планіроўка калідорная, з двухбаковым размяшчэннем маленькіх, у асноўным на адно акно, памяшканняў. Сцены тоўстыя, глухія, раскрапаваны лапаткамі.

Будынак — помнік грамадзянскай архітэктуры з элементамі класіцызму. *А. Ю. Пятросава.*

**526. ВІЛЕЙСКА-МІНСКАЯ ВОДНАЯ СІСТЭМА** (гіст.). Праходзіць па Вілейскім, Маладзечанскім і Мінскім р-нах. Пачала будавацца ў 1968 г., здадзена ў эксплуатацыю ў пачатку 1976 г. Прызначана для водазабеспячэння прамысловасці і камунальнай гаспадаркі Мінска, а таксама для добраўпарадкавання прыгараднай зоны. У сістэму ўваходзяць Вілейскае вадасховішча, злучальны канал, вадасховішчы Заслаўскае, Крыніца, Дразды, зарэгуляваны ўчастак р. Свіслач ніжэй Мінска да ўпадзення ў яе Волмы. Вілейскае вадасховішча (на р. Вілія, за 5 км на ўсход ад Вілейкі, плошча 64,6 км², аб'ём 238 млн. м³) забяспечвае назапашванне веснавой вады з басейна Віліі. Ахоўныя дамбы ўздоўж нізінных берагоў Вілейскага вадасховішча змяншаюць плошчу затаплення сельскагаспадарчых зямель. Вілейскае вадасховішча з Заслаўскім злучаецца каналам (даўжыня 62 км), на якім для захавання і паляпшэння навакольнага асяроддзя і натуральных вадаёмаў пабудаваны дзюкеры, акведукі, ліўняспускі і вадаспускі, плаціны і іншыя гідратэхнічныя збудаванні. 5 помпавых станцый (магутнасць 22 м³/сек кожная) падымаюць ваду на вышыню 75 м да водападзелу ў раёне Радашковіч, а потым яна самацёкам ідзе ў Заслаўскае вадасховішча. Адтуль па Свіслачы вада падаецца ў Мінск. Перакідка стоку з Вілейскага вадасховішча па каналу ў Мінск (да 382 млн. м³) павялічвае расход вады Свіслачы ў Мінску ў 4—5 разоў. Гэта забяспечвае прамысловасць горада тэхнічнай вадой і зберагае артэзіянскія воды. У раёне Вілейска-Мінскай воднай сістэмы створана зона адпачынку рэспубліканскага значэння «Вілейка».

Вілейска-Мінская водная сістэма — прыклад сучаснага гідратэхнічнага збудавання.

**527. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**527а.** Гарадзішча-1. За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад паўднёва-ўсходняй ускраіны горада, на левым беразе р. Вілія, у лесе. Займае мыс прыроднага ўзвышша, да якога з захаду, поўначы і ўсходу прымыкае забалочаная нізіна. Вышыня над навакольнай мясцовасцю 3—5 м. Пляцоўка авальная, памерам 80×120 м, выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, у паўночна-ўсходняй частцы мае значнае паніжэнне. З паўднёва-ўсходняга боку ўмацавана валам вышынёй да 1,5 м, за якім на схіле маецца тэраса шырынёй 3—5 м, а каля асновы — роў шырынёй 6—7 м, і вал вышынёй 1,5—2 м. Выявіў і абследаваў у 1972 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,4—0,5 м. Знойдзены штрыхаваны посуд. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Раскопкі не праводзіліся.

**527б.** Гарадзішча-2. За 0,5 км на паўночны захад ад паўночна-ўсходняй ускраіны горада, злева ад дарогі ў в. Куранец, ва ўрочышчы Гарадзішча. Размешчана на мысе прыроднага ўзвышша, з паўднёвага боку ўмацавана ровам шырынёй 10—13 м і валам вышынёй 1,5—2 м. Заходні і паўночны бакі ўмацаваны 2 равамі шырынёй 5—6 м і 2 валамі вышынёй 1—1,5 м. Пляцоўка амаль круглая, памерам 65×70 м, значна пашкоджана познімі пахаваннямі. Вядома з канца 19 ст., абследавалі ў 1982 г. М. М. Чарняўскі, у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт да 0,7—0,8 м. Знойдзены штрыхаваны посуд. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследаванняў гарадзішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Я. Г. Звяруга, М. М. Чарняўскі.*

**528. ГІМНАЗІЯ** (архіт.). Вул. Савецкая, 46. Пабудавана на рубяжы 19—20 стагоддзяў з цэглы. Цяпер тут размешчаны міжшкольны вучэбна-вытворчы камбінат.

Двухпавярховы П-падобны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Сіметрычны галоўны фасад вылучаны 3 неглыбокімі рызалітамі, якія завершаны атыкамі. Дваровы фасад несіметрычны, у цэнтры — рызаліт са скошанымі вугламі, па баках — глыбокія рызаліты, больш шырокі з іх завершаны трохвугольным франтонам. Высокія прамавугольныя аконныя праёмы без ліштваў. Паверхі аддзелены карнізам. Планіроўка калідорная з двухбаковым размяшчэннем памяшканняў і 3 несіметрычнымі лесвіцамі.

Будынак гімназіі — помнік грамадзянскай архітэктуры з элементамі неакласіцызму. *А. Ю. Пятросава.*

**529. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Чырвонаармейская, 28. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Накрыты



529. *Жылы дом. Дваровы фасад.*



529. *Жылы дом. Бакавы фасад.*




529. *Жылы дом. План 1-га паверха.*

вальмавым чарапічным дахам з дахавымі вокнамі. Вуглы апрацаваны руставанымі лапаткамі. На галоўным фасадзе 2 уваходы вылучаны паўцыркульнымі нішамі. У цэнтры дваровага фасада стылізаваны двухкалонны порцік з трохвугольным франтонам са стральчатым аконным праёмам у тымпане. Порцік падзелены па гарызанталі балконам з чыгуннай агароджай. На бакавых фасадах розныя па форме і велічыні аконныя праёмы (авальныя, прамавугольныя, вузкія і шырокія) размешчаны адвольна. Планіроўка сіметрычная, анфіладная.

Жылы дом — помнік грамадзянскай архітэктуры стылю «мадэрн».

*А. Ю. Пятросава.*

**530. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры горада, на пл. Леніна. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Трохнефавая базіліка з развітым трансептам і высокай вежай з паўднёвага боку бабінца. Мае асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Аб'ёмы ўскладнены гатычнымі контрфорсамі (выконваюць дэкаратыўную функцыю), «падрэзкай» невысокім руставаным цокалем з абчасанага каменю. Дамінантай кампазіцыі з'яўляецца вежа. Яе 4 бакі завершаны трохвугольнымі шчытамі з круглымі і стральчатымі аконнымі праёмамі, вуглы фланкіраваны маленькімі ігольчатымі вежачкамі. Пяцігранная апсіда прарэзана паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Тарцы адгалінавання трансепта завершаны высокімі трохвугольнымі франтонамі са стральчатымі нішамі і здвоенымі аконнымі праёмамі. Усе дэкаратыўныя элементы фасадаў выкананы з лякальнай цэглы. Партал вылучаны шматслойнымі арачкамі. Унутры касцёл размаляваны пад мазаічныя арабескі.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі.

*А. Ю. Пятросава.*

**531. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Стаўкі. Пахавана каля 400 мірных жыхароў Вілейкі, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.




530. *Крыжаўзвіжанскі касцёл. План.*

**532. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Стаўкі. Пахавана каля 250 мірных жыхароў Вілейкі, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**533. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Стаханаўская, на могілках. Пахаваны 8 мірных жыхароў, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі 1.2.1943 г. У 1955 г. на магіле пастаўлена надмагільная пліта.

**534. МАГІЛА ЛЬВІЦЫНА** Міхаіла Фёдаравіча (гіст.). Вул. Стаханаўская, на могілках.

Начальнік штаба 35-й гвардзейскай танкавай брыгады гвардыі падпалкоўнік М. Ф. Львіцын нарадзіўся 18.4. 1911 г. у г. Курган у сям'і чыгуначніка. Пасля сканчэння Томскага дарожнага тэхнікума (1931 г.) працаваў на Беларусі — у Чэрвені, Барысаве. У Чырвонай Арміі з студзеня 1934 г. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г. і савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Удзельнік Сталінградскай, Курскай бітваў, вызвалення Крыма і Беларусі. Загінуў 2.7.1944 г. пры вызваленні Вілейкі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

*В. М. Баскова.*



535. *Помнік на магіле Я. Ф. Мірановіча.*

**535. МАГІЛА МІРАНОВІЧА** Яўгена Фёдаравіча (гіст.). Вул. Першамайская, на могілках.



530. *Крыжаўзвіжанскі касцёл.*

Герой Сацыялістычнай Працы Я. Ф. Міранові нарадзіўся 7.11.1917 г. у г. п. Смілавічы Чэрвеньскага р-на Мінскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1946 г. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1936 г.), да 1939 г. працаваў аграномам саўгаса «Вызваленне» Смалявіцкага р-на. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну камандзір партызанскага атрада імя К. Я. Варашылава брыгады імя М. В. Фрунзе (дзейнічала ў Віленскай вобл. і ў Лагойскім р-не Мінскай вобл.). Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў з 1944 г. дырэктар Любанскага спіртзавода, з 1961 г. дырэктар саўгаса «Любань» Вілейскага р-на. У 1967 г. Я. Ф. Мірановічу прысвоена званне заслужанага агранома БССР, у 1972 г.— званне Героя Сацыялістычнай Працы за поспехі ў павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчай прадукцыі. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1974—79 гг.

Я. Ф. Міранові памёр 25.1.1980 г. У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

*В. М. Баскова.*

**536. МАГІЛА СУБАЧА** Уладзіміра Флоравіча (гіст.). Вул. Стаханаўская, на могілках. Член КПЗБ, адзін з удзельнікаў Вілейска-Куранецкага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну У. Ф. Субач загінуў у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у кастрычніку 1942 г.

**537. МАГІЛА ЧУЛАНАВА** У. С. (гіст.). Вул. Першамайская, на могілках. Старшы лейтэнант У. С. Чуланаў загінуў у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1942 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**538. МАГІЛА ЯСТРАБАВА** Мікалая Дзмітрыевіча (гіст.). Вул. Першамайская, на могілках. Танкіст, старшы сяржант М. Дз. Ястрабаў загінуў 28.8. 1944 г. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.




**542.** *Помнік землякам.*



**541.** *Помнік Вызвалення.*

**539. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Савецкая, 54, на будынку міжшкольнага вучэбна-вытворчага камбіната. Устаноўлена ў 1958 г. на ўшанаванне памяці ўдзельнікаў Вілейска-Куранецкага камуністычнага падполля Леаніда Іванавіча Жалтко і Пятра Раманавіча Маліноўскага.

У Вялікую Айчынную вайну ў часова акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі Вілейцы, каб уцягнуць моладзь у фашысцкую арганізацыю «Саюз беларускай моладзі», гітлераўцы стварылі ў горадзе семінарыю. Падпольшчыкі накіравалі ў семінарыю каля 30 камсамольцаў з мэтай дэзарганізацыі семінарыстаў. У выніку праведзенай работы большасць навучэнцаў пакінулі семінарыю, многія пайшлі ў партызаны. У лістападзе 1943 г. камсамольцы Л. І. Жалтко і П. Р. Маліноўскі ўзарвалі будынак семінарыі. Гітлераўцам удалося схапіць патрыётаў. 15.11.1943 г. пасля жорсткіх катаванняў яны былі павешаны.

**540. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Першамайская, 60, на будынку аддзела ўнутраных спраў выканкома раённага Савета народных дэпутатаў. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 8 былых супрацоўнікаў Вілейскага раённага аддзела міліцыі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў і ў 1949 г. ад рук ворагаў Савецкай улады.

**541. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). У гарадскім парку культуры і адпачынку.

Вілейка з'яўлялася важным камунікацыйным вузлом гітлераўцаў, была добра ўмацавана і ахоўвалася вялікім гарнізонам. У ліпені 1944 г. у ходзе Мінскай аперацыі часці 5-й арміі 3-га Беларускага фронту пачалі аперацыю па вызваленню горада. У ёй удзельнічалі воіны 3-га гвардзейскага Сталінградскага механізаванага корпуса (генерал-лейтэнант танкавых войск В. Ц. Обухаў). Кіраваў аперацыяй камандзір 35-й гвардзейскай танкавай брыгады (асноўнай ударнай сілы корпуса) Герой Савецкага Саюза генерал-маёр танкавых войск А. А. Асланаў. У вызваленні горада ўдзельнічала партызанская брыгада «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага (камандзір Г. Ф. Пакроўскі). Галоўны разлік А. А. Асланава пры правядзенні аперацыі быў на імклівасць і раптоўнасць атакі. Пасля залпа «кацюш» штурмавыя атрады рушылі да горада, з ходу завязалі вулічныя баі, у гарнізоне праціўніка пачалася паніка, супраціўленне гітлераўцаў было зломлена. Да 15 гадзін 2.7.1944 г. Вілейка была поўнасцю вызвалена.

У 1955 г. у гонар вызвалення пастаўлены помнік — мінамёт на пастаменце, у 1984 г. на пастаменце ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі з надпісам-прысвячэннем і прозвішчамі савецкіх воінаў, якія загінулі ў баях за горад.

*Літ.:* Булгак В. А., Кебец Л. И., Клемантович Н. Н. Вилейка: Историко-экономический очерк.— Мн., 1984.

**542. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На пл. Свабоды. На ўшанаванне памяці 119 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызана са сцягам.

**543. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г., у 1980-я гады помнік адрэстаўрыраваны.

**544. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Першамайская, у скверы каля СПТВ-16. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**545. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры горада, на пл. Леніна. Пабудавана ў 1816 г. з цэглы.

Аднанефавы храм з паўкруглай апсідай, прытворам і 2 прыбудовамі. Асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным пакатым дахам з 5 купаламі на нізкіх чацверыках. Сцены дэкарыраваны аркатурнымі паясамі, сухарыкамі, бакавыя прыбудовы — шматслойнымі арачкамі, якія аб'ядноўваюць 2 аконныя праёмы. Над прытворам узвышаецца квадратная ў плане званіца, накрытая васьмігранным шатром са стылізаванымі люнетамі і гадзіннікам. Сцены прытвора аздоблены прафіляванымі лапаткамі. Паўцыркульныя аконныя праёмы абрамлены ліштвамі з завяршэннямі ў выглядзе какошнікаў. Над уваходным парталам лучковага абрысу прарэзана вялікае круглае акно. У асноўным памяшканні падшыўная столь, у апсідзе конхавае скляпенне. На нізкія хоры вядзе бакавая лесвіца.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. Ю. Пятросава.*



543. *Помнік У. І. Леніну.*

**в. Альковічы, цэнтр сельсавета**

**546. ЗВАНІЦА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 18 — пачатку 19 ст. з драўляных брусоў. Трох'ярусная, цэнтрычнай кампазіцыі, у плане блізкая да квадрата, завершана пакатым чатырохсхільным шатром. Кожны наступны ярус ў сячэнні меншы, аддзелены гонтавым сцёкам. Другі і трэці ярусы вертыкальна ашаляваны.

Званіца — помнік драўлянага народнага дойлідства. *А. Ю. Пятросава.*

**547. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Трохнефавы аднавежавы храм сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з трохграннай высокай апсідай, да якой прымыкаюць невысокія сакрысціі. Апсіда і бакавыя фасады па вуглах умацаваны ступеньчатымі контрфорсамі. Вежа шмат'ярусная. Ніжні ярус вылучаны стральчатым парталам галоўнага ўвахода з вымпергам, над якім вялікае акно-ружа. Другі ярус аддзелены ад ніжняга цагляным накладным арнаментам паміж 2 карнізамі. Завяршэнне вежы не за-



545. *Царква.*




545. *Царква. План.*

хавалася. Тарэц алтарнай часткі завершаны трохвугольным шчытом з невялікай вежачкай. Вокны касцёла стральчатыя, розныя па шырыні і вышыні. Сцены дэкарыраваны аркатурнымі паясамі, паясамі сухарыкаў, нішамі.

Унутраная прастора перакрыта стральчатым скляпеннем (захавалася часткова), якое падтрымліваюць шматслаёвыя калоны і пілястры. Калоны завершаны керамічнымі плітамі з выявамі лісця і пладоў вінаграду. На хорах — арган, упрыгожаны драўлянай разьбой з гатычнымі матывамі ў кампазіцыі і дэкоры.

Касцёл — помнік архітэктуры неагатыкі. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Арпа, Касцяневіцкі сельсавет**

**548. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Займае мыс прыроднага ўзвышша, з паўднёва-заходняга боку ўмацавана амаль апоўзлым ровам. Пляцоўка авальная памерам 20×30 м. Абследавалі ў 1934 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Знойдзены фрагменты штрыхаванага посуду. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Асіпавічы, цэнтр сельсавета**

**549. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны атрада «За Радзіму» брыгады імя М. Ф. Фрунзе: А. Ф. Субач (камандзір дыверсійнай групы), М. Прaскуранка, А. Князеў і І. Костылеў, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 6.5.1944 г. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**550. МАГІЛА ВАЛЫНЦА** Аркадзя Іванавіча І **БЯЛЯЕВА** Пятра Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызаны А. І. Валынец і П. І. Бяляеў загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**551. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля могілак. На ўшанаванне памяці 98 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлена стэла.

**в. Асцюковічы, Ільянскі сельсавет**

**552. ПАРК** (архіт.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад дарогі Ілья — Вязынь. Закладзены ў 1793 г. як прысядзібны. Плошча каля 10 га. Пейзажнага тыпу. Пасадка дрэў ажыццёўлена суцэльнымі масівамі з замкнёнымі ландшафтамі, а таксама алеямі. Галоўная алея злучае мураваную браму ў паўночнай частцы парку з партэрам у цэнтры, дзе асталіся рэшткі сядзібнага дома. У парку больш за 30 відаў дрэў і кустоў: елка звычайная, ліпа драбналістая, граб звычайны, ясень, бяроза, клён вастралісты, каліна звычайная, а таксама туя заходняя, кедр, піхта, лістоўніца еўрапейская і ніцая, хвоя веймутава і інш. Па баках галоўнай алеі сіметрычна размешчаны 2 невялікія блізкія па форме да прамавугольніка штучныя сажалкі. Каля паўночна-заходняга вадаёма захаваліся сядзібныя гаспадарчыя пабудовы з бутавага каменю і цэглы (канец 19 ст.): драўляны і мураваны свірны, мураваная абора, накрытыя двухсхільнымі дахамі з «залобкам».

Парк — помнік садова-паркавага мастацтва. *Т. В. Габрусь.*

**в. Баравыя, Даўгінаўскі сельсавет**

**553. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе р. Сэрвач. Пляцоўка авальная памерам 70×90 м, вышыня над навакольнай мясцовасцю 2,5—4 м. Па перыметры пляцоўкі роў глыбінёй 1,5—2 м. Па краі пляцоўкі насыпаны вал вышынёй 1,5—2 м. Вядома з канца 19 ст., абследавалі ў 1970 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт выражаны слаба. Знойдзены абломкі штрыхаванай керамікі, фрагмент зерняцёркі. Верагодна, гэта гарадзішча-сховішча трэцяга перыяду культуры штрыхаванай керамікі. Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Баравыя, Іжскі сельсавет**

**554. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА С. Р. СУСЛАВА І СВІРСКАГА ПАДПОЛЬ-**



547. *Касцёл. Від з боку апсіды.*



547. *Касцёл. Галоўны фасад.*




547. *Касцёл. План.*

НАГА РАЙКОМА КП(б)Б (гіст.). У цэнтры вёскі, на доме № 13. Устаноўлена ў 1975 г. У вёсцы ў 1943—44 гг. базіраваліся штаб партызанскага атрада С. Р. Суслава і Свірскі падпольны райком КП(б)Б.

Партызанскі атрад С. Р. Суслава створаны ў снежні 1942 г. як 4-ы атрад партызанскай брыгады «Жалязняк» Мінскай вобл. Паводле загаду Беларускага штаба партызанскага руху ад 4.8.1943 г. вылучаны ў верасні са складу брыгады і перадыслацыраваны ў Свірскі р-н Вілейскай вобл., дзейнічаў самастойна (у Бягомльскім р-не Мінскай вобл. і Свірскім р-не). Камандзіры П. Р. Піваварaў, У. П. Каўцюх, С. Р. Суслаў; камісары І. П. Кліманскі, Ф. І. Ларыёнаў, Д. І. Мартыненка. Атрад заняў г. п. Свір і ўтрымліваў яго да падыходу Чырвонай Арміі. 4.7.1944 г. злучыўся з Чырвонай Арміяй (228 партызан).

Свірскі падпольны райком КП(б)Б створаны ў верасні 1943 г. Сакратар Д. І. Мартыненка (28.9.1943 г.— 4.7.1944 г.), члены райкома Ф. І. Ларыёнаў (28.9.1943 г.— 20.4.1944 г.), В. В. Шынкевіч (28.9.1943 г.— 4.7.1944 г.), С. Р. Суслаў (20.4—4.7.1944 г.). Райком кіраваў партызанскім рухам, вёў палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва, выдаваў газету «Чырвоны сцяг».

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975.

**в. Боркі (не існуе), Хаценчыцкі сельсавет**

**555. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Боркі знаходзілася за 2,5 км на ўсход ад в. Малявічы. 5.5.1943 г. вёску (21 двор) разам з жыхарамі (98 чалавек) спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Гл. таксама артыкул № 646 «Магіла ахвяр фашызму».

**в. Брыгідава, Хаценчыцкі сельсавет**

**556. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 78 мірных жыхароў, якіх расстралялі і спалілі нямецка-фашысцкія карнікі 4.5.1943 г. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бубны, Даўгінаўскі сельсавет**

**557. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,3 км на захад ад вёскі, на могілках. Пахаваны 3 партызаны, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**558. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). За 0,3 км на захад ад вёскі, на могілках. Пахаваны 12 ваеннапалонных, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.



563. *Помнік землякам.*

**559. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 39 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1974 г. пастаўлены абеліск.

**в. Бязводнае, Ільянскі сельсавет**

**560. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на паўднёва-ўсходнім краі ўзвышша. Пляцоўка гарадзішча авальная, выцягнутая з паўднёвага ўсходу на паўночны захад, памерам 67×50 м. Схілы стромкія, вышынёй 15—17 м. З паўднёва-ўсходняга боку ўмацавана валам вышынёй 1,5—2 м і ровам глыбінёй ад грэбеня вала да дна 6 м, шырынёй у верхняй частцы 13—15 м. Захаванасць добрая, зарасло кустамі і ялінамі. Адкрыў і даследаваў у 1967 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у цэнтры 0,5 м, каля вала, у месцы закладкі шурфа, 1 м. Знойдзены рэшткі штрыхаванага посуду і кавалак абмазкі ад сценак жытлаў. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 1—4 стагоддзямі.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**561. ЖАЛЕЗАРОБЧЫ ЦЭНТР** (археал.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на невысокім узвышшы, на ўскраіне лесу, ва ўрочышчы Маслоева. Выявілі і абследавалі ў 1985 г. Я. Г. Зваруга і М. М. Чарняўскі. Культурны пласт вугліста-чорнага колеру да 0,5 м, прасочаны на плошчы 0,4 га. Знойдзена вялікая колькасць жалезнага шлаку, кавалкаў крычнага жалеза вагой да 2—3 кг і абпаленай гліны (відаць, ад сценак горнаў). За 0,3 км на паўночны захад, у лесе, ёсць некалькі дзесяткаў западзін ад ям, у якіх выпальвалі драўняны вугаль. Раскопкі не праводзіліся.

*Я. Г. Зваруга.*

**в. Ваўкалатка, Даўгінаўскі сельсавет**

**562. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 41 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1956 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вязынь, цэнтр сельсавета**

**563. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 79 жыхароў вёсак Азярэц, Бярэзава, Вязынь, Кобузі, Кучкі, Лаеўшчына, Лясная, Паняцічы, Располле, Рыбчанка, Рэдзькавічы, Селішча, Фалькі, Чэхі, Шчукі, Ярмолічы, Ясманаўцы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены абеліск і стэла.

**564. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Належала Радзівілам, з 1820 г.— Багдашэўскім. Існуючая сядзіба сфарміравалася ў 2-й палове 19 ст. Цяпер тут размешчана цэнтральная сядзіба і кантора саўгаса «Вязынь».

Сядзібны комплекс уключаў цагляны сядзібны дом — цэнтр агульнай кампазіцыі (не захаваўся), касцёл, бровар, стайню, гаспадарчы будынак, парк.

К а с ц ё л. Размешчаны на ўсходняй ускраіне сядзібы, у парадкай частцы парку. Пабудаваны ў 1-й палове 19 ст. з вапнавых блокаў.

Аднанефавы бязвежавы з пяціграннай апсідай храм сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Асноўны аб'ём накрыты высокім двухсхільным чарапічным дахам з франтонамі на галоўным фасадзе і з боку алтарнай часткі. Атыкавы франтон галоўнага фасада складанай формы, дэкарыраваны аркатурным поясам. Галоўны ўваход вылучаны масіўным навесам-скляпеннем і высокім ганкам. Сцены бакавых фасадаў умацаваны ступеньчатымі контрфорсамі, прарэзаны стральчатымі аконнымі праёмамі. Аб'ём апсіды накрыты высокім гранёным чарапічным дахам. Зала касцёла перакрыта зорчатым скляпеннем, апсіда — конхай.

Касцёл — помнік неаготыкі.

П а р к. Спланаваны ў рэгулярна-пейзажным стылі. Тэрыторыя ў плане блізкая да авала, абмежавана але-

ямі і шпалерамі з ліпы, клёну, бэзу, елкі. Падзяляецца на 2 часткі. Парадная частка рэгулярнай планіроўкі. Тут размешчаны вялікая паляна з курцінамі, касцёл, стайня, перыметральная алея. Дваровая частка парку пейзажнага тыпу, уключае ўчастак пладовага саду, сажалку і неарганізаваны паркавы масіў. Растуць пераважна ліпа, таполя, бэз, елка, піхта, клён.

Сядзіба — помнік сядзібна-паркавай эклектычнай архітэктуры.

*Літ.:* Nasze Kościoły: D.ecezja Mińska.— Warszawa, [1912].

*А. М. Кулагін, А. Ю. Пятросава.*

**565. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Цяпер у будынку размешчаны клуб.

Трохзрубны храм на мураваным цокалі. Бабінец выцягнуты па папярочнай восі, яго тарцы маюць шчытовыя завяршэнні, упрыгожаныя разнымі дошкамі. Над уваходным праёмам двухсхільны казырок, які аздоблены драўлянай разьбой. Над цэнтральным зрубам захаваліся рэшткі другога яруса. Апсіда пяцігранная, упрыгожана разьбой. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з ліштвамі і трохвугольнымі сандрыкамі. Першапачатковая планіроўка зменена.

Царква — помнік драўлянага народнага дойлідства.

**в. Галінова, Куранецкі сельсавет**

**566. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**566а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Скабеева Гара. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. Займае мыс прыроднага ўзвышша, схілы якога падрэзаны. Пляцоўка дыяметрам 55 м, па краі ўмацавана валам вышынёй да 3 м. З заходняга і ўсходняга бакоў маюцца дадатковыя дугападобныя валы вышынёй 1,5—2 м. Выявіў і абследаваў у 1850-х гадах А. К. Кіркор, абследавалі ў 1980 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**566б.** Курганны могільнік-1. За 0,2 км на паўночны ўсход ад гарадзішча, ва ўрочышчы Валатоўкі. 77 насыпаў, якія цягнуцца вузкай палосай з паўднёвага захаду на паўночны ўсход на 0,5 км. Дыяметр 5—11 м, вышыня 0,6—1,7 м. Каля большасці з іх захаваліся кругавыя раўкі. Амаль трэцяя частка курганоў пашкоджана. Абследаваў у сярэдзіне 19 ст. А. К. Кіркор, даследавалі ў 1934, 1937 гг. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч раскапалі 15 курганоў з пахавальным абрадам трупаспалення. Знойдзены ляпныя слаба прафіляваныя гаршкі і пасудзіны слоікавай формы, тачыльныя камяні, жалезныя нажы, спражкі, бронзавыя бранзалеты, падвескі і іншыя рэчы. Могільнік належаў, відаць, балтам і датуецца 7—10 ст. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі ў Вільнюсе.




**566б.** *Курганны могільнік-1. План.*

**566в.** Курганны могільнік-2. За 0,4 км на паўночны ўсход ад могільніка-1. 3 расплывістыя насыпы дыяметрам 7—9 м, вышынёй 0,7—0,9 м. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893.

*Я. Г. Звяруга.*

**в. Гасцілава, Асіпавіцкі сельсавет**

**567. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 19 жыхароў вёскі, якіх 26.5. 1944 г. расстралялі, а потым спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1963 г. на магілах пастаўлены 8 абеліскаў.

**в. Гліннае, Асіпавіцкі сельсавет**

**568. МАГІЛА ЛЯДНІК** Зінаіды Канстанцінаўны (гіст.). За 3 км на поўнач ад вёскі, каля шашы Маладзечна — Вілейка. Партызанка ўзвода падрыўнікоў партызанскага атрада «Барацьба» брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага З. К. Лядмік загінула 2.5.1943 г. пры мініраванні шашы Вілейка — Маладзечна. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Грыгаркі, Рэчкаўскі сельсавет**

**569. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 36 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Даўгінава, цэнтр сельсавета**

**570. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,8 км на паўночны захад ад вёскі, на паўднёвым канцы доўгага ўзвышша, з стромкімі, невысокімі схіламі. З заходняга, паўднёва-заходняга і паўночнага бакоў да гарадзішча прымыкае балота. Пляцоўка авальная, памерам 47×40 м, нахілена ў заходнім напрамку. З поўдня, усходу і поўначы ўмацавана валам вышынёй 2—2,5 м, шырынёй у аснове каля 10—12 м. Абследаваў у 1967 г. А. Р. Міграфанаў. Культурны пласт у цэнтры 0,5 м, у заходняй частцы 1 м. У шурфе памерам 1×1 м знойдзены фрагменты штрыхаванага і гладкасценнага посуду, абломак зерняцёркі, косці жывёл, шлакі. Гарадзішча адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі і да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны.




**568.** *Помнік на магіле З. К. Ляднік.*

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*А. Р. Міграфанаў.*

**571. КАМЕННЫ КРЫЖ** (гіст.). За 3 км на захад ад вёскі, справа ад дарогі ў Вілейку. Высечаны з маналітнага валуна. Вышыня 1,15 м, шырыня вертыкальнай часткі ўнізе 0,22 м, уверсе 0,16 м. Даўжыня папярочкі 1,07 м, шырыня 0,15—0,2 м. На фасаднай плоскасці — два крыжападобныя паглыбленні (адно на папярочцы, другое ўнізе вертыкальнай часткі), на тыльнай — чатыры васьміканцовыя крыжы (па адным на канцах папярочкі, два ўнізе вертыкальнай часткі).

*Я. Г. Звяруга.*

**572. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 3 тыс. мірных жыхароў, расстраляных у ліпені 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**573. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На былых могілках. Пахаваны 2 тыс. мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў чэрвені 1942 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**574. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пахавана больш




574. *Помнік на магіле ахвяр фашызму і землякам.*

за 2 тыс. мірных жыхароў, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1941—44 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — пліта з барэльефнай выявай воіна. Помнік ушаноўвае таксама памяць 50 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**575. МАГІЛА ГІДРЭВІЧА** Сяргея Якаўлевіча (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на могілках. Член КПЗБ, старшыня пасялковага Савета С. Я. Гідрэвіч расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**576. МАГІЛА САВЕЦКІХ АКТЫВІСТАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны старшыня Даўгінаўскага сельсавета А. І. Казак, актывіст І. А. Казак і начальнік міліцыі П. С. Шадыра, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**577. СТАНІСЛАВАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы.

Трохнефавая бязвежавая базіліка з высокай паўкруглай апсідай, прарэзанай вялікімі паўцыркульнымі вокнамі. Кампазіцыя будынка сіметрычная. Галоўны фасад вылучаны магутным порцікам з 4 калонамі дарычнага ордэра, завершаны трохвугольным франтонам. Аб'ёмы бакавых нефаў ніжэй асноўнага, з боку галоўнага фасада і апсіды з атыкамі. Паверхні сцен чляняцца плоскімі лапаткамі па вуглах, завершаны развітым шматслойным карнізам, які праходзіць па перыметры будынка. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены прафіляванымі ліштвамі. Цэнтральны і бакавыя ўваходныя парталы маюць лучковае завяршэнне, дзверы — філёнгавыя. У інтэр'еры сцены дэкарыраваны пілястрамі з капітэлямі. Столь плоская, падшыўная. У дэкоры выкарыстаны элементы ракако — ірваныя франтоны, пазалота, скульптура і разьба.

Побач з касцёлам квадратная ў плане аднаярусная драўляная званіца пад пакатым чатырохсхільным дахам, завершаным літым чыгунным крыжам.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *А. Ю. Пятросава.*

**578. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У паўднёвай частцы вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

Крыжова-купальны храм сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з паўкруглай апсідай. Над сяродкрыжжам узвышаецца купал на высокім васьмігранным светлавым барабане, прарэзаным круглымі і здвоенымі паўцыркульнымі вокнамі і дэкарыраванымі стылізаванымі закамарамі. Над прытворам масіўная васьмігранная званіца, завершаная шатром з невялікай галоўкай. Сцены званіцы прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, якія абрамлены ліштвамі ў




578. *Троіцкая царква. План.*



577. *Станіслаўскі касцёл.*




577. *Станіслаўскі касцёл. План.*



578. *Троіцкая царква. Бакавы фасад.*

выглядзе какошнікаў. Фасады дэкарыраваны раскрапоўкамі, аркатурнымі і руставанымі паясамі. Уваходы з трох бакоў вылучаны двухкалоннымі порцікамі з трохвугольнымі драўлянымі франтонамі. Унутраная прастора двухсветлавая. Неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем. Драўляны іканастас упрыгожаны разьбой з пазалотай.

Царква — помнік эклектычнай архітэктуры з рысамі псеўдарускага стылю. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Добравічы, Касцяневіцкі сельсавет**

**579. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 15 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна, на пастаменце дошка з імёнамі загінуўшых.

**в. Ерхі, Касцяневіцкі сельсавет**

**580. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Зара». На ўшанаванне памяці 33 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 11 мірных жыхароў былога хутара Лагі, загубленых гітлераўцамі, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Жары, цэнтр сельсавета**

**581. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 14 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1963 г. пастаўлены абеліск.

**в. Журыхі, Любанскі сельсавет**

**582. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Шведскія магілы. За 2,5 км на паўночны захад ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Ляскі, у лесе, ва ўрочышчы Шабеніха. Захаваліся 2 насыпы: круглы дыяметрам 14 м, вышынёй 1,4 м і авальны памерам 9×16 м, вышынёй 1,5 м. Каля насыпаў ёсць раўкі. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Зверуга. Раскопкі не праводзіліся.

**583. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля канторы калгаса «Чырвоны Сцяг». На ўшанаванне памяці 36 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1983 г. пастаўлена стэла.

**в. Забалацце, Альковіцкі сельсавет**

**584. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць адміністрацыйнага будынка саўгаса «За мір». На ўшанаванне памяці 31 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.



579. *Помнік землякам.*

**в. Забар'е, Хаценчыцкі сельсавет**

**585. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**585а.** Курганны могільнік-1. За 1,5 км на поўнач ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Карпавічы, у лесе, ва ўрочышчы Курганы. 97 насыпаў дыяметрам 4—10 м, вышынёй 0,5—1,3 м. Раўкі ў большасці выпадкаў аплылі. Амаль чацвёртая частка кurганоў пашкоджана. Выявіў і абследаваў у 1892 г. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1980 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1985 г. Я. Г. Зверуга. Ф. В. Пакроўскі раскапаў 4 курганы. У двух былі толькі праслойкі вугалю, у адным — на грунце і ў насыпе — праслойкі вугалю з дробнымі касцямі, у яме раздробленыя косці каня, накрытыя перавернутым гаршком, побач з ім жалезная спражка. У адным кургане знойдзена пахаванне галавой на захад, на лобнай косці было маленькае бронзавае кольца.

**585б.** Курганны могільнік-2. За 1,1 км на захад ад могільніка-1, у лесе. 12 расплывістых круглых насыпаў дыяметрам 6—10 м, вышынёй 0,5—0,9 м. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Зверуга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая прогулка в окрестности Радошкович.— У яго кн.: Археологические экскурсии по Виленской губернии. Вильна, 1893. *Я. Г. Зверуга, А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Заброддзе, Даўгінаўскі сельсавет**

**586. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 34 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Задвор'е, Касцяневіцкі сельсавет**

**587. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, на карэнным беразе р. Сэрвач. 55 курганоў, у т. л. 36 прадаўгаватых (памер 12—17, 7—9 м, вышыня 0,6—1,5 м), астатнія круглыя (дыяметр 6—12 м). Уздоўж асновы курганоў прасочваюцца раўкі. Захаванасць добрая. Некалькі насыпаў часткова размыты веснавымі паводкамі Сэрвачы. Адкрылі ў 1930-я гады А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, даследаваў у 1955—56, 1965, 1971—72 гг. А. Р. Мітрафанаў, які раскапаў 16 прадаўгаватых насыпаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне: нябожчык спальваўся паблізу ад насыпу, потым яго рэшткі змяшчаліся ў выкапаную ў мацерыку яму і накрываліся перавернутым дагары гаршком (3 насыпы). У астатніх курганах рэшткі спаленага нябожчыка ляжалі непасрэдна на гарызонце. Пахавальны інвентар бедны: бронзавыя спіралькі, бляшкі, шкляныя аплаўленыя пацеркі (спальваліся разам з нябожчыкам). У адным кургане 2 пахаванні: адно на гарызонце, другое ў насыпе. 7 курганоў пустыя. Могільнік датуецца 8—9 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзярж. музеі БССР. *А. Р. Мітрафанаў.*

**588. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, на канцы мысападобнага ўзвышша, якое абмежавана з паўночнага боку крутым і параўнальна высокім берагам р. Сэрвач, з усходняга і заходняга бакоў — нізкай забалочанай поймай. Адкрыў у 1955 г., даследаваў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Ускрыта 328 м² плошчы і 2 курганы. Культурны пласт 0,3 м, паміж курганамі 0,15—0,2 м. Знойдзены рэшткі посуду, у курганах жалезныя сярпы, нажы для жніва, фібула 5—6 стагоддзяў, спражкі, бронзавыя кольцы, пранізка, гліняныя праслiцы. Адносіцца да жалезнага веку (ранні перыяд культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны), датуецца 5—6 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.




585. *Курганныя могільнікі. План.*

*Літ.:* Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978.
*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Замошша, Жарскі сельсавет**

**589. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1944 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Зацемень, Альковіцкі сельсавет**

**590. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, у лесе. Пахаваны 15 мірных жыхароў (3 сям'і) з былога хутара Клюева, якіх спалілі нямецка-фашысцкія карнікі 8.5.1943 г. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Зачэрная, Хаценчыцкі сельсавет**

**591. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Старынкі, у лесе. 35 насыпаў дыяметрам 5—10 м, вышынёй 0,6—1,6 м. Каля некаторых захаваліся кругавыя раўкі з перамычкамі. Частка курганаў пашкоджана. Вядомы з канца 19 ст., абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Золькі, Іжскі сельсавет**

**592. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 46 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Іжа, цэнтр сельсавета**

**593. ВАДЗЯНЫ МЛЫН** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на беразе р. Нарач. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Аднапавярховы прамавугольны ў плане зруб са шматлікімі прыбудовамі. Накрыты двух- і аднасхільнымі гонтавымі дахамі. Уваход на галоўным фасадзе вылучаны прыбудовай з франтонам. Сцены прарэзаны невялікімі квадратнымі вокнамі без ліштваў, фігурна ашаляваны. Турбіна размешчана ў бакавой прыбудове, якая навісае над ракой.



591. *Курганны могільнік. План.*


597. *Помнік землякам.*

Млын — помнік драўлянага народнага дойлідства. *А. Ю. Пятросава.*

**594. КУРГАН** (археал.). За 1,9 км на паўночны ўсход ад вёскі, 0,4 км справа ад дарогі ў в. Слабаду, у лесе, ва ўрочышчы Лісічыха. Дыяметр 10 м, вышыня 1,5 м. Цэнтральная частка пашкоджана ямай. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга.

**595. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля будынка музея гісторыі калгаса «Світанне». Пахаваны 21 мірны жыхар, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі ў 1942 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**596. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Партызан (прозвішча не ўстаноўлена) спалены нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**597. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 128 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ілья, цэнтр сельсавета**

**598. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На пл. Леніна. Пахаваны 40 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 159-й танкавай брыгады, 22-га кавалерыйскага палка 5-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі, 8-й гвардзейскай механізаванай брыгады. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**599. ГАСЦІНІЦА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана на рубяжы 19—20 стагоддзяў з цэглы. Цяпер тут жылы дом.

Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны і бакавыя фасады сіметрычнай кампазіцыі, у цэнтры вылучаны рызалітам, завершаным трохвугольным франтонам з круглай люкарнай. Сцены прарэзаны прамавугольнымі вокнамі без ліштваў, па вуглах раскрапаваны руставанымі лапаткамі. Планіроўка калідорная.

Будынак гасцініцы — помнік архітэктуры неакласіцызму.
*А. Ю. Пятросава.*

**600. ІЛЬІНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Прамавугольны ў плане аб'ём накрыты высокім двухсхільным вальмавым дахам. Каля вальмы над алтарнай часткай узвышаецца невялікі купал на васьміграннем барабане. Галоўны фасад вылучаны стылізаваным порцікам з трохвугольным франтонам, у тымпане якога крыжападобнае акно. Карніз і партал увахода аздоблены накладной разьбой. Інтэр'ер зальны, з падшыўной столлю. Трох'ярусны іканастас упрыгожаны драўлянай разьбой. Хоры апіраюцца на квадратныя ў плане слупы.

Царква — помнік драўлянай архітэктуры з рысамі стылю «мадэрн».
*А. Ю. Пятросава.*

**601. КАСЦЕЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы і вапнавых блокаў.

Аднанефавы бязвежавы храм. Да асноўнага прамавугольнага ў плане накрытага двухсхільным дахам аб'ёму далучаны нізкая паўкруглая апсіда і кубападобнае крыло трансепта з боку паўднёва-ўсходняга фасада. Галоўны фасад расчлянёны двухступеньчатымі контрфорсамі на 3 часткі, у цэнтры — галоўны ўваход, выраашаны арачным праёмам з парталам і аркатурным абрамленнем. Фасад завершаны двухгранным шчытом, у тымпане якога 3 арачныя нішы і люкарна, аб'яднаныя аркай. Бакавыя метровай таўшчыні сцены рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі і контр-


599. *Будынак былой гасцініцы.*

форсамі ў прасценках. Архітэктурны дэкор (ліштвы праёмаў, карніз, русты) выкананы цаглянай муроўкай. У інтэр'еры зала касцёла была перакрыта скляпеннем (не захавалася), у крыле трансепта крыжовае скляпенне.

Касцёл — помнік архітэктуры неараманскага стылю. *А. М. Кулагін.*

**602. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Зарэчная. Пахаваны 750 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі карнікамі ў 1942 г. У 1957 г. на магіле пастаўлена стэла.

**603. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1955 г.

**604. РЭШТКІ ШКЛЯНОЙ МАНУФАКТУРЫ** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Займае ўзгорак штучнага паходжання дыяметрам да 50 м і вышынёй над лугавінай 1,5 м. Даследаваў у 1982 г. М. М. Чарняўскі, ускрыта 56 м² культурнага пласта таўшчынёй да 1,5 м, складзенага пераважна попелам з дамешкамі суглінкаў, што ўтварыліся ад ператлелай цэглы. Выяўлены рэшткі цагляных збудаванняў, сабраны асколкі шкляных вырабаў, кавалкі аплаўленага шкла, фрагменты ганчарнага посуду. Мяркуючы па знаходках, гута вырабляла аконнае шкло, бутэлькі, шклянкі, келіхі, аптэкарскі посуд і інш. Датуецца канцом 18 — пачаткам 19 стагоддзя.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна).

*М. М. Чарняўскі.*



600. *Ільінская царква.*




600. *Ільінская царква. План.*

**в. Кавалі, Нарачанскі сельсавет**

**605. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 80 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1964 г. пастаўлены абеліск.

**в. Казлы, Ільянскі сельсавет**

**606. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Куксіна. Займае невысокі пясчаны пагорак. Вышыня над навакольнай мясцовасцю 2,5—3 м. З паўднёвага і заходняга бакоў да яго прымыкае балота. Пляцоўка круглая, дыяметрам 35 м. Земляныя ўмацаванні не захаваліся. Абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт выражаны слаба. Верагодна, гэта гарадзішча-сховішча. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Калодкі, Іжскі сельсавет**

**607. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны члены 2 сем'яў партызан (12 чалавек), якіх расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі ў 1943 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Калодчына, Ільянскі сельсавет**

**608. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ АКТЫВІСТАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 5 калгаснікаў-актывістаў, якія загінулі 18.8. 1948 г. ад рук ворагаў Савецкай улады. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Камары, Асіпавіцкі сельсавет**

**609. МАГІЛЫ САЛДАТ РУСКАЙ АРМІІ І ПЯТРОВАЙ** Аляксандры Капітонаўны (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 салдаты рускай арміі, якія загінулі ў 1-ю сусветную вайну, і партызанка атрада «За Радзіму» партызанскай брыгады імя М. В. Фрунзе А. К. Пятрова, што загінула ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 4.6.1944 г., калі разам з дыверсійнай групай трапіла на варожую засаду. У 1946 г. на магіле А. К. Пятровай пастаўлены абеліск.



601. *Касцёл.*



603. *Помнік У. І. Леніну.*

**в. Камена, Даўгінаўскі сельсавет**

**610. БАРЫСАЎ КАМЕНЬ** (гіст.). У цэнтры вёскі, за 0,1 км ад правага берага р. Вілія. Камень звонападобнай формы, шэрага колеру, вышыня 1,9 м, у акружнасці 10,8 м, паверхня амаль роўная. На камені высечаны шасціканцовы крыж (вышыня 1,72 м, даўжыня верхняй папярочкі 0,43 м, ніжняй — 0,61 м), надпісы: «ІС ХС», «НИКА», «Воротишин хрьсть», а таксама ёсць сляды значна пашкоджанага нерасшыфраванага надпісу. Выявіў у канцы 19 ст. К. П. Тышкевіч, абследавалі ў канцы 19 ст. А. П. Сапуноў, у пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў. Мяркуюць, што гэта адзін з так званых Барысавых камянёў, надпісы і крыжы на якіх выбіты па загаду полацкага князя Барыса Усяславіча ў 1-й трэці 12 ст.

Барысаў камень — помнік эпіграфікі 12 ст.

*Літ.:* Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии.— Витебск, 1896; Ро-

манов Е. Р. К археологии Северо-Западного края России.— Вильна, 1911; Таранович В. П. К вопросу о древних лапидарных памятниках с историческими надписями на территории Белорусской ССР.— Советская археология, 1946, № 8.

*Л. У. Дучыц, Я. Г. Звяруга.*

**611. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**611а.** Курганны могільнік-1. За 2,5 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Вілія, ва ўрочышчы Караліна. 47 насыпаў дыяметрам 6—14 м, вышынёй 0,7—2,3 м (пераважаюць дыяметрам 8—10 м і вышынёй 1—1,5 м). Каля большасці курганоў ёсць раўкі, частка насыпаў пашкоджана познімі пахаваннямі. У 1973 г. Я. Г. Звяруга раскапаў 4 курганы: 2 з пахавальным абрадам трупаспалення, 2 — трупапалажэння на падсыпцы. Пахавальны інвентар — ганчарныя гаршкі і жалезны наканечнік кап'я. Датуецца 10—11 ст.

**611б.** Курганны могільнік-2. На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, справа ад дарогі ў в. Кастыкі, у лесе. 70 насыпаў дыяметрам 3,5—6 м, вышынёй 0,4—1 м. Месцамі на схілах курганоў ёсць камяні. Выявіў і 6 курганоў раскапаў у 1973 г. Я. Г. Звяруга. Нябожчыкі ляжалі ў ямах глыбінёй 0,4—0,8 м, галавой на захад. У чатырох пахаваннях рэшткі дамавін або дашчатых абкладак. Каля касцякоў і над імі (пераважна каля галавы і ног) даволі буйныя камяні. Пахавальны інвентар: 2 бронзавыя пярсцёнкі, 2 медныя скроневыя кольцы і больш за 10 медных пласцінак ад налобных павязак. Курганы датуюцца 13—14 ст.

Матэрыялы раскопак могільнікаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Зверуго Я. Г. Исследования в Верхнем Понеманье.— У кн.: Археологические открытия 1974 года. М., 1975.

*Я. Г. Звяруга.*

**612. МАГІЛА ЛЫСКОВА** Рыгора Рыгоравіча (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі Р. Р. Лыскоў загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.




**611.** *Курганныя могільнікі. План*




**615.** *Курганны могільнік. План.*

**в. Карпавічы, Хаценчыцкі сельсавет**

**613. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Карэкаўцы, Касцяневіцкі сельсавет**

**614. МАГІЛА ВЕРАМЕЙ** Юліі (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі, у полі, на месцы былога хутара. 72-гадовую Ю. Верамей спалілі нямецка-фашысцкія карнікі разам з хутарам у 1943 г. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кастыкі, Касцяневіцкі сельсавет**

**615. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Вілія. 20 насыпаў дыяметрам 5—14 м, вышынёй 0,4—1,8 м (пераважаюць дыяметрам 8—10 м і вышынёй 1—1,5 м). Вакол большасці курганоў ёсць кругавыя раўкі. У сярэдзіне 19 ст. К. П. Тышкевіч раскапаў 1 курган без пахавання. У 1973 г. Я. Г. Звяруга даследаваў 7 насыпаў з пахавальным абрадам трупапалажэння на гарызонце. Нябожчыкі ляжалі галавой на захад, некаторыя галавой на поўдзень і поўнач, у нагах стаялі гаршкі. Пахавальны інвентар — нажы, прасліцы, пярсцёнкі, пацеркі, шыйная грыўня, сякера, іголка, шыла. Знойдзены бранзалетападобныя крывіцкія скроневыя кольцы. Могільнік належаў мяшанаму крывіцка-дрыгавіцкаму насельніцтву, датуецца 11—12 ст.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Зверуго Я. Г. Работы в Верхнем Понеманье.— У кн.: Археологические открытия 1973 года. М., 1974.

*Я. Г. Звяруга.*




**617.** *Царква. План.*



**618.** *Капліца.*

**616. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, на востраве Вілейскага вадасховішча. Выявіў у 1972 г., даследаваў у 1973 г. М. М. Чарняўскі. Ускрыта 160 м² плошчы. Культурны пласт да 0,7 м. Знойдзена 11 крамянёвых прылад працы і ядрышчаў (скрабкі, праколкі, адшчэпы і пласцінкі, нуклеусы), а таксама медная плоская сякера і абломак каменнай свідраванай матыкі. Сярод керамікі — абломкі таўстасценных гаршкоў з арнаментам, зробленым адбіткам нахіленай тонкай пласцінкі, і з ружанцавымі ўзорамі. Паселішча адносіцца да позняга этапа паўночнабеларускай культуры, датуецца 2-й чвэрцю 2-га тысячагоддзя да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Чернявский М. М. Исследования в северо-западной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1973 года. М., 1974.

*М. М. Чарняўскі.*

**617. ЦАРКВА** (архіт.). Ва ўсходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Да асноўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму далучаны пяцігранная апсіда і бабінец, над якім узвышаецца квадратная ў плане званіца, накрытая васьміграннымі шатром з маленькай галоўкай. Бабінец пад двухсхільным дахам з трохвугольным франтонам. Сцены бакавых фасадаў і апсіды прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах. Паміж асноўным аб'ёмам і апсідай глыбокі навес даху. Сцены ашаляваны дошкамі гарызантальна, вертыкальна і «ў елачку», што надае будынку асаблівую дэкаратыўнасць.

Царква — помнік драўлянага народнага дойлідства з элементамі класіцызму.

*А. Ю. Пятросава.*

**в. Касута, Рабунскі сельсавет**

**618. КАПЛІЦА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 18 ст. з цэглы і дрэва. Да квадратнага ў плане асноўнага аб'ёму далучаны прытвор, над якім узвышаецца чатырохвугольная драўляная званіца, накрытая

васьміграннным шатром з невялікай цыбулепадобнай галоўкай і каваным узорыстым крыжам. Вокны паўцыркульныя. Капліца — помнік народнага дойлідства. *А. Ю. Пятросава.*

**619. ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1868 г. з бутавага каменю.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя чатырохчасткавая: трох'ярусная (васьмярык на 2 чацверыках) званіца, прамавугольны ў плане бабінец, кубападобны асноўны аб'ём, нізкая паўкруглая апсіда. Шатровае пакрыццё званіцы і чатырохсхільны дах асноўнага аб'ёму завершаны цыбулепадобнымі галоўкамі на васьмігранных барабанах. Галоўны і бакавыя ўваходы вырашаны арачнымі праёмамі, якія аформлены парталамі, галоўны вылучаны трохвугольным франтонам. Сцены прарэзаны арачнымі вокнамі з руставанымі імпастамі. У аздабленні будынка выкарыстаны формы старажытнарускага дойлідства: кілепадобныя аркі, аркатурныя паясы, філёнгі, лапаткі, прафіляваныя карнізы. Пабеленыя элементы архітэктурнага дэкору кантрастна вылучаюцца на фоне паліхромнай бутавай муроўкі. У інтэр'еры аб'ёмы звязаны паміж сабой шырокімі арачнымі праёмамі. Бабінец і асноўны аб'ём перакрыты люстранымі скляпеннямі драўлянай канструкцыі, апсіда — конхай.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*




618. *Капліца. План.*



619. *Петрапаўлаўская царква. Бакавы фасад.*



620. *Помнік на брацкай магіле партызан.*

**в. Касцяневічы, цэнтр сельсавета**

**620. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 4 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**621. КАСЦЕЛ МАЦІ БОСКАЙ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў сярэдзіне 18 ст. з цэглы.




621. *Касцёл маці боскай. План.*



621. *Касцёл маці боскай.*



621. *Касцёл маці боскай. Алтар.*



625. *Помнік землякам.*

Прамавугольны ў плане будынак накрыты высокім двухсхільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Сцены апрацаваны плоскімі пілястрамі. Галоўны фасад завершаны атыкавым франтонам складанай формы з паўцыркульным аконным праёмам. Франтон упрыгожаны валютамі, пілястрамі, шматслойным карнізам. Уваходны партал і аконныя праёмы лучковыя. Да ўсходняга фасада далучана прыбудова, накрытая стромкім двухсхільным дахам з атыкавым барочным франтонам над уваходам. Унутраная прастора перакрыта каробчатай столлю. Падлога выкладзена каляровай мазаікай. Сцены аздоблены двухслойнымі пілястрамі. Алтар сіметрычнай кампазіцыі з вялікай паўцыркульнай нішай у цэнтры, аздоблены 6 паўкруглымі калонамі з іанічнымі капітэлямі, якія падтрымліваюць шматслойны карніз. Паміж калонамі гіпсавая пафарбаваная скульптура. На невысокія драўляныя хоры вядзе бакавая лесвіца.




623. *Курганны могільнік. План.*

Касцёл — помнік архітэктуры позняга барока. *А. Ю. Пятросава.*

**622. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці падпольшчыкаў М. С. Азончыка і Р. П. Мельніка, якія ў ноч на 20.12.1941 г. былі схоплены гітлераўцамі і пасля жорсткіх катаванняў расстраляны, у 1969 г. устаноўлена мемарыяльная пліта.

**в. Каўшэвічы, Ільянскі сельсавет**

**623. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Дзве групы курганоў: на паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі і за 0,2 км на паўночны ўсход ад першай, на парослым лесам узвышшы, абмежаваным з усходу р. Ілія, з астатніх бакоў — вузкай забалочанай нізінай (магчыма, старое рэчышча ракі). 87 насыпаў дыяметрам 4—13 м, вышынёй 0,5—2 м. Уздоўж ракі размешчаны кучна, далей ад яе — на значнай адлегласці адзін ад аднаго. Абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Красны Беражок, Асіпавіцкі сельсавет**

**624. БРАЦКАЯ МАГІЛА САЛДАТ РУСКАЙ АРМІІ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 15 салдат рускай арміі, якія загінулі ў 1-ю сусветную вайну ў верасні 1915 г.

**в. Крывое Сяло, Рабунскі сельсавет**

**625. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Бальшавік». На ўшанаванне памяці 137



626. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



628. *Помнік на магіле паўстанцаў.*

жыхароў вёсак Грыцукі, Камары, Касута, Качанкі, Крывое Сяло, Ліпневічы, Малмыгі, Міхнічы, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлена стэла з барэльефнай выявай воіна з аўтаматам, на якой прымацаваны мемарыяльныя дошкі з прозвішчамі загінуўшых.

**в. Куранец, цэнтр сельсавета**

**626. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 295 савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. на тэрыторыі сельсавета. Сярод пахаваных — воіны 44-й стралковай дывізіі. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**627. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 1040 мірных жыхароў, якіх расстралялі і спалілі нямецка-фашысцкія карнікі 9.9.1942 г. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**628. МАГІЛА ПАЎСТАНЦАЎ** (гіст.). Каля адміністрацыйнага будынка саўгаса «Вілейскі». Пахаваны 18 удзельнікаў нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863—64 гг., якія загінулі ў сутычках з царскімі войскамі. У 1923 г. на магіле пастаўлены бетонны крыж.

**629. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На будынку па вул. Першамайскай. Устаноўлена ў 1948 г. у гонар партызан брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага, якія ў ноч на 1.10.1943 г. разграмілі варожы гарнізон у вёсцы.

**630. ПОМНІК УДЗЕЛЬНІКАМ ВІЛЕЙСКА-КУРАНЕЦКАГА КАМУНІСТЫЧ-**



630. *Помнік удзельнікам Вілейска-Куранецкага камуністычнага падполля.*

НАГА ПАДПОЛЛЯ (гіст.). За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля шашы Вілейка — Куранец.

У Вялікую Айчынную вайну з снежня 1941 г. да ліпеня 1944 г. у г. Вілейцы і вёсках былога Куранецкага р-на дзейнічала камуністычнае падполле. Адным з яго арганізатараў быў член КПЗБ А. І. Валынец, па ініцыятыве якога ў Куранцы і бліжэйшых вёсках былі створаны падпольныя антыфашысцкія групы. У снежні 1941 г. падпольныя групы былі аб'яднаны ў адзіную Вілейска-Куранецкую падпольную арганізацыю, выбраны камітэт з 8 чалавек, кіраўнік М. М. Мацюкевіч. З 1943 г. дзейнасцю падполля кіраваў Вілейскі падпольны абком КП(б)Б. Аб'ядноўвала 14 груп (75 чалавек): 5 у Вілейцы, кіраўнікі І. І. Баслык, Ю. М. Балашоў, У. М. Жалтко, Л. В. Чыжэўская, М. Н. Валынец; у в. Більцавічы — У. А. Субач; в. Воўкаўшчына — І. А. Шырочын; в. Доўгае — В. А. Рагач; в. Касцяневічы — К. А. Хаванскі; в. Куранец — М. М. Мацюкевіч (да снежня 1941 г.), І. Б. Айбіндэр; в. Талуць — М. Я. Кручонак; в. Урэчча — А. І. Ахрэм; в. Халопы — З. П. Бічун; в. Чабатары — В. І. Чабатар. Падпольшчыкі мелі падпольную друкарню, у якой выдавалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, здабывалі для партызан зброю, медыкаменты, дакументы, звесткі пра варожыя гарнізоны, сістэматычна парушалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь, спалілі мост цераз р. Вілія на шашы Вілейка — Маладзечна, сапсавалі на чыгуначнай станцыі Вілейка вадакачку і 9 паравозаў, узарвалі бензасклад, 3 склады з харчамі, сенам, боепрыпасамі і ваеннай амуніцыяй, будынак гебітскамісарыята, дом фашысцкай прапаганды і біржу працы са спісамі людзей для адпраўкі ў Германію. Вызвалілі з фашысцкага лагера і пераправілі да партызан 300 ваеннапалонных. Сумесна з партызанамі разграмілі гарнізон і валасную ўправу ў в. Каловічы. Быў сарваны намер акупантаў уцягнуць моладзь вілейскай семінарыі ў фашысцкую арганізацыю «Саюз беларускай моладзі». Сам будынак семінарыі патрыёты ўзарвалі (лістапад 1943 г.). У барацьбе з ворагам многія з удзельнікаў падполля загінулі. Шмат падпольшчыкаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі, А. І. Валынцу прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Імем падпольшчыка П. А. Маліноўскага ў Вілейцы названа вуліца.

У 1966 г. у гонар удзельнікаў Вілейска-Куранецкага камуністычнага падполля і на ўшанаванне памяці загінуўшых пастаўлены помнік — скульптура партызана.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Люди Нарочанского края.— Мн., 1975.

**631. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

Складаецца з асноўнага аб'ёму, пяціграннай апсіды, бабінца і прытвора з васьміграннай званіцай. Над асноўным аб'ёмам васьміграннага светлавы барабан з паўцыркульнымі праёмамі, аздобленымі арачкамі. Цыбулепадобныя галоўкі званіцы і асноўнага аб'ёму не захаваліся. Галоўны і бакавыя ўваходы выраашаны ў выглядзе паўцыркульных парталаў з шматслойнымі арачкамі, якія апіраюцца на дэкаратыўныя лапаткі. Цэнтральныя часткі бакавых фасадаў вылучаны шчытамі з аркатурнымі паясамі. Вокны вузкія, паўцыркульныя, у простых ліштвах. Сцены дэкарыраваны прафіляванымі паясамі, цягамі, шматслойным карнізам, вуглавымі лапаткамі. У інтэр'еры асноўнага аб'ёму ветразевае скляпенне, у бабінцы — цыліндрычнае драўлянае.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Куцькі, Асіпавіцкі сельсавет**

**632. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, каля дарогі Вілейка — Маладзечна. Пахаваны 80 савецкіх ваеннапалонных, партызан, падпольшчыкаў і мірных жыхароў — вязняў Вілейскай турмы, якіх жывымі спалілі гітлераўцы ў 1944 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Кучкі, Вязынскі сельсавет**

**633. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Французскія моглiцы. За 0,1 км на паўночны ўсход ад могілак, у лесе. Захавалася 5 расплывістых насыпаў дыяметрам 7—10 м, вышынёй 0,6—0,9 м. 3 курганы пашкоджаны. Выявілі і абследавалі ў 1966—69 гг. М. М. Чарняўскі, Г. А. Каханоўскі, С. А. Адамовіч, абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Чернявский М. М., Кохановский Г. А., Адамович С. А. Археологическая разведка в зоне Вилейского водохранилища.— У кн.: Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии. Мн., 1969. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Латыгаль, Вязынскі сельсавет**

**634. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на ўскраіне лесу. Каля 30 магіл з каменнымі вымасткамі, вертыкальнымі і гарызантальнымі плітамі. Вядомы з канца 19 ст., абследавалі ў 1980 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**635. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У паўночнай частцы вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 18 ст. з дрэва.



631. *Царква.*




633. *Курганны могільнік. План.*

Двухзрубная. Накрыта высокім двухсхільным дахам з невялікім цыбулепадобным купалам на чатырохгранным барабане. Да асноўнага аб'ёму прылягаюць апсіда і 2 прыбудовы на бакавых фасадах. Франтон галоўнага фасада дэкаратыўна ашаляваны дошкамі, прарэзаны лучковым аконным праёмам з вітражом. Над апсідай невялікая галоўка. У месцы злучэння зрубаў дах з плаўным заломам. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Аконныя праёмы прамавугольныя. Унутраная прастора перакрыта плоскай падшыўной столлю.

Царква — помнік драўлянай архітэктуры з элементамі барока.

*А. Ю. Пятросава.*

**в. Лукавец, Хаценчыцкі сельсавет**

**636. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля адміністрацыйнага будынка саўгаса «Лукавец». На ўшанаванне памяці 78 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лыцавічы, Іжскі сельсавет**

**637. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 39 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Любань, цэнтр сельсавета**

**638. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля шашы Вілейка — Мядзел. На ўшанаванне памяці 139 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены пілон, 2 стэлы, на адной — барэльеф, які сімвалізуе памяць нашчадкаў аб земляках, на другой — імёны загінуўшых.



638. *Помнік землякам.*

**в. Любоўшы, Любанскі сельсавет**

**639. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**639а.** Курганны могільнік. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Вузлянка, у лесе, ва ўрочышчы Горкі, або Капцы. 97 насыпаў, якія шырокай паласой цягнуцца з паўднёвага захаду на паўночны ўсход. Дыяметр 6—14 м, вышыня 0,5—2 м. Найбольш буйныя курганы ў цэнтральнай частцы могільніка, дробныя — у паўночнай. Каля большасці насыпаў захаваліся кругавыя раўкі, многія курганы пашкоджаны траншэямі часоў 1-й сусветнай вайны. Могільнік вядомы з канца 19 ст., абследавалі ў 1930-я гады А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.



635. *Мікалаеўская царква. Галоўны фасад.*




635. *Мікалаеўская царква. План.*




639. *Курганны могільнік. Курган. План.*

**639б.** Курган. Мясцовая назва Капец. За 1,5 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе р. Вузлянка, на лузе. Дыяметр 25 м, вышыня 2,5 м. Каля асновы — равок. Абследавалі ў 1956 г. Л. В. Аляксееў, у 1985 г. Я. Г. Звяруга.

*Літ.:* Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та истории материальной культуры. М.; Л., 1945, [в.] 11. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Любча (не існуе), Хаценчыцкі сельсавет**

**640. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Любча знаходзілася за 2 км на ўсход ад в. Малявічы. 5.5. 1943 г. вёску (23 двары) разам з жыхарамі (93 чалавекі) спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. Не адрадзілася. У 1975 г. на месцы кожнага дома ўстаноўлена мемарыяльная пліта з прозвішчам загінуўшай сям'і, на месцах, дзе былі спалены людзі (жанчыны і мужчыны паасобна) пастаўлены 2 стэлы. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Гл. таксама артыкул № 647 «Магіла ахвяр фашызму».





640. *Помнікі на месцы спаленай вёскі.*

**в. Ляскі, Любанскі сельсавет**

**641. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ВІЛЕЙСКІХ ПАДПОЛЬНЫХ ГАРКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ, КУРАНЕЦКІХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ, ПАРТЫЗАНСКІХ БРЫГАД ІМЯ Л. М. ДАВАТАРА І «ЗА САВЕЦКУЮ БЕЛАРУСЬ»** (гіст.). За 3,5 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. Тут у Вялікую Айчынную вайну базіраваліся Вілейскі падпольны гарком КП(б)Б і гарком ЛКСМБ, Куранецкі падпольны райком КП(б)Б і райком ЛКСМБ, штабы партызанскіх брыгад імя Л. М. Даватара і «За Савецкую Беларусь».

Вілейскі падпольны гарком КП(б)Б створаны 12.4.1944 г. Сакратар К. І. Кавалёва (12.4—2.7.1944 г.), члены гаркома А. І. Валынец (12.4—2.7. 1944 г.), П. І. Голаў (12.4—2.7.1944 г.). Базіраваўся ў партызанскай брыгадзе «За Савецкую Беларусь».

Вілейскі падпольны гарком ЛКСМБ створаны ў жніўні 1943 г. Сакратары Н. С. Бельская (жнівень 1943 г.— 2.7. 1944 г.), М. Н. Валынец (сакратар па прапагандзе, жнівень 1943 г.— 2.7. 1944 г.); члены гаркома У. І. Ількевіч (17.4—2.7.1944 г.), М. К. Каркоцкі (17.4—2.7.1944 г.), Р. С. Усціновіч (17.4—2.7.1944 г.). Размяшчаўся ў партызанскай брыгадзе «За Савецкую Беларусь».

Куранецкі падпольны райком КП(б)Б створаны 17.10.1943 г. Вілейскім падпольным абкомам КП(б)Б. Сакратар В. Ф. Папок (17.10.1943 г.— 2.7.1944 г.). члены райкома Д. Я. Кадоўба (17.10.1943 г.— 2.7.1944 г.), А. П. Аўсяннікаў (17.10.1943 г.— 9.1.1944 г.), В. І. Казлоў (4.1—2.7.1944 г.). Друкаваны орган — газета «Народный мститель» (рэдактар П. М. Баронкін). Размяшчаўся ў партызанскай брыгадзе імя Л. М. Даватара.

Куранецкі падпольны райком ЛКСМБ дзейнічаў з 10.10.1943 г. Сакратары С. Н. Андрэеў (10.10.1943 г.— 2.7.1944 г.), Г. С. Кашыцкая (сакратар па прапагандзе, 10.10.1943 г.— 2.7. 1944 г.), член райкома М. М. Мядзведская (10.10.1943 г.— 2.7.1944 г.). Размяшчаўся ў партызанскай брыгадзе імя Л. М. Даватара.

Райкомы арганізоўвалі і ўзначальвалі камуністычнае і камсамольскае падполле, партызанскі рух, барацьбу насельніцтва супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Партызанская брыгада імя Л. М. Даватара створана ў снежні 1942 г. на базе атрада Ф. С. Шляхтунова (пазней імя Я. М. Свярдлова). Да канца студзеня 1943 г. дзейнічала ў Докшыцкім р-не, пасля перабазіравалася ў Мядзельскі р-н, дзе аб'ядналася з брыгадай імя К. Я. Варашылава. 16.3. 1943 г. загадам Беларускага штаба партызанскага руху брыгада імя К. Я. Варашылава разбуйнена. З яе складу былі вылучаны атрады 1-ы і 2-і, на іх базе адноўлена брыгада Ф. С. Шляхтунова. Пазней у брыгадзе арганізаваны атрады імя Дз. А. Фурманава, імя Ф. Э. Дзяржынскага, імя Г. К. Жукава, «Старынкі», «Іжа». 22.10. 1943 г. брыгадзе прысвоена імя Л. М. Даватара. Дзейнічала ў Докшыцкім, Куранецкім і Мядзельскім р-нах. Камандзіры Ф. С. Шляхтуноў (снежань 1942 г.— кастрычнік 1943 г.), І. А. Іваноў (кастрычнік 1943 г.— ліпень 1944 г.); камісары Д. Я. Кадоўба (снежань 1942 г.— студзень 1943 г.), П. А. Паўленка (в. а.; красавік — кастрычнік 1943 г.), В. Ф. Папок (кастрычнік 1943 г.— ліпень 1944 г.).

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках, шашэйных і грунтавых дарогах. У час аперацыі «Рэйкавая вайна» ў жніўні 1943 г. і чэрвені 1944 г. на чыгунках Крулеўшчына — Параф'янава, Куранец — Крывічы і інш. знішчылі каля 3 тыс. рэек. Разгрмілі варожыя гарнізоны ў в. Іжа, Любань, Нарач. Разам з інш. брыгадамі вяла баі з карнікамі ў 1943 г. у Докшыцкім, Мядзельскім і Ушацкім р-нах; за 5 дзён да прыходу Чырвонай Арміі брыгада вызваліла в. Любань, райцэнтр Куранец, чыгуначную станцыю Княгініна. 2.7.1944 г. брыгада (7 атрадаў, 568 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

З вясны 1942 г. у Куранецкім р-не дзейнічала партызанская група А. І. Валынца. Пазней група ўвайшла ў атрад «Барацьба» брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Воранянскага. У жніўні 1943 г. Беларускі штаб партызанскага руху накіраваў групу ў Куранецкі р-н для стварэння партызанскага атрада. У кастрычніку 1943 г. група аформлена ў атрад «За Савецкую Беларусь». Камандзір А. І. Валынец, камісар В. Ф. Цалуйка. Партызаны дзейнічалі на чыгуначных участках Маладзечна — Смаргонь, Вілейка — Куранец, на шашэйных і грунтавых дарогах Вілейка — Нарач, Вілейка — Любань, Маладзечна — Смаргонь, нападалі на варожыя гарнізоны ў в. Нарач, Любань, вызвалілі і ўтрымлівалі да падыходу Чырвонай Арміі в. Каловічы і Бараўцы, разам з Чыр-




643. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

вонай Арміяй удзельнічалі ў вызваленні Вілейкі. 2.7.1944 г. атрад (421 партызан) злучыўся з Чырвонай Арміяй. 6.7.1944 г. загадам Беларускага штаба партызанскага руху атрад вызначаны як брыгада «За Савецкую Беларусь» у складзе 1-га, 2, 3, 4, 5-га атрадаў. Камандзіру брыгады А. І. Вальнцу прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1970 г. у гонар Вілейскага падпольнага гаркома КП(б)Б і гаркома ЛКСМБ, Куранецкага райкома КП(б)Б і райкома ЛКСМБ, партызанскіх брыгад імя Л. М. Даватара і «За Савецкую Беларусь» пастаўлена стэла і адноўлены зямлянкі. У 1983 г. зямлянкі рэстаўрыраваны, пры ўваходзе на тэрыторыю партызанскага лагера пастаўлены 2 бетонныя сцяны з сімвалічным вечным агнём паміж імі. На адной з сцен устаноўлена мемарыяльная дошка з надпісам-прысвячэннем. На 22-м км шашы Вілейка — Нарач, каля павароту да лагера пастаўлена сцяна-паказальнік.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

*В. М. Баскова.*

**в. Лясная, Вязынскі сельсавет**

**642. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 10 мірных жыхароў, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі 14.4.1943 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Макаўе, Асіпавіцкі сельсавет**

**643. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,8 км на поўдзень ад вёскі, каля шашы Вілейка — Нарач. Пахаваны 384 вязні фашысцкай вілейскай турмы, якіх жывымі спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі 30.6.1944 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Малышкі, Касцяневіцкі сельсавет**

**644. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,1 км на захад ад вёскі, на высокім левым беразе р. Сэрвач. Пляцоўка паўавальная, памерам 52×45,5 м, з паўднёвага, усходняга і паўночнага бакоў умацавана валам, які 3 разы падсыпаўся, вышынёй 3,95 м (з унутранага боку) і 5 м (з вонкавага боку).




644. *Гарадзішча. План.*

Частка пляцоўкі, што прымыкае да ракі, пашкоджана траншэямі часоў Вялікай Айчыннай вайны. Выявілі ў 1938 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч. Раскопкі праводзіў у 1955—57, 1969, 1977—78 гг. А. Р. Мітрафанаў на плошчы 930 м². Выяўлены сляды 5 жытлаў, падзеленых на 4 жылыя камеры, у кожнай з якіх знаходзіліся адкрытыя, у плане авальныя (даўжыня 1,3—1,8 м, шырыня 1,2—1,6 м) і круглыя (дыяметр 1,6—1,75 м), агнішчы. Яны складаліся з пласта пяску, абкладзенага валікамі гліны. Раскопкамі ўстаноўлена, што жытлы некалькі разоў перабудоўваліся, але кожны раз на адным і тым жа месцы. Новыя агнішчы рабіліся некалькі ў бок ад папярэдніх. Граніцы жытлаў прасочаны па размяшчэнні кавалкаў абмазкі, якая абсыпалася са сцен пры пажарах. Знойдзена шмат абломкаў ляпных штрыхаваных гаршкоў рабрыстай і слоікавай формы, гліняныя тыглі для плаўкі металу, прасліцы, грузікі дзякоўскага тыпу, каменныя грузілы для зерняцёркі, молат для апрацоўкі крыц, жалезныя наканечнікі коп'яў і дроцікаў, сякера, сярпы, нажы, спражкі, кіепадобныя шпількі, познялатэнская фібула, бронзавыя шылы, падковападобная фібула з эмаллю і трапецападобная падвеска. Гарадзішча адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 1—4 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978.

*А. Р. Мітрафанаў.*




644. *Знаходкі з гарадзішча.*




644. *Гліняныя праслíцы з гарадзішча.*



649. *Помнік землякам.*

в. Малявічы, Хаценчыцкі сельсавет

**645. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). Мясцовая назва Паганскія могілкі. На могілках. Розныя па часу ўзвядзення і абраду пахавання магільныя збудаванні: круглыя земляныя насыпы, магілы з круглымі ці авальнымі каменнымі вымасткамі або абкладзеныя каменнямі па перыметры. Курганы (каля 20 насыпаў) займаюць паўночную і паўночна-ўсходнюю частку могілак. Дыяметр насыпаў 3,5—6 м, вышыня 0,4—0,9 м. Каменныя магілы (больш за 50) знаходзяцца ў паўднёва-ўсходняй і паўднёва-заходняй частках могілак. Дыяметр круглых каменных магіл 2—3,5 м, памеры авальных 0,8—1,3×2,3—3,2 м. У авальных магілах (з вымасткамі і ў абкладках) у нагах і галаве стаяць плоскія камяні. Вядомы з канца 19 ст., абследавалі ў 1980 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893.

*Я. Г. Звяруга, А. Р. Мітрафанаў.*

**646. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2,5 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 98 жыхароў в. Боркі, якіх 5.5.1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск. Гл. таксама артыкул № 555 «Месца спаленай вёскі».

**647. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 93 жыхары в. Любча, якіх 5.5.1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1955 г. на магіле пастаўлена стэла. Гл. таксама артыкул № 640 «Месца спаленай вёскі».

в. Маразы, Альковіцкі сельсавет

**648. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 4 мірныя жыхары, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі ў 1943 г. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Мацькаўцы, Альковіцкі сельсавет

**649. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 31 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

в. Мільча, Даўгінаўскі сельсавет

**650. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 ст. з бутавага каменю і цэглы.

Будынак развітай падоўжна-восевай кампазіцыі. Складаецца з квадратнага ў плане асноўнага аб'ёму, паўкруглай апсіды і аднолькавых па шырыні бабінца і прытвора. Усе аб'ёмы рознай вышыні з самастойнымі завяршэннямі. Над асноўным аб'ёмам — пакаты чатырохсхільны дах з галоўкай, над прытворам — васьмігранная драўляная званіца. Галоўны ўваход вылучаны ганкам на 2 мураваных слупах, накрыты двухсхільным дахам. Вокны паўцыркульныя, у асноўным аб'ёме размешчаны высока над сіметрычнымі бакавымі ўваходамі. У вырашэнні фасадаў выкарыстана спалучэнне адкрытай бутавай муроўкі з атынкаванымі дэкаратыўнымі дэталямі: пілястрамі, абрамленнямі акон і інш. У інтэр'еры — паступовае чаргаванне прасторы ўсіх частак будынка.

Царква — помнік архітэктуры з элементамі псеўдарускага стылю.

*Т. В. Габрусь.*



650. *Царква. Бакавы фасад.*




650. *Царква. План.*

в. Млечкі, Даўгінаўскі сельсавет

**651. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,7 км на захад ад паўночнай ускраіны вёскі. Захавалася 5 насыпаў дыяметрам 5—8 м, вышынёй 0,6—1 м. Раўкі вакол курганоў заплылі. Выявіў у 1970 г. А. Р. Мітрафанаў, абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

в. Мядзведзіна, Асіпавіцкі сельсавет

**652. МАГІЛЫ САЛДАТ РУСКАЙ АРМІІ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, каля дарогі Вілейка — Асіпавічы. Пахаваны 2 салдаты рускай арміі, якія загінулі ў 1-ю сусветную вайну, і 3 мірныя жыхары в. Мядзведзіна і в. Капішча, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г.

в. Навасёлкі, Хаценчыцкі сельсавет

**653. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ К. Я. ВАРАШЫЛАВА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ М. В. ФРУНЗЕ** (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі. Тут у 1943—44 гг. базіраваўся партызанскі атрад імя К. Я. Варашылава брыгады імя М. В. Фрунзе. Атрад створаны ў жніўні 1942 г. на базе асобных груп, якія дзейнічалі ў Ільянскім р-не Вілейскай і Лагойскім р-не Мінскай абласцей. Камандзіры атрада А. М. Захараў, Э. Л. Смаленскі, М. Ф. Шчакатураў (в. а.), П. І. Карабіцын, Я. Ф. Міранові́ч; камісары П. Г. Садонін, С. В. Дубянцоў. З студзеня 1943 г. у складзе брыгады імя М. В. Фрунзе.

У 1973 г. адноўлены зямлянкі партызан, створаны музей атрада.

**654. ПОМНІК У ГОНАР ІЛЬЯНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ М. В. ФРУНЗЕ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У 1943—44 г. у вёсцы базіраваліся Ільянскі падпольны рай-



651. *Курганны могільнік. План.*





653. *Зямлянкі на месцы базіравання партызанскага атрада імя К. Я. Варашылава брыгады імя М. В. Фрунзе.*



655. *Помнік землякам.*

ком КП(б)Б і штаб партызанскай брыгады імя М. В. Фрунзе.

Ільянскі падпольны райком КП(б)Б створаны 18.8.1943 г. на чале з І. І. Міроненкам, які быў накіраваны ў Вілейскую вобл. ЦК КП(б)Б у 1942 г. 14.9.1943 г. Вілейскі падпольны абком КП(б)Б зацвердзіў райком: сакратары І. І. Міроненка (18.8.1943 г.— 21.1. 1944 г.), М. А. Мядзведзеў (другі сакратар, 18.8.1943 г.— 1.7.1944 г.), П. М. Шалкоўскі (27.1—1.7.1944 г.); члены райкома М. Р. Бялоў (18.8 — верасень 1943 г., загінуў), П. М. Шалкоўскі (18.8.1943 г.— 27.1.1944 г.), М. В. Чарапанаў (21.1—1.7.1944 г.). Друкаваны орган — газета «Партизанская правда». Ільянскі райком КП(б)Б дзейнічаў да 1.7.1944 г., базіраваўся ў партызанскай брыгадзе імя М. В. Фрунзе.

Партызанская брыгада імя М. В. Фрунзе створана ў пачатку студзеня 1943 г. на базе асобных атрадаў «За Радзіму», імя К. Я. Варашылава і «Камсамолец». 19.1.1943 г. да яе далучыліся дыверсійныя групы І. І. Міроненкі і З. С. Трацэўскага, накіраваныя ў варожы тыл па заданню КП(б)Б летам 1942 г. Пазней у брыгадзе былі арганізаваны атрады «За Савецкую Беларусь» і «Чырвоны сцяг». З 15.9.1943 г. да 24.2.1944 г. у складзе брыгады дзейнічаў асобны атрад «Баец». 22.5.1943 г. атрад «Камсамолец» перададзены разведгрупе капітана М. М. Багатырова. Камандзіры брыгады М. М. Багатыроў (студзень — май 1943 г.), А. М. Захараў (май — верасень 1943 г., загінуў), Э. Л. Смаленскі (верасень 1943 г.— ліпень 1944 г.); камісары І. І. Міроненка (студзень 1943 г.— студзень 1944 г.), П. М. Шалкоўскі (студзень — сакавік 1944 г.), М. В. Чарапанаў (сакавік — ліпень 1944 г.).

Брыгада дзейнічала ў Радашковіцкім, Ільянскім р-нах Вілейскай і Лагойскім р-не Мінскай абласцей. Прымала ўдзел у «рэйкавай вайне» на чыгуначных участках Вілейка — Маладзечна, Маладзечна — Мінск, праводзіла дыверсіі на шашэйных дарогах Лагойск — Мінск, Мінск — Заслаўе. Партызаны нападалі на варожыя гарнізоны ў вёсках Раманаўка, Паперня, Хаценчыцы, Ілья, Раёўка, Вязынь. У студзені 1944 г. падарвалі электрастанцыю ў Маладзечне, неаднаразова парушалі падземны тэлефонны кабель, што звязваў нямецкі фронт з Берлінам. Карнікі 4 разы блакіравалі брыгаду, але пасля жорсткіх баёў яна кожны раз выходзіла з акружэння. У канцы чэрвеня 1944 г., выконваючы заданне савецкага камандавання, партызаны захапілі вёскі Ілья, Раёўка, Вязынь і ўтрымлівалі іх да падыходу Чырвонай Арміяй.

1.7.1944 г. брыгада (4 атрады, 844 партызаны) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1965 г. у гонар Ільянскага падпольнага райкома КП(б)Б і партызанскай брыгады імя М. В. Фрунзе пастаўлена стэла.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

*В. М. Баскова.*

**в. Нарач, цэнтр сельсавета**

**655. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 118 жыхароў в. Бараўцы, Жарсцвянка, Забродзе, Кардон, Мардасы, Навасады, Нарач, Папоўцы, Урэчча, у т. л. Героя Савецкага Саюза К. М. Зубовіча, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін з факелам падтрымлівае параненага; на пастаменце дошкі з надпісам-прысвячэннем і імёнамі загінуўшых. Гл. таксама артыкул № 659 «Мемарыяльная дошка Зубовічу Канстанціну Міхайлавічу».

**656. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

Будынак падоўжна-восевай кампазіцыі, складаецца з асноўнага квадратнага ў плане аб'ёму, накрытага чатырохсхільным дахам з галоўкай у цэнтры, паўкруглай апсіды, бабінца і прытвора з васьміграннай вежай-званіцай над ім, завершанай вастраверхім шатром. Уваходы ў будынак — галоўны і сіметрычныя бакавыя — аформлены дэкаратыўнымі парталамі. Высокія вокны паўцыркульныя. У дэкоры фасадаў выкарыстаны карнізы з сухарыкамі, сандрыкі ў выглядзе какошнікаў, ляпныя разеткі. Інтэр'ер



656. *Царква.*

зальны. Столь плоская. Аздоба не захавалася.

Царква — помнік эклектычнай архітэктуры з элементамі псеўдарускага стылю. *Т. В. Габрусь.*

**в. Пагост, Даўгінаўскі сельсавет**

**657. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Праўда». На ўшанаванне памяці 22 жыхароў вёсак Грышкавічы, Жызнава, Крывазнакі, Пагост, Стахі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Папоўцы, Нарачанскі сельсавет**

**658. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, абапал дарогі ў в. Іжа, у лесе, ва ўрочышчы Капцы. Злева ад дарогі 4 насыпы дыяметрам 16—18 м, вышынёй 2,5—2,8 м. З правага боку — 14 расплывістых насыпаў дыяметрам 5—9 м, вышынёй 0,5—1 м. Амаль усе курганы пашкоджаны акопамі часоў 1-й сусветнай вайны. Вядомы з канца 19 ст., абследавалі ў 1930-х гг. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**659. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЗУБОВІЧУ** Канстанціну Міхайлавічу (гіст.). Устаноўлена ў 1962 г. на доме, дзе ён жыў.

Герой Савецкага Саюза К. М. Зубовіч нарадзіўся ў 1904 г. у сялянскай сям'і ў в. Папоўцы Вілейскага раёна. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны працаваў у сельскай гаспадарцы. На фронце з лістапада 1944 г., радавы. Вызначыўся ў баях на тэрыторыі Венгрыі. 5.12.1944 г. пры фарсіраванні Дуная ў ліку першых пераплыў раку і гранатамі знішчыў кулямётны разлік ворага. Потым агнём з захопленага кулямёта памог заняць плацдарм, адбіць 5 варожых атак. Загінуў 28.12.1944 г. Пахаваны ў Будапешце. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; В памяти народной.— Мн., 1969. *В. М. Баскова.*

**пас. Партызанскі, Ільянскі сельсавет**

**660. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля адміністрацыйнага будынка шклозавода «Залессе». На ўшанаванне памяці 43 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна са сцягам і партызанкі.

**661. ПОМНІК ЛАМАНОСАВУ** Міхаілу Васілевічу (гіст.). Каля адміністрацыйнага будынка шклозавода «Залессе». Бюст М. В. Ламаносава ўстаноўлены ў 1960 г.

**662. ШКЛОЗАВОД «ЗАЛЕССЕ»** (гіст.). У цэнтры пасёлка. Заснаваны ў 1769 г. як шкляная мануфактура ў в. Ілья (гл. артыкул № 604 «Рэшткі шкляной мануфактуры»), у 1815 г. пераведзена ў засценак Стражыслаў, у 1855 г. у в. Залессе, цяпер у пас. Партызанскім. У 1859 г. дзейнічала адна печ, працавала 30 рабочых (прыгонныя), выпушчана посуду на 4700 руб., у 1879 г.— 36 рабочых, выпушчана шклянак і бутэлек на 4800 руб., у 1900 г.— 157 рабочых, выраблена сталовага і аптэчнага посуду, лямпавых вырабаў на 90 700 руб. У савецкі час рэканструяваны і расшыраны. У Вялікую Айчынную вайну разбураны. Аднавіў работу ў 1944 г. У 1961—73 гг. пабудаваны новыя цэхі, кацельня. Выпрабляе сілікат-глыбы (растваральнае шкло) і шклатару. *М. М. Яніцкая.*

**в. Пляшчаны, Хаценчыцкі сельсавет**

**663. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 4 мірныя жыхары, якіх у 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**664. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР МАЛАДЗЕЧАНСКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Устаноўлена ў 1974 г.

У жніўні 1943 г.— ліпені 1944 г. у вёсцы базіраваліся Маладзечанскія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. Маладзечанскі падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў з 4.12.1943 г. да 28.6.1944 г. Сакратар А. І. Доўгі (4.12.1943 г.— 28.6.1944 г.); члены райкома Ю. А. Дзамашвілі (4.12.1943 г.— 28.6.1944 г.), М. С. Рудэнка (4.12.1943 г.— 28.6.1944 г.), М. Дз. Сямёнаў (4.12.1943 г.— 28.6.1944 г.). Друкаваны орган — газета «Чырвоны сцяг».

Маладзечанскі падпольны райком ЛКСМБ створаны 4.12.1943 г., дзейнічаў да 5.7.1944 г. Сакратары У. Г. Доктараў (4.12.1943 г.— 5.7.1944 г.), А. І. Усаў (сакратар па прапагандзе, 4.12.1943 г.—10.3.1944 г.), М. А. Агееў (сакратар па прапагандзе, 10.3—5.7.1944 г.); члены райкома М. А. Агееў (4.12.1943 г.— 10.3.1944 г.), В. Ф. Грыгор'ева (4.12.1943 г.— 5.7.1944 г.), А. І. Усаў (10.3—5.7.1944 г.), В. Г. Філіпаў (10.3—5.7.1944 г.).

Райкомы арганізоўвалі і ўзначальвалі камуністычнае і камсамольскае падполле, партызанскі рух, барацьбу насельніцтва супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Базіраваліся пры партызанскім атрадзе імя Р. І. Катоўскага.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976. *В. М. Баскова.*

**в. Порса, Любанскі сельсавет**

**665. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пахаваны мірныя жыхары, якіх 13—14.1.1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў памяшканні лазні. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

**666. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЛАЎРЫНОВІЧУ** Уладзіміру Сцяпанавічу (гіст.). Устаноўлена ў 1972 г. на доме, дзе ён жыў.

Герой Савецкага Саюза У. С. Лаўрыновіч нарадзіўся ў 1913 г. у сялянскай сям'і. Да Вялікай Айчыннай вай-



658. *Курганны могільнік. План.*



668. *Царква. Бакавы фасад.*




668. *Царква. План.*

ны працаваў у сельскай гаспадарцы. На фронце з жніўня 1944 г. Кулямётчык сяржант У. С. Лаўрыновіч ваяваў на 2-м і 1-м Беларускіх франтах. Вызначыўся ва Усходняй Прусіі. 31.1. 1945 г. больш за 100 варожых салдат пры падтрымцы самаходных гармат і танка спрабавалі выйсці з акружэння. Умела выкарыстоўваючы рубеж, У. С. Лаўрыновіч знішчыў больш за 50 гітлераўцаў. Калі скончыліся патроны, ён кінуўся з гранатамі пад варожы танк. Контратака гітлераўцаў была адбіта. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 19.4.1945 г.

Імя У. С. Лаўрыновіча навечна занесена ў спісы палка. У Вілейцы яго імем названа вуліца.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; В памяти народной.— Мн., 1969. *В. М. Баскова.*

**в. Рабунь, цэнтр сельсавета**

**667. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка аддзялення сувязі. На ўшанаванне памяці 38 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, і 17 аднавяскоўцаў, расстраляных гітлераўцамі, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**668. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з бутавага каменю і цэглы.

Аднанефавы аднаапсідны храм з прытворам. Асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным гонтавым шатром, на кожным схіле якога размешчана прамавугольная люнета з круглым акном і трохвугольным франтончыкам, упрыгожаным драўлянай разьбой. Уваходны праём на галоўным фасадзе мае лучковае завяршэнне. Вуглы будынка апрацаваны прафіляванымі атынкаванымі лапаткамі. Пад карнізам па ўсім перыметры — дэкаратыўны фрыз. Пяцігранная апсіда прарэзана нізка размешчанымі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі.

Царква — прыклад эклектычнай архітэктуры. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Рускае Сяло, Нарачанскі сельсавет**

**669. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка Дома культуры. На ўшанаванне памяці 54 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Руччо, Даўгінаўскі сельсавет**

**670. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 6 партызан, якіх закатавалі нямецка-фашысцкія захопнікі 27.5. 1944 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ручыца, Нарачанскі сельсавет**

**671. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). За 2,5 км на паўночны захад ад вёскі. 30 магіл з вертыкальнымі ці гарызантальнымі каменнымі плітамі. На некаторых маюцца крыжападобныя знакі. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.



669. *Помнік землякам.*

**672. КАПЛІЦА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі, на беразе р. Вілія. Пабудавана ў сярэдзіне 18 ст. з цэглы на тэрыторыі былой сядзібы Агінскага (не захавалася). Узведзена ў выглядзе цэнтрычнай вежы. Над яе круглым у плане высокім філёнгавым цокалем узвышаецца фігурны шлемападобны купал, які падтрымліваюць вуглавыя пілоны. Крапоўка і валюты пілонаў, купал фігурнага профілю, выгнутая лінія прафіляванага карніза над лучковымі праёмамі надаюць кампазіцыі збудавання лёгкасць, яркую архітэктурна-мастацкую выразнасць. Пад скляпеннем на гранёным пастаменце была ўстаноўлена драўляная скульптура (не захавалася) маці боскай (разьба па дрэве, сярэдзіна 18 ст.).

Капліца — помнік архітэктуры барока з рысамі ракако. *А. М. Кулагін.*

**673. КАПЛІЦА** (архіт.). На захад ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Трохзрубная пабудова. Асноўны зруб накрыты чатырохсхільным шатровым дахам, над якім размешчаны маленькі зруб-вежачка пад двухсхільным дахам. Сцены з двух бакоў сіметрычна прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі з ліштвамі. Прытвор і апсіда аднолькавыя па кампазіцыі, накрыты двухсхільнымі дахамі, вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі.

Капліца — помнік драўлянага народнага дойлідства. *А. Ю. Пятросава.*

**674. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,1 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Вілія, у лесе, непадалёку ад вусця р. Нарач. Захаваліся 3 насыпы, адзін за 0,3 км ніжэй па цячэнню, 2 яшчэ праз 0,8 км, дыяметрам 8—13 м, вышынёй 1—1,5 м. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**675. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

Аднанефавы аднаапсідны прамавугольны ў плане храм са званіцай над прытворам. Асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам, над якім узвышаецца купал на васьмігранным барабане. Лучковыя аконныя праёмы ў шматслойных ліштвах размешчаны ў двух узроўнях. Васьмігранная званіца на васьмерыку накрыта шатром з галоўкай. Яе паўцыркульныя вокны абрамлены арачкамі ў выглядзе какошнікаў. Галоўны і бакавыя ўваходы вылучаны шматслойнымі выступамі-аркамі. Плоскасці фасадаў дэкарыраваны ляпным фрызам, поясам сухарыкаў, плоскімі лапаткамі па вуглах. Столь плоская, падшыўная. Прытвор злучаецца з нефам шырокім арачным праёмам. Драўляны іканастас упрыгожаны разьбой.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. Ю. Пятросава.*



672. *Капліца.*

**в. Рэчкі, цэнтр сельсавета**

**676. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля шашы Вілейка — Даўгінава. Пахаваны 79 воінаў Чырвонай Арміі і партызан, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—44 гг. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск. Помнік ушаноўвае таксама памяць 43 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**677. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**677а.** Гарадзішча. За 0,3 км на ўсход ад паўночнай ускраіны вёскі. Займае заходнюю частку ўзвышша, выцягнутага з захаду на ўсход. Пляцоўка авальная, памерам 40×50 м, з усходняга боку ўмацавана валам вышынёй 2 м. За 3,5—4,5 м ад пляцоўкі на схілах гарадзішча з захаду і ўсходу ёсць роў шырынёй 4—5 м і вал вышынёй 1,5—2,5 м, з поўдня і поўначы — тэраса шырынёй 3—7 м. Уезд на гарадзішча з паўночнага боку. Вядома з сярэдзіны 19 ст. Абследавалі ў 1934 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1956 г. Л. В. Аляксееў, у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**677б.** Селішча. Каля падножжа гарадзішча, на ўсход і захад ад яго. Плошча 1,5 га. З усходняга боку ў некаторых месцах выяўлены паглыбленні, відавочна, западзіны ад зямлянкавых жытлаў. З заходняга боку культурны пласт 0,4—0,5 м, прасочваецца на асобных участках. Выявіў і абследаваў у 1983 г. М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Саланое, Даўгінаўскі сельсавет**

**678. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 46 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.




**674.** *Курганны могільнік. План.*

**в. Селішча, Вязынскі сельсавет**

**679. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,3 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 4 воіны Чырвонай Арміі, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г., і 48 жыхароў вёсак сельсавета, расстраляных гітлераўцамі ў 1941—43 гг. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Слабада, Іжскі сельсавет**

**680. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахавана сям'я партызана Я. С. Трубача (5 чалавек), расстраляная нямецка-фашысцкімі карнікамі ў 1943 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**681. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі, на заходнім беразе Слабадскога возера. Плошча каля 0,7 га. Выявіў і абследаваў у 1967 г. М. М. Чарняўскі. Знойдзена штрыхаваная, гладкасценная ляпная, а таксама ганчарная кераміка раннефеадальнага часу. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**682. СТАЯНКА** (археал.). За 3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на пясчаным узвышэнні паўднёва-заходняга берага Слабадскога возера. Выцягнута з поўначы на поўдзень на 120 м, шырыня да 50 м. Выявіў і абследаваў у 1967 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт да 0,4 м утрымліваў крамянёвыя аднапляцовачныя нуклеусы, скрабкі, рэтушаваныя адшчэпы і пласцінкі, а таксама фрагменты ляпной керамікі з тэкстыльнымі адбіткамі і грабеньчатым арнаментам. Адносіцца да нарвенскай культуры, датуецца 4-м тысячагоддзем да н. э. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Чарняўскі.*




**675.** *Успенская царква. План.*



**675.** *Успенская царква.*



**676.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, помнік землякам.*

**в. Сосенка, Касцяневіцкі сельсавет**

**683. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**683а.** Паселішча-1. За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, на беразе Вілейскага вадасховішча. З паўночнага захаду абмежавана пясчанымі ўзгоркамі, зарослымі лесам. Памер 90×30 м. Выявіў у 1972 г., даследаваў у 1972, 1982, 1983 гг. М. М. Чарняўскі. Ускрыта 334 м² плошчы. Культурны пласт да 0,6 м. Знойдзены крамянёвыя мікралітычныя ўкладышы, лістападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, праколкі, нажы, сякеры, абломкі гліняных ляпных гаршкоў, аздобленых грабеньчатым і накольчатым арнаментам, выяўлены агнішчы і рэшткі вогнішчаў, гаспадарчыя ямы. Стаянка адносіцца да эпохі мезаліту і ранняга неаліту, датуецца 7—5-м тысячагоддзямі да н. э. У верхнім пласце трапляюцца матэрыялы сярэднявечнага часу.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Вілейскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

**683б.** Паселішча-2. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на востраве Вілейскага вадасховішча. Выявіў у 1972 г., даследаваў у 1973 г. М. М. Чарняўскі. Ускрыта 80 м² плошчы. Культурны пласт да 0,4 м. Знойдзены фрагменты грабеньчатай керамікі з дамешкамі раслінных рэштказ у гліне, крамянёвыя скрабкі, разцы, рэтушаваныя адшчэпы. Неалітычныя знаходкі сабраны і з насыпаў, якія раскапаў Я. Г. Звяруга. Адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 4-м — канцом 3-га тысячагоддзя да н. э. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**683в.** Паселішча-3. За 2,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на беразе Вілейскага вадасховішча. Памер 40×30 м. Адкрыў у 1972 г., даследаваў у 1973 г. М. М. Чарняўскі. Ускрыта 20 м² плошчы. Культурны пласт слаба насычаны знаходкамі ляпной грабеньчатай керамікі і крамянёвымі вырабамі. Адносіцца да эпохі неаліту. Датуецца 4-м — канцом 3-га тысячагоддзя да н. э. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Спягла, Іжскі сельсавет**

**684. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на могілках. Пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з дрэва. Трохзрубны храм з прамавугольнай апсідай і бабінцам, над двухсхільным дахам якога ўзвышаецца невялікая чатырохвугольная шатровая званіца. Над трохвугольным франтонам галоўнага фасада — невялічкі купал на чатырохгранным барабане. Лучковыя ўваходны і аконныя праёмы абрамлены ліштвамі. Сцены гарызантальна (паміж праёмамі) і вертыкальна (франтон і цокальная частка) ашаляваны. Прамавугольная апсіда накрыта аднасхільным дахам. Інтэр'ер зальны з плоскай падшыўной столлю.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Старынкі, Хаценчыцкі сельсавет**

**685. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. Пахаваны партызаны брыгады імя М. В. Фрунзе К. І. і В. У. Панышы, Б. В. Цыганкова і І. В. Шынковіч, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1943 г. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**683б.** *Паселішча-2. Агульны выгляд раскопу.*

**686. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 101 мірны жыхар, якіх 5.5. 1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Стражы, Рэчкаўскі сельсавет**

**687. МАГІЛА МАЛЬКЕВІЧА** Леаніда Дзмітрыевіча (гіст.). На могілках.

Партызан-камсамолец Л. Дз. Малькевіч нарадзіўся ў 1923 г. у сялянскай сям'і. Вучыўся ў Маладзечанскім чыгуначным вучылішчы. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны вярнуўся ў вёску і стаў сувязным партызанскага атрада імя С. М. Будзённага. Збіраў для партызан звесткі пра варожыя гарнізоны ў в. Куранец і г. Вілейка. Калі навісла пагроза арышту, пайшоў у партызанскі атрад, стаў падрыўніком. Разам з таварышамі пусціў пад адхон 7 варожых эшалонаў. 26.4. 1944 г. каля в. Куранец гітлераўскі патруль затрымаў партызана з мінай, якую ён нёс падпольшчыкам Вілейкі. Пасля жорсткіх катаванняў фашысты павесілі патрыёта.

У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970. *В. М. Баскова.*

**в. Студзёнкі, Любанскі сельсавет**

**688. КУРГАН** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Кузьмічы (раней тут было некалькі дзесяткаў насыпаў). Дыяметр 8 м, вышыня 1,5 м. З усходняга боку каля падэшвы ляжыць камень з пашкоджаным нерасшыфраваным надпісам. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга.

**в. Сутокі, Касцяневіцкі сельсавет**

**689. СТАЯНКА** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на схіле пясчанага ўзгорка паўднёвага берага затокі Вілейскага вадасховішча. Памер 70×20 м. Выявіў і абследаваў у 1982 г. М. М. Чарняўскі. У культурным пласце да 0,4 м сустракаюцца крамянёвыя адшчэпы, пласцінкі, скрабкі, лістападобныя наканечнікі стрэл, вузкія пласцінкі з рэтушаванымі краямі. Адносіцца да эпохі мезаліту і датуецца 8—7-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Чарняўскі.*




**684.** *Успенская царква. План.*



**692.** *Помнік землякам.*

**в. Сцешыцы, Жаркі сельсавет**

**690. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 31 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**691. ПОМНІК ЧАРНЯХОЎСКАМУ** Івану Данілавічу (гіст.). Каля праўлення калгаса імя Чарняхоўскага. Бюст І. Д. Чарняхоўскага ўстаноўлены ў 1967.

**в. Талуць, Любанскі сельсавет**

**692. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля шашы Вілейка — Нарач. На ўшанаванне памяці 57 жыхароў вёсак сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1957 г. пастаўлены абеліск.

**в. Трапалава, Асіпавіцкі сельсавет**

**693. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на могілках, ва ўрочышчы Аляксееў Перавоз. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**694. МАГІЛА ЛАЗАРА** Івана Фёдаравіча **І КОРПУСАВА** Пятра (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на могілках, ва ўрочышчы Аляксееў Перавоз.

Партызаны І. Ф. Лазар і П. Корпусаў загінулі ў баі 29.12.1942 г., натрапіўшы на засаду гітлераўцаў каля в. Асінаўка. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**695. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на могілках, ва ўрочышчы Аляксееў Перавоз. Партызан (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Уладыкі, Хаценчыцкі сельсавет**

**696. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 80 савецкіх грамадзян, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі 26.5.1944 г.

**697. МАГІЛА ПАЎСТАНЦАЎ 1863 г.** (гіст.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. Пахавана больш за 100 паўстанцаў атрада В. І. Козела, якія загінулі ў баі з царскімі войскамі 16.5.1863 г. У атрадзе, які сфарміраваў В. І. Козел у Вілейскім павеце, было больш за 200 чалавек. У маі 1863 г. ён знаходзіўся ў Стайкаабадоўскай пушчы, недалёка ад в. Уладыкі. Супраць атрада былі кінуты 5 рот царскіх войск. Паўстанцы ноччу 15 мая пераправіліся на левы бераг Іліі і размясціліся ў лесе каля Уладык. Царскія войскі зайшлі ў тыл атрада. Паўстанцы ўпарта супраціўляліся, але былі акружаны і прыціснуты да ракі. Каля 3 гадзін працягваўся жорсткі бой. Слаба ўзброеныя паўстанцы біліся да апошняга. У баі загінула 120 паўстанцаў, у т. л. В. І. Козел, 50 чалавек патанулі ў рацэ, 25 трапілі ў палон.

У 1933 г. на магіле паўстанцаў устаноўлена пліта.

*Літ.:* Архивные материалы Муравьевского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863—1864 гг. в пределах Северо-Западного края. Ч. 2.— Вильна, 1915.
*В. В. Караткевіч.*

**в. Усцінавічы, Рэчкаўскі сельсавет**

**698. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны воін Чырвонай Арміі і партызан К. Н. Баравы, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Хаценчыцы, цэнтр сельсавета**

**699. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**699а.** Каменныя магілы-1. Мясцовая назва Паганскія могілкі. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Капішча. 30 магіл з каменнымі плітамі або тарцом пастаўленымі плоскімі камянямі без знакаў. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Зваруга. Раскопкі не праводзіліся.

**699б.** Каменныя магілы-2. За 1 км на ўсход ад вёскі, за 0,3 км справа ад дарогі ў в. Зачэрная, у лесе. 15 магіл, абкладзеных па перыметры камянямі і каля 30 асобных каменных пліт без знакаў. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Зваруга. Раскопкі не праводзіліся.

**699в.** Курганны могільнік. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Куляшы, у лесе, ва ўрочышчы Казлоўшчына. 43 насыпы дыяметрам 6—11 м, вышынёй 0,7—1,5 м. Кругавыя раўкі заплылі. Вядомы з канца 19 ст., абследаваў у 1985 г. Я. Г. Зваруга. Раскопкі не праводзіліся.
*Я. Г. Зваруга.*

**700. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 2 жыхары вёскі, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Цынцавічы, Любанскі сельсавет**

**701. РАДЗІМА СІЛІВАНОВІЧА** Нікадзіма Юр'евіча (гіст.).

Беларускі і рускі мастак Н. Ю. Сіліванові нарадзіўся 25.12.1834 г. Скончыў Маладзечанскае павятовае вучылішча (1854 г.). Вучыўся ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў (1859—66 гг.), пасля заканчэння вярнуўся на радзіму. Выканаў шэраг карцін для праваслаўных храмаў Гродзеншчыны і Віленшчыны, займаўся бытавым і партрэтным жывапісам. У пачатку 1870-х гадоў удзельнічаў у стварэнні мазаічнай кампазіцыі «Тайная вячэра» для галоўнага іканастаса Ісакіеўскага сабора ў Пецярбургу. За мазаікі «Евангеліст Матфей», «Евангеліст Лука», «Евангеліст Марка», «Пацалунак Юды» ў 1876 г. яму прысвоена званне акадэміка. Перыядычна прыязджаў на радзіму, падарожнічаў па Беларусі. Вядомы як майстар партрэта і жанравых кампазіцый станковага характару («Стары пастух», «Партрэт сына», «Аўтапартрэт», «Партрэт дзяўчынкі», «У школу», «Дзеці ў двары» і інш.; захоўваюцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі Літоўскай ССР у Вільнюсе). Работы мастака вызначаюцца ярка выяўленай псіхалагічнай і сацыяльнай характарыстыкай персанажаў, рэалістычным адлюстраваннем жыцця.

Памёр Н. Ю. Селівановіч у 1919 г.




**699в.** *Курганны могільнік. План.*

*Літ.:* Дробов Л. Н. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в.— Мн., 1974.
*Я. М. Сахута.*

**в. Цярэшкі, Касцяневіцкі сельсавет**

**702. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 15 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Чаромушкі, Даўгінаўскі сельсавет**

**703. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка дзіцячага сада, у скверы. На ўшанаванне памяці 16 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Шведы, Асіпавіцкі сельсавет**

**704. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Вілія. 5 насыпаў (2 непасрэдна каля вёскі, 3 за 0,2 км на поўнач, у лесе) дыяметрам 5—8 м, вышынёй 0,6—0,9 м. У сярэдзіне 19 ст. К. П. Тышкевіч раскапаў 2 курганы. Знойдзены пасудзіны з перапаленымі касцямі. У 1985 г. абследаваў Я. Г. Зваруга.

**в. Шылавічы, Асіпавіцкі сельсавет**

**705. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля адміністрацыйнага будынка. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1957 г.

**в. Шыпкі, Хаценчыцкі сельсавет**

**706. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**706а.** Курганны могільнік-1. За 1,5 км на поўнач ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Сокалы, на ўскраіне лесу. 6 насыпаў: 3 круглыя і 3 авальныя. Дыяметр круглых 7—12 м, вышыня 0,6—1,6 м. Памеры авальных курганоў 7—9×10—12 м, вышыня 1,5—1,7 м. Каля асновы прасочваюцца раўкі. Вядомы з канца 19 ст., абследавалі ў 1980 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1985 г. Я. Г. Зваруга. Раскопкі не праводзіліся.

**706б.** Курганны могільнік-2. За 0,5 км на захад ад вёскі, справа ад дарогі Краснае — Ілья. 6 расплывістых круглых насыпаў дыяметрам 7—10 м, вышынёй 0,5—1,2 м. Раўкі вакол іх заплылі. Вядомы з канца 19 ст., абследаваў у 1985 г. Я. Г. Зваруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893.
*Я. Г. Зваруга, А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Язні, Даўгінаўскі сельсавет**

**707. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка клуба. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1983 г.

**708. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1969 г.




# ДЗЯРЖЫНСКІ РАЁН

Волма
Глушынцы
Скірмантава
Вертнікі
Дварышча
Путчына
Дзямідавічы
Вял. Сяло
Старынкі
Вязань
Фаніпаль
Чэрнікаўшчына
Грычына
ДЗЯРЖЫНСК
Рубілкі
Баравое
Стар. Рудзіца
Томкавічы
Баравікі
Негарэлае
Станькава
Дабрынёва
Ляхавічы
Данілавічы
Гарбузы
Логавішча
Зубрэвічы

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні савецкага перыяду

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

11 Зак. 2282

## VI. ДЗЯРЖЫНСК

Горад (да 1932 г. Койданава), цэнтр раёна, на р. Няцеча, за 38 км на паўднёвы захад ад Мінска, на чыгуначнай лініі Мінск — Баранавічы (станцыя Койданава), на аўтамабільнай дарозе Мінск — Баранавічы. Размешчаны на паўднёвым схіле Мінскага ўзвышша. На поўнач ад горада знаходзіцца найвышэйшы пункт Беларусі — гара Дзяржынская (346 м над узроўнем мора).

Вядомы з 12 ст. як в. Крутагор'е ў Полацкім, потым Мінскім княствах, з 1326 г. у Вялікім княстве Літоўскім. З канца 15 ст. уласнасць прыватных асоб, з 1539 г.— вялікага князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта I, з 1550 — магнатаў Радзівілаў, якія ўтварылі Койданаўскае графства (мела герб з выявамі галінак дуба і алівы). З 1566 г. у складзе Мінскага павета Мінскага ваяводства. З 1588 г. мястэчка, 120 дымоў. У 1502—03 гг. спалена татарамі. У час Рэфармацыі (16 ст.) рэзідэнцыя кальвіністаў, каля 1564 г. пабудаваны драўляны, у 1613 г. новы мураваны кальвінскія зборы (не збераглiся). У 17 — сярэдзіне 19 ст. дзейнічалі кальвінская школа, шпіталь. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. спалена (1655 г.). З 1793 г. у складзе Расіі, мястэчка Мінскага павета. У 1796 г. тут было 709 двароў, 14 вінакурняў, 10 млыноў, маслабойняў і інш. У Айчынную вайну 1812 г. 15 лістапада каля Койданава рускія войскі пад камандаваннем адмірала П. В. Чычагова разбілі 5-тысячны атрад напалеонаўскіх войск. З 1831 г. дзяржаўнае ўладанне. У 1871 г. каля мястэчка пракладзена Маскоўска-Брэсцкая чыгунка. У 1899 г. пабудавана запалкавая фабрыка «Дружына» (208 рабочых у 1900 г.). Паводле перапісу 1897 г.— 4744 жыхары. З 1863 г. працавала народная школа, у 1908 г. адкрыта гарадское вучылішча. У пачатку 1900-х гадоў у Койданаве дзейнічаў сацыял-дэмакратычны гурток. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. баставалі рабочыя запалкавай фабрыкі «Дружына» і чыгуначнікі. Пасля Курлоўскага расстрэлу 1905 г. адбыліся антыўрадавыя дэманстрацыі.

Савецкая ўлада ўстаноўлена 15(28). 11.1917 г., створаны ваенна-рэвалюцыйны камітэт. Мястэчка ў лютым — снежні 1918 г. акупіравана германскімі, у жніўні 1919 г.— кастрычніку 1920 г.— польскімі войскамі. 13—14.10. 1920 г. Чырвоная Армія вяла тут цяжкія баі з польскімі акупантамі, якія спалілі большую частку Койданава. У 1924—37 гг. і з 1939 г. цэнтр раёна. У 1924 г. пабудавана электрастанцыя. У лютым 1930 г. створана першая на Беларусі МТС. З 3.5.1932 г. горад, 29.6. 1932 г. перайменаваны ў гонар Ф. Э. Дзяржынскага. 8,7 тыс. жыхароў у 1939 г., у пачатку 1941 г.— больш за



**VI.** *Забудова вуліцы К. Маркса.*

20 прамысловых прадпрыемстваў, працаваў калгасна-саўгасны тэатр (1940—41 гг.).

З 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. горад акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, разбураны. З жніўня 1941 г. да кастрычніка 1942 г. у Дзяржынску і раёне дзейнічала камуністычнае падполле. Быў створаны антыфашысцкі камітэт «Смерць фашызму», які падтрымліваў сувязь з Мінскім падпольным гаркомам КП(б)Б. Дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (кастрычнік 1942 г.— 4.7.1944 г.) і ЛКСМБ (кастрычнік 1942 г.— ліпень 1944 г.), выдавалася газета «Ленінская праўда» — орган падпольнага райкома КП(б)Б. Горад вызвалены войскамі 290-й стралковай дывізіі 81-га стралковага корпуса 49-й арміі 2-га Беларускага фронту.

Планіровачная структура Дзяржынска сфарміравана пераважна пасля вайны. Паводле генеральнага плана 1948 г. (Беларускі дзяржаўны праектны інстытут) прадугледжвалася карэнным чынам змяніць аблічча горада. Менш чым за 15 гадоў былі здадзены ў эксплуатацыю 22 прамысловыя прадпрыемствы, пастаўлены будынкі гаркома КПБ і ЛКСМБ, Дома культуры, кінатэатра, пошты, радыёвузла, 2 школ, 40 двухпавярховых жылых дамоў, пабудаваны стадыён, клінічны гарадок; праведзены водаправод і каналізацыя. Сучасны горад займае абодва берагі р. Няцеча. Галоўная планіровачная вось — вул. Ленінская, на якой сфарміравана цэнтральная плошча — грамадскі цэнтр з адміністрацыйнымі будынкамі. Бульварам плошча злучана з гандлёвым цэнтрам (гістарычная частка горада на стыку вуліц К. Маркса і Ленінскай). Генплан 1973 г. (карэкціроўка 1975 г.; Мінскі філіял Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва) прадугледжвае стварэнне на захадзе і ўсходзе 2 планіровачных раёнаў з грамадскімі цэнтрамі, жылымі і прамысловымі зонамі, развіццё агульнагарадскога цэнтра па вул. Ленінскай. Цэнтральная частка, а таксама вуліца Мінская і набярэжная ракі забудоўваюцца шматпавярховымі жылымі дамамі.

Асноўныя прамысловыя прадпрыемствы: маторарамонтны, доследна-механічны, «Рэмдэталь» заводы, швейная фабрыка (філіял Мінскага швейнага аб'яднання імя Н. К. Крупскай), тэкстыльная фабрыка, ільнозавод, торфапрадпрыемства «Дзяржынскае», філіял Мінскага малочнага камбіната, хлебазавод. Працуюць райпрамкамбінат, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, база «Саюзгазпрамбуд», 3 перасоўныя механізаваныя калоны.

У горадзе 4 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 6 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца газета «Сцяг Кастрычніка».

Помнікі: У. І. Леніну, Ф. Э. Дзяржынскаму, у гонар вызвалення Дзяржынска, на брацкіх магілах савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў

Вялікай Айчыннай вайны, на брацкай магіле чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1920 г. і інш.

Зона адпачынку — Дзяржынскае вадасховішча. На яго беразе пасаджана алея ў гонар 50-годдзя ўтварэння СССР.

*Літ.:* Будай Г. В. Свинцом и словом: Записки журналиста.— 2 изд.— Мн., 1981; Валаханович А. И., Кулагин А. Н. Дзержинщина: Прошлое и настоящее.— Мн., 1986.

*У. В. Алісейчык, А. І. Валахановіч.*

**709. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). Вул. Пушкіна. На могілках. Пахаваны 72 чырвонаармейцы 27-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў сярэдзіне кастрычніка 1920 г. пры вызваленні горада ад войск буржуазнай Польшчы. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**710. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. 1-я Ленінская, у скверы. Пахаваны 72 чырвонаармейцы, якія загінулі ў 1920 г. у баях супраць войск буржуазнай Польшчы, а таксама 142 воіны, якія загінулі ў пачатку ліпеня 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні тэрыторыі раёна. Тут жа пахаваны камандзір 125-га партызанскага атрада імя І. В. Сталіна С. А. Рыжак, начальнік штаба М. І. Ярaслаўцаў, камандзір узвода К. В. Касцюк, партызаны А. Б. Лабэцкі, А. Л. Ішчук, В. А. Арцёмаў, што аддалі жыццё за Радзіму ў 1942—44 г. У 1982 г. на могілках пастаўлены помнік: скульптуры воіна і дзяўчынкі, на 7 брацкіх магілах — абеліскі.

*М. М. Казлоўская.*

**711. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовыя назвы Гаштольдава Гара, Кальвіншчына. На паўднёва-ўсходняй ускраіне горада, на ўзвышшы. Пляцоўка авальная, памерам 55×80, пашкоджана ў 1979 г., валы не захаваліся. Даследаваў у 1963 г. Э. М. Загарульскі на плошчы 100 м², у 1976, 1979, 1983 гг. Ю. А. Заяц правёў зачыстку культурнага пласта ў месцах яго агалення. Культурны пласт 1,5—2 м мае 3 гарызонты: у ніжнім (0,1—0,2 м) знойдзены гліняныя прасліцы, ляпная кераміка. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі ранняга жалезнага веку. У сярэднім гарызонце (0,3—0,4 м) сабраны ганчарная кераміка, шыферныя прасліцы. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. У верхнім гарызонце знойдзены вырабы з жалеза, бронзы, кафля, цэгла-пальчатка, чарапіца. Адносіцца да эпохі феадалізму, датуецца 14—17 стагоддзямі. Выяўлены рэшткі падмуркаў каменнай пабудовы, хутчэй за ўсё кальвінскага збору 16 ст.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і ў БДУ імя У. І. Леніна.

*Літ.:* Шпілеўскі І. Ф., Бабровіч Л. А. Гістарычны нарыс Дзяржыншчыны (Койданаўшчыны).— Мн., 1932; Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду па Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1.

*Ю. А. Заяц.*



*710. Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан.*

**712. КАСЦЁЛ АПЕКІ БОСКАЙ** (архіт.). Вул. Першамайская, 38. Пабудаваны ў 2-й палове 18 ст. з дрэва. Цяпер тут дзіцячая музычная школа.

Трохнефавая двухвежавая базіліка на высокім мураваным цокалі. Ступеньчатая аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя складаецца з прадаўгаватага асноўнага аб'ёму з пяцігранным алтарным завяршэннем і больш нізкіх бакавых нефаў, аб'яднаных з сакрысціямі. Галоўны фасад быў фланкіраваны чацверыковымі вежамі з фігурнымі завяршэннямі (не збергліся), паміж імі ўвагнута-выпуклы шчыт (цяпер трохвугольны), які прыкрываў тарэц двухсхільнага даху асноўнага аб'ёму. Галоўны і бакавы ўваходы зроблены ў выглядзе высокіх ганкаў на 2 слупах. Бакавыя фасады рытмічна члянёны 2 радамі прамавугольных аконных праёмаў. Сцены ашаляваны вертыкальна.

Прастора інтэр'ера была падзелена на нефы 2 радамі слупоў, перакрыта плоскай столлю. Над нартэксам хоры. Галоўны алтар (не захаваўся) быў выкананы ў барочных формах у выглядзе порціка з 2 парамі размешчаных уступам канеліраваных калон і лучковым франтонам у завяршэнні, дэкарыраваны накладной арнаментальнай разьбой, вазамі, 2 драўлянымі скульптурамі апосталаў. У цэнтры алтара размяшчаўся твор жывапісу 18 ст.— ікона маці боскай.

Касцёл — помнік драўлянага дойлідства з рысамі барока.

*Літ.:* Nasze Kościoły. Djecezja Mińska.— Warszawa, [1912].

*А. М. Кулагін.*

**713. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Першамайская, каля раённай бальніцы. Пахаваны 1600 мірных грамадзян, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 21.10. 1941 г. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**714. МАГІЛА БАНДАК** Яніны Вікенцьеўны (гіст.). Вул. Ленінская. На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы Я. В. Бандак нарадзілася 15.10.1909 г. у в. Целяшэвічы Дзяржынскага р-на. Член КПСС з 1962 г. У 1944—74 гг. цялятніца калгаса імя Дзяржынскага. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 22.3.1966 г. за поспехі ў павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчай прадукцыі. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1963—67 гг. Памерла 7.4.1982 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**715. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР АНТЫФАШЫСЦКАГА КАМІТЭТА** (гіст.). Вул. М. Казея, 31. Устаноўлена ў 1975 г. на будынку доследна-механічнага завода (да Вялікай Айчыннай вайны тут размяшчалася арцель «Чырвоны штампоўшчык»).

У жніўні 1941 г. у арцелі скабяных вырабаў «Чырвоны штампоўшчык» была створана першая ў Дзяржынску падпольная група ў складзе 7 чалавек. Яе арганізатарамі былі І. А. Жукавец, Г. В. Будай, П. М. Хмялеўскі. Пазней падпольныя групы ўзніклі ў вёсках Вялікія Навасёлкі, Кукшавічы, Станькава, Баравое, Касілавічы, Шацілы і Нявелічы. Для каардынацыі дзейнасці падпольшчыкаў у канцы жніўня 1941 г. створаны Дзяржынскі антыфашысцкі камітэт «Смерць фашызму»: кіраўнік Г. В. Будай, члены П. М. Хмялеўскі, І. А. Жукавец, з вясны 1942 г. С. Ф. Юховіч. Камітэт аб'ядноўваў 6 падпольных груп (больш за 120 чалавек). Адна з іх актыўна дзейнічала ў раённай управе. З восені 1941 г. камітэт наладзіў сувязь з Мінскім камуністычным падполлем. Патрыёты вялі палітычную работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, падпольную газету «Звязда». У красавіку 1942 г. на базе падпольных груп вёсак Баравое і Касілавічы створаны першы ў раёне партызанскі атрад 125-ы імя І. В. Сталіна (камандзір С. А. Рыжак), у які камітэт накіраваў больш за 100 чалавек. Падпольшчыкі збіралі для партызан звесткі разведкі, перадавалі ім зброю, боепрыпасы, медыкаменты, адзенне, прадукты, забяспечвалі іх дакументамі, пропускамі. Асабліва цесная была сувязь з партызанскімі атрадамі імя В. П. Чкалава, С. М. Будзённага, М. В.

Фрунзе, «Баявы». Падпольшчыкі сарвалі намеры акупантаў стварыць атрады «самаахnewы», выратавалі ад вывазу ў Германію каля 400 юнакоў і дзяўчат, разам з партызанамі знішчалі жывую сілу і тэхніку ворага, грамілі паліцэйскія ўчасткі. 16.4.1942 г. зрабілі напад на дзяржынскую турму і вызвалілі арыштаваных. У кастрычніку 1942 г. пасля арыштаў камітэт спыніў дзейнасць; большасць падпольшчыкаў працягвала барацьбу з ворагам у партызанскіх атрадах.

*Літ.:* Будай Г. В. Свинцом и словом: Записки журналиста.— 2 изд.— Мн., 1981; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1.— Мн., 1967.

*М. М. Казлоўская.*

**716. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПЕРШАЙ НА БЕЛАРУСІ МТС** (гіст.). Вул. Вакзальная, на будынку раённага аграпрамысловага аб'яднання. Устаноўлена ў 1969 г.

5.6.1929 г. Савет Працы і Абароны пры Саўнаркоме СССР прыняў пастанову «Аб арганізацыі машынна-трактарных станцый». 11.2.1930 г. бюро Мінскага акруговага камітэта КП(б)Б вырашыла арганізаваць МТС у прыгранічным на той час Койданаўскім р-не. Дырэктарам быў зацверджаны Ф. Я. Макарэвіч. 5.4.1930 г. на станцыю Койданава прыбыла першая партыя трактароў, 12 красавіка перад іх адпраўкай у калгасы раёна адбыўся мітынг. Для будаўніцтва МТС райвыканком выдзеліў 3,5 га зямлі побач з чыгуначнай станцыяй. Кожны год Койданаўская (з 1932 г.— Дзяржынская) МТС папаўнялася тэхнікай, абсталяваннем, будаваліся вытворчыя памяшканні. Па тэхнічным аснашчэнні ў 1940 г. займала адно з першых месцаў у рэспубліцы. У 1958 г. рэарганізавана ў РТС. У сакавіку 1961 г. на базе Дзяржынскай, Негарэльскай, Путчынскай і Фаніпальскай МТС створана раённае механізаванае аб'яднанне «Белсельгастэхніка» (цяпер аграпрамысловае аб'яднанне).

*А. І. Валахановіч.*

**717. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). На вул. 1-й Ленінскай, у скверы. Скульптура Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлена ў 1933 г., разбурана ў Вялікую Айчынную вайну, адноўлена ў 1959 г.

**718. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна, каля будынка Дома культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1959 г.

**719. ПОМНІК У ГОНАР ВЫЗВАЛЕННЯ ГОРАДА** (гіст.). На цэнтральнай плошчы. 7.7.1944 г. 290-я стралковая дывізія (камандзір генерал-маёр І. Г. Гаспаран) 81-га стралковага корпуса 49-й арміі 2-га Беларускага фронту вызваліла г. Дзяржынск ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1973 г. у гонар гэтай падзеі пастаўлена стэла.

**720. РАДЗІМА ФАМІНЫХ** Яўгена Іванавіча (гіст.).



**717.** *Помнік Ф. Э. Дзяржынскаму.*



**719.** *Помнік у гонар вызвалення горада.*

Герой Савецкага Саюза, генерал-лейтэнант танкавых войск (1945 г.) Я. І. Фаміных нарадзіўся 11.12.1906 г. Член КПСС з 1925 г. У Чырвонай Арміі з 1928 г. Скончыў Ваенную акадэмію механізацыі і матарызацыі Чырвонай Арміі (1941 г.), Ваенную акадэмію Генеральнага штаба (1948 г.). У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Паўночна-Заходнім, Заходнім, 1-м і 2-м Украінскіх, 1-м Беларускім франтах: камандзір танкавага батальёна, палка, начальнік штаба танкавай брыгады, корпуса, камандзір танкавага корпуса. Удзельнічаў у баях пад Ноўгарадам, Вязьмай, Ельняй, на Курскай дузе, у Корсунь-Шаўчэнкаўскай аперацыі, вызваленні Беларусі, Польшчы. Корпус пад камандаваннем Я. І. Фаміных вызначыўся пры фарсіраванні Одэра і ў Берлінскай аперацыі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 29.5.1945 г. Пасля вайны Я. І. Фаміных на адказных пасадах у Савецкай Арміі, у Ваеннай акадэміі бранятанкавых войск. З 1960 г. у адстаўцы. Памёр 22.5.1977 г. у Маскве.

**721. ЦАРКВА** (архіт.). На скрыжаванні вуліц Леніна і К. Маркса. Пабудавана ў 1850 г. з цэглы. Складаец-

ца з трох прамавугольных у плане аб'ёмаў: асноўнага, алтарнага і прытвора, размешчаных па падоўжнай восі. Асноўны аб'ём быў завершаны светлавым барабанам з купалам, пазней заменены драўляным чацверыком, накрытым высокім шатром з галоўкай. Роўныя па памерах прытвор і алтарны аб'ём накрыты пакатым двухсхільным дахам, на тарцах — франтоны, аздобленыя какошнікамі. Фасады падзелены на 2 ярусы. Ніжні дэкарыраваны расшыўкай тынкоўкі пад руст, верхні — вокнамі з паўцыркульнымі арачнымі завяршэннямі і сандрыкамі ў выглядзе какошнікаў. У інтэр'еры 4 калоны ў цэнтры асноўнага аб'ёму падтрымліваюць светлавы чацвярык.

Царква — помнік архітэктуры з элементамі псеўдарускага стылю.

*Т. В. Габрусь.*

**в. Александрова, Дабрынёўскі сельсавет**

**722. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Доўгі востраў. 14.6.1942 г. каля вёскі партызаны атрада М. М. Нікіціна (120 чалавек) пад камандаваннем камісара атрада П. І. Знака вялі жорсткі бой супраць карнай экспедыцыі нямецка-фашысцкіх войск, узброеных танкамі і артылерыяй. Народныя мсціўцы на працягу амаль 9 гадзін адбілі 21 атаку праціўніка і нанеслі яму значныя страты. У баі загінулі 9 партызан. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1.— Мн., 1967.

*М. М. Казлоўская.*

**723. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры выхадзе з акружэння. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**724. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 20 жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 22.6.1942 г. у час карнай экспедыцыі. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**725. МАГІЛА ШАПАШНІКАВА** Міхаіла (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Доўгі востраў. Партызан-кулямётчык атрада імя М. М. Нікіціна камсамолец М. Шапашнікаў загінуў у маі 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**726. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ М. М. НІКІЦІНА** (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі.

Партызанская брыгада М. М. Нікіціна створана ў канцы ліпеня 1942 г. З лета 1941 г. і ў пачатку 1942 г. на тэрыторыі Чэрвеньскага, Мінскага, Рудзенскага, Пухавіцкага і Уздзенскага р-наў дзейнічалі асобныя партызанскія групы Я. Дз. Сухарукава, Раманава, Б. К. Чуланскага, Уколава і партызанскія атрады П. І. Знака, А. В. Балікевіча. У сакавіку — маі 1942 г. па заданню Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б капітан М. М. Нікіцін аб'яднаў іх у адзіны атрад. У маі 1942 г. у яго ўліўся атрад Я. С. Бачкарова. У ліпені 1942 г. атрад разгорнуты ў брыгаду. Дзейнічала ў Рудзенскім, Чэрвеньскім, Дзяржынскім, Уздзенскім, Бягомльскім р-нах Мінскай, Івянецкім, Валожынскім Баранавіцкай і Ушацкім р-не Віцебскай абласцей. У верасні 1942 г. налічвала 410 чалавек.

Партызаны праводзілі баявыя аперацыі на чыгунцы Койданава — Мінск, шашы Мінск — Валяр'яны — Узда. Падарвалі 3 эшалоны, 32 аўтамашыны, 12 мастоў, разграмілі 8 нямецка-паліцэйскіх участкаў і валасных упраў. 14.6.1942 г. атрад М. М. Нікіціна правёў Александроўскі бой (гл. таксама артыкул № 722 «Брацкая магіла партызан»), у жніўні 1942 г. партызаны брыгады зрабілі рэйд у Налібоцкую пушчу, у верасні ўдзельнічалі ў нападзе на варожы гарнізон ва Ушачах. У лістападзе 1942 г. брыгада (атрады 1-ы, 2-і, 3-і, 4-ы, 5-ы, 6-ы) выйшла ў савецкі тыл, дзе і была расфарміравана.

У 1972 г. на месцы базіравання брыгады адноўлена зямлянка.

**в. Баравікі, Рубілкаўскі сельсавет**

**727. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля будынка зернесушылкі. 2 насыпы: адзін прадаўгаваты, амаль прамавугольны, памерам 12,5×10×1,5 м, другі круглы, вышынёй 0,9 м, дыяметрам 8 м. На схілах і вяршынях курганоў — сляды магіл і надмагільных камянёў



**718.** *Помнік У. І. Леніну.*



**721.** *Царква.*



**727.** *Кургнны могільнік.*

(яшчэ ў 1930 г. тут былі вясковыя могілкі). Адкрыў і абследаваў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1977 г. і 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч: (Матэрыялы да археалагічнай карты).— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3; Заяц Ю. А. Работы в окрестностях Заславля и Дзержинска.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978. *Ю. А. Заяц.*

**728. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 70 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Баравое, цэнтр сельсавета**

**729. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахавана 330 воінаў, якія загінулі ў чэрвені — ліпені 1941 г. пры выхадзе з варожага акружэння і ў ліпені 1944 г. пры вызваленні тэрыторыі Бараўскага сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск, унізе якога барэльефныя выявы воіна і партызана і дошкі з імёнамі 236 жыхароў вёсак сельсавета, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.



729. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, землякам.*

**730. КАПЛІЦА-ПАХАВАЛЬНЯ** (архіт.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, каля шашы. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы і бутавага каменю. Цэнтральная круглая ў плане двух'ярусная пабудова накрыта пакатым гонтавым шатром. Ніжні ярус змураваны з бутавага каменю і гравію, верхні — з цэглы, атынкаваны. У верхняй частцы сцен — аконныя праёмы з востравугольнымі завяршэннямі. Унутраная прастора паглыблена ў зямлю. У сценах глыбокія нішы для саркафагаў.

Капліца — помнік эклектычнай архітэктуры. *Т. В. Габрусь.*

**731. РАДЗІМА ВАЛАДЗЬКО** Леаніда Вікенцьевіча (гіст.).

Беларускі савецкі фізік, акадэмік АН БССР (1977 г., член-карэспандэнт з 1969 г.), доктар фізіка-матэматычных навук (1966 г.), прафесар (1967 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1971 г.) Л. В. Валадзько нарадзіўся 2.1.1928 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1959 г. Скончыў БДУ (1953 г.). З 1956 г. выкладчык, з 1963 г. загадчык кафедры спектральнага аналізу, адначасова з 1966 г. прарэктар па навуковай рабоце ў БДУ. Навуковыя працы прысвечаны малекулярнай спектраскапіі і люмінісцэнцыі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР 1974 г.

Памёр 29.9.1978 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

**в. Валярова, Дабрынёўскі сельсавет**

**732. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Васілеўшчына, Фаніпальскі сельсавет**

**733. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 483 воіны, якія загінулі ў пачатку ліпеня 1944 г. у баях за вызваленне вёскі і іншых населеных пунктаў сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**734. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на поўнач ад вёскі, у лесе, злева ад дарогі ў в. Слабодка. 11 насыпаў дыяметрам 4—11 м, вышынёй 0,5—1,5 м. Адзін курган пашкоджаны ямай і норамі. Абследаваў у 1983 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся. Відаць, гэта адзін з курганных могільнікаў, абследаваных у 1930 г. А. Рынейскім у вярхоўях р. Пціч.

**в. Васількова, Станькаўскі сельсавет**

**735. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 36 жыхароў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вертнікі, Путчынскі сельсавет**

**736. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 37 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**737. МАГІЛА АДАМОВІЧА** Станіслава Вацлававіча (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі. Партызан С. В. Адамовіч загінуў пры выкананні баявога задання ў 1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вінаградаўка, Дзяржынскі сельсавет**

**738. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Рыжаўка, каля дарогі Дзяржынск — Станькава. Пахавана каля 13 тыс. грамадзян краін Заходняй Еўропы, вывезеных сюды і расстраляных у жніўні — верасні 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Волма, цэнтр сельсавета**

**739. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі, на беразе р. Валмянка. Сфарміравана ў 19 ст.

Рэгулярна спланаваны ансамбль уключаў сядзібны дом — цэнтр агульнай кампазіцыі, флігель, службовы корпус, цагляную капліцу (не заха-



739. *Сядзібны дом.*

валася), невялікі парк. Цяпер тут школа-інтэрнат.

Сядзібны дом. Двухпавярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак на высокім цокалі, накрыты вальмавым дахам. Метровай таўшчыні сцены члянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах з руставанымі перамычкамі і сандрыкамі. Фасады падзелены міжпаверхавай цягай і завершаны прафіляваным карнізам. Галоўны ўваход быў вылучаны чатырохкалонным порцікам (не захаваўся). Планіроўка калідорная, у цэнтры — квадратныя ў плане зала і вестыбюль з трохмаршавай лесвіцай на 2 слупах. Пад будынкам скляпеністыя падвалы.



739. *Флігель.*



739. *Алея парку.*




739. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — флігель; 3 — службовы корпус; 4 — капліца; 5 — сучасны будынак школы.*

Флігель — аднапавярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак з двухсхільным дахам. Галоўны ўваход вылучаны пілястрамі. Плоскасныя фасады завершаны прафіляваным карнізам, дэкарыраваны на вуглах рустам.

Службовы корпус — аднапавярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак з вальмавым дахам. У цэнтры галоўнага фасада прыбудаваны ўваходны тамбур. Фасады члянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з сандрыкамі.

Парк. Пейзажнага тыпу. У яго аснове — плаўна выгнутая пад'язная алея. Растуць таполі, елкі, клёны, ліпы. Перад сядзібным домам партэр рэгулярнай планіроўкі.

Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму і садова-паркавага мастацтва.

*А. М. Кулагін.*

**740. УСПЕНСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У паўночнай частцы вёскі, на ўзгорку. Пабудаваны ў 1751 г. з дрэва (у 1886 г. пераабсталяваны пад царкву, не захаваўся).

Касцёл крыжовы ў плане са слаба развітым трансептам і пяціграннай алтарнай прыбудовай. Па баках алтарнага аб'ёму — сакрысціі, злучаныя з бакавымі часткамі трансепта. Спачатку галоўны (заходні) фасад быў фланкіраваны 2 вежамі, якія выступалі за межы асноўнага аб'ёму. Потым вярхі вежаў былі разабраны і галоўны фасад набыў шчытавое завяршэнне. Усе аб'ёмы касцёла, акрамя вежаў, маюць самастойныя пакрыцці. Сцены ў верхняй частцы прарэзаны аконнымі праёмамі з трапецападобнымі ліштвамі (перароблены ў 2-й палове 19 ст.) і гарызантальна ашаляваны. Цокальная частка вылучана вертыкальнай шалёўкай.

Інтэр'ер трохнефавы, зальнага тыпу. Перакрыцце плоскае бэлечнае з падшыўной столлю, якая ўтварае над бакавымі нефамі шырокія падугі. Алтарная частка адкрываецца ў асноўнае памяшканне гранёным уверсе праёмам. У прасторы паміж вежамі вылучаны вузкі нартэкс з размешчанымі над ім хорамі, якія выступаюць у асноўнае памяшканне.

Касцёл — помнік драўлянага дойлідства з элементамі барока.

*У. В. Алісейчык.*

**в. Воўка, Бараўскі сельсавет**

**741. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 47 воінаў 108-й стралковай дывізіі 3-й арміі, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені — ліпені 1941 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск, побач — камень-валун, на якім дошка з надпісам-інфармацыяй.



741. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Вялікае Сяло, Старынкаўскі сельсавет**

**742. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 55 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вялікія Навасёлкі, Дзяржынскі сельсавет**

**743. МАГІЛА КАГАНЦА** Каруся (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы.

Беларускі пісьменнік, перакладчык, мастак К. Каганец (Будзімір, сапраўднае Кастравіцкі Казімір Карлавіч) нарадзіўся 29.1.1868 г. у Табольску. Сын удзельніка паўстання 1863—64 гг., сасланага ў Сібір. З 1872 г. на Беларусі, у в. Засулле (каля Стоўбцаў) і Прымагілле (каля Койданава). Вучыўся ў Мінскім гарадскім вучылішчы, Маскоўскім вучылішчы жывапісу, ваяння і дойлідства (1885—88 гг.). Працаваў у мастацкай майстэрні ў Рызе, у Мінскім таварыстве дабрачыннасці, дзесятнікам на будаўніцтве чыгункі ў Лідзе, леснікам на Ігуменшчыне, настаўнікам малявання ў Вільні, займаўся сельскай гаспадаркай. Удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху, адзін з арганізатараў Беларускай сацыялістычнай грамады. За рэвалюцыйную агітацыю сярод сялян Койданаўшчыны двойчы зняволены ў мінскую турму (1905—06, 1910—11 гг.).

Друкаваўся з 1893 г., асобныя артыкулы і легенды апублікаваў у газетах «Минский листок» і «Северо-Западный край». Проза К. Каганца — своеасаблівая апрацоўка народных легенд і гістарычных паданняў (апавяданні «Прылукі», «Навасадскае замчышча», «Вітаўка», «Засульскія турэ», «Машэка»), казак і жартаў («Журавель і чапля», «Што кажух, то не вата», «Скрыпач і ваўкі»). У бытавых замалёўках з жыцця плытнікаў і леснікоў адчуваецца сацыяльнае завастрэнне («На сплаў»), ёсць і сатырыч-

ныя матывы («Бывалы Юр у Мінску», «Ахота віцгубарнатара на вядзьмедзя»). Пісаў для дзяцей навукова-папулярныя нарысы («Вандроўка кроплі вады», «Нашы птушкі», «Год»). У паэзіі значнае месца займае паказ сялянскай працы, народнага побыту, гістарычная тэматыка («Згадка пра Галубка», «Сцяты камень», «Песня зіме», «Нёман», «Палессе»). Яна прасякнута грамадскімі, нацыянальнымі матывамі («На мабілізацыю», «Плач беларуса», «Наш покліч», «Наш сымболь»), звязана з беларускай народнай песняй («Кабзар»). Аўтар вадэвіля «Модны шляхцюк» (пастаўлены ў 1910 г. у Вільні і Полацку Першай беларускай трупай І. Буйніцкага), у якім востра высмеяў засцянковую шляхту, бытавых драм «У іншым шчасці няшчасце схавана» (напісана ў 1903 г., апублікавана ў 1919 г.) і «Двойчы прапілі» (напісана ў 1910 г., апублікавана ў 1919 г.), драм «Старажовы курган» (апублікавана ў 1919 г.), «Сын Даніла» (апублікавана ў 1920 г.). Выступаў як публіцыст, закранаў праблемы нацыянальнага адраджэння, развіцця беларускай культуры, мовы, асветы (артыкулы «Прамова», «Думка», «З рэферату на калядны сход беларускай грамады 1903 года»), у асобных творах ідэалізаваў гістарычнае мінулае Беларусі. Аўтар ці адзін з аўтараў «Беларускага лемантара, або Першай навукі чытання» (1906 г., выдадзены ананімна). На беларускую мову пераклаў навукова-папулярны нарыс «Гутаркі аб небе і зямлі», вершы польскага паэта Б. Залескага. У 1979 г. выдадзены творы пісьменніка. Вядомы яго малюнкі тушшу («За сахою», «На ростаньках», «Буслы»), алоўкам («Партрэт маці»), алеем («Зімовы пейзаж», «Тып беларуса», «Беларускі лірнік»), палітычныя карыкатуры («Пахаванне свабоды», «Віншую з Новым годам»), некалькі скульптурных работ і інш.

К. Каганец памёр 20.5.1918 г.

*Літ.:* Каспяровіч М. Карусь Каганец.— Маладняк, 1928, № 10; яго ж. Там, дзе тварыў Каганец: (Літаратурная экскурсія).— Наш край, 1928, № 10; Дробов Л. Н. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в.— Мн., 1974; Орлова М. Искусство Советской Белоруссии.— М., 1960; Германовіч І. К. Беларускія мовазнаўцы.— Мн., 1985.

**744. ПОМНІКІ ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Чырвоная зорка». На ўшанаванне памяці 78 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены 2 абеліскі.

**745. СЕЛІШЧА** (археал.) За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым высокім беразе р. Уса, злева ад дарогі ў в. Юцкі. Выявіў і абследаваў у 1983 г. В. У. Шаблюк. Знойдзена ганчарная кераміка і фрагменты зялёнай паліванай кафлі. Адносіцца да перыяду феадалізму. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**746. СЯДЗІБА** (архіт.). На высокім правым беразе р. Уса. Належала старэйшаму брату бацькі беларускага пісьменніка і мастака Каруся Каганца (Казіміра Карлавіча Кастравіцкага). За ўдзел у паўстанні 1863 г. абодва браты былі сасланы ў Сібір, сядзіба прададзена.

Захаваўся сядзібны дом, пабудаваны ў 1830—40-х гадах з цэглы. Перад домам — невялікі парк пейзажнага тыпу. Цэнтральны ўезд у сядзібу вырашаны паўкруглай брамай з 6 слупоў. Ад уязной брамы да дома вядзе алея. Ва ўсходняй частцы парку ў 2-й палове 19 ст. пастаўлены двухпавярховы мураваны будынак стайні (верхні паверх выкарыстоўваўся для захоўвання збожжа). У 1907 г. каля ракі пабудаваны двухпавярховы будынак спіртзавода, у 1912 г.— аднапавярховы жылы дом для рабочых.

Сядзібны дом. Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак накрыты вальмавым дахам. Цэнтр сіметрычнага галоўнага паўднёвага фасада вылучаны чатырохкалонным порцікам дарычнага ордэра. Бакавыя часткі фасада чляnёны на 1-м паверсе строенымі вокнамі, дэкарыраванымі пілястрамі, паўкалонамі і антаблементам. Уваходы — з боку галоўнага фасада і тарцовых тамбураў, апрацаваны пілястрамі, паўкалонамі і завершаны дарычным антаблементам.

Планіроўка мяшаная: памяшканні размешчаны анфіладай абапал калідора. У цэнтральнай частцы дома на абодвух паверхах знаходзіліся парадныя залы (у выніку перапланіроўкі зала 2-га паверха падзелена на 2 памяшканні). Паверхі звязаны бакавымі лесвіцамі.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры класіцызму. *У. В. Алісейчык.*



746. *Сядзібны дом. Фрагмент галоўнага фасада.*




746. *Сядзібны дом. План.*

**в. Гарбузы, Негарэльскі пасялковы Савет**

**747. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Беларусь». На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1981 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гаруцішкі, Путчынскі сельсавет**

**748. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 воінаў і партызан, якія загінулі ў пачатку ліпеня 1944 г. у баях пры вызваленні тэрыторыі сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Глухое Перхурава (не існуе), Дзямідавіцкі сельсавет**

**749. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Глухое Перхурава знаходзілася за 1,5 км на захад ад в. Фрунзе. 30.1.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 120 яе жыхароў, спалілі 32 двары. Вёска не адрадзілася. У 1957 г. на месцы спаленай вёскі ўстаноўлены мемарыяльны знак. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.



746. *Куток парку.*




748. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Грычына, Фаніпальскі сельсавет**

**750. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахавана каля 1500 ваеннапалонных, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**751. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 356 ваеннапалонных, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**752. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**752а.** Могільнік-1. У вёсцы, на могілках. Захавалася 18 курганоў дыяметрам 5—12 м, вышынёй 0,5—1,7 м. Адзін насып вышынёй 2,5 м, дыяметрам 14 м. Адкрыў і абследаваў у 1930 г. А. Рынейскі, які налічыў тут 21 насып. Абследаваў у 1976 і 1979 гг. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**752б.** Могільнік-2. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, за 0,2 км злева ад дарогі на в. Цімошкі, у полі. 7 насыпаў дыяметрам 10—19 м, вышынёй 2—3,2 м. 2 моцна пашкоджаныя курганы вышынёй 1,3 і 1,5 м. Адкрыў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1976 г. і 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**752в.** Могільнік-3. На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, з правага боку ад дарогі на в. Марыпаль. 2 насыпы вышынёй 1,6 і 3 м, дыяметрам 10 і 17 м. Адкрыў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1976, 1979 гг. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**752г.** Могільнік-4. За 0,3 км справа ад дарогі ў в. Віцкаўшчына. 3 насыпы, адзін з іх прадаўгаваты. Дыяметр 2 круглых курганоў 6,5 і 12,5 м, вышыня адпаведна 1,5 і 1,6 м. Прадаўгаваты насып памерам 21,5×9,5×2—2,2 м. Адкрыў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1976 г. і 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**752д.** Могільнік-5. За 640 м злева ад дарогі з в. Грычына ў в. Фаніпаль, у лесе. 3 насыпы дыяметрам 11—13,5 м, вышынёй каля 2,5 м. Адкрыў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1976—78 гг. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**752е.** Могільнік-6. За 1,7 км на паўночны захад ад вёскі, за 750 м на поўнач ад дарогі на в. Фаніпаль, ва ўрочышчы Пакацічы. 19 насыпаў размешчаны 2 групамі за 36 м адна ад адной. Паўднёвая група складаецца з 12 курганоў круглай, авальнай і прадаўгаватай формы. Круглыя насыпы дыяметрам 3,5—8 м, вышынёй 0,5—1,5 м. Памеры прадаўгаватых і авальных 7,5×6,4 м, 13,6×11 м, 17×6,5 м пры вышыні 1—2,2 м. У паўночнай групе 7 круглых і амаль чатырохвугольных насыпаў. Дыяметр круглых 7—11,5 м, памер чатырохвугольных 14,5×12 м пры вышыні 1,4—2,5 м. Адкрыў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1976 г. і 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся. У 1986 г. 3 насыпы раскапаў Ю. А. Заяц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку. Знойдзены шкляныя і сердалікавыя пацеркі. Датуецца канцом 10—11 ст. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч: (Матэрыялы да археалагічнай карты).— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3; Заяц Ю. А. Работы в окрестностях Заславля и Дзержинска.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978. *Ю. А. Заяц.*

**753. МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦА** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Чырвонаармеец загінуў у 1919 г. у барацьбе за Савецкую ўладу. Вакол магілы металічная агароджа.

**754. ПОМНІКІ ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 65 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены 2 абеліскі з імёнамі загінуўшых.

**в. Дабрынёва, цэнтр сельсавета**

**755. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 70 воінаў і партызан, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі сельсавета і ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад акупантаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.



754. *Помнікі землякам.*

**756. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 13 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — капітан А. М. Дзяругін. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**757. КАПЛІЦА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1-й палове 19 ст. з дрэва.

Складаецца з прамавугольных у плане асноўнага аб'ёму і алтарнай часткі, накрытых агульным гонтавым дахам. З боку алтара прыбудавана рызніца. З заходняга боку над асноўным аб'ёмам надбудавана двух'ярусная (чацвярык на чацверыку) вежазваніца, завершаная шатром. Сцены капліцы вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Аконныя і дзвярныя праёмы — лучковыя. Інтэр'ер зальны. Перакрыцце плоскае бэлечнае, з падшыўной столлю.

Капліца — помнік народнага драўлянага дойлідства. *У. В. Алісейчык.*

**758. МАГІЛА БАБКА** Канстанціна Адамавіча (гіст.). На могілках. Дырэктар Дабрынёўскай сярэдняй школы К. А. Бабок закатаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў лістападзе 1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.




757. *Капліца. План.*



759. *Помнік землякам.*

**759. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 105 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Данілавічы, Дабрынёўскі сельсавет**

**760. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны атрада «25 гадоў Кастрычніка» 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**761. МАГІЛА ПЕКАРЭВІЧА** Фёдара Іванавіча (гіст.). На могілках. Першы старшыня Уздзенскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта Ф. І. Пекарэвіч закатаваны польскімі акупантамі ў 1919 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**762. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 99 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дзягільна, Дзяржынскі сельсавет**

**763. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 32 воіны, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1941 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дзямідавічы, цэнтр сельсавета**

**764. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 33 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1941 г. і ў ліпені 1944 г. пры вызваленні тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Журавінка, Бараўскі сельсавет**

**765. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 26 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Забалацце, Станькаўскі сельсавет**

**766. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 19 жыхароў вёсак Забалацце і Коскі, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**767. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. На ўшанаванне памяці 70 жыхароў, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Зубрэвічы, Негарэльскі пасялковы Савет**

**768. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Расія». На ўшанаванне памяці 51 земляка, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1981 г. пастаўлены абеліск.

**в. Кавярляны, Дзямідавіцкі сельсавет**

**769. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля бальніцы. Пахавана 86 воінаў, якія загінулі ў чэрвені — ліпені 1944 г. у баях за вызваленне тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Калоднікі, Негарэльскі пасялковы Савет**

**770. ПОМНІКІ ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 27 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлены 2 абеліскі.

**в. Каменка, Путчынскі сельсавет**

**771. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА, КУРГАН** (археал.).

**771а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Замак. За 0,4—0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на ўзвышшы высокага берага аднаго з прытокаў р. Уса. З заходняга і ўсходняга бакоў абмежавана ярамі. Пляцоўка амаль круглая, памерам 27×29 м, размыта з боку рэчкі. Утвораны размывам яр дзеліць пляцоўку на 2 мысападобныя часткі. З боку поля ўмацавана падкоўпападобным валам вышынёй 3—4,5 м, шырынёй каля 12 м (пашкоджаны ямамі). Схілы гарадзішча, частка пляцоўкі (разам з валам) зараслі лесам і кустамі. Адкрыў і даследаваў у 1928 г. А. М. Ляўданскі, даследаваў у 1961 г. А. Г. Мітрафанаў на плошчы 100 м². Знойдзены каменныя вымасткі, рэшткі адной з камер доўгага жытла, шлакі, каменная зерняцёрка, гліняныя праслiцы, косці жывёл, ляпная і ганчарная кераміка. Абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і ў Дзяржаўным музеі БССР.

**771б.** Селішча. Побач з гарадзішчам. Плошча каля 2,5 га. Адкрыў і абследаваў у 1928 г. А. М. Ляўданскі, абследавалі ў 1971 г. Л. Д. Побаль, у 1979 г. Ю. А. Заяц. Сабрана ляпная кераміка культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны і ганчарная эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**771в.** Курган. На краі селішча, за 150 м злева ад дарогі ў в. Александрова. Вышыня каля 2 м, даўжыня 10 м, шырыня 8 м. Раней тут было 7 насыпаў, 4 з іх раскапаны ў 1928 г. А. М. Ляўданскім. Пахавальны абрад — трупаспаленне ў насыпе. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

*Літ.:* Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду па Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1.

*Ю. А. Заяц.*



771а. *Гарадзішча.*

**в. Карачуны, Старынкаўскі сельсавет**

**772. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 3 члены сям'і партызана М. А. Гармазы, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Клыпаўшчына, Дзяржынскі сельсавет**

**773. СЕЛІШЧА** (археал.) За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе р. Ператуць. Плошча 1 га. Абследаваў у 1983 г. В. У. Шаблюк. Культурны пласт 0,3 м. Знойдзены фрагменты ганчарнага посуду, шкляных вырабаў, гліняная абмазка, абпаленыя камяні, косці жывёл, абломак тэракотавай рэльефнай кафлі. Адносіцца да эпохі феадалізму. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**774. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе р. Ператуць. Плошча больш за 1000 м². Выявіў і абследаваў у 1983 г. В. У. Шаблюк. У культурным пласце 0,4—0,5 м знойдзены абпаленыя камяні, цэгла, гліняная абмазка, фрагменты глінянага і шклянога посуду, тэракотавая рэльефная кафля, косці жывёл. Адносіцца да 16—17 стагоддзяў. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Крыловічы, Дзяржынскі сельсавет**

**775. РАДЗІМА КРЫЛОВІЧА** Уладзіміра Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі акцёр, адзін з заснавальнікаў беларускага савецкага тэатра, заслужаны артыст БССР (1931 г.) У. М. Крыловіч нарадзіўся 20.10.1895 г. у сялянскай сям'і. Удзельнік Грамадзянскай вайны. З 1915 г. у мінскіх аматарскіх калектывах. З 1921 г. акцёр БДТ (тэатр імя Я. Купалы). Ранняму перыяду творчасці К. уласціва яркая рамантычная афарбоўка роляў: Машэка, Кастусь Каліноўскі (аднайменныя п'есы Е. Міровіча). Па-майстэрску сыграў ролі ў нацыянальнай драматургіі: Сцяпан Крыніцкі («Паўлінка» Я. Купалы), Кручкоў («Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча), Ваявода, Гракові́ч («Каваль-Ваявода», «Перамога» Е. Міровіча), Карнейчык («Канец дружбы» К. Крапівы), Мароз («Гута» Р. Кобеца) і інш. Стварыў на беларускай сцэне вобразы сваіх сучаснікаў, увасобіўшы народны гераічны характар: Шагабутдзінаў («Мяцеж» паводле Дз. Фурманава), Вяршынін («Бранепоезд 14—69» У. Іванава), Бераст («Платон Крэчат» А. Карнейчука), Чадаў («Жыццё кліча» У. Біль-Белацаркоўскага) і інш. У характарных, камедыйных ролях — майстар імправізацыі і вострага сцэнічнага малюнка: Тарквіній («Жрэц Тарквіній» С. Паліванава), Муфці («Мешчанін у дваранах» Мальера) і інш. Выканаў галоўную ролю ў беларускім фільме «Двойчы народжаны». Член ЦВК БССР з 1935 г.

Памёр 23.10.1937 г. Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках. Яго імем названы вуліца і 2 завулкі ў Мінску.

*Літ.:* Есакоў А. Уладзімір Крыловіч.— Мн., 1956; Няфёд У. І. Гісторыя беларускага тэатра.— Мн., 1982.
*І. М. Гатоўчыц.*

**в. Кукшавічы, Дзяржынскі сельсавет**

**776. МАГІЛА КУЧУКА** Пятра Мікалаевіча (гіст.). На могілках. Партызан П. М. Кучук загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў у 1943 г. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Курганне, Рубілкаўскі сельсавет**

**777. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ, КУРГАН** (археал.).

**777а.** Могільнік-1. Каля паўднёва-ўсходняй ускраіны вёскі, на могілках. 4 насыпы вышынёй 1,25—1,4 м, дыяметрам 7,5—10 м. Адкрыў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1976 г. і 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**777б.** Могільнік-2. У паўночнай частцы вёскі, на прысядзібных участках. 3 насыпы, выцягнутыя па лініі поўнач — поўдзень, дыяметрам 5,5—7 м, вышынёй 0,5—1,2 м. Адкрыў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1976 г. і 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**777в.** Курган. За 60 м на поўдзень ад могільніка-2. Дыяметр 7 м, вышыня 0,6 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. Ю. А. Заяц.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч: (Матэрыялы да археалагічнай карты).— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3; Заяц Ю. А. Работы в окрестностях Заславля и Дзержинска.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978. *Ю. А. Заяц.*

**в. Леніна, Ляхавіцкі сельсавет**

**778. КУРГАН** (археал.). Мясцовая назва Шведская Магіла. У паўночнай частцы вёскі, на тэрыторыі старых могілак. Прамавугольны насып памерам 8×8 м, вышынёй 1 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. Ю. А. Заяц.

**в. Літавец (не існуе), Дабрынёўскі сельсавет**

**779. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Літавец знаходзілася за 7 км на захад ад в. Радзіма. 14.1.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 196 яе жыхароў, спалілі 42 двары. Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.



782. *Помнік на брацкай магіле савецкага воіна і партызан.*

**в. Ліўе, Негарэльскі пасялковы Савет**

**780. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 4 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лукашына, Рубілкаўскі сельсавет**

**781. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі, на старых могілках. 2 насыпы вышынёй 1,3 і 1,1 м, дыяметрам 11,5 і 10 м. Адкрыў у 1976 г. і абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Лучыцы, Бараўскі сельсавет**

**782. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны воін (прозвішча невядома), які загінуў у баі супраць акупантаў у ліпені 1944 г., камандзір партызанскага атрада імя С. А. Рыжака брыгады імя І. В. Сталіна С. Ф. Юховіч, намеснік камандзіра атрада І. С. Ірхін і 10 партызан брыгады, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1957 г. на магіле пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**783. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахавана сям'я партызана П. І. Мялешкі (5 чалавек), расстраляная нямецка-фашысцкімі захопнікамі 3.2.1943 г. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Любажанка (не існуе), Дабрынёўскі сельсавет**

**784. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Любажанка знаходзілася за 1 км на захад ад в. Радзіма. 8.1. 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 42 яе жыхары, спалілі 12 двароў. Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Ляхавічы, цэнтр сельсавета**

**785. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 9 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**786. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 21 аднавяскоўца, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1957 г. пастаўлены абеліск.

**в. Малая Шатаноўшчына, Ляхавіцкі сельсавет**

**787. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 24 жыхароў вёскі, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Малое Гарохавішча, Дабрынёўскі сельсавет**

**788. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1967 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**в. Масцішча, Негарэльскі пасялковы Савет**

**789. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 7 жыхароў вёскі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Машніца, Дзямідавіцкі сельсавет**

**790. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі, у полі, на правым беразе безназоўнага ручая, што ўпадае ў р. Уса. 5 насыпаў дыяметрам 7,5 м, вышынёй каля 2 м. Вяршыні плоскія. Адзін курган пашкоджаны. Вядомы з 2-й паловы 19 ст. Абследаваў у 1985 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Машчонае, Фаніпальскі сельсавет**

**791. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым высокім беразе р. Уса. Плошча каля 500 м². Выявіў і абследаваў у 1983 г. В. У. Шаблюк. У культурным пласце 0,2 м знойдзены фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі, глінянай абмазкі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Мелькавічы, Негарэльскі пасялковы Савет**

**792. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 воінаў, якія загінулі ў чэрвені — ліпені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**в. Мігдалавічы, Станькаўскі сельсавет**

**793. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 50 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Мікулічы, Негарэльскі пасялковы Савет**

**794. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 24 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Навасады, Дзямідавіцкі сельсавет**

**795. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧЫ, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**795а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Замак. За 0,4 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Слаўка (прыток р. Уса). Займае мыс, утвораны берагам ракі і глыбокім ярам. Пляцоўка авальная, памерам 125×53 м. З боку поля ўмацавана валам вышынёй 1,8—2 м і ровам. Абследавалі ў 1928 г. А. М. Ляўданскі і М. М. Канвісараў. Культурны пласт 0,2—0,35 м. У траншэях і шурфах знойдзена ляпная штрыхаваная і ганчарная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.



795д. *Курганны могільнік-2.*

**795б.** Селішча-1. Прымыкае да гарадзішча з усходняга боку, на левым беразе р. Слаўка. Плошча 1,5 га. Абследаваў у 1928 г. А. М. Ляўданскі, даследаваў у 1960 г. Э. М. Загарульскі. Культурны пласт — 0,2—0,3 м. Знойдзена ганчарная кераміка. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

**795в.** Селішча-2. Насупраць гарадзішча. На правым беразе р. Слаўка. Абследаваў у 1928 г. А. М. Ляўданскі. Знойдзены фрагменты керамікі.

**795г.** Курганны могільнік-1. За 0,3—0,4 км на ўсход ад гарадзішча, справа ад дарогі з в. Юцкі ў в. Крыштафова. 95 насыпаў, размешчаных 2 групамі. Вышыня 1,5—2 м, дыяметр 8—10 м. Раскопкі ў 1928 г. праводзіў А. М. Ляўданскі. У 5 насыпах прасочаны пахавальны абрад трупаспалення, у адным з іх было выяўлена пахаванне па абраду трупапалажэння. Знойдзена ганчарная кераміка. Датуецца 2-й паловай — канцом 10 ст. н. э. і адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

**795д.** Курганны могільнік-2. За 0,6—0,7 км на паўночны ўсход ад гарадзішча, справа ад дарогі ў в. Піяніна, ва ўрочышчы Кернаж. 20 насыпаў вышынёй 1,8—2 м, дыяметрам 8—9 м. У 1928 г. тры насыпы раскапаў А. М. Ляўданскі, у 1960 г. адзін курган — Э. М. Загарульскі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку. Знойдзены фрагменты ганчарнага посуду, жалезны серп. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы раскопак могільнікаў захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР. У 1979, 1980, 1983 гг. гарадзішча, селішчы і курганныя могільнікі абследаваў Ю. А. Заяц.

*Літ.:* Дубінскі С. А. Археалагічная праца на Беларусі за 1919—1928 гг.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1.

*Ю. А. Заяц.*

**в. Нарэйкі, Ляхавіцкі сельсавет**

**796. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 13 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

## VII. НЕГАРЭЛАЕ

Гарадскі пасёлак, на р. Ператуць, за 10 км на паўднёвы захад ад Дзяржынска, 48 км ад Мінска. Чыгуначная станцыя на лініі Мінск — Баранавічы. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з

Мінскам, Дзяржынскам, Баранавічамі, Уздой, Стоўбцамі.

Вядома з 16 ст. як паштовая і перасадачная станцыя на конным тракце Мінск — Навагрудак. Уваходзіла ў Мінскі павет Мінскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. Належала Радзівілам. З 1793 г. у складзе Расійскай імперыі, вёска Койданаўскай воласці Мінскага павета. З 1831 г. уладанне Ю. Абламовіча, з 1879 г.— Э. Чапскага. У 1871 г. праз Негарэлае прайшла лінія Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. У канцы 19 ст. тут былі 2 вадзяныя млыны, фабрыка сыроў. У пачатку 20 ст. на станцыі Негарэлае штогод грузілі больш за 200 тыс. пудоў збожжа, дроў і лесаматэрыялаў.

Працоўныя Негарэлага ўдзельнічалі ў Рэвалюцыі 1905—07 гг. Летам 1915 г. тут адбыліся рэвалюцыйныя хваляванні салдат Заходняга фронту. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў сярэдзіне лістапада 1917 г. У лютым — снежні 1918 г. акупіравана нямецкімі, у ліпені 1919 — ліпені 1920 гг.— польскімі войскамі. У 1921—39 гг. савецкая пагранічная чыгуначная станцыя. З 1924 г. у Койданаўскім (з 1932 Дзяржынскім) р-не, з 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. У Вялікую Айчынную вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Тут дзейнічала група Дзяржынскага камуністычнага падполля.

Негарэлае забудоўваецца паводле генплана 1972 г. (Мінскі філіял Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва). Жылая зона (3 жылыя масівы) развіваецца паміж аўтамабільнай і чыгуначнай магістралямі. Забудова пераважна аднапавярховая сядзібнага тыпу, з квартальнай планіроўкай. Прадугледжваецца будаўніцтва 2—3-павярховых і катэджавага тыпу мураваных жылых дамоў. Адміністрацыйна-грамадскі і культурны цэнтр размешчаны на скрыжаванні вуліцы Ленінскай (забудавана 1—3-павярховымі дамамі) і Вакзальнага завулка, сфарміраваны будынкамі выканкома пасялковага Савета народных дэпутатаў, Дома культуры, кінатэатра, музычнай школы і інш. За 3 км на паўднёвы захад ад Негарэлага знаходзіцца рабочы пасёлак «Энергетык», які з'яўляецца часткай гарадскога пасёлка. Яго забудову фарміруюць 5-павярховыя мураваныя жылыя дамы.

У Негарэлым воскаперапрацоўчы і вуллёвы завод, вытворча-рамонтная база трэста «Захадэлектрасеткабуд», лясгас, камбінат бытавога абслугоўвання. Працуюць сярэдняя, васьмігадовая і музычная школы, 2 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца. Помнікі: на брацкіх магілах савецкіх воінаў; на магіле савецкіх ваеннапалонных; землякам.

Зоны адпачынку — берагі р. Перацуць і штучнага вадасховішча ў рабочым пасёлку «Энергетык».

*Літ.:* Валаханович А. И., Кулагин А. Н. Дзержинщина: Прошлое и настоящее.— Мн., 1986.

*А. І. Валахановіч, Т. В. Габрусь.*

**797. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Ленінская, у скверы. Пахаваны 74 воіны, якія загінулі ў чэрвені — пачатку ліпеня 1944 г. у баях за вызваленне пасёлка і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**798. ЖЫЛЫЯ ДАМЫ** (архіт.). У цэнтры пасёлка «Энергетык». Пабудаваны ў 1893—99 г. з цэглы па тыпавой планіровачнай схеме. Размешчаны перпендыкулярна адзін да аднаго.

Аднапавярховыя прамавугольныя ў плане будынкі на бутавым фундаменце накрыты двухсхільнымі дахамі. Спланаваны па секцыйнай схеме (двухбаковыя). Франтальныя фасады рытмічна члянёны лучковымі аконнымі праёмамі, завершанымі цаглянымі клінападобнымі аркамі і сандрыкамі. Вуглы будынка раскрапаваны лапаткамі. Уваходы ў кватэры зроблены ў выглядзе лучковых праёмаў. Кожная секцыя разлічана на 2 двухпакаёвыя кватэры. Пад будынкамі падвалы.

Жылыя дамы — прыклад «цаглянай» архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**799. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). Вул. Ленінская, каля васьмігадовай школы. Пахавана больш за 1500 ваеннапалонных, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—43 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**800. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГОРКАМУ** Максіму (гіст.). На будынку чыгуначнага вакзала. Устаноўлена ў 1968 г. у сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння М. Горкага і ў памяць яго сустрэч з працоўнымі Беларусі ў 1928, 1929, 1931, 1932 гг., калі пісьменнік праездам з Заходняй Еўропы, дзе быў на лячэнні, у Маскву часова спыняўся на станцыі Негарэлае.

**801. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Ленінская, каля будынка праўлення калгаса «Чырвоны сцяг». На ўшанаванне памяці 30 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены 2 абеліскі.

**в. Новая Рудзіца, Бараўскі сельсавет**

**802. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 удзельнікаў Дзяржынскага антыфашысцкага падполля, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**803. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1941 г., і 14 мірных жыхароў, расстраляных гітлераўцамі ў 1942 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.




805. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**804. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЮХОВІЧУ** Сямёну Фамічу (гіст.). На доме № 7. Устаноўлена ў 1975 г. на ўшанаванне памяці С. Ф. Юховіча — арганізатара ў Вялікую Айчынную вайну Бараўскай партыйна-камсамольскай падпольнай групы, члена Дзяржынскага антыфашысцкага камітэта «Смерць фашызму», камандзіра (з кастрычніка 1943 г.) партызанскага атрада імя С. А. Рыжака. Загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у лютым 1944 г.

**в. Пабеднае, Рубілкаўскі сельсавет**

**805. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1941 г. У 1968 г. устаноўлена надмагільная пліта.

**в. Павуссе, Дзямідавіцкі сельсавет**

**806. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Уса. 6 насыпаў вышынёй 0,6—1 м, дыяметрам 3—5 м. Выявіў у 1980 г. Ю. А. Заяц, абследаваў у 1983 г. В. У. Шаблюк. У 1986 г. 2 курганы раскапаў Ю. А. Заяц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку.

**в. Павялкова, Фаніпальскі сельсавет**

**807. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне па-

мяці 37 жыхароў вёскі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Паланевічы, Бараўскі сельсавет**

**808. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 96 воінаў, якія загінулі 29.6. 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Паўлаўшчына, Негарэльскі пасялковы Савет**

**809. МАГІЛА АКСЯНЧУКА** Пятра Іванавіча (гіст.). Ва ўрочышчы Смалярня. Партызан атрада 125-га імя І. В. Сталіна П. І. Аксянчук загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў 17.10.1942 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**810. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 21 аднавяскоўца, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены 2 абеліскі.

**в. Паўлюці, Старынкаўскі сельсавет**

**811. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 2 партызанскія сям'і (7 чалавек), спаленыя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў маі 1944 г. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Перацяткі, Путчынскі сельсавет**

**812. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**812а.** Могільнік-1. Мясцовая назва Шведскія Магілы. За 0,3—0,9 км на ўсход ад паўднёвай ускраіны вёскі. 3 насыпы дыяметрам 9—10 м, вышынёй 1,3—1,7 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**812б.** Могільнік-2. За 50 м на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Ліпы. 2 насыпы, адзін з іх прадаўгаваты. Памер прадаўгаватага 7×10 м, вышыня 0,8 м, дыяметр круглага 7 м, вышыня 0,8 м. Насыпы зараслі ліпамі і моцна пашкоджаны. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.
*Ю. А. Заяц.*

**в. Петкавічы, Дзяржынскі сельсавет**

**813. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля чыгуначнага пункта Станькава. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Петрашэвічы, Бараўскі сельсавет**

**814. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1942 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**815. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 жыхары вёскі, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі 5.7.1942 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Плоскае, Ляхавіцкі сельсавет**

**816. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 12 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлена стэла.

**в. Путчына, цэнтр сельсавета**

**817. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**817а.** Могільнік-1. Мясцовая назва Татарскія Магілы. За 1,2 км на поўнач ад усходняй ускраіны вёскі, ва ўрочышчы Курган. 3 насыпы: 2 курганы вышынёй 1,7—2 м, дыяметрам ад 9,5 да 10,5 м, трэці прадаўгаваты памерам 9,5×6,8 м, вышынёй 2 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**817б.** Могільнік-2. За 2 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Стэцкі Бярэзнік. 2 паўсферычныя курганы дыяметрам 8,5 і 13,5 м, вышынёй 1,4 і 2 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**817в.** Могільнік-3. За 2,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля ўрочышча Маргі, у лесе. 66 насыпаў вышынёй 0,5—1,6 м, дыяметрам 5—10 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц, у 1980 г. раскапаў адзін насып. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў падкурганнай яме. Знойдзены ганчарны посуд, скроневае кольца. У насыпе прасочана кальцавая агароджа з камянёў. Датуецца 11 ст. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Ю. А. Заяц.*

**в. Пярхурава, Дзямідавіцкі сельсавет**

**818. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад паўднёва-заходняй ускраіны вёскі. 6 насыпаў дыяметрам 9—12 м, вышынёй 1,2—2,5 м. Два насыпы пашкоджаны ямамі. Адкрыў у 1980 г. і абследаваў у 1983 г. Ю. А. Заяц.

**в. Радзіма, Дабрынёўскі сельсавет**

**819. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 7 км на захад ад вёскі, у лесе. Пахаваны камандзір асобнага партызанскага атрада «Баявы» імя Дунаева Б. В. Жаўрыд і начальнік дыверсійнай групы М. Запольскі, якія загінулі пры выкананні баявога задання ў снежні 1942 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**820. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі 3.7.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.



822. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**821. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**821а.** Могільнік-1. За 0,6 км на поўдзень ад вёскі. 2 насыпы дыяметрам 12 і 4 м, вышынёй адпаведна 1,8 і 0,5 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**821б.** Могільнік-2. За 5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Таўстуха. 3 насыпы вышынёй 1,3—1,6 м, дыяметрам 10—12 м. Адкрыў у 1977 г. і абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся. *Ю. А. Заяц.*

**822. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі. Пахаваны 42 жыхары в. Любажанкі, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі 8.1.1943 г. (гл. артыкул № 784 «Месца спаленай вёскі»). У 1957 г. на магіле пастаўлена стэла.

**823. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 7 км на захад ад вёскі. Пахаваны 196 жыхароў в. Літавец, загубленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі 14.1.1943 г. (гл. артыкул № 779 «Месца спаленай вёскі»). У 1966 г. устаноўлена надмагільная пліта.

**в. Розаўка, Дзяржынскі сельсавет**

**824. МАГІЛА КРЫЛОВІЧА** Антона Антонавіча (гіст.). На могілках. Партызан А. А. Крыловіч загінуў у лістападзе 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Рубілкі, цэнтр сельсавета

**825. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 87 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені — ліпені 1944 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**826. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**827. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 мірных жыхароў вёскі, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1958 г. устаноўлена надмагільная пліта.

в. Ружампаль, Станькаўскі сельсавет

**828. КУРГАН** (археал.). За 0,4 км на поўнач ад вёскі, у полі паміж в. Ружампаль і Бярэжжа. Вышыня 1 м, даўжыня 8,5 м, шырыня 7 м. Адкрыў у 1976 г. і абследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц.

в. Садкаўшчына, Бараўскі сельсавет

**829. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 96 жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 2.2. 1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Скварцы Дабрынёўскі сельсавет

**830. КУРГАН** (археал.). Мясцовая назва Шведская Магіла. На заходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Жэсць (прыток р. Уса). Прадаўгаваты насып памерам 21×9 м, вышынёй 0,9—1,1 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. Ю. А. Заяц.

в. Скірмантава, Путчынскі сельсавет

**831. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 144 жыхары вёскі, закатаваныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі 30.7.1943 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**832. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1984 г. пастаўлены абеліск.

в. Слабодка, Фаніпальскі сельсавет

**833. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**833а.** Курганны могільнік. За 150 м на поўнач ад вёскі, у полі. З насыпы дыяметрам 3—14 м, вышынёй 0,4—2,5 м. Два курганы пашкоджаны. Абследаваў у 1980 г. і 1983 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**833б.** Курган. За 0,1 км на поўдзень ад могільніка, на могілках. Дыяметр 13,5 м, вышыня 1,8 м. У заходняй частцы пашкоджаны глыбокай ямай. Абследаваў у 1983 г. Ю. А. Заяц.

*Літ.:* Заяц Ю. А. Работы Заславльского отряда.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981.

**834. РАДЗІМА ЛЕАНОВІЧА** Івана Сямёнавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. С. Леановіч нарадзіўся 3.7.1920 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Скончыў у 1938 г. Мінскі аэраклуб, у 1939 г. Харкаўскую авіяшколу, у 1941 г. Краснадарскую авіяшколу пілотаў. Працаваў лётчыкам-інструктарам у Сталінградскім абласным аэраклубе ў 1939—40 гг. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У 1941—42 гг. інструктар у Краснадарскай авіяшколе пілотаў. З 1942 г. на Ленінградскім, Волхаўскім і Карэльскім франтах. Пілот, камандзір звяна, намеснік камандзіра і адначасова штурман эскадрыллі знішчальнага авіяпалка старшы лейтэнант І. С. Леановіч зрабіў 340 баявых вылетаў, удзельнічаў у 51 паветраным баі, збіў 28 самалётаў праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 2.11.1944 г. Трагічна загінуў 12.11.1946 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Буров А. В. Твои герои, Ленинград.— 2 изд.— Л., 1970.

в. Станькава, цэнтр сельсавета

**835. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 35 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1918 г. у барацьбе за ўстанаўленне Савецкай улады і ў 1920 г. у баях супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**836. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы-інтэрната. У 4 магілах пахаваны 41 воін, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у чэрвені — ліпені 1944 г., а таксама генералмаёр танкавых войск В. І. Іваноў, што загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у чэрвені 1941 г. У 1957 г. пастаўлены помнік — мармуровая пліта на пастаменце з іменамі загінуўшых.



836. *Помнік на брацкіх магілах савецкіх воінаў.*




837. *Помнік на магіле Марата Казея.*

**837. МАГІЛА КАЗЕЯ** Марата (гіст.). У скверы.

Герой Савецкага Саюза Марат (Марат Іванавіч) Казей нарадзіўся 29.10. 1929 г. у в. Станькава ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў Станькаўскай школе. З лістапада 1942 г. у партызанскім атрадзе імя 25-годдзя Кастрычніка, потым разведчык 200-й партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага. 9.1. 1943 г. удзельнічаў у баях каля в. Станькава, у снежні 1943 г. у баі на Слуцкай шашы здабыў каштоўныя дакументы — ваенныя карты і планы нямецкага камандавання. 11.5.1944 г. быў накіраваны ў разведку ў в. Харомiцкія Уздзенскага р-на. Каля вёскі быў акружаны карнікамі. Юны патрыёт адстрэльваўся да апошняга патрона, потым гранатай падарваў сябе і гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 8.5.1965 г. У 1959 г. на сродкі, сабраныя піянерамі рэспублікі, у Мінску пастаўлены помнік М. Казею (скульпт. С. Селіханаў), у 1965 г. у в. Харомiцкія — стэла, у в. Станькава на доме, дзе ён нарадзіўся і жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка. Імем героя названы вуліцы, школы, піянерскія дружыны.

У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Морозов В. Н. В разведку шел мальчишка.— Мн., 1965. *М. М. Казлоўская.*

**838. МАГІЛА СЦЯПАНАВА** Міхаіла Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан М. І. Сцяпанаў загінуў у 1943 г.



839. *Дом, у якім нарадзіўся і жыў Марат Казей.*

у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**839. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЗЕЮ** Марату (гіст.). Вул. М. Казея, 5. Устаноўлена ў 1979 г. на доме, дзе ён нарадзіўся і жыў (гл. таксама артыкул № 837 «Магіла Казея Марата»).

**840. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЎГОНАР ДЗЯРЖЫНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). Устаноўлена ў 1975 г. на будынку выканкома сельсавета.

Дзяржынскі падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў з кастрычніка 1942 г. да 4.7.1944 г. Кіраваў работай камуністычнага падполля, партызанскім рухам, вёў палітычную, арганізатарскую работу сярод насельніцтва. Друкаваны орган — газета «Ленінская праўда». З кастрычніка 1942 г. да 4.7.1944 г. базіраваўся ў Станькаўскім лесе. Сакратары В. Л. Герасімовіч (кастрычнік 1942—7.4.1943 г.), П. Р. Мартысюк (7.4.1943 г.— 4.7.1944 г.).

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975.

**841. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 46 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**842. СЯДЗІБНА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ** (архіт.). У цэнтральнай частцы вёскі. Сфарміраваны ў 2-й палове 19 ст. Размешчаны на прамавугольным участку плошчай каля 15 га. Рэльеф раўнінны са схілам у бок штучнага вадаёма, які абмяжоўвае ўчастак з паўднёвага боку. З захаду мяжа праходзіць па галоўнай вуліцы вёскі. Уключаў палац, 2 жылыя дамы, гаспадарчыя пабудовы, парк. Захаваліся будынкі флігеля, бібліятэкі, жылы дом, усходняя брама, альтанка, некаторыя гаспадарчыя пабудовы. Цяпер выкарыстоўваецца школай-інтэрнатам.

Палац. Пабудаваны ў 1880-я гады. Двухпавярховы П-падобны ў плане мураваны будынак (не захаваўся). Падземным калідорам быў звязаны з бакавым флігелем. З паўночнага боку палаца пабудаваны павільён, у якім размяшчалася бібліятэка. У палацы быў збор жывапісу і графікі, калекцыя манет.

Флігель. Пабудаваны ў 1880-я гады. Будынак аднапавярховы, прамавугольны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Вуглы і цокаль руставаныя. Фасады рытмічна расчлянёны лучковымі вокнамі, дэкарыраванымі замковым каменем. Сцены апяразаны спрошчаным антаблементам з сухарыкамі.

Будынак бібліятэкі. Пабудаваны ў 1880-я гады з цэглы. Двухпавярховы квадратны ў плане павільён з вуглавымі вежамі нагадвае сярэдневяковы замак у мініяцюры. Вежы завершаны шатровымі галоўкамі, упрыгожаны аркатурнымі паясамі. Сцены бакавых і тыльнага фасадаў будынка маюць завяршэнні ў выглядзе шчытоў. Вокны прамавугольныя на 1-м паверсе і стральчатыя на 2-м, аформлены прафіляванымі сандрыкамі. Унутраная прастора кожнага з паверхаў — адно памяшканне, пазней падзеленае на 2 пакоі. Цяпер тут музей М. Казея.

Будынак бібліятэкі — помнік архітэктуры неаготыкі.

Жылы дом. Пабудаваны каля 1900 г. з цэглы. Будынак Г-падобны ў плане, з кароткім двухпавярховым і



842. *Флігель.*




842. *Флігель. План.*



842. *Будынак былой бібліятэкі.*




842. *Будынак былой бібліятэкі. План.*

прадаўгаватым аднапавярховым крыламі. Тарцовыя часткі двухпавярховага аб'ёму завершаны ступеньчатымі шчытамі. Паверхі аддзелены карнізным поясам. Вуглы руставаныя. Вокны 1-га паверха стральчатыя, 2-га — прамавугольныя. Вылучаецца паўднёвы фасад аднапавярховага аб'ёму, у дэкоры якога выкарыстаны пілястры, прафіляваныя ліштвы прамавугольных аконных праёмаў, сандрыкі. Планіроўка калідорная.

Дом — помнік архітэктуры неаготыкі.

Парк. Створаны ў сярэдзіне 19 ст. Пейзажнага тыпу. У яго прасторавай кампазіцыі асаблівая ўвага звернута на раскрыццё перспектывы ў бок вадаёма. У масіве дрэў пракладзена шырокая алея, якая па схіле вядзе да 2 астравоў. На заходнім востраве стаіць альтанка — васьмікалонная ратонда. Замыкала перспектыву Мікалаеў-

ская царква (1858 г., асталіся руіны). У парку растуць елка, туя заходняя, конскі каштан, хвоя, лістоўніца, ёсць белая таполя. Уздоўж дарогі, што праз парк вядзе ад галоўнага ўвахода да ўсходняй брамы, высаджаны арэх, піхта, хвоя, дуб і інш.

Усходняя брама. Пабудавана ў 1880—90-я гады з цэглы. Трохпралётная стральчатая арка з павышанай цэнтральнай часткай, завершанай ступеньчатым шчытом. Умацавана контрфорсамі. Да ўсходняга боку брамы прымыкае вартоўня — невялікі аб'ём, накрыты двухсхільным дахам. Сцены апрацаваны плоскімі арачнымі нішамі. Брама — прыклад неагатычнай архітэктуры малых форм.

Ансамбль — помнік сядзібна-паркавага мастацтва з элементамі архітэктуры неаготыкі і эклектыкі.

*У. В. Алісейчык.*

**в. Старая Рудзіца, Бараўскі сельсавет**

**843. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Замак. За 0,5 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Глінянка (прыток р. Уса). Пляцоўка памерам 52×48 м з трох бакоў умацавана падковападобнымі валамі вышынёй 1,2 і 3,6 м і ровам глыбінёй 2 м, з чацвёртага — стромкі абрыў (5—6 м). З усходняга боку прасочваецца ўезд на гарадзішча. Адкрыў у 1929 г. А. М. Ляўданскі, які правёў на пляцоўцы невялікія раскопкі. У 1952 г. А. Р. Мітрафанаў даследаваў каля 110 м² плошчы, зрабіў прарэзку вала і рова. Прасочаны 2 этапы пабудовы абарончых умацаванняў, выяўлены агнішчы, рэшткі прадаўгаватага жытла слупавой канструкцыі, домніца, вырабы з жалеза і гліны, бронзавыя ўпрыгожанні, ляпная кераміка. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца канцом 1 ст. да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978. *Ю. А. Заяц.*

**844. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 мірных жыхароў, закатаваных нямецка-фашысцкімі акупантамі 8.1.1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Старынкі, цэнтр сельсавета**

**845. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 8 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—44 гг. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**846. КАСЦЁЛ** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1836 г. з цэглы. Будынак прамавугольны ў плане. Порцік на галоўным фасадзе ўтвораны 2 антамі (па баках) і 2 калонамі (у цэнтры). Сцены атынкаваны, унутры і звонку апрацаваны пілястрамі, члянёны вялікімі аконнымі праёмамі з паўцыркульнымі арачнымі завяршэннямі. Франтон, перакрыцце і пакаты двухсхільны дах не захаваліся.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *Т. В. Габрусь.*

**847. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 28 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Татаршчына, Путчынскі сельсавет**

**848. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 19 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў барацьбе



842. *Альтанка.*



842. *Усходняя брама.*



842. *Куток парку.*



842. *Жылы дом.*




842. *Жылы дом. План.*




843. *Гарадзішча. План.*

бе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Томкавічы, Рубілкаўскі сельсавет**

**849. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Камінтэрн». На ўшанаванне памяці 69 жыхароў, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены 2 абеліскі.

**в. Ферма-Гай, Дзяржынскі сельсавет**

**850. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 9 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Фрунзе, Дзямідавіцкі сельсавет**

**851. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі, на месцы былой в. Глухое Перхурава. Пахаваны 120 мірных жыхароў, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 30.1.1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Целяшэвічы, Старынкаўскі сельсавет**

**852. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**853. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 14 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях пры выхадзе з варожага акружэння ў ліпені 1941 г. і пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Цяўлава, Фаніпальскі сельсавет**

**854. КУРГАН** (археал.). За 30 м на поўдзень ад вёскі, на паўднёвым схіле невялікага яра. Памер 6×7 м, вышыня 0,8 м. Па звестках 19 ст., тут было 30 курганоў. Абследаваў у 1980 г. і 1983 г. Ю. А. Заяц.

*Літ.:* Игнатьев Р. Г. Курганы и городища в Минской губернии.— Минские губернские ведомости, 1879, № 17.

**в. Чаркасы, Фаніпальскі сельсавет**

**855. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Д. Ф. Фалько. Пахаваны 245 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**856. МАГІЛА ФАЛЬКО** Данілы Фёдаравіча (гіст.). На могілках.

Д. Ф. Фалько нарадзіўся ў 1887 г. у в. Чаркасы ў сялянскай сям'і. Да лістапада 1917 г. тэлеграфіст на чыгунцы ў Мінску. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі — старшыня камітэта беднаты ў роднай вёсцы, начальнік пажарнай дружыны. Быў адным з першых беларускіх селькораў, супрацоўнічаў у газетах «Звязда», «Беларуская вёска». Пісаў аб вялікіх пераўтварэннях ў вёсцы, выкрываў кулакоў і абараняў беднату. Забіты кулакамі 5.9.1929 г. Імем Д. Ф. Фалько названы калгас у Дзяржынскім р-не.

У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск. *М. М. Казлоўская.*



857. *Помнік землякам.*

**857. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя Д. Ф. Фалько. На ўшанаванне памяці 30 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Чэрнікаўшчына, Фаніпальскі сельсавет**

**858. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 25 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі сельсавета ў чэрвені — ліпені 1941 г. і пры вызваленні вёскі ў ліпені 1944 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**859. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**859а.** Курганны могільнік. За 650 м на паўночны ўсход ад вёскі, у полі, абапал палявой дарогі ў в. Цяўлава. 8 насыпаў дыяметрам 5—19 м, вышынёй 1,5—3,5 м. Асобныя курганы пашкоджаны разворваннем і ямамі. Выявіў у 1870-х гадах Р. Г. Ігнацьеў, абследаваў у 1980—83 гг. Ю. А. Заяц. У канцы 19 ст. 2 насыпы раскапаў У. З. Завітневіч. Пахавальны абрад у адным кургане — трупаспаленне, у другім — трупапалажэнне на гарызонце галавой на захад. Знойдзены шкляныя пацеркі і сярэбраныя скроневыя кольцы. Датуецца 9—11 стагоддзямі, належаў дрыгавічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве.

**859б.** Курган. У вёсцы, за 0,1 км на паўднёвы ўсход ад будынка школы. Вышыня 3 м, дыяметр 14,5 м. Пашкоджаны ямамі. Абследаваў у 1980 г. і 1983 г. Ю. А. Заяц.

*Літ.:* Завитневич В. З. Область дреговичей как предмет археологического исследования.— У кн.: Труды Киевской духовной академии. Киев, 1886, кн. 8; я г о ж. Археологические раскопки в системе рек Немана и Березины.— У кн.: Чтения в Историческом обществе Нестора-летописца. Киев, 1888, кн. 2.
*Ю. А. Заяц.*

**в. Шпількі, Фаніпальскі сельсавет**

**860. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Шведскія Магілы. За 0,6 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля лесу. 3 насыпы: дыяметр першага 14 м, другога 17 м, вышыня адпаведна 2,5 і 3 м. Трэці курган за 170 м на паўночны ўсход ад першых двух. Паўночная частка яго зрэзана, захавалася толькі $^3/_4$ насыпу. Вышыня 2 м, дыяметр 9—12 м. Адкрыў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1976 г. і 1979 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч: (Матэрыялы да археалагічнай карты).— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *Ю. А. Заяц.*

**861. РАДЗІМА ГУРЫНА** Антона Іосіфавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза контр-адмірал (1951 г.) А. І. Гурын нарадзіўся 15.9.1910 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1938 г. Скончыў Ваенна-марское вучылішча імя М. В. Фрунзе (1932 г.), Ваенна-марскую акадэмію (1948 г.). У ВМФ з 1928 г. З 1932 г. камандзір баявой часці падводнай лодкі, у 1935—38 гг. штурман дывізіёна падводных лодак, памочнік камандзіра і камандзір падводнай лодкі, у 1938—40 гг. камандзір эскадранага мінаносца «Грымячы». У Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Ваяваў на Паўночным флоце, камандзір эскадранага мінаносца і дывізіёна эскадраных мінаносцаў. Толькі з 1944 г. удзельнічаў у 18 аперацыях, правёў 95 транспартаў, камандаваў 10 аперацыямі па канваіраванні транспартаў і аперацыямі па пошуках падводных лодак праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 8.7.1945 г. З 1949 г. начальнік штаба і камандзір злучэння караблёў, з 1958 г. намеснік начальніка, началь-

нік кафедры Ваенна-марской акадэміі. Памёр 22.10.1962 г. у Ленінградзе.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Североморцы: Северный флот в Великой Отечественной войне. 1941—1945.— М., 1956.

**в. Шыкатавічы, Дабрынёўскі сельсавет**

**862. БРАЦКАЯ МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 25 мірных жыхароў, закатаваных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў пачатку лютага 1943 г., і камандзір дыверсійнай групы 300-й партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава У. А. Тобіяш, які загінуў у баі з карнікамі ў кастрычніку 1943 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**863. КУРГАН** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, у полі. Прадаўгаваты насып вышынёй 1,5 м, памерам 14×11 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. Ю. А. Заяц.
**864. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 51 аднавяскоўца, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.




865. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Ярашоўка, Дзяржынскі сельсавет**

**865. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 22 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і 11 партызан 200-й брыгады імя К. К. Ракасоўскага, што загінулі 7.7.1944 г. у баі пры ліквідацыі груповак нямецка-фашысцкіх войск. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**866. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі. Пахавана больш за 2 тыс. ваеннапалонных і жыхароў г. Дзяржынска, а таксама навакольных вёсак, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў ліпені — жніўні 1941 г. У 1958 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Ясюцевічы, Дзяржынскі сельсавет**

**867. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 10 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.




# КАПЫЛЬСКІ РАЁН

Пясочнае
Рымашы
Лясное
Слабада-Кучынка
Бабоўня
Старыца
Камсамольская
Камень
Дусаеўшчына
Русакі
Нізкавічы
Душава
Грозаў
Пацейкі
Скабін
КАПЫЛЬ
Канюхі
Мажа
Вял. Раёўка
Вял. Прусы
Руднае
Нов. Доктаравічы
Ванелевічы
Цімкавічы
Браткава
Быстрыца
Навасёлкі
Блеўчыцы
Лешня
Дзярэчына
Кіявічы
Семежава
Жыліхава
Чырв. Дуброва
Садавічы
Бучаціна
Смалічы

Цэнтр раена

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Цэнтры рамеستваў

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

## VIII. КАПЫЛЬ

Горад, цэнтр р-на, на р. Мажа. Знаходзіцца на паўднёвым захадзе Мінскай вобл., за 120 км ад Мінска, 9 км ад чыгуначнай станцыі Цімкавічы на лініі Баранавічы — Асіповічы. Аўтобусныя зносіны з Мінскам і Слуцкам. Аэрапорт. Размешчаны на 3 узгорках, падзеленых поймай р. Каменка.

У пісьмовых крыніцах Капыль упершыню ўпамінаецца пад 1274 г. у Галіцка-Валынскім летапісе. У Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх (паміж 1387—1406 гг.) Капыль называецца як горад Кіеўскага княства. З 1320-х гадоў у складзе Вялікага княства Літоўскага. У 1395 г. паводле Літоўскага летапісу Капыль з навакольнымі населенымі пунктамі перададзены ва ўладанне Уладзіміру — сыну вялікага князя літоўскага Альгерда. У 14—15 стагоддзях цэнтр Капыльскага княства. Больш за 2 стагоддзі Капыль быў рэзідэнцыяй князёў Алелькавічаў (Алелькаў) — спадчынных уладальнікаў Кіева і прэтэндэнтаў на велікакняжацкі літоўскі трон. Заснавальнік роду Алелькавічаў — Аляксандр (? — 1454 г., Алелька, Алесь, Олік, сын Уладзіміра Альгердавіча) быў жанаты з дачкой вялікага маскоўскага князя Васіля I — Анастасіяй. На працягу стагоддзяў капыльскія князі вялі барацьбу супраць акаталічвання мясцовага насельніцтва, былі абаронцамі праваслаўя, падтрымлівалі цесныя сувязі з Масквой і Кіевам. Апіраючыся на дапамогу вялікіх князёў маскоўскіх, Алелькавічы неаднойчы ўзначальвалі феадальную апазіцыю вялікаму князю літоўскаму. У барацьбе за велікакняжацкі прастол у 1430-я гады актыўны ўдзел прыняў князь Аляксандр. Яго сын Міхал (? — 1481 г.), князь слуцкі і капыльскі, узначальваў групу праваслаўных феадалаў, што імкнуліся да аб'яднання беларускіх і літоўскіх зямель з Маскоўскім вялікім княствам, у 1481 г. пакараны смерцю за арганізацыю змовы супраць вялікага князя літоўскага Казіміра IV. Сям'я Міхала Алелькавіча пасля яго смерці пакінула Капыль і пераехала ў Слуцк. У 1507 г. Капыль быў захоплены войскамі князя Міхаіла Глінскага, які намерваўся стварыць асобную дзяржаву на рускіх, беларускіх, украінскіх землях, што ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага, і ўзняў паўстанне супраць вялікага князя Жыгімонта I Старога. У пачатку 16 ст. на Капыль неаднойчы нападалі крымскія татары. У 1503 г. атрад татарскай конніцы пад кіраўніцтвам Баты-Гірэя захапіў Капыль і асадзіў замак. Князь Сямён Міхайлавіч (? — 1505 г.) са сваёй дружынай у 1502 г. разбіў атрад татар, што з'явіўся каля граніц Слуцкага і Капыльскага княстваў, у 1503 г. нанёс паражэнне татарам на р. Прыпяць. У 1506 г. барацьбу супраць татар узначальвала яго жонка Анастасія Іванаўна, войска якой абараняла Слуцк і Капыль, нанесла татарам вялікія страты, захапіла многа палонных. Пазней у Капылі, Слуцку, Клецку, Нясвіжы і інш. былыя палонныя стварылі татарскія пасяленні. У час антыфеадальнага казацка-сялянскага паўстання пад кіраўніцтвам С. Налівайкі 25.11.1595 г. каля Капыля адбыўся бой казацкага атрада на чале з палкоўнікам Мартынкам з шляхецкім войскам Крыштофа Радзівіла, паўстанцы мусілі адступіць. З 1612 г. Капыль перайшоў ва ўладанне Радзівілаў. У 1652 г. горад атрымаў магдэбургскае права, пячатку, герб з выявай паляўнічага рога на залатым полі, а таксама права на кірмашы і штотыднёвыя таргі. У 16 ст. горад славіўся рамёствамі, асабліва ткацтвам, аксамітавымі і лайкавымі вырабамі. У 17 ст. было 6 рамесных цэхаў. Паводле каралеўскага прывілея ад 27.8. 1652 г. рамесныя цэхі ў Капылі ўраўнаваны ў правах з цэхамі інш. гарадоў; утвораны магістрат, у склад якога ўваходзілі войт, гарадскі пісар, 2 бурмістры, 4 райцы і 4 лаўнікі. У 2-й палове 17 ст. Капыль вызвалены ад падаткаў на карысць казны. У 1695 г. каля горада адбылося ўзброенае сутыкненне вайсковых атрадаў магнатаў Сапегаў і Радзівілаў, якія змагаліся за права валодання Капылём. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Слуцкага павета Мінскай губерні. У Айчынную вайну 1812 г. разрабаваны французскімі войскамі. З 1832 г. належаў (з насельніцтвам) князю Вітгенштэйну. У 1833 г. улады ў сувязі з барацьбой і скаргамі капылян вымушаны былі прызнаць жыхароў Капыля асабіста вольнымі, аднак без зямельных надзелаў. Капыляне самавольна захоплівалі землі і адмаўляліся плаціць за іх, да сялянскай рэформы 1861 г. беспярэпынна вялі няроўную барацьбу за зямлю і волю. У 1863 г. і 1868—69 гг. адбыліся вялікія сялянскія бунты, якія былі жорстка задушаны царскімі войскамі. Паводле перапісу 1897 г. у горадзе 4463 жыхары, піваварны завод, 2 млыны, 3 школы. У 1880-я гады пад кіраўніцтвам мясцовага жыхара В. І. Татарынчыка заснавана група народнікаў. Пазней сюды дастаўляліся асобныя нумары газеты «Искра», была арганізавана іскраўская група. У 1903 г. створана група РСДРП, якая мела цесныя сувязі з падпольнымі арганізацыямі Мінска і прытрымлівалася бальшавіцкай арыентацыі. Ёсць ускосныя звесткі, што аб Капыльскай групе ведаў і цікавіўся яе дзейнасцю У. І. Ленін. Група налічвала больш за 100 чалавек, мела нелегальную бібліятэку, выпісвала прагрэсіўныя часопісы і газеты. Быў набыты гектограф, дзе друкаваліся падпольныя пракламацыі. У 1905 г. група вырасла ў арганізацыю РСДРП.

У Рэвалюцыю 1905—07 гг. у гарбарных майстэрнях адбываліся рэвалюцыйныя сходкі, збіралі сродкі на ўзбраенне. Вестка аб расстрэле рабочых 9.1.1905 г. у Пецярбургу выкліка-



VIII. *Забудова Калгаснай плошчы.*

ла абурэнне ў працоўных Капыля, якія пад кіраўніцтвам сацыял-дэмакратаў выйшлі на дэманстрацыю з рэвалюцыйнымі песнямі і лозунгам «Далоў самадзяржаўе!». Арганізаванай і шматлікай (да 300 чалавек) была дэманстрацыя 1.3.1905 г. Для падтрымання парадку ў Капыль была накіравана рота салдат 240-га пяхотнага Краснінскага палка, якіх распрапагандавалі мясцовыя падпольшчыкі, і ўлады вымушаны былі замяніць іх новай вайсковай часцю.

Вялася вялікая работа сярод сялян у навакольных памешчыцкіх маёнтках. 1.5.1905 г. Капыльская арганізацыя РСДРП выпусціла адозву да сялян з заклікам не плаціць падаткаў, не даваць рэкрутаў і з патрабаваннем спыніць вайну з Японіяй. У жніўні 1905 г. выпусціла 2 лістоўкі, дзе выкрывалася згодніцкая Булыгінская дума і тлумачылася, што заваяваць свабоду можна толькі шляхам звяржэння самадзяржаўя. У ліпені і жніўні правяла мітынгі рабочых і рамеснікаў Капыля, 17 кастрычніка — усеагульную палітычную забастоўку і дэманстрацыю. У той жа дзень была перарвана тэлеграфная сувязь з Нясвіжам і Слуцкам, разагнана паліцыя і група чарнасоценцаў-манархістаў. Антыўрадавыя выступленні моладзі адбыліся 22 і 23 кастрычніка.

Капыльская сацыял-дэмакратычная арганізацыя ў 1906 г. у гадавіну «Крывавай нядзелі» выпусціла пракламацыі, арганізавала дэманстрацыю, у якой удзельнічалі і сяляне бліжэйшых вёсак. Паліцыя адкрыла агонь па дэманстрантах. Адзін рабочы быў паранены. У маі 1906 г. адбылася яшчэ адна масавая дэманстрацыя.

У канцы 1906 г. над удзельнікамі рэвалюцыйных падзей у Капылі пачалася расправа, шмат з іх было зняволена і саслана. За кароткі час з мястэчка выехала больш за 200 чалавек, частка эмігрыравала. Гэта моцна аслабіла мясцовую арганізацыю РСДРП, але не спыніла яе дзейнасці, і яна працягвалася ў гады рэакцыі. У лютым 1908 г. была распаўсюджана лістоўка «Да ўсіх жыхароў Капыля», збіраліся сродкі на рэвалюцыйныя мэты. У 1910 г. узнік гурток «Самаразвіццё і самаадукацыя», які выпускаў літаратурна-грамадскія рукапісныя часопісы «Заря» (1910 г.), «Голос низа» (1911 г.) з дадаткам «Вольная думка». Рэдактарам яго быў З. Жылуновіч (Ц. Гартны). У 1912 г. ён наладзіў сувязі з рэдакцыяй газеты «Правда», у фонд якой былі сабраны грошы.

Савецкая ўлада ў Капылі ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым — снежні 1918 г. мястэчка акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, у жніўні 1919 — ліпені 1920 г. — войскамі буржуазнай Польшчы. У гады Грамадзянскай вайны ў Капылі дзейнічала бальшавіцкае падполле, у ваколіцах — партызанскія атрады. З 1.6. 1924 г. Капыль — раённы цэнтр. У 1926 г. — 4 тыс. жыхароў. Дзейнічалі сыраварны і цагельны заводы, райпрамкамбінат, ганчарныя, шавецкія і кравецкія арцелі. У 1925 г. адкрыты Народны дом на 600 месцаў, дэманстравалася кіно. З 1938 г. гарадскі пасёлак. У пачатку ліпеня 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія знішчылі 2915 яго жыхароў. У гады Вялікай Айчыннай вайны ў раёне дзейнічалі партызанскія брыгады імя К. Я. Варашылава, 300-я імя К. Я. Варашылава, 27-я імя В. І. Чапаева, шматлікія атрады народных мсціўцаў, падпольная антыфашысцкая група. Партызанскай барацьбой кіравалі міжрайком КП(б)Б Слуцкай зоны (жнівень 1942 — сакавік 1943 г.), Капыльскі падпольны райком КП(б)Б (7.3.1943 г.— 1.7.1944 г.). Баявую дзейнасць моладзі накіроўваў падпольны райком ЛКСМБ (7.4.1943 г.— 1.7. 1944 г.). Са студзеня 1943 г. выходзіла міжраённая газета «Патриот Родины» — орган міжрайкома КП(б)Б Слуцкай зоны, з 12.7.1943 г. — раённая газета «Калгаснік Капыльшчыны» — орган Капыльскага падпольнага райкома КП(б)Б; выйшлі 63 нумары газет (34 тыс. экз.) і 8 тыс. 100 экз. лістовак, зваротаў, зводак. 1.7.1944 г. вызвалены войскамі 28-й арміі, 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса 1-га Беларускага фронту і партызанамі 27-й брыгады імя В. І. Чапаева. У пасляваенныя гады Капыль нанава адбудаваны. З 29.4.1984 г. горад.

Старажытны цэнтр Капыля — гарадзішча авальнай формы — размешчаны на прыродным узвышшы амаль у цэнтры сучаснага горада. У 14—16 стагоддзях на тэрыторыі гарадзішча існаваў замак, у 2-й палове 17 ст. на яго месцы быў невялікі сядзібны дом з гаспадарчымі пабудовамі. Планіровачная структура Капыля пераважна квартальная, з прамавугольнай сеткай вуліц, забудова выцягнута з поўначы на поўдзень. Кампазіцыйным ядром горада і грамадскім цэнтрам з'яўляецца Калгасная пл., на якой знаходзяцца будынкі гарвыканкома Савета народных дэпутатаў, райкома КПБ, універмага, Дома культуры, магазіна і інш. Плошча дзеліць галоўную вуліцу на паўднёвую (вул. Партызанская) і паўночную (вул. Савецкая) часткі — асноўныя восі горада. На паўночны захад ад плошчы — вул. Я. Купалы. Тут пабудаваны і ўзводзяцца шэраг жылых 2—5-павярховых дамоў з магазінамі і прадпрыемствамі камунальнага і бытавога абслугоўвання, ствараюцца мікрараёны.

Паводле генеральнага плана, распрацаванага ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва ў 1971 г., развіццё пасёлка адбываецца ў паўночным напрамку. Культурна-бытавы цэнтр на стыку вуліц Савецкай і Партызанскай удала ўвязаны з жылой і прамысловай зонамі, а таксама з зонай адпачынку. У паўднёвай частцы Капыля размешчана прамысловая зона: масласырзавод, хлебазавод, завод гумаватэхнічных вырабаў, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, будаўнічыя арганізацыі. У горадзе працуюць 3 сярэднія школы, вячэрняя, дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, 4 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, краязнаўчы музей, бальніца і інш. Выдаецца газета «Слава працы». Помнікі: У. І. Леніну, на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.

Зона адпачынку — каля вадасховішчаў абапал шашы Капыль — Мінск.

*Літ.:* Пятровіч С. А., Багдановіч Б. К. Капыль: (Гістарычны нарыс).— Мн., 1974.

*Б. К. Багдановіч, А. А. Міцянін, С. А. Пятровіч.*

**868. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На перакрыжаванні вуліц Партызанскай і Цімкавіцкай. Пахаваны 36 воінаў, у т. л. салдаты, сяржанты і афіцэры 34-га кавалерыйскага палка, 37-га гвардзейскага мінамётнага палка, 333-га і 421-га артылерыйскіх палкоў, 255-га зенітнага палка проціпаветранай абароны, а таксама 4 партызаны, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне горада. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воі-



869. *Гарадзішча.*



869. *Гарадзішча. План.*

на, на пастаменце дошка з імёнамі загінуўшых.

*Літ.:* Сообщения Советского информбюро. Т. 7.— М., 1945; Пятровіч С. А., Багдановіч Б. К. Капыль: (Гістарычны нарыс).— Мн., 1974. *М. Б. Батвіннік.*

**869. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Замак. Па вул. Партызанскай, нападалёку ад цэнтра. Вышыня над летнім межанным узроўнем вады ў р. Мажа 13 м. З паўночна-заходняга боку знаходзіцца забалочаная пойма, з паўднёвага і ўсходняга — роў шырынёй каля 20 м і глыбінёй 2—4 м. Пляцоўка авальная, памерам 100××45 м, здзірванелая, набыла чашападобную форму, крыху нахілена на захад. Пашкоджана 2 ямамі ці шурфамі, а таксама разбурэннямі на заходнім схіле. Па перыметры пляцоўкі прасочваецца вал вышынёй каля 1 м. Абследавалі ў 1966 г. П. Ф. Лысенка, у 1979 г. і 1985 г. М. Ф. Гурын. У шурфе знойдзена кераміка 16—18 стагоддзяў. Найбольш верагодна, што больш ранняе паселішча знаходзілася за 5 км на поўнач ад горада, каля в. Стары Капыль.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия.— СПб., 1905; Лысенко П. Ф. Города Туровской земли.— Мн., 1974. с. 173—174. *М. Ф. Гурын.*

**870. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 м на ўсход ад горада, ва ўрочышчы Дубы, абапал дарогі ў в. Грозаў. 26 насыпаў вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 5—15 м. Некаторыя курганы пашкоджаны пры будаўніцтве дарогі. Вядомы з пачатку 20 ст. Абследаваў у 1980 г. і 1983 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

**871. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**871а.** Могільнік-1. Каля сучасных могілак. 13 насыпаў вышынёй 1,5—3 м, дыяметрам да 12 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследавалі ў 1961 г. В. В. Сядоў, у 1979 г. М. Ф. Гурын. Раскапаны адзін насып. Пахавальныя абрады — трупаспаленне і трупапалажэнне. Знойдзены ганчарны гаршчок. Адносіцца да перыяду Кіеўскай Русі. Датуецца 10 ст. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР у Маскве.

**871б.** Могільнік-2. На рагу вуліц Цімкавіцкай і Трактарнай. 8 насыпаў вышынёй 0,5—3 м. дыяметрам 6—12 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследавалі ў 1961 г. В. В. Сядоў, у 1979 г. М. Ф. Гурын. Адносіцца да перыяду Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия.— СПб., 1905. *М. Ф. Гурын.*

**872. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне горада, каля штучнага возера. Пахавана больш за 800 вязняў Капыльскага гета, якіх у 1942 г. закатавалі ці расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**873. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 22 жыхары горада, якіх у 1942—44 гг. закатавалі ці расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**874. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 жыхары горада, якіх 30.8.1942 г. закатавалі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**875. МАГІЛА МУЛЯРЧЫКА** Уладзіміра Іосіфавіча **І ЧАРНУШЭВІЧА** Уладзіміра Дзмітрыевіча (гіст.). На могілках. Партызаны 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава У. І. Мулярчык і У. Дз. Чарнушэвіч загінулі 9.4.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**871а.** *Курганны могільнік-1. План.*



**871б.** *Курганны могільнік-2. План.*



**876.** *Дом, у якім жыў Ц. Гартны.*

**876. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГАРТНАМУ** Цішку (гіст.). Вул. К. Маркса, 39. Устаноўлена ў 1955 г. на доме, дзе жыў пісьменнік.

Беларускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч, акадэмік АН БССР (1928 г.) Ц. Гартны (Авадзень, Капылянін, Сымон Друк і інш.; сапраўднае Жылуновіч Зміцер Хведаравіч) нарадзіўся 23.10. 1887 г. у сялянскай сям'і. У 1905 г. скончыў Капыльскае двухкласнае вучылішча. Працаваў у гарбарных майстэрнях у Капылі. Удзельнік Рэвалюцыі 1905—07 гг. Шукаючы работу, аб'ездзіў Беларусь, Украіну, Літву. З 1913 г. працаваў на заводах «Вулкан», потым «Айваз» у Пецярбургу. Калі пачалася 1-я сусветная вайна, вёў прапагандысцкую і арганізацыйную работу сярод бежанцаў-беларусаў у Петраградзе. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі сакратар Беларускага нацыянальнага камісарыята (аддзел Наркамнаца РСФСР), рэдактар першай на беларускай мове савецкай газеты «Дзянніца». З 1.1 да 3.2.1919 г. старшыня Часовага рабоча-сялянскага Савецкага ўрада Беларусі, пазней палітработнік 14-й арміі і штаба Заходняга фронту. Быў рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь», часопіса «Полымя», узначальваў Дзяржаўнае выдавецтва БССР і Дзяржаўны архіў БССР, працаваў намеснікам наркома асветы БССР, у Інстытуце гісторыі АН БССР, загадваў выдавецтвам АН БССР. Выбіраўся членам ЦВК СССР і БССР у 1920—31 гг.

Літаратурную дзейнасць пачаў з верша «Бяздольны», прысвечанага Я. Купалу (апублікаваны ў пачатку 1909 г. у газеце «Наша ніва»). Пры актыўным удзеле Ц. Гартнага ў Капылі выдаваліся рукапісныя часопісы «Зара» (1910 г.), «Голос низа» з дадаткам «Вольная думка» (1911 г.). Асобныя яго вершы і нарысы друкаваліся ў бальшавіцкіх газетах «Звезда» і «Правда» (1912—13 гг.). Аўтар зборнікаў паэзіі, у т. л. зборніка «Песні» (1913 г.), дзе паэт пратэстуе супраць сацыяльнай несправядлівасці, услаўляе працу селяніна і рабочага, упер-

шыню ў беларускай паэзіі звяртаецца да рабочай тэматыкі, вершы прасякнуты глыбокім аптымізмам, верай у сілы народа. У зборніках «Песні працы і змагання» (1922 г.) і «Урачыстасць» (1925 г.) уславіў героіку і пафас рэвалюцыйнай эпохі, адзін з першых адлюстраваў падзеі Кастрычніка, паказаў веліч сацыяльных змен і савецкай рэчаіснасці, стварыў вобраз новага чалавека, звярнуўся да інтэрнацыянальнай тэмы. У 1967 г. выйшаў зборнік вершаў.

У мастацкай прозе пісьменнік паказаў складаны працэс станаўлення характару савецкага чалавека — воіна і творцы. У кнізе «Трэскі на хвалях» (1924 г.), зборніку «Прысады» (1927 г.) глыбока раскрываецца духоўны свет чалавека, шматграннасць і складанасць яго характару і пачуццяў.

Аўтар кніг апавяданняў «Выбраныя апавяданні» (1926 г.), «Гаспадар» (1930 г.), «Гоман зарніц» (1932 г.), «Наступ на горны» (апавяданні, нарысы і вершы 1932 г.), аповесцей «На новым месцы» (1930 г.), «Зялёны шум» (1931 г.). Аўтар драм «Хвалі жыцця» (1918 г.), «Сацыялістка» (1924 г.), «Дзве сілы» (1927 г.), зборніка літаратурна-крытычных артыкулаў «Узгоркі і нізіны» (1928 г.), крытыка-біяграфічнага нарыса «Янка Купала — пясняр вызвалення» (1928 г.).

Пяру Ц. Гартнага належыць эпічны твор «Сокі цаліны» (напісаны ў 1914—29 гг.) — першы беларускі раман. Пісьменнік шырока паказаў заводскія будні, мястэчковы побыт, закрануў многія праблемы грамадскага і палітычнага жыцця Расіі. У распрацоўцы рабочай тэматыкі, у раскрыцці вобраза новага героя Ц. Гартны пракладаў сваю сцежку ў беларускай прозе. Гэта рабіла твор наватарскім. Пазней Гартны паказаў вёску ў перыяд калектывізацыі (раман «Перагуды», 1935 г.). Выступаў з падарожнымі нататкамі пра жыццё і барацьбу пралетарыяту ў капіталістычных краінах («Ад Берліна да Мінска», «Па чатырох краінах»). Наладзіў творчыя сувязі з Ю. Фучыкам, З. Неедлы, І. Бехерам, Ф. Вейскопфам і інш. пісьменнікамі. У 1962 г. выйшлі «Выбраныя апавяданні», у 1978 г.— кніга прозы «Насустрач сонцу». Творчасць Ц. Гартнага — адбітак таго часу, калі нараджалася і сцвярджалася новае ў жыцці і літаратуры.

Памёр пісьменнік 11.4.1937 г.

*Літ.:* Клачко А. М. Цішка Гартны: (Крытыка-біягр. нарыс).— Мн., 1961; Хведаровіч М. Памятныя сустрэчы.— 2 выд.— Мн., 1963; Александровіч С. Кнігі і людзі.— Мн., 1976; Успаміны пра Цішку Гартнага.— Мн., 1984.

*С. Х. Александровіч.*

**877. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КУПАЛЕ** Янку (гіст.). Вул. Купалы, 9, на будынку кінатэатра «Мір». Устаноўлена ў 1982 г.

Летам 1932 г. у гэтым будынку (былы Дом культуры) чытаў свае творы Я. Купала (Іван Дамінікавіч Луцэвіч). 18.7.1932 г. у Доме культуры адбыўся вечар для партыйнага і прафсаюзнага актыву ў сувязі з пастановай ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый», з дакладам выступіў М. Хведаровіч. На вечары Я. Купала чытаў свае вершы. Потым пісьменнікі азнаёміліся з будоўлямі ў Капылі, ездзілі ў калгасы, выступалі перад пагранічнікамі 17-га Цімкавіцкага пагранатрада. Я. Купала ў 1930-я гады неаднойчы быў у Капылі, у т. л. у 1933 г. і 1936 г.



878. *Помнік У. І. Леніну.*

**878. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На Калгаснай пл., каля будынка Дома культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г.

**879. РАДЗІМА ГУРЛО** Алеся (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Алесь (Аляксандр Кандратавіч) Гурло нарадзіўся 19.1.1892 г. у сялянскай сям'і. З 1909 г. член Капыльскай арганізацыі РСДРП, удзельнічаў у рукапісных літаратурна-грамадскіх часопісах «Заря», «Голос низа» з дадаткам «Вольная думка» (1910—11 гг., Капыль). У пошуках заробку пераехаў у 1911 г. у Пецярбург, працаваў на ліцейным заводзе «Вулкан», пісаў карэспандэнцыі ў газету «Правда», супрацоўнічаў у часопісе «Маладая Беларусь», які выдаваўся ў Пецябургу беларускім выдавецкім таварыствам «Загляне сонца і ў наша аконца» на беларускай мове. З 1913 г. служыў на Балтыйскім флоце. Удзельнік Лютаўскай, Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцый, штурму Зімняга палаца, Грамадзянскай вайны. У складзе Волжскай флатыліі ваяваў супраць ворагаў савецкай улады, прымаў удзел у падаўленні эсэраўскага мяцяжу ў Яраслаўлі, у барацьбе з калчакаўцамі і інш., быў цяжка паранены. У 1921 г. вярнуўся на Беларусь, працаваў у тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта. Быў членам літаратурных аб'яднанняў «Маладняк», «Полымя», «Пробліск». Друкавацца пачаў у 1909 г. у газеце «Наша ніва». У творах дакастрычніцкага часу — матывы сялянскай нядолі, вера ў народ; адчувальны ўплыў паэзіі Я. Купалы і Я. Коласа. У цыкле вершаў 1914—17 гг., прысвечаных мору,— настроі згуртаванасці і барацьбы, рэвалюцыйны энтузіязм. У 1912 г. напісаў сямейна-бытавую лірычную драму «Любоў усё змагае». Выдадзены кнігі «Барвенак» (1924 г.), «Спатканні» (1925 г.) «Сузор'і» (1926 г.), «Зорнасць» (1927 г.), «Межы» (1929 г.), «Выбраныя творы» (1950 г.), «Вершы» (1953 г.). У іх — услаўленне заваёў Кастрычніка, захапленне стваральнай працай народа, велічнымі поспехамі сацыялізма. Узнёсласць, пафаснасць у творах паэта спалучаліся з задушэўнасцю, дынамічнасць — са стрыманасцю. Побач з гарадскімі матывамі — пранікнёная і маляўнічая пейзажная лірыка, апяванне характва розных мясцін. Перакладаў на беларускую мову творы А. Аўдзеенкі, Ф. Гладкова, У. Стаўскага і інш.

Памёр А. Гурло 4.2.1938 г.

*Літ.:* Агіевіч У. Літаратура і жыццё.— Мн., 1954; Хведаровіч М. Памятныя сустрэчы.— 2 выд.— Мн., 1963.

*В. Л. Бечык.*

**880. РАДЗІМА ЧАРНУШЭВІЧА** Нічыпара Тодаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Н. Т. Чарнушэвіч нарадзіўся 1.11.1900 г. у сялянскай сям'і. Працаваў у 1917—20 гг. настаўнікам народнага вучылішча ў в. Траянава Капыльскага р-на. У 1920—22 гг. служыў у Чырвонай Арміі. Скончыў БДУ у 1928 г. Супрацоўнічаў у газеце «Савецкая Беларусь» (1924—29 гг.). Да 1941 г. настаўнічаў, працаваў у друку. У 1941—46 гг. супрацоўнік «Тюменской правды», з 1947 г. у Мінску, рэдактар у Белдзяржвыдавецтве. Друкаваўся з 1923 г. у часопісе «Полымя». Выдадзены зборнікі «Дзіва» (1927 г.), «Нясу надзею» (1962 г.), «Гаворка дум» (1966 г.), «Выбраныя вершы» (1975 г.). Вершам Н. Т. Чарнушэвіча ўласцівы засяроджаны роздум аб жыцці, адметная метафарычнасць, стрыманасць выяўлення, блізкасць да народна-песеннай лірыкі.

Аўтар сцэнарыяў мастацкіх і дакументальных фільмаў, нарысаў пра калгаснае жыццё.

Памёр 18.2.1967 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *В. Л. Бечык.*

**881. ЦАРКВА** (архіт.). Вул. К. Маркса, 2. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы і бутавага каменю.

Будынак царквы цэнтрычны, крыжападобны ў плане з развітай алтарнай часткай. У агульнай кампазіцыі дамінуе цэнтральны кубічны аб'ём са скошанымі вугламі. Трохгранная апсіда накрыта вальмавым дахам, бакавыя аб'ёмы і цэнтральны бабінец — двухсхільнымі. Верхняя частка цэнтральнага аб'ёму пасля перабудовы зменена, набыла двухсхільнае завяршэнне. Сцены храма члянёны высокімі паўцыркульнымі аконнымі і лучковымі ўваходнымі праёмамі. Фасады дэкарыраваны тынкоўкай з украпаваннем гранітнай крошкі, нішамі, лапаткамі, ліштвамі. У інтэр'еры цэнтральная прастора аддзелена ад астатніх аб'ёмаў шырокімі арачнымі праёмамі, алтарная частка мае круглаватую форму плана. Столь плоская, у апсідзе — конха.

Царква — помнік традыцыйнага народнага дойлідства. *А. А. Міцянін.*



881. *Царква.*




881. *Царква. План.*




883. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Агароднікі, Цімкавіцкі сельсавет**

**882. РАДЗІМА ЛУШЧЫЦКАГА** Івана Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі філосаф, член-карэспандэнт АН БССР (1969 г.), доктар філасофскіх навук (1952 г.), прафесар (1953 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1971 г.) І. М. Лушчыцкі нарадзіўся 7.1.1907 г. у беднай сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. У 1924—27 гг. сакратар, старшыня Цімкавіцкага сельсавета Капыльскага р-на. У 1930 г. скончыў БДУ, у 1933 г.— аспірантуру АН БССР. Працаваў старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута філасофіі і права АН БССР (да 1940 г.), адначасова з верасня 1934 г. да лютага 1936 г. сакратар парткома АН БССР. З 1931 г. вёў педагагічную работу ў розных ВНУ Мінска, у 1940—41 гг. дацэнт кафедры марксізма-ленінізма Беларускага інстытута народнай гаспадаркі. У Вялікую Айчынную вайну палітработнік на Заходнім, Паўднёва-Заходнім і 3-м Беларускім франтах. У 1946—53 гг. намеснік дырэктара, дырэктар, загадчык сектара гісторыі філасофіі Інстытута філасофіі і права, вучоны сакратар Прэзідыума АН БССР. У 1953—73 гг. прафесар, загадчык кафедры гісторыі філасофіі, логікі і навуковага атэізму, адначасова ў 1967—70 гг. загадчык праблемнай лабараторыі сацыяльных даследаванняў БДУ імя У. І. Леніна. Аўтар прац па гісторыі філасофіі, сацыялогіі і грамадска-палітычнай думкі Беларусі, у т. л. кнігі «Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX веку» (1958 г.), прац па гістарычным матэрыялізме і навуковым атэізме.

Памёр 9.9.1973 г. у Мінску. Пахаваны на Усходніх могілках.

*Літ.:* Акадэмія навук БССР.— Мн., 1979. *В. Ф. Шалькевіч.*

**в. Аргелаўшчына, Капыльскі сельсавет**

**883. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля дарогі Капыль — Грозава. Пахаваны 60 воінаў. Сярод іх — салдаты, сяржанты і афіцэры 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса і 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Асавец, Камсамольскі сельсавет**

**884. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 40 партызан злучэння Мінскай вобл., якія загінулі ў 1943 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Астравок, Доктаравіцкі сельсавет**

**885. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на поўдзень ад вёскі. 10 паўсферычных насыпаў вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 5—10 м. Абследаваў у 1979 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

**886. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан загінуў у 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Астрэйкі, Слабада-Кучынскі сельсавет**

**887. МАГІЛА НІПАКОЕВА** Дзмітрыя Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады імя К. Я. Варашылава Дз. І. Ніпакоеў загінуў у сакавіку 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысц-



885. *Курганны могільнік. План.*



888. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

кіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бабоўня, цэнтр сельсавета**

**888. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На перакрыжаванні дарог Бабоўня — Капыль і Бабоўня — Асіповічы. Пахаваны 54 воіны і партызаны. Сярод іх воіны 30-га гвардзейскага стралковага палка, 302-га гвардзейскага зенітнага артылерыйскага палка і партызаны злучэнняў Мінскай і Баранавіцкай абласцей, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана.

**889. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 190 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Балгавічы, Грозаўскі сельсавет**

**890. РАДЗІМА РАДКЕВІЧА** Аляксандра Іванавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. І. Радкевіч нарадзіўся 26.8.1916 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1941 г. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1934 г.), працаваў у Капыльскай МТС. З 1935 г. у Чырвонай Арміі. Вучыўся ў ваенна-інжынернай школе ў Ленінградзе. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г. і савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Камандзір 116-га асобнага інжынернага батальёна маёр А. І. Радкевіч вызначыўся ў кастрычніку 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра ў раёне Крамянчуга. Як камендант дэсантна-паромнай пераправы забяспечыў пад агнём праціўніка пераправу каля 20 тыс. байцоў, 83 танкаў, 368 гармат, 20 гвардзейскіх мінамётаў («кацюш»), 566 аўтамашын і трактароў, 436 т боепрыпасаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена А. І. Радкевічу 20.12.1943 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр 17.10.1957 г. Пахаваны ў Маскве. Яго імем названы вуліца ў в. Балгавічы і піянерская дружына Грозаўскай сярэдняй школы. У в. Папоўцы Грозаўскага сельсавета пастаўлены помнік (гл. артыкул № 991 «Брацкая магіла савецкіх воінаў, помнік землякам, помнік Радкевічу Аляксандру Іванавічу»).

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Блеўчыцы, Блеўчыцкі сельсавет**

**891. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, на перакрыжаванні дарог Цімкавічы — Гулевічы і Блеўчыцы — Быстрыца. Пахаваны 14 воінаў і партызан. Сярод іх — воіны 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі, 125-га і 127-га гвардзейскага артылерыйскіх палкоў, 1705-га зенітнага артылерыйскага палка і партызаны 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



889. *Помнік землякам.*



891. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Бор, Слабада-Кучынскі сельсавет**

**892. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны злучэння Мінскай вобл., якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**893. МАГІЛА ДЗЯМІДЧЫКА** Аляксандра Андрэевіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады 300-й імя К. Я. Варашылава А. А. Дзямідчык загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**894. МАГІЛА КОРЗУНА** Івана Рыгоравіча (гіст.). На могілках. Партызан 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава І. Р. Корзун загінуў 24.4.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Браткава, цэнтр сельсавета**

**895. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). За 0,3 км на захад ад вёскі. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў 1941 г., і партызан злучэння Мінскай вобл., забіты нямецка-фашысцкімі карнікамі. У 1965 г.



898. *Помнік К. А. Ціміразеву.*

на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Бучаціна, цэнтр сельсавета**

**896. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя П. Л. Войкава. Пахаваны 10 воінаў 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**897. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Быстрыца, Блеўчыцкі сельсавет**

**898. ПОМНІК ЦІМІРАЗЕВУ** Кліменту Аркадзевічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса, што носіць яго імя. Бюст К. А. Ціміразева ўстаноўлены ў 1978 г.

**899. РАДЗІМА ВАРВАШЭНІ** Івана Дзянісавіча (гіст.).

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху ў Мінскай вобл. у Вялікую Айчынную вайну І. Дз. Варвашэня нарадзіўся 18.12.1904 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1927 г. У 1925—28 гг. на камсамольскай рабоце. У 1934 г. скончыў Маскоўскі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту. Працаваў на Заходняй чыгунцы. З 1939 г. загадчык транспартнага аддзела, сакратар па транспарту Мінскага абкома КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну з 21.7.1941 г. да мая 1943 г. сакратар Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б. Адначасова з жніўня 1942 г. да красавіка 1943 г. сакратар Слуцкага падпольнага міжрайкома КП(б)Б, камісар партызанскага злучэння Слуцкай зоны. З 1944 г. сакратар Мінскага абкома КП(б)Б, з 1950 г. першы сакратар Мінскага гаркома КПБ. Выбіраўся кандыдатам у члены ЦК КПБ у 1949—52 гг., членам ЦК КПБ у 1952—57 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—57 гг. Памёр 4.3.1957 г. Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску. Яго імем названа вуліца ў Мінску. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Ванелевічы, Доктаравіцкі сельсавет**

**900. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. Пахаваны 9 воінаў і партызан. Сярод іх — воіны 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі і 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, што загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна, а таксама жанчына і 2 дзяцей, якіх закатавалі гітлераўцы. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. У 1977 г. на ўшанаванне памяці 193 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, пастаўлена скульптура воіна, абапал яе — стэлы з імёнамі загінуўшых.



900. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму, помнік землякам.*

**в. Васільчыцы, Доктаравіцкі сельсавет**

**901. ПРАЧЫСЦЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з дрэва.

Будынак трохзрубны. Складаецца з размешчаных па падоўжнай восі бабінца, асноўнага і алтарнага аб'ёмаў. Зальная і больш вузкая алтарная часткі накрыты агульным дахам з за-



901. *Прачысценская царква.*




901. *Прачысценская царква. План.*



914. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і землякам.*

стрэшкамі над месцам злучэння зрубаў. Званіца над бабінцам — васьмігранны светлавы барабан, накрыты высокім шатром з невялікай галоўкай. Такая ж галоўка над цэнтральнай часткай асноўнага аб'ёму. Сцены гарызантальна ашаляваны, умацаваны вертыкальнымі сцяжкамі і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры над уваходам хоры на 4 слупах. Столь плоская, падшыўная.

Царква — помнік народнага дойлідства. *А. А. Міцянін.*

**в. Вуглы, Доктаравіцкі сельсавет**

**902. РАДЗІМА КОРШАКА** Аляксея Ігнатавіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт А. І. Коршак нарадзіўся 22.2.1920 г. у сялянскай сям'і. Скончыў Капыльскую сярэднюю школу, вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага (1938—41 гг.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1937 г. У вершах паэта — захапленне прыгажосцю прыроды, жыцця, шчырасць пачуццяў, задушэўнасць. У 1963 г. выдадзены зборнік «Апаленыя пялёсткі». Асобныя вершы надрукаваны ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем» (1949 г.) і «Крывёю сэрца» (1967 г.). Загінуў на фронце 27.2.1945 г.

*Літ.:* Б я р о з к і н Р. Над кастром вялікага сяброўства.— Полымя, 1963, № 6; А л е к с а н д р о в і ч С. Варушачы памяць.— Маладосць, 1970, № 2. *В. Л. Бечык.*

**в. Выгода, Бучацінскі сельсавет**

**903. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 воінаў. Сярод іх — воіны 138-га гвардзейскага стралковага, 151-га танкавага, 61-га артылерыйскага палкоў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Вялешына, Капыльскі сельсавет**

**904. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**904а.** М о г і л ь н і к - 1. За 0,3 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. 11 насыпаў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 0,7—13 м. Выявіў у 1980 г. і абследаваў у 1983 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

**904б.** М о г і л ь н і к - 2. За 0,8 км на поўдзень ад вёскі, за 0,5 км ад могільніка-1. 73 насыпы вышынёй 0,7—3 м, дыяметрам 5—17 м. Курганы добрай захаванасці, толькі некаторыя з іх пашкоджаны лісінымі норамі. Выявіў і абследаваў у 1980 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся. *М. Ф. Гурын.*

**в. Вялешына 1-е, Слабада-Кучынскі сельсавет**

**905. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 36 воінаў. Сярод іх — салдаты, сяржанты і афіцэры 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, 21 партызан злучэння Мінскай вобл., якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, і 79 мірных жыхароў, загубленых гітлераўскімі карнікамі ў 1941—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**906. МАГІЛА БАХТЫ** Івана Лявонцьевіча (гіст.). На могілках. Партызан 27-й брыгады імя В. І. Чапаева І. Л. Бахта загінуў 9.4.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**907. МАГІЛА ЗАВАДСКАГА** Сяргея Трафімавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя В. І. Чапаева 27-й брыгады імя Чапаева С. Т. Завадскі загінуў 7.4.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**908. МАГІЛА КАРАЧУНА** Івана Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя В. І. Чапаева 27-й брыгады імя Чапаева І. І. Карачун загінуў у снежні 1943 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**909. МАГІЛА МАЛІБОШКІ** Рыгора Міхайлавіча (гіст.). На могілках. Партызан 27-й брыгады імя В. І. Чапаева Р. М. Малібошка загінуў 11.12.1943 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**910. МАГІЛА МІХАЙЛАВА** Якава Мітрафанавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя В. І. Чапаева Я. М. Міхайлаў загінуў 7.11.1942 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**911. МАГІЛА СТРУШКІ** Васіля Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан ат-



916. *Помнік на месцы бою 1942 г.*



917. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

рада імя В. І. Чапаева 27-й брыгады імя Чапаева В. І. Струшка загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

**912. МАГІЛА СЦЯПУРЫ** Уладзіміра Міхайлавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя В. І. Чапаева У. М. Сцяпура загінуў 12.11.1942 г. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вялешына 2-е, Слабада-Кучынскі сельсавет**

**913. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, справа ад аўтамабільнай дарогі Асіповічы-Баранавічы на ўчастку Шышчыцы — Бабоўня, у лесе. 55 насыпаў дыяметрам 6—17 м, вышынёй да 3 м. Некаторыя курганы пашкоджаны самавольнымі раскопкамі. Абследаваў у 1979 г. і 1983 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вялікая Раёўка, цэнтр сельсавета**

**914. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 23 воіны. Сярод іх — салдаты, сяржанты і афіцэры 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі, 125-га і 234-га гвардзейскага артылерыйскіх палкоў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. На ўшанаванне іх памяці і 264 землякоў — воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе і 5 пліт, на якіх выбіты імёны загінуўшых.

**915. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 18 мірных жыхароў, якіх у 1943 г. закатавалі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**916. ПОМНІК НА МЕСЦЫ БОЮ 1942 г.** (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі, каля дарогі Цімкавічы — Нясвіж. Тут 20.7.1942 г. партызаны атрадаў імя Р. І. Катоўскага (камандзір В. Р. Яроменка, камісар І. С. Савелаў), імя С. М. Будзённага (камандзір М. М. Ізюмскі, камісар М. Р. Янкоўскі), імя М. А. Шчорса (камандзір М. А. Шастапалаў, камісар М. М. Няпомнячы), брыгады імя К. Я. Варашылава (камандзір П. П. Капуста, камісар І. К. Жыжык) разграмілі карны атрад нямецка-фашысцкіх акупантаў. Вораг страціў 68 салдат і афіцэраў. Партызаны захапілі 2 аўтамашыны, 50 вінтовак і аўтаматаў, 6 кулямётаў, мінамёт і шмат боепрыпасаў.

У 1974 г. на месцы бою пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пятровіч С. А., Багдановіч Б. К. Капыль: (Гістарычны нарыс).— Мн., 1974. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Вялікія Прусы, Цімкавіцкі сельсавет**

**917. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 255 жыхароў, якіх 26—27.9.1942 г. закатавалі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**918. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ С. М. БУДЗЁННАГА** (гіст.). На будынку клуба. Устаноўлена ў 1975 г. У сакавіку 1942 г. у в. Вялікія Прусы быў створаны партызанскі атрад імя С. М. Будзённага (камандзір М. М. Ізюмскі, камісар М. Р. Янкоўскі), які ў маі 1942 г. увайшоў у склад брыгады імя К. Я. Варашылава.

**919. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 96 землякоў — воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, а таксама 255 жыхароў вёскі, закатаваных нямецка-фашысцкімі акупантамі 26—27.9.1942 г., у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін, партызан, жанчына ў жалобе і 3 стэлы з імёнамі загінуўшых.



919. *Помнік землякам.*




920. *Помнік І. І. Казлоўскаму.*

**920. ПОМНІК КАЗЛОЎСКАМУ** Ігнату Ігнатавічу (гіст.). У цэнтры вёскі.

Герой Савецкага Саюза І. І. Казлоўскі нарадзіўся 2.2.1917 г. у в. Прусы (цяпер Вялікія Прусы) у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. З 1936 г. у Чырвонай Арміі. У 1939 г. скончыў Сталінградскае авіяцыйнае вучылішча. У Вялікую Айчынную вайну з лістапада 1941 г. на Заходнім, 1-м і 4-м Украінскіх франтах: штурман, камандзір эскадрыллі, намеснік камандзіра штурмавога авіяпалка. Зрабіў больш за 120 баявых вылетаў, з іх 48 у тыл ворага. Экіпаж яго самалёта знішчыў 15 танкаў, 80 аўтамашын, 20 зенітных кропак, 30 чыгуначных вагонаў, каля 700 гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 18.8. 1945 г. Пасля вайны палкоўнік І. І. Казлоўскі служыў у Савецкай Арміі. З 1960 г. працаваў у 2-м мінскім аўтапарку. Памёр 8.6.1962 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

У 1967 г. устаноўлены бюст героя.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Гарнастаева, Доктаравіцкі сельсавет**

**921. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Пахаваны 8 воінаў. Сярод іх — воіны 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі і 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**922. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на поўнач ад вёскі, каля дарогі Капыль — Грозаў, 25 насыпаў добрай захаванасці, вышынёй 0,5—2,2 м, дыяметрам 6—14 м. Вядомы з пачатку 20 ст. Абследаваў у 1980 г. і 1983 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Гразавок, Грозаўскі сельсавет**

**923. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Сфарміравана ў 2-й палове 19 ст. Уключае сядзібны дом, гаспадарчую пабудову, пейзажны парк з сажалкай. Цяпер будынкі выкарыстоўваюцца Капыльскім харчкамбінатам.

С я д з і б н ы  д о м — Г-падобны ў плане аднапавярховы цагляны будынак, накрыты двухсхільным дахам. Цэнтр галоўнага фасада вылучаны глыбокім рызалітам з чатырохкалонным порцікам і трохвугольным франтонам. Бакавыя плоскасці фасада руставаныя. Сцены рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з сандрыкамі. На дваровым фасадзе аконныя праёмы дэкарыраваны лучковымі прафіляванымі броўкамі.

Г а с п а д а р ч а я  п а б у д о в а — прамавугольны ў плане аднапавярховы (з высокім паўпадвалам) цагляны будынак (часткова зруйнаваны), накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад сіметрычна-восевы, рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. У цэнтры — арачны ўваходны праём. На тарцовых фасадах двухслуповыя ганкі з лесвіцамі.

Сядзіба — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**в. Грозаў, цэнтр сельсавета**

**924. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1941 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**925. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 чырвонаармейцаў, якія загінулі 14.7.1920 г. у баі супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1925 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**926. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,1 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе ручая (былой рэчкі) Ужанкі, на мысе. Пляцоўка памерам 55×80 м умацавана па перыметры валам вышынёй да 2 м, а з паўночна-заходняга боку і ровам глыбінёй 1 м. Вал з паўднёвага боку разбураны. Вядома з 1873 г. Абследаваў у 1979 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Описание церквей и приходов Минской епархии... В. 3.—Мн., 1879.

*М. Ф. Гурын.*

**927. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 чалавекі з сям'і Глушкіных, якіх у чэрвені 1942 г. закатавалі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**928. МАГІЛА КАРПЕЙЧЫКА** Станіслава Аляксандравіча (гіст.). На могілках. Партызан С. А. Карпейчык загінуў у лістападзе 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.



929. *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*




926. *Гарадзішча. План.*

**929. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 2-й палове 18 ст. з цэглы ў пейзажным парку (не захаваўся). Цяпер у доме сярэдняя школа.

Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак накрыты пакатым вальмавым дахам. У цэнтры галоўнага (паўднёвага) фасада чатырохкалонны порцік, абапал яго манументальныя вазы на п'едэсталах. Вялікі вынас порціка абумоўлены пандусным пад'ездам да галоўнага ўвахода. Фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з прафіляванымі ліштвамі, раскрапаваны прафіляванымі цягамі, нішамі, лапаткамі, аркамі, вуглы будынка дэкарыраваны рустам. Сіметрычна-восевая кампазіцыя палаца парушана аднапавярховай прыбудовай уздоўж тарцовага заходняга фасада. Памяшканні размешчаны сіметрычна адносна папярочнай кампазіцыйнай восі. Сярод анфілады пакояў вылучаецца цэнтральная група парадных памяшканняў: вестыбюль з двухбаковай лесвіцай, невялікі тамбур




929. *Сядзібны дом. План.*

і квадратныя ў плане вялікія залы першага і другога паверхаў. Яны выступаюць на дваровым (паўночным) фасадзе глыбокім прамавугольным рызалітам. Пад будынкам скляпеністыя падвалы.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**в. Гулевічы, Бучацінскі сельсавет**

**930. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 10 воінаў. Сярод іх — воіны 4-га танкавага і 1521-га гаўбічнага артылерыйскага палкоў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін з дзяўчынай і стэла.

**в. Дарагавіца, Пацейкаўскі сельсавет**

**931. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва З а м э ч а к. За 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, на левым беразе р. Выня, у лесе. Пляцоўка прамавугольная, памерам 75×60 м, размешчана на ўзвышшы, умацавана 2 валамі вышынёй да 2 м і ровам паміж імі глыбінёй 2,5 м. Густа парасла дрэвамі і хмызняком. З паўднёва-ўсходняга і паўночна-заходняга бакоў, верагодна, былі ўваходы. Абследаваў у 1980 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

*М. Ф. Гурын.*

**в. Дзярэчына, цэнтр Блеўчыцкага сельсавета**

**932. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці землякоў — 262 воінаў і 23 партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік: скульптурная кампазіцыя (воін і дзяўчынка) і стэла.

**в. Доктаравічы, цэнтр сельсавета**

**933. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 110 жыхароў вёскі, якіх расстралялі 25.9. 1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**934. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 65 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік: скульптуры воіна і дзяўчынкі.

**935. РАДЗІМА ТАЎПЕКІ** Аляксандра Рыгоравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. Р. Таўпека нарадзіўся ў 1914 г. у беднай сялянскай сям'і. Да вайны служыў у Чырвонай Арміі, пасля дэмабілізацыі працаваў у Ленінградзе на Іжорскім заводзе. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Ленінградскім фронце. Камандзір мінамётнага разліку 133-га стралковага палка 72-й стралковай дывізіі старшына А. Р. Таўпека вызначыўся ў час прарыву абароны ворага на Карэльскім перашыйку і пры вызваленні г. Выбарга. Загінуў у баі 21.6.1944 г. Пахаваны ў Ленінградзе. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 21.7.1944 г. Яго імем названа школа на радзіме, вуліца ў г. Капыль.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*





**934.** *Помнік землякам.*

**в. Дусаеўшчына, Капыльскі сельсавет**

**936. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**936а.** М о г і л ь н і к - 1. За 1 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Клін, у лесе. 16 насыпаў добрай захаванасці, вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 5—10 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. і 1983 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

**936б.** М о г і л ь н і к - 2. За 0,8 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Кобрынец, у лесе. На ўскрайку лесу захавалася 7 насыпаў. Некаторыя з іх пашкоджаны самавольнымі раскопкамі. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. і 1983 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

**936в.** М о г і л ь н і к - 3. За 2,5 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Змяінец, у лесе. 12 насыпаў вышынёй да 2 м, дыяметрам да 15 м. Адзін курган пашкоджаны лісінымі норамі. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. і 1983 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся. *М. Ф. Гурын.*

**937. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. 23.2.1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты закатавалі ці расстралялі 68 жыхароў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск, побач з ім у 1975 г. устаноўлены скульптура жанчыны з дзіцем і стэла з імёнамі загінуўшых.

**938. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1972 г.

**939. ПОМНІК РАМАШКУ** Мікалаю Васілевічу (гіст.). У цэнтры вёскі.

Герой Савецкага Саюза М. В. Рамашка нарадзіўся 30.9.1913 г. у в. Дусаеўшчына Капыльскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Працаваў у саўгасе. З 1935 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Паўночна-Заходнім, 2-м Беларускім франтах. Намеснік камандзіра 1359-га зенітнага артпалка па палітчастцы маёр М. В. Рамашка вызначыўся 30.6.1944 г. у час абароны чыгуначнага моста і пераправы цераз р. Бярэзіна каля в. Свіслач Асіповіцкага р-на. Зенітны полк адбіў некалькі контратак праціўніка, які імкнуўся захапіць мост і пераправу і прарвацца з акружэння на за-



**936а.** *Курганны могільнік. План.*



**936б.** *Курганны могільнік. План.*

хад. У час бою М. В. Рамашка ўзначаліў кулямётную роту, камандзір якой быў цяжка паранены, і асабіста знішчыў кулямётным агнём каля 200 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў Магілёве. Званне Героя Савецкага Саюза М. В. Рамашку прысвоена 26.10.1944 г. Яго імем названы вуліцы ў Магілёве і Капылі.

У 1975 г. устаноўлены бюст героя.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Душава, Пацейкаўскі сельсавет**

**940. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 70 жыхароў, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў 1941—44 гг. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе і стэла з імёнамі загінуўшых.

**941. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Пралетарый». На ўшанаванне памяці 135 землякоў, воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік: скульптура воіна і 4 стэлы, на якіх імёны загінуўшых.

**в. Жабчава, Бучацінскі сельсавет**

**942. РАДЗІМА ЧОРНАГА** Кузьмы (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік К. Чорны (сапраўднае Р а м а н о ў с к і Мікалай Карлавіч) нарадзіўся 11.6.1900 г. у былым маёнтку Боркі, што знаходзіўся непадалёку ад в. Жабчава, у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1916—19 гг. вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, у 1923—



940. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



941. *Помнік землякам.*

25 гг.— у БДУ. У 1920—22 гг. працаваў сакратаром Слуцкага валаснога рэўкома, настаўнікам у Цімкавічах, справаводам павятовага ваенкамата ў Слуцку, у 1924—28 гг. у рэдакцыі газеты «Беларуская вёска». Член літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» (з 1923 г.) і «Узвышша» (з 1926 г.). У 1930-я гады быў літаратурным кансультантам кабінета маладога аўтара пры Саюзе пісьменнікаў БССР. У Вялікую Айчынную вайну жыў у Маскве, супрацоўнічаў у газеце «Савецкая Беларусь» і газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», у часопісе «Беларусь».

Друкавацца пачаў з 1921 г. Выдадзены зборнікі апавяданняў: «Срэбра жыцця» і «Апавяданні» (1925 г.), «Па дарозе», «Пачуцці», «Хвоі гавораць» (усе ў 1926 г.), «Вераснёвыя ночы» (1929 г.), «Нянавісць», «Буры» (1930 г.), «Брыгадзіравы апавяданні», «Два апавяданні», «Выбраныя апавяданні» (усе ў 1932 г.). Плённа працаваў пісьменнік у эпічным жанры. Стварыў раманы «Сястра» (1927—28 гг.), «Зямля» (1928 г.). У ранніх творах адлюстраваны рэвалюцыйныя змены, што прынёс Вялікі Кастрычнік у жыццё народа, у свядомасць людзей. Цыкл аповесцей і раманаў пісьменніка прысвечаны паказу асуджанасці чалавека-ўласніка ў сацыялістычнай рэчаіснасці, нараджэння новага савецкага чалавека. У аповесці «Лявон Бушмар» (1930 г.), рамане «Бацькаўшчына» (1931 г.) праз буйныя характары-тыпы адлюстравана мінулае і сучаснасць беларускага народа. Раман «Ідзі, ідзі» (1930 г., няскончаны) і аповесць «Вясна» (1931 г.) прысвечаны калектывізацыі. К. Чорны напісаў сацыяльна-філасофскі цыкл раманаў і аповесцей, у якіх імкнуўся расказаць пра лёс беларускага народа ад часоў паншчыны да пабудовы сацыялістычнага грамадства — «Трыццаць год» (1934 г.), «Трэцяе пакаленне» (1935 г.), «Люба Лук'янская» (1936 г.). У гады Вялікай Айчыннай вайны створаны раманы «Вялікі дзень» (апублікаваны ў 1947 г.), «Пошукі будучыні» (апублікаваны ў 1950 г.), «Млечны шлях» (апублікаваны ў 1954 г.), аповесць «Скіп'ёўскі лес» (апублікаваны ў 1946 г.), выйшла кніга фельетонаў «Кат у белай манішцы» (1942 г.), зборнік апавяданняў «Вялікае сэрца» (1945 г.), нарыс «Герой Савецкага Саюза Ціхан Піменавіч Бумажкоў» (1943 г.). Паспяхова працаваў пісьменнік і ў жанры драматургіі. Ён аўтар п'ес «Бацькаўшчына» (1934 г., пастаўлена Беларускім першым дзяржаўным тэатрам у 1932 г., 2-і варыянт у 1939 г.; Беларускім тэатрам імя Я. Коласа ў 1966 г.), «Лета» (1932 г.), «Базылевічава сям'я» (1938 г.), «Ірынка» (1941 г., пастаўлена БДТ-1 і БДТ-2 у 1941 г.). Гумарыстычныя творы сабраны ў зборніку «Вяселле ў Скіп'ёўскім Пераброддзі» (1971 г.). Выдадзены «Выбраныя творы» (1934, 1947 гг.), зборы твораў у 6 тамах (1954—55 гг.), у 8 тамах (1972—75 гг.). К. Чорны пераклаў на беларускую мову аповесці А. Пушкіна «Капітанская дачка», «Станцыйны даглядчык», «Дуброўскі», «Трунар», «Паненка-сялянка», камедыю М. Гогаля «Рэвізор», п'есы А. Астроўскага «Позняе каханне», «Гарачае сэрца», М. Горкага «Варвары» і «Апошнія», аповесць У. Караленкі «У благой кампаніі» і інш.

Памёр К. Чорны 22.11.1944 г. у Мінску. Пахаваны на Вайсковых могілках. На магіле ў 1947 г. пастаўлена стэла. Імем пісьменніка названы вуліцы ў Мінску (і завулак), Бабруйску, Слуцку, Нясвіжы, сярэдняя школа ў в. Цімкавічы, пры якой створаны мемарыяльны музей К. Чорнага.

*Літ.:* Б а р с т о к М. М. Кузьма Чорны ў школе.— 2 выд.— Мн., 1973; Б у л а ц к і Р. В., С а ч а н к а І. І. Кузьма Чорны — публіцыст.— Мн., 1972; К у д р а ў ц а ў І. Кузьма Чорны.— 2 выд.— Мн., 1962; Л у ф е р а ў М. П. Проза Кузьмы Чорнага.— Мн., 1961; Т ы ч ы н а М. А. Кузьма Чорны: Эвалюцыя мастацкага мыслення.— Мн., 1973; Х в е д а р о в і ч М. Вялікі майстар прозы.— У яго кн.: Памятныя сустрэчы. 3 выд. Мн., 1977; К а з е к а Я. Кузьма Чорны: Старонкі творчасці.— Мн., 1980; В а т а ц ы Н. Б. Кузьма Чорны. 1900—1944: Бібліягр. даведнік.— Мн., 1954. *І. Ф. Кудраўцаў.*

**в. Жавалкі, Пацейкаўскі сельсавет**

**943. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, каля будынка клуба. Пахаваны 512 жыхароў, якіх 5.2.1943 г. закатавалі ці расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: салдат, партызан, жанчына ў жалобе, а таксама 4 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Жыліхава, Бучацінскі сельсавет**

**944. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 101 земляка — воіна і партызана, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Заракаўцы, Браткаўскі сельсавет**

**945. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 1,2 км на захад ад вёскі, у лесе. Воін загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1982 г. устаноўлена надмагілле.

**946. ПОМНІК У ГОНАР ПАГРАНЗАСТАВЫ** (гіст.). За 0,5 км на захад ад вёскі. Тут размяшчалася 5-я пагранзастава 17-га Цімкавіцкага Чырванасцяжнага пагранатрада. 27.3.1940 г. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР пагранзаставе прысвоена імя чырвонаармейца-пагранічніка Р. І. Кафанава, які загінуў пры выкананні баявога задання. У 1974 г. на месцы былой заставы імя Р. І. Кафанава ўстаноўлены мемарыяльны знак.

*Літ.:* Дозорные западных рубежей.— 2 изд.— Киев, 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**947. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ Р. І. КАТОЎСКАГА** (гіст.). У цэнтры вёскі.

28.3.1942 г. у в. Заракаўцы з патрыятычных груп, што ўзніклі ў вёсках Абразцова, Браткава, Дзягцяныя, Заракаўцы, Савічы, Цімкавічы (уваходзілі камуністы, камсамольцы, ваеннаслужачыя, якія трапілі ў акружэнне, і мясцовыя жыхары), быў арганізаваны партызанскі атрад імя Р. І. Катоўскага. Камандзіры атрада В. Р. Яроменка (сакавік — снежань 1942 г.), М. Ю. Баранаў (снежань 1942 г.), І. А. Сафончык (лістапад 1943 г.— ліпень 1944 г.); камісары І. С. Савелаў (май — снежань 1942 г.), А. В. Ігнатаў (снежань 1942 г.— люты 1943 г.), Я. К. Курушын (люты 1943 г.— ліпень 1944 г.). 15.5.1942 г. атрад увайшоў у склад партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава, з снежня 1942 г. у брыгадзе 300-й імя К. Я. Варашылава.



943. *Помнік на магіле ахвяр фашызму. Фрагмент.*




952. *Помнік землякам.*

У 1975 г. у памяць аб арганізацыі ў вёсцы партызанскага атрада ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Какорычы, Пацейкаўскі сельсавет**

**948. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. 2 насыпы вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 7—10 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Калінаўка, Слабада-Кучынскі сельсавет**

**949. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км ад вёскі. Пахаваны 22 мірныя жыхары былой в. Рулёва, якіх 23.2.1943 г. расстралялі і спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Калодзезнае, Вялікараёўскі сельсавет**

**950. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 196 мірных жыхароў, якіх 9.2.1943 г. закатавалі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана і стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Камень, Камсамольскі сельсавет**

**951. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, і партызаны злучэння Мінскай вобл., што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**952. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 203 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя (воін і партызан), а таксама стэлы з імёнамі загінуўшых.



948. *Курганны могільнік. План.*

13 Зак. 2282



953. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Камсамольская, цэнтр сельсавета**

**953. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі, каля дарогі Асіповічы — Бабоўня. Пахаваны 192 воіны. Сярод іх — воіны 10-й стралковай дывізіі, што загінулі ў ліпені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**954. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі, каля дарогі Асіповічы — Бабоўня. Пахаваны 46 жанчын і дзяцей, якіх у верасні 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з дзіцем.

**955. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 0,2 км на поўдзень ад вёскі. На ўшанаванне памяці 323 землякоў — воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлена стэла з барэльефнымі выявамі партызана, воіна, жанчыны і імёнамі загінуўшых.

**956. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса, які носіць яго імя. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1960 г.

**в. Кандратавічы, Камсамольскі сельсавет**

**957. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Разведчык партызанскага злучэння Мінскай вобл. загінуў у красавіку 1943 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Канюхі, Грозаўскі сельсавет**

**958. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля будынка клуба. Пахаваны 69 воінаў, у т. л. салдаты, сяржанты і афіцэры 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне іх памяці, а таксама 43 землякоў — воінаў і партызан і 42 мірных жыхароў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік: 2 надмагіллі, абеліск з выявамі салдата, жанчыны і партызана, стэла з імёнамі загінуўшых.

**959. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,4 км ад дарогі Канюхі — Грозава, у лесе. Пахаваны 421 савецкі грамадзянін, якіх у снежні 1941 г. закатавалі ці расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**960. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Карачоўшчына, Камсамольскі сельсавет**

**961. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.



954. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



955. *Помнік землякам.*

**962. ЦАРКВА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з дрэва. Складаецца з трох прамавугольных у плане аб'ёмаў. Над бабінцам чацвярык званіцы з шатровым верхам, над цэнтральнай зальнай часткай чатырохсхільны шацёр, завершаны невялікай галоўкай. Апсіда накрыта двухсхільным дахам з вальмай на тарцы. Усе пакрыцці будынка гонтавыя. Сцены прарэзаны невялікімі квадратнымі аконнымі праёмамі.

Царква — помнік традыцыйнага народнага драўлянага дойлідства.

*А. А. Міцянін.*

**в. Кацельнікі, Пацейкаўскі сельсавет**

**963. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 воінаў. Сярод іх — воіны 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі і 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**пас. Кісялі, Камсамольскі сельсавет**

**964. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі. 44 паўсферычныя насыпы вышынёй 0,5—1,8 м, дыяметрам 5—12 м; 10 насыпаў пашкоджаны. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Кіявічы, Блеўчыцкі сельсавет**

**965. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. Пахаваны 16 воінаў. Сярод іх — салдаты, сяржанты і афіцэры 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі і 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, якія загінулі ў




958. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, землякам.*

1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**966. ЦАРКВА УШЭСЦЯ** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Складаецца з асноўнага кубічнага аб'ёму, трохапсіднай алтарнай часткі, бабінца з трох'яруснай вежай-званіцай (завяршэнне вежы не захавалася). Над асноўным аб'ёмам — васьміграннны светлавы барабан, на ім гранёны грушападобны купал з заломам. Уваходы ў царкву з трох бакоў аформлены глыбокімі рызалітамі, завершанымі сегментнымі франтонамі. У дэкоры фасадаў выкарыстаны плоскія нішы, разнастайныя профілі, зубчыкі і інш. Аконныя праёмы з паўцыркульнымі завяршэннямі, на барабане купала — патроеныя. У інтэр'еры падкупальная прастора перакрыта самкнёным скляпеннем, дадатковы аб'ём — цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Алтарная частка двухсветлавая.

Царква — помнік эклектычнай архітэктуры з элементамі псеўдарускага стылю. *Т. В. Габрусь.*

**в. Клецішча, Бабаўнянскі сельсавет**

**967. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 18 партызан брыгады імя К. Я. Варашылава, што загінулі 3.12.1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Лаўскім лесе. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Вікенцій Іосіфавіч Драздовіч.

В. І. Драздовіч нарадзіўся ў в. Навасёлкі Капыльскага р-на ў жніўні 1911 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1941 г. З 1932 г. у Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў упаўнаважаным у Капыльскім райаддзеле міліцыі, вучыўся ў вячэрняй школе. З 1939 г. старшыня Межна-Слабодскага сельсавета Клецкага р-на. З ліпеня 1942 г. у партызанскім атрадзе імя Р. І. Катоўскага брыгады імя К. Я. Варашылава, камандзір узвода.

3.12.1942 г. у час карнай аперацыі нямецка-фашысцкіх захопнікаў супраць партызан брыгады імя К. Я. Варашылава перад узводам В. І. Драздовіча была пастаўлена задача затрымаць гітлераўцаў у Лаўскім лесе. Партызаны зрабілі засаду каля в. Клецішча і 4 гадзіны стрымлівалі націск ворага, адбілі 8 атак, знішчылі 85 фашыстаў. За гэты час брыгада эвакуіравала шпіталь, разгарнула сілы і ўступіла ў бой з карнікамі. Ноччу брыгада выйшла з акружэння. 18 партызан узвода В. І. Драздовіча загінулі пры выкананні баявога задання, у т. л. і камандзір. Званне Героя Савецкага Саюза В. І. Драздовічу прысвоена 8.5. 1965 г.

У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; В едином строю.— Мн., 1970; Советские партизаны.— 2 изд.— М., 1963. *М. Б. Батвіннік.*




963. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**968. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава, якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**969. МАГІЛА ЗУБКОВА** Георгія Ільіча (гіст.). На могілках. Партызан 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава Г. І. Зубкоў загінуў 28.2.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.




962. *Царква. План.*



964. *Курганны могільнік. План.*



966. *Царква Ушэсця.*



967. *Помнік на брацкай магіле партызан.*

в. Комсічы, Браткаўскі сельсавет

**970. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ І ГАЙКАВЫ** Мікалая Савіча (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 ваеннапалонныя і савецкі патрыёт М. С. Гайкава, якіх у красавіку 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**971. ЦАРКВА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва.

Будынак падоўжна-восевай кампазіцыі. Складаецца з бабінца, асноўнага і алтарнага зрубаў. З поўдня да алтара прылягае невялікая рызніца. Асноўны і алтарны зрубы квадратныя ў плане, роўнашырокія, але розныя па вышыні, выразна вылучаюцца ў аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Высокі асноўны зруб з пакатым чатырохсхільным, алтарны са шматсхільным гонтавымі дахамі, увенчанымі цыбулепадобнымі гранёнымі галоўкамі. Над бабінцам размешчана чацверыковая званіца, накрытая вастраверхім шатром з галоўкай. Сцены гарызантальна ашаляваны, умацаваны лапаткамі, завершаны цягай карніза, прарэзаны вялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры столь плоская, падшыўная. Над уваходам хоры на 2 калонках з агароджай у выглядзе балясін.

Царква — помнік традыцыйнага драўлянага дойлідства. *Т. В. Габрусь.*




971. *Царква. План.*

в. Кудзінавічы, Пацейкаўскі сельсавет

**972. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава, якія загінулі ў 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**973. МАГІЛА ІВАШЧАНКІ** Пятра Якімавіча (гіст.). На могілках. Афіцэр Савецкай Арміі П. Я. Івашчанка загінуў у ліпені 1944 г. у баі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Кукавічы, Вялікараёўскі сельсавет

**974. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 400 воінаў, якія ў 1944 г. памерлі ад ран у шпіталі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.



976. *Царква.*




976. *Царква. План.*

в. Лешня, Блеўчыцкі сельсавет

**975. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя Ульянава. Пахаваны 2 партызаны 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава, якія загінулі ў 1944 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**976. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Пяцізрубны крыжападобны ў плане будынак. Мае падоўжна-восевую кампазіцыю: паслядоўна размешчаны бабінец, квадратны ў плане цэнтральны аб'ём і пяцігранная алтарная частка. Да цэнтральнай часткі з абодвух бакоў далучаны больш нізкія аб'ёмы. Над бабінцам — двух'ярусная (васьмярык на чацверыку) званіца з высокім шпілем. Зальная частка з дапамогай залома пераходзіць у больш вузкі другі ярус, завершаны шатром з галоўкай. Бакавыя аб'ёмы і алтарная частка накрыты вальмавымі дахамі, фасады завершаны ступеньчатымі шчытамі. Уваход вырашаны ў выглядзе мураванага ганка з лесвіцамі з трох бакоў і навіссю. Усе аб'ёмы па перыметры апяразаны развітымі карнізамі. Прамавугольныя аконныя праёмы ўпрыгожаны фігурнымі сандрыкамі на кранштэйнах. Чаргаванне вертыкальнай і гарызантальнай шалёўкі, цягі і разны арнамент надаюць будынку своеасаблівы каларыт. У інтэр'еры цэнтральная падкупальная прастора перакрыта гранёным шатровым скляпеннем. У іншых частках столі плоскія, падшыўныя. Падлога выкладзена керамічнай пліткай.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з элементамі стылю «мадэрн». *А. А. Міцянін.*

в. Лугавая, Слабада-Кучынскі сельсавет

**977. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 жанчыны з сям'і Гурскіх, якіх 17.2.1942 г. закатавалі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1945 г. на магіле пастаўлена стэла.

**978. РАДЗІМА СТАШЭЎСКАГА** Васіля Пятровіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік В. П. Сташэўскі нарадзіўся 23.3.1895 г. у в. Свінка (цяпер в. Лугавая) у сям'і малазямельнага селяніна. Скончыў у 1914 г. Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Удзельнік 1-й сусветнай вайны; у Грамадзянскую вайну ў складзе партызанскага атрада змагаўся супраць польскіх акупантаў. У 1918—20 гг. настаўнічаў, у 1920—21 гг. ваенком і загадчык аддзела асветы Магільнянскага валаснога рэўкома, сакратар Нясвіжскага павятовага ваенкамата, загадчык беларускага




982. *Помнік землякам.*

пададдзела Мінскага павятовага аддзела народнай асветы. У 1924 г. скончыў Мінскі настаўніцкі інстытут. Выкладаў гісторыю і літаратуру на настаўніцкіх курсах і рабфаку ў Оршы, адначасова ўзначальваў культаддзел Аршанскага акруговага савета прафсаюзаў. З 1927 г. адказны сакратар літаратурнага аб'яднання «Маладняк», з 1929 г.— аб'яднання «Полымя». У 1928—29 гг. працаваў у газеце «Савецкая Беларусь».

Друкавацца пачаў з 1925 г. Пісаў вершы, выступаў у прозе, драматургіі. Першая п'еса «На другі дзень» выйшла ў 1927 г. Было надрукавана больш за 20 п'ес: «Кацярына», «Музыка Цвілеўскі», «Спявай, вясна», «У прошчы» (усе 1928 г.), «Самсон і Людміла» (1936 г.) і інш. П'еса «Мікола Гоман» пастаўлена ў 1936 г. у Беларускім тэатры юнага гледача. П'есы «Архангелы з крэсаў» (1929 г.) і «Віхор» (1930 г.) прасякнуты сцвярджэннем рэвалюцыйных ідэалаў. Аўтар аповесцей «Пад местачковым месяцам» (1931 г.) і «Шуміць Бярэзінка» (1933 г.), нарысаў «Па сонечным шляху» (1930 г.), «Каласіцца зямля» (1932 г.), зборнікаў апавяданняў. Шмат пісаў пра дзяцей і для дзяцей: «Беспрытульная» і «Сашка-будаўнік» (1927 г.), «Маленькая Анжэліна» і «Скарб» (1930 г.).

Памёр В. П. Сташэўскі 8.9.1938 г.

*Літ.:* Александровіч С. Жывыя старонкі часу.— Полымя, 1963, № 12; Лаўшук С. С. Кандрат Крапіва і беларуская драматургія.— Мн., 1986.

*С. С. Лаўшук.*

**в. Лютовічы, Бучацінскі сельсавет**

**979. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.



984. *Гарадзішча.*

**в. Мажа, Капыльскі сельсавет**

**980. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 16 чырвонаармейцаў, якія загінулі 9.7.1920 г. у баі супраць польскіх інтэрвентаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**981. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**981а.** Курганны могільнік. За 0,5 км ад вёскі, у лесе, справа ад асфальтаванай дарогі Капыль — Цімкавічы. 37 насыпаў вышынёй 0,5—2,3 м, дыяметрам 6—18 м. Абследаваў у 1980 г. і 1983 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

**981б.** Курган. За 160 м на паўночны ўсход ад могільніка, у полі, каля дарогі ў Капыль. Вышыня 1,5 м, дыяметр 8 м. Абследаваў у 1980 г. і 1983 г. М. Ф. Гурын.




984. *Гарадзішча. План.*

**982. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, паміж будынкамі клуба і школы. На ўшанаванне памяці 147 землякоў з вёсак калгаса «Ленінец», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна; на пастаменце барэльефныя выявы параненага воіна і жанчыны.

**в. Мазалі, Капыльскі сельсавет**

**983. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мыслі, Пацейкаўскі сельсавет**

**984. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Выня, ва ўрочышчы Замэчак, сярод поля. Пляцоўка прамавугольная, памерам 60×40 м, з трох бакоў умацавана валам вышынёй каля 5 м і ровам глыбінёй да 2 м. З боку ракі круты абрыў. У адным месцы пляцоўка пашкоджана шырокай і глыбокай канавай.



984. *Прасліцы з раскопак гарадзішча.*



984. *Жалезныя вырабы з раскопак гарадзішча.*

Даследаваў у 1979 г. М. Ф. Гурын на плошчы 170 м². Культурны пласт 0,5 м. Выяўлены рэшткі паўзямлянкавага жытла (памеры 3,8×3,5 м), заглыбленага ў мацярык на 0,4 м, гаспадарчыя ямы. Знойдзены фрагменты ляпной гладкасценнай і штрыхаванай керамікі, маленькі гліняны тыгель для плаўкі бронзы, косці дзікіх і свойскіх жывёл, кавалкі жалезнага шлаку, больш за 30 гліняных праслiц і грузікаў, жалезныя сярпы, прабойнік, наканечнік стралы, 3 посахападобныя шпількі, шылы, стрыжні, бронзавыя ўпрыгожанні. Гарадзішча адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 2 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. Ф. Гурын.*

**в. Навасёлкі, Бабаўнянскі сельсавет**

**985. ПОМНІК ДРАЗДОВІЧУ** Вікенцію Іосіфавічу (гіст.). У цэнтры вёскі, у парку. Скульптурны партрэт Героя Савецкага Саюза В. І. Драздовіча ўстаноўлены ў 1972 г. Гл. таксама артыкул № 967 «Брацкая магіла партызан».

**в. Навасёлкі, Браткаўскі сельсавет**

**986. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 3 лётчыкі і 4 партызаны 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава, якія загінулі ў 1943—44 гг. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**987. МАГІЛА ЖЫЖЫКА** Івана Кліменцьевіча (гіст.). У цэнтры вёскі.

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Мінскай вобл., сакратар Капыльскага падпольнага райкома КП(б)Б І. К. Жыжык нарадзіўся ў чэрвені 1910 г. у в. Навасёлкі Капыльскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1932 г. З 1929 г. на культурна-асветнай, камсамольскай, гаспадарчай, прафсаюзнай рабоце ў Капылі. У 1939—41 гг. інструктар Капыльскага райкома КП(б)Б. У жніўні 1941 г. ЦК КП(б)Б накіраваў яго ў Капыльскі р-н для арганізацыі партызанскіх атрадаў. З яго ўдзелам створана партызанская брыгада імя К. Я. Варашылава, камісарам якой быў з ліпеня па снежань 1942 г. Адначасова з жніўня 1942 г. член падпольнага міжраённага камітэта КП(б)Б Слуцкай зоны. З 7.4 да 28.5.1943 г. сакратар, з мая 1943 г. член Капыльскага падпольнага райкома КП(б)Б, што базіраваўся ў партызанскай брыгадзе 27-й імя В. І. Чапаева. Загінуў у баі 12.8.1943 г.

У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975. *М. Б. Батвіннік.*

**988. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 157 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з імёнамі загінуўшых.



985. *Помнік В. І. Драздовічу.*

**в. Новыя Доктаравічы, Доктаравіцкі сельсавет**

**989. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 40 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Астрава, Блеўчыцкі сельсавет**

**990. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны злучэння Баранавіцкай вобл., якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Папоўцы, Грозаўскі сельсавет**

**991. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ, ПОМНІК РАДКЕВІЧУ** Аляксандру Іванавічу (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 6 воінаў. Сярод іх — воіны 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, якія загінулі ў 1944 г. На ўшанаванне іх памяці, а таксама памяці 218 землякоў — воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены стэлы з імёнамі загінуўшых, устаноўлены 2 надмагіллі, паплечны бюст Героя Савецкага Саюза А. І. Радкевіча (гл. артыкул № 890 «Радзіма Радкевіча Аляксандра Іванавіча»).

**в. Пацейкі, цэнтр сельсавета**

**992. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Прагрэс». Пахаваны 12 воінаў. Сярод іх — воіны 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**993. МАГІЛА БУКАТАЙ** Надзеі Іванаўны (гіст.).

Герой Сацыялістычнай Працы Н. І. Букатая нарадзілася 3.5.1918 г. у в. Траянава Капыльскага р-на ў сялянскай сям'і. У 1934—41 гг. палявод калгаса «Камуніст», з 1944 г. цялятніца, з 1953 г. свінарка калгаса «Прагрэс» Капыльскага р-на. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 18.1.1958 г. за поспехі ў павелічэнні вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў і ўкараненне дасягненняў навукі і перадавога вопыту. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1958—62 гг. Памерла 3.9.1977 г.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

*М. Б. Батвіннік.*

**в. Пясочнае, Слабада-Кучынскі сельсавет**

**994. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 32 воіны і партызаны 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1956 г. на магіле пастаўле-



989. *Помнік землякам.*



991. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, землякам, помнік А. І. Радкевічу.*

ны помнік — скульптура жанчыны ў жалобе, устаноўлены надмагіллі.

**995. МАГІЛА АСТРЭЙКІ** Васіля Міхайлавіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады імя К. Я. Варашылава В. М. Астрэйка загінуў 3.12.1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**996. РАДЗІМА АСТРЭЙКІ** Анатоля (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Анатоль (Акім Пятровіч) Астрэйка нарадзіўся 11.7.1911 г. у сялянскай сям'і. У 1930 г. скончыў курсы пры Мінскім педагагічным тэхнікуме. У 1932—34 гг. вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута. З 1930 г. працаваў у рэдакцыях абласных і рэспубліканскіх газет і часопісаў. У Вялікую Айчынную вайну адказны сакратар сатырычнай газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». У 1942 г. і 1943 г. па заданню Беларускага штаба партызанскага руху быў у варожым тыле. У 1946—48 гг. старшыня Гродзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР, у 1948—53 гг. адказны сакратар часопіса «Вожык». Быў членам Полацкай філіі БелАППа. Першы верш (пад псеўданімам Якім Зорны) надрукаваны ў 1928 г., першы зборнік «Слава жыццю» выйшаў у 1940 г. У іх аўтар услаўляў сацыялістычную Радзіму, поспехі калгаснага ладу, у вершах гучалі тэма міру, матывы сяброўства і кахання. У 1943 г. друкарня падпольнай слуцкай газеты «Народны мсцівец» выдала зборнік яго вершаў «Слуцкі пояс» (перавыдадзены ў 1964 г.). У вершах ваеннага часу — заклік да змагання з ворагам, малюнкі баёў і партызанскага побыту, упэўненасць у перамозе.

Пасля вайны выйшлі зборнікі паэта «Крамлёўскія зоры» (1945 г.), «Добры дзень» (1948 г.), «Зямля мая» (1952 г.), «Песня дружбы» (1956 г.), кнігі «Бацька мой Нёман» (1961 г.), «Сэрца насцеж» (1965 г.), «Цвіціце, верасы!» (1975 г.), «Зямная Случчына» (1977 г.), «Ураджай цяпла» (1978 г.) і інш. Вершам паэта ўласцівы прасветленасць пачуццяў, актыўнае сцвярджэнне дабраты і шчырасці, задушэўнасць і апавядальнасць, цесная сувязь з фальклорам, меладычнасць. Многія з іх сталі папулярнымі песнямі («Ой бацька мой, Нёман», «Песня пра Заслонава», «Шоўкавыя травы», «Песня мінаеўцаў» і інш.). Аўтар твораў для дзяцей. Асаблівую вядомасць набыла яго паэма «Прыгоды дзеда Міхеда» (1956 г. і наступныя выданні). У 1970 г. выдадзены выбраныя творы ў 2 тамах. Вершы паэта перакладаліся на рускую, украінскую і інш. мовы.

Памёр 23.8.1978 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Арочка М. За трыццаць год.— Полымя, 1961, № 8; Панчанка П. На паэтычным небасхіле: Публіцыстыка.— Мн., 1977. *В. Л. Бечык.*

**997. РАДЗІМА УМРЭЙКІ** Сцяпана Андрэевіча (гіст.).

Беларускі савецкі педагог, член-карэспандэнт Акадэміі педагагічных навук СССР (1968 г.), прафесар (1972 г.), заслужаны настаўнік БССР (1971 г.) С. А. Умрэйка нарадзіўся 6.12.1908 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. Скончыў у 1928 г. Мінскі педтэхнікум, у 1940 г. Мінскі педінстытут. Працаваў настаўнікам рускай і беларускай моў. З 1928 г. загадчык аддзела Капыльскага райкома ЛКСМБ, з 1929 г. інспектар Капыльскага раёна. З 1930 г. у Мінску: загадчык аддзела прапаганды і агітацыі Фрунзенскага райкома ЛКСМБ, загадчык аддзела газеты «Чырвоная змена», дырэктар школы, начальнік упраўлення школ Наркамата асветы БССР. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1943—48 гг. і 1952—64 гг. намеснік міністра асветы БССР, у 1948—52 гг. дырэктар Навукова-даследчага інстытута педагогікі. З 1964 г. загадчык, з 1974 г. прафесар кафедры педагогікі і псіхалогіі, у 1967—74 гг. прарэктар БДУ імя У. І. Леніна. Неаднаразова выбіраўся старшынёй Педагагічнага таварыства. Працы па гісторыі педагогікі і народнай асветы, па пытаннях школазнаўства, камуністычнага выхавання ў школе. Аўтар (разам з І. М. Ільюшыным) кнігі «Народная асвета ў Беларускай ССР» (2-е выд., 1961 г.), суаўтар кніг «Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі» (1968 г.), «Лекцыі па педагогіцы» (1970 г.).

Памёр 19.6.1978 г., пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла. Яго імя прысвоена сярэдняй школе ў в. Пясочнае. *М. Б. Батвіннік.*



994. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*




998. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Ржаўка, Пацейкаўскі сельсавет**

**998. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля дарогі Капыль — Бабоўня. Пахаваны 9 воінаў. Сярод іх — салдаты, сяржанты і афіцэры 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, якія загінулі ў

1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**999. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на захад ад вёскі, злева ад дарогі Капыль — Бабоўня. Займае край мыса, утворанага былым рэчышчам р. Выня і ярам. Арыенціровачна пляцоўка памерам 70×70 м (не выключана, што па лініі поўнач — поўдзень яна была большая). Вал і роў прасочваецца з заходняга боку. Цяпер тут могілкі. Абследаваў у 1980 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Роспы, Слабада-Кучынскі сельсавет**

**1000. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 21 жыхар вёсак Роспы і Пeравоз, якіх у лютым 1943 г. расстралялі і спалілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1971 г. на магіле пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**1001. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР КАПЫЛЬСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). У цэнтры вёскі, на доме, у якім у 1943—44 гг. размяшчаўся падпольны райком КП(б)Б. Устаноўлена ў 1971 г.

Падпольны райком КП(б)Б створаны 7.4.1943 г. міжрайкомам партыі Слуцкай зоны і зацверджаны Мінскім падпольным абкомам КП(б)Б 12.5.1943 г. Сакратары І. К. Жыжык (7.4—28.5.1943 г.), Н. Дз. Емяльянаў (28.5.1943 г.— 1.7.1944 г.), К. М. Клюйко (студзень — красавік 1944 г.). Падпольны райком арганізоўваў і ўзначальваў партызанскі рух і камуністычнае падполле, вёў палітычную работу сярод насельніцтва. Друкаваны орган падпольнага райкома КП(б)Б — газета «Калгаснік Капыльшчыны» (рэдактары К. М. Клюйко, А. В. Гарбачоў, І. І. Лiннік). Райком базіраваўся ў 27-й партызанскай брыгадзе імя В. І. Чапаева.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Руднае, Вялікараеўскі сельсавет**

**1002. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, у лесе, каля дарогі ў в. Савічы, ва урочышчы Дуплішча. 67 насыпаў вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 5—15 м. Вядомы з пачатку 20 ст. Абследаваў у 1980 г. і 1983 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Руднікі, Бабаўнянскі сельсавет**

**1003. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на ўсход ад в. Руднікі. Пахаваны 130 жыхароў в. Масявічы, якіх 2.2.1943 г. разам з вёскай (32 двары) спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: партызан і дзяўчына. Вёска Масявічы ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь».



1001. *Дом, дзе размяшчаўся Капыльскі падпольны райком КП(б)Б.*

**в. Русакі, Слабада-Кучынскі сельсавет**

**1004. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны 27-й брыгады імя В. І. Чапаева, якія загінулі 2.7.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1005. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка дзіцячага сада. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1973 г.

**в. Савічы, Вялікараеўскі сельсавет**

**1006. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 воінаў. Сярод іх — воіны 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1007. КАСЦЁЛ** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 19 ст. з дрэва.

Асноўнае памяшканне і алтарная частка аб'яднаны ў адным выцягнутым прамавугольным у плане зрубе, накрытым двухсхільным дахам з вальмай над алтаром. Схілы даху працягнуты на невялікія бакавыя прыбудовы, што ўтвараюць трансепт. З боку галоўнага фасада прылягае другі зруб — бабінец, завершаны васьмігранная каркаснай вежай-званіцай, накрытай невысокім шатром. Аконныя праёмы маюць паўцыркульныя імпасты. Уваходныя дзверы аформлены дэкаратыўнай шалёўкай. Інтэр'ер зальны з плоскай падшыўной столлю. Крылы трансепта аддзелены ад асноўнага памяшкання 2 парамі слупоў. Пад будынкам — мураваная крыпта з цыліндрычным скляпеннем.




1007. *Касцёл. План.*

Касцёл — помнік традыцыйнага драўлянага дойлідства з элементамі класіцызму. *Т. В. Габрусь.*

**1008. МАГІЛА АБЦЭШКІ** Віктара Якаўлевіча (гіст.). На могілках. Партызан 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава В. Я. Абцэшка загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1009. МАГІЛА АБЦЭШКІ** Мікалая Якаўлевіча (гіст.). На могілках. Партызан 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава М. Я. Абцэшка загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1010. МАГІЛА БУТУРЭНКІ** Пятра (гіст.). На могілках. Партызан 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава П. Бутурэнка загінуў у 1944 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1011. МАГІЛА ЗАЛУЖНАГА** Аляксандра Канстанцінавіча (гіст.). На могілках. Адзін з першых членаў калгаса «Хваля рэвалюцыі» А. К. Залужны забіты кулакамі 23.9.1930 г. У 1931 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1012. МАГІЛА КУЗМІЧА** Андрэя Андрэевіча (гіст.). На могілках. Партызан А. А. Кузміч загінуў 27.12.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1013. МАГІЛА МІСЕВІЧА** Івана Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава І. І. Місевіч загінуў 2.5.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1014. МАГІЛА СВІНКОЎСКАГА** Віктара Паўлавіча (гіст.). На могілках. Партызан 27-й брыгады імя В. І. Чапаева В. П. Свінкоўскі загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1015. МАГІЛА СМОЛЬСКАГА** Пятра Аляксандравіча (гіст.). На могілках. Партызан 225-й брыгады імя А. В. Суворава П. А. Смольскі загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1016. МАГІЛА ФІНКЕВІЧА** Міхаіла Лаўрэнцьевіча (гіст.). На могілках. Партызан 27-й брыгады імя В. І. Чапаева М. Л. Фінкевіч загінуў у 1943 г.



1020. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1017. МАГІЛА ФУРЫКА** Сямёна Васілевіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады 300-й імя К. Я. Варашылава С. В. Фурык загінуў у 1943 г. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Садавічы, Бучацінскі сельсавет**

**1018. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны 4-га танкавага палка, якія загінулі 2.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Свідзічы, Слабада-Кучынскі сельсавет**

**1019. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля дарогі Шышчыцы — Бабоўня. Пахаваны 45 жыхароў, якіх 7.11.1942 г. закатавалі ці расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Семежава, цэнтр сельсавета**

**1020. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Пахаваны 51 воін, у т. л. салдаты, сяржанты і афіцэры 20-й стралковай дывізіі, і 4 партызаны злучэння Мінскай вобл., якія загінулі 3.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна, абапал — дошкі з імёнамі загінуўшых.

**1021. ЦЭНТР ТКАЦКАГА РАМЯСТВА** (гіст.). З 19 ст. в. Семежава вядома як буйны цэнтр народнага мастацкага ткацтва. Вырабы мясцовых ткачых — ручнікі, абрусы, дываны, дарожкі, посцілкі, адзенне — увабралі лепшыя рысы традыцыйнага народнага ткацтва Случчыны. Ручнікі льняныя белыя ці бела-шэрыя, затканыя па канцах чырвонымі ўзорамі геаметрычнага характару («калатушкі», «маланкі», «шуры», «арлы», «кашэчыя лапкі», «акенцы» і інш.); ручнікі-«набожнікі» — бела-сінія, бела-блакітныя, бела-зялёныя, з малюнкам зааморфнага характару (пеўні, галубы), які рытмічна паўтараецца па ўсім полі. Традыцыйныя посцілкі мелі двухколерны клятчасты малюнак, у 20 ст. пашырыўся выраб шматкаляровых дэкаратыўных посцілак і дываноў з узорамі геаметрычнага, расліннага і зааморфнага характару па чорным фоне, дадаткова аздобленых кутасамі, карункамі, аплікацыяй з фабрычных тканін. Тканыя вырабы з в. Семежава дэманстраваліся на шэрагу рэспубліканскіх, усесаюзных і замежных выставак, на ВДНГ БССР і СССР, многія іх аўтары ўзнагароджаны граматамі і дыпломамі. У наш час семежаўскія ткачыхі працуюць надомніцамі ад Слуцкай фабрыкі мастацкіх вырабаў.

*Літ.:* Народнае мастацкае ткацтва Случчыны.— Мн., 1959. *Я. М. Сахута.*

**в. Скабін, Капыльскі сельсавет**

**1022. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны. Сярод іх — воіны 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1023. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1024. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На заходняй ускраіне вёскі. Захаваўся адзін насып (раней было 49 курганоў) прамавугольнай формы, вышынёй 2 м, дыяметрам 12 м. Вядомы з 1924 г. Абследавалі ў 1961 г. В. В. Сядоў, у 1979 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

**1025. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці землякоў — 19 воінаў, якія загінулі ў савецка-фінляндскую вайну 1939—40 гг., і 55 воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Слабада-Кучынка, цэнтр сельсавета**

**1026. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 26 воінаў. Сярод іх — воіны 10-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1027. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны і 9 партызан брыгад імя К. Я. Варашылава і 27-й імя В. І. Чапаева, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1028. МАГІЛА САЛАНОВІЧА** Якіма Пятровіча (гіст.). На могілках. Барацьбіт за Савецкую ўладу Я. П. Салановіч забіты 22.4.1919 г. польскімі інтэрвентамі. У 1928 г. на магіле пастаўлены абеліск.




1025. *Помнік землякам.*

**1029. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 168 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з дзяўчынкай і стэла з імёнамі загінуўшых.

**1030. РАДЗІМА БАБАРЭКІ** Адама Антонавіча (гіст.). Беларускі савецкі пісьменнік і крытык А. А. Бабарэка нарадзіўся 2.10.1899 г. у сям'і беззямельнага селяніна. У 1918 г. скончыў Мінскую духоўную семінарыю, адмовіўся ад кар'еры свяшчэнніка. У 1918—21 гг. працаваў на Случчыне настаўнікам Сунаеўскай, потым Слабада-Кучынскай пачатковай школ, загадчыкам аддзела народнай асветы Пукаўскай воласці, быў членам валаснога рэўкома. У Грамадзянскую вайну ўдзельнічаў у падпольным руху супраць польскіх акупантаў. У 1921—22 гг. палітработнік у Чырвонай Арміі. У 1922—27 гг. вучыўся ў БДУ, скончыў этнолага-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта. Адначасова працаваў літсупрацоўнікам газеты «Савецкая Беларусь», настаўнікам і некаторы час дырэктарам 11-й сямігадовай школы г. Мінска. У 1926—29 гг. працаваў у Камуністычным універсітэце Беларусі імя У. І. Леніна выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры, у 1928—30 гг.— асістэнтам кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ. Друкаваўся з 1919 г. Быў адным з ініцыятараў стварэння ў 1923 г. літаратурнага аб'яднання «Маладняк», членам яго цэнтральнага бюро. У маі 1926 г. выйшаў з «Маладняка» і з іншымі пісьменнікамі стварыў літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Узвышша», быў сакратаром аб'яднання (да 1929 г.). Першыя вершы, апавяданні А. Бабарэкі належаць да тыпу ранніх маладнякоўскіх эцюдаў, надрукаваны ў газеце «Савецкая Беларусь» у 1921—22 гг. пад псеўданімамі Якім Каліна, Адам Чырвоны, Адам Гаротны, А. Б. Аўтар шматлікіх артыкулаў і апавяданняў (кніга «Апавяданні», 1925 г.). У літаратурна-крытычных артыкулах распрацоўваў метадалагічныя пытанні літаратуразнаўства, эстэтычныя праблемы гісторыі і тэорыі беларускай літаратуры, пытанні нацыянальнай спецыфікі, суадносін традыцый і наватарства, прынцыпы класавасці і народнасці мастацтва. Даследаваў творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, У. Дубоўкі. Памёр 10.10.1938 г.

*Літ.:* Пра час і пра сябе.— Мн., 1966; Конан У. Адам Бабарэка: Крытыка-біяграфічны нарыс.— Мн., 1976.

*У. М. Конан.*




1029. *Помнік землякам.*



1040. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**пас. Славінка, Браткаўскі сельсавет**

**1031. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,3 км на захад ад пасёлка. Пахаваны 12 жыхароў, якіх 19.6.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Смалічы, Бучацінскі сельсавет**

**1032. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 партызан 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава, якія загінулі 23.4.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1955 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1033. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 партызан злучэння Мінскай вобл., якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1955 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1034. МАГІЛА ЛЯХАВА** Мікалая Іванавіча (гіст.). За 0,2 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. Партызан 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава М. І. Ляхаў загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1955 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1035. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы, у скверы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1975 г.

**в. Станькі, Доктаравіцкі сельсавет**

**1036. *БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ* ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Старына, Бучацінскі сельсавет**

**1037. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 партызан злучэння Мінскай вобл., якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1038. МАГІЛА МАКСІМЕНІ** Іосіфа Маркавіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза І. М. Максіменя нарадзіўся 16.8.1912 г. у в. Старына Капыльскага р-на ў сялянскай сям'і. У 1934—37 гг. у Чырвонай Арміі. Пасля працаваў у калгасе. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. Вызначыўся 5.3.1940 г. Пад моцным агнём праціўніка чырвонаармеец І. М. Максіменя ўварваўся на вышыню, закідаў гранатамі варожы дот і ўстанавіў чырвоны сцяг, паўтары гадзіны вёў няроўны бой да падыходу падмацавання. 7.3.1940 г. у ліку першых фарсіраваў р. Вуокса, замацаваўся на процілеглым беразе, прыкрываў агнём пераправу батальёна. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 7.4.1940 г. У Вялікую Айчынную вайну змагаўся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у партызанскіх атрадах імя М. А. Шчорса, М. А. Шастапалава, імя А. Я. Пархоменкі, у брыгадзе імя У. І. Леніна. Пасля вайны працаваў старшынёй калгаса на радзіме, у лясніцтве. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—51 гг. Памёр 15.8.1964 г.

У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*М. Б. Батвіннік.*

**1039. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 ваеннапалонных, якіх у 1942 г. закатавалі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Старыца, Слабада-Кучынскі сельсавет**

**1040. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля дарогі Асіповічы —



1045. *Помнік землякам.*

Капыль. Пахаваны 183 воіны і партызаны. Сярод іх — салдаты, сяржанты і афіцэры 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса і партызаны злучэння Мінскай вобл., што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1041. МАГІЛА ЗЕНЮКА** Аляксандра Міхайлавіча (гіст.). На могілках. Партызан 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава А. М. Зянюк загінуў 11.8. 1943 г. пры выкананні баявога задання. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1042. МАГІЛА КУЛІКОЎСКАГА** Валянціна Вікенцьевіча (гіст.). У вёсцы, каля дарогі Асіповічы — Капыль. Савецкі патрыёт В. В. Кулікоўскі 3.7. 1941 г. расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1043. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАДПОЛЬНАГА МІЖРАЁННАГА КАМІТЭТА КП(б)Б СЛУЦКАЙ ЗОНЫ** (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1983 г.

У Вялікую Айчынную вайну з 21.12. 1942 г. да 26.6.1943 г. у вёсцы знаходзіўся падпольны міжраённы камітэт КП(б)Б Слуцкай зоны (сакратар І. Дз. Варвашэня, жнівень 1942 г.— красавік 1943 г.; в. а. сакратара А. І. Сцяпанава, чэрвень 1943 г.— ліпень 1943 г.). Міжрайком дзейнічаў з жніўня 1942 г. да ліпеня 1943 г., кіраваў партыйным падполлем і партызанскім рухам у Грэскім, Дзяржынскім, Капыльскім, Чырвонаслабодскім, Слуцкім, Уздзенскім р-нах Мінскай і Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай абласцей.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975. *М. Б. Батвіннік.*

**1044. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ В. І. ЧАПАЕВА** (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1975 г.

Атрад створаны ў красавіку 1942 г. з групы ваеннаслужачых, што не выйшлі з варожага тылу, дзейнічалі ў Капыльскім р-не з сакавіка 1942 г. (узначальваў В. І. Кіян), і жыхароў вёсак Свідзічы і Харытонаўка. Камандзіры атрада Тараховіч І. М. (Дунаеў, красавік — лістапад 1942 г., загінуў), Грыб І. П. (снежань 1942 г.— красавік 1944 г., загінуў), Няпомнячы М. М. (красавік — ліпень 1944 г.); камісары Ражкоў І. М. (кастрычнік — снежань 1942 г.), Арышчук М. Я. (снежань 1942 г.— чэрвень 1943 г. і верасень 1943 г.— студзень 1944 г.), Емяльянаў Н. Дз. (чэрвень — верасень 1943 г.), Ліннік А. І. (красавік — ліпень 1944 г.). У маі 1942 г. атрад увайшоў у склад партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава, у снежні 1942 г.— у склад 27-й брыгады імя В. І. Чапаева. На дзень злучэння з часцямі Чырвонай Арміі (1.7.1944 г.) атрад налічваў 395 партызан.

*Літ.:* Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *М. Б. Батвіннік.*

**1045. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). Каля будынка школы. Пастаўлены ў 1975 г. на ўшанаванне памяці землякоў — 168 воінаў і 20 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Уяўляе сабой скульптурна-архітэктурны ансамбль, аснову якога складае выцягнутая бетонная стэла-сцяна (даўжыня 33 м, вышыня 3 м). На ёй з правага боку асіметрычна размешчаны выява ордэна Айчыннай вайны і надпіс-прысвячэнне. Астатняя частка стэлы падзелена 3 блокамі-выступамі з рэльефнымі выявамі салдата, партызана і жанчыны-маці. Паміж блокамі імёны загінуўшых. На фоне сцяны на прамавугольным пастаменце скульптура салдата (скульпт. С. Селіханаў; бетон, бронза; вышыня 10 м). Нібы расхінутая ветрам плашч-палатка, ускінутая ўверх правая рука, імклівы крок надаюць скульптуры дынамізм, ствараюць вобраз вялікай жыццесцвярджальнай сілы. *Т. В. Габрусь.*

**1046. ПОМНІК НА МЕСЦЫ БОЮ 1941 г.** (гіст.). На ўскраіне вёскі, каля дарогі Капыль — Асіповічы. Тут 3.7. 1941 г. воіны 287-га артылерыйскага палка 10-й стралковай дывізіі вялі бой супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, разграмілі вайсковую калону, знішчылі 4 танкі і шмат іншай тэхнікі праціўніка. У 1970 г. на месцы бою пастаўлены помнік — гармата, якую знайшлі пры будаўніцтве мясцовага вадасховішча.

**1047. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля дарогі Старыца — Узда.

7.11.1942 г. у Старыцкім лесе адбыўся бой партызан брыгады імя К. Я. Варашылава (камандзір П. П. Капуста, камісар І. К. Жыжык) супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. З Мінска і Слуцка вораг падцягнуў значныя сілы, сканцэнтраваў у гэтым раёне паліцэйскі полк, 2 ахоўныя батальёны, артылерыйскую і танкавую роты, роту сувязі (7 тыс. салдат, 12 танкаў, 8 бронемашын, 8 гармат і 20 мінамётаў). У Старыцкім баі ўдзельнічала больш за 500 партызан, якія мелі 2 гарматы, 3 мінамёты, 30 аўтаматаў і абмежаваную колькасць



1046. *Помнік на месцы бою 1941 г.*

боепрыпасаў. Карнікі занялі вёскі Заполле, Слабада-Кучынка, Свідзічы, Русакі і адрэзалі партызанам дарогу на захад. Пасля артылерыйска-мінамётнай падрыхтоўкі карнікі пачалі наступаць на пазіцыі атрадаў імя М. А. Шчорса і імя В. І. Чапаева з поўдня і з усходу. Партызаны адбілі больш за 10 атак гітлераўцаў, знішчылі 3 танкі, 2 бронемашыны, двойчы самі пераходзілі ў контратакі. Атрад імя Р. І. Катоўскага, які падышоў на дапамогу, разбіў аўтакалону гітлераўцаў і нанёс удар па ворагу з тылу. Калі скончыліся боепрыпасы, партызаны па загаду камандавання адышлі. Карная аперацыя акупантаў была сарвана. Яны панеслі значныя страты ў жывой сіле і тэхніцы.

У 1972 г. на месцы бою пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пятровіч С. А., Багдановіч Б. К. Капыль: (Гістарычны нарыс).— Мн., 1974. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Сцяпуры, Цімкавіцкі сельсавет**

**1048. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1048а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Касцёлак. За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе ручая Чайка, прытока р. Мажа, злева ад дарогі ў в. Калодзезнае. Займае паўднёвую частку ўзвышша. Пляцоўка амаль квадратная, памерам 80×80 м, густа парасла дрэвамі і кустарнікам. З усіх бакоў умацавана 2 валамі і ровам паміж імі. З поўначы ёсць роў і за другім валам. Вонкавы вал месцамі вышынёй 3 м. З заходняга і ўсходняга бакоў вала, верагодна, былі ўваходы на гарадзішча. Абследаваў у 1980 г. і 1985 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

**1048б.** Курганны могільнік. Мясцовая назва Шведскія Магілы. На процілеглым беразе ручая Чайка, за 0,3 км на паўднёвы захад ад гарадзішча, у невялікім лесе. 72 насыпы добрай захаванасці, вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 6—15 м. Абследаваў у 1980 г. і 1985 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся. *М. Ф. Гурын.*




**1048а.** *Гарадзішча. План.*



**1050.** *Помнік землякам.*

**в. Усава, Капыльскі сельсавет**

**1049. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў. Сярод іх — салдаты, сяржанты і афіцэры 148-га гвардзейскага стралковага палка, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Філіпавічы, Семежаўскі сельсавет**

**1050. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры пасёлка. На ўшанаванне памяці землякоў з вёсак калгаса імя Ульянава — 216 воінаў і 5 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Харытонаўка, Слабада-Кучынскі сельсавет**

**1051. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля дарогі Капыль — Узда. Пахаваны 4 воіны 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1052. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля дарогі Капыль — Узда. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1053. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля дарогі Капыль — Узда. Пахаваны 4 воіны і 12 партызан злучэння Мінскай вобл., якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1054. МАГІЛА КАСЦІЛЕЯ** Івана Апанасавіча (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля дарогі Капыль — Узда. Партызан 27-й брыгады імя В. І. Чапаева І. А. Касцілей загінуў 28.4. 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1055. МАГІЛА РУДАКОВА** Міхаіла Сцяпанавіча (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля дарогі Капыль — Узда. Партызан брыгады 27-й імя В. І. Чапаева М. С. Рудакоў загінуў 28.4 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Цімкавічы, цэнтр сельсавета**

**1056. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАГРАНІЧНІКАЎ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 13 пагранічнікаў Цімкавіцкага Чырванасцяжнага пагранатрада, якія загінулі ў 1923, 1930 і 1939 гг. пры ахове дзяржаўнай граніцы. У 1959 г. на магіле пастаўлена стэла і сімвалічны бетонны пагранічны слуп.

**1057. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 74 воіны і партызаны. Сярод іх — воіны 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі, 37-й механізаванай брыгады і 125-га гвардзейскага артылерыйскага палка, а таксама партызаны злучэнняў Баранавіцкай і Мінскай



**1057.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

абласцей, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1058. КАПЛІЦА І БРАМА-ЗВАНІЦА** (архіт.). У цэнтры вёскі, па вул. Нясвіжскай. Пабудавана з цэглы ў 2-й палове 19 ст. у памяць аб вызваленні сялян ад прыгоннай залежнасці. Квадратны ў плане будынак з шатровым гонтавым дахам. На галоўным фасадзе над прамавугольным уваходам — мемарыяльная дошка. Бакавыя сцены прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Пластыка фасадаў стрыманая — сцены расчлянёны лапаткамі і завершаны прафіляваным карнізам, праёмы дэкарыраваны шырокімі ліштвамі. У інтэр'еры ва ўсходняй сцяне зроблена алтарная ніша, скляпенне цыліндрычнае.

Побач з капліцай размешчана брама-званіца. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Прамавугольны ў плане двух'ярусны будынак накрыты пакатым двухсхільным дахам. Ярусы падзелены прафіляваным карнізам з гонтавым адлівам. У ніжнім ярусе шырокі арачны праезд цяпер замураваны. Уваход з тарцовага боку. Каля ўвахода — лесвіца, што вядзе на званіцу. Верхні ярус з усіх бакоў прарэзаны лучковымі праёмамі, якія на галоўным фасадзе апрацаваны лапаткамі, злучанымі паміж сабой арачкамі.

Капліца і брама-званіца — помнікі архітэктуры малых форм.

*Т. В. Габрусь, А. А. Міцянін.*



1058. *Капліца і брама-званіца.*




1058. *Капліца. План.*

**1059. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 900 савецкіх грамадзян, якіх у 1942 г. закатавалі і спалілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1060. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ К. Я. ВАРАШЫЛАВА.** На будынку сярэдняй школы імя К. Чорнага. Устаноўлена ў 1975 г.

16.7.1942 г. партызаны атрадаў імя В. І. Чапаева [камандзір І. М. Тараховіч (Дунаеў), камісар П. С. Лагвіненка], імя М. А. Шчорса (камандзір М. А. Шастапалаў, камісар М. М. Няпомнячы), імя С. М. Будзённага (камандзір М. М. Ізюмскі, камісар М. Р. Янкоўскі) брыгады імя К. Я. Варашылава (камбрыг П. П. Капуста, камісар І. К. Жыжык) разграмілі ў в. Цімкавічы варожы гарнізон, валасную ўправу і чыгуначную станцыю, знішчылі склады, вывелі са строю вадакачку.

*Літ.:* Пятровіч С. А., Багдановіч Б. К. Капыль: (Гістарычны нарыс).— Мн., 1974. *М. Б. Батвіннік.*

**1061. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Слуцкай, каля будынка сярэдняй школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.

**1062. ПОМНІК У ГОНАР 17-га ЧЫРВАНАСЦЯЖНАГА ЦІМКАВІЦКАГА ПАГРАНАТРАДА** (гіст.). Вул. Слуцкая, каля дома № 33. У 1923—40 гг. у вёсцы знаходзіўся штаб 17-га Чырванасцяжнага пагранічнага атрада. У памяць аб гэтым у 1983 г. устаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Цялядавічы, Бабаўнянскі сельсавет**

**1063. ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 2-й палове 18 ст. з дрэва. На рубяжы 18—19 стагоддзяў пераабсталяваны пад царкву, у 1910 г. абноўлена шалёўка і дэкаратыўныя элементы.

Касцёл двухвежавы, зальнага тыпу. Васьміграняая званіца з высокім шатром і галоўкай над франтонам, відаць, была пастаўлена ў час перабудовы, як і пяцігаловае завяршэнне будынка. Двухсхільны дах, прарэзаны люкарнай, пераходзіць над пяціграннай алтарнай часткай у вальмавы і стварае па баках апсіды застрэшкі. Па ўсім перыметры будынка — карніз, пад ім фрыз у выглядзе аркатурнага



1061. *Помнік У. І. Леніну.*

пояса. Сцены гарызантальна ашаляваны і раўнамерна расчлянёны ступеньчатымі пілястрамі. Вялікія прамавугольныя аконныя праёмы акаймаваны ліштвамі са ступеньчатымі сандрыкамі і скразной разьбой у ніжняй частцы. Пад вокнамі — цягі з ромбападобным арнаментам. Невялікія круглыя вокны ў тыльнай частцы будынка прызначаны для асвятлення размешчаных па баках апсіды сакрысцій.

У дэкоры інтэр'ера выкарыстаны пілястры, карніз, аркатура і інш. Перакрыцце зальнай часткі люстранае, іншых памяшканняў — падшыўная плоская столь. Карнізы і пілястры размаляваны пад светлы мармур. Над уваходам размешчаны хоры.

Касцёл — помнік драўлянага дойлідства з элементамі класіцызму.

*А. А. Міцянін.*

**пас. Чырвоная Горка, Пацейкаўскі сельсавет**

**1064. МАГІЛА АЛЯКСАНДРАВА** Марата Казіміравіча **І БІЧА** Аркадзя Аляксандравіча (гіст.). На могілках. Партызаны 27-й брыгады імя В. І. Чапаева М. К. Аляксандраў і А. А. Біч загінулі ў маі 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Чырвоная Дуброва, Семежаўскі сельсавет**

**1065. МАГІЛА ГАРДЗЕЯ** Іосіфа Іванавіча (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. Партызан 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава І. І. Гардзей загінуў 20.12.1943 г. На магіле ў 1967 г. пастаўлены абеліск.



1063. *Троіцкі касцёл.*




1063. *Троіцкі касцёл. План.*

**1066. МАГІЛА ДРАЦКАГА** Васіля Іосіфавіча (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. Разведчык 18-й партызанскай брыгады імя М. В. Фрунзе В. І. Драцкі загінуў 3.3.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1067. МАГІЛА КІСЕЛЬ** Ніны Рыгораўны (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. Партызанка злучэння Мінскай вобл. Н. Р. Кісель 13.1.1944 г. забіта нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1068. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. Партызан брыгады імя К. Я. Варашылава загінуў у 1942 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1069. МАГІЛА ПЕШКУРА** Васіля Сямёнавіча (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. Партызан 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава В. С. Пешкур загінуў 23.4.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1070. ЦЭНТР ТКАЦКАГА РАМЯСТВА** (гіст.). Вёска Чырвоная Дуброва (былая Макраны) і суседнія вёскі раёна з 2-й паловы 19 ст. вядомы хатнім узорыстым ткацтвам. Тут выраблялі ручнікі з геаметрычным і зааморфным арнаментам бела-шэрага, бела-зялёнага, бела-блакітнага колераў, посцілкі і дываны з удала распрацаваным дэкорам геаметрычнага і расліннага характару, а таксама абрусы, дарожкі, сурвэткі, адзенне. Асаблівага росквіту мастацкае ткацтва дасягнула ў 1-й палове 20 ст. Вырабы ткачых з Макран і суседніх вёсак экспанаваліся на рэспубліканскіх і ўсесаюзных выстаўках (Усесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка ў 1939—40 гг., Усесаюзная выстаўка майстроў народнага выяўленчага мастацтва ў 1948 г., Усесаюзны фестываль самадзейнай творчасці працоўных у 1976 г. і інш.), а таксама за мяжой. У 1976 г. у вёсцы створаны апорны пункт Слуцкай фабрыкі мастацкіх вырабаў. Мясцовыя ткачыхі, скарыстоўваючы традыцыйныя тэхніку ткацтва і матывы дэкору, вырабляюць ручнікі, абрусы, сурвэткі, накідкі, посцілкі, сталовыя камплекты. Узоры мясцовага ткацтва 19—20 стагоддзяў захоўваюцца ў многіх музеях рэспублікі. *Я. М. Сахута.*

**пас. Юраўшчына, Грозаўскі сельсавет**

**1071. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на поўнач ад пасёлка, на левым беразе безназоўнага ручая. 15 насыпаў вышынёй 0,5—1 м, дыяметрам да 15 м. Чатыры курганы пашкоджаны. Вядомы з пачатку 20 ст. Абследаваў у 1980 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

# КЛЕЦКІ РАЁН




Арда

Даматканавічы

Шчэпічы

Сякерычы

Зубкі

КЛЕЦК

Заляшаны

Кухчыцы

Бабаевічы

Гурнаўшчына

Ліскава

Янавічы

Чырвоная Зорка

Загорная

Цецеравец

Сіняўка

Грыцэвічы

Нагорнае

Туча

Бабічы

Галынка

Арэшніца

Заастравечча

Морач

Колкі

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

## IX. КЛЕЦК

Горад, цэнтр раёна, на левым беразе р. Лань. За 140 км на паўднёвы захад ад Мінска. Чыгуначная станцыя на лініі Асіповічы — Баранавічы. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Нясвіжам, Баранавічамі, Слуцкам.

Клецк (летапісны Клеческ, Клечьск) упершыню ўпамінаецца пад 1128 г. як цэнтр удзельнага княства, дзе княжыў Вячаслаў Яраславіч у складзе Тураўскага княства. У 1142—46 гг. і з 1149 г. належаў чарнігаўскаму князю Святаславу Ольгавічу, з 1146 г. быў пад уладай тураўскага князя Вячаслава Уладзіміравіча. Горад меў гандлёвыя сувязі з Кіевам і Валынню. З 1320-х гадоў Клецк у складзе Вялікага княства Літоўскага. З 1445 г. знаходзіўся ва ўладанні князя Міхаіла Жыгімонтавіча — прэтэндэнта на вялікакняжацкі прастол. Пасля яго смерці (1452 г.) горад — асабістая ўласнасць вялікага князя літоўскага. У 1456 г. Клецкае княства падаравана бароўска-серпухаўскаму князю Івану Васілевічу Яраславічу, які збег у Вялікае княства Літоўскае, ратуючыся ад вялікага князя маскоўскага Васіля II. Клецкім князем быў і сын Івана Васілевіча Фёдар Іванавіч. На горад і княства часта нападалі крымскія татары. У час паходу на Беларусь у 1503 г. яны разрабавалі і спалілі Клецк. 5.8.1506 г. пад горадам войска Вялікага княства Літоўскага на чале з маршалкам дворным князем М. Л. Глінскім разбіла моцнае войска крымскіх татараў. У палон было ўзята 3 тыс. татарскіх воінаў і вызвалена 40 тыс. палонных, захопленых татарамі на Беларусі. Палонныя крымскія татары былі паселены ў Клецку і яго ваколіцах. З 1507 г. Клецк уваходзіў у склад Навагрудскага павета Навагрудскага ваяводства.

У час феадальнага, так званага паўстання Глінскіх вайсковыя атрады пад кіраўніцтвам князя М. Глінскага на нядоўгі час занялі ў красавіку 1508 г. Клецк. У 1520 г. Клецкае княства адышло да вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога. Ён перадаў горад і княства ў 1524 г. сваёй жонцы вялікай княгіні Боне; у ваенных адносінах княства падпарадкоўвалася ваяводзе.

З 1550-х гадоў у Клецку існавалі кальвінская і арыянская абшчыны. У кальвінскім зборы прапаведнікам у 1560—62 гг. быў гуманіст, рэфармацыйны дзеяч і асветнік Сымон Будны. Пасля смерці вялікай княгіні Боны (1557 г.) горад некалькі стагоддзяў належаў Радзівілам. У 1579 г. акстворана (у 1586 г. зацверджана каралём) Клецкая ардынацыя (непадзельная і неадчужальная ўласнасць) Радзівілаў, першы ардынат Альбрыхт Радзівіл. У 1575 г. у Клецку 267 дамоў. У перыяд контррэфармацыі (2-я палова 16 ст.) пратэстанцкія абшчыны ў Клецку спынілі існаванне. У 16 — 1-й палове 17 ст. у горадзе хутка развіваліся рамёствы і гандаль. У 1626 г. налічвалася 414 дымоў (двароў), 2,5—2,7 тыс. жыхароў, сярод рамеснікаў — 43 спецыяльнасці. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. горад шмат пацярпеў. Рускае войска пад камандаваннем князя А. М. Трубяцкога ў верасні 1655 г. узяло Клецк. У 1660 г. Клецк займалі рускія войскі пад камандаваннем князя Хаванскага. Значныя разбурэнні прынесла Клецку Паўночная вайна 1700—21 гг. У пачатку мая 1706 г. каля Клецка адбылася бітва рускіх войск са шведскімі, горад занялі шведскія войскі. Тут кароль Карл XII рыхтаваў наступленне на Нясвіж. Захопнікі разрабавалі Клецк. Заняпад горада быў працяглы, у 1740 г. — 145 дымоў.

У 17—18 стагоддзях у Клецку быў княжацкі адміністратар, дзейнічаў гарадскі «ўрад» у складзе войта, 2 лаўнікаў і пісара. Гарадскую адміністрацыю ўзначальваў войт з мяшчан, часцей з багатых купцоў. Войты прызначаліся князем, у 18 ст. з сям'і Буркунаў — буйных гандляроў. З сярэдзіны 18 ст. Клецк пачынае адраджацца, у 1767 г. у горадзе 216 дымоў, у 1791 г. — 290. У лістападзе 1791 г. Клецк увайшоў у склад новаўтворанага Случарэцкага павета Навагрудскага ваяводства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) Клецк у складзе Расійскай імперыі, мястэчка ў Слуцкім павеце Мінскай губерні. Яго жыхары па-ранейшаму плацілі чынш уладальніку зямлі князю Радзівілу.

У 19 ст. Клецк — рамесна-гандлёвае мястэчка, дзе адбываліся штотыднёвыя таргі і 4 кірмашы ў год, асабліва быў вядомы конскімі кірмашамі. У 1866 г. — 2420 жыхароў і 448 двароў, 2 млыны. У 1875 г. паводле сямейнага (Радзівілаў) дагавора, зацверджанага царом, Клецкая ардынацыя перайшла да нясвіжскага ардыната князя Антонія Радзівіла. У 1897 г. у мястэчку было 4,7 тыс. жыхароў, бальніца на 15 ложкаў, у якой працавалі ўрач, фельчар і павітуха, аптэка, паштовая станцыя.

Жыхары прымалі ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1905—07 гг., у лістападзе 1905 г. баставалі служачыя паштовай канторы. З верасня 1915 г. Клецк у прыфрантавой палосе. Руска-германскі фронт стабілізаваўся на захад ад яго. Тут знаходзіліся часці 2-й арміі Заходняга фронту. Пасля перамогі Кастрычніцкага ўзброенага паўстання 1917 г. у Петраградзе пры актыўным удзеле салдат мясцовага гарнізона ў Клецку ўстаноўлена Савецкая ўлада (лістапад 1917 г.), сфарміраваны атрад Чырвонай гвардыі і ўтвораны ВРК. З 2-й паловы лютага



IX. *Забудова плошчы Маякоўскага.*

1918 г. Клецк акупіравалі германскія войскі. Тут дзейнічала падпольная бальшавіцкая група (5 чалавек). Пры наступленні Чырвонай Арміі ў снежні 1918 г. ва ўмовах падполля ў Клецку створаны валасны рэвалюцыйны камітэт, 9.12.1918 г. часці Чырвонай Арміі ўступілі ў мястэчка. Была аднаўлена Савецкая ўлада. 14.2.1919 г. выйшаў 1-ы нумар газеты «Батрак» — орган бальшавіцкай арганізацыі Клецкай воласці. З 2-й паловы красавіка да чэрвеня 1919 г. і з 6.8.1919 г. да 17.7.1920 г. Клецк акупіраваны войскамі буржуазнай Польшчы. У час акупацыі паблізу мястэчка дзейнічаў партызанскі атрад (больш за 120 чалавек) на чале з М. А. Кухарчыкам. Атрад увайшоў у склад 55-га стралковага палка Чырвонай Арміі, які разам з 65-м стралковым палком у чэрвені 1919 г. вызваліў Клецк. У ліпені — верасні 1920 г. працаваў Клецкі валасны рэўком. 3.10.1920 г. Клецк зноў захоплены польскімі войскамі. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. увайшоў у склад Польшчы, горад у Нясвіжскім павеце Навагрудскага ваяводства, у 1921 г. у Клецку 5671 жыхар. Зямлёй Клецка па-ранейшаму валодалі Радзівілы (Клецкая ардынацыя існавала да 1939 г.), і жыхары плацілі ім чынш. Працавала беларуская гімназія, якая ў сувязі з рэвалюцыйнымі выступленнямі вучняў у лістападзе 1929 г. і ў 1930 г. была закрыта.

17.9.1939 г. часці Чырвонай Арміі ўступілі ў мястэчка. Разам з іншымі гарадамі і вёскамі Заходняй Беларусі Клецк у лістападзе 1939 г. увайшоў у склад БССР, з 15.1.1940 г. раённы цэнтр Баранавіцкай вобл. У 1939 г. — 7,9 тыс. жыхароў. 27.6.1941 г. Клецк акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (7.4.1943 г. — 3.7.1944 г.) і ЛКСМБ (4.10.1943 г. — 3.7.1944 г.). Друкаваны орган падпольнага райкома КП(б)Б — газета «За Савецкую Беларусь». У горадзе і ваколіцы дзейнічалі падпольныя групы, у раёне — партызанскія

атрады. 4.6.1944 г. войскі 28-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант А. А. Лучынскі) 1-га Беларускага фронту і конна-механізаванай групы (камандуючы генерал-лейтэнант І. А. Пліеў) вызвалілі Клецк ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. Першымі ўвайшлі ў горад воіны 219-й танкавай брыгады пад камандаваннем палкоўніка М. Р. Хлюпіна (з конна-механізаванай групы). У вызваленні раёна ўдзельнічалі і партызаны. З 1954 г. Клецк — раённы цэнтр Мінскай вобл., з 1962 г. у складзе Нясвіжскага р-на, з 30.6.1966 г. зноў цэнтр раёна.

Горадабудаўнічая першаснова Клецка — старажытнае гарадзішча. У 15 ст. ядром горада, яго абарончай асновай з'яўляўся замак. Ён размяшчаўся на беразе р. Лань на высокім узгорку, які агінаў роў. Плаціна на рацэ дазваляла запоўніць роў вадой і павялічыць фартыфікацыйныя якасці замка. Абарончым фарпостам на падыходзе да горада быў заснаваны ў 1430 г. прыходскі касцёл, што стаяў пры ўездзе ў горад з боку плаціны. Паводле гравюры пачатку 17 ст., горад займаў кампактную тэрыторыю на беразе р. Лань. У сілуэце яго забудовы дамінавалі вежы шэрагу манументальных культавых збудаванняў (прыходскі касцёл, сінагога, праваслаўная царква), ратушы і замка. У 2-й палове 17 ст. пабудаваны кляштар дамініканцаў. Каля замкавых умацаванняў сфарміраваўся пасад. Ён набыў свой кампазіцыйны цэнтр — гандлёвую плошчу з ратушай у цэнтры і старажытнай праваслаўнай царквой (сваё значэнне ў структуры забудовы плошча захоўвала да 19 — пачатку 20 ст.). Ад плошчы радыяльна адыходзілі шчыльна забудаваныя вуліцы, працягам якіх былі загарадныя дарогі.

У савецкі час планіровачнае развіццё горада пачало ажыццяўляцца паводле генплана, распрацаванага ў 1970 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Пры праектаванні прадугледжвалася заніраванне гарадской тэрыторыі на жылы з адміністрацыйна-культурным цэнтрам раён і прамысловую (на поўначы) зону, улічвалася радыяльная планіроўка горада, што гістарычна склалася. На перакрыжаванні галоўных вуліц Леніна і Гагарына з Савецкай і Суворава сфарміравалася пл. Маякоўскага. Тут размешчаны Дом Саветаў, кінатэатр, камбінат бытавога абслугоўвання, універмаг, магазіны, раённы вузел сувязі, дзіцячыя музычная школа і сад-яслі, трохпавярховыя жылыя дамы, архітэктурны комплекс гасцініцы з блокам фабрыкі-кухні — вертыкальны акцэнт у сілуэце плошчы. Рэгулярны характар набыла ў 1950—60-я гады капітальная забудова вул. Гагарына, сярод якой вылучаюцца будынкі сярэдняй школы, гісторыка-этнаграфічнага музея, раённага Дома культуры. Вул. Савецкая забудоўваецца двух- і трохпавярховымі дамамі. На вул. Перамогі размешчаны чыгуначны вакзал, стадыён. У горадзе пераважае аднапавярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. На поўдні Клецка створаны новы мікрараён са шматпавярховымі жылымі дамамі і сярэдняй школай. Паводле генеральнага плана 1982 г. (Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва) у цэнтры будуць пабудаваны шматпавярховыя жылыя дамы, створаны агульнагарадскі спартыўны комплекс, прадугледжваецца будаўніцтва развітых цэнтраў абслугоўвання насельніцтва, пад індывідуальную забудову адводзіцца паўднёва-заходняя частка горада.



**1072.** *Ветраны млын.*

Працуюць масларобчы камбінат, вытворча-харчовы, механічны, камбікормавы заводы, швейная і мэблевая фабрыкі, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне. У горадзе 2 сярэднія і музычная школы, прафесійна-тэхнічнае вучылішча, Дом піянераў і школьнікаў, 4 дашкольныя ўстановы, раённы Дом культуры, 2 бібліятэкі, гісторыка-этнаграфічны музей, бальніца. Выходзіць газета «Да новых перамог». Помнікі: У. І. Леніну, мемарыяльны комплекс савецкім воінам, партызанам і землякам; на паўночна-заходняй ускраіне зберaглося гарадзішча старажытнага Клецка. Захаваўся помнік архітэктуры 17 ст.— кляштар дамініканцаў. У гонар 30-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне ў горадзе закладзены сквер.

Зона адпачынку — парк культуры і адпачынку па вул. Савецкай, берагі р. Лань і штучнага вадасховішча.

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия.— СПб., 1905; Бушенко А. С. Клецк: Историко-экономический очерк.— Мн., 1978; Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (Социально-экономическое исследование истории городов).— Мн., 1975; яго ж. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв.).— Мн., 1979; Лысенко П. Ф. Города Туровской земли.— Мн., 1974.
*А. П. Грыцкевіч, А. М. Кулагін.*

**1072. ВЕТРАНЫ МЛЫН** (архіт.). На беразе вадасховішча. Пабудаваны ў 1920-я гады ў в. Заляшаны, у 1980 г. перанесены ў Клецк, адрэстаўрыраваны. Цяпер тут філіял гісторыка-этнаграфічнага музея.

Вежападобная цыліндрычная пабудова, пакрытая гонтай, завершана шатровым ярусам з чатырохлопасцевым вінтом. У якасці механізма выкарыстана драўляная сістэма перадаючых колаў і шасцерняў. Аснова стацыянарная, верхні ярус паваротны.

Ветраны млын — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**1073. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне горада, на левым карэнным беразе р. Лань. Складаецца з дзядзінца і вакольнага горада, раздзеленых ровам шырынёй 30 м, глыбінёй 6—7,5 м. Дзядзінец займае прыроднае ўзвышша, якое аддзелена ад берага шырокім і глыбокім ярам, мае форму круга дыяметрам 80 м, узвышаецца над поймай ракі на 9—10 м. На краях пляцоўкі, з боку поля выяўлены рэшткі вала вышынёй 0,6—1,2 м. Пляцоўка і яе схілы здзірванелыя. Вакольны горад эліпсоіднай формы, памерам 400×100 м, прымыкае да дзядзінца з усходняга боку. З паўночна-ўсходняга боку захаваліся рэшткі абарончага вала вышынёй каля 1 м і рова глыбінёй 1,2—1,4 м, шырынёй 10 м (у паўднёва-ўсходняй частцы вакольнага горада вал і роў разараны). Даследаваў у 1964, 1966, 1967 гг. П. Ф. Лысенка на плошчы 116 м². Культурны пласт дзядзінца каля 1 м. Знойдзены фрагменты шкляных бранзалетаў, шыферныя праслііцы, прадметы ўзбраення, прылады




**1073.** *Гарадзішча. План.*



1073. *Гарадзішча.*

працы і быту, збожжа, косці свойскіх і дзікіх жывёл. У культурным пласце (0,7—1,2 м) вакольнага горада выяўлены рэчы, адначасовыя знаходкам ніжняга гарызонта дзядзінца. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі, датуецца 11—13 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*П. Ф. Лысенка.*

**1074. КАЗАРМЫ** (архіт.). Вул. Казарменная, 4—8. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва, цэглы і бутавага каменю для кавалерыйскага гарнізона. Тры тыпавыя будынкі казарм і стайні складалі ансамбль сіметрычна-восевай планіроўкі. Цяпер казармы выкарыстоўваюцца пад жыллё.



1074. *Будынак былой казармы. Фрагмент.*

Казармы — П-падобныя ў плане аднапавярховыя будынкі, накрытыя вальмавымі дахамі. У цэнтры манументальныя двухпавярховыя муравaныя аб'ёмы з скразнымі праездамі ў выглядзе шырокіх арак (перакрыцці плоскія па бэльках). Сцены цэнтральных аб'ёмаў завершаны фігурнымі ўвагнута-выпуклымі шчытамі. Вуглы ўмацаваны буйнымі контрфорсамі. Элементы архітэктурнага дэкору — ліштвы квадратных аконных праёмаў, профілі з чырвонай цэглы, вылучаюцца на фоне бутавых сцен. Галоўны фасад фланкіраваны рызалітамі бакавых крылаў. Планіроўка памяшканняў калідорная.

Казармы — помнікі архітэктуры стылю «мадэрн». *А. М. Кулагін.*

**1075. КЛЯШТАР ДАМІНІКАНЦАЎ** (архіт.). Вул. Я. Купалы, 1. Заснаваны ў 1450 г. Мураваны кляштар пабудаваны ў 1683 г. Уключае: Троіцкі касцёл (галоўным фасадам выходзіць на пл. Маякоўскага), жылы корпус. Цяпер касцёл прыстасаваны пад прамысловую ўстанову, кляштарны корпус — пад жыллё.

Т р о і ц к і  к а с ц ё л — аднанефавы двухвежавы храм з паўкруглай апсідай і паўночна-заходняй сакрысціяй. Асноўны прамавугольны ў плане аб'ём і апсіда накрыты агульным двухсхільным дахам. Галоўны фасад раскрапаваны шырокімі пілястрамі, фланкіраваны трох'яруснымі чацверыковымі вежамі з шатровымі дахамі. У цэнтры быў завершаны шчытом з лучковай нішай (заменены высокім цаглянным атыкам). Ярусы вежаў дэкарыраваны карнізнымі паясамі, разеткамі, лучковымі і арачнымі нішамі з разарванымі трохвугольнымі франтонамі. Бакавыя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў двух узроўнях і шырокімі лапаткамі ў прасценках. Інтэр'ер зменены.

Ж ы л ы  к о р п у с — прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак, накрыты вальмавым дахам. Плоскасныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, размешчанымі ў нішах буйных чляненняў, якія ўтвораны выступамі нізкага цоколя, лапаткамі і карнізам. Уваход з паўночна-заходняга боку галоўнага фасада. Планіроўка галерэйнага тыпу з аднабаковым размяшчэннем пакояў. Памяшканні і калідор з тарцовай двухмаршавай лесвіцай перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Пад будынкам скляпеністыя падвалы.



1075. *Троіцкі касцёл.*



1075. *Жылы корпус.*

Кляштар — помнік архітэктуры барока. *А. М. Кулагін.*

**1076. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На заходняй ускраіне горада, злева ад дарогі на в. Ляхавічы. 7 насыпаў вышынёй 0,6—1,2 м, дыяметрам 8—11 м. Курганы здзірванелыя, зараслі дрэвамі, частка іх пашкоджана. Вядомы з 1969 г., абследаваў у 1979 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1077. МАГІЛА МАЦЕЙКІ** Уладзіміра Пятровіча (гіст.). Вул. Леніна, на могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы У. П. Мацейка нарадзіўся 4.4.1913 г. у в. Капланавічы Клецкага р-на. З 1939 г. працаваў на племзаводзе «Чырвоная Зорка» Клецкага р-на. Быў паляводам, звеннявым па вырошчванню жыта, цукровых буракоў, канюшыны. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена ў 1949 г. за атрыманне высокіх ураджаяў збожжа. Памёр 21.11. 1978 г.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1078. МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На гарадскіх могілках. Пахаваны 6 чырвонаармейцаў партызанскага атрада М. А. Кухарчыка, якія загінулі 5.6.1919 г. у баі супраць польскіх акупантаў. У гэтым баі загінуў і камандзір атрада М. А. Кухарчык (пахаваны ў в. Зарытава Ляхавіцкага р-на). У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1079. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС САВЕЦКІМ ВОІНАМ, ПАРТЫЗАНАМ І ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). Пл. Маякоўскага, у скверы.

Войскі 1-га Беларускага фронту 2.7. 1944 г. вызвалілі першыя населеныя пункты Клецкага р-на, 3.7.1944 г. у наваколлі вёсак Колкі і Морач з часцямі Чырвонай Арміі злучыліся партызаны 18-й брыгады імя М. В. Фрунзе. 4 ліпеня ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў вызвалены Клецк. У баях за вызваленне горада і раёна загінулі 546 воінаў і партызан. Сярод іх — воіны 219-й танкавай брыгады 1-га Краснаградскага корпуса, 148-га стралковага палка 50-й гвардзейскай стралковай дывізіі, 48-й гвардзейскай стралковай дывізіі і партызаны 18-й брыгады імя М. В. Фрунзе.

У 1975 г. на ўшанаванне памяці воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні раёна, 7250 землякоў, што загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць ворага, а таксама мірных жыхароў, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі, пастаўлены помнік (архіт. Я. Кавалеўскі, С. Капроў, В. Рысакоў; бетон, марумуровая крошка; вышыня пілонаў 14,5 м). Архітэктурна-скульптурны комплекс размешчаны на Г-падобнай у плане пляцоўцы. Асноўны кампазіцыйны акцэнт мемарыяла — 3 канеліраваныя пілоны, аб'яднаныя 3 блокамі, што сыходзяцца ў цэнтры. На знешніх тарцах блокаў выявы твараў воіна, партызана і жанчыны як сімвал адзінства народа ў барацьбе з фашызмам. Перад пілонамі — прамавугольны ўзгорак-магіла, у схіл якога ўрэзана мемарыяльная сцяна з прозвішчамі воінаў, што загінулі пры вызваленні Клецка. Перад сцяной у пяціканцовым рэльефным абрамленні — Вечны агонь. Ад плошчы да пілонаў вядзе алея. З левага яе боку размешчаны 5 бетонных блокаў з дошкамі, на якіх надпісы, што славяць подзвіг вызваліцеляў. З правага боку перад алеяй — гарызантальны бетонны блок з надпісам, прысвечаным жыхарам Клецкага р-на, што загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Абапал алеі — шырокія газоны.

*М. В. Кірэйшын, Г. М. Ярмоленка.*

**1080. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Савецкая, каля цэха № 2 механічнага завода. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1972 г.

**1081. СІНАГОГА** (архіт.). Вул. Гага-



**1079.** *Мемарыяльны комплекс савецкім воінам, партызанам і землякам.*




**1076.** *Курганны могільнік. План.*



**1081.** *Будынак былой сінагогі. Галоўны фасад.*




**1081.** *Будынак былой сінагогі. План 1-га паверха.*

рына, 11. Пабудавана на мяжы 19—20 стагоддзяў з цэглы. Выкарыстоўваецца пад клубную ўстанову.

Прамавугольны ў плане аднапавярховы будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны ўваход вылучаны двухпавярховым рызалітам, завершаным шчытом з люнетам у цэнтры. Фасады раскрапаваны вуглавымі лапаткамі, карнізам простага профілю, ліштвамі рознавялікіх лучковых аконных праёмаў. Прамавугольная ў плане зала з двух бакоў мае двух'ярусныя галерэі. Перакрыцце па металічных бэльках.

Сінагога — помнік архітэктуры з рысамі стылю «мадэрн». *А. М. Кулагін.*

**1082. ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Леніна, на могілках. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

Сіметрычна-восевая аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка складаецца з рознавялікіх прамавугольных аб'ёмаў званіцы, бабінца, асноўнага аб'ёму і арыентаванай на ўсход апсіды. Цэнтральны, квадратны ў плане аб'ём накрыты пакатым чатырохсхільным дахам з драўляным двух'ярусным васьмерыковым барабанам, увенчаным шатром з цыбулепадобнай галоўкай. Падобнае драўлянае завяршэнне — васьмярык на чацверыку з шатром і галоўкай — мае трох'ярусная званіца. Галоўны ўваход у храм вылучаны



1082. *Царква.*




1082. *Царква. План.*



1083. *Шпіталь. Галоўны корпус.*

драўляным тамбурам. Да яго з трох бакоў вядуць масіўныя лесвіцы, выкладзеныя з блокаў ружовага вапняку. Сцены будынка прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Вуглавыя часткі раскрапаваны магутнымі лапаткамі, па перыметры будынка выступае драўляны карніз простага профілю, дэкарыраваны бляшаным арнаментаваным падзорам.

Кампазіцыя інтэр'ера пабудавана на кантрасце нізкіх памяшканняў бабінца і алтарнай часткі з больш высокай цэнтральнай залай храма. Унутраная прастора пазбаўлена дэкору. Апсіда аддзелена ад зальнай часткі іканастасам.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**1083. ШПІТАЛЬ** (архіт.). Вул. Школьная, 23—25. Пабудаваны ў 1909 г. з цэглы. Складаецца з трох карпусоў. Цяпер выкарыстоўваецца адміністрацыйнай установай.

Будынак шпіталя — Ш-падобны ў плане аднапавярховы аб'ём, накрыты вальмавым дахам. Галоўны фасад сіметрычна-восевай кампазіцыі члянёны рызалітамі, завершанымі ступеньчатымі атыкавымі шчытамі з паўкруглымі пінаклямі на вуглах. Цэнтральны рызаліт вылучаны шырокім уваходным праёмам, паабапал якога аконныя праёмы. Фасады насычаны дэкаратыўнай пластыкай, выкананай сродкамі мастацкай цаглянай муроўкі — ліштвы лучковых аконных праёмаў з клінападобнымі перамычкамі, філёнгі, лапаткі, карнізы. Унутры планіроўка калідорная.

Шпіталь — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *А. М. Кулагін.*

**в. Арда, Даматканавіцкі сельсавет**

**1084. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. Пахаваны 22 воіны, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Арэшніца, Заастравецкі сельсавет**

**1085. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 29 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Астроўчыцы, Заастравецкі сельсавет**

**1086. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў 1944 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бабаевічы, Чырваназорны сельсавет**

**1087. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў 67-га стралковага палка 20-й стралковай дывізіі і 2 лётчыкі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Бабічы, Тучанскі сельсавет**

**1088. МАГІЛА БЕЛАВУСАВА** Ігната Мікалаевіча (гіст.). На могілках. Старшыня былога Межнаслабадскога сельсавета Клецкага р-на І. М. Белавусаў загінуў 14.11.1944 г. ад рук ворагаў Савецкай улады. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1089. ЦАРКВА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з драва.

Храм складаецца з 2 прамавугольных у плане рознавялікіх зрубаў, якія аб'яднаны неншырокімі скошанымі гранямі сцен і агульным двухсхільным дахам. У месцы сучлянення аб'ёмаў дах мае плаўны пераход, што



1089. *Царква.*




1089. *Царква. План.*



**1090.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, землякам.*

разам са скошанымі сценамі надае будынку пластычнасць. Вільчык даху над уваходам завершаны цыбулепадобнай галоўкай. Галоўны ўваход вылучаны ганкам з двухсхільнай на 2 слупах навіссю. Вуглавыя часткі зрубаў афармлены ў выглядзе пілонаў, якія абмяжоўваюць гарызантальна ашаляваныя фасады. Бакавыя фасады чляпёны невялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. У інтэр'еры сцены атынкаваны.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**в. Галынка, цэнтр сельсавета**

**1090. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Цэнтральная. Пахаваны 13 воінаў і 11 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла, якая ўшаноўвае таксама памяць 85 землякоў, што аддалі жыццё за Радзіму ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**1091. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Зарэчная. У час руска-японскай вайны 1904—05 гг. загінулі 18, у 1-ю сусветную вайну 1914—18 гг.— 24 жыхары вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў пастаўлены абеліск.

**1092. СВІРАН** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на беразе р. Нача. Пабудаваны ў 1811 г. з цэглы ў былой сядзібе (не захавалася).

Цэнтрычны васьмігранны будынак з шатровым дахам. Высокі цокаль, квадратныя сцены і пакаты дах з карнізам простага профілю надаюць яму прысадзісты выгляд. Прамавугольныя аконныя праёмы запоўнены ў шахматным парадку невялікімі прадушынамі (пабудова выкарыстоўвалася і як галубятня).

Свіран — збудаванне малых архітэктурных форм, традыцыйнае для пейзажных прысядзібных паркаў. *А. М. Кулагін.*

**1093. ЦАРКВА І БРАМА-ЗВАНІЦА** (архіт.). На паўночны захад ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1-й палове 19 ст. з дрэва.

У сіметрычна-восевай аб'ёмнай кампазіцыі храма пануе цэнтрычны васьмігранны асноўны аб'ём, да якога па падоўжнай восі прымыкаюць рознавялікія прамавугольныя ў плане бабінец і апсіда, а таксама прыбудовы. Над асноўным аб'ёмам, што падзелены вялікім карнізам з «адлівам» на 2 ярусы, гранёны паўсферычны купал даху з васьмігранным барабанам, за-



**1092.** *Свіран.*




**1092.** *Свіран. План.*



**1093.** *Царква. Галоўны фасад.*



**1093.** *Царква і брама-званіца.*




**1093.** *Царква і брама-званіца. Планы.*

вершаным шатром з цыбулепадобнай галоўкай. Усе аб'ёмы аб'яднаны адзіным бутавым цокалем і гарызантальнай шалёўкай. Сцены прарэзаны прамавугольнымі рознавялікімі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Галоўны ўваход у храм вылучаны высокім чатырохслуповым ганкам з трохвугольным франтонам. У арганізацыі ўнутранай прасторы паўтараецца агульная ступеньчатая кампазіцыя царквы. Адносна нізкія прылеглыя памяшканні пераходзяць у высокую цэнтральную гранёную залу, перакрытую паўцыркульным скляпеннем са светлавым барабанам. Над уваходам — хоры з балюстрадай, што пераходзяць у двух'ярусныя абходныя галерэі цэнтральнай залы.

Адзіны ансамбль з царквою складае брама-званіца, размешчаная перад галоўным уваходам. Уяўляе сабой квадратнае ў плане двух'яруснае збудаванне з шатровым верхам на нізкім васьміграннным барабане, завершаным макаўкай. Каркасная канструкцыя запоўнена драўляным брусам. Праёмы першага і другога ярусаў выражаны ў выглядзе трапецападобных арак.

Царква і брама-званіца — помнікі народнага драўлянага дойлідства з элементамі класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**в. Гарбуноўшчына, Шчэпіцкі сельсавет**

**1094. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча, за 3 км на поўнач ад Клецка, на высокім мысе левага берага р. Лань. Пляцоўка памерам 40×40 м, ад берага аддзелена ровам глыбінёй 7,5 м, шырынёй 15—18 м. З боку поля захаваўся дугападобны вал вышынёй каля 2,5 м, з паўночнага захаду абмежавана стромкім схілам да нізіны ракі. Уезд на гарадзішча з паўночнага боку. У паўднёвай частцы абарончы вал таксама прарэзаны, цераз роў насыпана вузкая дамба. Пляцоўка, схілы вала і рова здзірванелыя, тут пасаджаны фруктовыя дрэвы. Абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль. У шурфе 2×2 м знойдзены ляпная і ганчарная кераміка, косці жывёл, попел, абпаленыя камяні. Абследаваў у 1979 г. П. Ф. Лысенка. Адносіцца да мілаградскай культуры ранняга жалезнага веку і да эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974. *П. Ф. Лысенка.*




**1094.** *Гарадзішча. План.*



**1095.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, помнік землякам.*

**в. Грыцэвічы, цэнтр сельсавета**

**1095. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 16 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла, якая ўшаноўвае памяць 108 жыхароў сельсавета, што загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**в. Гурнаўшчына, цэнтр сельсавета**

**1096. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 31 воін, якія загінулі ў 1941 г. і ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла, што ўшаноўвае таксама памяць 60 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Даматканавічы, цэнтр сельсавета**

**1097. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя А. А. Жданава. Пахаваны 31 воін, што загінулі ў ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў пры вызваленні раёна. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла, што ўшаноўвае таксама памяць 37 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**1098. ВЕТРАНЫ МЛЫН** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, у полі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Конусападобны чатырохгранны будынак завершаны двухсхільным дахам з чатырохлопасцевым вінтом. Квадратны ў плане аб'ём паварочваецца на магутнай слупавой апоры з крыжовай асновай і падкосамі. Паварот ажыццяўляецца пры дапамозе кансольнай драўлянай бэлькі. Тыльны фасад мае 2 ярусы праёмаў — верхні для загрузкі збожжа, ніжні для выгрузкі гатовай прадукцыі. Для падымання мяшкоў са збожжам у верхняй частцы млына ўмацавана драўляная кансольная бэлька з лябёдкай. Адносіцца да тыпу шатровых млыноў.

Ветраны млын — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**1099. СЯДЗІБА** (архіт.). За 1 км на захад ад вёскі на ўзгоркавым рэльефе каля р. Лань. Сфарміравана на рубяжы 19—20 стагоддзяў. Уключае сядзібны дом, парк эканамічнага тыпу планіроўкі (захаваўся часткова). Цяпер тут размешчана школа-інтэрнат.




**1098.** *Ветраны млын. План.*



1099. *Сядзібны дом. Фрагмент галоўнага фасада.*



1099. *Сядзібны дом. План.*

Сядзібны дом мае мяшанае канструкцыйнае вырашэнне. Паўночная палавіна аднапавярховага накрытага вальмавым дахам аб'ёму мураваная (таўшчыня сцен 75 см), паўднёвая — драўляная, атынкаваная. На галоўным фасадзе 2 кампазіцыйна вылучаныя цэнтры — чатырохкалонныя ўваходныя порцікі. Сцены рытмічна члянёны шырокімі лапаткамі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Дваровы фасад прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, дэкарыраваны лапаткамі. Да паўночнага тарцовага фасада прымыкае самастойны аб'ём службовых памяшканняў. Планіроўка асіметрычная. Пакоі згрупаваны па баках доўгага калідора і аб'яднаны 2 вестыбюлямі. Аздабленне інтэр'ера не захавалася. Перад галоўным усходнім фасадам дома быў прамавугольны партэр з высаджанымі па перыметры шпалерамі дрэў (захаваліся часткова).

Сядзіба — помнік архітэктуры неакласіцызму. *А. М. Кулагін.*

**в. Ёдчыцы, Нагорнаўскі сельсавет**

**1100. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі на штучным насыпе. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва, на высокім бутавым фундаменце. Крыжовая ў плане, трохчасткавай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі: прамавугольны ў плане бабінец са званіцай над ім, кубападобны асноўны аб'ём і апсіда з бакавымі прыбудовамі. Двух'ярусная шатровая званіца (васьмярык на чацверыку), васьміграины светлавы барабан асноўнага аб'ёму, вальмавы дах апсіды, двухсхільны ганак галоўнага ўвахода завершаны цыбулепадобнымі галоўкамі на васьміграниых шыйках. Фасады ашаляваны гарызантальна (цокаль вертыкальна), упрыгожаны арнаментальным фрызам, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з трохвугольнымі франтонамі ліштваў. У інтэр'еры плоская столь, светлавы барабан апіраецца на сцены з дапамогай ветразяў.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**в. Жылічы, Даматканавіцкі сельсавет**

**1101. КУРГАН** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Наруцавічы (на месцы былога хутара Жылічы). Дыяметр 8 м, вышыня 0,8 м. Раней тут было каля 20 насыпаў. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга.

**в. Заастравечча, цэнтр сельсавета**

**1102. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 7 воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод іх — 4 партызаны брыгады 18-й імя М. В. Фрунзе, якія загінулі 24.6. 1944 г. На магіле ў 1975 г. пастаўлена



1100. *Царква. Від з боку апсіды.*



1102. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, землякам.*

стэла. Помнік ушаноўвае таксама памяць 3 землякоў, якія загінулі ў 1917—26 гг. у барацьбе за Савецкую ўладу, і 67 землякоў, што аддалі жыццё за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну ці былі загублены нямецка-фашысцкімі акупантамі.

**1103. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЛЯЎКОВІЧУ** Аркадзю Фёдаравічу (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1966 г. на ўшанаванне памяці А. Ф. Ляўковіча — партызана атрада імя А. В. Суворава брыгады 18-й імя М. В. Фрунзе, які загінуў у чэрвені 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў.

**1104. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя храма чатырохчасткавая: трох'ярусная шатровая званіца — васьмярык на



1105. *Царква. Бакавы фасад.*



**1105.** *Царква. Галоўны фасад.*

2 чацверыках, прамавугольныя ў плане бабінец, асноўны аб'ём, апсіда з бакавымі прыбудовамі. Дамінуюць званіца і васьміграннны светлавы барабан над асноўным аб'ёмам з цыбулепадобнымі купаламі. Чатырохсхільны дах больш нізкай апсіды завершаны макаўкай. Фасады дэкарыраваны вуглавымі лапаткамі, узорыстым фрызам, ліштвамі прамавугольных аконных праёмаў, нескладанага профілю карнізамі.

Царква — помнік псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**1105. ЦАРКВА** (архіт.). У паўднёва-заходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з дрэва. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя трохчасткавая: бабінец са званіцай над ім, асноўны кубападобны аб'ём, прамавугольная ў плане апсіда з бакавымі прыбудовамі. Чатырох'ярусная званіца (2 васьмерыкі на 2 чацверыках), светлавы чатырохгранны барабан асноўнага аб'ёму і паўвальмавы дах апсіды завершаны цыбулепадобнымі купаламі на васьміграннных шыйках. Пастаўленыя на бутавы фундамент зрубы не ашаляваны, сцены прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі і ўмацаваны вертыкальнымі сцяжкамі ў прасценках. У дэкоры выкарыстана вертыкальная шалёўка вуглоў аб'ёмаў. Галоўны і бакавыя ўваходы вырашаны ганкамі на 2 калонках, накрыты паўкруглымі навісямі. У інтэр'еры ўнутраная прастора перакрыта цыліндрычным драўляным скляпеннем, у цэнтры якога прарэзаны квадратны праём светлавога барабана. Над уваходам на 2 слупах — галерэя хораў з цэнтральным паўкруглым выступам. Алтар аддзелены ад зальнай часткі іканастасам больш позняй работы.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**в. Заляшаны, Кухчыцкі сельсавет**

**1106. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 11 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла. Абапал яе — 2 стэлы з імёнамі землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Зубкі, цэнтр сельсавета**

**1107. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, па вул. Піянерскай. Партызан М. Анохін загінуў у 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла, якая ўшаноўвае таксама памяць 36 землякоў, што аддалі жыццё за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Капланавічы, Чырваназорны сельсавет**

**1108. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на захад ад вёскі, на могілках. 44 курганы вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 7—12 м. Насыпы здзірванелыя, зараслі дрэвамі і кустамі, многія пашкоджаны сучаснымі пахаваннямі. Абследаваў у 1979 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Карацк, Тучанскі сельсавет**

**1109. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, каля дарогі Клецк — Галынка. На ўшанаванне памяці 45 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Колкі, Марацкі сельсавет**

**1110. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля скрыжавання вуліц Садовай і Перамогі.

11.9.1942 г. карны атрад нямецка-фашысцкіх акупантаў уварваўся ў вёску. Частка жыхароў паспела схавацца ў лесе. Карнікі сагналі 32 чалавекі ў хлеў, які падпалілі. Выратаваўся толькі А. П. Швайко. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск і стэла з імёнамі загінуўшых.



**1106.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, помнік землякам.*



**1107.** *Магіла партызана і помнік землякам.*

**в. Кухчыцы, цэнтр сельсавета**

**1111. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка сярэдняй школы. Пахаваны 13 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і 2 стэлы, на якіх таксама імёны 50 землякоў, што аддалі жыццё за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Ліскава, Кухчыцкі сельсавет**

**1112. МАГІЛА КАСЦЮКЕВІЧА** Івана Мікалаевіча (гіст.). На могілках. Намеснік старшыні калгаса «Савецкая Беларусь» І. М. Касцюкевіч загінуў 6.10.1952 г. ад рук ворагаў Савецкай улады. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.




**1108.** *Курганны могільнік. План.*



1109. *Помнік землякам.*



1111. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, помнік землякам.*

в. Логнавічы, Заастравецкі сельсавет

**1113. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,8 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Лань. Паўночная частка размытая паводкамі, паўднёвая паўкруглай формы, дыяметрам 3,5 м. Узвышаецца да цэнтра і паніжаецца да вала, які захаваўся на вышыню 1,8 м. Пляцоўка, яе схілы і вал здзірванелыя. З заходняга і ўсходняга бакоў гарадзішча выяўлены рэшткі апоўзлых равоў глыбінёй 2,5 м, шырынёй каля 10 м. З паўднёвага ўсходу ў вале прасочана паніжэнне — рэшткі ўезда на гарадзішча. Адкрыў у 1975 г., абследаваў у 1979 г. П. Ф. Лысенка. Сабраны фрагменты ганчарнай керамікі. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі, датуецца 11—13 стагоддзямі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*П. Ф. Лысенка.*




1113. *Гарадзішча. План.*

в. Машукі, Галынкаўскі сельсавет

**1114. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 партызан брыгады 18-й імя М. В. Фрунзе, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1115. ПОМНІК НА МЕСЦЫ БОЮ 1943 г.** (гіст.). За 3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Раскоп.

26.10.1942 г. у Машукоўскі лес прызямлілася на парашутах дыверсійна-разведвальная група НКДБ СССР «Сокалы» ў складзе 11 чалавек пад камандаваннем К. П. Арлоўскага. Да лета 1943 г. група вырасла да 200 байцоў. На яе базе быў створаны партызанскі атрад, з якога ў красавіку — маі 1943 г. склаліся 3 асобныя атрады — імя С. М. Кірава, імя Я. М. Свярдлова, «Сокалы». Атрад «Сокалы» дзейнічаў на тэрыторыі акупіраваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі Брэсцкага, Драгічынскага, Клецкага, Кобрынскага, Ляхавіцкага, Лунінецкага, Навамышскага, Нясвіжскага і Слуцкага р-наў. Камандзіры атрада К. П. Арлоўскі (партызанскі псеўданім Раман), з 9.8.1943 г. — С. А. Нікольскі (партызанскі псеўданім Максім). За час дзейнасці атрада партызаны пусцілі пад адхон 16 эшалонаў, узарвалі 2 масты, 41 аўтамашыну, больш за 10 км чыгункі, 18 км тэлефонна-тэлеграфнай сувязі, знішчылі ці паранілі больш за 1000 варожых салдат і афіцэраў, разграмілі 2 варожыя гарнізоны. Адна з баявых аперацый праведзена 17.2.1943 г. атрадам «Сокалы», калі партызаны на чале з К. П. Арлоўскім і камісарам Г. В. Івашкевічам знішчылі штатскамісара Баранавіч групенфюрэра СА, гебітскамісара Баранавіцкай акругі, обергрупенфюрера войск СС, 7 іншых афіцэраў, 2 камендантаў паліцыі і амаль усю іх ахову, захапілі дакументы і зброю. У гэтым баі быў цяжка пара-



1115. *Помнік на месцы бою 1943 г.*

нены камандзір атрада. 20.9.1943 г. К. П. Арлоўскаму прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1972 г. на месцы бою пастаўлены помнік — курган з валуноў, завершаны металічным штыком.



1117. *Царква. Від з боку апсіды.*




1117. *Царква. План.*



1117. *Званіца.*

*Літ.:* Бушенко А. С. Клецк: Историко-экономический очерк.— Мн., 1978.

*М. В. Кірэйшын.*

**в. Межная Слабада, Тучанскі сельсавет**

**1116. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 жыхары, закатаваныя 4.8.1941 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1117. ЦАРКВА І ЗВАНІЦА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на могілках. Пабудаваны ў 19 — пачатку 20 ст. з дрэва.

Храм — прамавугольны ў плане, з трогgranнай апсідай. Двухсхільны дах над галоўным (заходнім) фасадам мае вальмавае завяршэнне, над апсідай пераходзіць у трохграннае пакрыццё. У сярэдзіне вільчыка васьмігранны барабан з цыбулепадобнай галоўкай. Гонтавае пакрыццё даху гарманіруе з гарызантальнай шалёўкай фасадаў. Сцены расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Галоўны ўваход вылучаны невялікім тамбурам. Інтэр'ер зальны. 2 перагародкі аддзяляюць алтар і тамбур.

Перад царквою пастаўлена двух'ярусная (чацвярык на чацверыку) каркасная званіца з шатровым верхам. Сцены другога яруса прарэзаны ромбападобнымі праёмамі. Першы ярус выкананы ў выглядзе брамы. Гарызантальная шалёўка сцен аб'ядноўвае званіцу і царкву ў адзіны архітэктурны ансамбль.

Царква і званіца — помнік народнага драўлянага дойлідства.

*А. М. Кулагін.*

**в. Морач, цэнтр сельсавета**

**1118. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 30 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 146-га гвардзейскага стралковага палка і партызаны 18-й брыгады імя М. В. Фрунзе. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1119. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гала, у лесе, на ўзвышшы сярод балоцістай мясцовасці. 6 насыпаў вышынёй 1,1—1,6 м, дыяметрам 7—12 м. За 15—20 м на поўдзень ёсць яшчэ 2 курганы вышынёй 0,7 і 0,8 м, дыяметрам 7 і 8 м. Адкрыў у 1965 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.




1119. *Курганны могільнік. План.*



1120. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, землякам.*

**в. Нагорнае, цэнтр сельсавета**

**1120. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 22 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла, якая ўшаноўвае таксама памяць 42 аднавяскоўцаў, што аддалі жыццё за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну.

**1121. КАСЦЁЛ** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля могілак. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы.



1121. *Касцёл.*

Аднанефавы аднавежавы храм з квадратнай у плане апсідай і бакавымі сакрысціямі. Высокі цокаль вылучаны цаглянай цягай. Асноўны прамавугольны ў плане аб'ём накрыты двухсхільным аднавальмавым дахам, які з боку галоўнага фасада прарэзаны двух'яруснай чацверыковай вежай з арачнымі праёмамі і шатром (не захаваўся). З боку апсіды на вільчыку даху пастаўлена скразная чацверыковая вежачка. Галоўны фасад завершаны двухсхільным шчытом, вылучаны ў цэнтры шырокім стральчатым уваходным парталам, фланкіраваным круглымі люкарнамі. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны 4 высокімі арачнымі аконнымі праёмамі і пілонамі ў прасценках. У апсідзе высокі арачны аконны праём, над ім — круглая люкарна. Вуглы аб'ёмаў дэкарыраваны чатырохграннымі пінаклямі. У інтэр'еры неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі. Атынкаваныя сцены расчлянёны пілястрамі. Над нартэксам — хоры, адкрытыя ў неф трохпралётнай аркадай.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі. *А. М. Кулагін.*

**1122. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Шведскія Магілы. За 0,1 км на поўдзень ад вёскі, у полі. 3 насыпы вышынёй 1,4—1,6 м, дыяметрам 10—12 м. Абследаваў у 1979 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Салаўі, Кухчыцкі сельсавет**

**1123. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на паўднёвы ўсход ад могілак, за 30 м злева ад дарогі з вёскі да аўтамабільнай дарогі Клецк — Сіняўка. 24 насыпы вышынёй 0,8—1,5 м, дыяметрам 8—12 м. Адкрыў у 1965 г. і абследаваў у 1979 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.




**1123.** *Курганны могільнік. План.*



**1125.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Светлая, Грыцэвіцкі сельсавет**

**1124. КУРГАН** (археал.). За 0,2 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Лань. Вышыня 1,8 м, дыяметр 12 м. Здзірванелы, захаванасць добрая. Абследаваў у 1979 г. П. Ф. Лысенка.

**в. Сіняўка, цэнтр сельсавета**

**1125. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 10 воінаў 48-й стралковай дывізіі і 3 партызаны брыгады 18-й імя М. В. Фрунзе, што загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1126. ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ** (архіт.). У цэнтры вёскі, каля дарогі Слуцк — Брэст. Пабудавана ў 1-й палове 19 ст. з цэглы і дрэва. Цяпер выкарыстоўваецца дарожнай службай. Планіровачна будынкі арганізаваны вакол унутранага двара, уздоўж дарогі былі аб'яднаны мураванымі сценамі з праездамі (захавалася заходняя сцяна).

Цэнтральны будынак станцыі — аднапавярховы прамавугольны ў плане аб'ём, накрыты вальмавым дахам. Галоўны пяцівосевы фасад сіметрычнай кампазіцыі. Яе цэнтр вылучаны руставаным рызалітам з атыкавым завяршэннем і прамавугольным уваходным праёмам з навіссю на фігурных металічных кранштэйнах. Галоўны фасад расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі ў прафіляваных ліштвах з клінападобнымі аркамі. Цокальная частка будынка на ўзроўні акон вылучана па перыметры гарызантальнай расшыўкай па тынкоўцы. Сцены завершаны прафіляваным карнізам з фрызавым плоскім поясам. Тарцовыя сцены глухія. З дваровага фасада прыбудаваны тамбур з паўкруглай люкарнай. Планіроўка сіметрычная — па баках скразнога калідора 4 службовыя памяшканні. Абапал цэнтральнага будынка размешчаны стайні — прамавугольныя аднапавярховыя будынкі, накрытыя вальмавымі дахамі. Іх тарцовыя прыдарожныя сцены мураваныя з вузкімі лучковымі аконнымі праёмамі. Бакавыя сцены драўляныя, на цагляных слупах, з шырокімі праездамі з боку двара.

Паштовая станцыя — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**1127. ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (гіст.). Каля адміністрацыйнага будынка філіяла вытворчага аб'яднання «Мінскмэбля». Бюст К. Маркса ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Стараселле, Заастравецкі сельсавет**

**1128. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Стралкава, Тучанскі сельсавет**

**1129. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Сфарміравана ў 1909 г.

Ансамбль сядзібы мае рэгулярную планіроўку, уключае сядзібны дом (цяпер выкарыстоўваецца як жылы), свіран, браму, пад'язную алею.

Сядзібны дом — прамавугольны ў плане мураваны аднапавярховы аб'ём на бутавым цокалі, накрыты вальмавым дахам. Галоўны паўночна-ўсходні фасад вылучаны цэнтральным рызалітам і чатырохкалонным масіўным порцікам з трохвугольным франтонам, фланкіраваны бакавымі рыза-



**1126.** *Паштовая станцыя. Галоўны фасад цэнтральнага будынка.*



1129. *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*



1129. *Сядзібны дом. План.*

літамі з трохвугольнымі франтонамі. Сцены прарэзаны шырокімі аконнымі праёмамі ў масіўных ліштвах. Манументальнасць галоўнага ўвахода падкрэслена шырокім ганкам, які выкладзены з блокаў ружовага вапняку. Дваровы фасад з паўкруглым эркерам у цэнтры раскрапаваны шырокімі лапаткамі і ліштвамі прамавугольных акон. Планіроўка анфіладная. У цэнтры знаходзяцца вестыбюль і вялікая зала. Дзве групы бакавых памяшканняў маюць тарцовыя выхады. Характэрная рыса інтэр'ера — адкрытыя бэлечныя столі. Захаваліся кафляныя каміны, прафіляваныя разеткі і карнізы.

Свіран — прамавугольны ў плане зруб пад высокім паўвальмавым дахам, навісь якога ўтварае на галоўным фасадзе перакрыцце слупавой галерэі. У гаспадарчых мэтах, акрамя асноўнага аб'ёму (з 2 уваходамі), выкарыстоўвалася шырокая прастора паддашка. Свіран — традыцыйная пабудова народнага драўлянага дойлідства.

Сядзіба — помнік архітэктуры неакласіцызму. *А. М. Кулагін.*



1129. *Свіран.*

**в. Сякерычы, Зубкоўскі сельсавет**

**1130. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля канторы саўгаса «Клецкі». Пахаваны 4 воіны 54-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Туча, цэнтр сельсавета**

**1131. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). На паўднёвай ўскраіне вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Брэст — Масква. Пахаваны 12 воінаў, што загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 2 партызаны 18-й брыгады імя М. В. Фрунзе. На ўшанаванне іх памяці, а таксама 37 воінаў, што загінулі ў баях на тэрыторыі сельсавета, і 78 жыхароў вёсак Дунайчыцы, Масцілавічы, Туча, Траццякі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлены помнік — на прамавугольным пастаменце скульптура воіна (скульпт. М. Шарэнка, архіт. У. Кузьменка; сілумін; вышыня скульптуры 7 м, агульная вышыня 7.8 м). Фігура воіна пададзена ў руху. Левая рука з аўтаматам апушчана ўніз, правая ўскінута ў імклівым парыве. Кампазіцыйную дынаміку ўзмацняюць дыяганальныя складкі шыняля і рэзкія грані плашч-палаткі, нібы развінутай за спіной воіна. Выразнасць сілуэта, лаканічная пластыка трактоўкі вобраза надаюць помніку манументальную прыўзнятасць. На мемарыяльных сценках, што прымыкаюць да пастамента, умацаваны дошкі з надпісамі-прысвячэннямі і імёнамі загінуўшых. Вакол помніка разбіты сквер.

*М. В. Кірэйшын, Г. М. Ярмоленка.*

**1132. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 13 воінаў, якія памерлі ад ран у 1944 г. На ўшанаванне іх памяці ў 1958 г. пастаўлены абеліск, у 1979 г. — скульптура воіна.

**1133. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 жыхары, якіх 11.8.1941 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1134. МАГІЛА РАМАДАНА** Аляксея (гіст.). Каля будынка фельчарска-акушэрскага пункта. Рускі лётчык А. Рамадан загінуў 18.6.1916 г. На магіле ў 1966 г. пастаўлены абеліск.

**1135. СЯДЗІБА** (архіт.). У цэнтры вёскі на невысокім узгорку. Сфарміравана ў 2-й палове 19 ст. Ансамбль арганізаваны паводле рэгулярнага тыпу планіроўкі. Уключае сядзібны дом (рэстаўрыраваны ў 1970-я гады, выкарыстоўваецца як адміністрацыйны будынак), мураваныя гаспадарчыя пабудовы, парк.



1131. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, землякам.*

Сядзібны дом — мураваны прамавугольны ў плане будынак пад вальмавым двухсхільным дахам. Цэнтр галоўнага фасада вылучаны рызалітам і чатырохкалонным порцікам з трохвугольным франтонам, мае мансардавы паверх. Сіметрыя фасада падкрэслена бакавымі неглыбокімі рызалітамі, завершанымі трохвугольнымі франтонамі і дэкарыраванымі па вуглах рустоўкай. Характэрнай рысай



1132. *Помнік на брацкіх магілах савецкіх воінаў.*

архітэктуры будынка з'яўляецца стылізацыя ордэрных форм: калоны порціка не маюць базы, форма капітэлі зведзена да патоўшчанай квадратнай абакі, прапорцыі антаблемента парушаны. Прамавугольныя аконныя праёмы дэкарыраваны прафіляванымі




**1135.** *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — гаспадарчыя пабудовы; 3 — сажалкі; 4 — сад.*



**1135.** *Сядзібны дом.*




**1135.** *Сядзібны дом. План.*



**1136.** *Царква.*




**1136.** *Царква. План.*

сандрыкамі і філёнгамі. У інтэр'еры рознавялікія па плошчы прамавугольныя памяшканні аб'ядноўвае калідор. Пакоі парадной палавіны маюць анфіладную ўзаемасувязь. У цэнтры квадратная зала, якая выступае з боку сада прамавугольным рызалітам. У тоўшчы адной са сцен вестыбюля — лесвіца на мансардавы паверх. Аздабленне інтэр'ера не захавалася.

Парк (захаваўся часткова) складаецца з пейзажнага ўчастка вакол сажалкі, што перад сядзібным домам, і прамавугольнага пладовага сада, абкружанага ліпавымі шпалерамі.

Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**1136. ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі на могілках. Пабудавана на рубяжы 19—20 стагоддзяў з дрэва.

Трохзрубная пабудова. Па падоўжнай планіровачнай восі размешчаны рознавялікія аб'ёмы бабінца, асноўнага аб'ёму, пяцігранная апсіды, да якой прымыкае невысокая прыбудова. Дамінуе цэнтральны аб'ём, накрыты чатырохсхільным дахам, завершаным цыбулепадобнай галоўкай на гранёным барабане. Фасады будынка гарызантальна ашаляваны, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, дэкарыраванымі разнымі ліштвамі. Галоўны ўваход вылучаны двухсхільнай навіссю на 2 слупах.

У інтэр'еры прастора бабінца і апсіды злучана з цэнтральнай залай шырокімі праёмамі. Аздабленне не захавалася.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**в. Цапра, Чырваназорны сельсавет**

**1137. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 лётчыкі 8-га скораснага авіяцыйнага палка, якія загінулі 25.6. 1941 г. У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Цапэрка, Чырваназорны сельсавет**

**1138. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,2 км на поўнач ад вёскі, у садзе. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Чырвоная Зорка, цэнтр сельсавета**

**1139. СЯДЗІБА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі (былая в. Радзівілімонты), на берагах р. Цапры (прыток Лані). Сфарміравана ў 2-й палове 18 ст. Належала Ю. Радзівілу. Уключае палац і парк, службовыя і гаспадарчыя будынкі. За 10 км ад Клецка, да якога ад сядзібы спецыяльна пракладзена дарога, абсаджаная таполямі.

Палац. Пабудаваны ў 1780—83 гг. італьянскім архітэктарам К. Спампані. Рэстаўрыраваны пасля пажару 1906 г. Унутраная падоўжная сцяна, сцены цэнтральнага аб'ёму і залы цагляныя, вонкавыя — з дубовых брусоў.




**1139.** *Палац. План.*



1139. *Куток парку.*



1139. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — палац; 2 — службовыя памяшканні; 3 — свіран; 4 — сучасныя пабудовы; 5 — парк; 6 — сажалка.*

Аднапавярховы, прамавугольны ў плане будынак з мансардавым паверхам мае падкрэслена гарызантальную накіраванасць. Цэнтр галоўнага падоўжанага фасада вылучаны манументальным чатырохкалонным дарычным порцікам, які кантрастна выступае на фоне руставаных сцен з рытмам прамавугольных аконных праёмаў. На дваровым фасадзе порціку адпавядае паўкруглы эркер цэнтральнай залы. Руставаныя сцены, порцік з франтонам, карнізы і шэраг іншых элементаў з дрэва ўдала імітуюць класічныя формы мураванай архітэктуры. Каларыстычнае вырашэнне заснавана на кантрасце зялёнага фону фасадаў і афарбаваных у белы колер калон, архітрава, трыгліфаў, мадульёнаў. Планіроўка паўднёва-заходняга крыла палаца анфіладная. Уключала парадныя пакоі, спальню, зімні сад. У процілеглым крыле жылыя і гаспадарчыя памяшканні калідорнай планіроўкі. Тут размешчана лесвіца на мансардавы паверх, дзе знаходзяцца 2 жылыя пакоі. Пад будынкам — скляпеністыя падвалы. Парадныя памяшканні (вестыбюль, зала, гасціная і зімовы сад) дэкарыраваны ў тэхніцы стука — лепка, карнізы, калоны кампазітнага і іанічнага ордэраў, а таксама каміны і печы, для якіх зроблены нішы круглаватага абрысу. Інтэр'ер невялікага пакоя з паўкруглым альковам і парай калон апрацаваны штучным ружовым мармурам. Тут жа ўстаноўлена кафляная печ. У аздабленні палаца ўдзельнічаў Ф. Смуглевіч, па малюнках якога былі зроблены каміны і печы.

П а р к з элементамі рэгулярнага і пейзажнага тыпу планіроўкі. Размешчаны на раўнінным рэльефе, плошча 10 га. Паўкальцом абкружае палац, які з'яўляецца цэнтрам кампазіцыі сядзібы. На ўсходняй ускраіне парку — комплекс службовых і гаспадарчых будынкаў (флігелі, свіран). Галоўны ўезд у сядзібу па плаціне, якая стварае сістэму вадаёмаў. Планіровачна парк падзелены на 3 асноўныя зоны: парадны партэр перад палацам, пейзажны ўчастак па берагах вадаёмаў і аддалены заходні ўчастак з сістэмай курцін (клён, вяз, граб, ліпа, бяроза, дэкаратыўныя кусты). Парадная частка паркавага ансамбля — партэр, абмежаваны па плаўнай крывой маляўнічымі групамі лісцевых дрэў і асобнымі салітэрнымі пасадкамі. У пейзажную кампазіцыю прыўнесены элемент рэгулярнай планіроўкі: круглыя газоны, прамыя грабавыя, каштанавыя і ліпавыя алеі, пракладзеныя ад палаца ў глыбіню парку і да гаспадарчага комплексу. Кампазіцыя алей пабудавана на чаргаванні адкрытых палян і курцін з зацененымі ўчасткамі суцэльнай пасадкі. Па мяжы парку высаджаны ліпавыя алеі — працяг прагулачных маршрутаў, тут жа і штучна створаны ўзгорак, разлічаны на ўспрыняцце маляўнічага наваколля сядзібы. У некаторых месцах узлессяў растуць каштаны з падлескам спірэі пакручастай.

С в і р а н — прамавугольны ў плане аднапавярховы аб'ём, складзены з драўляных брусоў і накрыты высокім двухсхільным дахам, які на галоўным фасадзе ўтварае навіс над двух'яруснай галерэяй. У канструкцыі яе выкарыстаны слупы з касякамі. На вільчыку даху пастаўлены звон. Сцены расчлянёны высока размешчанымі паўкруглымі люкарнамі, аздобленымі



1141. *Ветраны млын. План.*



1142. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — капліца; 3 — сажалка; 4 — свіран; 5 — гаспадарчыя пабудовы.*



1142. *Сядзібны дом. Фрагмент галоўнага фасада.*



1142. *Сядзібны дом. План.*



1142. *Свіран.*

рустам. Будынак — помнік народнага драўлянага дойлідства.

Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**в. Шчэпічы, цэнтр сельсавета**

**1140. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. Пахаваны 12 воінаў і партызан, сярод іх — 6 воінаў 1822-га самаходнага артылерыйскага палка, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла, якая ўшаноўвае таксама памяць 44 землякоў, што аддалі жыццё за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Шэйкі, Галынкаўскі сельсавет**

**1141. ВЕТРАНЫ МЛЫН** (архіт.). У цэнтры вёскі, на перакрыжаванні яе галоўных вуліц. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з дрэва. Цяпер працуе на электрапрыводзе. Стацыянарна ўстаноўлены асноўны конусападобны аб'ём ветрака завершаны паваротным шатром з чатырохлопасцевым вінтом (не захаваўся). Каркасная канструкцыя асноўнага аб'ёму вертыкальна ашалявана. Адносіцца да тыпу шатровых. Ветраны млын — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**в. Япавічы, Чырваназорны сельсавет**

**1142. СЯДЗІБА** (архіт.). На ўскраіне вёскі, каля дарогі Клецк — Навінкі, на раўнінным правым беразе р. Лань. Сфарміравана ў 1-й палове 19 ст. Уключала аднапавярховы мураваны дом (цяпер выкарыстоўваецца пад жыллё), капліцу (не захавалася), эканамічны парк з авальнай сажалкай, драўляны свіран і іншыя гаспадарчыя будынкі. Парадная частка ансамбля абмежавана па перыметры геаметрычнай сеткаю ліпавых шпалер. Па падоўжна-планіровачнай восі размяшчаліся пад'язная алея, сядзібны дом з партэрам і сажалка. Комплекс гаспадарчых пабудоў размешчаны ў паўднёва-заходняй частцы сядзібы, адасоблены алеяй.

Сядзібны дом — цэнтр кампазіцыі ансамбля — прамавугольны ў плане аб'ём з лоджыяй на галоўным фасадзе быў накрыты агульным мансардавым дахам (цяпер — вальмавы). Шырокая лоджыя галоўнага фасада аформлена каланадай, якая нясе карніз даху. На дваровым фасадзе выступае круглаваты эркер цэнтральнай залы. Пластычнасцю архітэктурнай апрацоўкі вылучаюцца ліштвы прамавугольных аконных праёмаў і руставаныя вуглавыя часткі будынка. Анфіладная планіроўка памяшканняў звязвае парадную залу з бакавымі гасцінымі і тарцовымі заламі. Вузкія бакавыя калідоры маюць выхады на тарцах будынка. Інтэр'ер памяшканняў упрыгожвалі кафляныя печы (не захаваліся).

Свіран — прамавугольны ў плане выцягнуты па падоўжнай восі двухпавярховы зруб з паўвальмавым дахам. Яго навісь на галоўным франтальным фасадзе накрывае двух'ярусную слупавую галерэю з бакавымі лесвіцамі. Сцены ўмацаваны вертыкальнымі сцяжкамі, прарэзаны вузкімі вокнамі-шчылінамі. Тры ячэйкі кожнага яруса з самастойнымі прамавугольнымі дзвярнымі праёмамі. Будынак свірана — помнік народнага драўлянага дойлідства.

Сядзіба — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981. *А. М. Кулагін.*




# КРУПСКІ РАЁН



Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неаднаўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

## Х. КРУПКІ



Х. *Будынак райкома КПБ.*

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Бобр, за 118 км ад Мінска і 6 км ад чыгуначнай станцыі Крупкі, на аўтамабільнай дарозе Мінск — Масква.

З сярэдзіны 16 ст. мястэчка на р. Бобр у Аршанскім павеце Віцебскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага, належала князям Сангушкам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расійскай імперыі — у Бобрскай воласці Сенненскага павета Магілёўскай губерні. У 1859 г. у Крупках быў збудаваны млын з сукнавальняй, на якім у 1861 г. працавала 17 рабочых (даваў каля 30 тыс. пудоў мукі ў год). У лістападзе 1871 г. каля мястэчка прайшла лінія Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. У 1896 г. заснавана запалкавая фабрыка (у 1900 г. 52 рабочыя). У 1900 г. пабудаваны лесапільны завод (16 рабочых). У 1897 г. у Крупках 1523 жыхары, больш за 166 дамоў, праваслаўная царква, паштова-тэлеграфнае аддзяленне, царкоўнапрыходская школа, 24 крамы.

У Рэвалюцыю 1905—07 гг. баставалі рабочыя запалкавай фабрыкі і лесапільнага завода. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У 1918 г. з 26 лютага да 21 лістапада Крупкі акупіраваны германскімі войскамі. У савецка-польскую вайну 1920 г.— прыфрантавое мястэчка. З 11.7.1919 г. Крупкі ў складзе Віцебскай губерні, з 15.2.1923 г. перададзены з Сенненскага павета ў склад Аршанскага павета той жа губерні. З 17.7.1924 г. цэнтр раёна ў Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. у Аршанскай акругах. Паводле ўсесаюзнага перапісу 1926 г. у Крупках 2097 жыхароў. Дзейнічалі: лесапільны завод (24 рабочыя ў 1932 г., 47 — у 1934 г.), швейная арцель (37 рабочых); саўгас «Крупкі» (103 рабочыя; 1680 га зямлі), МТС (у 1935 г. 39 трактароў). У 1933 г. заснавана дрэваапрацоўчая арцель «Ударнік» (84 рабочыя ў 1934 г.), ільнозавод (53 рабочыя ў 1933 г.). Працаваў ветэрынарны тэхнікум (у 1933 г. 115 навучэнцаў і 9 выкладчыкаў). З 1931 г. выходзіла раённая газета «Камуністычны шлях» (з чэрвеня 1938 г. «Голас калгасніка», з ліпеня 1960 г. «Зара камунізму», з мая 1962 г. зноў «Камуністычны шлях», з сакавіка 1963 г. «Ленінскім курсам»). З 15.1.1938 г. Крупкі ў Мінскай вобл., з 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. У 1939 г.— 3455 жыхароў. Пачаў працаваць цвіковы завод (89 рабочых у 1940 г.).

У ліпені 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут 1,8 тыс. савецкіх грамадзян. У Вялікую Айчынную вайну ў раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (10.5.1943 г.— 1.7.1944 г.) і ЛКСМБ (30.11.1943 г.— 1.7.1944 г.), якія базіраваліся ў партызанскім атрадзе «Гвардзеец» брыгады імя П. К. Панамарэнкі. 28.6.1944 г. 5-я гвардзейская танкавая армія (камандуючы маршал бранятанкавых войск П. А. Ротмістраў) вызваліла гарадскі пасёлак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Пасля вызвалення пачалося хуткае аднаўленне народнай гаспадаркі. Увосень 1944 г. працавалі прамысловы камбінат, скураны і цагельны заводы, лесазавод, млын.

Першы генеральны план забудовы Крупак распрацаваны ў 1948—49 гг. (Маскоўскія планіровачныя майстэрні), у 1970 г.— новы генеральны план (інстытут «Белдзяржпраект»). У пасёлку пераважае прамавугольная сетка вуліц з двума прамымі выездамі на Маскоўскую шашу. Грамадска-адміністрацыйны і гандлёвы цэнтр склаўся на цэнтральнай плошчы і на вул. Савецкай. Тут размешчаны будынкі райкома КПБ, райвыканкома, аддзяленне сувязі, Дом культуры, магазіны, сталовая і рэстаран, Дом быту. Жылая забудова — пераважна аднапавярховыя дамы з прысядзібнымі ўчасткамі. Шматпавярховыя будынкі размешчаны на вуліцах Савецкай і Варашылава. Працуюць пладова-агароднінны завод, маслазавод, хлебакамбінат, камбінаты дрэваапрацоўчы і бытавога абслугоўвання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне. У пасёлку 2 сярэднія, рабочай моладзі, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 2 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца, паліклініка. Помнікі: У. І. Леніну, Героям Савецкага Саюза А. Ф. Колесавай і У. М. Марцінкевічу; на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і інш., бюст двойчы Героя Савецкага Саюза лётчыка-касманаўта У. В. Кавалёнка. Зона адпачынку — Крупскае вадасховішча.

*Літ.:* Усе раёны БССР.— Мн., 1933; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955; Польскі С. А. Нарысы геаграфіі гарадоў Беларускай ССР (1917—1941 гг.).— Мн., 1973; Болбас М. Ф. Промышленность Белоруссии. 1860—1900.— Мн., 1978. *М. І. Камінскі, А. Ю. Пятросава.*

**1143. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызанкі Т. І. Аляксеева, Т. Е. Вашчук, М. А. Галаўцюкова, З. Дз. Марозава, Т. І. Міханько, якія загінулі 11.9. 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Герой Савецкага Саюза Алена Фёдараўна Колесава.

А. Ф. Колесава нарадзілася 8.6. 1920 г. у в. Колесава Яраслаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. З 1939 г. пасля заканчэння 2-га Маскоўскага педвучылішча працавала старшай піянерважатай, настаўніцай у 47-й Маскоўскай школе. У Вялікую Айчынную вайну медсястра, удзельніца абароны Масквы. У 1941 г. з групай разведчыкаў неаднаразова пераходзіла лінію фронту для дыверсійнай работы ў тыле ворага. З 1.5.1942 г. камандзір дыверсійнай групы, якая дзейнічала ў Барысаўскім і Крупскім р-нах. Група ўзарвала мост, знішчыла 4 эшалоны,

3 аўтамашыны, разграміла 6 гарнізонаў праціўніка; разам з іншымі дыверсійнымі групамі знішчыла 7 эшалонаў з баявой тэхнікай і жывой сілай ворага. Загінула А. Ф. Колесава 11.9.1942 г. у баі ў в. Выдрыца Крупскага р-на. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 21.11.1944 г. Яе імем названы калгас у Крупскім р-не, школа і вуліца ў Крупках. У в. Выдрыца ўстаноўлены мемарыяльны знак (гл. артыкул № 1168 «Помнік на месцы гібелі Колесавай Алены Фёдараўны»), у г. п. Крупкі — скульптура (гл. артыкул № 1148 «Помнік Колесавай Алене Фёдараўне»).

У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**1144. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 30 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Герой Савецкага Саюза Якаў Дзмітрыевіч Бяляеў.

Я. Дз. Бяляеў нарадзіўся 15.3. 1918 г. у в. Піхалёва Кінешэмскага р-на Іванаўскай вобл. у сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. У Чырвонай Арміі з 1938 г. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Камандзір бронемашыны сяржант Я. Дз. Бяляеў вызначыўся ў баях супраць акупантаў на тэрыторыі Мінскай вобл. 25.6.1941 г.



1144. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



1143. *Помнік на брацкай магіле партызан.*

каля в. Астрашыцкі Гарадок экіпаж бронемашыны Я. Дз. Бяляева знішчыў варожы танк і 3 матацыклы, 6 ліпеня паблізу вёсак Гібайлавічы і Сомры Крупскага р-на, калі праціўнік спрабаваў перарэзаць шлях адыходу 100-й стралковай дывізіі, знішчыў 4 аўтамашыны з пяхотай. Бронемашына Я. Дз. Бяляева была падбіта, але экіпаж працягваў весці бой, потым уступіў у рукапашную схватку, у час якой Я. Дз. Бяляеў загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 31.8. 1941 г. Яго імем названа вуліца ў г. п. Крупкі.

У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**1145. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне пасёлка. Пахаваны 119 воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і мірныя жыхары пасёлка, расстраляныя гітлераўцамі ў 1942 г. Сярод пахаваных — воіны 5-й гвардзейскай танкавай арміі і 10-га гвардзейскага Кіеўскага бамбардзіровачнага авіяпалка, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Т. Р. Чуракова.*

**1146. БЮСТ КАВАЛЁНКА** Уладзіміра Васілевіча (гіст., маст.). На вуліцы Савецкай, у скверы. Устаноўлены ў 1984 г. у гонар двойчы Героя Савецкага Саюза лётчыка-касманаўта СССР У. В. Кавалёнка.

У. В. Кавалёнак нарадзіўся 3.3.1942 г. у в. Белае Крупскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1962 г. Скончыў Балашоўскае вышэйшае ваеннае авіяцыйнае вучылішча лётчыкаў у 1963 г., Ваенна-паветраную акадэмію імя Гагарына ў 1976 г. З 1967 г. у атрадзе касманаўтаў. Першы палёт у космас ажыццявіў 9—11.10.1977 г. на касмічным караблі «Саюз-25» у якасці камандзіра карабля разам з бортінжынерам В. В. Руміным. Другі палёт здзейсніў 15.6—2.11.1978 г. у якасці камандзіра пілотнага навукова-даследчага касмічнага комплексу «Саюз-29» — «Салют-6» — «Саюз-31» разам з бортінжынерам А. С. Іванчэнкавым. У ходзе палёту касманаўты прынялі на борце станцыі «Салют-6» дзве міжнародныя экспедыцыі: 27.6—5.7.1978 г. касманаўтаў П. І. Клімука (СССР) і М. Гермашэўскага (ПНР) на савецкім касмічным караблі «Саюз-30» і 26.8—3.9.1978 г. касманаўтаў В. Ф. Быкоўскага (СССР) і З. Йена (ГДР) на савецкім касмічным караблі «Саюз-31», а таксама тры грузавыя аўтаматычныя транспартныя касмічныя караблі «Прагрэс». У ходзе працяглага палёту пілотнага комплексу «Салют-6» — «Саюз» касманаўты рэгулярна праводзілі візуальныя назіранні і фатаграфаванне зямной паверхні і акваторыі Сусветнага акіяна; выканалі больш за 50 тэхналагічных эксперыментаў з мэтай атрымання новых паўправаднікоў і аптычных матэрыялаў, металічных сплаваў і злучэнняў: праводзілі



1145. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму.*



1146. *Бюст У. В. Кавалёнка.*

вымярэнні ультрафіялетавага выпрамянення шэрагу зорак; атрымалі новыя звесткі аб уплыве фактараў касмічнага палёту на арганізм чалавека, развіццё раслін і біялагічных аб'ектаў. Правялі таксама значную колькасць тэхнічных эксперыментаў, звязаных з адпрацоўкай новых бартавых сістэм, абсталявання і прылад касмічных апаратаў. У. В. Кавалёнак і А. С. Іванчэнкаў ажыццявілі выхад у адкрытую касмічную прастору, у час якога дэманціравалі навуковую апаратуру, устаноўленую на вонкавай паверхні станцыі і прызначаную для вывучэння мікраметэорных абставін і даследавання ўплыву касмічнага асяроддзя на ўласцівасці розных матэрыялаў. Упершыню выканалі перастыкоўку касмічнага карабля «Саюз-31». У якасці камандзіра касмічнага навукова-даследчага комплексу «Саюз Т-4» — «Салют-6» — «Саюз» разам з бортінжынерам В. П. Савіных 12.3—26.5.1981 г. ажыццявіў трэці касмічны палёт. За час 75-сутачнага палёту касманаўты разгрузілі транспартны карабель «Прагрэс-12», правялі комплекс прафілактычных мерапрыемстваў на станцыі «Салют-6» для далейшай яе эксплуатацыі ў пілотным рэжыме і поўнасцю выканалі намечаныя даследаванні і эксперыменты. У праграме работ экіпажа вялікае месца адводзілася геафізічным даследаванням у інтарэсах розных галін навукі і народнай гаспадаркі; рэгулярна вяліся назіранні і фатаграфаванне зямной паверхні і акваторыі Сусветнага акіяна. Па праграме касмічнага матэрыялазнаўства на ўстаноўках «Сплаў», «Крышталь» і «Півоня» праведзены эксперыменты з мэтай атрымання паўправадніковых матэрыялаў, металічных сплаваў і злучэнняў з новымі ўласцівасцямі, даследаванні працэсаў маса-цеплаабмену. Выканана вялікая колькасць медыка-біялагічных даследаванняў і эксперыментаў па вывучэнню ўплыву фактараў касмічнага палёту на арганізм чалавека і развіццё вышэйшых раслін. У рамках праграмы супрацоўніцтва сацыялістычных краін «Інтэркосмас» разам з касманаўтамі У. В. Кавалёнкам і В. П. Савіных на борце арбітальнага комплексу «Салют-6» — «Саюз» працавалі міжнародныя экіпажы: 22—30.3.1981 г. касманаўты У. А. Джанібекаў (СССР) і Ж. Гурагча (МНР) на савецкім касмічным караблі «Саюз-39» і 14—22.5.1981 г. касманаўты Л. І. Папоў (СССР) і Д. Прунарыу (СРР) на савецкім касмічным караблі «Саюз-40». Герой ГДР (1978 г.), узнагароджаны ордэнам «Крыж Грунвальда» 1-й ступені ПНР (1978 г.). Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1980 г.

Пагрудны бюст касманаўта ўстаноўлены на высокім гранітным пастаменце (скульпт. І. Міско, архіт. С. Мусінскі; чырвоны граніт, бронза; вышыня пастамента 3 м, бюста 1,1 м). У развароце шырокіх плячэй, выразных рысах твару — рашучасць і цвёрдасць, сабранасць і жыццёвая актыўнасць героя космасу. Суадносіны цёмнай бронзы і чырвонага граніту ствараюць дадатковы дэкаратыўны эфект. На пастаменце рэльефныя выявы 2 ордэнаў Леніна і 2 медалёў «Залатая Зорка». Ніжэй накладнымі бронзавымі літарамі даецца тэкст Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні У. В. Кавалёнка ордэнам Леніна і 2-м медалём «Залатая Зорка».

*Г. А. Фатыхава, Т. Р. Чуракова, Л. Г. Лапцэвіч.*

**1147. МАГІЛА ГВОЗДЗЕВАЙ** Надзеі Сямёнаўны (гіст.). На могілках. Партызанка атрада імя М. А. Шчорса брыгады імя М. А. Шчорса Н. С. Гваздзева загінула 25.6.1944 г. пры выкананні баявога задання. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1148. ПОМНІК КОЛЕСАВАЙ** Алене Фёдараўне (маст.). Вул. Савецкая, каля будынка сярэдняй школы № 2. Устаноўлены ў 1967 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза А. Ф. Колесавай (скульпт. В. Палійчук, архіт. В. Занковіч і Л. Левін; бетон; вышыня скульптуры 2,5 м; стэла 2×8 м).

Скульптура пастаўлена на нізкай пліце — стылабаце на фоне хвалепадобнай стэлы, якая нібы зрушана ўлева адносна цэнтральнай восі, што стварае ўражанне дынамікі. У гордай паставе і ў выразе твару перададзены рашучасць, упэўненасць і сабранасць адважнай партызанкі. Мадэліроўка форм абагульненая. Дэталі адзення — ватоўка, падпяразаная салдацкай папругай, шапка-вушанка, а таксама аўтамат, закінуты за спіну, дапаўняюць вобраз гераіні. У верхнім



1148. *Помнік А. Ф. Колесавай.*



1149. *Помнік У. І. Леніну.*

вуглу стэлы — інфармацыйны тэкст. Гл. таксама артыкулы № 1143 «Брацкая магіла партызан» і № 1168 «Помнік на месцы гібелі Колесавай Алены Фёдараўны». *Л. Г. Лапцэвіч.*

**1149. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, каля будынка райкома КПБ. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1955 г.

**1150. ПОМНІК МАРЦІНКЕВІЧУ** Уладзіміру Мікалаевічу (гіст.). На вул. Савецкай.

Герой Савецкага Саюза генерал-маёр (1941 г.) У. М. Марцінкевіч нарадзіўся 10.3.1896 г. у г. п. Крупкі Мінскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1939 г. У 1923 г. скончыў Вышэйшую ваенную школу старшага камсаставу, у 1934 г. — курсы ўдасканалення камсаставу пры Ваенна-гаспадарчай акадэміі. З 1915 г. у арміі, з лютага 1918 г. камандзір 1-га Маладзечанскага партызанскага атрада, потым у Чырвонай Арміі. У Грамадзянскую вайну камандзір атрада, роты, батальёна, палка; у савецка-фінляндскую вайну 1939—40 г. камандзір дывізіі. У Вялікую Айчынную вайну выконваючы абавязкі камандуючага 24-й, 9-й арміямі на Паўднёвым, Закаўказскім, Волхаўскім, 1-м Беларускім франтах, камандзір стралковай дывізіі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 6.4.1945 г. за ўмелае кіраўніцтва баявымі дзеяннямі дывізіі пры фарсіраванні ў ліпені 1944 г. Заходняга Буга, Віслы, пры захопе і ўтрыманні плацдарма на левым беразе Віслы. Загінуў у баі 30.7.1944 г. Імем героя названа вуліца ў г. п. Крупкі.

У 1967 г. каля сярэдняй школы № 1, якая носіць імя У. М. Марцінкевіча, устаноўлены яго паплечны бюст.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**1151. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Савецкая, у цэнтры пасёлка. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Выкарыстоўваецца як адміністрацыйны будынак. Захаваліся рэшткі парку.

Двухпавярховы будынак асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, накрыты вальмавым дахам. Цэнтральная частка бакавога левага фасада аформлена ў выглядзе вежы, завершанай купалам складанай формы на васьміграннымсветлавым барабане. Сцены чляенёны паясамі русту. Аконныя праёмы разнастайныя па форме (прамавугольныя, круглыя, квадратныя, авальныя, лучковыя), аздоблены ліштвамі. Цэнтральны ўваход з боку галоўнага фасада вылучаны неглыбокім рызалітам, які завершаны атыкам. Уваходная частка бакавога правага фасада будынка фланкіравана 2 невялічкімі вежамі. Планіроўка мяшаная. Паверхі злучаюць 3 розныя па афармленню лесвічныя вузлы. Балясіны цэнтральнай лесвіцы (чыгуннае ліццё) упрыгожаны геаметрычным арнаментам.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *А. Ю. Пятросава.*



1150. *Помнік У. М. Марцінкевічу.*

**в. Абчуга, цэнтр сельсавета**

**1152. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэн-



1151. *Сядзібны дом. Агульны выгляд.*



1151. *Сядзібны дом. Бакавы фасад.*

тры вёскі. Пахаваны 43 воіны і 5 партызан, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1153. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 440 савецкіх грамадзян, закатаваных 5.5.1942 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Асінаўка, Крупскі сельсавет**

**1154. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1151. *Куток парку.*

**1155. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на паўночны ўсход ад вёскі, абапал старой дарогі ў в. Прошыка. 6 насыпаў вышынёй 0,8—1,5 м, дыяметрам 6—10 м (адзін вышынёй 2,5 м, дыяметрам 12 м). Адкрыў і абследаваў у 1967 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Астраўкі, Абчугскі сельсавет**

**1156. МАГІЛА МЯСАЕДАВАЙ** Ніны Карнееўны (гіст.). На могілках. Партызанка атрада «За Радзіму» Сенненскай брыгады Н. К. Мясаедава 18.12. 1943 г. пры выкананні баявога задання трапіла з групай партызан на варожую засаду. Прыкрываючы адыход таварышаў, была цяжка паранена, узята ў палон і пасля жорсткіх катаванняў загублена. У 1983 г. на магіле пастаўлены абеліск.




1155. *Курганны могільнік. План.*

## XI. БОБР

Гарадскі пасёлак. Размешчаны на рацэ Бобр, за 10 км ад Крупак, 2 км ад чыгуначнай станцыі Бобр, на лініі Мінск — Орша, на аўтамабільнай дарозе Мінск — Смаленск.

У 16 ст. мястэчка Аршанскага павета Вялікага княства Літоўскага. З 1793 г. у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Сенненскага павета. У 1904 г. працавалі 2 цагельныя заводы (115 рабочых). Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З 1924 г. у Крупскім р-не, з 1941 г. гарадскі пасёлак. З ліпеня 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, разбураны. Вызвалены воінамі 11-й гвардзейскай арміі 3-га Беларускага фронту.

Цэнтр сфарміраваны з 2 аддаленых адзін ад аднаго пасёлкаў: паўночнага — уздоўж аўтамагістралі Мінск — Смаленск, раздзеленага поймай ракі, у якім жыве асноўная колькасць насельніцтва, і паўднёвага — уздоўж чыгункі Мінск — Смаленск. Пераважае індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. На перасячэнні галоўных вуліц Савецкай (асноўны ўезд у пасёлак), Магілёўскай і Талачынскай (злучае цэнтр з прамысловай зонай) размешчаны грамадска-адміністрацыйны і культурна-гандлёвы цэнтр. Тут знаходзяцца будынкі выканкома гарпасялковага Савета і сталовай, сквер, па вул. Савецкай — магазіны, у паўночнай частцы пасёлка бібліятэка, бальніца, сярэдняя школа, камбінат бытавога абслугоўвання, вытворчы ўчастак Крупскага дрэваапрацоўчага камбіната, у паўднёвай — асфальтавы завод, завод музычных дэталей (філіял Барысаўскага вытворчага аб'яднання музычных інструментаў), электрастанцыя. Генпланам 1980 г. (Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва) прадугледжана развіццё пасёлка ў паўночна-ўсходнім напрамку, будаўніцтва стадыёна, клуба, універмага, дамоў катэджавага тыпу і 2—4-павярховых жылых дамоў. Помнікі: на брацкай магіле савецкіх воінаў, землякам, Герою Савецкага Саюза В. М. Чабатарову.

Зона адпачынку на рацэ Бобр.

*А. Ю. Пятросава, Т. Р. Чуракова.*

**1157. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне пасёлка, па вул. Зарэчча. Пахаваны 140 воінаў, якія загінулі ў чэрвені — ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 3-й і 19-й танкавых брыгад 3-га гвардзейскага танкавага корпуса 5-й гвардзей-



1160. *Помнік В. М. Чабатарову.*

скай танкавай арміі і воіны 1277-га зенітна-артылерыйскага палка 48-й зенітна-артылерыйскай дывізіі 11-й гвардзейскай арміі 3-га Беларускага фронту. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Т. Р. Чуракова.*

**1158. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на паўночны ўсход ад пасёлка, каля дарогі на Новалукомль. Пахаваны 961 мірны жыхар, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі 10.10.1941 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1159. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры пасёлка, у скверы. На ўшанаванне памяці 199 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**1160. ПОМНІК ЧАБАТАРОВУ** Васілю Міхайлавічу (гіст.). На вул. Магілёўскай, каля будынка сярэдняй школы імя А. В. Луначарскага.

Герой Савецкага Саюза В. М. Чабатароў нарадзіўся 25.6.1918 г. у с. Гаўрылаўка Рузаеўскага р-на Какчэтаўскай вобл. у сям'і селяніна. Член КПСС з 1941 г. У Чырвонай Арміі з жніўня 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г.: снайпер, намеснік палітрука роты, камсорг палка, оперупаўнаважаны аддзялення контрразведкі танкавай брыгады. На Ленінградскім і Волхаўскім франтах знішчыў з снайперскай вінтоўкі больш за 60 гітлераўцаў. 27.6.1944 г. прарваўся з батальёнам у тыл праціўніка каля г. п. Бобр. Знішчыў 10 гітлераўцаў, узяў у палон афіцэра. У час бою быў цяжка паранены, акружаны ворагамі, узяты ў палон і закатаваны. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 29.6.1945 г. Яго імем названы вуліца і школа на радзіме, вуліца ў с. Рузаеўка Какчэтаўскай вобл., у с. Гаўрылаўка — помнік.

У 1973 г. у г. п. Бобр устаноўлены паплечны бюст героя.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**1161. РАДЗІМА КНЯЗЕВА** Васіля Аляксандравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза В. А. Князеў нарадзіўся 1.1.1920 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. Скончыў Віцебскі аэраклуб, з 1937 г. у Адэскім лётным вучылішчы. З 1938 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Удзельнік вызвалення Паўночнага Каўказа, Украіны, Беларусі. Камандзір эскадрыллі знішчальнага авіяпалка старшы лейтэнант В. А. Князеў зрабіў 1088 баявых вылетаў, правёў 125 паветраных баёў, збіў 11 варожых самалётаў. У складзе групы знішчыў 9 самалётаў, 22 варожыя эшалоны, 18 танкаў, 74 аўтамашыны, 28 зенітных установак ворага. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.8.1943 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр 22.7.1968 г. У г. п. Бобр адзін з раздзелаў экспазіцыі музея школы, дзе вучыўся В. А. Князеў, прысвечаны яго памяці. Яго імем названа вуліца ў Віцебску.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**1162. РАДЗІМА КОНАНАВА** Міхаіла Дзмітрыевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. Дз. Конанаў нарадзіўся 10.1.1906 г. у сялянскай сям'і. Чл. КПСС з 1942 г. Скончыў бранятанкавыя курсы ў Ленінградзе (1932 г.), Хіміка-тэхналагічны інстытут імя Ленсавета (1937 г.), Ленінградскую вышэйшую афіцэрскую бранятанкавую школу (1951 г.). У 1939—41 гг. працаваў начальнікам цэха на заводзе ў Ленінградзе. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на Ленінградскім і 1-м Беларускім франтах, удзельнічаў у вызваленні Эстоніі, Польшчы, а таксама ў баях на тэрыторыі Германіі. У студзені 1944 г. танкавы батальён пад яго камандаваннем прарваўся ў тыл праціўніка і дэзарганізаваў яго абарону. Паранены, узначаліў атаку. 17—25.1.1944 г. знішчыў 5 варожых танкаў, 9 дзотаў, 29 гармат, 18 кулямётных кропак і шмат жывой сілы. Вызначыўся ў баях за вызваленне Польшчы ў студзені 1945 г. Танкавы батальён пад камандаваннем маёра М. Дз. Конанава прарваў абарону праціўніка, першым выйшаў да р. Піліца, авалодаў



1164. *Помнік землякам.*

пераправай, забяспечыў фарсіраванне ракі, умацаваўся на яе левым беразе. У складзе галаўной баявой разведкі батальён першым уварваўся ў г. Скернявіцы, у выніку пяцігадзіннага бою разграміў полк пяхоты праціўніка і поўнасцю вызваліў горад. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.2.1945 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, падпалкоўнік. У 1963—70 г. працаваў старшым інжынерам на Адміралцейскім заводзе ў Ленінградзе. Памёр 9.5.1972 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Бярозка, Ухвальскі сельсавет**

**1163. ПОМНІК У ГОНАР КРУПСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі. У Вялікую Айчынную вайну каля вёскі ў лесе базіраваўся Крупскі падпольны райком КП(б)Б.

Райком створаны ў маі 1943 г. паводле рашэння міжрайпартцэнтра Барысаўскай зоны. Базіраваўся ў партызанскім атрадзе «Гвардзеец» брыгады П. К. Панамарэнкі, дзейнічаў да 1.7. 1944 г. Сакратар райкома А. В. Шчарбакоў, намеснік сакратара І. Ф. Ісачанка. Падпольны райком КП(б)Б узначальваў партызанскі рух у раёне, праводзіў палітычную работу сярод насельніцтва. Друкаваны орган падпольнага райкома КП(б)Б — газета «Партизанский путь».

У 1965 г. у гонар падпольнага райкома КП(б)Б пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Восава, Хацюхоўскі сельсавет**

**1164. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 77 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. па-

стаўлены помнік — абеліск, камень з рэльефнай выявай воіна; 3 стэлы з мармуровымі дошкамі, на якіх імёны загінуўшых.

**в. Выдрыца, цэнтр сельсавета**

**1165. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 6 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1166. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Ляхаўка (на левым беразе р. Бобр). 6 насыпаў вышынёй 1,2 м, дыяметрам да 6 м. Вядомы з 1924. Абследавала ў 1979 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1167. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 22 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**1168. ПОМНІК НА МЕСЦЫ ГІБЕЛІ КОЛЕСАВАЙ** Алены Фёдараўны (гіст.). У цэнтры вёскі. Герой Савецкага Саюза А. Ф. Колесава загінула ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 11.9.1942 г. У 1983 г. на месцы яе гібелі ўстаноўлены камень з надпісам. Гл. таксама артыкулы № 1143 «Брацкая магіла партызан» і № 1148 «Помнік Колесавай Алене Фёдараўне».




1166. *Курганны могільнік. План.*




1169. *Гарадзішча. План.*



1173. *Помнік землякам.*

**в. Вялікае Горадна, Выдрыцкі сельсавет**

**1169. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,1 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Замак, на мысе, утвораным 2 ярамі. Пляцоўка круглаватай формы з адным падоўжаным краем. Даўжыня пляцоўкі 70 м, шырыня ў самай вузкай частцы 40 м. З поўначы і захаду ўмацавана валам вышынёй да 1,5 м і ровам, які паступова злучаецца з ярам. Захаванасць добрая. Адкрыў у 1893 г. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1936 г. А. Дз. Каваленя, у 1979 г. А. Г. Калечыц. У шурфах знойдзена штрыхаваная і гладкасценная кераміка. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі і да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*А. Г. Калечыц.*

**1170. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля могілак. 2 насыпы дыяметрам 6 і 8 м, вышынёй каля 1,5 м. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вялікія Хальнявічы, Янаўшчынскі сельсавет**

**1171. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 93 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1172. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1964 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**в. Гапонавічы, Крупскі сельсавет**

**1173. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. На ўшанаванне памяці 74 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін са сцягам і партызанка з аўтаматам.

**1174. ПОМНІК КАЗЛОЎСКАМУ** Міхалаю Кузьмічу (гіст.). Каля будынка школы.

Герой Савецкага Саюза М. К. Казлоўскі нарадзіўся 15.12.1917 г. у в. Гапонавічы Крупскага р-на ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на Паўднёва-Заходнім і Варонежскім франтах. Камандзір танкавай роты лейтэнант М. К. Казлоўскі вызначыўся ў верасні 1943 г. пры вызваленні Кіеўскай вобл. 26.9.1943 г. рота пад яго камандаваннем фарсіравала Дняпро каля в. Зарубінцы, 28—29.9.1943 г. каля в. Вялікі Букрын адбіла 6 контратак праціўніка, падбіла 6 танкаў і самаходных гармат, знішчыла 2 мінамётныя батарэі, 50 станковых кулямётаў і больш за 100 фашыстаў. Загінуў у баі 11.10.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 3.6.1944 г.

У 1969 г. на ўшанаванне памяці М. К. Казлоўскага ўстаноўлены бюст.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*



1175. *Праабражэнская царква. Каменны крыж.*

**в. Грыцкавічы, Халопеніцкі сельсавет**

**1175. ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на высокім узгорку. Пабудавана ў канцы 18 ст. з дрэва. Аднадрубны храм накрыты вальмавым дахам, на вільчыку якога ўзвышаецца невялікая галоўка на двух'ярусным васьмерыку, завершаная ажурным крыжом чыгуннага ліцця. Цэнтральны ўваход вылучаны двухсхільным казырком, што апіраецца на 2 слупы васьмівугольнага сячэння. Аконныя праёмы бакавых фасадаў невялікія, прамавугольныя, высокай пяціграннай апсіды — лучковыя. Каля царквы захаваўся каменны крыж.




**1175.** *Праабражэнская царква. План.*

Царква — помнік архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Гумны, Ухвальскі сельсавет**

**1176. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 125 мірных жыхароў вёскі, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1985 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дакудава, цэнтр сельсавета**

**1177. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Бальшавік». На ўшанаванне памяці 45 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**в. Дубраўка, Акцябрскі сельсавет**

**1178. ПОМНІК ПАРЦЯНКУ** Андрэю Антонавічу, **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі.

Герой Савецкага Саюза А. А. Парцянка нарадзіўся 10.2.1906 г. у в. Дубраўка Крупскага р-на ў сялянскай сям'і. Працаваў у калгасе. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на фронце. У баі быў цяжка паранены, трапіў у палон, уцёк. Да жніўня 1944 г. змагаўся з ворагам у радах партызан на тэрыторыі Беларусі, потым — на 1-м Прыбалтыйскім фронце. Вызначыўся ў баях ва Усходняй Прусіі. 29.1.1945 г. кулямётчык малодшы сяржант А. А. Парцянка з групай байцоў перапра-



**1177.** *Помнік землякам.*



**1175.** *Праабражэнская царква.*



**1178.** *Помнік А. А. Парцянку і землякам.*

віўся цераз заліў Курыш Хаф, на касе Курыш Нерунг удзельнічаў у адбіцці 6 контратак праціўніка. Калі падраздзяленне палка трапіла ў акружэнне, А. А. Парцянка зайшоў з флангу і адкрыў па ворагу агонь з кулямёта. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 19.4.1945 г. Пахаваны на хутары Алексін (10 км ад Клайпеды). Яго імем названа Дубровенская школа, дзе ён вучыўся.

У 1982 г. устаноўлены абеліск з барэльефам героя і 4 нахіленыя стэлы. Помнік ушаноўвае таксама памяць 124 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Дубы, Акцябрскі сельсавет**

**1179. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1179а.** Могільнік-1. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. За 1 км на поўдзень ад паўднёва-ўсходняга берага воз. Сялява, у лесе. 5 насыпаў (на плошчы каля 200 м²) вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 6—8 м. Добра здзірванелыя. Адкрыў у 1907 г. К. Ц. Анікіевіч, абследавалі ў 1930 г. А. Дз. Каваленя, у 1979 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.




1179. *Курганныя могільнікі. План.*



1180. *Курганны могільнік. План.*



1183. *Помнік землякам.*

**1179б.** Могільнік-2. За 1,9 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля дарогі ў в. Калодніца. 2 насыпы дыяметрам 6 м, вышынёй 1,5 і 1,2 м. Адкрыў у 1907 г. К. Ц. Анікіевіч, абследавалі ў 1930 г. А. Дз. Каваленя, у 1979 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1179в.** Могільнік-3. За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, за 0,3 км ад воз. Сялява, ва ўрочышчы Вінчэса, у лесе. 2 насыпы вышынёй 1,2 м, дыяметрам 6 м. Адкрыў у 1907 г. К. Ц. Анікіевіч, абследавалі ў 1930 г. А. Дз. Каваленя, у 1979 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Аникиевич К. Т. Сенненский уезд Могилевской губернии. — Могилев, 1907; Каваленя А. Д. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *А. Г. Калечыц.*

**в. Дудзінка, Халопеніцкі сельсавет**

**1180. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Расцяроб. 11 насыпаў дыяметрам 6—18 м, вышынёй 1,2—3 м. Захаванасць добрая, за выключэннем 2 насыпаў. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Заполле, Нацкі сельсавет**

**1181. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 31 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Знаменка, Ухвальскі сельсавет**

**1182. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 28 воінаў, якія памерлі ад ран у медсанбаце летам 1944 г. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ігрушка, цэнтр сельсавета**

**1183. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 93 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**в. Калодніца, Акцябрскі сельсавет**

**1184. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі, на могілках. 2 насыпы дыяметрам 10 і 12 м, вышынёй 2 і 2,5 м. Курганы пашкоджаны сучаснымі пахаваннямі. Адкрыў у 1979 г. К. Ц. Анікіевіч, абследавалі ў 1930 г. А. Дз. Каваленя, у 1979 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1185. ЦАРКВА** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва.

Трохзрубны храм на высокім мураваным цокалі, складаецца з асноўнага аб'ёму, алтарнай часткі і бабінца. Асноўны зруб прамавугольны ў плане, накрыты чатырохсхільным дахам, над ім узвышаецца васьмярык з купалам на васьміграннай шыйцы. На баках на 2 схілах даху зроблены фігурныя



1185. *Царква.*




1185. *Царква. План.*

люкарны з трохвугольнымі франтончыкамі. Апсіда пяціграння. Над бабінцам размешчана званіца. Сцены храма прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах, якія ў бабінцы і асноўным зрубе аздоблены трохвугольнымі сандрыкамі. Тры ўваходы ў царкву аформлены двухсхільнымі казыркамі. Па перыметры праходзяць 2 карнізы, паміж імі вертыкальнай шалёўкай зроблены дэкаратыўны фрыз. Над цэнтральным уваходам на фрызе прарэзана акно ў выглядзе крыжа.

Царква — помнік архітэктуры класіцызму. *А. Ю. Пятросава.*






1188. *Гарадзішча. План.*




1189. *Гарадзішча. План.*



1192. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**в. Каменка, Ігрушкаўскі сельсавет**

**1186. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў 1942 г. пры выкананні баявога задання каля в. Нача. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Касянічы, Абчугскі сельсавет**

**1187. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля будынка канторы саўгаса «Касянічы». На ўшанаванне памяці 44 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін са сцягам і партызанка.

**в. Кіявец, Абчугскі сельсавет**

**1188. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Бобр, у лесе, на ўзвышшы. Пляцоўка амаль круглая, памерам 30×40 м, з поўначы і поўдня ўмацавана валам вышынёй 1,5 м. З усіх бакоў (акрамя заходняга) прасочваецца роў глыбінёй 1,3 м і кальцападобны вал вышынёй 1,2 м. Адкрыў у 1907 г. К. Ц. Анікіевіч, абследавалі ў 1967 г. Г. В. Штыхаў, у 1979 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Аникиевич К. Т. Сенненский уезд Могилевской губернии.— Могилев, 1907.

**в. Клішана, Янаўшчынскі сельсавет**

**1189. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на востраве воз. Сялява, ва ўрочышчы Выспянская Гара. Пляцоўка авальная, памерам 60×25 м, узвышаецца над летнім меженным узроўнем вады ў возеры на 9 м. З паўднёвага боку ўмацавана валам вышынёй 1 м, шырынёй каля 3 м. Ад асноўнай часткі вострава пляцоўка аддзелена ровам глыбінёй каля 3 м і яшчэ адным валам вышынёй 1,5 м, шырынёй 2—4 м. Адкрыў у 1955 г. Л. Д. Побаль, абследавала ў 1979 А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,8 м прасочаны ў шурфах. Знойдзены шлак, кавалкі ляпной штрыхаванай керамікі і рэшткі гладкасценнага посуду, фрагменты печаў-доміц, косці жывёл, абпаленыя камяні, вугалле. Адносіцца да днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур. Датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Г. Калечыц.*

**в. Колас, Нацкі сельсавет**

**1190. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 17 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Купленка, Ухвальскі сельсавет**

**1191. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,1 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 44 мірныя жыхары, расстраляныя ў кастрычніку 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лебедзева, Крупскі сельсавет**

**1192. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 1975 мірных жыхароў, якіх 18.9.1944 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефнай выявай жанчыны ў жалобе і надпісам-прысвячэннем.

**пас. Лянок, Нацкі сельсавет**

**1193. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на поўнач ад пасёлка, за 0,3 км ад аўтамабільнай дарогі Масква — Мінск, у лесе. 57 насыпаў (на плошчы 100×50 м) вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 6—12 м. Адкрыў у 1968 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Маладзілава (не існуе), Выдрыцкі сельсавет**

**1194. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Маладзілава знаходзілася за 16 км на поўдзень ад г. п. Крупкі. У 1941 г. спалена нямецка-фашысц-




1193. *Курганны могільнік. План.*



1195. *Помнік землякам.*

кімі захопнікамі разам з жыхарамі (45 чалавек, 9 двароў). Пасля вайны не адрадзілася.

**в. Малая Слабада, Крупскі сельсавет**

**1195. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба калгаса «Перамога». На ўшанаванне памяці 59 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін са сцягам і партызанка з аўтаматам.

**в. Малыя Жаберычы, Дакудаўскі сельсавет**

**1196. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 68 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Нача, цэнтр сельсавета**

**1197. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 29 воінаў, якія загінулі ўлетку 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 2-й мотастралковай брыгады, 18-й гвардзейскай танкавай брыгады, 3-га танкавага корпуса 5-й гвардзейскай танкавай арміі, 5-й стралковай дывізіі, 8-га стралковага корпуса 11-й гвардзейскай арміі 3-га Беларускага фронту. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1198. МАГІЛА СУРЫНА** Марціна Акімавіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза М. А. Сурын нарадзіўся 4.5.1908 г. у в. Руднае Чашніцкага р-на ў сялянскай сям'і. Працаваў у калгасе. На фронце з ліпеня 1944 г. Вызначыўся ў баях пры вызваленні Літвы ад нямецка-фашысцкіх акупантаў і пры разгроме войск праціўніка ва Усходняй Прусіі. 16.8.1944 г. у баі каля в. Рудзэ Літоўскай ССР падбіў 2 варожыя танкі. 17.8.1944 г. радавы Сурын прыняў на сябе камандаванне ўзводам, пераправіўся цераз р. Шашупе, знішчыў гранатамі кулямёт ворага і агнём падтрымліваў пераправу ўзвода. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Пасля вайны працаваў у калгасе «Камунар» Крупскага р-на. Памёр 24.4.1963 г. Яго імем названа сярэдняя школа ў в. Латыголічы Чашніцкага р-на.

У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**1199. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка бібліятэкі. На ўшанаванне памяці 51 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1200. ПОМНІК ШАСТАКОВУ** Міхаілу Дзянісавічу (гіст.). Каля будынка школы.

Герой Савецкага Саюза М. Дз. Шастакоў нарадзіўся 3.10.1907 г. у в. Нача Крупскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1935 г. З 1929 г. у Чырвонай Арміі. У 1931 г. скончыў Аб'яднаную беларускую ваенную школу імя ЦВК БССР. З 1941 г. на Паўднёва-Заходнім фронце. Камандзір танкавага батальёна капітан М. Дз. Шастакоў вызначыўся ў баях пад Харкавам. 12.5.1942 г. батальён пад яго камандаваннем фарсіраваў р. Бабка і захапіў у палон 300 гітлераўцаў з стралковай зброяй і артылерыяй, знішчыў разлікі 4 гармат у баі за с. Непакрытае, вызваліў сяло і ўзяў у палон батальён пяхоты праціўніка. М. Дз. Шастакоў загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў с. Шастакова Валчанскага р-на Харкаўскай вобл. (былое с. Непакрытае). Званне Героя Савецкага Саюза




1193. *Курганны могільнік. Ахоўны знак.*



1196. *Помнік землякам.*

прысвоена 15.11.1942 г. На радзіме імя героя прысвоена сярэдняй школе, у якой ён вучыўся; на магіле пастаўлены помнік.

У 1967 г. у в. Нача ўстаноўлены бюст героя.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Новая Слабада, Ухвальскі сельсавет**

**1201. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 89 мірных жыхароў, якіх 14.10.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1985 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Новыя Дзянісавічы, цэнтр сельсавета**

**1202. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 8 лётчыкаў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 13 партызан 8-й Круглянскай брыгады, што загінулі 28.8. 1942 г. пры разгроме ворага на чыгуначнай станцыі Слаўнае, 21.9.1942 г. пры ліквідацыі варожага гарнізона ў в. Новыя Дзянісавічы і 31.7.1943 г. у баі каля в. Дубавое. У 1964 г. на магіле пастаўлены 2 абеліскі. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Пліса, Бобрскі пасялковы Савет**

**1203. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У вёсцы, на ўзвышшы (5—6 м над наваколлем) правага берага р. Пліса. Пляцоўка чатырохвугольнай формы, памерам 50×45 м, з паўднёва-ўсходняга боку ўмацавана валам вышынёй 0,5 м.



1202. *Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан.*

Адкрыў у 1907 г. К. Ц. Анікіевіч, абследавалі ў 1930 г. А. Дз. Каваленя, у 1979 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Прошыка, цэнтр Акцябрскага сельсавета**

1204. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі. 2 насыпы вышынёй 1,5 і 2,5 м, дыяметрам 10 і 15 м. Захаванасць добрая. Адкрыў у 1971 г. Г. В. Штыхаў, абследавала ў 1979 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

1205. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка канторы саўгаса «40 гадоў Кастрычніка». На ўшанаванне памяці 95 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1963 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Прудзіны, Абчугскі сельсавет**

1206. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 18 мірных жыхароў, расстраляных у ліпені 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1203. *Гарадзішча. План.*

**в. Ротань, Крупскі сельсавет**

1207. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя А. Ф. Колесавай. На ўшанаванне памяці 48 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Самаседаўка, Ігрушкаўскі сельсавет**

1208. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 20 воінаў, якія загінулі летам 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 1379-га зенітнага артылерыйскага палка, 34-й зенітнай артылерыйскай дывізіі, 11-й гвардзейскай арміі 3-га Беларускага фронту. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Слабада, Халопеніцкі сельсавет**

1209. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля канторы саўгаса «Эса». На ўшанаванне памяці 93 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1978 г. пастаўлены 3 мармуровыя стэлы, на цэнтральнай — выява ордэна Айчыннай вайны, на бакавых — імёны загінуўшых.

**в. Смародзінка, Абчугскі сельсавет**

1210. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы, каля будынка школы. Пахаваны 67 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры воіна са сцягам і партызанкі з аўтаматам.

**в. Сомры, Ухвальскі сельсавет**

1211. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Пахаваны 180 жыхароў вёскі, якіх у кастрычніку 1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1209. *Помнік землякам.*



1210. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Стараселле, Ігрушкаўскі сельсавет**

1212. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**в. Старая Слабада, Ухвальскі сельсавет**

1213. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 104 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлены абеліск.

**в. Стары Бобр, Бобрскі пасялковы Савет**

1214. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

1215. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Царкавішча. 4 насыпы вышынёй 0,8—1 м, дыяметрам каля 6 м. Адкрыў у пачатку 20 ст. К. Ц. Анікіевіч, абследавалі ў 1930 г. А. Дз. Каваленя, у 1979 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Узнаж, Ухвальскі сельсавет**

1216. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 360 мірных жыхароў, якіх 14.10.1942 г.



1218. *Помнік землякам.*

расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Узнацк, Ігрушкаўскі сельсавет**

**1217. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 савецкія воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і каля 30 ваеннапалонных і мірных жыхароў, закатаваных акупантамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1218. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля канторы саўгаса «Прызыў». На ўшанаванне памяці 46 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1978 г. пастаўлены помнік — 5 мармуровых стэл. На адной з іх выява ордэна Айчыннай вайны, на дзвюх — імёны загінуўшых.



1221. *Помнік землякам.*

**в. Ухвала, цэнтр сельсавета**

**1219. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, справа ад дарогі на г. Беразіно. Пахаваны 38 воінаў, якія загінулі ўлетку 1944 г. у баях пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 174-й стралковай дывізіі 113-га стралковага корпуса 31-й арміі 3-га Беларускага фронту і воіны 23-й гвардзейскай асобнай танкавай брыгады 2-га Беларускага фронту. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1220. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 150 мірных жыхароў, закатаваных нямецка-фашысцкімі карнікамі 14.10.1942 г. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1221. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 126 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1222. ПОМНІК ЛУКАШЭВІЧУ** Аляксандру Сцяпанавічу (гіст.). У цэнтры вёскі.

Герой Савецкага Саюза А. С. Лукашэвіч нарадзіўся 3.6.1924 г. у сям'і служачых у в. Чарнавосава Крупскага р-на. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. партызан 28-га асобнага партызанскага атрада. Разведчык-падрыўнік. А. С. Лукашэвіч узарваў 9 варожых эшалонаў, 2 разы псаваў тэлефонную лінію сувязі са стаўкай фашысцкага галоўнага камандавання. 13.11.1943 г. натрапіў на засаду. Цяжка паранены, апошняй гранатай падарваў сябе і гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. Пахаваны ў в. Глыбокае Круглянскага р-на.

У 1974 г. каля будынка сярэдняй школы, якая носіць імя А. С. Лукашэвіча, пастаўлены помнік — паплечны бюст героя.

*Літ.:* Герои Советского Союза — уроженцы Минска и Минской области.— Мн., 1965; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

## XII. ХАЛОПЕНІЧЫ

Гарадскі пасёлак. Знаходзіцца за 34 км ад Крупак, 28 км ад чыгуначнай станцыі Крупкі на лініі Мінск — Орша.

Вядомы з 16 ст. У Вялікім княстве Літоўскім прыватнае мястэчка ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяводства. Належалі Радзівілам, Халецкім, Храптовічам. У 1703 г. М. Халецкі пабудаваў тут драўляны касцёл і мураваны кляштар дамініканцаў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) Халопенічы — цэнтр Аршанскага павета (той яго часткі, якая асталася ў складзе Вялікага княства Літоўскага), мелі правы горада. Тут праходзілі павятовыя сеймікі. Шэраг ільгот, дадзеных у 1783 г. мястэчку, садзейнічаў росту насельніцтва, была адкрыта школа. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Барысаўскага павета Мінскай губерні. У 1828 г. пабудавана драўляная Успенская царква. У сярэдзіне 19 ст. з 600 двароў 215 было беззямельных. У 1840 г. заснаваны вінакурны завод, у 1884 г. устаноўлена паравая машына (7 рабочых), у 1865 г.— ільнотрапалка (17 рабочых у 1895 г.), у 1898 г.— паравы млын (3 рабочыя). З ваколіц мястэчка пастаўляўся мачтавы лес для флоту. Паводле перапісу 1897 г. у Халопенічах 2254 жыхары, царква, касцёл, аднакласнае народнае вучылішча, бальніца, паштова-тэлеграфнае аддзяленне, 15 крам, адбываліся 2 кірмашы ў год.



1222. *Помнік А. С. Лукашэвічу.*

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым — лістападзе 1918 г. Халопенічы былі акупіраваны



XII. *Дом культуры.*



1227. *Помнік У. І. Леніну.*

германскімі войскамі. У 1923 г. у мястэчку 413 двароў і 1923 жыхары. З 17.7.1924 г. цэнтр Халопеніцкага р-на ў Барысаўскай, з чэрвеня 1927 г. у Мінскай акругах. У ліпені 1931 г. раён скасаваны. Халопенічы ўвайшлі ў Крупскі р-н. Працавалі паравы млын і цыркулярка, арцелі шавецкая «Свая праца» (заснавана ў 1928 г.) і кравецкая «Новы шлях» (заснавана ў 1931 г.). З 1930 г. да 1931 г. выходзіла раённая газета «За калектывізацыю». У былым маёнтку быў арганізаваны саўгас (у 1933 г. 77 рабочых, 1254 га зямлі). У лютым 1935 г. Халопеніцкі р-н адноўлены. 15.1.1938 г. мястэчка і раён увайшлі ў склад Мінскай вобл. З 27.9.1938 г. пасёлак гарадскога тыпу.

У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія ў верасні 1941 г. расстралялі 800 жыхароў пасёлка і 309 жыхароў в. Шамкі. Барацьбу з ворагам узначальвалі падпольныя райкомы КП(б)Б (20.10. 1942 г.— 28.6.1944 г.) і ЛКСМБ (30.11. 1942 г.— 28.6.1944 г.); выдавалася газета «Красное знамя» — друкаваны орган падпольнага райкома КП(б)Б. З 1942 г. дзейнічала падпольная камсамольская арганізацыя. 20.1.1960 г. у сувязі з узбуйненнем раёнаў Халопеніцкі р-н скасаваны, гарадскі пасёлак увайшоў у склад Крупскага р-на.

Генеральны план забудовы распрацаваны ў 1974 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Пераважае прамавугольная сетка вуліц, забудова вядзецца невялікімі кварталамі. Тэрыторыя пасёлка падзелена на 2 зоны — жылую і вытворчую. У цэнтры пасёлка размешчаны будынкі выканкома гарпасялковага Савета, універмага, сталовай, бальніцы, музычнай школы, дзіцячай бібліятэкі, аптэкі, магазінаў. Жылая забудова пераважна драўляная, аднапавярховая. Капітальныя адна-, двух- і трохпавярховыя дамы пабудаваны ў цэнтры. Працуюць філіял Мінскага станкабудаўнічага завода імя Кірава, масласырзавод, хлебапякарня, філіял Крупскага камбіната бытавога абслугоўвання, лясніцтва. У пасёлку сярэдняя, рабочай моладзі, музычная школы, васьмігадовая школа-інтэрнат, яслі-сад, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца. Помнікі: У. І. Леніну, на магілах савецкіх ваеннапалонных, землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Зберагліся помнікі архітэктуры — кляштар кармелітаў 18 ст. (цяпер тут Дом культуры) і рэшткі праваслаўнай царквы 19 ст.

Зона адпачынку размешчана на воз. Сялява і Худавец.

*М. І. Камінскі, А. Ю. Пятросава.*

**1223. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад Халопеніч. Пахаваны 66 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 9-й гвардзейскай механізаванай брыгады 5-й арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі пры вызваленні пасёлка ўлетку 1944 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1224. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на паўночны ўсход ад пасёлка, каля дарогі Халопенічы — Слабада. Пахаваны 2700 савецкіх грамадзян, загубленых нямецка-фашысцкімі карнікамі 20.9.1941 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1225. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад пасёлка. Пахаваны 54 ваеннапалонныя, якіх у 1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1226. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры пасёлка. На ўшанаванне памяці 65 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. пастаўлены абеліск.

**1227. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры пасёлка, у скверы каля Дома культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1951 г.

**в. Харытанцы, Акцябрскі сельсавет**

**1228. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 4 партызаны, якія загінулі ў 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1223. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Хацюхова, цэнтр сельсавета**

**1229. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 33 воіны, якія загінулі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў улетку 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 11-й гвардзейскай арміі 3-га Беларускага фронту. У 1978 г. на магіле пастаўлены помнік — 2 мармуровыя стэлы і надмагільныя пліты.

**в. Худава, Акцябрскі сельсавет**

**1230. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 пар-



1233. *Помнік землякам.*



1231. *Багародзіцкая царква. Бакавы фасад.*

тызаны брыгады М. П. Гудкова, якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. устаноўлена надмагілле.

**в. Худаўцы, цэнтр Крупскага сельсавета**

**1231. БАГАРОДЗІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на невялікім пагорку. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з дрэва.

Трохзрубны аднаапсідны храм з двух'яруснай чатырохвугольнай у сячэнні званіцай над бабінцам. Асноўны цэнтральны аб'ём завершаны масіўным купалам на двух'ярусным васьміграннымі барабане і 4 вуглавымі вежачкамі (на васьмерыках) з цыбулепадобнымі галоўкамі. Вільчык даху пяціграннай апсіды завершаны цыбулепадобным купалам. У дэкоры выкарыстаны разныя арнаментальныя паясы, стылізаваныя закамары. Уваход у храм падкрэслены паддашкам на ажурных кранштэйнах чыгуннага ліцця. Унутраную прастору ўпрыгожвае драўляны іканастас, багата аздоблены пазалочанай разьбой.




1231. *Багародзіцкая царква. План.*

Царква — помнік драўлянага дойлідства псеўдарускага стылю.

*А. Ю. Пятросава.*

**1232. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1233. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 110 воінаў-землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. пастаўлены абеліск і 6 стэл з імёнамі загінуўшых.

**в. Язбы, Акцябрскі сельсавет**

**1234. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Насупраць будынка школы. Пахаваны 36 воінаў, якія загінулі каля вёскі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1235. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі. 4 насыпы вышынёй 1,2 м, дыяметрам 6—8 м. Адкрыў у пачатку 20 ст. К. Ц. Анікіевіч, абследавалі ў 1930 г. А. Дз. Каваленя, у 1979 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Якімаўка, Халопеніцкі сельсавет**

**1236. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 70 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.




# ЛАГОЙСКІ РАЁН

Ізбішча
Горна
Задор'е
Засоўе
Харошае
Прусавічы
Крайск
Жардзяжжа
Жасцінае
Завішына
Акалова
Мятлічыцы
Вял. Нястанавічы
Белае
Пасадзец
Акцябр
Плешчаніцы
Зарэчча
Камена
Сукневічы
Корань
Казыры
Калачы
Чырвоная Швабаўка
Янушкавічы
Дзяніскі
Гайна
Лагаза
Вял. Бясяды
ЛАГОЙСК
Гасцілавічы
Аўгустова
Сямкова
Знаменка
Бяларучы
Чудзенічы
Астрошыцы

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Культавая архітэктура

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XIII. ЛАГОЙСК

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Гайна. За 40 км на поўнач ад Мінска, 31 км ад чыгуначнай станцыі Смалявічы на лініі Мінск — Орша. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Мінскам, Лепелем, Смалявічамі, Барысавам, Маладзечнам.

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў «Павучанні» Уладзіміра Манамаха пры апісанні яго паходу 1078 г. на полацкага князя Усяслава, калі Уладзімір захапіў Лагойск (летапісны Логожск, Логожеск). Мовазнаўцы лічаць, што назва старажытнага горада паходзіць ад назвы р. Лагаза. У апошняй чвэрці 11 ст.— горад-крэпасць Полацкай зямлі. На правым беразе Гайны ў парку захаваліся рэшткі дзядзінца Лагойска 11—13 стагоддзяў. Дзядзінец (1,5 га) быў умацаваны ровам і валам. У 1128 г., у час паходу вялікага князя кіеўскага Мсціслава Уладзіміравіча на Полацкую зямлю, Лагойск быў разрабаваны, а жыхары выведзены ў палон. Тады горад уваходзіў у Ізяслаўска-Лагожскае княства, дзе княжыў Брачыслаў Давыдавіч, зяць Мсціслава. Пасля гэтага паходу Лагойск дастаўся князю Ізяславу Мсціславічу, але ў 1132 г. вернуты дынастыі полацкіх князёў. У 1180 г. вядома ўжо асобнае Лагожскае ўдзельнае княства Полацкай зямлі, дзе княжылі Усяслаў Мікуліч, з 1186 г.— Васілька Валадаравіч, сын мінскага князя. Далей, да канца 14 ст., у пісьмовых крыніцах звесткі аб Лагойску не сустракаюцца.

У 1-й чвэрці 14 ст. Лагожскае княства далучана да Вялікага княства Літоўскага. У «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (1387—92 гг.) упамінаецца ў ліку літоўскіх гарадоў. У 1387 г. у ім існаваў праваслаўны манастыр Іаана Прадцечы. Тады ж вялікі князь Ягайла падарыў Лагойск разам з іншымі гарадамі і землямі свайму брату Скіргайлу. У 1392 г. ён перайшоў у валоданне вялікага князя Вітаўта, які яшчэ больш яго ўмацаваў. З 1413 г. Лагойск у складзе Віленскага ваяводства. Вялікі князь Казімір Ягелончык аддаў горад князям Чартарыйскім. У 1505 г. крымскія татары разрабавалі, спалілі горад і замак, паланілі насельніцтва. У 1528 г. уладальнікам горада і маёнтка стаў Васіль Тышкевіч. Ён у 1531—32 гг. аднавіў замак і пабудаваў Богаяўленскую царкву. У 1555 г. склаў тэстамент, дзе Лагойск з маёнткам завяшчаў свайму старэйшаму сыну Юрыю, а пасля яго толькі аднаму з мужчынскіх патомкаў роду Тышкевічаў. Гэта быў першы на Беларусі маярат, які аднак існаваў нядоўга. У 1603 г. быў зроблены перадзел маёнткаў, і Лагойск з замкам атрымаў адзін з шасці сыноў Юрыя Аляксандр, які прыняў каталіцызм. Ён у 1609 г. заснаваў у Лагойску мураваны касцёл. З 1566 г. да 1793 г. Лагойск у складзе Мінскага ваяводства. У 1519 г. і 1535 г. у час руска-літоўскіх войн 1512—22 г. і 1534—37 гг. горад быў заняты рускімі войскамі. Тое ж паўтарылася ў 1655 г. у час руска-польскай вайны 1654—67 гг. У 1673 г. Лагойск атрымаў прывілей на штонядзельныя таргі і 2 кірмашы ў год.



XIII. *Адміністрацыйны будынак на Цэнтральнай плошчы.*

У Паўночную вайну 1700—21 гг. шведскае войска заняло ў маі 1708 г. Лагойск, спаліла замак, які з таго часу не аднаўляўся. У 1751 г. Тышкевічы запрасілі ў горад манахаў-базыльян, для якіх на месцы замка пабудавалі ў 1765 г. манастыр і храм. У канцы 18 ст. тут 2 уніяцкія і 2 праваслаўныя царквы. Пры уніяцкім манастыры былі адкрыты невялікія парафіяльная і музычная школы.

З 1793 г. Лагойск у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Барысаўскага павета Мінскай губерні.

У 1814—19 гг. Тышкевічы пабудавалі ў Лагойску двухпавярховы палац (зруйнаваны ў Вялікую Айчынную вайну). У 1842 г. браты Канстанцін і Яўстафій Тышкевічы стварылі музей старажытнасцей (пераважна прадметы з археалагічных раскопак). У музеі знаходзіліся таксама калекцыі мастацкіх твораў і нумізматычная, архіў старажытных рукапісаў, каштоўная бібліятэка. На аснове гэтых калекцый у 1855 г. заснаваны Віленскі музей старажытнасцей.

Пасля паўстання 1830—31 гг. базыльянскі манастыр у 1834 г. закрыты, а яго будынак у 1856 г. разабраны. У 1837 г. у Лагойску пачала працаваць фабрыка льняных і баваўняных тканін на 50 варштатаў (у 1860 г.— 20 рабочых). Дзейнічала невялікая фабрыка сельскагаспадарчых прылад з жалезаплавільнай майстэрняй. К. Тышкевіч заснаваў у мястэчку банк для мяшчан і сялян, але праз 2—3 дзесяцігоддзі фабрыкі і банк былі закрыты. З 1861 г. працавалі невялікія шкіпінарны і медны заводы. У 1884 г.— каля 2000 жыхароў, 150 дамоў, пераважна драўляных. У 1897 г.— 2296 жыхароў, народнае вучылішча, гарбарны завод, вадзяны млын, 14 крам, штогод адбываліся 3 кірмашы.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г., тут быў сфарміраваны атрад Чырвонай гвардыі. З лютага да снежня 1918 г. акупіраваны германскімі войскамі, з жніўня 1919 г. да ліпеня 1920 г.— польскімі. У наваколлі мястэчка дзейнічалі партызаны. З 1924 г. Лагойск — цэнтр раёна, з 27.9. 1938 г. гарадскі пасёлак. У 1939 г.— 3400 жыхароў.

У Вялікую Айчынную вайну з пачатку ліпеня 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, амаль поўнасцю разбураны. Барацьбу з ворагам узначальвалі падпольныя райкомы КП(б)Б (лістапад 1942 г.— 30.6.1944 г.), ЛКСМБ (30.11. 1942 г.— 3.7.1944 г.). Дзейнічалі партызанскія брыгады «Дзядзькі Колі», «Жалязняк», «Штурмавая», «Смерць



XIII. *Жылыя дамы па вуліцы Савецкай.*

фашызму», 1-я Антыфашысцкая, «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага, Лагойская «Бальшавік», імя М. І. Калініна, камуністычнае падполле. Выпускалася газета «За Савецкую Беларусь» — орган падпольнага райкома КП(б)Б. 22.12.1942 г. партызаны разграмілі ў пасёлку гарнізон акупантаў. Лагойск вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў войскамі 3-га Беларускага фронту і партызанамі.

Адбудоўваць Лагойск трэба было нанава. Планам прадугледжвалася поўнае абнаўленне паўднёвага ўчастка вул. Савецкай, стварэнне новых мікрараёнаў у заходняй і ўсходняй частках пасёлка, узвядзенне адміністрацыйных і культурна-бытавых будынкаў, прадпрыемстваў. Сучаснае развіццё ажыццяўляецца паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1969 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Кампазіцыйная вось планіроўкі грамадскага цэнтра — вул. Савецкая, забудаваная 3—6-павярховымі дамамі. На перакрыжаванні яе з вул. Камсамольскай Цэнтральная плошча, сфарміраваная будынкамі райкома КПБ і райвыканкома, універмага, раённага Дома культуры. Уздоўж вул. Савецкай сканцэнтраваны гандлёвыя прадпрыемствы, завяршаюць яе аўтастанцыя і невялікі жылы раён з 2—5-павярховымі будынкамі. У паўночнай частцы (вул. Перамогі) добраўпарадкаваны мікрараён, забудаваны 2—6-павярховымі жылымі дамамі. Пераважае індывідуальная жылая забудова сядзібнага тыпу.

Працуюць хлебазавод, малочны завод, дрэваапрацоўчае вытворчае аб'яднанне, камбінат бытавога абслугоўвання, перасоўныя механізаваныя калоны, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, лясгас. У пасёлку 2 сярэднія школы, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, Дом піянераў і школьнікаў, раённы Дом культуры, 2 бібліятэкі, кінатэатр на 500 месцаў, бальнічны гарадок, дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў. Недалёка ад пасёлка размешчаны дом адпачынку «Лагойскі». Выдаецца раённая газета «Ленінскі сцяг».

Помнікі: У. І. Леніну; К. Марксу; Ф. Э. Дзяржынскаму; партызанцы Н. Я. Харчанка; на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, на магілах ахвяр фашызму. За 16 км ад Лагойска мемарыяльны комплекс Хатынь.

Пасёлак добра азелянёны. Асноўнае месца адпачынку жыхароў — старадаўні парк, навакольныя лясныя масівы.

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Акуліч С., Сасноўскі Б. Лагойск: Гісторыка-эканамічны нарыс.— Мн., 1979; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3.— Мн., 1983—85.

*А. П. Грыцкевіч, А. М. Кулагін.*

**1237. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Цімчука. Пахаваны 41 воін і партызан, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. і ў чэрвені — ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 11-й гвардзейскай стралковай дывізіі і партызаны Лагойскай брыгады «Бальшавік». У 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1238. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**1238а.** Гарадзішча-1. За 1 км на паўночны захад ад Лагойска, ва ўрочышчы Замкавая Гара (Замкавішча), на ўзвышшы. Плошча 0,5 га. Земляныя ўмацаванні адсутнічаюць. Вядома з 1858 г. Даследаваў у 1915 г. М. В. Шавельскі. Знойдзены рэшткі ляпнога посуду, шлак, абломкі глінабітных печаў-домніц. У 1979 г. абследаваў М. І. Лашанкоў. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Матэрыялы даследавання 1915 г. захоўваюцца ў Эрмітажы (г. Ленінград).

**1238б.** Гарадзішча-2. У цэнтры пасёлка, у парку адпачынку, ва ўрочышчы Замчышча (Царковішча). Плошча каля 1,5 га. Умацавана кальцавым валам вышынёй да 3 м. Вядома з 1838 г. Даследавалі ў 1915 г. М. В. Шавельскі, у 1925 г. А. М. Ляўданскі, у 1966 г. і 1968 г. Г. В. Штыхаў (128 $м^2$ плошчы). Культурны пласт 1,2 м. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі, фрагменты ганчарнага посуду 10—15 стагоддзяў, жалезныя наканечнікі стрэл, ключы, крэсіва, нажы, цвікі, гіра, сашнік. Гарадзішча з'яўлялася дзядзінцам старажытнага Лагойска



**1237.** *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан.*



1240. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

(10—13 стагоддзі і больш позні час). Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і ў Эрмітажы (г. Ленінград).

1238в. Г а р а д з і ш ч а - 3. На паўднёва-ўсходняй ускраіне пасёлка, каля дарогі ў в. Зембін, ва ўрочышчы Паненская Гара. Займае высокі мыс на беразе р. Гайна. Пляцоўка памерам 30×20 м, з усходняга боку ўмацавана валам вышынёй 2,3 м, шырынёй 6—7 м і ровам глыбінёй 2,5 м, шырынёй 4—5 м. Вядома з 1857 г. Даследаваў у 1965 г. К. П. Шут. У культурным пласце знойдзены рэшткі ляпной керамікі. Абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ш т ы х о в Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978. *М. І. Лашанкоў.*

**1239. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,6 км на захад ад пасёлка, справа ад аўтамабільнай дарогі Лагойск — Мінск. Пахаваны 11 савецкіх грамадзян — 3 партызанскія сям'і (Івенскія, Дудзінскія, Чарнухі), расстраляныя 11.4.1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1240. МАГІЛА МАСЛАВА** Сцяпана Трафімавіча (гіст.). За 1,5 км на паўночны захад ад пасёлка, за 180 м ад аўтамабільнай дарогі Мінск — Плешчаніцы. Савецкі лётчык С. Т. Маслаў у Вялікую Айчынную вайну быў цяжка паранены ў паветраным баі і зрабіў вымушаную пасадку. Лячыўся ў мясцовага жыхара П. С. Аксенчыка. 16.3.1943 г. схоплены фашыстамі і расстраляны. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1241. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.).

За 1,5 км на паўночны захад ад пасёлка, за 150 м ад аўтамабільнай дарогі Мінск — Лепель. Пахаваны жыхары пасёлка, расстраляныя ў 1941—44 гг. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

За 1,5 км на паўночны захад ад пасёлка, за 170 м ад аўтамабільнай дарогі Мінск — Лепель. Пахаваны жыхары пасёлка, расстраляныя ў 1941—44 гг. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1967 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**1242. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). Вул. Цімчука, 6, на будынку выканкома пасялковага Савета. Устаноўлена ў 1970 г.

Лагойск вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 2.7.1944 г. воінамі 11-й стралковай дывізіі (камандзір генерал-маёр М. Г. Цыганоў) 16-га стралковага корпуса 11-й гвардзейскай арміі 3-га Беларускага фронту.

**1243. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАН БРЫГАДЫ «ШТУРМАВАЯ»** (гіст.). Вул. Савецкая, 17, на будынку райвыканкома. Устаноўлена ў 1970 г.

У 1942 г. па заданню партызан удзельнікі мясцовага камуністычнага падполля разведалі размяшчэнне варожых умацаванняў у пасёлку і подступы да іх. На аснове гэтых звестак партызаны брыгады «Штурмавая» 22.12.1942 г. напалі на нямецка-фашысцкі гарнізон. Народныя мсціўцы знішчылі некалькі дзесяткаў варожых салдат і афіцэраў, склады, дакументацыю раённай управы, нарабаванае захопнікамі дабро раздалі насельніцтву.

*Літ.:* А к у л і ч С., С а с н о ў с к і Б. Лагойск: Гісторыка-эканамічны нарыс.— Мн., 1979. *В. В. Семянюк.*



1244. *Мікалаеўская царква.*

**1244. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На вул. Савецкай, на высокім правым беразе р. Гайна. Пабудавана ў 1824 г., перабудавана ў 2-й палове 19 — пачатку 20 ст. з цэглы. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя царквы складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму, пяціграннай апсіды з нізкімі бакавымі прыбудовамі, трох'яруснай (васьмярык на 2 чацверыках) шатровай званіцы, невысокага бабінца. Асноўны аб'ём увенчаны васьмігранным барабанам з шатровым верхам. Фасады раскрапаваны буйнымі лапаткамі, карнізамі. Высокія арачныя аконныя праёмы ў ліштвах. У інтэр'еры цэнтральны аб'ём перакрыты ветразевымі скляпеннямі на 4 квадратных у сячэнні слупах.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**1245. ПАРК** (архіт.). Уздоўж вул. Камсамольскай, на правым беразе р. Гайна, на месцы старажытнага замчышча. Створаны ў 1-й палове 19 ст. пры графскім палацы. Цяпер — парк культуры і адпачынку.



1244. *Мікалаеўская царква. Скляпенне.*




1244. *Мікалаеўская царква. План.*



1247. *Помнік У. І. Леніну.*

Планіроўка парку (плошча 10 га) была непасрэдна звязана з класіцыстычным двухпавярховым палацам, пабудаваным у 1819 г. (разбураны ў Вялікую Айчынную вайну, асталіся руіны). Парк складаецца з 2 ландшафтных участкаў. На паўночным участку быў разбіты круглы партэр і пладовы сад каля палаца. Са схілу, які займаў палац, адкрываюцца 3 перспектывы: на раку, яе пойму і навакольныя ўзгоркі. Курціны аформлены таполяй белай, ясенем, дубам і елкай. На паўднёвым участку парку знаходзяцца рэшткі старажытных умацаванняў. Тут на вялікай паляне цяпер стадыён. На беразе ракі была альтанка. З яе адкрываліся віды на навакольны ландшафт з поймай ракі і лясістымі ўзгоркамі. У парку пераважаюць дрэвы мясцовых парод.

Помнік садова-паркавага мастацтва.

*Літ.:* А н т и п о в В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975; С а м ц э в і ч В. М. Лагойск (Мінскай акругі).— Наш край, 1928, № 4. *А. М. Кулагін.*

**1246. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). На вул. Камсамольскай. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1980 г.

**1247. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На Цэнтральнай плошчы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1956 г.

**1248. ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (гіст.). На Цэнтральнай плошчы. Скульптура К. Маркса ўстаноўлена ў 1956 г.

**1249. ПОМНІК ХАРЧАНКА** Надзеі Якаўлеўне (маст.). На скрыжаванні вуліц Садовай і Харчанка, у скверы. Пастаўлены ў 1974 г. на ўшанаванне памяці партызанкі Н. Я. Харчанка (гл. таксама артыкул № 1284 «Магіла Харчанка Надзеі Якаўлеўны»).

Партрэтны бюст (скульпт. С. Вакар; бетон; агульная вышыня 3,4 м, пастамента 2,4 м) партызанкі ўстаноўлены на высокім чатырохгранным пастаменце. Пластыка пагруднага партрэта лаканічная і выразная. У гордай паставе, павароце галавы, смелым позірку, моцна сціснутых вуснах — цвёрдая воля і мужнасць. Рэзкая мадэліроўка рысаў твару змякчаецца пластыкай коратка падстрыжаных хвалістых валасоў, прапрацоўкай фактуры світэра. Ад стылабата помніка разыходзяцца сцежкі, выкладзеныя шэрымі бетоннымі плітамі і абсаджаныя дэкаратыўнымі кустамі. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**1250. РАДЗІМА ТЫШКЕВІЧАЎ** Канстанціна Піевіча і Яўстафія Піевіча (гіст.).

К. П. Т ы ш к е в і ч — беларускі археолаг, гісторык, этнограф, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі. Нарадзіўся 5.2.1806 г. Скончыў Віленскі універсітэт у 1828 г. У Лагойску жыў з 1836 г., стварыў тут музей старажытнасцей, сабраў калекцыю мастацкіх твораў і каштоўную



1246. *Помнік Ф. Э. Дзяржынскаму.*



1248. *Помнік К. Марксу.*

бібліятэку, архіў старажытных рукапісаў. Адзін з заснавальнікаў Віленскага музея старажытнасцей, член Віленскай археалагічнай камісіі. Даследаваў каля 200 курганоў, гарадзішчаў і замчышчаў у Мінскай губерні, склаў першыя тапаграфічныя планы гарадзішчаў. У 1856 г. арганізаваў экспедыцыю па р. Вілія, у час якой сабраў багаты этнаграфічны матэрыял. Член Маскоўскага археалагічнага таварыства з 1864 г. Асноўныя працы: «Гістарычныя звесткі пра старажытныя замкі, гарадзішчы і курганы ў Літве і Русі Літоўскай» (1859 г.), «Аб курганах у Літве і Заходняй Русі» (1865 г.), «Вілія і яе берагі» (1871 г.). Памёр 1.7.1868 г.

Я. П. Т ы ш к е в і ч — беларускі археолаг, гісторык, этнограф і краязнавец, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі. Брат К. П. Тышкевіча. Нарадзіўся 6.4.1814 г. З 1840 г. апякун школ Барысаўскага павета, у 1848—54 гг. куратар Мінскай гімназіі. Даследаваў курганы на Міншчыне і ў Літве. У 1847 г. у Мінску: член часовай камісіі па збору і выданню старажытных актаў, грамат і прывілеяў 16—18 стагоддзяў гарадоў Мінскай губерні. На аснове ўласнай археалагічнай калекцыі стварыў у 1855 г. Віленскі музей старажытнасцей. Заснавальнік і старшыня Віленскай археалагічнай камісіі. Ганаровы член Пецярбургскай і Стакгольмскай акадэміі навук, Лонданскага археалагічна-



1249. *Помнік П. Я. Харчанка.*

га інстытута. Асноўныя працы: «Апісанне Барысаўскага павета» (1847 г.), «Археалагічныя даследаванні помнікаў рамёстваў і г. д. у старажытнай Літве і Русі Літоўскай» (1850 г.). Памёр 27.8.1873 г.

*Літ.:* Кахаcоўскі Г. А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст.— Мн., 1984.

*Г. А. Каханоўскі.*

**в. Айнаравічы, Янушкавіцкі сельсавет**

**1251. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1252. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1253. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. 12 абкладзеных камянямі курганоў вышынёй 0,6—1,1 м, дыяметрам 6—8 м. Адкрыў і абследаваў у 1974 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.



1253. *Курганны могільнік. Адзін з насыпаў.*



1258. *Помнік землякам.*

**в. Акалова, цэнтр сельсавета**

**1254. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 28 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1255. МАГІЛА ГАТОЎКА** Алены Рыгораўны **І ГАТОЎКА** Ганны Сцяпанаўны (гіст.). На могілках. Жыхары вёскі А. Р. і Г. С. Гатоўкі загублены ў 1944 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Акцябр, цэнтр сельсавета**

**1256. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Побач з будынкам канторы саўгаса «Спадарожнік». Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1257. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 22 жыхары в. Расохі, якіх 30.5.1944 г. спалілі жывымі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1258. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 127 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1978 г. пастаўлены помнік — 3 пілоны з выявамі воіна, партызана і партызанкі. Справа — 5 пліт з імёнамі загінуўшых.

**в. Александрыно, Гайненскі сельсавет**

**1259. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,2 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1260. МАГІЛА БЕЛЯКОВІЧА** Уладзіміра Піліпавіча (гіст.). За 0,2 км на поўдзень ад вёскі. Воін У. П. Беляковіч загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Амнішава, Задор'еўскі сельсавет**

**1261. КАСЦЁЛ** (архіт.). Ва ўсходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з драўлянага бруса. Прамавугольны ў плане зруб з трохграннай алтарнай часткай. Двухсхільны дах стварае на галоўным фасадзе трохвугольны шчыт. Уваходны праём і вокны прамавугольныя. Фасады вертыкальна ашаляваны. У інтэр'еры — плоская столь, над уваходам — хоры. Касцёл — помнік народнага драўлянага дойлідства.

**1262. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,7 км на поўдзень ад вёскі, за ручаём, каля могілак. 30 насыпаў вышынёй 0,8—1,2 м, дыяметрам 5—7 м. Абследаваў у 1978 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1263. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 жыхароў вёскі, загубленых 21.5. 1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1264. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 мірныя жыхары, загубленыя ў 1943 г.



1261. *Касцёл. Галоўны фасад.*




1261. *Касцёл. План.*

нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1265. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 жыхары, якіх у маі 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1266. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 жыхары, спаленыя ў 1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1267. МАГІЛА ГАПАНОВІЧА** Браніслава Іосіфавіча (гіст.). На могілках. Партызан Б. І. Гапановіч загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1268. МАГІЛА ГАРОХАВІКА** П. Ф. (гіст.). На могілках. Савецкі воін П. Ф. Гарохавік загінуў у ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1269. МАГІЛА ГРЫДЗЮШКІ** Пятра Вікенцьевіча (гіст.). На могілках. Партызан П. В. Грыдзюшка загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1270. МАГІЛА ДРАЗДА** Пятра Паўлавіча (гіст.). На могілках. Партызан П. П. Дрозд загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Астрошыцы, цэнтр сельсавета**

**1271. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Аляксей Міхайлавіч Наскоў.

А. М. Наскоў нарадзіўся 21.11. 1924 г. у Яраслаўлі ў сям'і рабочага. Член ВЛКСМ. У Чырвонай Арміі з 1942 г. На фронце з ліпеня 1944 г. Вызначыўся ў баі 10.7.1944 г. Цаной свайго жыцця выратаваў ад смерці камандзіра батальёна. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. У Яраслаўлі яго імем названа вуліца.

*Літ.:* Герои огненных лет.— 3 изд.— Ярославль, 1985; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**1272. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 193 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Аўгустова, Знаменкаўскі сельсавет**

**1273. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,7 км на паўночны захад ад вёскі, на ўзвышшы. 17 насыпаў дыяметрам 4—6 м, вышынёй 0,6—1,3 м. Два курганы напалову зрыты, пашкоджаны ямамі. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1274. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 160 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — паясны бюст воіна.

**1275. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1974 г.

**в. Бабры, Янушкавіцкі сельсавет**

**1276. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1277. МАГІЛА ЕЛІСЕЕВА** Фёдара Паўлавіча (гіст.). На могілках. Партызан разведвальнай групы капітана М. М. Багатырова Ф. П. Елісееў загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1278. МАГІЛА ЛАТЫША** Віктара Якаўлевіча (гіст.). На могілках. Партызан В. Я. Латыш загінуў 30.1.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у час разгрому варожага гарнізона ў в. Касцяневічы Вілейскага р-на. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Баравыя (не існуе), Бяларуцкі сельсавет**

**1279. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). За 2,5 км на поўнач ад в. Дубніца знаходзілася в. Баравыя. У чэрвені 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску (22 двары) і загубілі 4 жыхароў. У 1963 г. на месцы спаленай вёскі ўстаноўлены абеліск.

**в. Беланы, Лагазінскі сельсавет**

**1280. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны воіны, што загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бяларучы, цэнтр сельсавета**

**1281. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1282. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ЛЕТЧЫКАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 4 лётчыкі, якія ў 1941 г. загінулі ў паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1283. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У цэнтры вёскі. Пляцоўка прамавугольная, памерам 63×30 м, пашкоджана траншэямі часоў Вялікай Айчыннай вайны. Вядома з канца 19 ст. Абследавалі ў 1897 г. Р. Г. Ігнацьеў, у 1964 г. Ю. І. Драгун, у 1979 г. М. І. Лашанкоў. У траншэях, зачыстках і шурфах сабрана ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1284. МАГІЛА ХАРЧАНКА** Надзеі Якаўлеўны (гіст.). У цэнтры вёскі. Партызанка брыгады «Штурмавая» Н. Я. Харчанка 22.12.1942 г. у час разгрому нямецка-фашысцкага гарнізона ў Лагойску ў рашучы момант бою замяніла забітага кулямётчыка і падтрымала агнём атаку партызан, што садзейнічала поспеху аперацыі. Загі-




1262. *Курганны могільнік. План.*



1288а. *Могільнік-1. План.*

нула ў гэтым баі. Узнагароджана ордэнам Леніна. У Лагойску яе імем названа вуліца, пастаўлены помнік (гл. артыкул № 1249 «Помнік Харчанка Надзеі Якаўлеўне»). У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1285. МАГІЛА ШЫМЧАНКА** Пятра Мікалаевіча (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Партызан П. М. Шымчанок загінуў 30.8.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1286. СЕЛІШЧА** (археал.). У цэнтры вёскі, з паўднёвага і паўднёва-заходняга боку ад гарадзішча. Плошча каля 1 га. Адкрыў і абследаваў у 1963 г. Ю. І. Драгун, абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Культурны пласт да 0,4 м. У шурфах выяўлена ганчарная кераміка. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Васількоўка, Задор'еўскі сельсавет**

**1287. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Замак. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Тартак, на канцы доўгага мыса, які абмежаваны з заходняга боку безназоўным ручаём, з іншых — поймай р. Цна. Пляцоўка амаль круглая, дыяметрам 57—59 м, пукатая ў цэнтры, мае паніжэнне ў бок валоў на 0,5—0,6 м. Умацавана 2 кальцавымі валамі і ровам. Унутраны вал насыпаны на краі пляцоўкі, вонкавы — на схіле (на 3,5—4 м ніжэй за аснову ўнутранага). Шырыня валоў каля асновы 7—10 м, глыбіня рова 1,5 м, шырыня 9—10 м. Вядома з 1924 г. Даследаваў у 1964, 1966, 1967 гг. А. Р. Мітрафанаў (на плошчы 402 м²). Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,2—0,25 м, бліжэй да ўнутранага вала 2—2,24 м. Выяўлены рэшткі жылых і гаспадарчых пабудоў слупавой канструкцыі. Агнішчы ў выглядзе пласта пяску таўшчынёй 0,1—0,15 м, абкладзенага валікам гліны ці камянямі, мелі даўжыню 1,2—1,4 м, шырыню 1,1 м. Знойдзены фрагменты штрыхаванага і гладкасценнага посуду, рабрыстыя, слоікавыя і слабапрафіляваныя гаршкі, жалезныя сярпы, абломак сякеры, посахападобная шпілька, падковападобная фібула, шылы, гліняныя праслiцы. Адносіцца да позняга этапа культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 4—5 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978.

*А. Р. Мітрафанаў.*



1288б. *Могільнік-2. План.*

**1288. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1288а.** Могільнік-1. За 1 км на захад ад вёскі. 21 курган вышынёй 1,1—2,5 м, дыяметрам 8—12 м. Адкрыў і даследаваў у 1962 г. А. Р. Мітрафанаў, абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. Раскапаны 2 насыпы. У першым прасочаны пахаванні па абраду трупаспалення, якія былі размешчаны 5 ярусамі. Пахавальны інвентар адсутнічаў. У другім кургане 2 пахаванні па абраду трупаспалення, адно знаходзілася ў цэнтры насыпу. Знойдзены невялікі гаршчок конусападобнай формы. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1288б.** Могільнік-2. За 1,5 км на захад ад вёскі (за 0,5 км на захад ад могільніка-1). 37 насыпаў вышынёй 1,2—3,1 м, дыяметрам 8—15 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

*М. І. Лашанкоў.*

**в. Вейна, Задор'еўскі сельсавет**

**1289. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 партызан атрада імя Суворава брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1290. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,2 км на паўночны ўсход ад вёскі, недалёка ад могілак. 41 курган вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 6—10 м. У 1970 г. у разбураным кургане знойдзены касцяк, пры якім была жалезная сякера 11 ст. Даследаваў у 1978 г. Г. В. Штыхаў, раскапаны 2 насыпы. У адным былі рэшткі трупапалажэння, у другім — 2 пахаванні па абраду трупаспалення і трупапалажэння. Датуюцца канцом 10—11 ст. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

**1291. МАГІЛА ЗЯЛЁНКАЎ** Іосіфа Аляксандравіча і Вікторыі Захараўны (гіст.). На могілках. І. А. і В. З. Зялёнкі забіты 29.6.1944 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Весніно, Астрошыцкі сельсавет**

**1292. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1293. СЕЛІШЧА** (археал.). У вёсцы, на сядзібных участках. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1964 г. Ю. І. Драгун, у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Знойдзены фрагменты ганчарнай керамікі эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вялікія Нястанавічы, цэнтр Нястанавіцкага сельсавета**

**1294. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1295. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст С. М. Кірава ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Вяпраты, Янушкавіцкі сельсавет**

**1296. МАГІЛА ЛІЦВІНЕНКІ** Я. (гіст.). На могілках. Партызан Я. Ліцвіненка загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.




1290. *Курганны могільнік. План.*

**1297. МАГІЛА ЯНУШКЕВІЧА** Рамана Андрэевіча (гіст.). На могілках. Партызан Р. А. Янушкевіч загінуў у 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вяча, Бяларуцкі сельсавет**

**1298. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 5 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1920 г. у баях супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гайна, цэнтр сельсавета**

**1299. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны капітан Чырвонай Арміі і 2 партызаны — А. Г. Шапавалаў і І. В. Кохан, якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1300. МАГІЛА КАЗЛОВА** Фёдара Фёдаравіча **І КРУПІЦКАГА** Цімафея Васілевіча (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны капітан Чырвонай Арміі Ф. Ф. Казлоў і савецкі воін Ц. В. Крупіцкі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1971 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1301. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). У цэнтры вёскі, каля дарогі Лагойск — Янушкавічы. Пастаўлены ў 1978 г. (скульпт. В. Квасаў) на ўшанаванне памяці 188 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Архітэктурна-скульптурная кампазіцыя пабудавана на спалучэнні вертыкальна дамінуючай скульптуры воіна і гарызантальнай бетоннай панелі. Скульптура воіна (бетон, вышыня больш за 5 м) з разгорнутым сцягам і аўтаматам трактавана ў дынаміцы. На бетоннай панелі 6 металічных пліт з імёнамі загінуўшых воінаў-землякоў. На бутавым парапеце аб'ёмны надпіс-прысвячэнне. *А. М. Кулагін.*

**в. Ганцавічы, Каменскі сельсавет**

**1302. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1303. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 17 мірных жыхароў вёскі, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў чэрвені 1943 г. У 1967 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**в. Ганявічы, Чырванашвабаўскі сельсавет**

**1304. РАДЗІМА ЗАХАРАВА** Івана Кузьміча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, адзін з арганізатараў камуністычнага падполля і партызанскага руху ў Віцебскай вобл. у Вялікую Айчынную вайну, заслужаны дзеяч культуры БССР (1980 г.) І. К. Захараў нарадзіўся 30.7. 1909 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1937 г. Скончыў Вышэйшую камуністычную сельскагаспадарчую школу ў 1934 г., Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КП(б)Б у 1948 г. Працаваў старшынёй сельсавета, дырэктарам Чапаеўскай МТС Асвейскага р-на Віцебскай вобл. У 1941 г. арганізаваў і ўзначаліў Асвейскае камуністычнае падполле, у красавіку 1942 г.— партызанскі атрад імя М. В. Фрунзе. З ліпеня 1942 г. да студзеня 1944 г. камандзір Асвейскай партызанскай брыгады імя М. В. Фрунзе, адначасова з чэрвеня 1942 г. да снежня 1943 г. першы сакратар Асвейскага падпольнага райкома КП(б)Б. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.1.1944 г. У 1944—46 гг. сакратар Дрысенскага, Докшыцкага райкомаў КП(б)Б. У 1953—63 гг. старшыня Рэспубліканскага камітэта прафсаюза рабочых будаўніцтва і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў. Аўтар кнігі «Вайна ў краі азёр» (2-е выд., 1973 г.). Памёр 18.5.1982 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*



1301. *Помнік землякам.*

**в. Гаравец, Зарэчанскі сельсавет**

**1305. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 жыхары вёскі, якіх 23.11.1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1306. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 35 жыхароў в. Трысцень, якіх у маі 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1969 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**1307. МАГІЛА ДЖАНУМЯНА** Мікалая Самвелавіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін М. С. Джанумян загінуў у ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1308. МАГІЛА МІРУШЧАНКІ** Н. (гіст.). На могілках. Партызан Н. Мірушчанка загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1309. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**в. Гарадзец, Акалоўскі сельсавет**

**1310. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гарадзішча, Акцябрскі сельсавет**

**1311. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка памерам 73×50 м, вышынёй 30 м. З паўночнага боку ўмацавана валам, з заходняга — ровам глыбінёй 2 м. З усходняга боку на схіле ёсць роў і вал вышынёй 1,9 м. Абследаваў у 1978 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт ў шурфе (0,5×0,5 м) 0,4 м. Знойдзены 3 фрагменты ляпнога посуду. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Гасцілавічы, Лагойскі пасялковы Савет**

**1312. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Тур'я, у лесе. 8 насыпаў вышынёй 1,2 м, дыяметрам 8—10 м. Вядомы з 1924 г., абследавалі ў 1924 г. А. М. Ляўданскі, у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1313. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці жыхароў вёсак Гасцілавічы, Панізоўе і Рудня, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына.

**в. Глебаўшчына, Акалоўскі сельсавет**

**1314. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі,

ва ўрочышчы Замак, на ўзвышшы, вышынёй 10 м над наваколлем. Пляцоўка плошчай 0,15 га умацавана 2 валамі вышынёй 1,2—2 м і равамі глыбінёй 0,8—1,2 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Горна, Задор'еўскі сельсавет**

**1315. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны воін і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1316. МАГІЛА САЛАЎЁВА** Р. (гіст.). На могілках. Партызан Р. Салаўёў загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Грыневічы, Крайскі сельсавет**

**1317. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дальва (не існуе), Акалоўскі сельсавет**

**1318. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС ДАЛЬВА** (гіст., маст.). За 10 км ад шашы Мінск — Бягомль, за 15 км ад г. п. Плешчаніцы, на паляне сярод лесу. Адкрыты ў 1973 г. (скульпт. У. Церабун; бетон; вышыня скульптуры 4 м, бэлек 6,5 м; сцяна 16×1,5 м; надмагільная пліта 1,5×2,5×0,4 м). Каля дарогі ўстаноўлены камень-валун, на якім высечаны надпіс: «Да 19 чэрвеня 1944 г. тут была вёска Дальва. За 10 дзён да вызвалення гітлераўцы жывымі спалілі яе жыхароў». Непадалёку на нізкім пастаменце ўзвышаецца скульптура жанчыны, за ёю ўздыбленыя абгарэлыя бэлькі — сімвал спаленага дома; справа — сцяна з імёнамі загінуўшых і надмагільная пліта. Па ўсёй даўжыні сцяны надпіс: «Людзі, схіліце галовы перад памяццю жыхароў вёскі Дальва, бязвінна загубленых 19 чэрвеня 1944 г.».

Асноўны кампазіцыйны акцэнт помніка — фігура жанчыны з дзіцем. Маладая маці стаіць босая, прыхінае да сябе сына. У яе твары гнеў і журба, нязгасная сіла жыцця. Скульптура вырашана строга, манументальныя формы гранічна простыя. Сукенка, накінутая на левае плячо хустка прапрацаваны абагульнена, твар і аголеная фігурка дзіцяці — дэталёва.

Дарожкі, якія вядуць да помніка, размешчаны пад вуглом, што дазваляе бачыць помнік з розных пунктаў, вастрэй адчуць трагедыю чэрвеньскага дня 1944 г., калі загінулі жыхары вёскі. У памяць аб ахвярах фашызму пасаджаны 44 бярозкі. Пляцоўкі перад усімі элементамі комплексу, дарожкі, якія вядуць да іх, выкладзены каменнем, пасыпаны шэрай галькай, што ў кантрасце з зеленню газонаў стварае ўражанне выпаленай зямлі.

*Літ.:* Гирилович Н. Дальва — сестра Хатыни.— Мн., 1977. *Л. Г. Лапцэвіч.*



1318. *Мемарыяльны комплекс Дальва.*

**в. Далькавічы, Акалоўскі сельсавет**

**1319. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 157 жыхароў вёсак Альхоўка, Губа, Далькавічы, Забалацце, Капатніца, Тарасіно і Чарніца, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**1320. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1320а.** Селішча. На ўсходняй ускраіне вёскі. Плошча каля 0,5 га. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. Сабрана ганчарная кераміка перыяду позняга феадалізму. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1320б.** Курганны могільнік. За 0,7 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. 81 насып вышынёй 0,8—3 м, дыяметрам 3—8 м. Курганы моцна зараслі лесам. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся. *М. І. Лашанкоў.*

**в. Дзвінаса, Задор'еўскі сельсавет**

**1321. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАН** (археал.).

**1321а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Мокрыцкая Гара. За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Дзвінаса. Пляцоўка плошчай 0,25 га не мае штучных умацаванняў. Вядома з 1924 г. Абследаваў у 1978 г. Г. В. Штыхаў. У культурным пласце ў заходняй частцы пляцоўкі знойдзены фрагменты ганчарнай керамікі феадальнага часу. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1321б.** Курган. За 0,4 км на захад ад вёскі, у полі, каля могілак. Вышыня 1,4 м, дыяметр 11 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1978 г. Г. В. Штыхаў. *М. І. Лашанкоў.*

**1322. МАГІЛЫ ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 19 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дзераўно, Крайскі сельсавет**

**1323. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан загінуў у 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**1320б.** *Курганны могільнік. План.*

**в. Дубніца, Бяларуцкі сельсавет**

**1324. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Пахаваны 78 мірных жыхароў, расстраляных у 1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Жардзяжжа, Акалоўскі сельсавет**

**1325. КАПЛІЦА** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 2-й палове 19 — пачатку 20 ст. з цэглы і бутавага каменю. Невялікае цэнтрычнае васьміграннае ў плане збудаванне завершана драўляным васьмігранным барабанам з макаўкай. З паўднёва-заходняга боку будынка выступае неглыбокі рызаліт, у тоўшчы якога паўкруглая апсіда з конхай. Галоўны фасад завершаны трохвугольным франтонам. Уваходны арачны партал і аконныя праёмы дэкарыраваны простымі ліштвамі з замковым каменем. Фасады крапаваны вуглавымі пілястрамі, антаблементам. У дэкоры фасадаў выкарыстаны мазаічныя ўкрапіны дробнага шчэбеню. Памяшканне капліцы перакрыта плоскай драўлянай столлю, пад падлогай склеп.

Капліца — помнік эклектычнай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**в. Жасцінае, Акалоўскі сельсавет**

**1326. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 41 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Завішына, Нястанавіцкі сельсавет**

**1327. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 76 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Загор'е (не існуе), Лагазінскі сельсавет**

**1328. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Загор'е знаходзілася за 2 км на паўночны захад ад в. Лагаза. У жніўні 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 81 жыхара, вёску (26 двароў) спалілі. Пасля Вялікай Айчыннай вайны вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь».




1325. *Капліца. План.*



1329. *Помнік землякам.*

**в. Задор'е, цэнтр сельсавета**

**1329. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 110 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, пастаўлены помнік: скульптура партызана на фоне стэлы.

**в. Заполле, Нястанавіцкі сельсавет**

**1330. МАГІЛА КАЗАКОЎ** Ніны Дзям'янаўны і Міхаіла Дзям'янавіча (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі. Мірныя жыхары Ніна Дзям'янаўна і Міхаіл Дзям'янавіч Казакі 3.5.1943 г. спалены нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Зарэчча, цэнтр сельсавета**

**1331. МАГІЛЫ ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. У чатырох магілах пахаваны 12 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. каля магіл пастаўлены абеліск.

**в. Засоўе, Задор'еўскі сельсавет**

**1332. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 557 мірных жыхароў вёсак саўгаса «Лонва», загубленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў час акупацыі раёна, і 76 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць ворага, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына з дзіцем і 3 стэлы (з надпісам-прысвячэннем і імёнамі 76 загінуўшых воінаў і партызан).

**в. Зацэнне, Каменскі сельсавет**

**1333. СТАЯНКА** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, на абодвух берагах выпрастанага рэчышча р. Цна, на поўнач ад моста, каля аўтамабільнай дарогі Плешчаніцы — Барысаў. Памер 40×80 м. Выявіў у 1966 г. С. Шубар, даследаваў у 1966, 1967 гг. М. М. Чарняўскі. У культурным пласце знойдзены рэшткі драўляных жардзяных канструкцый, крамянёвыя і касцяныя прылады працы, кераміка, крамянёвыя нажы, скрабкі, разцы, наканечнікі стрэл, касцяныя верацёнападобныя наканечнікі стрэл, праколкі, матыкі, кінжалы і долатападобныя вырабы (адна матыка і наканечнік стралы арнаментаваны лінейным і зігзагападобным узорам), абломкі ляпных вастрадонных гаршкоў з дамешкамі тоўчаных ракавін у гліне, арнаментаваных разрэджанымі гарызантальнымі паяскамі грабеньчатых адбіткаў, насечак і наколаў. Пры выпрастанні рэчышча Цны знойдзены абломак чоўна-даўбёнкі. Асноўная колькасць знаходак аднасіцца да ранняга неаліту, датуецца сярэдзінай 4-га тысячагоддзя да н. э. На ўсходнім краі стаянкі трапляюцца матэрыялы сосніцкай культуры бронзавага веку (сярэдзіна 2-га тысячагоддзя да н. э.).

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна).

*Літ.:* Долуханов П. М. и др. Палеогеография и абсолютная хронология стоянки Заценье.— Доклады АН БССР, 1976, № 9. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Звярынічы, Гайненскі сельсавет**

**1334. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 22 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1335. МАГІЛА КУЛІКА** П. Н. (гіст.). На могілках. Партызан П. Н. Кулік загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Знаменка, цэнтр сельсавета**

**1336. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 29 мірных жыхароў, загубленых гітлераўскімі карнікамі ў 1943 г. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1337. МАГІЛА ГЕВАРКЯНА** Завелы Гялуштавіча (гіст.). На могілках.



1332. *Помнік землякам.*

Лейтэнант Чырвонай Арміі З. Г. Геваркян загінуў у ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1981 г. на магіле пастаўлены бюст.

**1338. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Зялёны Сад, Лагазінскі сельсавет**

**1339. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Ідаліна (не існуе), Лагазінскі сельсавет**

**1340. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ, МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вёска Ідаліна знаходзілася за 1,2 км на паўночны захад ад в. Кузевічы. У 1943 г. у час карнай экспедыцыі «Котбус» нямецка-фашысцкія акупанты спалілі 28 жыхароў і вёску (10 двароў). Пасля вайны вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ізбішча, цэнтр сельсавета**

**1341. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны і партызаны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1342. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1342а.** К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к. За 0,8 км на поўдзень ад вёскі, на беразе р. Дзвінаса. Каля 145 насыпаў дыяметрам 3—19 м, вышынёй 0,5—3 м. 5 курганоў у плане падоўжаныя, памерам 6×10 м×1,5 м. Каля асобных насыпаў ёсць раўкі. Адкрыў у 1980 г. М. І. Лашанкоў, абследавалі ў 1982 г. Г. В. Штыхаў, у 1986 г. В. У. Казей. У 1981 г. скарбашукальнікі раскапалі 3 курганы. Пахавальны абрад — трупаспаленне, знойдзены двухшыпныя наканечнікі стрэл, рыбалоўны кручок, бронзавая падковападобная фібула, бронзавы бранзалет з канцамі ў выглядзе змяіных галовак, крэсіва, нож і падпраўлены на ганчарным крузе гаршчок 1-й паловы 10 ст.

**1342б.** С е л і ш ч а. За 1—1,2 км на паўднёвы захад ад вёскі, на краі тэрасы паміж могільнікам і вузкай стужкай прабярэжнай поймы Дзвінасы. Плошча каля 20 тыс. м². Адкрыў у 1985 г. М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1986 г. В. У. Казей. Культурны пласт да 0,5 м. Знойдзена ганчарная кераміка.

*Літ.:* Ш т ы х о в Г. В. Исследования в окрестностях Минска, Борисова, Логойска.— У кн.: Археологические открытия 1982 года. М., 1984. *М. І. Лашанкоў.*

**1343. МАГІЛЫ ГАДУНОВА** Барыса Міхайлавіча **І ІГНАЦЬЕВА** Уладзіміра Генадзевіча (гіст.). На могілках.

Партызан Б. М. Гадуноў загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

Партызан У. Г. Ігнацьеў загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1344. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1345. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 129 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.

**1346. ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 19 ст. з драўлянага бруса. Аднazрубны прамавугольны ў плане аб'ём з трохграннай апсідай. Двухсхільны дах завершаны цыбулепадобнай галоўкай. Над апсідай дах пераходзіць у трохсхільны з вялікім карнізным вынасам. Фасады вертыкальна ашаляваны, асіметрычна расчлянёны вертыкальнымі сцяжкамі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Галоўны фасад завершаны трохвугольным шчытом, аддзеленым ад плоскасці фасада латаком. Зала перакрыта плоскай бэлечнай столлю. Апсіда аддзелена іканастасам пазнейшай работы. Пры ўваходзе тамбур.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**в. Казінец, Каменскі сельсавет**

**1347. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі, у лесе, на высокім пагорку. Пляцоўка яйцападобная, памерам 20×43 м, з трох бакоў умацавана 2 валамі і 3 равамі (з поўначы і захаду знівеліраваны), з паўднёвага боку — стромкі схіл. Глыбіня першага ад пляцоўкі рова 1,8 м, другога — 1 м, трэцяга — 0,5 м. Вышыня ўнутранага вала 1,2 м, вонкавага 1 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1348. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на паўночны ўсход ад




1346. *Царква. План.*

вёскі, у лесе. 33 насыпы вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 2—9 м (адзін курган прамавугольны памерам 4×6 м). Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся. *М. І. Лашанкоў.*

**в. Казлеўшчына, Янушкавіцкі сельсавет**

**1349. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ М. В. ФРУНЗЕ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі.

У Вялікую Айчынную вайну ў вёсцы размяшчаўся штаб партызанскай брыгады імя М. В. Фрунзе. Брыгада створана ў студзені 1943 г. на базе асобных атрадаў «За Радзіму», імя К. Я. Варашылава, «Камсамолец». Камандзіры брыгады: М. М. Багатыроў (студзень — май 1943 г.), А. М. Захараў (май — верасень 1943 г., загінуў), Э. Л. Смаленскі (верасень 1943 г.— ліпень 1944 г.); камісары: І. І. Міроненка (студзень 1943 г.— студзень 1944 г.), П. М. Шалкоўскі (студзень — сакавік 1944 г.), М. В. Чарапанаў (сакавік — ліпень 1944 г.).

Партызаны грамілі варожыя гарнізоны, 7 разоў пераразалі падземны кабель сувязі фронту з Берлінам. У студзені 1944 г. падарвалі электрастанцыю ў Маладзечне. Праводзілі дыверсіі на ўчастках чыгункі Вілейка — Маладзечна, Маладзечна — Мінск, шашы Лагойск — Мінск, Мінск — Заслаўе, адбілі 4 карныя экспедыцыі акупантаў. У канцы чэрвеня 1944 г. партызаны вызвалілі вёскі Ілья, Раёўка, Вязынь і ўтрымлівалі іх да прыходу Чырвонай Арміі. 1.7.1944 г. партызанская брыгада імя М. В. Фрунзе (атрады «За Радзіму», імя К. Я. Варашылава, «За Савецкую Беларусь», «Чырвоны Сцяг»; 844 партызаны) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі. У 1971 г. у гонар партызанскай брыгады пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *В. В. Семянюк.*



1347. *Гарадзішча. План.*



1348. *Курганны могільнік. План.*

**в. Калачы, Янушкавіцкі сельсавет**

**1350. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці землякоў з вёсак саўгаса «Селішча», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлена скульптурная кампазіцыя: фігуры жанчыны-маці, маладога воіна і дзяўчыны.

**в. Камароўка, Плешчаніцкі пасялковы Савет**

**1351. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 145 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. пастаўлены 3 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Камена, цэнтр сельсавета**

**1352. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1353. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1353а.** Гарадзішча. За 0,3 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе р. Каменка, у лесе. Пляцоўка яйцападобная, памерам 20×43 м. З трох бакоў умацавана валамі вышынёй 1 м і ровам глыбінёй 2,5 м, якія найбольш прыкметныя ў паўночна-ўсходняй частцы. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. У трануэях часоў Вялікай Айчыннай вайны прасочаны культурны пласт. Раскопкі не праводзіліся.

**1353б.** Селішча-1. Побач з гарадзішчам, каля падножжа мыса. Плошча каля 1,3 га. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. У культурным пласце знойдзена ганчарная кераміка. Адносіцца да позняга феадалізму.

**1353в.** Селішча-2. За 0,1 км ад будынка выканкома сельскага Савета, каля дарогі да селішча-1. Памер 100×400 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. У культурным пласце на асобных участках каля 0,5 м выяўлена ганчарная кераміка. Адносіцца да позняга феадалізму.

Матэрыялы абследавання селішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. І. Лашанкоў.*

**1354. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у ліпені 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні вёскі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1355. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 293 жыхароў вёсак саўгаса «Кастрычніцкі», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Каменская Слабада, Каменскі сельсавет**

**1356. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, на ўзвышшы, у лесе. Пляцоўка авальная, памерам 36×50 м, умацавана кальцавым валам вышынёй 0,5—1 м і ровам глыбінёй 0,8 м. З паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга бакоў назіраюцца праходы шырынёй каля 2 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.




1353а. *Гарадзішча. План.*




1355. *Помнік землякам.*

**1357. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на захад ад вёскі, на ўзвышшы, у лесе. Пляцоўка памерам 27×105 м, з паўночнага ўсходу і паўднёвага захаду ўмацавана 2 валамі і равамі, з усходу і захаду абмежавана стромкім схілам узвышша. Паміж валамі і равамі прасочваецца ўваход. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

*М. І. Лашанкоў.*



1356. *Гарадзішча. План.*

**в. Кандратавічы, Астрошыцкі сельсавет**

**1358. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 122 мірныя жыхары, якіх 25.6.1943 г. спалілі разам з вёскай нямецка-фашысцкія акупанты. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Корань, Гайненскі сельсавет**

**1359. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 20 партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Косіна, Знаменкаўскі сельсавет**

**1360. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 32 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Фёдар Гаўрылавіч Крылоў.

Ф. Г. Крылоў нарадзіўся 20.4. 1922 г. у в. Пушкіна Круцінскага р-на Омскай вобл. у сялянскай сям'і. У Чырвонай Арміі з 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1944 г. Вызначыўся пры вызваленні Лагойскага р-на. 10.7.1944 г. у час бою каля в. Рэпішча аўтаматчык, яфрэйтар Ф. Г. Крылоў падпоўз да варожага кулямёта, які вёў флангавы агонь, і знішчыў яго гранатай. Акружаны гітлераўцамі, адстрэльваўся да апошняга патрона. Гранатай падарваў 6 гітлераўцаў і сябе. Натхнёныя геройскім учынкам Ф. Г. Крылова, воіны батальёна паспяхова правялі аперацыю па знішчэнню праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Імем Ф. Г. Крылова названа вуліца у Лагойску.

У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск і стэла.

*Літ.:* Навечна в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*



1357. *Гарадзішча. План.*



1361. *Помнік землякам.*

**1361. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 128 воінаў, партызан і мірных жыхароў — ураджэнцаў вёсак саўгаса «Косінскі», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызан, побач — стэла з імёнамі загінуўшых.

**1362. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст.



1362. *Царква. Агульны выгляд.*



1362. *Царква. Від з боку апсіды.*




1362. *Царква. План.*

(да 1886 г.) з драўлянага бруса. Храм крыжова-купальны, сіметрычна-восевай кампазіцыі. Да выцягнутага па падоўжнай восі васьміграннага аб'ёму, накрытага вальмавым дахам, з 4 бакоў далучаны бабінец, 2 бакавыя крылы і пяціграння апсіда. У сяродкрыжжы — васьміграппы барабан з шатровым верхам. Фасады гарызантальна ашаляваны, расчлянёны адзінарнымі і трохчасткавымі аконнымі праёмамі ў ліштвах з сандрыкамі. Сцены ў інтэр'еры аздоблены шэра-блакітнай тынкоўкай і размалёўкай пад панелі. Пры ўваходзе ў храм вылучаны невялікія памяшканні тамбура і бакавых клецей.

Царква — помнік архітэктуры класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**в. Крайск, цэнтр сельсавета**

**1363. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 138 жыхароў вёсак сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура параненага воіна, побач — 3 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Крамянец, Янушкавіцкі сельсавет**

**1364. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны і 2 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Крапужына, Астрошыцкі сельсавет**

**1365. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1,3 км на ўсход ад вёскі, каля вытоку р. Усяж. Плошча каля 0,8 га. Адкрыў і абследаваў у 1964 г. Ю. І. Драгун, у 1979 г. абследаваў М. І. Лашанкоў. Сабрана ганчарная кераміка. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Краснае, Задор'еўскі сельсавет**

**1366. МАГІЛА КРАСОЎСКАГА** Пятра Ігнатавіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага П. І. Красоўскі загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1367. МАГІЛА ЛАЗАРА** Уладзіміра Аляксеевіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага У. А. Лазар загінуў у 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кузевічы, Лагазінскі сельсавет**

**1368. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,8 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Замак, на ўзвышшы, за 0,3 км ад левага берага р. Гайна. Пляцоўка авальная, памерам 54×30 м, умацавана 2 валамі і равамі (вышыня валоў 2,3 м, глыбіня равоў 1 м). Адкрыў у 1857 г. К. П. Тышкевіч, абследавалі ў 1963 г. Л. Д. Побаль, у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Знойдзена ляпная кераміка ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1369. МАГІЛА ШЫНКЕВІЧА** Цераха Іосіфавіча (гіст.). За 1,2 км на паўночны захад ад в. Кузевічы, на месцы былой в. Ідаліна. Пахаваны мірны жыхар Ц. І. Шынкевіч, спалены ў 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**1370. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 0,3 км на ўсход ад вёскі. На ўшанаванне памяці яе жыхароў, загубленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—44 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лагаза, цэнтр сельсавета**

**1371. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 186 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лагі, Чырванашвабаўскі сельсавет**

**1372. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 22 воіны і партызаны, што загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Леснікі, Задор'еўскі сельсавет**

**1373. МАГІЛА АПАНАСЕНКІ** Веры Карпаўны (гіст.). На могілках. Радыстка партызанскай брыгады «Жалязняк» В. К. Апанасенка загінула ў маі 1944 г. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1374. МАГІЛЫ ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 партызан 1-га і 6-га атрадаў брыгады імя М. І. Кутузава, якія загінулі ў 1943—44 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. пастаўлены абеліск.

**в. Людвінова, Крайскі сельсавет**

**1375. МАГІЛЫ ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 партызан брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1973 г. пастаўлена стэла.

**в. Ляды, Чырванашвабаўскі сельсавет**

**1376. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 18 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малінаўка, Лагазінскі сельсавет**

**1377. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,3 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 40 воінаў, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1378. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 450 м на ўсход ад вёскі, каля дарогі на Лагойск. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Малыя Бясяды, Янушкавіцкі сельсавет**

**1379. МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 41 воін і партызан брыгады «Штурмавая», што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 г. Тут жа пахаваны начальнік штаба партызанскага атрада «За Бацькаўшчыну» А. Г. Галашчокін, які загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў 7.1.1944 г. У 1964 г. у цэнтры могілак пастаўлены абеліск.

**в. Малыя Гаяны, Бяларуцкі сельсавет**

**1380. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны, якія загінулі ў 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1363. *Помнік землякам.*

1381. **БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1920 г. у баях супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Маркаўшчына, Бяларуцкі сельсавет**

1382. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 9 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Масцішча 1-е, Чырванашвабаўскі сельсавет**

1383. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў і партызан, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

1384. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 64 мірныя жыхары, якіх у маі 1944 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мачаны, Бяларуцкі сельсавет**

1385. **ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Замчышча, у лесе. Пляцоўка прамавугольная, памерам 57×26 м, умацавана 2 валамі вышынёй 2 м і равамі глыбінёй 1 м. Вядома з 1923 г. Абследаваў у 1964 г. Ю. І. Драгун. У культурным пласце 0,4 м знойдзены рэшткі штрыхаванай, глянцаванай і гладкасценнай керамікі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Міхалова, Лагойскі пасялковы Савет**

1386. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, уздоўж аўтамабільнай дарогі Плешчаніцы — Мінск, у лесе. 24 насыпы вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 6—12 м. Каля курганоў прасочаны раўкі, на вяршынях ёсць западзіны. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Мокрадзь, Каменскі сельсавет**

1387. **ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, каля балота. Пляцоўка памерам 30×20 м штучных умацаванняў не мае. Вядома з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Мыльніца (не існуе), Чырванашвабаўскі сельсавет**

1388. **МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Мыльніца знаходзілася за 2 км на поўнач ад в. Забярозаўка. У чэрвені 1944 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 26 жыхароў і спалілі 7 двароў. Пасля вайны вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Наваганцавіцкая Рудня, Каменскі сельсавет**

1389. **КУРГАН** (археал.). За 450 м на паўночны захад ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Далькавічы. Вышыня 1 м, дыяметр 6 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў.



1386. *Курганны могільнік. План.*

**в. Ніўкі, Лагойскі пасялковы Савет**

1390. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 160 жыхароў, спаленых жывымі нямецка-фашысцкімі захопнікамі 23.6.1943 г. У 1974 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Панізоўе, Лагойскі пасялковы Савет**

1391. **ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Замчышча, на левым беразе р. Гайна. Пляцоўка амаль квадратная, памерам 180×178 м, валоў і равоў няма. Адкрыў у 1857 г. К. П. Тышкевіч, абследавалі ў 1924 г. А. М. Ляўданскі, у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Культурны пласт не выяўлены. Трапляюцца абломкі ляпной, а таксама ганчарная кераміка 11—12 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. І. Лашанкоў.*

**в. Панышы, Янушкавіцкі сельсавет**

1392. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 20 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Пасадзец, Зарэчанскі сельсавет**

1393. **МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БЯДУЛЮ** Змітраку (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1961 г.

Беларускі савецкі пісьменнік З. Бядуля (літаратурныя псеўданімы Ясакар, Сымон, Пустэльнік, Іскра, Святагор, Ярыла Чырвоны; сапраўднае Самуіл Яфімавіч Плаўнік) нарадзіўся 23.4.1886 г. у в. Пасадзец. Быў хатнім настаўнікам, з 1902 г. канторшчыкам на лесаапрацоўках. У 1912 г. пераехаў у Вільню. Тут працаваў у выдавецкім таварыстве, у газеце «Наша ніва». У 1915 г. вярнуўся ў Пасадзец, потым пераехаў у Мінск, жыў на адной кватэры з М. Багдановічам. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі супрацоўнік газеты «Савецкая Беларусь», рэдактар часопісаў дзіцячага «Зоркі» і краязнаўчага «Наш край». Уваходзіў у літаратурныя аб'яднанні «Маладняк», «Узвышша».

Першы друкаваны твор — абразок на беларускай мове «Пяюць начлежнікі» апублікаваны ў 1910 г. у «Нашай ніве». У 1913 г. выдаў першы зборнік «Абразкі». У апавяданнях «Малітва малога Габрусіка», «Злодзей», «Гора ўдавы Сымоніхі», «Умарыўся» і інш. паказаў сацыяльны ўціск беларускага сялянства, «На каляды к сыну» — асудзіў здраду часткі беларускай інтэлігенцыі нацыянальным ідэалам, роднаму народу. Паэтызаваў духоўную стойкасць селяніна, яго веру ў лепшую будучыню (апавяданне «Буслы»).

З. Бядуля не адразу зразумеў мэты і задачы Кастрычніцкай рэвалюцыі. Але паступова яго творы набылі сугучнасць новаму часу: паэма «Беларусь» (1923 г.), зборнікі «Буралом» (1925 г.), «Паэмы» (1927 г.). Савецкай рэчаіснасці прысвечаны аповесці «Год за годам» (1927 г.) і «Таварыш Мінкін» (1930 г.), апавяданні «Дэлегатка», «Тры крыжыкі», «Рунь», «Дзве ночы» і інш. У аповесці «Салавей» (1927 г.) аўтар выкарыстаў фальклорны сюжэт для паказу мінулага сялян, іх барацьбы з панамі-прыгоннікамі. У 1928—32 гг. напісаў раман «Язэп Крушынскі», у якім раскрыты складаныя працэсы грамадскага жыцця 1920-х гадоў. Выдаў аўтабіяграфічныя аповесці «Набліжэнне» (1935 г.) і «У дрымучых лясах» (1939 г.). У кнізе «Сярэбраная табакерка» (1958 г.), пабудаванай на традыцыйных фальклорных матывах, сцвярджаецца ідэя барацьбы народа за волю і шчаслівае жыццё. Пісаў для дзяцей: «Качачка-цацачка» (1927 г.), «Мурашка-Палашка» (1939 г.), «Хлопчык з-пад Гродна» (1940 г.) і інш. Даследаваў пытанні этнаграфіі і фальклору, пераклаў на беларускую мову асобныя творы Т. Шаўчэнкі, Ю. Будзяка, яўрэйскіх пісьменнікаў. Памёр 3.11.1941 г. Імем пісьменніка названы вуліцы ў гарадах Віцебск, Жабінка, Маладзечна, Мінск, школа ў в. Пасадзец.

*Літ.:* Смолкін М. Д. Змітрок Бядуля.— Мн., 1961; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *Г. М. Новікава.*

**1394. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 139 жыхароў вёсак калгаса імя Ф. Энгельса, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена сцяна Памяці са шпілепадобным завяршэннем у цэнтры.

## XIV. ПЛЕШЧАНІЦЫ

Гарадскі пасёлак, цэнтр саўгаса «Плешчаніцкі». За 27 км на поўнач ад Лагойска, 67 км ад Мінска, на беразе Плешчаніцкага вадасховішча, на перасячэнні аўтамагістралей Барысаў — Вілейка і Мінск — Віцебск.

Вядомы з 16 ст. як вёска ў Мінскім павеце Вялікага княства Літоўскага. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. у ваколіцах Плешчаніц у 1656—57 гг. руйнаваў шляхецкія маёнткі атрад беларускіх сялян Дзяніса Мурашкі. З 1793 г. у складзе Расійскай імперыі, мястэчка (50 дамоў), цэнтр воласці ў Барысаўскім павеце Мінскай губерні. У Айчынную вайну 1812 г. пры адступленні французскай арміі рускі атрад генерала Чапліца каля Плешчаніц 19 лістапада разбіў авангард 9-га французскага корпуса Віктора, захапіў 6 гармат і больш за 1400 палонных.

Мястэчка належала графам Тышкевічам, што пабудавалі (1817 г.) тут царкву, стварылі прыгонны тэатр, які дзейнічаў у 1825—35 гг. і быў шырока вядомы. Жыхары мястэчка займаліся дробным гандлем, вырабам драўлянага посуду, цвікоў, лыжак і інш. Тут былі школа, сінагога, вінакурны завод, 5 крам, 2 піцейныя двары, кожны аўторак працаваў рынак, 2 разы на год адбываліся кірмашы. У 1882 г. заснавана фабрыка шавецкіх капылоў, у 1895 г. на ёй устаноўлена паравая машына (106 рабочых), пазней пачала працаваць фабрыка шавецкіх гваздоў (38 рабочых у 1904 г.). Паводле перапісу 1897 г., у Плешчаніцах 1086 жыхароў; дзейнічалі паштова-тэлефоннае аддзяленне, аднакласнае народнае вучылішча.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У гады Грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі ў ваколіцах Плешчаніц супраць германскіх (1918 г.) і польскіх (1919—20 гг.) акупантаў змагаліся партызанскія атрады. З 17.7.1924 г. пасёлак, цэнтр раёна ў Барысаўскай, у 1927—30 гг.— у Мінскай акругах. У 1930 г. у Плешчаніцах 1740 жыхароў. Працавалі з 1929 г. электрастанцыя, млын, лесапільня і сукнавальня, у 1930 г. арцель па вырабу гонты, з 1933 г. МТС, арцель па здабычы жывіцы (80 рабочых). Выдавалася раённая газета «Барацьбіт за калектывізацыю» (з 1938 г. «Ленінец»). З 27.9.1938 г. Плешчаніцы — гарадскі пасёлак у Мінскай вобл. У 1939 г.— 3,7 тыс. жыхароў. Дзейнічалі крухмальны і тарфяны заводы.

У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Барацьбу насельніцтва з ворагам узначальвалі падпольныя райкомы КП(б)Б (кастрычнік 1942 г.— 1.7.1944 г.) і ЛКСМБ (21.11.1942 г.— 1.7.1944 г.), якія базіраваліся ў партызанскай брыгадзе «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага. Выходзіла падпольная раённая газета «Ленінец». У Плешчаніцах з 18.8.1941 г. да 5.11. 1942 г. дзейнічала падпольная камсамольская арганізацыя (23 чалавекі) на чале з П. І. Адамовічам, якая з вясны 1942 г. трымала сувязь з партызанскім атрадам «Барацьба». З жніўня 1942 г. работу арганізацыі накіроўваў Барысаўскі падпольны міжрайком ЛКСМБ. Падпольшчыкі вялі палітычную работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, здабывалі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, паперу, звесткі пра варожы гарнізон, накіравалі на службу ў паліцыю і ўправу некалькі членаў арганізацыі, праз якіх мелі звесткі аб планах ворага. У ліпені 1942 г. падпольшчыкі арганізавалі ўцёкі вязняў з канцлагера, у лістападзе 1942 г. замініравалі будынак жандармерыі, падпалілі ўправу, разам з партызанамі падарвалі лесапільню, што выраблялa чыгуначныя шпалы. Пасля гэтых дыверсій большасць падпольшчыкаў пайшла ў партызаны. Летам 1943 г. атрад «Мсцівец» партызанскай брыгады «Народныя мсціўцы» правёў аперацыю «Фінансіст», у выніку якой з Плешчаніцкага банка з дапамогай касіра У. П. Багуцкага былі ўзяты 224 тыс. марак. Пасля гэтага акупанты 3 месяцы не выдавалі зарплату паліцэйскім. 17.8. 1943 г. партызанская брыгада «Народныя мсціўцы» разграміла Плешчаніцкі гарнізон. Былі знішчаны дзоты, будынкі паліцэйскай і раённай управ, жандармерыі, банка, гараж, склады з гаручым, боепрыпасамі, прадуктамі, амуніцыяй і інш. Плешчаніцы вызвалены воінамі 35-й гвардзейскай танкавай брыгады пад камандаваннем генерал-маёра А. А. Асланава ва ўзаемадзеянні з партызанамі брыгад «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага і імя М. І. Калініна.

У Вялікую Айчынную вайну пасёлак быў разбураны. У 1947 г. Маскоўскімі планіровачнымі майстэрнямі распрацаваны генеральны план адбудовы. Аднак пасляваенныя ўмовы не спрыялі поўнай рэалізацыі генплана. У 1969 г. інстытут «Белдзяржпраект» распрацаваў новы генеральны план забудовы пасёлка з перспектывай да 2000 года.

Цэнтр сучаснага пасёлка фарміруецца на скрыжаванні вуліц Леніна і Вароўскага. Тут размешчаны адміністрацыйныя і грамадскія будынкі. Комплекс устаноў грамадскага харчавання, гандлю і бытавога абслугоўвання склаўся з улікам створаных раней па вул. Леніна будынкаў універмага, сталовай, кафэ-рэстарана. У гэтым жа раёне знаходзяцца культурна-асветныя ўстановы. Асноўная жылая забудова квартальная. Зона індывідуальнай сядзібнай забудовы ўздоўж вуліц Чырвонаармейскай і Дзяржынскага, у паўднёвай частцы вул. Вароўскага. Па вул. Савецкай мікрараён з 2—3-павярховай жылой забудовай. Паміж вул. Леніна і р. Малкай размешчаны комплекс інтэрнатаў і дамоў для маласямейных.

Асноўныя прамысловыя зоны сканцэнтраваны ва ўсходняй і заходняй частках пасёлка. Дзейнічаюць: комплекс прадпрыемстваў па перапрацоўцы мясцовай сельскагаспадарчай сыравіны і драўніны (торфапрадпрыемства «Чысцік», сталярны цэх Лагойскага вытворчага дрэваапрацоўчага аб'яднання), цэх Смалявіцкага завода жалезабетонных вырабаў, участак Мінскага малочнага камбіната, хлебазавод, крухмальны завод, камбінат бытавога абслугоўвання, лесапарыхтоўчае вытворчае аб'яднанне. Непадалёку ад пасёлка размешчаны асфальта-бетонны завод.

Працуюць 3 сярэднія, у т. л. школа-інтэрнат, музычная і дзіцяча-юнац-

кая спартыўная школы і вочна-завочная школа рабочай моладзі, Дом піянераў і школьнікаў, 2 дашкольныя ўстановы, 2 масавыя бібліятэкі, 2 Дамы культуры, бальніца, паліклініка. На ўскраіне пасёлка размешчана геафізічная абсерваторыя Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР. Помнікі: У. І. Леніну, на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан, ахвяр фашызму.

Зона адпачынку — на берагах Плешчаніцкага вадасховішча, пойма р. Малка, якая знаходзіцца ў кампазіцыйным адзінстве з галоўнай вуліцай — Леніна. У зялёную зону ўключаны вялікі лесапарк вакол вадасховішча. Прадугледжана стварэнне спартыўнай зоны з стадыёнам, Домам спорту.

*Літ.:* Волости и важнейшие селения Европейской России. В. 5.— СПб., 1886; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Памятная книжка Минской губернии на 1906 год.— Мн., 1905; БССР: Эканоміка-статыстычны даведнік.— Мн., 1931; Хрестоматия по русской военной истории.— М., 1947, с. 315; Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2.— Мн., 1940; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— Мн., 1974; Болбас М. Ф. Промышленность Белоруссии. 1860—1900.— Мн., 1978; Польскі С. А. Нарысы геаграфіі гарадоў Беларускай ССР (1917—1941 гг.).— Мн., 1973; Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и села Белорусской ССР: Историко-географические очерки.— Мн., 1959; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 2. Кн. 2.— Мн., 1978.

*М. І. Камінскі, А. М. Кулагін.*

**1395. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Чапаева. Пахаваны 31 воін і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені — ліпені 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 35-й гвардзейскай танкавай брыгады і партызаны брыгады імя М. І. Калініна. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1396. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на поўдзень ад пасёлка, у лесе, на правым беразе рачулкі Цімошанка, каля старой дарогі на Мінск. 29 насыпаў дыяметрам каля 20 м, вышынёй каля 2,5 м. На вяршынях многіх курганоў западзіны, асобныя насыпы пашкоджаны норамі. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1397. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Завулак Заходні. Пахаваны 75 жыхароў, якіх у 1941—44 гг. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1398. МАГІЛА ФАЛЬКОВІЧА** Аляксея Андрэевіча (гіст.). Ва ўрочышчы Гарбаты Мост. Партызан А. А. Фальковіч загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1399. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Чапаева. Устаноўлена ў 1964 г. на хвоі, на якой у 1941—44 г. нямецка-фашысцкія захопнікі вешалі савецкіх грамадзян.

**1400. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На цэнтральнай плошчы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1965 г.

**1401. РАДЗІМА ШУТА** Мікалая Канстанцінавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. К. Шут нарадзіўся 17.12.1916 г. ў сям'і служачых. Член КПСС з 1943 г. Скончыў рабфак пры Мінскім медыцынскім інстытуце, у 1938 г.— Барысаглебскую школу ваенных лётчыкаў, у 1945 г.— Вышэйшую авіяшколу. З 1936 г. працаваў на Мінскай кандытарскай фабрыцы «Камунарка». У Чырвонай Арміі з 1938 г. Удзельнік баёў супраць японскіх мілітарыстаў у 1939 г. на р. Халхін-Гол. У Вялікую Айчынную вайну на Крымскім, Паўночна-Каўказскім, Варонежскім, Сцяпным, 1-м і 2-м Украінскіх, Далёкаўсходнім франтах. Удзельнік баёў за вызваленне Румыніі, Берлінскай і Пражскай аперацый, разгрому мілітарысцкай Японіі. Маёр М. К. Шут за вайну зрабіў 444 баявыя вылеты, правёў 120 паветраных баёў, збіў 22 самалёты праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 4.2. 1944 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі. У 1950—59 гг. жыў і працаваў загадчыкам клуба у Пухавічах Мінскай вобл., потым — у г. Ціраспаль Малдаўскай ССР. Памёр 30.3.1977 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**в. Прагон, Нястанавіцкі сельсавет**

**1402. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦА І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 3 км на ўсход ад вёскі, каля шашы Плешчаніцы — Крайск. Пахаваны чырвонаармеец, які загінуў у 1920 г., і 2 партызаны, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Прудзішча, Бяларуцкі сельсавет**

**1403. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Рудзькаўшчына, каля дарогі ў в. Дзяніскі. 54 насыпы вышынёй 0,5—2,3 м, дыяметрам 10—12 м. Большасць курганоў мае западзіны на вяршынях. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Прудкі, Гайненскі сельсавет**

**1404. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 75 жыхароў вёскі, якіх у 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Прусавічы, Акалоўскі сельсавет**

**1405. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 24 воіны і партызаны брыгады імя М. І. Калініна, якія загінулі ў чэрвені — ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1406. МАГІЛА АРЛОВА** Генадзя Васілевіча (гіст.). На могілках. Партызан Вялікай Айчыннай вайны Г. В. Арлоў загінуў 30.8.1943 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1407. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 мірныя жыхары, расстраляныя 23.6. 1944 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1408. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 жыхары вёскі, якіх загубілі 22.6. 1944 г. нямецка-фашысцкія акупанты. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1409. МАГІЛА УСЦІН** Ніны Васілеўны (гіст.). На могілках. Жыхарка вёскі Н. В. Усцін загублена ў 1942 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1410. ПОМНІК У ГОНАР ПЛЕШЧАНІЦКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ М. І. КАЛІНІНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. У Вялікую Айчынную вайну ў ваколіцах вёскі размяшчаліся Плешчаніцкі падпольны райком КП(б)Б і штаб партызанскай брыгады імя М. І. Калініна.

Плешчаніцкі падпольны райком КП(б)Б створаны міжраённым партыйным цэнтрам Барысаўскай зоны ў кастрычніку 1942 г. Сакратар І. І. Ясіновіч. Райком КП(б)Б арганізоўваў камуністычнае падполле і партызанскі рух, кіраваў баявымі дзеяннямі партызан і падпольшчыкаў на тэрыторыі Плешчаніцкага р-на, выдаваў газету «Ленінец». Базіраваўся ў партызанскай брыгадзе «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага, з сакавіка — у брыгадзе імя М. І. Калініна.

Брыгада імя М. І. Калініна была створана ў сакавіку 1944 г. на базе асобнага аднайменнага атрада. Камандзір брыгады З. І. Нянахаў, камісар І. І. Ясіновіч. Дзейнічала на тэрыторыі Плешчаніцкага р-на. Партызаны праводзілі баявыя дзеянні на варожых камунікацыях Мінск — Барысаў, Мінск — Маладзечна, Плешчаніцы — Мінск. Пусцілі пад адхон 18 эшалонаў, падарвалі 55 аўтамашын, некалькі мастоў і больш за 570 рэек. Разам з часцямі Чырвонай Арміі наводзілі пераправы цераз рэкі Цна і Гайна, удзельнічалі ў вызваленні г. п. Пле-

шчаніцы. 28.6.1944 г. брыгада (511 партызан, атрады: імя М. І. Калініна, імя С. Г. Лазо, імя М. А. Шчорса, імя Я. М. Свярдлова) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1975 г. у гонар Плешчаніцкага падпольнага райкома КП(б)Б і партызанскай брыгады імя М. І. Калініна пастаўлена стэла.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн. 1975; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *В. В. Семянюк.*

**1411. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1411а.** Селішча. У вёсцы паміж дарогай у в. Акалова і р. Глебаўская, якая ўпадае ў Цну. Памер 100×400 м. Цяпер на тэрыторыі селішча пабудаваны школа і бальніца. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. У культурным пласце 0,4 м знойдзена ганчарная кераміка 14—16 стагоддзяў. Адносіцца да позняга феадалізму. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1411б.** Курганны могільнік. За 3,1 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе, каля перакрыжавання дарог на вёскі Дзядзілавічы і Падань. 2 насыпы вышынёй 1,5 і 2,5 м, дыяметрам 7 і 9 м і адзін авальны памерам 10×7,5 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся. *М. І. Лашанкоў.*

**в. Прысёлкі, Бяларуцкі сельсавет**

**1412. МАГІЛА БУКА** Івана Аляксеевіча (гіст.). На могілках. Партызан І. А. Бук загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Прыстань, Задор'еўскі сельсавет**

**1413. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на ўсход ад вёскі, у лесе. 2 курганы вышынёй 1 і 1,5 м, дыяметрам 7 і 8 м. Трэці курган вышынёй 1,2 м, дыяметрам 22 м за 0,5 км на ўсход ад вёскі. Вяршыня яго зніваліравана. Абследаваў у 1978 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Рацькавічы, Янушкавіцкі сельсавет**

**1414. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1414а.** Курганны могільнік-1. За 2 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Змееў Лес. 35 насыпаў вышынёй 0,5—1,8 м, дыяметрам 6—13 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1414б.** Курганны могільнік-2. За 2,3 км на поўнач ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Рудня. 2 насыпы дыяметрам 18—20 м, вышынёй больш за 2 м. На вяршынях ёсць лейкападобныя западзіны. Вакол курганоў захаваліся раўкі. Адкрыў і абследаваў у 1980 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся. *М. І. Лашанкоў.*

**в. Роўнядзь, Акалоўскі сельсавет**

**1415. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе, злева ад дарогі ў в. Гаравец. 13 насыпаў вышынёй 0,8—1,9 м, дыяметрам 6—11 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Рудня, Чырванашвабаўскі сельсавет**

**1416. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 жыхароў, якіх у 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рэбрышча, Астрошыцкі сельсавет**

**1417. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1418. КУРГАН** (археал.). У вёсцы. Вышыня 1,5 м, дыяметр 12 м. Адкрыў і абследаваў у 1964 г. Ю. І. Драгун, абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў.

**1419. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У паўднёва-заходняй частцы вёскі. Пахаваны 23 жыхары, спаленыя 3.7.1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сакавічы, Ізбішчанскі сельсавет**

**1420. МАГІЛА ГАРДУКОВА** У. Р. (гіст.). На могілках. Партызан У. Р. Гардукоў загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Саўдзеневічы, Янушкавіцкі сельсавет**

**1421. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1971 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Свідна, Знаменкаўскі сельсавет**

**1422. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Гайна. Пляцоўка памерам 49×45 м, умацавана 3 валамі вышынёй 0,8—2 м і равамі глыбінёй 0,5—1,2 м. Адкрыў у 1858 г. К. П. Тышкевіч, абследавалі ў 1925 г. А. М. Ляўданскі, у 1979 г. М. І. Лашанкоў. У шурфах знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1423. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі.

11.10.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі і паліцэйскія лагойскага гарнізона сагналі ў адзін дом 45 жыхароў вёскі і расстралялі, а трупы спалілі. Пазней яны акружылі ў лесе лагер мірных жыхароў, якія хаваліся ад акупантаў, і расстралялі 39 чалавек. У 1974 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму пастаўлены абеліск.

**в. Селішча, Зарэчанскі сельсавет**

**1424. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**1425. МАГІЛА ІЗОТАВА В. І КРАМАРЭНКІ** В. (гіст.). На могілках. Воіны Чырвонай Арміі В. Ізотаў і В. Крамарэнка загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**1426. МАГІЛА ІЛЬІНА** Сяргея Паўлавіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін С. П. Ільін загінуў у ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1427. МАГІЛА ЛЮБІМСКАГА** Сільвестра Віктаравіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін С. В. Любімскі загінуў у ліпені 1944 г. у баі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1428. МАГІЛА ПЯХНОВІЧА А. І МУРАШКІ** А. Я. (гіст.). На могілках. Пахаваны савецкія воіны А. Пяхновіч і А. Я. Мурашка, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлена пліта.

**1429. МАГІЛА РАМАНАВА** Уладзіміра Маркавіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін У. М. Раманаў загінуў у ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1430. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1431. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Селішча, Лагазінскі сельсавет**

**1432. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1432а.** Могільнік-1. За 0,3 км на ўсход ад вёскі, абапал дарогі ў в. За-

гор'е. 132 насыпы вышынёй каля 2 м, дыяметрам 8—11 м, многія з іх абкладзены камянямі. Добра захаваліся, зараслі лесам, большасць мае западзіны на вяршынях. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1432б.** Могільнік-2. За 2 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Буслаўшчына. 7 насыпаў вышынёй да 1,2 м, дыяметрам 8 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся. *М. І. Лашанкоў.*

**в. Сілічы, Знаменкаўскі сельсавет**

**1433. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,8 км на поўнач ад вёскі, каля шашы Мінск — Плешчаніцы, на мысе. Вышыня над наваколлем каля 40 м. Пляцоўка авальная, памерам 15×35 м, з боку поля ўмацавана ровам глыбінёй 1,5 м, шырынёй 8—10 м. З іншых бакоў мае стромкія схілы. Вядома з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Скарады, Зарэчанскі сельсавет**

**1434. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 37 жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Слабада, Гайненскі сельсавет**

**1435. МАГІЛА БЯЗУШЧАНКІ** Васіля Емяльянавіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін В. Е. Бязушчанка загінуў у чэрвені 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1436. МАГІЛА КАБЫЛКІНА** (гіст.). На могілках. Савецкі воін Кабылкін загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1437. МАГІЛА РАДЗІВОНАВА** Архіпа Анісімавіча (гіст.). На могілках. Мірны жыхар А. А. Радзівонаў загублены 3.7.1941 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1438. МАГІЛА ТРОМПЕЛЯ** А. М. (гіст.). На могілках. Партызан А. М. Тромпель загінуў 3.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Слабада (не існуе), Задор'еўскі сельсавет**

**1439. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Слабада знаходзілася за 1,5 км на паўднёвы захад ад в. Засоўе. У 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 204 жыхароў і спалілі вёску (42 двары). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Слабада, Плешчаніцкі пасялковы Савет**

**1440. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 чырвонаармейцы, якія загінулі ў 1920 г. у баі супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1441. МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Партызаны П. І. Фядотка і Д. І. Кучынскі загінулі 31.1.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1442. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1443. МАГІЛА ШЛАПАКОВАЙ** Лідзіі (гіст.). На могілках. Партызанка Л. Шлапакова загінула 5.4.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**в. Слагавішча, Гайненскі сельсавет**

**1444. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Трэль. 18 насыпаў дыяметрам 4,5—14 м, вышынёй 2—2,3 м. Каля падножжа прасочваюцца раўкі глыбінёй 0,4—0,5 м. Адзін курган пашкоджаны траншэямі, асобныя насыпы — ямамі. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Старое Гарадзішча, Лагазінскі сельсавет**

**1445. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1445а.** Гарадзішча. За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на ўзвышшы, ва ўрочышчы Замкавая Гара. Пляцоўка авальная, памерам 65×30 м, умацавана 3 валамі і равамі. Абследавалі ў 1963 г. Л. Д. Побаль, у 1979 г. М. І. Лашанкоў. У культурным пласце знойдзены рэшткі ляпнога штрыхаванага і гладкасценнага посуду. Аднасіцца да культур штрыхаванай керамікі і тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны.

**1445б.** Селішча. Побач з гарадзішчам. Плошча каля 2 га. Абследаваў у 1963 г. Л. Д. Побаль. Прасочаны чорныя плямы, вакол якіх знойдзены рэшткі ляпной керамікі і іншыя рэчы. Верагодна, тут знаходзіліся паўзямлянанчныя жытлы. Знойдзены каменная зернецёрка, гліняная біканічнае праслiца, 2 каменныя брускі, фрагмент гліпянага грузіка, жалезны нож, шмат шлаку і ганчарная кераміка. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны і раннефеадальнага часу. Матэрыялы абследавання гарадзішча і селішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1445в.** Курганны могільнік. За 0,3 км на паўднёвы захад ад гарадзішча. 2 насыпы вышынёй 1,5 і 2 м, дыяметрам 8 і 10 м. Вядомы з 1924 г. Абследавалі ў 1963 г. Л. Д. Побаль, у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся. *М. І. Лашанкоў.*

**1446. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 147 мірных жыхароў, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі 23.2.1942 г. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сухая Гара, Бяларуцкі сельсавет**

**1447. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,3 км на ўсход ад вёскі, за 50 м злева ад дарогі ў в. Прудзішча. Каля 100 курганоў вышынёй 2 м, дыяметрам 8—10 м. Насыпы абкладзены камянямі, зараслі лесам. Вядомы з 1924 г. Абследавалі ў 1928 г. А. Дз. Каваленя, у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Сушкава, Крайскі сельсавет**

**1448. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1449. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны Г. В. Вансберг, В. І. Філіпаў, А. Л. Юхновіч, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1450. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦА І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны чырвонаармеец, які загінуў у 1920 г. у баі супраць войск буржуазнай Польшчы, і 2 партызаны, што загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1971 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**1451. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан загінуў у Вялікую Айчынную вайну ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1452. МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1920 г. у баі супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1964 г. на магіле ўстаноўлены абеліск.

**в. Сялец, Лагазінскі сельсавет**

**1453. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 жыхары, якіх у чэрвені 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1950 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**1454. МАГІЛА ШАЛКОВІЧА** А. Ф. (гіст.). На могілках. Партызан А. Ф. Шалковіч загінуў у Вялікую Айчынную вайну ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Такаўшчына, Чырванашвабаўскі сельсавет**

**1455. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе, каля дарогі ў в. Чырвоная Швабаўка. Каля 50 насыпаў дыяметрам 6—16 м, вышынёй каля 2 м. Абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Тарасіно, Акалоўскі сельсавет**

**1456. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**1456а.** Гарадзішча-1. За 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, на высокім узвышшы. Пляцоўка прамавугольная, з закругленымі вугламі, памерам 40×70 м, з усіх бакоў умацавана валам вышынёй каля 2 м і ровам глыбінёй 1,5 м. У паўднёва-заходняй частцы прасочаны праход шырынёй каля 2 м. Адкрыў і даследаваў у 1964 г. А. Р. Мітрафанаў, абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. У раскопе плошчай 6×6 м і шурфе культурны пласт 0,4—0,9 м. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

**1456б.** Гарадзішча-2. За 0,2 км на захад ад вёскі, на стромкім мысе другой надпоймавай тэрасы правага берага р. Цна, у лесе. Пляцоўка прамавугольная, з закругленымі вугламі памерам 20×40 м, умацавана кальцавым валам вышынёй 2 м і ровам глыбінёй 1 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

*М. І. Лашанкоў.*



**1456б.** *Гарадзішча-2. План.*

**в. Трусавічы, Янушкавіцкі сельсавет**

**1457. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Трысцень (не існуе), Зарэчанскі сельсавет**

**1458. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Трысцень знаходзілася за 2 км на ўсход ад в. Гаравец. У маі 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 35 жыхароў і спалілі вёску (14 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Тхарніца (не існуе), Астрошыцкі сельсавет**

**1459. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Тхарніца знаходзілася за 2 км на захад ад в. Панышэўшчына. У 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 43 яе жыхароў, спалілі 18 двароў. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Хадакі, Крайскі сельсавет**

**1460. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны, якія загінулі ў 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1461. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1462. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 45 жыхароў, якіх у 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1463. МАГІЛА ВЯЛІЧКІ** Васіля (гіст.). На могілках. Партызан В. Вялічка загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1464. МАГІЛА КРЭНЯ** Пятра (гіст.). На могілках. Партызан П. Крэнь загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1465. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «НАРОДНЫЯ МСЦІЎЦЫ» ІМЯ В. Т. ВАРАНЯНСКАГА** (гіст.). У цэнтры вёскі. У Вялікую Айчынную вайну ў вёсцы базіраваўся штаб партызанскай брыгады (да 1.6.1943 г. брыгада «Дзядзькі Ваці»).

Брыгада створана ў верасні 1942 г. паводле рашэння сходу каманднага саставу асобных атрадаў і прадстаўнікоў Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б у Плешчаніцкім р-не на базе атрадаў «Мсцівец» і «Барацьба». Камандзіры В. Т. Варанянскі (верасень 1942 г.— верасень 1943 г., загінуў), В. В. Сямёнаў (кастрычнік 1943 г.— люты 1944 г.), Г. Ф. Пакроўскі (люты — ліпень 1944 г.); камісары Л. С. Лапін (верасень — кастрычнік 1942 г.), М. Х. Краснёнкаў (кастрычнік — снежань 1942 г., в. а.), В. В. Сямёнаў (снежань 1942 г.— кастрычнік 1943 г.), Ф. С. Кузняцоў (кастрычнік 1943 г.— люты 1944 г.), М. І. Перапечка (люты — ліпень 1944 г.). Дзейнічала на тэрыторыі Лагойскага і Плешчаніцкага р-наў, баявыя аперацыі праводзіла на камунікацыях Мінск — Вільнюс, Маладзечна — Полацк, Мінск — Лепель і інш. Партызаны грамілі варожыя гарнізоны ў Мядзелі, Плешчаніцах, Ілі, на чыгуначнай станцыі Куранец, у вёсках Альковічы, Касцяневічы, разбілі карны батальён каля в. Валянцінава, падарвалі 3 чыгуначныя масты і больш за 3 тыс. рэек, 148 мастоў на шашэйных дарогах. Сумесна з часцямі Чырвонай Арміі 30.6.1944 г. разграмілі нямецкі пяхотны батальён, вызвалялі Вілейку, Маладзечна, Смаргонь. 1.7.1944 г. брыгада колькасцю 1475 партызан злучылася з часцямі Чырвонай Арміі. На дзень злучэння мела 5 атрадаў: «Мсцівец», «Барацьба», імя Р. І. Катоўскага, імя А. В. Суворава, імя П. К. Панамарэнкі.

Камандзіру брыгады Г. Ф. Пакроўскаму прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1971 г. у гонар партызанскай брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага пастаўлена стэла.

*Літ.:* В едином строю.— Мн., 1970; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

*В. В. Семянюк.*



**1466.** *Помнік на магіле Г. Занько.*


1470. *Помнік землякам.*

**в. Харошае, Задор'еўскі сельсавет**

**1466. МАГІЛА ЗАНЬКО** Гены (гіст.). На могілках. Г. Занько нарадзіўся ў 1931 г. у Мінску. З 1942 г. партызан, разведчык атрада імя А. В. Суворава. Загінуў 30.6.1944 г. у баі каля в. Вейна пры разгроме нямецка-фашысцкай калоны. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.
**1467. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**1468. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Савецкі воін загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**1469. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**1470. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 53 жыхароў вёсак калгаса «Праўда», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. пастаўлена мемарыяльная сцяна з імёнамі загінуўшых.
**1471. ПОМНІК ФРУНЗЕ** Міхаілу Васілевічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст М. В. Фрунзе ўстаноўлены ў 1967 г.

**в. Харужанцы, Янушкавіцкі сельсавет**

**1472. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 34 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.
**1473. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на дугападобнай градзе, у лесе. 65 насыпаў вышынёй 0,4—2 м, дыяметрам 3—10 м. Усе абкладзены камянямі. Значная частка курганоў на вяршынях мае западзіны глыбінёй да 0,25 м. Адзін насып раскапаны на глыбіню каля 2 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся. *М. І. Лашанкоў.*
**1474. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны мірныя жыхары вёскі Саўрыцкія — маці і 5 дзяцей, якіх у 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1956 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**в. Хатынь (не існуе), Каменскі сельсавет**

**1475. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС ХАТЫНЬ** (гіст., маст.). За 54 км ад Мінска, за 5 км ад павароту з шашы Мінск — Віцебск, на месцы былой в. Хатынь.
22.3.1943 г. у вёску ўварваўся карны батальён нямецка-фашысцкіх войск. Карнікі сагналі ў гумно старых, жанчын, дзяцей, зачынілі і падпалілі будынак. У агні загінулі 149 жыхароў, у т. л. 75 дзяцей, спалена ўся вёска (26 двароў).
Мемарыяльны комплекс (архіт. Ю. Градаў, В. Занковіч, Л. Левін, скульпт. С. Селіханаў; бетон, граніт, мармур, бронза) адкрыты 5.7.1969 г. на ўшанаванне памяці жыхароў в. Хатынь і інш. беларускіх вёсак, знішчаных нямецка-фашысцкімі акупантамі разам з насельніцтвам у 1941—44 гг. Плошча мемарыяла 50 га, вышыня скульптуры 6 м, даўжыня сцяны Памяці 128 м, вышыня 6 м, вышыня абеліскаў 4,5 м. Захоўвае планіровачную структуру былой вёскі і ўключае асобныя элементы: Могілкі вёсак, плошчу Памяці, сцяну Жалобы, Дрэва жыцця. Мемарыял пачынаецца паказальнікам ад павароту з Віцебскай шашы — «Хатынь», складзеным з бетонных блокаў шэрага, як попел, колеру. Далей кіламетровыя паказальнікі з беламармуровых блокаў вядуць адваротны адлік шляху, эмацыянальна настройваюць наведвальнікаў на ўспрыняцце помніка. Пасыпаная шлакам, сімвалічным попелам пажараў, дарога Жалобы прыводзіць да чорнага


1471. *Помнік М. В. Фрунзе.*


1475. *Мемарыяльны комплекс Хатынь. Дарога Жалобы.*



1475. *Мемарыяльны комплекс Хатынь. Скульптура селяніна з мёртвым хлопчыкам на руках.*

блока з надпісам: «22 сакавіка 1943 г. фашысты знішчылі вёску Хатынь з яе жыхарамі. У Беларусі акупанты ператварылі ў руіны 209 гарадоў і гарадскіх пасёлкаў, 9200 сёл і вёсак. Ад рук захопнікаў загінула 2 млн. 230 тыс. савецкіх грамадзян. Гэта ніколі не будзе забыта!»

Справа ад дарогі скульптурны манумент і 2 стылізаваныя стэлы па яго баках. Скульптура няскоранага чалавека з мёртвым хлопчыкам на руках — збіральны вобраз беларускага селяніна. Справа, на месцы гумна, дзе фашысты спалілі жыхароў Хатыні,— стэла з чорнага лабрадарыту, якая напамінае дах. На брацкай магіле Вянок памяці са словамі наказу мёртвых да жывых: «Людзі добрыя, помніце: мы любілі жыццё, і Радзіму нашу, і Вас, дарагія. Мы згарэлі жывымі ў агні. Наша просьба да ўсіх: хай жалоба і смутак абернуцца ў мужнасць і сілу, каб змаглі ўвекавечыць Вы мір і спакой на Зямлі. Каб нідзе і ніколі ў віхры пажараў жыццё не ўмірала!». З другога боку Вянка адказ жывых загінуўшым: «Родныя Вы нашы. У смутку вялікім схіліўшы галовы, стаім перад Вамі. Вы не скарыліся лютым забойцам у чорныя дні фашысцкай навалы. Вы смерць прынялі, ды полымя сэрцаў Вашай любові да Савецкай Радзімы навек незгасальна. Памяць пра Вас у нас назаўсёды, як неўміручая наша зямля і як вечна яркае сонца над ёю».

Дарога Жалобы вядзе да помнікаў-зрубаў, пастаўленых на месцы кожнай згарэўшай хаты. 4 бетонныя брусы ўтвараюць вянок зруба, веснічкі, нібы запрашаюць у неіснуючы ўжо дом, да ачага, ад якога застаўся адзін комін ды высечаныя на ім імёны загінуўшых. Коміны ў выглядзе абеліскаў са званамі, якія вечна гудуць па ахвярах фашызму. Выкладзеныя шэрымі плітамі былыя вуліцы, якія раптам абрываюцца, мармуровыя зрубы на месцы 4 калодзежаў дапаўняюць вобраз мёртвай вёскі.

За хатамі-помнікамі па галоўнай кампазіцыйнай восі мемарыяла раз-



**1475.** *Мемарыяльны комплекс Хатынь. Коміны-абеліскі на месцы спаленых хат.*



**1475.** *Мемарыяльны комплекс Хатынь. Могілкі вёсак.*

мешчаны Могілкі вёсак — 185 урнаў з зямлёй з вёсак, спаленых разам з жыхарамі і не адноўленых. Злева ад іх — сцяна Жалобы — жалезабетонны блок з нішамі, якія асацыіруюцца з казематамі канцлагераў, са сцэнамі крэматорыяў лагераў смерці. У нішы ўманціраваны мемарыяльныя пліты з назвамі 66 найбольш буйных лагераў смерці і месцаў масавай загубы мірных грамадзян і ваеннапалонных на тэрыторыі Беларусі і лічбамі, якія інфармуюць аб колькасці загубленых там людзей. На сцяне Жалобы надпіс: «Памяць пра вас на вякі».

Побач са сцяной Жалобы і Могілкамі вёсак заключны фрагмент мемарыяла — плошча Памяці. У цэнтры яе 3 бярозы, што сімвалізуюць жыццё, на месцы чацвёртай — Вечны агонь, сімвал кожнага чацвёртага жыхара Савецкай Беларусі, які загінуў у Вялікую Айчынную вайну. Завяршае мемарыяльны комплекс Дрэва жыцця са спісам 433 вёсак рэспублікі, спаленых фашыстамі і адноўленых пасля вайны.

Мемарыяльны комплекс Хатынь — выразны сімвал народнай памяці. У Хатынскім мемарыяле зліліся ў гарманічным сінтэзе і скульптура, і дойлідства, і ландшафт, і мастацкае слова, і трывожнае гучанне званоў, і каляровае асвятленне. Са скрупулёзнай дакладнасцю тут узноўлена планіровачная структура спаленай фашыстамі вёскі, акцэнтаваны кожны яе элемент — вуліцы, калодзежы, на месцы былых сядзіб — бетонныя абеліскі-коміны. Вобраз мёртвай вёскі раскрывае звярыную сутнасць фашызму, з вялікай сілай уздзейнічае на гледача, праз трагедыю адной вёскі паказвае трагедыю народа.

Хатынь — філіял Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Аўтары мемарыяльнага комплексу Хатынь удастоены Ленінскай прэміі 1970 г.

*Літ.:* Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1984. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Чабатары, Чырванашвабаўскі сельсавет**

**1476. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фа-



**1485.** *Помнік землякам.*

шысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Чарніца, Акалоўскі сельсавет**

**1477. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, у лесе. Падоўжаныя 2 курганы, памерам 4×6 м і 5×6 м, вышынёй 0,3 і 0,5 м, трэці круглы насып дыяметрам 5 м, вышынёй 0,25 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Чырвоная Швабаўка, цэнтр сельсавета**

**1478. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі, каля дарогі Бягомль — Мінск. Пахаваны 25 воінаў, якія загінулі ў чэрвені — ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на ўшанаванне іх памяці, а таксама памяці 130 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: 2 воіны.

**в. Чырвоны Бор, Гайненскі сельсавет**

**1479. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).
**1479а.** Селішча. За 0,5 км на захад ад вёскі. Плошча 1,5 га. Вядома з 1924 г. Абследавалі ў 1962 г. Л. Д. Побаль, у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Сабрана ляпная і ганчарная кераміка. Адносіцца да сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э. і да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
**1479б.** Курганны могільнік. Побач з селішчам, за 0,2 км на захад ад яго. 30 курганоў вышынёй 0,6—1,3 м, дыяметрам 5—10 м. Асобныя насыпы пашкоджаны ямамі. Вядомы з 1865 г. У 1963 г. Л. Д. Побаль раскапаў адзін курган. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на ўсход. Пад касцяком былі попел і вуголле. Абследаваў у 1979 г. М. І. Лашанкоў. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. І. Лашанкоў.*

**в. Чэмкі, Чырванашвабаўскі сельсавет**

**1480. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 18 мірных жыхароў, якіх у чэрвені 1944 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1486. *Помнік партызанам.*

**в. Юркавічы, Чырванашвабаўскі сельсавет**

**1481. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 14 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Янушкавічы, цэнтр сельсавета**

**1482. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 партызан, якія загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.
**1483. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны воін і 3 партызаны, якія загінулі ў 1943 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.
**1484. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка канторы лясніцтва. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**1485. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 459 жыхароў вёсак сельсавета, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з дзіцем і 3 стэлы з імёнамі загінуўшых.
**1486. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі сельсавета, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура партызана.
**1487. ПОМНІК У ГОНАР ЛАГОЙСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І ЛАГОЙСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «БАЛЬШАВІК»** (гіст.). У цэнтры вёскі. У Вялікую Айчынную вайну паблізу вёскі ва ўрочышчы Берзда размяшчаліся Лагойскі падпольны райком КП(б)Б і штаб лагойскай брыгады «Бальшавік».

Лагойскі падпольны райком КП(б)Б створаны міжраённым партыйным цэнтрам Барысаўскай зоны ў лістападзе 1942 г. Сакратар І. М. Цімчук. Райком КП(б)Б арганізоўваў камуністычнае падполле і партызанскі рух, кіраваў баявымі дзеяннямі партызан і падпольшчыкаў на тэрыторыі Лагойскага р-на, выдаваў газету «За Савецкую Беларусь».

Брыгада створана ў лютым 1944 г. Лагойскім падпольным райкомам КП(б)Б на базе асобных атрадаў 1-ы «Бальшавік», 2-і «Бальшавік», 3-і «Бальшавік», якія 12.2.1944 г. адпаведна перайменаваны: «Бальшавік», імя С. М. Будзённага, «Спартак». Камандзір брыгады Л. Л. Марозаў, камісар М. М. Андрэеў. Дзейнічала на тэрыторыі Лагойскага р-на. У аперацыі «Рэйкавая вайна» партызаны брыгады падарвалі каля 2 км чыгункі, наносілі ўдары па камунікацыях ворага на чыгуначным участку Мінск — Маладзечна, на шашы Лагойск — Мінск. У маі 1943 г. разграмілі нямецкі санаторый у Астрашыцкім Гарадку, у чэрвені, верасні 1943 г.— гарнізоны ў вёсках Косіна і Лагаза. Удзельнічалі ў баях супраць асобных груповак ворага. З набліжэннем часцей Чырвонай Арміі будавалі масты і пераправы цераз рэкі Гайна, Усяжа. 30.6.1944 г. брыгада (3 атрады, 547 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1971 г. у гонар Лагойскага падпольнага райкома КП(б)Б і лагойскай партызанскай брыгады «Бальшавік» пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *В. В. Семянюк.*

# ЛЮБАНСКІ РАЁН




Урэчча
Дарасіно
Замошша
Таль
Асавец
Смольгава
Неваложа
ЛЮБАНЬ
Чабусы
Юшкавічы
Забалаць
Сарачы
Пласток
Обчын
Ямінск
Закальное
Рачэнь
Атраднае
Рэдкавічы
Ляхаўка
Сосны
Загалле
Стар. Юрковічы
Нежын
Камуна
Сосны
Калінаўка
Кузьмічы
Мал. Гарадзяцічы

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні савецкага перыяду

## XV. ЛЮБАНЬ

Горад, цэнтр раёна. Размешчана на р. Арэса. За 152 км на поўдзень ад Мінска, 25 км ад чыгуначнай станцыі Урэчча (на лініі Баранавічы — Асіповічы). Аўтамабільнымі дарогамі злучана з Глускам, Жыткавічамі, Чырвонай Слабадой, Салігорскам, Слуцкам.

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 16 ст. У інвентары Слуцкага княства 1566 г. адзначана, што мястэчка Любань уваходзіла ў склад Ярэміцкай воласці. У 1566 г. налічвала 35 дамоў, да 225 жыхароў, 20 валок ворыўнай зямлі (каля 427 га). Жыхары лічыліся мяшчанамі. Пры падзеле Слуцкага княства ў 1582 г. паміж трыма братамі Алелькавічамі Любань дасталася Аляксандру Юр'евічу. З 1589 г. да 1621 г. у часовым валоданні слуцкіх мяшчан Тышэвічаў, якія трымалі Любань у закладзе за пазычаныя князем грошы.

У 1648 г. у Любані быў 81 дом. Да 1651 г. колькасць ворыўнай зямлі, адведзенай князем для мястэчка, павялічылася да 33 валок (каля 705 га), было таксама 126 маргоў палявой зямлі і 440 маргоў сенажаці. За час руска-польскай вайны 1654—67 гг. колькасць насельніцтва скарацілася. У 1667 г.— 75 дамоў. Паступова местачковая гаспадарка аднаўлялася. У 1682 г. было 600—650 жыхароў, 100 дамоў. Павіннасці жыхароў рэгуляваліся статутам, які 28.11.1661 г. даў мяшчанам Багуслаў Радзівіл. Мяшчане павінны былі плаціць чынш, выконваць шэраг павіннасцей. Радзівіл зацвердзіў самакіраванне мяшчан паводле магдэбургскага права на чале з бурмістрам, з правам апеляцыі да старосты Слуцкага княства. У 1682 г. чынш быў павялічаны.

У 1791 г. Любань увайшла ў новаўтвораны Случарэцкі павет Навагрудскага ваяводства. З 1793 г. у складзе Расійскай імперыі. У час паўстання 1794 г. у Польшчы, на Беларусі і ў Літве каля Любані паміж атрадам паўстанцаў і рускімі войскамі на чале з генералам П. Дз. Цыцыянавым 4.9. 1794 г. адбыўся бой. Паўстанцы адбілі некалькі атак, але вымушаны былі капітуляваць. Рускія войскі захапілі 250 палонных і 5 гармат. У 1808 г. Любань атрымала правы мястэчка і ўвайшла ў склад Забалоцкай воласці Бабруйскага павета Мінскай губерні. У 1884 г. было 136 дамоў і каля 500 жыхароў, царква, сінагога; у 1897 г.— 766 жыхароў.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У мястэчку сфарміраваны атрад Чырвонай гвардыі. З 2-й паловы лютага да сярэдзіны снежня 1918 г. Любань была акупіравана германскімі, з сярэдзіны жніўня 1919 г. да ліпеня 1920 г.— польскімі войскамі. У снежні 1919 г. тут — 2211 жыхароў. З 17.7.1924 г. цэнтр раёна ў складзе



XV. *Плошча Леніна.*

Слуцкай акругі БССР. У чэрвені 1927 г.— ліпені 1930 г. раён у Бабруйскай акрузе.

Развіццё гаспадаркі актывізавалася ў сувязі з асваеннем у 20-я гады забалочаных зямель у басейнах рэк Арэса і Пціч. З 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. У 1939 г.— 3048 жыхароў. У пасёлку працавалі пяньковы (91 рабочы ў 1940 г.) і крухмальны заводы.

28.6.1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі акупіравалі Любань. На тэрыторыі раёна базіраваліся падпольныя Мінскі абком і Любанскі райком КП(б)Б, штаб партызанскага злучэння Мінскай вобл., Мінскі абком і Любанскі райком ЛКСМБ; выдаваліся рэспубліканскія газеты «Звязда» і «Чырвоная змена». На востраве Зыслаў дзейнічаў партызанскі аэрадром. Пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага абкома партыі партызанскімі атрадамі раёна ў ноч на 7.11.1941 г. была праведзена аперацыя па разгрому ў Любані варожага гарнізона. Да лета 1942 г. у горадзе дзейнічала падпольная камсамольска-маладзёжная група. За актыўны ўдзел у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў Любанская раённая камсамольская арганізацыя ў 1968 г. узнагароджана ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені. 30.6.1944 г. Любань вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У пасляваенны перыяд пасёлак адноўлены. З 15.1.1938 г. у Мінскай вобл., з 20.9.1944 г. у Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. зноў у Мінскай вобл. У 1959 г.— 3,7 тыс., у 1970 г.— 6,7 тыс. жыхароў. З 7.3.1968 г. горад раённага падпарадкавання.

Планіровачная структура склалася гістарычна, уяўляе сабой прамавугольную сетку вуліц. Галоўная кампазіцыйная вось — вул. Першамайская. Горад забудаваны пераважна 2—3-павярховымі жылымі дамамі. Паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1972 г. Мінскім абласным філіялам інстытута «Белдзяржпраект», развіццё Любані адбываецца шляхам рэканструкцыі і замены аднапавярховай драўлянай забудовы 4—5-павярховымі мураванымі дамамі. Такія дамы пабудаваны на вуліцах Леніна, Савецкай, Першамайскай і інш.

Грамадскі цэнтр — плошча Леніна — размешчаны на перакрыжаванні вул. Першамайскай, Леніна і Калініна. Тут знаходзяцца будынкі райкома партыі, райвыканкома, гарвыканкома, аддзялення Дзяржбанка, раённага Дома культуры, вузла сувязі і інш.

Вытворчыя прадпрыемствы размешчаны пераважна ў паўночнай і паўночна-ўсходняй частках горада. Працуюць хлебазавод, ільнозавод, крухмальны завод і сыраробны камбінат, рыбакамбінат «Любань», райпрамкамбінат (у т. л. ткацкі і швейны цэхі), камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, лясгас. У горадзе 3 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 7 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, музей народнай славы, радзільны дом, бальніца. Выдаецца газета «Будаўнік камунізму». Помнікі: У. І. Леніну; камсамолцы-падпольшчыцы Ф. Г. Конанавай; сакратару Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б А. Ф. Брагіну; А. М. Матросаву; на магіле ахвяр фашызму; вызваліцелям; мемарыяльны комплекс савецкім актывістам, воінам, партызанам і падпольшчыкам.

Зона адпачынку — парк культуры імя 50-годдзя Кастрычніка, возера і берагі р. Арэса.

*А. П. Грыцкевіч, А. А. Міцянін.*

**1488. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Баравіка. Пахаваны 785



**1490.** *Мемарыяльны комплекс савецкім актывістам, воінам, партызанам і падпольшчыкам.*

жыхароў горада, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў лістападзе 1941 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**1489. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). Вул. Леніна, 17, на будынку музея народнай славы. Устаноўлена ў 1972 г.

Напярэдадні 24-й гадавіны Вялікага Кастрычніка Мінскім падпольным абкомам КП(б)Б быў распрацаваны рад аперацый па разгрому партызанамі нямецка-паліцэйскіх гарнізонаў у раёнах Палескай і Мінскай абласцей. У ноч з 6 на 7.11.1941 г. партызаны атрадаў А. І. Далідовіча, А. І. Патрына, М. М. Розава і Г. М. Сталярова акружылі ўмацаваны Любанскі гарнізон ворага і разграмілі яго. Народныя мсціўцы знішчылі больш за 50 фашыстаў і іх памагатых, захапілі багатыя трафеі. У падрыхтоўцы і правядзенні партызанскай аперацыі актыўны ўдзел прымалі таксама члены Любанскай падпольнай камсамольска-маладзёжнай групы на чале з У. А. Лукоўскім.

*Літ.:* Козлов В. И. Люди особого склада.— Мн., 1973. *В. М. Удальцоў.*

**1490. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС САВЕЦКІМ АКТЫВІСТАМ, ВОІНАМ, ПАРТЫЗАНАМ І ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст., маст.). Па вул. Першамайскай, у скверы. Тут у 11 магілах пахаваны ўпаўнаважаныя па харчразвёрстцы Барыс Мазгуноў і Сцяпан Аляксандраў, забітыя ворагамі Савецкай улады ў пачатку мая 1921 г., 12 савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — арганізатары камуністычнага падполля і партызанскай барацьбы на Міншчыне Аляксей Фёдаравіч Брагін, Яўстрат Дзянісавіч Гарбачоў, Андрэй Сямёнавіч Шашура, Рыма Іванаўна Шаршнёва, Фядора Гаўрылаўна Конанава.

А. Ф. Брагін нарадзіўся 14.3.1905 г. у в. Бурцава Багародскага р-на Горкаўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. Пасля заканчэння Вышэйшай школы партыйных арганізатараў пры ЦК ВКП(б) у 1940 г. працаваў намеснікам загадчыка аддзела, з сакавіка 1941 г. сакратар Мінскага абкома КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. сакратар Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б, кіраваў арганізацыяй партыйнага падполля і партызанскага руху ў Любанскім і Старадарожскім р-нах. У кастрычніку 1941 г. каля пас. Чырвоная Палянка Любанскага р-на натрапіў на варожую засаду. Параненага А. Ф. Брагіна схапілі нямецка-фашысцкія акупанты. Забіты пры спробе ўцячы.

Яго імя было прысвоена партызанскай брыгадзе 121-й партызанскага злучэння Мінскай вобл. У Любані ўстаноўлены паясны скульптурны партрэт. Гл. артыкул № 1491 «Помнік Брагіну Аляксею Фёдаравічу».

Я. Дз. Гарбачоў нарадзіўся 15.12.1915 г. у в. Хамічы Калінкавіцкага р-на. Член КПСС з 1939 г. З 1938 г. у органах НКУС БССР. У Вялікую Айчынную вайну адзін з арганізатараў партыйнага і патрыятычнага падполля, партызанскіх атрадаў і груп у Мінскай вобл. Удзельнічаў у распрацоўцы і правядзенні аперацыі па разгрому нямецка-паліцэйскага гарнізона ў Любані (6.11.1941 г.). У студзені 1942 г. Я. Дз. Гарбачоў быў накіраваны на сувязь з падпольшчыкамі Ямінскага сельсавета, каля в. Азломль натрапіў на варожую засаду. У час працяглага бою быў цяжка паранены. Калі нямецка-фашысцкія акупанты паспрабавалі захапіць яго жывым, падарваў сябе разам з імі апошняй гранатай. Імем Я. Дз. Гарбачова быў названы партызанскі атрад. Яго імя прысвоена калгасу, школе і піянерскай дружыне на Любаншчыне.

А. С. Шашура нарадзіўся ў лістападзе 1914 г. у в. Жураўка Краснапольскага р-на Курскай вобл. у сям'і служачых. Член КПСС з 1939 г. У Чырвонай Арміі з 1931 г. Скончыў Сумскую артылерыйскую школу імя М. В. Фрунзе (1934 г.). З ліпеня 1941 г. у партызанах: камандзір групы, атрада, са студзеня 1943 г. брыгады 161-й імя Р. І. Катоўскага. Загінуў 12.4.1944 г. у час абароны Акцябрска-Любанскай партызанскай зоны ад нямецка-фашысцкіх карнікаў.

Р. І. Шаршнёва нарадзілася 28.7.1925 г. у г. Добруш. Член ВЛКСМ. У ліпені 1942 г. была залічана ў камсамольска-маладзёжны партызанскі атрад імя М. Ф. Гастэлы, з верасня разам з атрадам у партызанскім злучэнні Мінскай вобл. Інструктар-сувязная ЦК ЛКСМБ з Мінскім падпольным міжрайкомам ЛКСМБ. Арганізоўвала камсамольскае падполле, вяла прапагандысцкую работу сярод насельніцтва, удзельнічала ў баявых аперацыях партызан. 25.11.1942 г. у час разгрому варожага гарнізона ў в. Ламавічы Акцябрскага р-на была цяжка паранена. Памерла 6.12.1942 г. Узнагароджана ордэнам Чырвонага Сцяга. На месцы подзвігу ў в. Ламавічы пастаўлены помнік. Яе імя прысвоена шэрагу піянерскіх дружын у школах Любаншчыны.

Ф. Г. Конанава нарадзілася ў 1918 г. у в. Нежын Любанскага р-на. Скончыла Слуцкі педтэхнікум (1939 г.), настаўнічала ў Любанскім р-не. У Вялікую Айчынную вайну з верасня 1941 г. па заданню Любанскай партыйнай тройкі стварыла і ўзначаліла падпольную камсамольска-маладзёжную групу ў в. Нежын, дапамагала партызанам, здабывала для іх зброю, медыкаменты, каштоўныя звесткі. Удзельнічала ў баявых аперацыях, вяла разведку ў Асіповічах, Бабруйску, Любані, Слуцку. У студзені 1942 г., вяртаючыся ў партызанскі лагер з чарговага задання, Ф. Г. Конанава натрапіла на варожую засаду і



1491. *Помнік А. Ф. Брагіну.*

была схоплена нямецка-фашысцкімі акупантамі. Жорсткімі катаваннямі ворагі намагаліся атрымаць звесткі пра падполле і месцы базіравання партызан на Любаншчыне, але нічога не дамагліся, кінулі патрыётку пад лёд Арэсы. Ф. Г. Конанава пасмяротна ўзнагароджана ордэнам Леніна. У Любані і на радзіме пастаўлены помнікі. Яе імем названы піянерскія дружыны Нежынскай і Соснаўскай сярэдніх і Шыпілаўскай васьмігадовай школ.

Мемарыяльны комплекс узведзены ў 1967 г. (скульпт. У. Ананька, В. Грос, архіт. Л. Левін, В. Занковіч; бетон, мармуровая крошка; вышыня 4,5 м). Мемарыял мае лінейную будову і ўключае скульптуру ўкленчанага воіна, які апіраецца на аўтамат, бетонны трохвугольны блок з надпісам-прысвячэннем і 11 надмагілляў з дошкамі, на якіх выбіты імёны загінуўшых.

*Літ.:* Партийное подполье в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1984; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Мазуров К. Т. Незабываемое.— Мн., 1984.

*В. М. Удальцоў, Г. М. Ярмоленка.*

**1491. ПОМНІК БРАГІНУ** Аляксею Фёдаравічу (маст.). На вул. Першамайскай. Пастаўлены ў 1964 г. на ўшанаванне памяці сакратара Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б, аднаго з арганізатараў камуністычнага падполля і партызанскага руху ў Мінскай і Палескай абласцях А. Ф. Брагіна, які загінуў у кастрычніку 1941 г.

Помнік (скульпт. Б. Івонцьеў, архіт. Я. Печкін; бетон, мармуровая крошка; вышыня 5 м) — паясны бюст А. Ф. Брагіна пастаўлены на высокім прамавугольным пастаменце. Кампазіцыя партрэта строгая і выразная. Сабранасць, воля, энергічнасць і перакананасць камуніста-барацьбіта перададзены ў развароце шырокіх плячэй, паставе галавы, валявым жэсце рукі, у сканцэнтраваным, мэтанакіраваным позірку. Энергічная, насычаная мадэліроўка партрэтных рысаў кантрастуе з лаканічнай графічнасцю касцюма. Гл. таксама артыкул № 1490 «Мемарыяльны комплекс савецкім актывістам, воінам, партызанам і падпольшчыкам».

*Г. М. Ярмоленка.*

**1492. ПОМНІК ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). На вул. Першамайскай.

У канцы чэрвеня 1944 г. перадавыя часці 28-й арміі (генерал-лейтэнант А. А. Лучынскі) і конна-механізаванай групы генерал-лейтэнанта І. А. Пліева 1-га Беларускага фронту выйшлі на шашу Бабруйск — Слуцк і, ламаючы заслоны праціўніка, вялі наступленне ў напрамку Слуцка. З мэтай прыпыніць імклівае прасоўванне савецкіх войск нямецкае камандаванне сабрала на рубяжы Таль — Любань моцную групоўку ў складзе 3 пяхотных дывізій. Варожы гарнізон у Любані меў каля палка пяхоты, 2 артылерыйскія дывізіёны, 4 мінамётныя батарэі.

29 чэрвеня войскі 48-й гвардзейскай стралковай дывізіі 20-га стралковага корпуса 28-й арміі пры ўзаемадзеянні з 19-й мотастралковай брыгадай 1-га механізаванага корпуса конна-механізаванай групы І. А. Пліева фарсіравалі р. Арэса і атакавалі ўмацаванні гітлераўцаў з поўначы і поўдня. У ноч на 30 чэрвеня пасля жорсткага бою г. Любань быў ачышчаны ад ворага. Вялікую дапамогу ў вызваленні Любані і раёна аказалі часцям Чырвонай Арміі партызаны.

У гонар вызваліцеляў Любаншчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлена стэла з надпісам-прысвячэннем.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974.

*В. М. Удальцоў.*

**1493. ПОМНІК КОНАНАВАЙ** Фядоры Гаўрылаўне (маст.). На перакрыжаванні вуліц Кірава і Баравіка. На ўшанаванне памяці аднаго з арганізатараў камсамольска-маладзёжнага падполля на Любаншчыне Ф. Г. Конанавай у 1967 г. пастаўлены помнік (скульпт. У. Ананька, архіт. В. Занковіч і Л. Левін; бетон, мармуровая крошка; вышыня пастамента 1,6 м, бюста 2,2 м, абеліска 13 м).



1492. *Помнік вызваліцелям.*



1493. *Помнік Ф. Г. Конанавай.*

Кампазіцыя помніка складаецца з скульптурнага партрэта Ф. Г. Конанавай і размешчанага за ім абеліска, аб'яднаных агульным пастаментам. У партрэце адважнай патрыёткі раскрыты грамадзянскасць, смеласць, стойкасць і адначасова жаноцкасць, мяккасць, душэўнасць. Пластыка твару вызначаецца старанна прапрацоўкай. Гл. таксама артыкул № 1490 «Мемарыяльны комплекс савецкім актывістам, воінам, партызанам і падпольшчыкам».

*Г. М. Ярмоленка.*

**1494. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1962 г.

**1495. ПОМНІК МАТРОСАВУ** Аляксандру Мацвеевічу (гіст.). Вул. Першамайская, перад будынкам сярэдняй школы № 1. Бюст Героя Савецкага Саюза А. М. Матросава ўстаноўлены ў 1983 г. Яго імя носіць піянерская дружына школы.

**1496. ПОМНІК У ГОНАР ПЕРАМОГІ** (гіст.). На вул. Сацыялістычнай. У гонар перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

18 Зак. 2282



*1494. Помнік У. І. Леніну.*

**1497. РАДЗІМА СЯРЖАНІНА** Івана Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі заолаг, член-карэспандэнт АН БССР (1959 г.), доктар біялагічных навук (1957 г.), прафесар (1958 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1968 г.) І. М. Сяржанін нарадзіўся 2.10.1898 г. у сям'і селяніна. Скончыў БДУ у 1926 г. Некаторы час настаўнічаў. З 1933 г. у Інстытуце біялогіі АН БССР — навуковы супрацоўнік, загадчык аддзела заалогіі. У 1959—71 гг. загадчык Аддзела заалогіі і паразіталогіі АН БССР, адначасова у 1947—70 гг. у БДУ прафесар кафедры заалогіі пазваночных. Даследаваў жывёльны свет запаведных мясцін Беларусі, распрацаваў схему заагеаграфічнага раянавання БССР і мерапрыемствы па ахове і аднаўленню колькасці жывёл. Значнае месца ў даследаваннях займалі праблемы экалогіі. Аўтар прац па фауністыцы, заагеаграфіі і экалогіі, гаспадарчым значэнні каштоўных відаў млекакормячых. Найбольш вядомыя з іх: «Насякомаедныя» («Фауна БССР», т. 1, в. 1, 1938 г.), «Рачны бабёр і яго біялагічныя асаблівасці» (1951 г.), «Млекакормячыя Беларусі» (2-е выд., 1961 г.). Памёр І. М. Сяржанін 2.2. 1973 г. у Мінску. Пахаваны на Чыжоўскіх могілках.

*Літ.:* Іван Мікалаевіч Сяржанін.— Весці АН БССР. Сер. біялагічных навук, 1973, № 3. *В. М. Удальцоў.*

**в. Азломль, Ямінскі сельсавет**

**1498. МАГІЛА КАРЖЭНКІ** Івана Фёдаравіча (гіст.). На могілках. У Вялікую Айчынную вайну воін Чырвонай Арміі І. Ф. Каржэнка трапіў (1941 г.) у акружэнне, застаўся на акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыі, наладзіў сувязь з партызанамі. Восенню 1942 г. быў схоплены акупантамі і расстраляны. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1499. МАГІЛА СУШЧЭНІ** Аркадзя Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада «Жалязняк» брыгады 64-й імя В. П. Чкалава А. І. Сушчэня загінуў 23.2.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1500. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КЛІМОВІЧУ** Івану Цімафеевічу **І БОНДАРАВУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). На будынку пачатковай школы. Устаноўлена ў 1975 г. на ўшанаванне памяці арганізатараў патрыятычнага падполля па Любаншчыне старшыні Асавецкага сельскага Савета І. Ц. Клімовіча і дырэктара Чабускай МТС М. І. Бондарава, якія загінулі ў ліпені 1941 г. каля в. Азломль у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**в. Азярное, Сароцкі сельсавет**

**1501. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 жыхары вёскі і савецкі воін, загубленыя нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1502. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 жыхароў вёскі, якіх у час карнай аперацыі (люты 1943 г.) загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1503. МАГІЛА ТРУЦІКАВА** Андрэя Міхайлавіча (гіст.). На могілках.

Савецкі патрыёт, актыўны ўдзельнік барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на Любаншчыне А. М. Труцікаў да вайны працаваў старшынёй калгаса «Азярное». У Вялікую Айчынную вайну А. М. Труцікаў ратаваў калгасную жывёлу, найбольш каштоўную маёмасць гаспадаркі. Вяскоўцы разбурылі ўсе бліжэйшыя да вёскі масты і гаці, дапамагалі чырвонаармейцам, якія трапілі ў акружэнне, выйсці да сваіх войск. Пазней А. М. Труцікаў вёў разведку варожых гарнізонаў, збіраў зброю для партызан, ствараў для іх прадуктовыя базы. Даведаўшыся пра дзейнасць патрыёта, фашысты ў студзені 1942 г. арыштавалі яго разам з жонкай і пасля жорсткіх допытаў закатавалі.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Партийное подполье в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**1504. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,7 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Дубное, на беразе воз. Вячэра, на пясчанай дзюне. Выявіў і даследаваў у 1985 г. М. М. Крывальцэвіч на плошчы 36 м². У культурным пласце 0,5 м знойдзены кавалкі вялікіх вастрадонных пасудзін з расліннай дамешкай у гліне, фрагменты добраабпаленых гаршкоў з патоўшчанымі адагнутымі вонкі венчыкамі, крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрабкі, нажы, скоблі, пласціны, праколкі і інш. Адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку, трапляецца кераміка ранняга жалезнага веку.

**1505. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,8 км на паўднёвы захад ад вёскі на пясчаным выступе берага воз. Вячэра. Выявіў і даследаваў у 1985 г. М. М. Крывальцэвіч. Асноўная частка паселішча разбурана. З дна возера на адлегласці 50—200 м ад берагавой лініі паднята вялікая колькасць абломкаў посуду, косці жывёл і рыб, крамянёвыя прылады працы, больш за 40 касцяных і рагавых вырабаў (гарпун, наканечнікі стрэл, кінжал, долата, лашчыла, праколкі, рагавая матыка, цясла, рэтушор). Некалькі касцяных прылад арнаментавана нарэзкамі. Найбольш цікавы фрагмент жэзлападобнага вырабу з косці лася з 2 выгравіраванымі выявамі людзей і ромбападобнай фігуры. Адносіцца да эпохі неаліту і ранняга бронзавага веку.

Матэрыялы раскопак паселішча захоўваюцца у Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Крывальцэвіч.*

**1506. ПОМНІК У ГОНАР 258-й ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ В. У. КУЙБЫШАВА** (гіст.). Каля будынка клуба. У Вялікую Айчынную вайну недалёка ад вёскі базіраваўся штаб партызанскай брыгады 258-й імя В. У. Куйбышава.

Брыгада створана ў снежні 1943 г. паводле загаду штаба партызанскага злучэння Мінскай вобл. на базе асобных атрадаў імя В. І. Чапаева, імя А. М. Труцікава і імя С. М. Будзённага. Дзейнічала на акупіраванай тэрыторыі Любанскага, Старадарожскага, Старобінскага р-наў Мінскай, Акцябрскага і Глускага Палескай абласцей. Камандзір брыгады Г. М. Сталяроў, камісар В. І. Смірноў.

Партызаны ў студзені, сакавіку і красавіку 1944 г. разам з іншымі брыгадамі партызанскага злучэння Мінскай вобл. вялі баі супраць карнікаў, разграмілі варожыя гарнізоны ў вёсках Даколь, Клетнае, Малінава, Касарычы Глускага, Харомцы Акцябрскага, Сінягова Старадарожскага р-наў, 27—28.6.1944 г. разам з партызанамі брыгад 100-й імя С. М. Кірава, 161-й імя Р. І. Катоўскага і 121-й імя А. Ф. Брагіна захапілі і ўтрымлівалі да падыходу часцей Чырвонай Арміі пераправу цераз р. Пціч, садзейнічалі фарсіраванню

ракі войскамі 28-й арміі 1-га Беларускага фронту. 28.6.1944 г. у складзе атрадаў імя В. І. Чапаева, імя А. М. Труцікава, імя С. М. Будзённага (287 партызан) злучылася з часцямі Чырвонай арміі.

У 1967 г. у гонар брыгады 258-й імя В. У. Куйбышава пастаўлена стэла.

*Літ.:* Козлов В. И. Люди особого склада.— Мн., 1973; Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *В. М. Удальцоў.*

**в. Асавец, цэнтр сельсавета**

**1507. МАГІЛА БРЫТВІЧА** Сцяпана Якаўлевіча (гіст.). На могілках. Партызан 100-й партызанскай брыгады імя С. М. Кірава С. Я. Брытвіч (1905 г. нараджэння) загінуў 23.4.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1966 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**1508. МАГІЛА РУСАКОВІЧА** Навума Канстанцінавіча (гіст.). Каля будынка паштовага аддзялення. Партызан Н. К. Русаковіч загінуў у 1944 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1509. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАН** (гіст.). На будынку аддзялення сувязі. Устаноўлена ў 1975 г.

У Вялікую Айчынную вайну на акупіраванай тэрыторыі Асавецкага сельсавета базіраваліся партызанскія атрады: 1-ы імя В. І. Чапаева, 2-і імя М. І. Кутузава, 3-і імя М. В. Фрунзе, атрад 6-ы брыгады 100-й імя С. М. Кірава.

Атрад 1-ы імя В. І. Чапаева створаны ў сакавіку 1943 г. з партызан 1-й роты атрада «Народныя мсціўцы» і жыхароў в. Трубяціна Старадарожскага р-на. Камандзір І. І. Жукавец, камісар П. Ц. Петрушэня.

Атрад 2-і імя М. І. Кутузава створаны ў сакавіку 1943 г. з партызан 2-й роты атрада «Народныя мсціўцы». Камандзір П. К. Грынькевіч, камісар Р. І. Ручан.

Атрад 3-і імя М. В. Фрунзе створаны ў сакавіку 1943 г. з 3-й роты атрада «Народныя мсціўцы». Камандзіры Ф. Т. Брусенскі (сакавік 1943 г.— май 1944 г.), А. А. Гідрановіч (май — чэрвень 1944 г.), камісары М. А. Траскуноў (сакавік — чэрвень 1943 г. і красавік — чэрвень 1944 г.), У. І. Івашка (ліпень 1943 г.— сакавік 1944 г.).

Атрад 6-ы створаны ў жніўні 1943 г. на базе ініцыятыўнай групы, выдзеленай брыгадай, і жыхароў вёсак Косцячын і Зялёмкі Старадарожскага р-на. Камандзіры М. С. Сірэнка (жнівень — лістапад 1943 г.), І. І. Бокшыц (лістапад 1943 г.— чэрвень 1944 г.). Атрады дзейнічалі на акупіраванай тэрыторыі Старадарожскага р-на Мінскай вобл., 28.6.1944 г. злучыліся з Чырвонай Арміяй. *В. М. Удальцоў.*



1510. *Помнік землякам.*

**1510. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 276 жыхароў вёсак калгаса «Світанне» — воінаў, партызан, падпольшчыкаў і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. узведзены помнік. Уключае скульптуру жанчыны з дзіцем і мемарыяльную сцяну з імёнамі загінуўшых.

**1511. ПОМНІК У ГОНАР 100-й ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ С. М. КІРАВА** (гіст.). Каля Дома культуры. У Вялікую Айчынную вайну каля вёскі базіраваўся штаб партызанскай брыгады 100-й імя С. М. Кірава.

Брыгада створана 21.3.1943 г. паводле загаду штаба партызанскага злучэння Мінскай вобл. на базе атрада «Народныя мсціўцы», арганізаванага ў чэрвені 1942 г. Да снежня 1943 г. называлася «Смерць фашызму». Камандзір А. І. Шуба, камісары Г. М. Машкоў (сакавік — верасень 1943 г.), І. С. Савелаў (верасень 1943 г.— красавік 1944 г.), І. М. Ражкоў (з красавіка 1944 г.). Баявыя дзеянні вяла пераважна на тэрыторыі Старадарожскага р-на. Разам з атрадам «Жалязняк» 64-й партызанскай брыгады імя В. П. Чкалава разграміла чыгуначную станцыю Фалічы, знішчыла чыгуначны мост. У студзеньска-красавіцкую блакаду 1944 г. прымала ўдзел у баях супраць фашысцкіх карнікаў па абароне Акцябрска-Любанскай партызанскай зоны. За час «рэйкавай вайны» (на чыгунцы Клецк — Слуцк — Асіповічы) партызаны вывелі са строю каля 7 тыс. рэек. У ходзе аперацыі «Баграціён» брыгада ўзаемадзейнічала з войскамі 28-й арміі 1-га Беларускага фронту пры авалоданні пераправамі цераз р. Пціч. 28.6.1944 г. брыгада (1031 партызан) у складзе атрадаў 1-га імя В. І. Чапаева, 2-га імя М. І. Кутузава, 3-га імя М. В. Фрунзе, 4-га імя В. П. Чкалава, 5-га імя С. М. Будзённага і 6-га атрада злучылася з войскамі 28-й арміі.

У 1974 г. у гонар 100-й партызанскай брыгады імя С. М. Кірава пастаўлена стэла. *В. М. Удальцоў.*

**в. Атраднае, Рачэнскі сельсавет**

**1512. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 94 жыхароў вёсак калгаса імя Гуляева, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін трымае на руках забітага таварыша. Абапал — 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Вежанка, Тальскі сельсавет**

**1513. МАГІЛА БРАТЧЭНІ** Мікалая Навумавіча (гіст.). На могілках. Партызан М. Н. Братчэня загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Верачагошч, Сароцкі сельсавет**

**1514. МАГІЛА БУТКЕВІЧА** Анатоля Рыгоравіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя С. М. Будзённага брыгады 258-й імя В. У. Куйбышава А. Р. Буткевіч загінуў 8.4.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1515. МАГІЛА ЗУБАРА** Адама Рыгоравіча (гіст.). На могілках. Партызан А. Р. Зубар загінуў 8.4.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў пры ўтрыманні Акцябрска-Любанскай партызанскай зоны. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1516. МАГІЛА МІХНЕВІЧА** Мікалая Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя С. М. Кірава брыгады 95-й імя М. В. Фрунзе М. І. Міхневіч загінуў у жніўні 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дарасіно, цэнтр сельсавета**

**1517. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Дружба». На ўшанаванне памяці 148 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў тыле ворага ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і дзяўчынка.

**пас. Дварэц, Малагарадзяцінкі сельсавет**

**1518. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАДПОЛЬНЫХ ГАЗЕТ «ЗВЯЗДА» І «ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА»** (гіст.). На доме жыхаркі пасёлка М. К. Мігун. Устаноўлена ў 1975 г. Тут у студзені 1943 г. быў адноўлены выпуск рэспубліканскіх падпольных газет «Звязда» — органа ЦК КП(б)Б і Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б і «Чырвоная змена» — органа ЦК і Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ. *В. М. Удальцоў.*

**1519. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ 121-й ІМЯ А. Ф. БРАГІНА** (гіст.). На будынку пачатковай школы. Устаноўлена ў 1976 г. З 1943 г. да 1944 г. у в. Дварэц базіраваўся штаб партызанскай брыгады 121-й імя А. Ф. Брагіна.

Брыгада створана ў кастрычніку 1942 г. паводле загаду штаба партызанскага злучэння Мінскай вобл. з асобных атрадаў імя М. Ф. Гастэлы, імя Дзяніса Давыдава, імя І. В. Сыцько і наваарганізаваных атрадаў імя К. С. Заслонава, імя І. В. Панфілава і кавалерыйскага эскадрона імя Л. М. Даватара. Камандзір К. Ф. Пушчын, камісар В. М. Якіменка. Дзейнічала на тэрыторыі Любанскага і Старобінскага р-наў Мінскай, Акцябрскага, Глускага, Капаткевіцкага, Петрыкаўскага р-наў Палескай абласцей. Баявыя аперацыі вяла на варожых камунікацыях. У час «рэйкавай вайны» партызаны брыгады на ўчастку Капцэвічы — Мікашэвічы вывелі са строю больш за 700 рэек. Атрад імя М. Ф. Гастэлы ў лістападзе і снежні 1942 г. удзельнічаў у разгроме варожага гарнізона ў в. Ламавічы Акцябрскага р-на (лістапад 1942 г.), у падрыве мастоў цераз рэкі Бобрык і Пціч. У верасні 1942 г. — студзені 1943 г. падарвалі 12 эшалонаў, разбурылі 10 км чыгуначнага палатна. 27—28.6. 1944 г. з брыгадамі 100-й імя Кірава, 258-й імя Куйбышава, 161-й імя Катоўскага захапілі і ўтрымлівалі да прыходу Чырвонай Арміі пераправу цераз р. Пціч. 2.7.1944 г. у складзе атрадаў М. Ф. Гастэлы, імя К. С. Заслонава, імя І. В. Панфілава, імя Дзяніса Давыдава, імя І. В. Сыцько і кавалерыйскага эскадрона імя Л. М. Даватара брыгада (527 партызан) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

*Літ.:* Калинин П. З. Партизанская республика.— 3 изд.— Мн., 1973; Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978. *В. М. Удальцоў.*

**в. Жывунь, Соснаўскі сельсавет**

**1520. МАГІЛА АКУЛІЧА** Рыгора Сямёнавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя К. С. Заслонава брыгады 121-й імя А. Ф. Брагіна Р. С. Акуліч загінуў 26.4.1944 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў.

У 1967 г. на магіле ўстаноўлена надмагільная пліта.

**1521. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны К. В. Пількевіч і яе дачка, якіх у 1944 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1522. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны М. Е. і Н. І. Станкевічы, якіх у красавіку 1944 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1523. МАГІЛА БАНДАРЭНКІ** Васіля Якаўлевіча (гіст.). На могілках. Партызан В. Я. Бандарэнка загінуў у 1944 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1524. МАГІЛА БУДКЕВІЧА** Генадзя Аляксандравіча (гіст.). На могілках. Партызан Г. А. Будкевіч загінуў у 1943 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1525. МАГІЛА БУСЛА** Сільвестра Васілевіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя Аляксандра Неўскага брыгады 25-й імя П. К. Панамарэнкі С. В. Бусел загінуў 10.4.1944 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1526. МАГІЛА ГУТКОЎСКАГА** Мацвея Аляксандравіча (гіст.). На могілках. Партызан М. А. Гуткоўскі загінуў у сакавіку 1944 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1527. МАГІЛА ЛЯЛЬКІНА** Леаніда Уладзіміравіча (гіст.). На могілках. Разведчык партызанскага атрада імя Аляксандра Неўскага 25-й брыгады імя П. К. Панамарэнкі Л. У. Лялькін быў схоплены нямецка-фашысцкімі акупантамі пры выкананні задання камандавання атрада і 4.6.1943 г. закатаваны. У 1967 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**в. Забалаць, Юшкавіцкі сельсавет**

**1528. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 130 жыхароў вёсак калгаса імя Кірава, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1981 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Загалле, Соснаўскі сельсавет**

**1529. МАГІЛА СТАТКЕВІЧА** Фёдара Мікалаевіча (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы Ф. М. Статкевіч нарадзіўся 23.3.1907 г. у в. Старасек Любанскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1932—41 гг. працаваў трактарыстам у саўгасе «Жалы» Любанскага р-на. У Вялікую Айчынную вайну на фронце, удзельнік абароны Масквы, вызвалення Беларусі і Польшчы. У 1945—67 гг. звеннявы механізаванага звяна па вырошчванню бульбы эксперыментальнай базы «Любанская». Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 5.7.1950 г. за атрыманне высокага ўраджаю азімага жыта. Памёр 9.1.1981 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла. *В. М. Удальцоў.*

**1530. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВЫКАНКОМА ЗАГАЛЬСКАГА СЕЛЬСАВЕТА І ШКОЛЫ** (гіст.). На будынку канторы саўгаса «Загальскі». Устаноўлена ў 1969 г.

У Вялікую Айчынную вайну у выніку баявой актыўнасці партызанскіх фарміраванняў Мінскай і Палескай абласцей частка тэрыторыі Любанскага р-на да восені 1942 г. была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, уваходзіла ў Акцябрска-Любанскую партызанскую зону. На вызваленай зямлі аднавілі работу органы Савецкай улады. Выканком Загальскага сельсавета на чале з С. Т. Карнеевым не спыняў сваёй дзейнасці да блакады зоны нямецка-фашысцкімі карнікамі ў студзені — красавіку 1944 г. 1.10.1942 г. па ініцыятыве Мінскіх падпольных абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ у в. Загалле была арганізавана пачатковая школа (дзейнічала



1531. *Помнік землякам.*

да 1943 г.). Працавалі 4 класы, па 25—30 вучняў у кожным. Заняткі па праграмах даваеннай пачатковай школы праводзілі камсамольцы М. М. Дзяшковіч, А. Е. Бедзік, А. М. Комлік, А. А. Радзько (загадчык школы).

*Літ.:* Майсейшын Ф. Незабыўнае.— Мн., 1972. *В. М. Удальцоў.*

**1531. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 255 жыхароў вёсак саўгаса «Загальскі», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1976 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з дзецьмі, побач — стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Закальное, Рачэнскі сельсавет**

**1532. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Шведскія магілы, у полі. 16 насыпаў вышынёй 2—2,5 м, дыяметрам 7—9 м (вышыня самага высокага 4 м, дыяметр 12 м). Каля асновы курганоў прасочваюцца раўкі. Яшчэ 4 насыпы вышынёй 0,8—2 м, дыяметрам 4—7 м выяўлены побач, на могілках. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1533. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Будаўнік». На ўшанаванне памяці 159 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. устаноўлена мемарыяльная сцяна з імёнамі загінуўшых.

**в. Замошша, Дарасінскі сельсавет**

**1534. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры, у парку. На ўшанаванне памяці 39 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлена стэла і 3 дошкі з надпісам-прысвячэннем і імёнамі загінуўшых.

**в. Калінаўка, Малагарадзяціцкі сельсавет**

**1535. МАГІЛА КНЫШЭВІЧА** Мікалая Яўхімавіча (гіст.). На могілках. Партызан М. Я. Кнышэвіч загінуў у 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1536. МАГІЛА ТРУБЧЫКА** Сцяпана Назаравіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады 25-й імя П. К. Панамарэнкі С. Н. Трубчык загінуў 13.2. 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Камуна,**
**цэнтр Камунараўскага сельсавета**

**1537. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СМІРНОВУ** Цімафею Ягоравічу (гіст.). На будынку праўлення калгаса імя БВА. Устаноўлена ў 1972 г. на ўшанаванне памяці былога старшыні гэтага калгаса, Героя Сацыялістычнай Працы Ц. Я. Смірнова. Гл. артыкул № 1582 «Магіла Смірнова Цімафея Ягоравіча».

**1538. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 115 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.



1532. *Курганны могільнік.*




1532. *Курганны могільнік. План.*

**1539. ПОМНІК У ГОНАР ПЕРАМОГІ** (гіст.). У скверы. У 1965 г. у гонар 20-годдзя Перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй у Вялікую Айчынную вайну пастаўлены абеліск на кургане.

**в. Касцюкі, Тальскі сельсавет**

**1540. МАГІЛА АНІСАВАЙ** Антаніны Васілеўны (гіст.). На могілках. Партызанская сувязная А. В. Анісава загублена нямецка-фашысцкімі акупантамі 12.1.1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Касцяшы, Асавецкі сельсавет**

**1541. МАГІЛА ДАЎГУЧЫЦА** Паўла Ігнатавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада 6-га брыгады 100-й імя С. М. Кірава П. І. Даўгучыц загінуў 20.12.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1542. МАГІЛА ШУМЧЭНІ** Ігната Васілевіча (гіст.). На могілках.

10.2.1943 г. партызанскі пост брыгады 100-й імя С. М. Кірава (знаходзіўся ў в. Касцяшы) выявіў набліжэнне карнага атрада фашыстаў да в. Пласток (Асавецкі сельсавет). Аб гэтым трэба было неадкладна паведаміць іншым партызанскім пастам. З данясеннем у в. Сінягова Старадарожскага р-на адправіўся жыхар в. Касцяшы І. В. Шумчэня. Але на той час вёску ўжо акружылі карнікі. Сувязны быў схоплены і закатаваны.

У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск. *В. М. Удальцоў.*

**1543. МАГІЛА ШЫЛЫ** Міхаіла Спірыдонавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада 6-га брыгады 100-й імя С. М. Кірава М. С. Шыла загінуў 12.12. 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Крываль, Асавецкі сельсавет**

**1544. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі. 20 насыпаў вышынёй 1,5 м, дыяметрам 7—10 м, выцягнутых 4 групамі з захаду на ўсход. Першая і другая групы налічваюць па 3 курганы, трэцяя — 12,



1544. *Курганны могільнік. План.*

чацвёртая — 2. Каля асновы насыпаў прасочаны раўкі. Вядомы з 1924 г., абследавала ў 1979 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Кузьмічы, Камунараўскі сельсавет**

**1545. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 4 жыхары, якіх зімой 1943 г. у час карнай аперацыі загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1967 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**1546. МАГІЛА КРЫВАЛЬЦЭВІЧА** Якава Артамонавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя Кастуся Каліноўскага брыгады 25-й імя П. К. Панамарэнкі Я. А. Крывальцэвіч загінуў 24.4.1944 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1547. МАГІЛА ЛУЧЫНОВІЧА** Піліпа Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя Кастуся Каліноўскага брыгады імя П. К. Панамарэнкі П. І. Лучыновіч загінуў 25.4.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1548. МАГІЛА ЛУЧЫНОВІЧА** Фёдара Рыгоравіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя Кастуся Каліноўскага брыгады 25-й імя П. К. Панамарэнкі Ф. Р. Лучыновіч загінуў 24.4.1944 г. у час блакады нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1549. МАГІЛА МІХАЛЕНІ** Канстанціна Аляксеевіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя Кастуся Каліноўскага брыгады 25-й імя П. К. Панамарэнкі К. А. Міхаленя загінуў 31.5.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1550. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 105 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1971 г. пастаўлена стэла.

**в. Ляхаўка, цэнтр сельсавета**

**1551. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі раёна актыўна дзейнічалі пад кіраўніцтвам падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ падпольныя камсамольска-маладзёжныя групы. У в. Асавец Ляхаўскага сельсавета барацьбу камсамольцаў-падпольшчыкаў узначальваў камуніст Ф. Я. Змітровіч. Патрыёты вялі растлумачальную работу сярод насельніцтва, зрывалі мерапрыемствы ворага па збору прадуктаў і цёплага адзення, збіралі зброю для партызан, арганізоўвалі яўкі для членаў Любанскага падпольнага райкома КП(б)Б, праводзілі дыверсіі. Па даносу здрадніка фашысты выкрылі падпольшчыкаў. Некаторыя паспелі выйсці да партызан, астатнія члены групы — браты В. Д. і Е. Д. Кукрашы, М. І. Лабаты, М. І. Жураўскі, М. І. Міцкевіч, В. Клакоцкі ў канцы чэрвеня 1942 г. былі схоплены нямецка-фашысцкімі акупантамі і пасля жорсткіх допытаў павешаны.

У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Майсейшын Ф. Незабыўнае.— Мн., 1972. *В. М. Удальцоў.*

**1552. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі. 42 насыпы вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 3—6 м. Адзін курган прадаўгаваты, выцягнуты з поўдня на поўнач, памерам 8×5 м. Каля асновы насыпаў прасочаны раўкі. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1553. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАН** (гіст.). На будынку праўлення калгаса «Перамога». Устаноўлена ў 1975 г.

У Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі Ляхаўскага сельсавета базіраваліся партызанскія атрады імя Я. Дз. Гарбачова, імя М. Ф. Сільніцкага, імя Аляксандра Неўскага, імя М. І. Кутузава, «Камсамолец» 25-й брыгады імя П. К. Панамарэнкі, якія дзейнічалі ў Любанскім р-не Мінскай, Жыткавіцкім і Капаткевіцкім р-нах Палескай абласцей.

Атрад імя Я. Дз. Гарбачова створаны ў ліпені 1941 г. на базе групы А. І. Далідовіча, групы ваеннаслужачых на чале з Дз. Ц. Гуляевым і М. І. Фурманам, мясцовага насельніцтва. Камандзіры А. І. Далідовіч (ліпень 1941 г.— студзень 1943 г.), М. І. Фурман (студзень 1943 г.— ліпень 1944 г.), камісары Дз. Ц. Гуляеў (жнівень 1941 г.— красавік 1942 г.), А. А. Баравік (май 1942 г.— студзень 1943 г.), І. В. Сыцько (студзень — ліпень 1943 г.), М. І. Буглак (ліпень 1943 г.— ліпень 1944 г.). Дзейнічаў самастойна да студзеня 1943 г.

Атрад імя М. Ф. Сільніцкага створаны ў красавіку 1942 г. з партыйна-савецкага актыву і жыхароў в. Вялікія Гарадзяцічы Любанскага р-на. Камандзіры У. П. Яромаў (красавік — верасень 1942 г.), І. І. Чарнышоў (верасень 1942 г.— верасень 1943 г.), Я. М. Качанаў (верасень 1943 г.— ліпень 1944 г.), камісары І. І. Чарнышоў (красавік — верасень 1942 г.), М. І. Засмужац (верасень 1942 г.— красавік 1943 г.), С. С. Жарыкаў (красавік — жнівень 1943 г.), С. М. Ерашоў (жнівень 1943 г.— красавік 1944 г.), М. М. Лагун (чэрвень — ліпень 1944 г.). Дзейнічаў самастойна да студзеня 1943 г.

Атрад імя Аляксандра Неўскага створаны на базе ініцыятыўнай групы з атрада Я. Дз. Гарбачова і жыхароў вёсак Любаншчыны ў чэрвені 1942 г. Камандзір Р. І. Плышэўскі, камісар З. Ф. Падабудчык. Дзейнічаў самастойна да 1943 г.

Атрад імя М. І. Кутузава створаны з жыхароў в. Калінаўка Любанскага р-на ў студзені 1943 г. Камандзіры К. М. Дзяшковіч (студзень — чэрвень 1943 г.), Дз. П. Бародзька (чэрвень 1943 г.— ліпень 1944 г.), камісары Дз. П. Бародзька (студзень 1943 г.— чэрвень 1943 г.), Н. В. Гнацюк (чэрвень — верасень 1943 г.), В. З. Бялуга (верасень — лістапад 1943 г.), І. М. Ражкоў (лістапад 1943 г.— красавік 1944 г.), С. М. Ерашоў (красавік — ліпень 1944 г.).

Атрад «Камсамолец» створаны ў красавіку 1943 г. з моладзі в. Турок Любанскага р-на. Камандзіры А. Дз. Шаўцоў (красавік 1943 г.— люты 1944 г.), В. А. Шамякоў (люты — ліпень 1944 г.), камісар А. С. Хоціеў (ліпень 1943 — ліпень 1944 г.).

Баявыя аперацыі партызаны праводзілі на варожых камунікацыях Слуцк — Асіповічы, Жыткавічы — Калінкавічы. Партызаны атрада імя Я. Дз. Гарбачова прымалі ўдзел у рэйдзе па тэрыторыі Мінскай, Палескай і Пінскай абласцей у сакавіку 1942 г. Атрады імя Сільніцкага і імя Аляксандра Неўскага знішчалі чыгуначныя масты на рэках Пціч і Бобрык. Гл. таксама артыкул № 1585 «Мемарыяльны комплекс Зыслаў».

*В. М. Удальцоў.*

**1554. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Перамога». На ўшанаванне памяці 185 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**в. Малыя Гарадзяцічы, цэнтр сельсавета**

**1555. МАГІЛА СЛІЎЦА** Мікалая Данілавіча (гіст.). На могілках. Партызан М. Д. Слівец загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**1556. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 171 жыхара вёсак саўгаса «Гарадзяцічы», якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў пар-



**1552.** *Курганны могільнік. План.*

тызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін, партызан і жанчына, абапал — 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Неваложь, Юшкавіцкі сельсавет**

**1557. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Шведскія магілы. За 1,5 км на поўнач ад вёскі. Каля 100 насыпаў, вышынёй 0,6—1,7 м, дыяметрам 5—7 м, якія выцягнуты групай з поўначы на поўдзень. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Нежын, Камунараўскі сельсавет**

**1558. МАГІЛА АХРАМОВІЧА** Пятра Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада «Камсамолец» брыгады 25-й імя П. К. Панамарэнкі П. І. Ахрамовіч загінуў 4.8.1943 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1559. МАГІЛА ГЛЯЦЭВІЧА** Аркадзя Фёдаравіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада «Камсамолец» брыгады 25-й імя П. К. Панамарэнкі А. Ф. Гляцэвіч загінуў 23.5.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1560. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. У канцы ліпеня 1941 г. воін прабіваўся з акружэння на ўсход, быў схоплены нямецка-фашысцкімі акупантамі і расстраляны. У 1966 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**1561. ПОМНІК КОНАНАВАЙ** Фядоры Гаўрылаўне (маст.). Каля будынка школы. Устаноўлены ў 1968 г.

Помнік (скульпт. В. Міхеева; бетон; вышыня 3 м) — паясны скульптурны партрэт на квадратным у плане пастаменце. Строгая сукенка шчыльна аблягае стан, у адной руцэ скрутак папер, другая падтрымлівае накінутую на плечы хустку. Стрыманы парыў і гордая незалежнасць адлюстраваны ў павароце галавы, мужным і добрым твары, абрамленым хвалістымі валасамі. Пластыка форм вылучаецца мяккасцю і стараннасцю прапрацоўкі. Гл. таксама артыкул № 1490 «Мемарыяльны комплекс савецкім актывістам, воінам, партызанам і падпольшчыкам». *Г. М. Ярмоленка.*

**в. Няжараўка, Дарасінскі сельсавет**

**1562. МАГІЛА РАГОЎСКАГА** Міхаіла Канстанцінавіча (гіст.). На могілках.

Поўны кавалер ордэна Славы М. К. Рагоўскі нарадзіўся 15.6.1925 г. у в. Няжараўка Любанскага р-на ў сялянскай сям'і. Працаваў у мясцовым калгасе. У Вялікую Айчынную вайну партызан 64-й брыгады імя В. П. Чкалава, з 1944 г. на 1-м Беларускім фронце. Вызначыўся ў баях пры вызваленні Польшчы і разгроме гітлераўцаў у Германіі. 15.1.1945 г. пры прарыве абароны на левым беразе Віслы камандзір аддзялення малодшы сяржант М. К. Рагоўскі адзін з першых ўварваўся ў варожую траншэю і ўступіў у рукапашны бой; 1.2.1945 г. у баі знішчыў кулямётную кропку праціўніка; 14.4.1945 г. гранатамі падавіў варожы кулямёт, што садзейнічала паспяховаму наступленню пяхоты. Пасля вайны жыў і працаваў на радзіме. Памёр 10.1.1981 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*




1561. *Помнік Ф. Г. Конанавай.*

**в. Обчын, Рачэнскі сельсавет**

**1563. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 98 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1974 г. пастаўлены помнік — паясная скульптура воіна з аўтаматам і 3 дошкі з імёнамі загінуўшых.

**1564. ПОМНІК КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. І. Калініна. Паплечны бюст М. І. Калініна ўстаноўлены ў 1977 г.

**в. Палічын, Малагарадзяціцкі сельсавет**

**1565. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР КАМСАМОЛЬСКАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ** (гіст.). На будынку праўлення саўгаса «Калінаўка». Устаноўлена ў 1976 г.

У 1943 г. рух супраціўлення нямецка-фашысцкім акупантам на тэрыторыі Любаншчыны стаў масавым, значна пашырылася і ўзмацнілася баявая дзейнасць партызан. Вялікую ролю ў мабілізацыі моладзі на барацьбу з ворагам адыгрывала Любанская раённая падпольная камсамольская арганізацыя (сакратар райкома ЛКСМБ А. М. Майстрэнка). На пачатак 1943 г. яна аб'ядноўвала 20 камсамольскіх арганізацый у партызанскіх атрадах, 7 падпольных камсамольска-маладзёжных арганізацый і каля 30 груп у населеных пунктах. 19.5.1943 г. у лесе каля в. Калінаўка адбылася раённая камсамольская канферэнцыя. Прысутнічала 235 дэлегатаў. З дакладам аб задачах камсамольцаў і моладзі па ўзмацненню барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў выступіў сакратар падпольнага райкома КП(б)Б А. А. Баравік. Камсамольцы вырашылі больш актыўна прыцягваць моладзь у рады народных мсціўцаў, павялічыць колькасць дыверсійных груп для дзейнасці на варожых камунікацыях.

За актыўны ўдзел ва ўсенароднай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну Любанская раённая камсамольская арганізацыя ўзнагароджана 25.10.1968 г. ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені.

*Літ.:* Партийное подполье в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1984.

*В. М. Удальцоў.*

**1566. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). Каля будынка канторы саўгаса «Калінаўка». На ўшанаванне памяці 121 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены помнік (скульпт. У. Хмызнікаў і Цунаў; бетон, мармуровая крошка; вышыня 3,8 м).

Сімвалічная скульптура «Маці-Радзіма» і нахільна пастаўленыя за ёй пліты з імёнамі загінуўшых землякоў аб'яднаны трохступеньчатым стылабатам. Фігура вырашана ў строгіх прапорцыях. У правай руцэ ўваткнуты ў зямлю меч. Галава схілена да левага пляча, на якім вывая голуба. Статычная кампазіцыя, плаўныя, закругленыя лініі і стрыманыя пластычныя формы надаюць скульптуры велічнасць і ўрачыстасць. Маляўнічы фон помніку ствараюць ліпы.

*Г. М. Ярмоленка.*

**в. Пласток, Асавецкі сельсавет**

**1567. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Світанне». На ўшанаванне памяці 197 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць ня-

мецка-фашысцкіх акупантаў, у 1977 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызан, абапал — 2 пліты з імёнамі загінуўшых.

**1568. ПОМНІК ЛЫШЧЭНІ** Захару Рыгоравічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Світанне».

Герой Савецкага Саюза З. Р. Лышчэня нарадзіўся ў 1917 г. у в. Пласток Любанскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. З 1938 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну з верасня 1941 г. на Паўднёвым фронце. Удзельнічаў у абароне Мелітопаля, Растова, Харкава, у бітве на Волзе. У 1945 г. на 1-м Украінскім фронце. Камандзір аддзялення разведкі 43-га гвардзейскага артпалка З. Р. Лышчэня вызначыўся ў Усходняй Прусіі. 8.2.1945 г. на чале групы разведчыкаў прабраўся ў в. Цотвітц, выявіў размяшчэнне агнявых кропак абарончага рубяжа праціўніка, захапіў 2 нямецкіх афіцэраў, важныя дакументы. Пры вяртанні назад разведчыкі сутыкнуліся з ворагам. Прыкрываючы адыход сваіх таварышаў, якім перадаў дакументы для камандавання, З. Р. Лышчэня быў цяжка паранены, узяты ў палон і закатаваны. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.6.1945 г. Навечна занесены ў спісы батарэі гвардзейскага артылерыйскага палка. Імем З. Р. Лышчэні названы Ямінская сярэдняя школа, піянерская дружына Пекліцкай васьмігадовай школы (Любанскі р-н) і вуліца ў г. Любань.

У 1967 г. на ўшанаванне памяці героя пастаўлены помнік — гранітная пліта на пастаменце, на пярэдняй плоскасці якой барэльефныя выявы З. Р. Лышчэні і медаля «Залатая Зорка».

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**в. Пярэспа, Ямінскі сельсавет**

**1569. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ 64-й ІМЯ В. П. ЧКАЛАВА** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. У Вялікую Айчынную вайну тут базіраваўся штаб партызанскай брыгады 64-й імя В. П. Чкалава.

Брыгада створана ў студзені 1943 г. паводле загаду па партызанскім злучэнні Мінскай і Палескай абласцей на базе асобных атрадаў М. М. Розава, А. Я. Абабкава і А. І. Патрына. Камандзіры М. М. Розаў (студзень — верасень 1943 г., сакавік — чэрвень 1944 г.), П. І. Смірноў (в. а., верасень 1943 г.— сакавік 1944 г.); камісары А. В. Львоў (студзень — чэрвень 1943 г.), І. С. Капановіч (чэрвень 1943 г.— чэрвень 1944 г.). Дзейнічала на тэрыторыі Любанскага, Слуцкага, Старадарожскага і Старобінскага р-наў. У жніўні 1943 г. народныя мсціўцы вывелі са строю 2,3 тыс. рэек, у лістападзе — снежні падарвалі 9 варожых эшалонаў, 78 аўтамашын, 9 мастоў, збілі самалёт, удзельнічалі ў разгроме варожага гарнізона ў в. Макарычы Старадарожскага р-на, разбілі гарнізон у в. Белічы Слуцкага р-на. У студзеньска-красавіцкую блакаду 1944 г. разам з іншымі брыгадамі партызанскага злучэння Мінскай вобл. вяла баі супраць карнікаў, ратавала насельніцтва ад вывазу ў Германію. 30.6.1944 г. брыгада (1115 чалавек) злучылася з Чырвонай Арміяй. На дзень злучэння яднала атрады імя Л. М. Даватара, М. М. Громава, «Жалязняк», імя Р. І. Катоўскага, імя С. Г. Лазо, імя 14 слуцкіх партызан.

У 1965 г. у гонар партызанскай брыгады пастаўлена стэла.

*Літ.:* Козлов В. И. Люди особого склада.— Мн., 1973. *В. М. Удальцоў.*



1570. *Курганны могільнік.*



1572. *Гарадзішча.*




1572. *Гарадзішча. План.*

**в. Ракавішчы, Юшкавіцкі сельсавет**

**1570. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе, на левым беразе былой р. Ракавішча (прыток Арэсы). 50 насыпаў вышынёй 0,5—3 м, дыяметрам 3—12 м. Многія курганы пашкоджаны раскопкамі скарбашукальнікаў. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1571. МАГІЛА СТАТКЕВІЧА** Мікалая Аляксандравіча **І КОШАЛЯ** Івана Якаўлевіча (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны М. А. Статкевіч і І. Я. Кошаль, якія загінулі ў лютым 1944 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рачэнь, цэнтр сельсавета**

**1572. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Лясішча. Пляцоўка дыяметрам 162 м умацавана кальцавым валам вышынёй 2 м, шырынёй 8 м. З паўднёвага



1573. *Курганны могільнік.*




1573. *Курганны могільнік. План.*

боку назіраецца яшчэ адзін вал-перамычка вышынёй 1,5 м, шырынёй 6—7 м, які падзяляе пляцоўку на паўночную (большую) і паўднёвую (меншую). Вядома з 1924 г., абследавала ў 1979 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1573. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. 20 насыпаў вышынёй 0,7—1,8 м, дыяметрам 6—7 м выцягнуты з захаду на ўсход. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1574. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя А. В. Суворава. На ўшанаванне памяці 231 земляка, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены помнік: скульптурная кампазіцыя — воін і партызан са зброяй, злева — мемарыяльная сцяна з імёнамі загінуўшых.

**в. Рэдкавічы, Сароцкі сельсавет**

**1575. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. Устаноўлены ў 1976 г. на ўшанаванне памяці 266 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

Помнік (скульпт. Г. Мурамцаў, Б. Маркаў, архіт. В. Шаўчэнка; бетон металізаваны; вышыня 6 м) — двухфігурная скульптурная кампазіцыя на высокім пастаменце. Фігура жанчыны выканана ў бакавым развароце, у высока ўзнятай правай руцэ меч, левая рука ў поклічным жэсце. На пярэднім плане фігура воіна, які з аўтаматам наперавес кідаецца ў атаку. Нібы расхінутыя ветрам плашч-накідка воіна і шаль жанчыны з рэзкімі дыяганальнымі складкамі ўзмацняюць дынаміку кампазіцыі. Абагульненым буйным скульптурным формам адпавядае энергічная пластыка. Справа мемарыяльная сцяна з імёнамі загінуўшых. Вакол разбіты клумбы розных форм і дарожкі.

*Г. М. Ярмоленка.*



1576. *Адміністрацыйны будынак.*

**в. Сарачы, цэнтр сельсавета**

**1576. ЗАБУДОВА ЦЭНТРАЛЬНАЙ СЯДЗІБЫ КАЛГАСА «ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА»** (архіт.). Вёска размешчана за 2 км на паўднёвы ўсход ад г. Любань, 27 км ад чыгуначнай станцыі Урэчча, на аўтамабільнай дарозе Любань — в. Сосны, на левым беразе р. Арэса.



1575. *Помнік землякам.*



1576. *Палац культуры.*



1576. *Гандлёвы цэнтр.*

Праект плапіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1969 г. у інстытуце Белдзіпрасельбуд (архіт. Г. Заборскі і А. Заборская). У аснову кампазіцыі пакладзена плаўна выгнутая ў плане галоўная вуліца, ад якой уздоўж берага Арэсы адыходзіць бакавая вуліца з аднабаковай забудовай чатырохпавярховымі жылымі дамамі секцыйнага тыпу. Адміністрацыйна-грамадскім і культурным цэнтрам з'яўляецца добраўпарадкаваная газонамі, кветнікамі і басейнам плошча, якая сфарміравана будынкамі выканкома сельскага Савета і праўлення калгаса, Палаца культуры і спорту, чатырохпавярховага жылога дома. Двухпавярховы будынак гандлёвага цэнтра (кафэ, сталовая, магазіны) замыкае плошчу з паўднёвага боку. Жылая зона забудоўваецца двух-чатырохпавярховымі секцыйнымі дамамі (непадалёку ад кожнага дома размешчаны ўчасткі з гаспадарчымі пабудовамі), а таксама дамамі сядзібнага тыпу. Пабудаваны спартыўны комплекс, дзіцячы сад з плавальным басейнам, школа паводле індывідуальнага праекта, Дом быту.

Вытворчыя будынкі (лесапільня, млын, механічная майстэрня) размешчаны ў паўднёвай частцы вёскі. Уздоўж берага ракі фарміруецца паркавая зона. Ад плошчы да г. Любань запраектаваны бульвар. Вызначаецца дакладным функцыянальным заніраваннем тэрыторыі, арыгінальнасцю кампазіцыйнага вырашэння, добраўпарадкаванасцю. На адным з будынкаў вёскі ўстаноўлена мемарыяльная дошка на ўшанаванне памяці 266 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Па сваёй планіровачнай структуры і забудове Сарачы з'яўляюцца пасёлкам новага тыпу з усімі відамі інжынернага абсталявання, добраўпарадкавання і культурна-бытавога абслугоўвання насельніцтва.

*Літ.:* Соколовский В. Э., Алимов Р. Н. Архитектура нового белорусского села.— Мн., 1979. *А. М. Кулагін.*

**в. Смольгава, Юшкавіцкі сельсавет**

**1577. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1577а.** Могільнік-1. За 0,3 км на поўнач ад вёскі. 21 насып вышынёй 1—1,6 м, дыяметрам 4—7 м выцягнуты з паўднёвага ўсходу на паўночны захад. Каля асобных курганоў прасочваюцца раўкі. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1577б.** Могільнік-2. На ўсход ад калгаснай свінафермы, у лесе. 80 насыпаў вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 3—9 м. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1578. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля праўлення калгаса «Ленінскі шлях». На ўшанаванне памяці 111 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**1579. РАДЗІМА СЫРАКОМЛІ** Уладзіслава (гіст.). Польскі і беларускі паэт У. Сыракомля (сапраўднае Кандратовіч Людвік) нарадзіўся 29.9. 1823 г. у сялянскай сям'і. Адукацыю атрымаў у дамініканскіх школах ў Нясвіжы (1833—35 гг.) і Навагрудку (1836—37 гг.). Працаваў у нясвіжскай канцылярыі па кіраўніцтву панскімі маёнткамі (1840—44 гг.). Арандаваў фальваркі Залуча (Навагрудскі павет), з 1852 г. Барэйкаўшчына, што непадалёку ад Вільні. За ўдзел у антыцарскіх выступленнях зняволены ў віленскую турму (1861 г.).

Першы друкаваны твор — пачутае ў Міры і запісанае вершам апавяданне «Паштальён» [«Athenaeum» («Атэнеум»), 1844 г., т. 6], які ў перакладзе паэта Л. Трэфалева стаў рускай народнай песняй «Калі я на пошце служыў ямшчыком...». Пераважна беларуская па сваёй тэматыцы творчасць паэта адлюстроўвала антыпрыгонніцкія настроі прагрэсіўнай часткі рускага і польскага грамадства. Аўтар паказваў рэалістычныя карціны сялянскага жыцця («Нядзеля», «Непісьменны», «На Палессі»), выкрываў прыгнятальнікаў народу («Лялька», «Эпітафія землеўласніку», «Дзічына», «Ілюмінацыя»), сцвярджаў думку аб неабходнасці барацьбы з прыгонніцкім ладам («Вызваленне сялян», «Фрагменты пра Піліпа з Канапель», «Вясковая школа»). Шырока карыстаўся сюжэтамі і вобразамі беларускага фальклору («Хадыка», «Дакументы»), апрацаваў і пераклаў шэраг народных песень («Доля», «Крук», «Жніўная песня» і інш.). З беларускіх твораў паэта зберагліся да нашага часу вершы «Добрыя весці» (напісаны 1848 г.) і «Ужо птушкі пяюць усюды» (напісаны 1861 г.). З зацікаўленасцю ставіўся да вывучэння гісторыі, этнаграфіі і мовы беларусаў. Вядомы яго даследаванні «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» (1853 г.), «Нёман ад вытокаў да вусця» (1861 г.), «Мінск» (1857 г.), «Кароткае даследаванне мовы і характару паэзіі русінаў Мінскай правінцыі» (1856 г.). На старонках польскага друку змяшчаліся крытычныя артыкулы пісьменніка аб новай беларускай літаратуры. У рэцэнзіях на кнігі В. Дуніна-Марцінкевіча [«Gazeta Warszawska» («Варшаўская газета»), 1855,



1577б. *Курганны могільнік-2.*

№ 184, 244; 1857, № 16; «Kurier Wileński» («Віленскі кур'ер»), 1861, № 19, 20], у шэрагу іншых артыкулаў У. Сыракомля выступаў у абарону беларускай літаратуры ад нападкаў рэакцыянераў, скіроўваў увагу на неабходнасць аховы помнікаў культурнай спадчыны Беларусі. Дзеля гэтага асабіста ўдзельнічаў у рабоце Віленскага музея старажытнасцей і Віленскай археалагічнай камісіі.

Лепшыя творы паэта ўвайшлі ў кнігі «Выбраныя творы» (1966 г. на беларускай і 1953 г. на рускай мовах). Сярод яго перакладчыкаў — Я. Купала, Я. Лучына, М. Лужанін, У. Дубоўка і інш. Я. Купала і Я. Лучына прысвяцілі паэту свае вершы. У. Сыракомля памёр 15.9.1862 г. у Вільні.

*Літ.:* Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе.— Мн., 1969; Цвірка К. Слова пра Сыракомлю.— Мн., 1975.

*К. А. Цвірка.*

**пас. Сосны, Камунараўскі сельсавет**

**1580. МАГІЛА КАЛЫСКІ** Паўла Лаўрэнцьевіча (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы П. Л. Калыска нарадзіўся 29.6.1896 г. у в. Кляшчы Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл. у сялянскай сям'і. Працоўную дзейнасць пачаў з 1914 г. У 1922—26 гг. працаваў у саўгасе «Мар'іна Буда». У 1927 г. пераехаў на Любаншчыну, удзельнічаў у асушэнні Мар'інскіх балот. З 1928 г. рабочы, брыгадзір паляводчай брыгады саўгаса «Дзесяцігоддзе БССР». У Вялікую Айчынную вайну быў сувязным партызанскага атрада імя Аляксандра Неўскага 25-й брыгады імя П. К. Панамарэнкі. У 1945—56 гг. брыгадзір паляводчай брыгады па вырошчванню збожжавых культур. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 24.4.1948 г. за высокія ўраджаі жыта. Памёр 31.10.1972 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1581. МАГІЛА САЎЧЫКА** Фёдара Аляксеевіча (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы Ф. А. Саўчык нарадзіўся 2.6.1915 г. у в. Кунцаўшчына Капыльскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1949 г. З 1931 г. працаваў у калгасе імя К. Маркса. У 1934 г. скончыў школу ФЗН камунальнага будаўніцтва ў Мінску, працаваў цесляром, сталяром, начальнікам пажарнай аховы пеньказавода ў Любані. З 1936 г. у саўгасе «Дзесяцігоддзе БССР». У Вялікую Айчынную вайну партызан атрада імя Аляксандра Неўскага 25-й брыгады імя П. К. Панамарэнкі. У 1945—75 гг. брыгадзір паляводчай брыгады па вырошчванню збожжавых, загадчык вытворчага ўчастка саўгаса на радзіме. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 24.4. 1948 г. за атрыманне высокіх ураджаяў жыта. Памёр 17.12.1975 г.

У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1582. МАГІЛА СМІРНОВА** Цімафея Ягоравіча (гіст.). На могілках.

Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі, Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў Герой Сацыялістычнай Працы Ц. Я. Смірноў нарадзіўся 10.2. 1896 г. у в. Цяцёвіна Духаўшчынскага р-на Смаленскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1917 г. Працаваў на сельскай гаспадарцы. У 1915 г. прызваны ў царскую армію, трапіў на фронт. У 1917 г. перайшоў на бок рэвалюцыі, камандаваў чырвонагвардзейскім атрадам. З вясны 1918 г. узначальваў валасны ваенкамат Духаўшчынскага павета, потым да 1922 г. у Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў старшынёй валвыканкома Сыр-Ліпіцкай воласці, старшынёй праўлення доследна-паказальнай сельскагаспадарчай камуны «Мазальцава» на Смаленшчыне. У 1931 г. скончыў вышэйшую калгасную школу пры ЦК ВКП(б) і быў прызначаны дырэктарам Цэнтральнай беларускай калгаснай школы. З 1934 г. на кіруючай гаспадарчай і партыйнай рабоце: сакратар Капаткевіцкага райкома КПБ, дырэктар Мінскай МТС, дырэктар саўгаса «Дзесяцігоддзе БССР» на Любаншчыне. Пасля Вялікай Айчыннай вайны працаваў на Любаншчыне. У 1952—64 гг. старшыня калгасаў імя БВА, «Будаўнік». Званне Героя Сацыялістычнай працы прысвоена 18.1.1958 г. за шматгадовую і бездакорную працу ў сельскагаспадарчай вытворчасці, за добрыя паказчыкі па вытворчасці сельгаспрадукцыі. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1954—60 гг. Памёр 24.3.1970 г. У в. Камуна ўстаноўлена мемарыяльная дошка (гл. артыкул № 1537 «Мемарыяльная дошка Смірнову Цімафею Ягоравічу»).

У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

*В. М. Удальцоў.*

**1583. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка. На ўшанаванне памяці 7 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1964 г. пастаўлена стэла.

**в. Сосны, цэнтр сельсавета**

**1584. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 74 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызан.

**в. Старасек, Соснаўскі сельсавет**

**1585. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС ЗЫСЛАЎ** (гіст., маст.). За 2 км на поўдзень ад вёскі. У Вялікую Айчынную вайну ва ўрочышчы Зыслаў былога Загальскага сельсавета базіраваліся Мінскія падпольныя абкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, Любанскія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, штабы партызанскага злучэння Мінскай вобл., партызанскай брыгады 25-й імя П. К. Панамарэнкі.



1584. *Помнік землякам.*

Мінскі падпольны абком КП(б)Б быў створаны паводле рашэння ЦК КП(б)Б ад 7.7.1941 г. Прыступіў да работы ў тыле ворага 21.7.1941 г. Сакратары абкома В. І. Казлоў (21.7. 1941 г.— ліпень 1944 г.), І. А. Бельскі (21.7.1941 г.— ліпень 1944 г.), А. Ф. Брагін (21.7.1941 г.— верасень 1941 г.; загінуў), І. Дз. Варвашэня (21.7. 1941 г.— май 1943 г.), Р. Н. Мачульскі (20.9.1942 г.— май 1943 г., 11.9. 1943 г.— май 1944 г.); члены абкома А. Г. Бондар (да 20.9.1942 г.), Р. Н. Мачульскі (да 11.9.1943 г.), А. І. Сцяпанава (да ліпеня 1944 г.), М. П. Пакроўскі (16.11.1942 г.— чэрвень 1943 г.), І. С. Канановіч (16.11.1942 г.— ліпень 1944 г.), К. Т. Мазураў (16.11. 1942 г.— жнівень 1943 г.), І. Л. Сацункевіч (16.11.1942 г.— сакавік 1943 г.). Абком арганізоўваў і ўзначальваў камуністычнае падполле і партызанскі рух, барацьбу насельніцтва супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Мінскай і поўначы Палескай (красавік 1942 г.— сакавік 1943 г.) абласцей, кіраваў палітыка-масавай і ваенна-арганізацыйнай работай сярод насельніцтва і партызан, вёў прапагандысцкую работу сярод салдат варожых фарміра-

ванняў, накіроўваў дзейнасць Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ, узначальваў Барысаўскі міжрайпартцэнтр, Мінскі і Слуцкі міжрайкомы, гарком і 5 гарадскіх райкомаў г. Мінска, Барысаўскі гарком-райком і 20 райкомаў КП(б)Б, якія аб'ядноўвалі 240 пярвічных парталганізацый, 7400 членаў і кандыдатаў у члены ВКП(б), выдаваў адозвы, лістоўкі, бюлетэні, зводкі Саўінфармбюро, распаўсюджваў газеты, што дасылаліся з Вялікай зямлі і выдаваліся на акупіраванай ворагам тэрыторыі падпольнымі гаркомамі і райкомамі КП(б)Б і партызанскімі брыгадамі. На чале з падпольным абкомам КП(б)Б было створана 245 партызанскіх атрадаў (45 брыгад, больш за 55 тыс. партызан). Друкаваны орган ЦК і Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б — газета «Звязда» (з 27.1.1943 г. да 1.7.1944 г.; рэдактары М. П. Барашкаў, Г. М. Шчарбатаў). Падпольны абком КП(б)Б дзейнічаў да 3.7.1944 г.

Мінскі падпольны абком ЛКСМБ створаны 26.6.1943 г. Да гэтага часу камсамольскай работай у вобласці кiравалі: Мінскі падпольны абком КП(б)Б, сакратар ЦК ЛКСМБ К. Т. Мазураў (з верасня 1942 г.), упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ па Мінскай вобл. сакратар Мінскага абкома ЛКСМБ С. І. Пармон (лістапад 1942 г.— чэрвень 1943 г.), Барысаўскі, Мінскі і Слуцкі міжрайкамы камсамола (з ліпеня — жніўня 1942 г.), інструктары ЦК ЛКСМБ па падпольнай рабоце А. Ю. Дзенісевіч, М. А. Карповіч, Б. Я. Селіванаў, М. І. Сіманаў. Сакратары абкома ЛКСМБ С. І. Пармон і П. Я. Папоў (26.6. 1943 г.— 6.7.1944 г.), Я. М. Канаплін (з 15.9.1943 г.); член абкома А. Ю. Дзенісевіч (26.6.1943 г.— 6.7.1944 г.). Узначальваў падпольныя Барысаўскі, Мінскі, Слуцкі міжрайкомы, Барысаўскі, Мінскі і Мінскі Паўднёвы гаркомы, 3 райкомы г. Мінска і 21 сельскі. Друкаваныя органы сумесныя з ЦК ЛКСМБ газеты «Чырвоная змена» (рэдактар М. П. Барашкаў), «Сталинская молодежь» (рэдактар І. А. Матыль). Дзейнічаў да 6.7. 1944 г., аб'ядноўваў 536 тэрытарыяльных і 900 пярвічных камсамольскіх арганізацый партызанскіх фарміраванняў (каля 20 тыс. камсамольцаў).

Любанскі падпольны райком КП(б)Б створаны 21.3.1943 г. Мінскім падпольным абкомам КП(б)Б. Да гэтага часу арганізацыйную і баявую работу на Любаншчыне вяла партыйная тройка ў складзе А. С. Луферава (старшыня Любанскага райвыканкома), Я. Дз. Гарбачова, М. Я. Ермаковіча, зацверджаная 30.7.1941 г. Мінскім падпольным абкомам КП(б)Б. Сакратар падпольнага райкома КП(б)Б А. А. Баравік. Райком узначальваў партызанскі рух на тэрыторыі раёна, вёў палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва. Друкаваны



1585. *Мемарыяльны комплекс Зыслаў. Абеліск.*

орган — газета «Кліч Радзімы» (рэдактары Г. В. Сыцько, А. Д. Сакевіч, Г. В. Куляшоў). Дзейнічаў да 1.7. 1944 г.

Любанскі падпольны райком ЛКСМБ створаны 1.10.1942 г. З 1.9.1941 г. камсамольскай работай па даручэнню Любанскай партыйнай тройкі кіравалі камсамольцы — настаўніца Нежынскай школы Ф. Г. Конанава і брыгадзір калгаса «12 год Кастрычніка» А. М. Майстрэнка. Сакратары Любанскага райкома ЛКСМБ А. М. Майстрэнка, З. С. Дуброва (сакратар па прапагандзе да 1.10.1943 г.). Пад кіраўніцтвам райкома камсамольцы і моладзь Любаншчыны памагалі разгортванню партызанскай барацьбы ў раёне, вялі разведку, агітацыйна-масавую работу, стваралі падпольныя групы, рыхтавалі рэзервы для партызан, прымалі актыўны ўдзел у баявых аперацыях. Дзейнічаў да 1.7. 1944 г. У 1968 г. камсамольская арганізацыя Любанскага р-на ўзнагароджана ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені.

Партызанскае злучэнне Мінскай вобл. створана ў лістападзе 1941 г.— лютым 1942 г. пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага абкома. Яднала партызанскія брыгады і атрады, якія змагаліся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на акупіраванай тэрыторыі паўднёвых раёнаў Мінскай вобл. У маі 1942 г. у злучэнне ўліліся партызанскія атрады, якія базіраваліся ў паўночных раёнах Палескай вобл. і дзейнічала як партызанскае злучэнне Мінскай і Палескай абласцей (камандзір В. І. Казлоў). У ходзе баявых аперацый да чэрвеня 1942 г. было вызвалена ад ворага 418 населеных пунктаў, да канца 1942 г.— тэрыторыя каля 4 тыс. км², утварылася Акцябрска-Любанская партызанская зона. На яе тэрыторыі аднавілі работу органы Савецкай улады: працавалі Акцябрскі і Любанскі райвыканкомы, выканкомы сельсаветаў у некаторых раёнах, 6 калгасаў, 9 школ, партызанскі шпіталь і бальніца, хлебапякарні, майстэрні па рамонту і вырабу зброі і пашыву адзення. Выдаваліся падпольныя газеты «Звязда», «Чырвоная змена», «Кліч Радзімы», з мая 1942 г. падтрымлівала сувязь з Масквой. З восені 1942 г. на востраве Зыслаў дзейнічаў аэрадром, які неўзабавеператварыўся ў адзін з буйнейшых па забеспячэнню народных мсціўцаў усім неабходным для барацьбы супраць ворага.



1585. *Мемарыяльны комплекс Зыслаў. Зямлянкі.*



1585. *Мемарыяльны комплекс Зыслаў. Скульптура старога.*

Паводле ўказання ЦК КП(б)Б і загаду Беларускага штаба партызанскага руху 15.3.1943 г. партызанскае злучэнне Мінскай і Палескай абласцей было падзелена. На 1.8.1943 г. партызанскае злучэнне Мінскай вобл. аб'ядноўвала 7 брыгад і 2 атрады (6 тыс. партызан). Камандзіры злучэння В. І. Казлоў (сакавік 1942 г.— ліпень 1944 г.), Р. Н. Мачульскі (кастрычнік 1942 г.— май 1943 г., в. а.), І. А. Бельскі (май 1943 г.— чэрвень 1943 г., люты 1944 г.— ліпень 1944 г., в. а.). На дзень злучэння з часцямі Чырвонай Арміі (чэрвень — ліпень 1944 г.) яднала 19 брыгад, 3 асобныя атрады (22 тыс. партызан).

Партызанская брыгада 25-я імя П. К. Панамарэнкі створана ў студзені 1943 г. загадам па партызанскім злучэнні Мінскай і Палескай абласцей на базе асобных атрадаў А. І. Далідовіча (пазней імя Я. Дз. Гарбачова), І. І. Чарнышова (пазней імя М. Ф. Сільніцкага), Р. І. Плышэўскага (пазней імя Аляксандра Неўскага) і групы К. М. Дзяшковіча (пазней атрад імя М. І. Кутузава). Камандзір брыгады А. І. Далідовіч, камісар А. А. Баравік. Дзейнічала на тэрыторыі Любанскага р-на Мінскай, Жыткавіцкага і Капаткевіцкага р-наў Палескай абласцей. Баявыя аперацыі праводзіла пераважна на варожых камунікацыях Слуцк — Асіповічы, Жыткавічы — Калінкавічы і інш. Партызаны знішчалі варожыя гарнізоны, органы акупацыйнай улады, удзельнічалі ў «рэйкавай вайне», у абароне Акцябрска-Любанскай партызанскай зоны ад гітлераўскіх карнікаў (зіма 1943 г.— вясна 1944 г.). Перад пачаткам Беларускай аперацыі Чырвонай Арміі народныя мсціўцы авалодалі 20.6.1944 г. чыгуначным участкам Пасталы — Сосны. За час баявых дзеянняў знішчылі 16 варожых гарнізонаў, 9 складаў з боепрыпасамі і ўзбраеннем, падарвалі рэйкі на чыгуначных участках і масты. 1.7.1944 г. у складзе 7 атрадаў (імя Я. Дз. Гарбачова, імя М. Ф. Сільніцкага, імя Аляксандра Неўскага, імя М. І. Кутузава, імя Кастуся Каліноўскага, «Камсамолец», Баяніцкі) брыгада (1473 партызаны) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1969 г. на востраве Зыслаў узведзены мемарыяльны комплекс (архіт. Г. Заборскі). Уключае: 14-метровы абеліск з трох вертыкальных плоскасцей з надпісамі-прысвячэннямі ў гонар падпольных Мінскага абкома КП(б)Б, Любанскіх райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штабоў партызанскага злучэння Мінскай вобл. і партызанскай брыгады 25-й імя П. К. Панамарэнкі; помнік на 3 брацкіх магілах (пахаваны 290 савецкіх воінаў і партызан) — скульптура старога ў жалобе (скульпт. А. Якавенка) і 6 пліт з імёнамі загінуўшых; 6 адноўленых партызанскіх зямлянак; памятны знак у выглядзе вітка спіралі на месцы былога аэрадрома, 2 мемарыяльныя знакі накшталт факелаў пры ўездзе і выездзе з вострава.

Мемарыяльны комплекс Зыслаў з'яўляецца філіялам Любанскага музея народнай славы.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3.— Мн., 1983—85; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983; Партийное подполье в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1984.

*В. М. Удальцоў.*



1586. *Помнік у гонар партызан.*

**1586. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. У Вялікую Айчынную вайну тэрыторыя Любанскага р-на стала базай для разгортвання масавага партызанскага руху на Міншчыне. Тут базіраваліся і дзейнічалі 33 партызанскія атрады, якія налічвалі больш за



1585. *Мемарыяльны комплекс Зыслаў. Памятны знак на месцы былога партызанскага аэрадрома.*

6 тыс. народных мсціўцаў, значную частку іх складалі жыхары Любаншчыны. Пад кіраўніцтвам Любанскага падпольнага райкома КП(б)Б барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у раёне вялі 7 падпольных камсамольска-маладзёжных арганізацый і каля 30 падпольных груп. Былі створаны і працавалі майстэрні па вырабу зброі і адзення для партызан, партызанскія шпіталі і бальніцы. У шэрагу вызваленых ад акупантаў вёсак аднавілі работу органы Савецкай улады, калгасы і школы. Значны ўклад зрабіла насельніцтва Любаншчыны і ў папаўненне ўсенароднага фонду дапамогі Чырвонай Арміі. Толькі да 1943 г. ім было сабрана і перапраўлена на Вялікую зямлю 138 тыс. рублёў грашыма і 15 рублёў золатам.

У 1968 г. у памяць аб удзеле насельніцтва Любаншчыны ў масавым партызанскім руху супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў устаноўлены помнік — скульптура партызана (скульпт. А. Якавенка; бетон; вышыня 8 м). Побач камень-валун з надпісам-прысвячэннем. *В. М. Удальцоў.*

**в. Старыя Юрковічы, Ляхаўскі сельсавет**

**1587. МАГІЛА КУЛЕША** Аляксандра Ціханавіча (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Партызан атрада імя Л. М. Даватара брыгады 64-й імя В. П. Чкалава А. Ц. Кулеш загінуў 8.4.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1588. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 1,2 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гудзіна. Вышыня над летнім межанным узроўнем вады ў р. Арэса 5—8,5 м. Памеры 500×80 м. Выявіў і даследаваў у 1980—85 гг. М. М. Крывальцэвіч. Раскапана 330 м² плошчы. Культурны пласт 0,6 м. Выяўлены сляды гаспадарчых пабудоў. У яме глыбінёй 0,22 м і дыяметрам каля 0,6 м знойдзены рэшткі пахавання. Прадаўгаватая яма ва ўсходняй частцы раскопу была запоўнена дробным вуголлем, кавалкамі крэменю і фрагментамі 3—4 вастрадонных гаршкоў з дамешкай раслінных рэшткаў у гліне, арнаментаваных грабеньчатым штампам, наколамі, косымі лініямі. Знойдзена больш за 160 кавалкаў ад 25—30 гаршкоў, упрыгожаных шнуравымі, чарвячнымі, прамавугольнымі адбіткамі і валікамі, больш за 250 крамянёвых вырабаў (13 наканечнікаў стрэл, фрагмент сярпа і шліфаванай сякеры, скрабкі, скоблі, нажы, пракол кі, пласціны і інш.). У верхніх пластах выяўлена некалькі нагрувашчванняў керамікі з дамешкамі буйной жарствы у гліне.

Адносіцца да днепра-данецкай культуры эпохі неаліту, культуры шнуравой керамікі бронзавага веку і зарубінецкай культуры ранняга жалезнага веку.



1589. *Помнік землякам.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца у Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Крывальцэвіч.*

**1589. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Я. Дз. Гарбачова. На ўшанаванне памяці 85 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1968 г. пастаўлены помнік (скульпт. У. Лятун; бетон, мармуровая крошка; вышыня 6 м) — стэла, завершаная пагруднымі выявамі воіна ў касцы і партызана. Суровыя твары і нешматлікія дэталі адзення трактаваны абагульнена, энергічнай лепкай. Справа — стэла з імёнамі загінуўшых. Пляцоўка абсаджана дрэвамі. Да яе вядзе выкладзеная плітамі дарожка з кветкавымі газонамі. *Г. М. Ярмоленка.*

**в. Таль, цэнтр сельсавета**

**1590. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Беларусь». На ўшанаванне памяці 380 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1982 г. пастаўлена стэла з надпісам-прысвячэннем і імёнамі загінуўшых.

**в. Трайчаны, Ямінскі сельсавет**

**1591. ПОМНІК ПРУШАКУ** Апанасу Дарафеевічу (гіст.). Каля будынка школы.

Удзельнік барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў А. Д. Прушак нарадзіўся ў в. Ямінск Любанскага р-на. Да вайны ўзначальваў мясцовы калгас, працаваў старшынёй Турокскага сельсавета. У Вялікую Айчынную вайну стварыў і ўзначаліў групу барацьбітоў супраць акупантаў. У пачатку ліпеня 1941 г. каля в. Азломль група ўступіла ў бой з падраздзяленнем ворага і знішчыла некалькі дзесяткаў гітлераўцаў. Цяжка паранены А. Д. Прушак быў захоплены фашыстамі, прывезены ў в. Трайчаны і там закатаваны.

У 1975 г. на ўшанаванне памяці патрыёта пастаўлены абеліск.

*Літ.:* М а й с е й ш ы н Ф. Незабыўнае.— Мн., 1972. *В. М. Удальцоў.*

**в. Турок, Ляхаўскі сельсавет**

**1592. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, абапал лясной дарогі. 38 насыпаў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 5—6 м. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1593. МАГІЛА СОЙКА** Ганны (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі. Партызанка Г. Сойка загінула ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

# XVI. УРЭЧЧА

Гарадскі пасёлак на р. Бераздоўка (прыток р. Арэса). За 24 км на паўночны захад ад Любані, 138 км ад Мінска. Чыгуначная станцыя на лініі Баранавічы — Асіповічы. Аўтамабільнымі дарогамі злучана са Слуцкам, Любанню, Старымі Дарогамі.

Па пісьмовых крыніцах Урэчча вядома з 1635 г. Уваходзіла ў Слуцкае княства Вялікага княства Літоўскага. З 19 ст. мястэчка, належала Радзівілам. У 1734 г. тут заснавана шкляная мануфактура, якая існавала да сярэдзіны 19 ст. Выраблялі аконнае шкло, аптэчныя вырабы, люстэркі, хрусталёвы посуд, у дэкоры якога выкарыстоўваўся раслінны арнамент. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Горкаўскай воласці Бабруйскага павета. У канцы 19 ст.— 1017 жыхароў, бровар, керамічныя майстэрні, смалакурня, царква, касцёл, сінагога, 2 школы, 2 бібліятэкі, пошта, аптэка, пажарная дружына. У 1915 г. з пабудовай чыгункі Асіповічы — Слуцк Урэчча стала чыгуначнай станцыяй, непадалёку ад яе была пабудавана воданапорная вежа.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З 1924 г. мястэчка Слуцкага р-на, з 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. У 1939 г.— 5,6 тыс. жыхароў.



1592. *Кurганны могільнік. План.*



1600. *Помнік землякам.*

З 28.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У пасёлку дзейнічала падпольная патрыятычная група на чале з камсамольцам М. Гурскім. Вызвалены войскамі 20-га стралковага корпуса 28-й арміі 1-га Беларускага фронту. З 25.12.1962 г. у складзе Любанскага р-на.

Планіроўка пасёлка адносна адвольная, блізкая да радыяльнай. Склалася гістарычна і абумоўлена напрамкамі асноўных шляхоў зносін: чыгуначнай лініяй і дарогамі на Слуцк і Любань. Тры галоўныя вуліцы — Леніна, Кірава і Куйбышава — перакрыжоўваюцца, утвараючы трохвугольную плошчу. Вуліцы забудаваны аднапавярховымі драўлянымі дамамі. У цэнтры пасёлка 1—2-павярховыя адміністрацыйна-грамадскія будынкі і магазіны. У паўднёва-заходняй частцы пасёлка некалькі 2-павярховых жылых дамоў. Генеральны план забудовы Урэчча распрацаваны Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва ў 1974 г., праект дэталёвай планіроўкі заходняга жылога раёна пасёлка — у 1978 г. Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытутам па будаўніцтву ў вёсцы.

Працуюць хлебазавод, цэх Слуцкага вытворчага металаапрацоўчага аб'яднання, камбінат бытавога абслугоўвання насельніцтва, 2 сярэднія школы, 5 дашкольных устаноў, 2 бібліятэкі, кінатэатр, клуб саўгаса «Урэцкі», 3 аддзяленні сувязі, бальніца, амбулаторыя. Помнікі: на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, на магілах ахвяр фашызму, землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

Зона адпачынку — берагі р. Бераздоўка і Любанскае вадасховішча за 3 км ад пасёлка. *Т. В. Габрусь.*

**1594. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Леніна, на могілках. Пахаваны 18 воінаў 20-га стралковага корпуса 28-й арміі, што загінулі 30.6.1944 г. пры вызваленні пасёлка, і 4 партызаны брыгады 64-й імя В. П. Чкалава, якія загінулі ў жніўні 1943 г. і красавіку 1944 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1951 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1595. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Леніна, на могілках. Пахаваны жыхары пасёлка (18 сем'яў), што загінулі ад рук гітлераўскіх карнікаў. У 1957 г. на магіле ўстаноўлена пліта з надпісам.

**1596. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Леніна, на могілках. Пахаваны жыхары пасёлка (10 сем'яў), якіх у 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1967 г. устаноўлена надмагільная пліта.

**1597. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне пасёлка. Пахаваны 86 жыхароў, якіх у 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1598. МАГІЛА КАСЕНКІ** У. А. (гіст.). На могілках. Гвардыі лейтэнант У. А. Касенка загінуў у 1944 г. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1599. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне пасёлка. У 2 магілах пахаваны 1800 жыхароў, якіх у маі 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1600. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Куйбышава. На ўшанаванне памяці 173 землякоў — воінаў, партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна, абеліск і дошка з імёнамі загінуўшых.



1601. *Курганны могільнік. План.*

**в. Чапаева, Дарасінскі сельсавет**

**1601. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі. 50 насыпаў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 5—7 м выцягнуты 3 групамі з поўначы на поўдзень. Вядомы з 1924 г. Даследаваў у 1929 г. С. А. Дубінскі, раскапана 15 курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне на грунце і ў ямах. Знойдзены рэшткі ляпнога і ганчарнага посуду, у адным пахаванні быў цэлы гаршчок, які меў выгляд бочачкі з вушкамі і 3 наляпнымі валікамі. У 1979 г. абследавала Л. У. Дучыц. Належаў дрыгавічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *Л. У. Дучыц.*

**пас. Чырвоная Паляна, Камунараўскі сельсавет**

**1602. ПОМНІК НА МЕСЦЫ ПЕРШАГА ПАСЯДЖЭННЯ МІНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА АБКОМА КП(б)Б** (гіст.). Непадалёку ад вёскі, на лясной паляне. 21.7.1941 г. тут адбылося першае пашыранае пасяджэнне Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б у складзе В. І. Казлова, А. Ф. Брагіна, І. А. Бельскага, А. Г. Бондара, І. Дз. Варвашэні, Р. Н. Мачульскага, А. І. Сцяпанавай з удзелам партыйных і савецкіх работнікаў Любаншчыны. З дакладам «Аб задачах партыйнай арганізацыі ў тыле нямецка-фашысцкіх акупантаў у адпаведнасці з патрабаваннямі дырэктывы СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 29.6.1941 г. і прамовай Старшыні Дзяржаўнага Камітэта Абароны СССР І. В. Сталіна ад 3 ліпеня» выступіў сакратар падпольнага абкома В. І. Казлоў. Пасля абмеркавання даклада была прынята канкрэтная праграма стварэння камуністычнага і патрыятычнага падполля ў тыле ворага, арганізацыі партызанскага руху на Міншчыне.

У 1976 г. на месцы пасяджэння пастаўлена стэла.

*Літ.:* Козлов В. И. Люди особого склада.— Мн., 1973; Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978. *В. М. Удальцоў.*

**в. Шыпілавічы, Сароцкі сельсавет**

**1603. РАДЗІМА ШПІЛЕЎСКАГА** Паўла Міхайлавіча (гіст.).

Беларускі этнограф, пісьменнік, публіцыст і тэатральны крытык П. М. Шпілеўскі нарадзіўся 31.10.1823 г. у сям'і свяшчэнніка. У 1843 г. скончыў Мінскую духоўную семінарыю, у 1847 г.— Пецярбургскую духоўную акадэмію. Працаваў у Варшаве настаўнікам. З 1853 г. жыў у Пецярбургу. У 1846 г. пачаў друкаваць у літаратурных дадатках да «Журнала Ми-

нистерства народного просвещения» «Беларускія народныя павер'і» — частку рукапіснай працы «Слоўнік і караняслоў беларускай гаворкі». У 1853—56 гг. аб'ехаў Гродзенскую, Мінскую, Магілёўскую, Віцебскую губерні. Свае назіранні выклаў у серыі артыкулаў «Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках» (часопіс «Пантеон», 1853—56 гг.), якія знаёмілі грамадскасць Расіі з побытам беларускага народа, яго багатай вуснапаэтычнай творчасцю. Цікавыя звесткі з гісторыі гарадоў, мястэчак і вёсак Беларусі, апісанні побыту, павер'яў, абрадаў і звычаяў народа, становішча сельскай гаспадаркі і прамысловасці змешчаны ў «Падарожжы па Палессі і беларускім краі» («Современник», 1853—55 гг.). Працяг «Падарожжа...» — «Заходнерускія нарысы» («Иллюстрация», 1858 г.). Аўтар зборніка «Беларускія прыказкі» (1853 г.), аповесці «Цыгане», п'есы «Дажынкі» (па матывах «Сельскай ідыліі» В. Дуніна-Марцінкевіча). Пісаў пад псеўданімамі П. Драўлянскі, Барон Ікс і інш. Навуковая і публіцыстычная дзейнасць П. М. Шпілеўскага звярнула на сябе ўвагу М. Г. Чарнышэўскага. П. М. Шпілеўскі памёр 17.10.1861 г.

*Літ.:* Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі. XIX ст.— Мн., 1964; Кісялёў Г. «...Я жыў з імі, я рос сярод іх...».— Полымя, 1974, № 3.

*В. К. Бандарчык.*

**в. Ямінск, цэнтр сельсавета**

**1604. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 142 землякоў з вёсак калгаса «40 год Кастрычніка», якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск. Абапал яго 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.

## ЗМЕСТ




**СВОД ПАМЯТНИКОВ ИСТОРИИ И КУЛЬТУРЫ БЕЛОРУССИИ**

**Минская область. Книга 1-я.**

На белорусском языке

Минск, издательство «Белорусская Советская Энциклопедия» имени Петруся Бровки

У томе змешчана 11 карт, 655 ілюстрацый, з іх 126 каляровых.

Афармленне і мастацкае канструяванне *У. М. Якуніна.*
Мастацкі рэдактар *А. І. Палуян.*
Тэхнічны рэдактар *М. І. Грыневіч.*
Карэктары: *В. І. Багдановіч, Р. Р. Блашко, Н. А. Дзянісава, Т. Я. Радзевіч, А. А. Федасеева.*

ІБ № 117

Здадзена ў набор 18.03.86. Падпісана да друку 23.04.87. АТ 07591. Фармат 84×108¹/₁₆. Папера мелаваная. Гарнітура звычайная новая. Друк высокі. Ум. друк. арк. 29,82. Ум. фарба-адбіткаў 210,84. Ул.-выд. арк. 42,43. Тыраж 8000 экз. Зак. 2282. Цана 6 р.

Выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, вул. Акадэмічная, 15а.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005. Мінск, Чырвоная, 23.

